АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

# Нарысы гісторыі Беларусі

У 2-Х ЧАСТКАХ

## частка 1



МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 1994

ББК 63.3(4Бен)
Н30
УДК 947.6

Аўтары:

КАСЦЮК М. П., ІСАЕНКА У. Ф., ШТЫХАЎ Г. В., КАРОБУШКІНА Т. М., ЛОЙКА П. А., КАПЫСКІ З. Ю., СПІРЫДОНАЎ М. Ф., ГАЛЕНЧАНКА Г. Я., ІВАНОВА Л. С., МЯЛЕШКА В. І., ЕМЯЛЬЯНЧЫК У. П., КУЗНЯЕВА С. А., АНІШЧАНКА Я. К., БІЧ М. В., НАСЕВІЧ В. Л., БАНЬКО В. В.



Рэкамендавана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь для студэнтаў ВНУ.

9470600000—038
Н ——————— 07—94
М 301(03)—94

ISBN 5-338-00929-3 (ч. 1)

ISBN 5-338-01083-6

# ДА ЧЫТАЧА

Гістарычныя веды — адны з самых старажытных у свеце. Яны перадаваліся з пакалення ў пакаленне, спачатку вусна, а затым і ў пісьмовым выглядзе. Па меры накаплення, сістэматызацыі і абагульнення, выпрацоўкі пэўных падыходаў звесткі аб мінулым паступова ператварыліся ў гістарычную навуку. У мэтаяе развіцця збіраліся і захоўваліся сведчанні розных эпох. Шмат што было страчана, загінула ў полымі шматлікіх войнаў. Тым большую каштоўнасць мае тое, што захавалася.

Надзвычай насычана падзеямі, гераічнымі і драматычнымі, гісторыя беларускага народа. Працалюбівы, здольны стваральнік шматлікіх матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, ён унёс свой адметны ўклад у развіццё еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі. Знаходзячыся амаль у цэнтры Еўропы, Беларусь не толькі зведала дабратворны ўплыў суседніх народаў, але шматразова з'яўлялася арэнай крывавых канфліктаў, жорсткага супрацьстаяння розных дзяржаў.

Кожны народ прагне ведаць і асэнсоўваць сваё мінулае, якое з'яўляецца неад'емнай часткай яго нацыянальнай свядомасці. Адлюстраванне мінуўшчыны ў гістарычных працах павінна быць адэкватным таму, што мела месца ў жыцці, ва ўсёй яго разнастайнасці і супярэчлівасці. На жаль, у гістарыяграфіі Беларусі шмат «белых плям» і тэндэнцыйных, не абгрунтаваных меркаванняў і сцвярджэнняў.

Але суверэнная дзяржава — Рэспубліка Беларусь — павінна мець сваю аб'ектыўную гісторыю, у якой быў бы адлюстраваны цяжкі шлях народа са старажытных часоў да нашых дзён. Раней, нягледзячы на наяўнасць даволі шматлікіх даследаванняў, гэта не ўдавалася зрабіць па шмат якіх аспектах, таму што гістарычная навука Беларусі ў дакастрычніцкі і ў савецкі час у асноўным знаходзілася ў падначаленні афіцыйных улад. Таму абарона іх інтарэсаў была першай задачай афіцыйнай гістарыяграфіі. Дэмакратычны напрамак сярод гісторыкаў быў прадстаўлены слаба. У прыватнасці, у савецкі час толькі ў 20-ыя гады і ў палітычную адлігу другой паловы 50 — першай палове 60-ых гадоў гісторыкі не так моцна былі скаваны рэгла-

ментацыямі: што і як пісаць. У астатні час афіцыйныя догмы асабліва жорстка падпарадкоўвалі гістарычныя даследаванні, прымушалі весці іх у адпаведным кірунку. І калі дакументальныя матэрыялы дазвалялі сказаць больш, чым патрабавалася, гэта далёка не заўсёды можна было здзейсніць.

Таму адлюстраванне гісторыі беларускага народа было аднабаковым. У даследаваннях пераважала тое, што адпавядала інтарэсам афіцыйных улад на тым ці іншым этапе. За межамі такіх выданняў аказваліся шмат якія з'явы, падзеі, імёны. Гісторыя, такім чынам, аказвалася няпоўнай. У адносінах да археалагічнага перыяду не заахвочвалася распрацоўка праблемы этнагенеза (паходжання) беларусаў. Калі браць ранняе сярэднявечча, дык зусім недастатковая ўвага ўдзялялася Полацкай зямлі, іншым дзяржаўным аб'яднанням у гэты перыяд. У час знаходжання беларускіх зямель у Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай больш згадваліся негатыўныя бакі з жыцця беларускага народа. І наадварот, пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі змяншаліся ці зусім не паказваліся русіфікатарскія тэндэнцыі палітыкі царызму. Характэрнай для асвятлення дакастрычніцкай гісторыі Беларусі была зусім недастатковая ўвага да развіцця беларускага этнасу, фарміравання беларускай народнасці і нацыі.

Адсутнасць у гістарычных даследаваннях гэтых і іншых працэсаў з мінулага Беларусі прывяла да стварэння такой гісторыі, якая садзейнічала ўсталяванню дыктатарскага сталінскага рэжыму, каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, партыйных рэгламентацый, дапамагала развіццю гістарычнага беспамятства беларускага народа, узмацненню нігілістычных адносін шматлікай часткі грамадства да сваёй гісторыі, культуры, мовы. Гэта нанесла вялікія духоўныя страты беларусам як нацыі, вяло да зніжэння іх прэстыжу сярод славянскіх і іншых народаў.

Толькі з другой паловы 80-ых гадоў пры шматлікіх недахопах і крайнасцях радыкальных пераўтварэнняў для гісторыкаў і іншых прадстаўнікоў грамадазнаўства з'явілася магчымасць стаць на шлях больш аб'ектыўнага адлюстравання працэсаў, якія адбываліся ў мінулым. Вядома, такі рэзкі паварот у падыходах да гістарычнай навукі паставіў даследчыкаў у нялёгкае становішча. Ім самім спатрэбілася перайсці на ачышчаныя ад дэфармацый пазіцыі, пераасэнсаваць шмат што з напісанага, выпрацаваць адпаведныя падыходы да з'яў і працэсаў, якія раней не займалі належнага месца ў гістарычных даследаваннях. Гэта складаная задача, але час настойліва патрабуе яе вырашэння.

Да таго ж у друку стала з'яўляцца шмат публіцыстычных матэрыялаў на самыя розныя тэмы з мінулага беларускага і іншых народаў, дзе часам адвольна асэнсоўваюцца гістарычныя падзеі. У гэтых матэрыялах шмат якія палажэнні не падмацоўваюцца адпаведнымі гістарычнымі дакументамі. Лічбы

прыводзяцца без належных падлікаў і неабходнага абгрунтавання. Але ўся гэтая шматлікая інфармацыя нярэдка з даверам успрымаецца шырокай аўдыторыяй чытачоў, ствараючы такім чынам уяўленні, якія не заўсёды адпавядаюць таму, што было на самай справе ў нашым мінулым.

Задача прафесійных гісторыкаў — даць навуковае асэнсаванне з'яў, падзей, працэсаў, пагадзіцца з тым, што правільна, выправіць тое, што напісана на недастатковай дакументальнай аснове ці зусім з яе адсутнасцю. Пры гэтым нельга ні падфарбоўваць нашу гісторыю, як гэта нярэдка рабілася раней, ні даваць яе толькі ў негатыўным святле, што часамі бывае цяпер. Нават у самыя змрочныя перыяды народных выпрабаванняў прысутнічалі ствaральныя моманты. У гэтым дыялектыка жыцця, яго вялікі сэнс. Таму патрэбна адлюстраванне гістарычнага мінулага такім, якім яно было на самай справе, з яго дадатнымі і адмоўнымі бакамі, і іх суадносіны павінны быць такімі, як у жыцці. Толькі аб'ектыўны падыход можа вытрымаць суровае выпрабаванне, якое ўчыняе гістарычным даследаванням час.

Выданне, якое прапаноўваецца шаноўнаму чытачу, складаецца з дзвюх частак. Першая з іх ахоплівае вялікі прамежак часу — ад старажытных часоў да лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Другая прысвечана савецкаму перыяду. Гэта першая спроба абагульненага адказу працаўнікоў Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі на ўзнікшыя шматлікія пытанні да мінулага беларускага народа з яго самых старажытных часоў да сённяшніх дзён. Таму шмат якія старонкі гісторыі, асабліва па савецкім часе, перагледжаны — напісаны нанава ці значна ўдакладнены.

Улічваючы, што Беларусь з'яўляецца адной з частак Еўропы і што беларускі народ ішоў па гістарычнаму шляху разам з іншымі еўрапейцамі, аўтары гэтай працы зыходзяць з канцэпцыі агульнаеўрапейскага дома. З мэтай вызначэння месца Беларусі ў еўрапейскай гісторыі, сярод суседніх краін і народаў яны шырока выкарыстоўваюць параўнальна-гістарычны метад. Пры гэтым аўтарскі калектыў улічваў, што кожны з этнасаў з'яўляецца непаўторнай з'явай у грамадстве і іх узаемадзеянне павінна ўзбагачаць усіх.

Значная ўвага ў кнізе ўдзелена старажытнаму грамадству, калі з'явы ў жыцці першабытных людзей можна прасачыць пераважна па археалагічных матэрыялах. На аснове гэтых даных напісаны новыя старонкі старажытнай гісторыі. Археалагічная навука Беларусі, устанаўліваючы і вывучаючы археалагічныя культуры, іх паходжанне і гістарычны лёс, узровень сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства, стварыла ўяўленне аб гістарычным працэсе ў той далёкі час. На падставе адпаведных даных зроблена, у прыватнасці, выснова, што ў мезаліце (IX—V тысячагоддзі да нашай эры) на тэрыторыі Беларусі з'явілася першае аўтахтоннае насельніцтва ў выглядзе некалькіх племянных груп. У будучым яны

паклалі пачатак этнагенетычным працэсам на Беларусі.

Басейн Прыпяці разглядаецца як частка рэгіёна, у якім фарміраваліся старажытныя індаеўрапейцы, складваліся элементы праславянскага насельніцтва і не пазней сярэдзіны III тысячагоддзя да н. э. пачаўся пераход ад прысвойваючай да вытворчай гаспадаркі.

Даследаванне старажытнасцей жалезнага веку дазволіла высветліць узаемасувязі балцкіх і славянскіх этнічных супольнасцей. У кнізе адлюстраваны розныя падыходы даследчыкаў да праблемы паходжання славян, паказана, што шматвекавое ўзаемадзеянне славян з балтамі (продкамі сучасных літоўцаў і латышоў) адлюстравалася ў матэрыяльнай культуры насельніцтва Беларусі другой паловы I тысячагоддзя н. э. Асаблівасцю прапануемага выдання з'яўляецца шырокае асвятленне этнічнай гісторыі Беларусі ў старажытную эпоху.

Да гэтага часу працягваюцца вострыя спрэчкі, калі і як зарадзіўся феадалізм ва ўсходніх славян, якую ролю мела рабства ў станаўленні класавых адносін. Гэтыя пытанні ў гісторыі звычайна выкладаліся на матэрыялах, якія мелі ўскосныя адносіны да тэрыторыі Беларусі. Цяпер па-новаму прачытаны летапісныя паведамленні, якія датычацца Полацкай, Тураўскай, Гарадзенскай, Наваградскай і іншых старажытных зямель Беларусі, яшчэ раз прааналізаваны археалагічныя матэрыялы.

Даследчыкі прыйшлі да высновы, што пачатак пераходу ўсходніх славян да класавага грамадства на тэрыторыі Беларусі адносіцца да другой паловы першага тысячагоддзя. У гэты перыяд тут складваюцца шматукладныя сацыяльна-эканамічныя адносіны, развіваецца маёмасная няроўнасць, зараджаецца раннефеадальны ўклад жыцця. У часе гэтыя працэсы блізкія да тых, што адбываліся ў заходняй, паўднёвай і цэнтральнай Еўропе.

На грамадскі лад у землях Беларусі, як і на ўсё палітычнае жыццё, сур'ёзны ўплыў аказвалі рэлігійныя вераванні. У першую чаргу складаны пераход ад многабожжа, якім з'яўлялася язычніцтва, да пакланення аднаму Богу, што прапаведавала хрысціянства.

Канец першага — пачатак другога тысячагоддзяў — перыяд складвання перадумоў для фарміравання беларускай народнасці. Яна вырастала на аснове эканамічнай, сацыяльнай, палітычнай супольнасці плямён, першых дзяржаўных утварэнняў, асаблівую ролю сярод якіх іграла Полацкае княства. Паступова складваліся адметныя рысы характару, побыту, культуры народа.

Спадзяёмся, паважаны чытач заўважыць, што, гаворачы пра час знаходжання беларускіх зямель у Вялікім княстве Літоўскім, аўтары разглядаюць яго як своеасаблівы перыяд у жыцці нашых продкаў. Знаходзячыся ў складзе гэтай дзяржавы, беларускія землі мелі і пэўную самастойнасць. Нядрэннымі былі магчымасці для развіцця культуры. Беларуская мова, як больш

развітая і дасканалая, з'яўлялася дзяржаўнай. На ёй вялося справаводства, пісаліся выдатныя помнікі прававой сярэдневяковай думкі — Статуты Вялікага княства Літоўскага. Яны аказалі значны ўплыў не толькі на развіццё грамадства ва ўсходніх славян, але і ў іншых месцах Еўропы. Нездарма менавіта ў гэты час заканчваецца працэс складвання беларускай народнасці. Яе выдатным прадстаўніком стаў асветнік і першадрукар Ф. Скарына, адзін з буйных прадстаўнікоў эпохі Адраджэння, дзеяч еўрапейскага і сусветнага маштабу.

Іншыя ўмовы склаліся для беларускіх зямель, калі яны ўвайшлі ў Рэч Паспалітую. У кнізе раскрываюцца некаторыя зрухі ў развіцці эканомікі, але разам з тым прасочваецца адмоўнае ўздзеянне палітыкі паланізацыі на беларускую культуру. Гэта прывяло да яе заняпаду, пачало змяншацца выкарыстанне беларускай мовы, на ёй усё менш пісалі і друкавалі. Значная ўвага ўдзелена тым вялізным стратам, якія нёс беларускі народ ад крывавых войнаў, у першую чаргу паміж Рускай дзяржавай і Рэччу Паспалітай.

Прасочваецца тэндэнцыя, што пасля далучэння Беларусі да Расіі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай войнаў на беларускай зямлі стала менш, але працягваўся — толькі з іншага боку — націск на беларускую культуру. Палітыка русіфікацыі, якую метадычна праводзіў царызм, прывяла да яшчэ большага заняпаду беларускай мовы і культуры ў цэлым.

Адначасова раскрываецца працэс значных зрухаў у эканамічным жыцці. І ў прамысловасці, і ў сельскай гаспадарцы паступова адыходзілі феадальныя парадкі і ўзмацняліся капіталістычныя. Новыя вытворчыя сілы і адпаведна ім грамадскія адносіны заваёўвалі ўсё большае месца ў розных галінах жыцця. Гэты напрамак эвалюцыі грамадства быў паскораны рэформай 1861 года і іншымі буржуазнымі рэформамі, ажыццяўленне якіх мела ў Беларусі значныя асаблівасці.

На аснове развіцця эканомікі і вытворчых адносін па капіталістычнаму шляху адбываўся працэс складвання беларускай нацыі, што наогул характэрна для данай стадыі развіцця грамадства. На гэтай глебе ў канцы XIX і асабліва пачатку XX стагоддзяў ўзрасла нацыянальная самасвядомасць беларускага народа, былі пэўныя зрухі ў адраджэнні і развіцці беларускай культуры.

Значыць, і гэта добра бачна шаноўнаму чытачу, аўтары кнігі ўдзялілі адметна большую ўвагу дакастрычніцкаму перыяду ў гісторыі беларускага народа ў параўнанні з папярэднімі абагульняючымі выданнямі. Пры гэтым аўтарскі калектыў зыходзіў з таго, што раней, калі развіццё гістарычнай думкі жорстка рэгламентавалася, месца дасавецкай часткі гісторыі беларускага народа штучна змяншалася. Гэта вяло да неаб'ектыўнасці ў асвятленні гістарычнага працэсу, рабіла яго не поўным, нярэдка аднабаковым, збядняла нашу гістарычную памяць.

Адметнай рысай дадзенага выдання ў яго дасавецкай частцы з'яўляецца і тое, што ў ім значна больш выдатных прадстаўнікоў беларускага народа, якія праявілі сябе ці ў ваеннай справе, ці на ніве культуры, ці ў іншых галінах жыццядзейнасці грамадства. Для некаторых з іх раней нават не знаходзілася месца ў гістарычных даследаваннях. Гэта таксама збядняла нашу мінуўшчыну, рабіла яе ўрэзанай.

Але трэба прызнаць, што не ўсе сюжэтныя лініі атрымалі ў тэксце роўнае адлюстраванне па ўсіх гістарычных перыядах. Гэта звязана з наяўнасцю дакументальнай базы і з падыходамі аўтараў. Улічваючы, што гэта кніга ўяўляе сабою нарысы гістарычнага шляху беларускага народа, а не яго гісторыю ўвогуле, некаторыя імёны, з'явы, падзеі і нават працэсы засталіся па-за яе межамі. У частцы тэкстаў адчуваюцца традыцыйныя падыходы, якія пакуль не ўдалося пераадолець.

Зыходзячы з гэтага і ўлічваючы актыўнае развіццё ў цяперашніх умовах гістарычнай думкі, аўтарскі калектыў будзе працягваць працу над шмат якімі сюжэтамі, удасканальваць канцэптуальныя падыходы, насычаць змест новымі матэрыяламі і на гэтай аснове рабіць вывады, якія павінны адпавядаць сучаснаму развіццю гістарычнай навукі.



# РАЗДЗЕЛ I

# СТАРАЖЫТНАЕ ГРАМАДСТВА

## (да канца V ст. н. э.)

Чалавек вылучыўся з жывёльнага свету звыш двух мільёнаў гадоў таму назад. Гэта адбылося ў Афрыцы, мог існаваць і азіяцкі цэнтр паходжання старажытнейшых людзей — архантрапаў. Мільён гадоў назад людзі пранiклi ў Міжземнамор'е, на Каўказ і поўдзень Украіны.

Людзі навучыліся вырабляць прылады працы і тым самым штучна павялічваць свае сілы і здольнасці. Адначасова з развіццём вытворчасці, авалоданнем новымі тэхналогіямі змяняўся фізічны тып чалавека. Паміж людзьмі складваліся вытворчыя, сацыяльныя адносіны, якія дапаўнялі сваяцкія. Чалавек ператвараўся ў сацыяльную істоту, прадстаўніка родавага і вытворчага калектыву.

У развіцці першабытнага грамадства вылучаюцца этапы першабытнага чалавечага статка, або праабшчыны, потым ранняродавай, позняродавай і, нарэшце, познепершабытнай суседскай абшчыны. За час існавання абшчыны чалавецтва перайшло ад мацярынска-родавых адносін да патрыярхату.

Агульнагістарычная перыядызацыя ў асноўным адпавядае археалагічнай. Па ступені сацыяльна-эканамічнага развіцця, з улікам матэрыялу, які служыў для вырабу прылад працы, вызначаюцца каменны, бронзавы, жалезны вякі. Каменны век адпавядае першым двум этапам развіцця ад праабшчыны (у раннім, сярэднім палеаліце) і да ранняга роду — развітога родавага грамадства (у неаліце)[1]. Бронзавы век — час позняродавай, патрыярхальнай абшчыны. У жалезным веку яна ператварылася ў суседскую, а рода-племянны лад, дасягнуўшы сталасці, пачаў разлагацца.

Стварaліся ўмовы дляназапашвання багаццяў у руках асобных калектываў унутры родавай абшчыны, што вяло да яе разлажэння. Багацці пачалі нераўнамерна размяркоўвацца сярод асобных патрыярхальных сем'яў. Паміж багатымі і беднымі сем'ямі пачалі складвацца адносіны панавання і прыгнечання.

У перыяд раннякласавага грамадства, калі на змену ранейшым дзікунству і варварству надышла цывілізацыя, узніклі дзяржаўнасць, гарады, пісьменнасць. Агульная лінія развіцця

грамадства набывала ў кожным рэгіёне свае канкрэтныя ўласцівасці, непаўторныя рысы.

Гісторыя чалавека заўсёды спалучалася з развіццём прыроды ў неразрыўнае цэлае. Чалавек быў арганічна ўключаны ў склад існуючай экалагічнай сістэмы, і яна, калі змянялася, дык разам з ім. Дзейнасць чалавека — як выкарыстанне таго, што давала прырода, так і вытворчасць сродкаў існавання — усё больш істотна ўплывала на навакольнае асяроддзе і пераўтварала яго. Гэта ў сваю чаргу адбівалася на самім чалавеку, ускладняла яго ўзаемаадносіны з прыродай. У каменным веку да крызісу справа яшчэ не даходзіла, але ўздзеянне, ціск чалавека на прыроду няўхільна павялічваліся. Гэта зрабілася асабліва прыкметным у жалезным веку, калі вынішчаліся лясы, бяднеў жывёльны свет. Да таго ж абвастрыліся міжпляменныя і сацыяльныя супярэчнасці.

## 1. Каменны век. Пераход ад праабшчыны да роду

**Палеаліт.** Першае пранікненне чалавека на тэрыторыю Беларусі адбылося 100—35 тысяч гадоў таму назад, што пацвярджаюць асобныя знаходкі — грубаабабітыя прылады працы. Скрабло, выробленае з крамянёвай пласціны, выяўлена каля Свяцілавіч на Бесядзі. Масіўная скрэблападобная прылада знойдзена паблізу Абідавіч на Дняпры (Быхаўскі раён). Сярод матэрыялаў Падлужскай стаянкі (Бердыж на Сожы ў Чачэрскім раёне) сустрэліся востраканечнік, адшчэпы, ядрышчы з крэменю. Падобныя вырабы трапляліся на берагавых схілах каля воз. Нобель у вярхоўях Прыпяці. Яны адносяцца да мусцьерскай эпохі і культуры (названа па пячоры Ля-Мусцье ў Францыі). Іх выраблялі неандэртальцы, касцявыя рэшткі якіх упершыню знойдзены ў даліне р. Неандэр (Германія), у Крыму і Закаўказзі. Хутчэй за ўсё старажытныя людзі пранікалі па далінах «прарэк» з тых месцаў, дзе сустракаецца найбольш слядоў іх жыхарства — з дняпроўскага Надпарожжа, басейна Дзясны або Закарпацця.

Вандроўкі мусцьерцаў адбываліся ў сярэдзіне палеаліта (старажытнакаменнага веку), які прыпадаў на ледавіковую эпоху, калі адбывалася некалькі абледзяненняў. У часы максімальнага, дняпроўскага (рыскага), абледзянення ўся тэрыторыя Беларусі была перакрыта магутным ледавіком таўшчынёй каля 2 км. Пад уздзеяннем хвалепадобнага пацяплення ледавік пачаў раставаць 250—110 тысяч гадоў назад. Надышло цёплае муравінскае (мікулінскае) міжледавікоўе, якое расцягнулася на многа тысяч гадоў[2]. Пасля ледавіка засталіся згрувашчанні пяску, гліны, камення — марэны. Узнавіліся рэкі, тундравая, а потым лясная расліннасць,




Верхні палеаліт. Бердыж: крамянёвыя нажы (1,2), скрабок (3, разец (4). Юравічы, чурынга з ікла маманта (5), крамянёвыя рэжучыя прылады (6, 7), клінок-кінжал (8).

адпаведна мяняўся жывёльны свет. Першыя хвалі холада пачалі зноў змяняць усё прыроднагеаграфічнае асяроддзе 90—70 тысяч гадоў таму назад, калі наступіла новая, апошняя ледавіковая эпоха.

Паазерскае (валдайскае, вюрмскае) абледзяненне перапынялася адноснымі пацяпленнямі. Асабліва значнае з іх адбывалася прыблізна 35—25 тысяч гадоў назад. Пасля яго пахаладнела, 18 тысяч гадоў назад клімат зрабіўся найбольш суровым, ледавік прасунуўся на поўначы да лініі Гародня — Нарач — Лепель — Орша. На поўдзень ад ледавіка ўтварылася на сотні кіламетраў шырокая, прыледавіковая зона з вечнай мерзлатой, якая нагадвала тундру, халодныя стэпы з астраўкамі лясоў у далінах рэк. Паўнаводныя і бурлівыя рэкі часта мянялі рэчышчы. Каля кромкі ледавіка ўтвараліся велізарныя азёры, а пасля яго адступлення — чарговае паазер'е, якое паступова высыхала. Паўсюдна пасвіліся статкі мамантаў, паўночных аленяў, табуны дзікіх коней, блукалі калматыя насарогі, першабытныя быкі, зубры, пясцы, ваўкі. Вадаёмы былі царствам вадаплаваючых птушак.

У пошуку здабычы, некранутых яшчэ экасістэм неандэртальцы маглі бываць у Верхнім Падняпроўі яшчэ ў міжледавіковую эпоху. Але хутчэй за ўсё гэта адбывалася ў час тых ка-

роткіх пацяпленняў, якія некалькі разоў спынялі распаўсюджанне апошняга ледавіка на яго першапачатковых стадыях.

Каб выжыць у надзвычай суровых умовах прыледавіковай зоны, яны развівалі своеасаблівую мусцьерскую культуру: удасканалілі вытворчасць прылад працы, навучыліся здабываць і падтрымліваць агонь, будаваць прымітыўныя жытлы, авалодалі спосабамі палявання на буйных статках жывёл. З крамянёвых адшчэпаў пры дапамозе паслядоўнага аббівання выраблялiся прылады працы 20 тыпаў — востраканечнікі, скрэблы, рубілы, наканечнікі дзідаў (коп'яў). Адшчэпы збіваліся з дыскападобных ядрышчаў. Праабшчыны неандэртальцаў ужо клапаціліся аб суродзічах, хавалі памёршых, ажыццяўлялі калектыўныя работы.

Да канца сярэдняга палеаліта зацягнулася фарміраванне чалавека сучаснага фізічнага тыпу — неаантрапа. Магчыма, ён развіўся ад найбольш прагрэсіўнай групы неандэртальцаў (палеаантрапаў) або паходзіў ад асобнай галіны чалавечага роду. Разам з тым узнікала раннеродавае грамадства, адбываўся пераход ад праабшчыны да роду, ад групавога брака да парнай сям'і. Чалавек ператварыўся ў сацыяльную істоту, члена родавага і вытворчага калектыву. Гэта шматкратна павялічвала яго магчымасці.

Эпоха позняга (верхняга) палеаліту пачалася 38—35 тысяч гадоў назад. Людзей гэтага часу называюць неаантрапы, ці краманьёнцы (па пячоры Кро-Маньён у Францыі). Крамянёвая вытворчасць дасягнула новага ўзроўню. Амаль усе прылады працы (іх больш 100 тыпаў) выраблялiся з пласцін. Нарыхтоўкі-пласціны збіваліся з папярэдне падрыхтаваных прызматычных ядрышчаў. Сярод прылад былі наканечнікі дроцікаў, нажы, скрабкі, скоблі, праколкі, свярдзёлкі, сякеры, цясллы, разцы. Для вырабу прылад працы шырока выкарыстоўваліся іклы, рагі і косці жывёл. З чарапоў, жардзін, касцей і скур будаваліся трывалыя жытлы. Побач з жытламі меліся вогнішчы, гаспадарчыя ямы-лядоўні, згрувашчанні костак — запасы паліва, месцы для апрацоўкі крамянёвых прылад, сховішчы для культавых рэчаў.

У познім палеаліце ўзнікла мастацтва. На сценах пячор, дзе жылі краманьёнцы, захаваліся малюнкі жывёл — аб'ектаў палявання. З іклаў маманта выразаліся статуэткі жанчын, выявы жывёл, птушак і рыб, чурынгі з ячэістым арнаментам, бранзалеты. У побыце былі касцяныя праколкі, іголкі, кінжалы, рагавыя жэзлы і інш., пацеркі з ракавін. Асабліва прыгожыя вырабы знойдзены беларускімі археолагамі пры раскопках у Юдзінаве і Елісеевічах, украінскімі — у Мезіне, рускімі — у Касцёнках і на Сунгіры.

На Гомельшчыне выяўлены дзве верхнепалеалітычныя стаянкі: Юравічы на Прыпяці і Бердыж на Сожы[3]. Ух узрост адпаведна 26 і 23 тысячы гадоў. Пры раскопках Юравіцкай стаянкі ў Калінкавіцкім раёне знойдзены рэшткі 15—20 мамантаў, пера-

Верхнепалеалітычная стаянка Бердыж. Раскапаныя косці маманта (1928 г.).

важна маладога ўзросту, першабытнага быка, дзікага каня, пясца і 60 крамянёў з прыкметамі апрацоўкі. Плямы ад вугалю, пэўная сістэма ў размяшчэнні валуноў і буйных касцей (чарапоў і іклаў маманта) дазваляюць меркаваць пра наяўнасць жытла. Выяўлены надзвычай рэдкі вялікі крамянёвы клінок-кінжал, чурынга. Нешматлікі інвентар помніка мае прыкметы мадленскай культуры, «усходняга гравета», якія звыклыя для цэнтральнай Еўропы.

На стаянцы Бердыж меліся рэшткі двух ці трох жытлаў верхнепалеалітычнай абшчыны. Можна меркаваць, што жытлы, якія дасягалі ў папярэчніку 5—6 метраў, мелі авальную форму. Пры раскопках выяўлены 1800 костак мамантаў, рэшткі другіх жывёл 19 відаў (пясца, паўночнага аленя, мядзведзя, ваўка, зайца, каня, зубра, калматага насарога і інш.). У калекцыі да 640 апрацаваных крамянёў, з якіх 80 — закончаныя і выкарыстаныя прылады працы. Некалькі вырабаў нагадваюць мусцьерскія па форме і апрацоўцы. Захаваліся косткі са слядамі ад крамянёвых прылад.

Сярод знаходак Бердыжскай стаянкі вылучаюцца своеасаблівыя (з выняццем) наканечнікі коп'яў і пласцінкавыя нажы. Дзякуючы ім можна сцвярджаць, што Бердыж з'яўляецца

адгалінаваннем касцёнкаўскай культуры, якая існавала ў басейне Дона. Улічваючы характар помнікаў на Валыні і ў Падзясенні, можна меркаваць пра два напрамкі перасяленняў старажытных людзей — на захад у Маравію і на поўнач з басейна Дона ў Падняпроўе.

Рэшткі мамантаў знойдзены больш чым у 200 месцах, пераважна каля стромкіх берагоў буйных рэк Беларусі[4]. У пошуках падобнай здабычы краманьёнцы ажыццяўлялі дальнія вандроўкі, наладжвалі аблавы з нагонкай. Яны гналі статкі ў глыбокія яры, да абрываў або ў дрыгву, рабілі засады (подпускі) каля сцежак, што спускаліся да вадапою, капалі ямы. Стаянкі будаваліся паблізу ад такіх мясцін.

У познім палеаліце існавала ўжо родавае грамадства. Асноўным прамысловым калектывам была ранняродавая абшчына, якая жыла на адной або некалькіх суседніх стаянках. Здабываць сродкі існавання можна было ў асноўным калектыўнымі намаганнямі. Таму існавала абшчынная і родавая ўласнасць як на паляўнічыя ўчасткі, месцы для збіральніцтва і рыбалоўства, запасы ежы і сыравіны, так і на большасць прамысловых сродкаў. Толькі рэчы індывідуальнага карыстання — побыту, узбраення і некаторыя прылады працы знаходзіліся ў асабістай уласнасці. Спажыванне было калектыўным. Ажыццяўлялася ўраўняльнае размеркаванне прадуктаў палявання і рыбалоўства паміж членамі абшчыны. Першы архаічны падзел працы па полу і ўзросту адбываўся ўнутры абшчыны, якая налічвала дзесяткі чалавек. Некалькі абшчын аб'ядноўваліся ў род.

Род з'яўляўся аб'яднаннем людзей аднаго паходжання, якое падлічвалася спачатку па мацярынскай лініі. У мацярынскі род уваходзілі ўсе жанчыны і другія асобы, якія паходзілі ад адной маці — родапачынальніцы. У абшчыну разам з тым прымаліся іншыя асобы з другіх радоў, з якімі наладжваліся шлюбныя сувязі, у складзе абшчыны ўтварыліся парныя, няўстойлівыя яшчэ сем'і. Унутры роду шлюбы не заключаліся — існаваў звычай экзагаміі. Род быў уласнікам пэўнай тэрыторыі. Першабытныя людзі заставаліся яшчэ амаль бездапаможнымі перад сіламі прыроды. Яны не вылучалі сябе з акаляючага асяроддзя. Адсюль складаліся ўяўленні аб цеснай сувязі паміж суродзічамі і татэмам — жывёлай, міфічным родапачынальнікам, вера ў звышнатуральныя сілы, духаў (анімізм), у незвычайную моц пэўнай рэчы, прылады, прадмета культу — так званай чурынгі (фетышызм). Людзі верылі, што могуць уздзейнічаць на іншых асоб і нават на прыродныя з'явы пры дапамозе магічных дзеянняў, рытуалаў і пэўных слоў (магія). Узнікла ўяўленне аб магчымасці жыцця на тым свеце, якое можа забяспечыцца складаным пахавальным рытуалам. Паводзіны членаў роду рэгуляваліся, такім чынам, паводле склаўшыхся традыцый, якія ахоўваліся пэўнымі людзьмі, родавай мараллю і звычаямі. Парушэнне іх было

Выгляд верхнепалеалітычнай стаянкі Юравічы.

небяспечным, бо чалавек не мог існаваць па-за родам.

Разам з тым чалавек назапашваў карысныя веды аб акаляючым свеце, жывёлах і раслінах, лячыў хваробы, усё лепей прыстасоўваўся да асяроддзя, у якім жыў. Прыродныя ўмовы, між тым, пагоршваліся. Калі наступілі занадта жорсткія халады, людзі пакінулі тэрыторыю Беларусі амаль на 10 тысяч год. Шматметровы пласт лёсападобных суглінкаў перакрыў некаторыя колішнія стаянкі і адначасова захаваў іх рэшткі да нашых дзён. Жыццё працягвалася далёка да поўдня — у басейне Дзясны (стаянкі Елісеевічы, Мезін, Юдзінава), на сярэднім Дняпры, берагах Днястра і Гарыні. Верагодней за ўсё з гэтых месцаў вярталіся потым іх нашчадкі — па шляхах продкаў, калі наступіла познеледавікоўе (15—14 тысяч гадоў назад). Паўночная частка Беларусі вызвалілася ад ільдоў, узнавілася Балтыйскае мора, тундравая расліннасць змянялася лясной, зніклі мамантЫ, калматыя насарогі, адвандроўвалі паўночныя алені.

Менавіта тады тэрыторыя Беларусі канчаткова ўвайшла ў склад абласцей, якія заселены чалавекам — айкумену. Паляўнічыя на паўночнага аленя, плямёны свідэрскай культуры (названа па в. Свідэр каля Варшавы) надоўга занялі яе заходнюю частку, прылеглыя раёны Валыні.

**Мезаліт.** Разам са знікненнем рэшткаў ледавіка ў Скандынавіі, аднаўленнем лясной зоны,

8500—8300 гадоў да н. э. скончылася ледніковая эпоха (плейстацэн), наступіў сучасны геалагічны перыяд (галацэн). У гісторыі жыхароў Еўропы пачаўся мезаліт — сярэдняя эпоха каменнага веку, час паляўнічых на ляснога звера — жыхара велізарных пушчаў.

Адбылося змяненне клімату. Ужо не бязмежныя халодныя стэпы ці снегавыя прасторы, а змрочныя спрадвечныя лясы адасаблялі адну абшчыну ад другой. Толькі блакітныя стужкі рэк злучалі родавыя ўчасткі, тэрыторыі рассялення плямён і дазвалялі арыентавацца ў змрочных зялёных пушчах. Гэта былі шляхі, падрыхтаваныя самой прыродай. Людзі сяліліся на берагах рэк, займаючы ўжо не асобныя мясціны, а даволі вялікія адрэзкі рачных далін, з высокімі тэрасамі, дзюнападобнымі пясчанымі пагоркамі, марэннымі халмамі, раскіданымі сярод паплавоў. У Беларусі вядома да 120 мезалітычных стаянак. Чалавека вабілі вялікія рэкі і крамянёвыя радовішчы — берагі Заходняга Буга ніжэй Брэста, вярхоўі Прыпяці пры вусцях Стахода і Стыры, даліна Ясельды, стромкія берагі Нёмана, пясчаныя выспы сярод шырокай даліны ніжэй Прыпяці, высокія тэрасы Дняпра, Сожа і Бесядзі побач з азёрамі-старарэчышчамі.

Нашчадкі верхнепалеалітычных родавых абшчын жылі на паўднёвым захадзе (познія стаянкі свідэрскай культуры) і на ўсходзе Беларусі (грэнскія помнікі). Далейшае засяленне адбывалася па рэках, пераважна ў кірунку да поўначы. Лёгкія жытлы і невялікая маёмасць не вельмі абцяжарвалі першапраходцаў. Частка грузаў магла дастаўляцца на драўляных чоўнах або валакушах. Наперадзе са зброяй напагатове рухаліся групы мужчын-паляўнічых, іх суправаджалі сабакі, а ззаду, іншы раз адстаючы на 1—2 дні шляху,— астатнія. Знайшоўшы зручнае месца — з багатымі звярынымі і рыбнымі ловамі, чыстай вадой, крамянёвай сыравінай, людзі хутка будавалі невялікія конусападобныя жытлы. Стаянкі закладваліся на адлегласці не больш 10—15 км адна ад другой, каб лягчэй падтрымліваць між сабой сувязі. Напярэдадні мезаліта была вынайдзена магутная паляўнічая зброя — лук са стрэламі, якая шырока распаўсюдзілася сярод лясных плямён. Наканечнікі стрэл розных тыпаў рабіліся з крамянёвых пласцін. Пры дапамозе лука можна было забіваць жывёл на адлегласці да 100 м, «лучыць» рыбу, уладкоўваць самастрэлы і пасткі, нават здабываць агонь і свідраваць не толькі дрэва і косць, але і камень.

Ва ўмовах лясной мясцовасці чалавеку даводзілася вырабляць у вялікай колькасці рубячыя прылады працы — сякеры, цяслы, долаты з крэменю, якія насаджваліся на рукаяткі. Пэўныя дасягненні ў вытворчасці прамысловых прылад зрабілі нават невялікія абшчыны адносна самастойнымі. Шматлікія жывёлы станавіліся лёгкай здабычай. У паўнаводных рэках, не ведаючых буйных веснавых паводкаў, вадзілася безліч рыбы. Турбавацца аб крыніцах ежы людзям не даводзілася. З канца

палеаліту, і асабліва ў мезаліце, у далінах буйных рэк Беларусі жыло ўжо першае сталае (аўтахтоннае) насельніцтва. Былая адносная ізаляванасць плямён усё часцей парушалася.

Для мезаліта характэрна (але не ўсюды) з'яўленне маленькіх крамянёвых пласцінак (мікралітаў) памерам 1—2 см, якія маюць выгляд ножыкаў, трохвугольнікаў, трапецый. Яны выкарыстоўваліся як устаўкі часткі ляза пры вырабе складаных прылад працы. Адначасова з імі ў шэрагу месцаў выраблялiся масіўныя каменныя прылады працы (макраліты): грубаабабітыя сякеры, цяслы, разцы, скрабкі і скоблі. Дзякуючы ўдасканаленню паляўнічай зброі, чалавек мог індывідуальна паляваць на дробных жывёл і птушак. Яго памочнікам на паляванні стаў сабака — першая адамашненая жывёла. У гаспадарцы значнае месца займала рыбацтва. З цэльных ствалоў дрэва выдзёўбваліся чаўны.

Раннемезалітычныя паселішчы размяшчаюцца на другіх надпоплаўных тэрасах Дняпра, Сожа, Бярэзіны. Познія звычайна ляжаць ніжэй, на першых тэрасах, іх астанцах, пясчаных і марэнных буграх, дзюнах, якія раскіданы сярод поймы каля азёр-старыц. Яны зрэдку сустракаюцца на другой і больш высокіх тэрасах у далінах Заходняй Дзвіны і Нёмана. Паблізу ад стаянак звычайна прысутнічаюць зручныя падыходы да вадаёмаў, а нярэдка і радовішчы крэменю.

На тэрыторыі Беларусі ўтварыліся тры вобласці, у якіх вытворчасць крамянёвых прылад працы набыла істотныя адрозненні. У заходняй і ўсходняй абласцях макралітычная тэхналогія панавала, выраблялiся грубаабабітыя рубячыя прылады розных тыпаў. Трэцюю вобласць — паміж імі, якую абмяжоўвалі з захаду рэкі Гарынь і Случ, а з усходу Бесядзь і Друць, засялялі плямёны, валодаўшыя мікралітычнай тэхналогіяй[5]. На іх стаянках сустракаліся ў асноўным мікраліты і абломкі невялікіх вузкіх пласцін, дэталі лёзаў складаных прылад працы, а таксама дробныя вастрыі, скрабкі, скоблі. Для апрацоўкі дрэва, напэўна, імі выкарыстоўваліся не крамянёвыя, а рагавыя і касцяныя сякеры і цяслы. Некалькі падобных прылад знойдзена каля Смаргоні. Якія этнічныя і культурныя з'явы былі адлюстраваны гэтым тэрытарыяльным падзелам старажытнай вытворчасці, не зусім ясна. Для кожнай вобласці характэрны пэўныя археалагічныя культуры.

На захадзе працягвалася развіццё свідэрскай культуры (яе познія этапы). З цягам часу яна ператварылася ў мясцовую мікрамакралітычную культуру верхняй Прыпяці і Панямоння. На ўсходзе Беларусі існавала грэнская і склалася сожская (днепра-дзяснінская[6]) культура макралітаў. Нарэшце паўднёвая мікралітычная культура, якая распаўсюдзілася па паўднёваму ўсходу нават да цэнтральнай Беларусі, адасобіла абедзве папярэднія культуры на некалькі тысячагоддзяў. У межах яе арэала вылучаюцца больш дроб-

ныя культуры па аналогіі з Польшчай і Украінай (варыянт яніславіцкай, або рудавостраўскай, кудлаеўскай, або каморніцкай, днепрапрыпяцкай). Менавіта тады адбыўся этнічны падзел Палесся, была акрэслена заходняя вобласць з выключна стабільным насельніцтвам.

На захадзе Беларусі археолагамі даследаваліся помнікі найбольш значнай свідэрскай культуры — Бабровічы Івацэвіцкага, Валеўка (Свіцязь) Навагрудскага, Гожа Гродзенскага, Зарэчча супраць г. Бярозы, Збляны Лідскага, Крумплева Полацкага, Нясілавічы Дзятлаўскага, Опаль Іванаўскага, Стругалапы Мядзельскага, Чарэшля Навагрудскага раёнаў. Колькасць усіх стаянак дасягае 20.

Свідэрцы выраблялі прылады працы з вялікіх крамянёвых пласцін: наканечнікі стрэл, якія нагадвалі па форме ліст вярбы і чаранковыя, канцовыя скрабкі, шматлікія разцы, рубячыя прылады (сякеры і цяслы). Асабліва буйная калекцыя іх вядома з Нобеля.

Грэнская культура прадстаўлена невялікай колькасцю помнікаў (да 10) у параўнаўча абмежаваным арэале верхняга Падняпроўя, гэта Ворнаўка (Грэнск) Кармянскага, Бароўка Быхаўскага, Хвойная Магілёўскага, Берасцянёва Аршанскага, магчыма Кісцяні (Каромка) Рагачоўскага раёнаў. Найбольш вызначальным тыпам з'яўляюцца несіметрычныя наканечнікі стрэл, зробленыя з крамянёвых пласцін або адшчэпаў. Побач з імі выкарыстоўваліся іншыя наканечнікі стрэл, рознатыповыя разцы, канцавыя скрабкі — усе даволі кароткія памерамі, грубаабабітыя сякеры. Да мясцовага адгалінавання свідэрскай культуры ў даліне Дняпра можна з упэўненасцю аднесці толькі Янава, магчыма, Баркалабава і Дальняе Ляда (Быхаўскі раён).

Да найбольш даследаваных помнікаў наступнай па часе сожскай культуры належаць Глыбаўка (Бабулін Бугор) і Новыя Грамыкі (Аўрамаў Бугор) у Веткаўскім, Горкі ў Чэрыкаўскім, Лудчыцы, Тайманава ў Быхаўскім, Кліны ў Слаўгарадскім, Каралеўская Слабада ў Светлагорскім, Рудня Споніцкая (Латкі) у Веткаўскім, Шыхаў у Жлобінскім раёнах. Усяго вядома 14 помнікаў.

Большая частка прылад працы выраблялася з адшчэпаў, рэдкія — з пласцін. У інвентар уваходзілі наканечнікі стрэл з чаранкамі, скрабкі і скрэблападобныя прылады, разцы, сярод якіх многа грубых, грубаабабітыя сякеры некалькіх тыпаў — востраабушныя, авальныя, трапецыяпадобныя.

Як ужо паведамлялася, вобласць паміж Падняпроўем і арэалам свідэрскай культуры займалі плямёны з мікралітычнымі вырабамі (Буразь, Хільчыцы Жыткавіцкага, Міраслаўка Бярэзінскага, Ляскавічы, Дарашэвічы Петрыкаўскага, Белая Сарока Нараўлянскага, Ломыш, Масаны, Краснаселле Хойніцкага, Стаўбун Веткаўскага раёнаў). Падобных стаянак выяўлена каля 15.

Мезалітычныя стаянкі невялікія, у даўжыню складаюць 50—100 м, але ёсць выключэнні. Звы-

чайна на стаянцы знаходзіліся некалькі круглых або авальных жытлаў па 2—4 м у папярэчніку, якія паглыбляліся ў грунт на 0,4—0,6 м. Вогнішча распальвалася ў ямцы каля сценкі ці пасярэдзіне жытла. Вытворчасць прылад працы адбывалася ў саміх жытлах або ў спецыяльных паглыбленнях, на дне якіх раскладваліся невялікія вогнішчы, мабыць, для асвятлення.

Асноўныя майстэрні часоў мезаліту сустракаюцца рэдка. Так на стаянцы Глыбаўка (Бабулін Бугор) было выяўлена 5 паўзямлянак, 17 вогнішчаў, 14 гаспадарчых ям, а ў іх наваколлі 25 тысяч крамянёў з прыкметамі апрацоўкі, тысяча закончаных прылад працы. Сярод некалькіх авальных жытлаў стаянкі Берагавая Слабада ёсць прамакутнае, даўжынёй 4,3 м. Каля іх і суседніх вогнішчаў акруглай формы сабрана 7 тысяч крамянёў, з якіх 300 маюць рэтуш, а 400 цалкам апрацаваныя прылады.

Некаторыя з 6—7 вогнішчаў на стаянцы Шыхаў абкладаліся камянямі. У Клінах выяўлены 4 авальныя вогнішчы (0,7—1,6 м).Пры раскопках стаянкі Аўрамаў Бугор (Новыя Грамыкі) было атрымана 34 тысячы крамянёў, у тым ліку 760 закончаных прылад працы. Пераважная большасць рэчаў была рассыпана каля 7 круглых паўзямлянак.

Мезалітычныя культуры адрозніваліся адна ад другой перш за ўсё характарам вытворчасці крамянёвых прылад працы — мікралітычнай або макралітычнай, асноўнымі тыпамі пласцінчатых наканечнікаў стрэл, дробных вастрый, трапецый і іншых дэталей складаных вырабаў. На помніках заходняй Беларусі сустракаюцца своеасаблівыя — шырокія, кароткія, скошаныя наканечнікі стрэл з пласцін, якія характэрны для арэнсбургскай культуры. Мяркуюць, што яна распаўсюдзілася з захаду раней за свідэрскую, а потым злілася з апошняй. Багаты набор крамянёвых сякер — грубаабабітых, аднабаковых, з перахопамі для замацавання, трапецападобных, двухбаковаабабітых, авальных таксама сведчыць аб падабенстве мясцовага і паўночна-германскага мезаліту. У Іванаўскім раёне выяўлены помнікі культуры лінгбі (названа па стаянцы ў Даніі) — Адрыжын, Опаль. Вызначэнне мезалітычных культур на тэрыторыі Беларусі яшчэ далёка ад завяршэння.

**Неаліт. Гаспадарчае развіццё.** Каменны век завяршаецца эпохай неаліту. Пачатак яе вызначаецца па-рознаму — з распаўсюджання шліхтаваных прылад працы, керамічнай вытворчасці, архаічнага земляробства і жывёлагадоўлі. Больш мэтазгодна адлічваць пачатак неаліту ў лясной паласе Еўропы з часоў, калі прысвойваючая гаспадарка дасягнула максімальнага развіцця. Людзі атрымоўвалі ежы больш, чым неабходна, і таму маглі нарыхтоўваць яе ў запас. Вялікі здабытак чалавека — вольны час — выкарыстоўваўся для далейшага ўдасканалення гаспадаркі, побыту і развіцця культуры. Ён навучыўся вырабляць і абпальваць гліняны посуд — гэта другая адметная рыса эпохі. Наяўнасць

*посуду — неабходная ўмова для* захоўвання ежы, а развітое рыбалоўства — галоўны сродак для яе здабывання. Неаліт пачаўся на Беларусі 4500—4000 гадоў да н. э., у плямёнаў, якія жылі ў суседніх з Валынню паўднёва-заходніх раёнах. Акрамя ранняга перыяду, у неаліце вылучаюцца *сярэдні (3500—2500 гг. да н. э.)* і позні (2500—1800 гг. да н. э.). Эпоха неаліту на Беларусі — гэта перш за ўсё гісторыя плямён з грабеньчатай керамікай[7]. Паяўленне насельніцтва з іншай, шнуравой керамікай адбывалася ў канцы эпохі (на захадзе, у Прыбалтыцы) або адчыняла сабой новую эпоху — бронзавы век (Валынь, Падняпроўе). На тэрыторыі Беларусі ў неаліце існавала вялікая этнічная і культурная супольнасць, у якую ўваходзілі плямёны чатырох культур — нёманскай, днепра-данецкай, верхнедняпроўскай, нарвенскай.

Нёманская культура была на абшары, які ахопліваў вярхоўі Прыпяці, амаль усё Панямонне і часткова басейн Віслы. Яна датуецца 4500—2000 (1800) гадамі да н. э.[8]. Пачала фарміравацца ў паўднёвай частцы арэала і толькі на апошняй стадыі развіцця распаўсюдзілася на паўночны захад. Вядома да 300 помнікаў, даследавалася 25, у тым ліку каля вёсак Добры Бор Баранавіцкага, Моталь-Тышкавічы Іванаўскага, Любішчыцы Івацэвіцкага, Ярэмічы Карэліцкага, Пескаўцы (вусце Дзітвы) Лідскага, Панямонь (Трахімавы Кусты) Навагрудскага, Бакінічы, Камень (Біляне, Вісліца, Ратне), Лемяшэвічы Пінскага, Ніз (Янава), Русакова Слонімскага, Кругліца (Лысая Гара) Стаўбцоўскага раёнаў. Стаянкі Камень (Вісліца) і Азярное Любанскага раёна апынуліся з цягам часу на метр ніжэй узроўню вады. Групы паселішчаў вядомы каля Здзітава Бярозаўскага, Нясілавіч Дзятлаўскага, Шылавічы Слонімскага раёнаў.

*Неаліт. Днепра-данецкая культура.* Юравічы. Рэканструкцыя гаршка.

Для культуры характэрны ў асноўным невялікія наземныя жытлы, відаць, авальнай формы з вогнішчамі ў сярэдзіне. Каля 20 такіх аб'ектаў выяўлена на паселішчы Камень (Ратне), 4 вогнішчы, абкладзеныя камянямі, меліся на стаянцы Лысая Гара. На позненеалітычнай стаянцы Добры Бор раскапаны 3 паўзямлянкі прамавугольнай формы з вогнішчамі. Плошча жытлаў 10—13 м$^2$.

Выключным помнікам культуры з'яўляюцца Краснасельскія шахты па здабычы крэменю

(Ваўкавыскі раён). Выяўлена больш 1000 шахт, яны паглыбляліся ў тоўшчу крэйды на 5—8 м. Даследавана 150 шахт і майстэрні, на якіх апрацоўвалі сыравіну, рабілі грубыя нарыхтоўкі для буйных прылад працы. У адной шахце знойдзены рэшткі шахцёра (культуры адзінкавых пахаванняў), у іншых — многа гарняцкіх кірак і капалак з рагоў лася або аленя[9].

Гаршкі звычайна маюць высокую канічную ніжнюю частку, пашыраную ўверсе, з намечанай шыйкай пад выпуклым венцам. Сярод арнаментальных матываў — пераважна папярэчных стужак — сустракаюцца дыяганальныя, трохвугольныя ўзоры. На апошнім этапе распаўсюджваюцца насечкі, шнуравыя водціскі. У некаторых гаршкоў арнаментаваны край посуду і венца з унутранага боку. Вастрадонны посуд паступова замяняецца пласкадонным, больш зручным у побыце.

Крамянёвыя прылады працы сустракаюцца на паселішчах Нёманскай культуры ў вялікай колькасці — многа трохвугольных стрэл, living рознатыповых сякер і цяслаў, шырокіх і вузкіх нажоў з завостраным канцом, скрабкоў, скобляў, розных праколак. На стаянцы Камень (Ратне) выяўлена 9 тысяч прылад з крэменю, 70 з рога і косці (матыгі, сякеры, праколкі, падвеска з клыка сабакі, нажы з іклаў кабана). Захаваліся 3 тысячы костак жывёл, пераважна кабана, лася, аленя, тарпана (лясны конь), бабра, зубра або тура і, што асабліва важна, буйной рагатай жывёлы, а таксама свінні.



Неаліт. Днепра-данецкая культура. Юравічы. Сценка гаршка з грабеньчатым арнаментам. 5000—4500 год.

Скапленні крамянёвых пласцін, больш 5 тысяч прылад, сярод якіх многа мезалітычных тыпаў, рэшткі ранненеалітычных гаршкоў знойдзены ў некалькіх месцах на паселішчы Сеньчыцы. Вялікая колькасць прылад з рога і косці сабрана на стаянцы Камень-8, якая апынулася на дне пратокі Вісліца — 140 вырабаў (наканечнікі дроцікаў, праколкі, сякеры, накаваленкі, рэтушоры, чатыры тыпы рыбалоўных кручкоў, падвескі з зубоў, унікальны сэрцападобны амулет. З абломкаў пасудзін, якія выяўлены на Лысай Гары, удалося рэстаўрыраваць некалькі вострадонных гаршкоў. Больш за 3 тысячы абломкаў посуду, 500 прылад працы з крэменю знайшлі ў Добрым Боры. Толькі пры раскопках і зборах з паверхні каля вёсак Моталь і Тышкавічы Іванаўскага раёна знойдзена больш 400 крамянёвых наканечнікаў стрэл, многа пласцін і іншых прылад. Маюцца падставы меркаваць аб мясцовым паходжанні нёманскай культуры.

Днепра-данецкая культура (4300—2000 гг. да н. э.) мела арэал ва Усходнім Палессі, на ўсход ад Гарыні, уключаючы нізоўя Бярэзіны і Сожа, а таксама сярэдняе Падняпроўе і абшары да р. Данец[10]. У паўднёва-ўсходняй Беларусі вядома да 150 помнікаў, найбольшыя групы каля в. Сямурадцы Жыткавіцкага, Асарэвічы Брагінскага, Юравічы, Шарэйкі Калінкавіцкага, Загорыны, Лучажэвічы Мазырскага, Краснаселле, Ломыш, Масаны, Хвашчоўка Хойніцкага раёнаў. Раскапваліся стаянкі Слабодка (Тур'я), Юравічы (тры на воз. Ліцвін) Калінкавіцкага, Азярное (Вячора), Юркавічы Любанскага, Пхоў Мазырскага раёнаў. Рэшткі двух жытлаў выяўлены пры раскопках стаянак на паўднёва-заходнім беразе возера Ліцвін. Адно жытла авальнае паўзямлянкавае памерамі 3,6—5 м з вузкім уваходам з поўдня і апорным слупом усярэдзіне, рэшткамі вогнішча, абкладзенага камянямі. Гаспадарчая яма і другое вогнішча былі знадворку. Другое жытло — прамавугольнае 4,5×5 м з вогнішчам у куце, якое было вымашчана невялікім каменнем. На стаянцы Мнёва супраць вусця Прыпяці (Украіна) раскапаны 7 жытлаў прамавугольнай формы (3×2,8×7 м) з вогнішчамі ў авальных ямках. Пахаванні ў гэты час вядомы толькі на Украіне. Памёршых хавалі спачатку ў родавай магіле, потым індывідуальна: клалі на спіну, пасыпалі вохрай, побач ставілі гаршчок. Каля шкілетаў сустракаюцца падвескі з зубоў, касцяныя пласціны для вопраткі, прылады працы.

Гліняны посуд звычайна нізкі, шыракагорлы, з высокай канічнай прыдоннай часткай. Востраданныя гаршкі трэба было ставіць у ямкі або паміж камянямі вогнішча. У познім неаліце паявіліся пасудзіны з плоскім донцам, выраблялiся невялікія кубкі, арнаментаваныя грузікі. Арнаментацыя посуду вельмі багатая, ускладнена-геаметрычная, з аблямаванымі фігурамі, трохзанальная. Асаблівую прыгажосць надаюць авальныя лапчастыя наколы. На сценцы аднаго гаршка з паселішча Ліцвін змешчаны міфічны эпізод: мужчына-воін, які танцуе перад качкай. На посудзе з Кіеўшчыны захаваліся адбіткі зерня ячменя. Сярод знойдзеных рэчаў трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, праколкі, пераважна вуглавыя разцы, дробныя ўстаўкі рубячых і рэжучых прылад, часам пласцінкавыя наканечнікі стрэл, прылады з рога (цяслы, сякеры, праколкі).

У водкладах на дне воз. Вячора (Любанскі раён) выяўлена 50 вырабаў з рога і косці (біканічныя наканечнікі стрэл, кінжал з пазамі для крамянёвага лезіва, унікальная касцяная чурынга з фігуркамі танцуючых людзей).

Людзі днепра-данецкай культуры былі высакарослыя, моцныя, доліхацэфалы (длiннагаловыя), з шырокім тварам, тыповыя паўночныя еўрапеоіды.

Верхнедняпроўская (рагачоўская) культура існавала ў басейне Верхняга Дняпра на поўнач ад Іпуці і вусця Бярэзіны, ахоплівала міжрэчча і абшары ў напрамку да Акі і Валдая, яе дата 4000—2000-ыя (1800-ыя) гады

да н. э. На тэрыторыі ўсходняй Беларусі, пераважна ў басейне Сожа, вядома каля 200 стаянак, з якіх 30 раскопваліся — каля вёсак Вець Быхаўскага, Глыбаўка, Новыя Грамыкі, Рудня Шлягіна (ур. Страліца, Чачуроўка) Веткаўскага, Дзям'янкі, Дубовы Лог Добрушскага, Раманавічы Гомельскага, Струмень (Лоша, Нараг) Кармянскага, Лучын, Ходасавічы Рагачоўскага, Залессе, Петраполле, Сябровічы (Ліпаў Брод), Шапатовічы Чачэрскага, Гронаў Чэрыкаўскага раёнаў. Каля ўсіх названых вёсак, а таксама в. Бесядзь Веткаўскага раёна, у наваколлі Слаўгарада сустракаюцца значныя групы паселішчаў.

На ранніх стаянках каля в. Дубовы Лог даследавана два круглыя жытлы дыяметрам 3 м з вогнішчам усярэдзіне. Рэшткі жытлаў з вогнішчам, якое было абкладзена каменнем, знайшлі на стаянцы Залессе. Жытлы паглыбляліся ў глебу на 0,2—0,4 м[11]. Некалькі позніх авальных жытлаў памерамі 2,5—4 м, якія заглыблены да 0,8 м, вывучаны на стаянцы Струмень (Лоша). Яны мелі няроўную падлогу, вогнішча пасярэдзіне або каля сценкі і амаль заўсёды яму невядомага прызначэння. На паселішчы раскапана таксама ўтрая больш гаспадарчых ям, рабочых месцаў майстроў. Даследавана прамавугольнае жытло з шасцю апорнымі слупамі па перыметры і вогнішчам пасярэдзіне — на стаянцы Лучын (Сасонка). Яма для абпалу посуду выяўлена ў Лошы.

Гаршкі былі даволі высокія з нізкай канічнай або яйкападобнай доннай часткай. Край посуду заставаўся вертыкальным або крыху адгінаўся вонкі. Вышыня, звычайна большая за дыяметр, дасягае 35—50 см, сценкі тоўстыя, неахайна загладжаныя. У гліняным цесце мелася грубая раслінная дамешка, пазней выкарыстоўваўся пясок і жарства. Аднастайная арнаментацыя пакрывае ўсю паверхню або канцэнтруецца ўверсе. Амаль палова ўзораў складзена з адбіткаў грабенчатага штампа, у больш ранція часы буйнога, потым дробназубчатага. Улюбёнымі былі арнаменты з шчыльна размешчаных авальных ямак або лапчастых адбіткаў.

На стаянках выкарыстоўвалася многа рознатыповых крамянёвых прылад. Толькі на Лошы (Струмень) выяўлена 3 тысячы вырабаў, каля Раманавіч 20 тысяч крамянёвых прылад працы. На стаянках сустракаюцца пласцінкавыя, трохвугольныя і рамбавідныя наканечнікі стрэл. Палова вырабаў — скрабкі, скоблі, сярод знаходак нямала невялікіх, грубаапрацаваных цяслаў, сякер, пікападобных прылад. Касцяная вытворчасць вядома толькі па некаторых асобных знаходках у даліне р. Бася. Макралітычны выгляд інвентара і архаічнасць асобных тыпаў прылад сведчаць аб мясцовым паходжанні верхнедняпроўскай (рагачоўскай) культуры.

Нарвенская культура (названа па р. Нарва) была распаўсюджана ў паўночнай частцы тэрыторыі Беларусі. У 4000—2300 гг. да н. э. Беларускае Паазер'е ад басейна Віліі да міжрэчча Дзві-

ны і Дняпра на поўнач ад Воршы, як амаль уся Прыбалтыка, уваходзіла ў яе арэал. Верхнядзвінскі варыянт яе часам разглядаюць як асобную ўсвяцкую культуру. Асноўная колькасць помнікаў размяшчаецца на берагах азёр пад пластамі торфу. У Беларусі вядома да 40 стаянак, з якіх раскопваліся Асавец Бешанковіцкага, Сосенка Вілейскага, Пліса Глыбоцкага, Бабінавічы Лёзненскага, Стругалапы Мядзельскага, Зацэнне Лагойскага, Галоўск (Крывіна) Сенненскага раёнаў.

Над крывінскімі стаянкамі ўтварыўся пласт торфу магутнасцю да 1,5 м. Многа цікавых вырабаў з косці, рога і дрэва далі тарфянікавыя паселішчы Асавец і Крывіна. Бабінавічы і Зацэнне займаюць прамежкавае становішча ў адносінах да верхнеднянроўскай культуры. З цягам часу пад уздзеяннем культуры шнуравой керамікі нарвенская эвалюцыяніравала ў паўночнабеларускую культуру, існаванне якой зацягнулася да 1600—1500 гг. да н. э. Яна вывучалася па матэрыялах з верхніх культурных пластоў раней існаваўшых помнікаў, у прыватнасці Асаўца і Крывіны, а таксама стаянак на поўдні Пскоўскай вобласці.

На стаянцы Асавец, якая ў старажытнасці знаходзілася на беразе вялікага возера, былі выяўлены вогнішчы, часткова складзеныя з камення, рэшткі драўляных збудаванняў на палях, на Крывіне — больш 3 тысяч костак жывёл. Палявалі пераважна на кабана, мядзведзя і лася. Жытлы мелі двухсхільную страху, а ўсярэдзіне — вогнішчы на пясчаных падсыпках. У развалах гаршкоў, што былі побач з вогнішчамі, захаваліся нават рэшткі ежы, а побач — шкарлупіны вадзяных арэхаў, жалуды, ракавіны.

Крывінскія стаянкі славяцца ў археалагічнай навуцы сваімі вырабамі з костак і рога. На стаянцы Асавец іх знойдзена каля 450 — наканечнікі стрэл і дроцікаў, шылы, праколкі, цяслы, сякеры, гарпуны, вастрыі, кінжалы, рыбалоўныя кручкі. Унікальнымі з'яўляюцца выява барадатага мужчыны, выразаны з косткі твар — «асавецкая мадона», фігуркі змея і птушак, лася, падвескі з зубоў і сківіц бабра. Знойдзены бурштынавыя і касцяныя падвескі, пацеркі, кольцы, накладкі, мабыць, на вопратку. Тарфовішча захавала ў сябе і шэраг драўляных вырабаў — рэшткі чоўна і вясла, лыжкі, рукаяткі прылад. Вельмі цікавая знаходка — ідал у выглядзе шыракатварага мужчыны.

Для нарвенскай культуры характэрны нізкія гаршкі з высокай канічнай або яйкападобнай доннай часткай. Арнаментацыя складалася з рэдкіх папярочных стужак або радоў. Яны ўтвараліся насечкамі, наколамі, ямкамі, рэдка нанесенымі дробназубчатымі адбіткамі. Пазней паверхня гаршкоў пачала штрыхавацца, і толькі потым пакрывалася арнаментамі. Сярод апошніх сеткі, нахіленыя перамычкі, зігзагі, дугападобныя матывы. Частка іх выконвалася адбіткамі шнурка або «вусеніцы». На сценках гаршкоў бываюць выявы чалавека і качкі. Аб выкарыстанні рыбалавецкіх сетак сведчаць бе-

Неаліт. Сценка гаршка верхнедняпроўскай культуры з лапчатым арнаментам.

Неаліт. Днепра-данецкая культура. Донца гаршка канічнае. В. Юравічы.

расцяныя паплаўкі і гліняныя або каменныя грузілы.

Вытворчасць керамікі — вельмі характэрная прыкмета эпохі неаліту, якая наступіла спачатку на паўднёвым захадзе Беларусі. Мясцовыя плямёны пад уплывам насельніцтва Валыні і, магчыма, Павіслення, навучыліся вырабляць гліняны посуд. Яны ўдасканалілі спосабы рыбнай лоўлі і палявання, а потым пачалі паступова пераходзіць да вытворчай гаспадаркі — жывёлагадоўлі, земляробства. Усе гэтыя дасягненні забяспечылі атрыманне і захаванне прыбавачнага (звыш неабходнага) прадукту і магчымасць далейшага развіцця гаспадаркі ды культуры. Амаль тысячагоддзе спатрэбілася для таго, каб развітая прысвойваючая гаспадарка, заснаваная на паляванні, збіральніцтве, рыбнай лоўлі, і керамічная вытворчасць распаўсюдзіліся сярод усяго насельніцтва Беларусі. Яшчэ больш часу пайшло на авалоданне прымітыўным земляробствам і жывёлагадоўляй. Земляробства прыйшло на тэрыторыю Беларусі ад плямён Балканскага паўвострава, з Дуная і Днястра, праз Валынь. Ім авалодалі спачатку плямёны, якія жылі на паўднёвым Захадзе (нёманскай культуры) і ў Падняпроўі (днепра-данецкай культуры). Спатрэбілася не менш двух тысячагоддзяў, пачынаючы з 3500 г. да н. э., каб уся Беларусь зрабілася земляробчай краінай. Гэты велічэзны ў гісторыі чалавецтва гаспадарчы пераварот атрымаў назву неалітычнай рэвалюцыі. Для большасці насельніцтва Беларусі ён адбываўся ў наступную эпоху.

Да канца эпохі неаліту на тэрыторыі Беларусі жыло каля 5—6 тысяч — у сярэднім па 10—40 чалавек на кожнай з 200 адначасова існаваўшых стаянак (1 чалавек на 30 км$^2$). Трэба падкрэсліць, што былі заселены толькі рачныя даліны больш-менш вялікіх рэк, у пэўных, найбольш зручных мясцінах. Менавіта тут выяўлены групы стаянак рознага часу. Прыкладна 4000—2000 гг. да н. э. тэрыторыя Беларусі стала сэрцавінай вялікай этнакультурнай вобласці плямён чатырох археалагічных культур, з грабенчатай керамікай. У асобныя перыяды гэтыя культуры распаўсюдзіліся на паўднёвы ўсход (да Данца), на захад (да Віслы і Эльбы), на поўнач (да Валдая).

На тэрыторыі Беларусі арэалы культур у асноўным супадалі з басейнамі рэк Заходняй Дзвіны (нарвенская), Дняпра (верхнедняпроўская). Прыпяцкае палессе падзялілі дзве культуры — нёманская і днепра-данецкая. Могільнікі днепра-данецкай культуры, вывучаныя на Украіне, належалі паўночным еўрапеоідам або познім краманьёнцам. Такую выснову можна распаўсюдзіць на ўсю вобласць.

Контуры гэтай вобласці з цягам часу істотна змяніліся. Відаць, у сувязі з націскам плямён старажытнаямнай культуры з паўднёвага ўсходу і дзяснінскай культуры з ўсходу ў сярэднім Падняпроўі знікала днепра-данецкая культура, а ў басейне Сожа з'явіліся паселішчы з ямачна-грабенчатай керамікай, характэрнай для фіна-угорскага насельніцтва басейнаў Дзясны і Акі. На поўдзень ад Палесся насельніцтва трыпольскай культуры пачалі пацясняць вандроўнікі, якія хавалі памёршых у ямах пад курганамі. Шматлікія плямёны з такім звычаем утваралі вялікую культурную супольнасць.

Этнакультурная вобласць з старажытнаямнымі пахаваннямі ўтваралася на працягу ад Арала да Дуная за 3—4 тысячы год да н. э. як вынік рассялення старажытных індаеўрапейцаў з сваёй прарадзімы[12]. Стэпы Прычарнамор'я прыкладна за 2—3 тысячы год да н. э. сталі іх другой прарадзімай. Затым плямёны культуры лейкападобных кубкаў, якая склалася ў паўночнай частцы цэнтральнай Еўропы, у сваёй экспансіі на паўднёвы ўсход дасягнулі Валыні і Палесся, сутыкнуліся з насельніцтвам культуры ямных пахаванняў. У вобласць Павіслення пачалі рассяляцца плямёны нёманскай культуры. Магчыма, да гэтага іх прымушала пранікненне на поўнач Усходняй Еўропы, у Прыбалтыку заходняй галіны фіна-угорскіх плямён. Помнікі апошніх выяўлены на тэрыторыі паўночнай Беларусі на р. Свольна (Верхнядзвінскі раён), воз. Бярэшча (Лепельскі раён), р. Скема (пратока ў воз. Нарач) і каля в. Нямыкары пад Смаленскам. Невыпадкова каля 20 назваў рэк і азёр гэтых мясцін з'яўляюцца фіна-угорскімі.

Мясцовая нарвенская кераміка ўзбагацілася некаторымі відамі ямачна-грабеньчатых арнаментаў. У працэсе ўзаемадзеяння з тутэйшымі плямёнамі адбываўся абмен культурнымі і

гаспадарчымі дасягненнямі. Амаль паўсюдна на поўдзень ад Заходняй Дзвіны прышэльцы былі асіміляваны лепш прыстасаванымі да ўмоў мясцовымі жыхарамі. Большую варожасць сустрэлі плямёны лейкападобных кубкаў. Таму яны прымушаны былі насыпаць вакол сваіх паселішчаў валы і абгароджвацца тынамі. Тым не менш уплыў іх на мясцовае насельніцтва быў досыць вялікім, як сведчаць археалагічныя матэрыялы. Посуд рабіўся пласкадонным і гарлавіна лейкападобнай. Значна больш сціплай стала арнаментацыя, яна наносілася толькі ўверсе пасудзін і выконвалася ў выглядзе стужак з нахіленых прамавугольных адбіткаў, насечак, ялінак.

З цягам часу мянялася і культура лейкападобных кубкаў. У яе складзе з'яўлялася ўсё больш шарападобных амфар, адчуваліся ўплывы старажытнаямнай культуры. Большасць даследчыкаў лічаць, што ў выніку шэрага пераўтварэнняў склалася культура-нашчадніца, названая паводле выгляду шарападобнага посуду. Помнікі перыяду яе росквіту (2300—2000 гг. да н. э.) сустракаюцца на вялікай тэрыторыі ад цэнтральнай і паўночнай Еўропы да сярэдняга Падняпроўя. У Беларусі яны выяўлены каля пас. Краснасельскі і Малыя Ёдкавічы на Гродзеншчыне. Адносна этнічнай прыналежнасці дзвюх культур думкі даследчыкаў разыходзяцца. Бясспрэчна, яны належалі паўночным еўрапеоідам. Апошнія маглі размаўляць на яшчэ даіндаеўрапейскай мове або засвойваць гэтую мову пад моцным уплывам плямён старажытнаямнай культуры. Пакуль не вырашана гэта праблема, нельга пагадзіцца са сцвярджэннем аб тым, што культура шарападобных амфар належала быццам бы ўжо сфарміраваўшымся да гэтага часу славянам[13].

Неалітычныя плямёны падзяліліся паміж сабой. Гаспадарка адных, хаця і заставалася прысвойваючай, зрабілася высокаспецыялізаванай, засноўвалася на развітым рыбалоўстве. Другія распачалі пераход да прымітыўнага земляробства. На гэтай аснове паглыбляўся буйны грамадскі падзел працы. Усё больш разгортваўся абмен паміж абшчынамі, родамі і нават плямёнамі. Вылучэнне плямён з вытворчай гаспадаркай з агульнай масы першабытнага насельніцтва адбывалася на стадыі познеродавай абшчыны. Нягледзячы на ўсе гаспадарчыя дасягненні і ўдасканаленне сродкаў вытворчасці, прадукцыйнасць працы заставалася недастатковай для таго, каб сям'я магла здабываць сабе ўсё неабходнае. Па-ранейшаму большую частку прадуктаў давалі калектыўныя формы рыбалоўства і палявання. Агульныя намаганні патрабаваліся пры расчыстцы лясоў пад палі, ахове родавых і племянных уладанняў. Таму члены абшчыны і роду, як у старажытныя часы, сумесна валодалі асноўнымі сродкамі вядзення гаспадаркі. Вельмі павольна ўраўняльнае размеркаванне прадуктаў выціскалася іншым звычаем, калі здабытчык або земляроб пакідаў сабе большую долю. Сям'я магла ашча-

Булавы бронзавага веку з тэрыторыі Беларусі.

джаць нейкую маёмасць, ствараць запасы. Тым самым яна паслабляла сваю залежнасць ад абшчыны, рабілася больш трывалай.

Мацярынскі род набыў у неаліце сталыя формы, найвышэйшага развіцця дасягнуў рода-племянны лад. Колькасць родаў і абшчын значна ўзрасла. Паводле строга вызначанага ў племені шлюбнага парадку, які значна ўскладніўся, муж павінен быў належаць іншаму роду (экзагамія). Жонка магла браць за сябе толькі супляменніка (звычай эндагаміі). Гэтыя варункі садзейнічалі захаванню адметных прыкмет плямён — іх культурных дасягненняў, абрадаў, мовы, тыпаў упрыгожанняў, арнаментацыі керамікі, характару домабудаўніцтва, забяспечвалі пераймальнасць вытворчых навыкаў.

У неаліце асабліва развівалася першая форма ўласнасці — племянная. Кожнае племя займала пэўную тэрыторыю, мела свае рыбалоўчыя і паляўнічыя, а потым і земляробчыя ўчасткі. Племянная ўласнасць дапаўнялася родавай і абшчыннай. З цягам часу павялічвалася колькасць шматродавых абшчын за кошт знікнення абшчын, якія складаліся ў асноўным з суродзічаў. Усё больш іншапляменнікаў пасля адпаведнага рытуалу прымалася ў склад племя-суседа. З другога боку, усё больш адасаблялася гаспадарчая дзейнасць асобных сем'яў. Гэта расхіствала былыя рода-племянныя звычаі.

У сувязі з павелічэннем колькасці насельніцтва частка родаў была нярэдка вымушана аддзяляцца і пераходзіць на новыя месцы. Паступова стваралася група плямён, якія размаўлялі на блізкіх мовах. У месцах судакранання розных племянных груп адбываліся складаныя этнічныя працэсы. Яны суправа-

джаліся культурнымі і моўнымі запазычаннямі і часам прыводзілі да асіміляцыі асобных іншамоўных плямён.

У эпоху неаліту пачалі ўтварацца значныя этнічныя супольнасці, якія насялялі выразна акрэсленыя вобласці. Кожная групоўка плямён адрознівалася ад суседняй як матэрыяльнай культурай, так і своеасаблівасцямі духоўнага жыцця — культаў, уяўленняў, звычаяў і традыцый. Помнікі матэрыяльнай культуры (рэшткі паселішчаў, майстэрняў, культавых месцаў, прылады працы, упрыгожанні, формы і арнаментацыя посуду і інш.), якія засталіся на месцы жыхарства пэўнага этнасу, звычайна даволі спецыфічныя. Яны аб'ядноўваюцца ў адну сукупнасць — археалагічную культуру. У палеаліце і мезаліце такія культуры вылучаліся пераважна па крамянёвых прыладах працы, у неаліце — па тыпах і арнаментацыі глінянага посуду, у раннім жалезным веку — па керамічных формах і домабудаўніцтву. Лічыцца, што змяненні з цягам часу археалагічнай культуры адлюстроўвалі гісторыю этнасу, пачынаючы ад яго паходжання да знікнення, а таксама гістарычны лёс насельніцтва. Пры гэтым заўважана, што ў пазнейшыя эпохі парушалася адпаведнасць археалагічнай культуры этнасу. Звычайна археалагічная культура існавала на працягу пэўнага гістарычнага перыяду. Яна магла змяніцца роднаснай культурай, калі развіццё этнасу працягвалася ў новых гістарычных умовах, і непадобнай на ранейшую, чужыннай, калі насельніцтва змянялася. Вялікія дэмаграфічныя змены адбыліся, аднак, ужо ў наступным веку.

## 2. Бронзавы век. Рассяленне індаеўрапейцаў.

**Культура шнуравой керамікі ці баявых сякер.** Каля 2000 гадоў да н. э. пачаўся бронзавы век, спачатку ў паўднёвай Беларусі. На паўночную частку ён распаўсюдзіўся некалькі пазней.

Першыя вырабы з самароднай медзі на Блізкім Усходзе былі адкаваныя 6500 г. да н. э. Праз тры тысячагоддзі мясцовыя металургі навучыліся плавіць медзь, атрымліваць бронзу (сплаў медзі, волава ці свінца і інш.). Цэнтр вытворчасці ўзнік у Закаўказзі. З дапамогай абмену першыя металічныя рэчы пачалі распаўсюджвацца на ўсё больш далёкія адлегласці і ў 1800—1500 гг. да н. э. дасягнулі паўночнай Еўропы. Металургічныя цэнтры з'явіліся на Балканах, у Закарпацці і, нарэшце, у Скандынавіі (1500—1200 гг. да н. э.). На тэрыторыі Беларусі пераважна ў магільніках знойдзена каля 80 бронзавых, некалькі медных рэчаў. Гэта нязначна ў параўнанні з колькасцю каменных прылад працы, якія выкарыстоўваліся адначасова з імі (вядома 2500 плоскіх і свідраваных сякер, матык, 100 нака-

нечнікаў дзідаў і сярпоў з крэменю)[14].

Вельмі важнай рысай бронзавага веку з'яўлялася паўсюднае распаўсюджанне жывёлагадоўлі і першабытнага земляробства, прычым удзельная вага жывёлагадоўлі была больш значная. Невялікія ўчасткі зямлі апрацоўваліся каменнымі і рогавымі матыкамі. Жалі крамянёвымі сярпамі, зерне расціралі з дапамогай ручных зерняцёрак. Больш разнастайным па вызначэнню стаў гліняны посуд. Змянілася форма пасудзін. Іх дно было акруглым, затым сплошчаным і, нарэшце, зусім плоскім, што тлумачыцца з'яўленнем ачага з роўным подам і стала. Разам з тым узнікла маёмасная няроўнасць, вылучалася рода-племянная знаць.

У бронзавым веку вылучаецца некалькі перыядаў. Сярэдні — прыпадае на прамежак часу 1600—1000 год (1500—1100) да н. э. Кожны перыяд характарызуецца пэўнымі археалагічнымі культурамі і значнымі сацыяльна-эканамічнымі зменамі.

Тэрыторыя Беларусі ў пачатку бронзавага веку ўвайшла ў арэал культур шнуравой керамікі, якія працягнуўся ад Урала да Рэйна і паўднёвай Скандынавіі. Вялікае дагістарычнае перасяленне плямён істотна змяніла этнічную карту Еўропы. Тэрыторыя Беларусі ўвайшла ў арэал культур сярэднедняпроўскай, шнуравой керамікі Палесся, вісла-нёманскай, а таксама паўночнабеларускай.

Сярэднедняпроўская культура пачала фарміравацца на Кіеўшчыне. У 2400—1400-ыя (2200—1600-ыя) гады да н. э. мясцовыя плямёны здолелі авалодаць амаль усім Падняпроўем на ўсход ад Гарыні і Случы, акрамя ніжняга цячэння Дняпра. Яны карысталіся шнуравой керамікай, вялі спачатку рухомае жыццё, бо з'яўляліся больш жывёлагадоўцамі, чым земляробамі.

Узброеныя каменнымі свідраванымі баявымі сякерамі, лукамі, дзідамі з крамянёвымі наканечнікамі і кінжаламі, яны вандравалі гуртамі і пры выпадку маглі аспрэчваць землі, лугавіны ў мясцовых жыхароў — абшчын рыбаловаў і паляўнічых, якія жылі параўнаўча адасоблена. У невялікай колькасці мелі ва ўжытку медныя і бронзавыя рэчы. Вядома да 80 стаянак і 10 могільнікаў сярэднедняпроўскай культуры, значна больш адзінкавых пахаванняў і выпадкова знойдзеных каменных сякер. На стаянках Быхаў (Ксяндзова Гара) і Лучын (Завалле) Рагачоўскага раёна выяўлены рэшткі прамавугольных жытлаў з 6—14 апорнымі слупамі па перыметры, агнішчамі ў ямах.

Тры паўзямлянкавыя жытлы прамавугольнай формы раскапаны ў Струмені (Лоша). Даўжыня жытлаў 3,5—4 м. Побач з імі былі пахаванні. У Сярэднім Падняпроўі вядомы двухкамерныя жытлы з двухсхільным дахам, імі забудоўвалі паселішчы ў два рады. На Украіне сустракаюцца пахаванні ў курганах, адзінкавых або згрупаваных. Нябожчыка клалі на спіну ў выцягнутым стане ці з падагнутымі нагамі, пасыпалі вохрай. Побач змяшчалі каменныя сякеры, лук са стрэламі, 1—2

Баявыя сякеры бронзавага веку: 1, 2, 4, 6 — каменныя, 5, 7 — медныя, 3 — рагавыя.

пасудзіны, асабістыя ўпрыгожанні.

У курганах, якія былі раскапаны каля в. Ходасавічы (Рагачоўскі раён) знойдзена ад аднаго да чатырох пахаванняў на гарызонце або ў ямах, якія перакрываліся насцілам. Шкілет, пакрыты тонкім слоем чырвонай вохры, выяўлены ў пахаванні ў Веткаўскім раёне. Памёршых клалі на бок у скурчаным стане: мужчын галавой на поўнач, жанчын на поўдзень. Сустракаюцца і трупаспаленні. Акрамя звыклага інвентара ў магілы зрэдку клалі вырабы з медзі (нажы, шылы, наканечнікі дзідаў, сякеры), бронзавыя падвескі, кольцы, бранзалеты. Частка вырабаў паходзіць з Каўказа, іншыя з Закарпацця. Сярод бурштынавых аздоб — падвескі розных тыпаў. Некаторыя пахаванні сведчаць аб багацці памёршага.

Грунтавыя могільнікі былі раскапаны каля вёсак Рудня Шлягіна (Страліца) Веткаўскага і Сябровічы (Ліпаў Брод) Чачэрскага раёнаў, з трупапалажэннямі і трупаспаленнямі. Вывучана 209 пахаванняў[15].

На могільніку Страліца багатае пахаванне змяшчала 2 гарш-

кі, 3 крамянёвыя нажы, 1 клінавідную сякеру, медныя дыядэму і шыйную грыўну, 21 бурштынавую падвеску і касцяны бісер. Другое трупапалажэнне суправаджалася не толькі 4 крамянёвымі нажамі, 3 скрабкамі, сякерай-клінам, 26 наканечнікамі стрэлаў, але і меднымі наканечнікамі кап'я, дыядэмай, бранзалетам, поясам, на якім замацоўваліся 6 радоў трубчатых пранізак (усяго 32), свідраванай каменнай сякерай, 3 разцамі бабра, сотняй касцяных пацерак.

Інвентар пахавання ў кургане, які быў раскапаны каля в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна (ур. Мошка), найбольш багаты. Побач з касцяком знойдзены гаршчок, 4 крамянёвыя нажы, 27 наканечнікаў стрэл, 2 каменныя сякеры, паліравальная плітка, медныя сякера і наканечнік дзіды, 2 акулярападобныя падвескі, падвеска з бурштыну, касцяная праколка. І гэта ў той час, калі пры большасці пахаваных знаходзяць толькі гаршчок з сякерай або рабочую клінападобную ды баявую (свідраваную) сякеры.

Посуд сярэднедняпроўскай культуры рэзка адрозніваўся ад неалітычнага, рабіўся з шчыльнага глінянага цеста, у якое дамешвалі пясок, кварц. Сценкі параўноўваліся пры дапамозе мэтліка. Ён быў тонкасценны, нядрэнна абпальваўся, набываў шэры колер. Ва ўжытку знаходзіліся нізкія міскі, канічныя кубкі. У звычайных гаршках арнаментавалася толькі верхняя частка і шыйка. Дзве-тры папярэчныя стужкі падзяляліся радамі віслых трохкутнікаў, зверху і знізу зона аблямоўвалася вертыкальнымі рысамі. Трохкутныя фігуры пракрэсліваліся і судатыкаліся. У іншых выпадках замест іх на посудзе нанесены падвоены зігзаг. Такія кампазіцыі выконваліся шнуравымі і прамавугольнымі адбіткамі, насечкамі, пракрэсленымі лініямі. Дробныя гаршкі іншы раз былі суцэльна арнаментаваны. Сярод узораў сустракаюцца ялінкападобныя і зігзагі, адбіткі дробназубчатага штампа, пад венцам праходзіць шэраг круглых ямак, ёсць і іншыя запазычанні ад культур неаліту.

Насельніцтва Прыбалтыкі і паўночна-заходніх раёнаў Беларусі ў 2200—1800 гг. да н. э. належала да адной культуры — баявых лодкападобных сякер (адзінкавых пахаванняў), якую таксама называюць прыбалтыйскай, жуцаўскай, або вісла-нёманскай. Для гэтага адгалінавання культуры шнуравой керамікі былі характэрныя могільнікі або адзінкавыя пахаванні ў дастаткова глыбокіх ямах, іх вядома каля 50. Памёршых клалі на бок у скурчаным стане. Калі гэта быў мужчына, яго забяспечвалі прыладамі працы і зброяй — свідраванай сякерай, сякерай-клінам, лукам са стрэламі, часам гарпуном, долатам. Пры жанчыне амаль заўсёды знаходзяцца каралі-падвескі з бурштыну, зубоў, каменя. Зрэдку ставіліся пасудзіны. Звычайна гэта быў невялікі шарападобны гаршчок з адагнутым венцам, які ўпрыгожваўся наразным арнаментам або шнуравымі адбіткамі. Паселішчы амаль невядомыя, відаць,

Сярэдні бронзавы век (1500—1100 г. да н. э.). Пахавальны інвентар (стрэлы і пасудзіны). Прылукі Брэсцкага раёна.

аселасць для мясцовых «шнуравікоў» яшчэ не надышла.

Шырокае пранікненне іншых абшчын з шарападобнымі амфарамі адбылося на Заходнюю Украіну. У Беларусі каля пасёлка Краснасельскага (Ваўкавыскі р-н) знойдзены рэшткі чатырох пахаванняў і адно паблізу в. Малыя Ёдкавічы (Бераставіцкі р-н). Адна магільная яма змяшчала касцякі 7 быкоў, 2 авечак або коз, каня, свінні, 4 пасудзіны, касцяныя наканечнікі дзідаў, бурштын, у другой — знойдзена тыповая амфара з вушкамі. Наогул, паміж шарападобнымі амфарамі і шнуравой керамікай назіраецца шэраг пераходных форм і падабенства арнаментальных матываў.

Культура шнуравой керамікі Палесся і Валыні ўсталявалася на паўднёвым захадзе Беларусі, Валыні і ў прылеглых раёнах Польшчы (па Бугу). У заходнім Палессі вядома каля 30 яе помнікаў. На паўднёвым беразе возера Белае (Перасудавічы Бярозаўскага раёна) і ў берагавым абрыве в. Церабень (Пінскі раён) былі знойдзены адпаведна 2 паўзямлянкавыя жытлы даўжынёй да 5 м і паўзямлянка-майстэрня. Палеская культура мае некаторыя адрозненні ад суседніх. У яе складзе з'яўляюцца амфарападобныя пасудзіны з вушкамі, невысокай шыйкай, каўнерыкам на краі. Шнуравая арнаментацыя значна больш разнастайная, у ёй многа каротkіх і дугападобных адбіткаў. Даволі многа ромбападобных сякер, сярпоў.

Тшцінецкая, сосніцкая і падобныя культуры сфарміраваліся як вынік буйных аб'ядналь-

Посуд сярэднедняпроўскай культуры. Рудня Шлягіна Веткаўскага раёна.

ных працэсаў, якія разгарнуліся паміж прышэльцамі-«шнуравікамі» і мясцовым насельніцтвам. Дзякуючы гэтаму на абшары ад басейна Віслы да басейна Дзясны, паміж Нёманам і Карпатамі стварылася этнакультурная вобласць. Наступіў перыяд сярэдняй бронзы — час існавання тшцінецкай, яе адгалінаванняў — усходне-тшцінецкай, сосніцкай, лебядоўскай і камароўскай культур. Названа па г. Тшцінец у Польшчы[16]. Усё Палессе і поўдзень Беларусі да лініі Мінск — Барысаў — Чавусы — Крычаў уваходзілі ў акрэсленую вобласць. Тшцінецкая культура непрыкметна пераходзіла ў сосніцкую на міжрэччы Дняпра з Бярозай і Прыпяці. Названа па г. Сосніца ў Чарнігаўскай вобласці. Абедзве культуры вядомы па невялікай колькасці помнікаў (да 100, пераважна адзінкавых пахаванняў), таму нельга перабольшваць іх значэнне для мясцовага насельніцтва.

На паселішчах выяўлены прамавугольныя двухкамерныя жытлы даўжынёй да 12 м пры паглыбленні звыш 1 м, якія размяшчаліся ў 1—2 рады (на Валыні вуліцай з 15—20 хат). Дах быў двухсхільным, абапіраўся на бакавыя слупы, падлога глінабітная. Вогнішчы былі ў куце кожнай камеры. Больш вывучаны пахаванні пад курганамі, даволі часта групавыя, сямейныя. Шкілеты заўсёды скурчаныя. Пад насыпам і ў самім насыпе — рэшткі вогнішчаў. Інвентар бедны — пасудзіны, некаторыя каменныя прылады,

упрыгожанні, зусім рэдкія металічныя вырабы. Маюцца курганы з трупаспаленнямі (рэшткі ссыпаліся ў ямкі, іншы раз у гаршчок-урну). Існаваў звычай разбіваць посуд. Далей на ўсход трапляюцца толькі грунтавыя могільнікі, вядомыя па адзінкавым пахаванням з трупаспаленнямі.

Найбольш распаўсюджанымі былі невялікія выцягнутыя ўверх гаршкі з вузкім донцам, пашырэннем уверсе і адагнутым венцам (цюльпанападобныя). Ужываліся глыбокія міскі, банкі і пасудзіны, якія нагадваюць сіты (дымакуры-друшлякі). Посуд вылеплівалі з цеста, ў якое дамешвалі жарству (таўчоны камень, а іншы раз крэмень). Арнаментацыя канцэнтравалася ў верхняй частцы гаршкоў і на схіле венчыка. Звыкла ўзор складаўся з папярэчных стужак, ад якіх адыходзілі ўніз віслыя трохвугольнікі, вертыкальныя палоскі, групы нахіленых штрышкоў. Некаторыя матывы маглі выконвацца прамавугольнымі адбіткамі, ямкамі. Як элементы ўпрыгожання налепліваліся валікі. Іншы раз яны фармаваліся з самой сценкі. Для сосніцкай культуры характэрныя ружанцавыя арнаменты.

Сярод рабочага інвентара — крамянёвыя сярпы некалькіх тыпаў, дробныя наканечнікі стрэл, трохвугольныя з увагнутай асновай або з чаранкамі, каменныя зерняцёркі, свідраваныя сякеры і сякеры-кліны, ліцейныя формы і ціглі (прыкмета металургіі). Шпількі, бранзалеты, фібулы, кольцы розных тыпаў дапаўнялі вопратку. Насельніцтва разводзіла буйную і дробную рагатую жывёлу, коней, свіней, займалася земляробствам.

**Старажытныя плямёны.** Адносна павольнае развіццё гісторыі старажытнага насельніцтва эпохі неаліту рэзка ўскладнілася ў 2300—1800 гг. да н. э. у сувязі з новай магутнай хваляй рассялення плямён, якія выраблялі баявыя сякеры і шнуравую кераміку. На велізарнай прасторы ад Урала да Рэйна і ад Прычарнамор'я да Скандынавіі распаўсюдзіліся плямёны жывёлаводаўвандроўнікаў, што прывяло да стварэння ў гэты час новай шырокай этнакультурнай вобласці. Некаторыя з культур «шнуравікоў» складваліся на тэрыторыях, якія падыходзілі да Беларусі з захаду (жуцаўская, лодкападобных сякер, адзінкавых пахаванняў, прыбалтыйская, або вісла-нёманская), з поўдня (гарадоцка-здолбіцкая, валынская, стшыжоўская), з паўднёвага ўсходу (сярэднедняпроўская). У гэтым працэсе прыняло ўдзел мясцовае насельніцтва, аб чым сведчыць шматтыповы рытуал пахаванняў на могільніках ды ўзбагачэнне былой аднастайнай культуры новымі элементамі.

У бронзавым веку адбывалася пранікненне плямён з культурамі шнуравой керамікі ў вобласць, якая была па-ранейшаму занята неалітычнымі плямёнамі. Спярша яны накіроўваліся ў Прыбалтыку, Панямонне, а пазней, каля 2 тысяч год да н. э.— у верхняе Падняпроўе, непасрэдна з Валыні — у паўднёва-заходнія раёны Беларусі. Вынікі ўздзеяння прышэльцаў на мясцовыя плямёны былі не адназначнымі.

У адрозненне ад аселага неалітычнага насельніцтва плямёны культур шнуравой керамікі былі больш рухомымі. Іх спосаб гаспадарання — у асноўным жывёлагадоўля — рэзка адрозніваўся ад прысвойваючай гаспадаркі (рыбалоўства) мясцовых жыхароў, таму карэнныя супярэчнасці паміж імі развіцця не атрымалі. Напэўна, адбываліся рэдкія сутычкі ў далінах рэк за лугавыя ўчасткі. Вядома да 300 стаянак і 20 могільнікаў, сотні згубленых калісь баявых сякер.

У паўднёвай Прыбалтыцы даволі хутка адбылося зліццё культур шарападобных амфар і шнуравой керамікі. Частка абшчын рыбаловаў і паляўнічых перайшла з Верхняга Падняпроўя ў басейн Заходняй Дзвіны і далей на Валдай, але большасць яшчэ некалькі стагоддзяў суіснавала з прышэльцамі, наладзіла з імі гаспадарчыя (на аснове падзелу працы) і культурныя сувязі. Плямёны шнуравікоў наўмысля абыходзілі адносна шчыльна заселеныя ўчасткі далін. Для разглядаемага часу характэрна наяўнасць стракатасці сярод насельніцтва, кантакты рознага ўзроўню і працягласці. Нёманская культура працягвала існаваць у бронзавым веку і набыла адпаведныя змяненні. Нарвенская культура пераўтварылася ў паўночна-беларускую. Новая хваля перасяленцаў з Верхняга Дняпра дасягнула Валдайскага ўзвышша. Але ў цэлым на тэрыторыі Беларусі плямёны культур шнуравой керамікі не выцеснілі цалкам неалітычнае насельніцтва і не ліквідавалі поўнасцю былыя гаспадарчыя і культурныя традыцыі.

Некаторыя даследчыкі схільны бачыць ў плямёнах культур грабенчатай керамікі яшчэ непадзяліўшыхся старажытных індаеўрапейцаў. У гэтым выпадку натуральна шукаць продкаў балтаў менавіта ў гэтай агульнасці, задоўга да «шнуравікоў». Узаемадзеянне, якое адбывалася паміж плямёнамі розных генерацый, у вобласці паміж германцамі (Эльбай і Прымор'ем), балтамі (Прусіяй і Нёманам), індаіранцамі (сярэднім Дняпром, Левабярэжжам і стэпавай зонай) прывяло да ўтварэння протаславянскіх этнасаў. Нешта падобнае адбывалася і з матэрыяльнай культурай.

Упершыню ў 1500—1200 гг. да н. э. уся паўднёвая Беларусь была аб'яднана адной, тшцінецкай культурай (і яе разнавіднасцямі — сосніцкай, камароўскай, лебядоўскай), якая займала абшары ад Польшчы да басейна Дзясны. У аднолькавай ступені былі абагульнены элементы папярэдніх культур, таму нельга з упэўненасцю сцвярджаць, на якой аснове ўтварылася тшцінецкая культура. Некаторыя даследчыкі лічаць культуру праславянскай, відаць, з-за наяўнасці ў яе складзе цюльпанападобных гаршкоў. На паўднёвым захадзе Беларусі сустракаюцца познелужыцкія помнікі (да Ясельды і Стыры), якія таксама лічацца некаторымі даследчыкамі праславянскімі. Абедзве культуры зліліся ў адну — паморскую. Сярод усходніх паморцаў таксама шукаюць праславян.

Бронзавы век. Дыядэма з бурштынавымі падвескамі, грыўна з Рудні Шлягіна (3500 гадоў таму назад).

Калі прыняць пад увагу ўсё вышэйсказанае, нельга абысці звычаі і культуры старажытных індаеўрапейцаў. Яны гэтак жа рэканструяваны, як і агульна-індаеўрапейская мова. Тым не менш па-ранейшаму існуе праблема прарадзімы індаеўрапейцаў і складання мовы іх асобных груп.

Паглыбляючыся да вытокаў кожнага еўрапейскага народа, нельга мінуць той пачатковы перыяд развіцця, які праходзіў у нетрах былой індаеўрапейскай еднасці. Складаныя даследаванні мовазнаўцаў прывялі да высновы, што прарадзіма індаеўрапейцаў была ў мясцовасці з горным ландшафтам і морам, там выпадалі вялікія дажджы і снег, была зіма і лета, буры і навальніцы, раслі бяроза, бук, дуб, ціс, сасна, яблыня, у лясах вадзіліся алень, воўк, мядзведзь, леў, тур, лёталі гусі, качкі, лебедзі. Такія прыродныя ўмовы існавалі ў Малой Азіі (сучасная Турцыя)[17]. Мовазнаўцы сведчаць, што суседзямі першых індаеўрапейцаў былі сяміты.

Індаеўрапейцы мелі ўжо ў 4 тысячагоддзі да н. э. даволі развітую вытворчую гаспадарку і патрыярхальны лад. Яны займаліся жывёлагадоўляй, прымянялі цяглую сілу (валоў), ахоўвалі статкі на пасьбішчах з дапамогай сабак. Разам з тым індаеўрапейцы ўмелі араць зямлю, сеяць і жаць, мелі для гэтага адпаведныя прылады працы.

Ім давялося вынайсці кола і шырока распаўсюдзіць гэтае вялікае адкрыццё чалавецтва. Яны будавалі драўляныя вазы-дамы з чатырма суцэльнымі коламі, якія цягнулі быкі ці валы. Разам з тым узводзіліся і наземныя жытлы, авальныя і прамавугольныя. Паселішчы («пелі») на халмах умацоўваліся. Адсюль у грэкаў назва горада «поліс».

Па ўяўленнях індаеўрапейцаў, свет быў пабудаваны з трох міроў, якія аб'ядноўваліся «міравым дрэвам» (звыкла дубам). У верхнім міры былі богі (галоў-

ны з іх бог грома і вайны), арлы, вораны. Змеі і рыбы жылі ў ніжнім міры. Адпраўляліся культы мядзведзя, свяшчэннага быка, каня. Куча каменняў увасабляла ідала. Памёршых везлі на павозцы і ўкладалі на пахавальнае вогнішча, спальвалі разам з асабістымі рэчамі, а часам і ахвярамі.

Павелічэнне колькасці насельніцтва і статкаў, адначасовае пагаршэнне ўмоў для жывёлагадоўлі прымушалі плямёны перасяляцца на новыя землі. Такія вандроўкі (міграцыі) адбываліся хвалямі.

Калі пачаўся распад індаеўрапейскай агульнасці, спачатку вылучыліся анаталійскі і інда-іранскі моўныя дыялекты, мовы хетаў, іранцаў, арыяў і інш. Прычарнамор'е на працягу 3-га тысячагоддзя да н. э. зрабілася другой прарадзімай для заходняй групы плямён з індаеўрапейскімі мовамі. Менавіта ад іх Дон (Танаіс), Днепр (Донапрос), Днестр, Прут набываюць свае сучасныя назвы («Дану», «Дон» — рака, «Парату» — брод, пераход праз ваду). Дунай (Данувій, Донаў) некаторы час у нізоўях называюць Істрам («патокам»), як і Днестр. Таго ж паходжання назва Дзюна (Дзвіна, Рубон). Адзін з напрамкаў рассялення — на паўночны захад, да невядомых яшчэ рэк — Мемеля, Хрона, Кромана? (Нёмана) і Віслы (Вістулы) («мель» — чорны, «віс» — сутокі). У басейнах гэтых рэк выяўляецца найбольшая колькасць старажытнаеўрапейскіх гідронімаў, вадзілася агульнавядомая рыба — ласось.

Вайна была звыклым заняткам старажытных індаеўрапейцаў, кожны мужчына быў воінам, а народ войскам. Пры дапамозе баявых сякер, мячоў і стрэл, баявых калясніц, вядомых ужо ў 2-ім тысячагоддзі да н. э., яны зацвярджаліся сярод чужых плямён.

На тэрыторыі Еўропы вандроўнікі сутыкаліся з мясцовым аўтахтонным насельніцтвам. Паступова ўтварыліся групы плямён, якія жылі на сумежных тэрыторыях, гаварылі на дыялектах адной мовы, мелі аднолькавы побыт і звычаі, амаль аднастайную матэрыяльную і духоўную культуру. Разам з тым кожнае племя такой групоўкі захоўвала, хоць і другарадныя, але таксама звычаем замацаваныя асаблівасці, паданні аб адзінстве паходжання, гістарычныя міфы, уласную культуру. Пачала разбурацца кроўна-родная аснова аб'яднання аднапляменнікаў. Адна з прычын гэтага — умыканне чужых жанчын. Усё часцей узнікалі саюзныя адносіны паміж этнічна рознымі плямёнамі, а ў склад абшчын прымаліся чужаземцы.

Разрастанне і цеснае ўзаемадзеянне плямён у бронзавым веку адбывалася на фоне больш глыбіннага працэсу, узнікнення маёмаснай няроўнасці паміж супляменнікамі (сем'ямі), родамі і плямёнамі. Вытворчыя эканамічныя сувязі між членамі абшчыны і роду рабіліся пануючымі. Родавая абшчына ператваралася ў суседскую, сельскую. Рода-племянны лад парушаўся; узнікаў лад «ваеннай дэмакратыі», заключны перыяд перша-

Бронзавы век. Касцяная выява галавы чалавека з Асаўца. Драўляная выява чалавека з Асаўца. Касцяныя рыбалоўныя кручкі.

бытнаабшчыннага ладу. Мацярынска-родавыя адносіны былі *выціснуты патрыярхальнымі*, шлюбы з чужаземцамі павялічвалі разнастайнасць антрапалагічных тыпаў, узбагачалі генафонд, садзейнічалі паяўленню пакаленняў, больш здатных для паскоранага развіцця.

Пранікненне «цьмянавокіх» і чарнявых індаеўрапейскіх плямён у межы паўночнай Еўропы ператваралася ў шматвяковае ўзаемадзеянне іх з мясцовым еўрапеоідным і фіна-ўгорскім насельніцтвам. Зразумела, на працягу доўгага перыяду адбывалася іх змешванне і захоўвалася двухмоўнасць. У выніку светлавокія і русавалосыя папуляцыі ў некаторых абласцях засталіся пануючымі, мясцовыя жыхары генетычна асімілявалі прышэльцаў. Адначасова перамагла мова больш развітая, прыстасаваная да новых форм гаспадаркі і грамадскага ладу — індаеўрапейская, у складзе якой, дзякуючы мясцовым запазычанням, усё выразней адчуваліся старажытнаеўрапейскія дыялекты.

У эпоху неаліту пачаўся, а ў бронзавым веку завяршыўся працэс кансалідацыі асобных груп індаеўрапейцаў, акрэсліліся іх моўныя своеасаблівасці. Плямёны з паўночна-заходняй галіны індаеўрапейцаў сталі продкамі будучых германцаў. Тыя, што засталіся вандраваць на ўсход ад Дняпра, былі іранамоўнымі. На прамежкавай тэрыторыі ад Балтыкі да Волгі жылі паўночныя індаеўрапейцы — прабалты, суседзі фінаў. На поўдзень, у вобласці ад Одры да Дняпра, размяшчалася прарадзіма славян. Аб тым, што славянскія плямёны фарміраваліся на акрэсленым *абшары, сведчаць як моўныя* запазычанні ад суседзяў, так і назвы рэк (гідронімы) Усходняй Еўропы. Мовы балтаў і праславян у сям'і індаеўрапейскіх моў найбольш блізкія.

На многія сотні гадоў расцягнулася ўзаемадзеянне індаеўрапейскіх плямён. Словамі, якія тычацца лясной і хатняй гаспадаркі, абменьваліся балты і славяне. Паняцці, якія звязаны з земляробчай працай і вайной, нярэдка рабіліся агульнымі з германскімі. Ад інда-іранскіх плямён (пазней скіфаў) перайшлі словы, звыклыя для жывёлагадоўлі, элементы рэлігійных культаў, назвы багоў: Вій, Сварог, Сімаргл, Хорст. Узаемнае ўзбагачэнне моў сведчыць аб сацыяльна-эканамічных і культурных пераманнях.

Чалавек здаўна называў рэкі, азёры, іншыя мясціны на сваёй мове — коратка, выразна адзначаў іх характэрную, асноўную прыкмету,— або пераймаў іх у папярэднікаў, надаваў ім новыя,

«свае» канчаткі. Па гідраніміі можна іншы раз высветліць мову плямён, якія калісьці жылі, а таксама некаторыя падрабязнасці этнічнай гісторыі. Каля тысячы рэчак і азёр на тэрыторыі Беларусі назвалі старажытныя балты — і таму іх сэнс растлумачваецца з літоўскай мовы. Узнікаюць цяжкасці пры вызначэнні ўзросту гідронімаў. Многія з іх даволі познія, пакінутыя насельніцтвам жалезнага веку. Плямёны прыходзілі і знікалі, але іх своеасаблівыя «аўтографы», а іншы раз і этнонімы заставаліся ў тапаніміцы.

У народнай культуры беларусаў захаваліся некаторыя ўяўленні, характэрныя для мацярынска-родавага ладу, татэмізму. Многа старажытных рысаў у «каравайным» вясельным абрадзе. Значную ролю адыгрываюць жывёлы — дзеючыя асобы фальклору: пярэваратні, буслы, мядзведзі... Вытокі геаметрычных арнаментаў лёгка прасачыць сярод узораў неалітычнага посуду.

## 3. Жалезны век. Балты і славяне.

**Майстры-металургі.** Пачатак жалезнага веку звязаны з асваеннем людзьмі спосабаў атрымання жалеза і вырабу з яго разнастайных рэчаў для гаспадаркі, побыту і ваеннай справы. Здабываць жалеза на тэрыторыі Беларусі людзі пачалі ў 700—600-я гады да нашай эры, а ў паўночнай яе частцы на тры-чатыры стагоддзі пазней. Яны маглі самі вынайсці спосабы яго здабычы або запазычыць гэта ў суседзяў. Першыя рэчы з жалеза былі зроблены ў Закаўказзі амаль на пяцьсот гадоў раней.

Узровень развіцця вытворчых сіл і грамадства прынята параўноўваць з еўрапейскім Гальштатам — перыядам ранняга жалезнага веку (900—400-я гады да н. э.), які змяніўся Латэнам, што існаваў да пачатку нашай эры (названы па паселішчах Заходняй і Сярэдняй Еўропы)[18]. Археалагічныя помнікі жалезнага веку ў Еўропе даследчыкі звязваюць з пэўнымі плямёнамі: германцамі — на поўначы, славянамі — на ўсходзе, кельтамі — у Заходняй і Сярэдняй Еўропе, балтамі на тэрыторыі Прыбалтыкі, Верхняга Падняпроўя і басейна Акі. Перыяд з пачатку нашай эры да канца IV ст. называюць рымскім. На змену яму прыйшло ранняе сярэднявечча.

Сыравінай для атрымання жалеза паўсюдна з'яўляліся жалезныя руды, якія вельмі распаўсюджаны ў прыродзе. У Беларусі рудныя карысныя выкапні прадстаўлены пераважна бурымі жалезнякамі (ліманітамі). Вялікая колькасць жалезнай руды раскідана ў розных месцах на значнай плошчы сярод забалочаных масіваў, па лугах, у нізінах і паплавах. Адсюль вынікаюць і розныя віды бурых жалезнякоў: балотныя і дзярновыя руды, чырвоны жалязняк і інш. Яны залягаюць адразу пад дзірваном. Месцы здабычы жалезных руд размяшчаліся часта на берагах рэчак.

Старажытныя майстры-металургі не маглі атрымаць такой высокай тэмпературы, пры якой плавіцца жалеза. Аднак яны вынайшлі больш просты спосаб здабываць яго з балотных руд. Балотную руду «варылі» ў пячахдомніцах. Такая печ рабілася з гліны і мелу ў папярэчніку 0,5 м. Ля самага дна знаходзіліся адтуліны, куды ўстаўляліся гліняныя трубкі — соплы. У прымітыўную домніцу засыпалі пластамі драўляны вугаль і загадзя раздробленую балотную руду. Вугаль падпальвалі і праз соплы ўдзімалі халоднае «сырое» паветра. Пагэтаму працэс, які адбываўся ў печы, даследчыкі называюць сырадутным.

Тэмпература падымалася да 1200 градусаў. Руда страчвала кісларод і ператваралася ў жалеза. Часцінкі яго апускаліся на дно печы, спякаліся і ўтваралі порыстую жалезную масу — крыцу. Калі печ астывала, крыцу даставалі, а потым у кузні награвалі ў горане і плюшчылі цяжкімі молатамі, каб выціснуць рэшткі шлака. Так атрымлівалася даволі якаснае «крычнае» жалеза.

На гарадзішчах каля в. Лабеншчына Мінскага, Свідна Лагойскага, Канькі (ур. Цербахунь) Віцебскага раёна выяўлены амаль цэлыя печы-домніцы ранняга жалезнага веку, а каля в. Урагава Верхнядзвінскага, Новы Болецк (ур. Буракова) Гарадоцкага, Кастрыца Лепельскага раёнаў — майстэрні, у якіх апрацоўвалі жалеза. Адкрыццё жалеза азначала пачатак вялікага тэхнічнага перавароту ў гісторыі чалавецтва.

Многія каменныя і бронзавыя прылады працы ў жалезным веку былі заменены жалезнымі. З дапамогай жалезнай сякеры можна было ачышчаць ад лесу значныя дзялянкі, якія былі неабходны для падсечнай (ляднай) сістэмы земляробства, характэрнай для ранняга жалезнага веку ў лясной паласе. Ссечаныя дрэвы спальвалі і попелам угнойвалі глебу. У яе высявалі зерне і баранавалі «сукаваткай», якую рабілі з верхавіны дрэва. Некалькі гадоў запар атрымлівалі добрае збожжа. Вырошчвалі проса, пшаніцу, бабы. Калі ўраджай рэзка зніжаўся, дзялянку пакідалі і пераходзілі на іншую, загадзя падрыхтаваную. Кінутае поле зарастала хмызняком і травой, станавілася «лядай».

Ляднае земляробства паступова ператваралася ў галоўны занятак старажытных плямён. Развіццё земляробства павысіла гаспадарчае значэнне жывёлагадоўлі (гадавалі рабочую жывёлу). Уздзеянне чалавека на прыроду рэзка пабольшылася. Да часоў жалезнага веку ўзыходзяць вытокі экалагічнай праблемы.

Жалеза з'яўлялася асноўным матэрыялам, з якога выраблялі зброю — наканечнікі стрэл і дзідаў (коп'яў), баявыя сякеры, нажы ды шмат што іншае. З дапамогай жалезных сякер і цяслаў узводзілі больш трывалыя, чым раней, жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Жалезныя прылады працы забяспечылі далейшае развіццё іншых галін хатняга рамяства — апрацоўку дрэва, косці і рога жывёл. Значнага развіцця дасягнула апрацоўка бронзы і іншых каляровых мета-

лаў, з якіх звычайна выраблялі ўпрыгожанні. Ва ўсіх плямёнах пастаяннымі заняткамі сталі прадзенне і ткацтва, шыццё адзення, пляценне ды выраб гліннага посуду ручным спосабам (без прымянення ганчарнага круга). Паляванне пастунова страчвала сваё былое значэнне як галіна гаспадарчай дзейнасці. Багатыя рыбай рэкі ды азёры паранейшаму спрыялі рыбалоўству. Захоўвалася збіральніцтва.

Разлажэнне першабытнаабшчынных адносін, сутычкі паміж родамі і плямёнамі знайшлі адлюстраванне ў характары ўмацаваных пасёлкаў, рэшткі якіх называюцца гарадзішчамі. На тэрыторыі Беларусі існавала каля 1200 гарадзішчаў, зараз захавалася менш 800. Гарадзішчы на мысах рэк маюць звычайна трохвугольную форму, валы з боку поля. На берагах рэк Дняпроўскага басейна сустракаюцца вялікія гарадзішчы плошчай да 2 га, у папярэчніку да 150 м, умацаваныя двума, ці нават трыма валамі. Найбольш тыповыя ў Палессі гарадзішчы «балотнага» або раўніннага тыпу — круглыя, абнесеныя адным або двума канцэнтрычнымі валамі.

Гарадзішчы на асобных узгорках сустракаюцца часцей у паўночнай палове Беларусі. Яны маюць круглую або авальную форму, дыяметр 50—80 м. Умацаваныя спачатку толькі стромкімі схіламі, яны паступова апаясваліся валамі, якія насыпалі на краі пляцоўкі, на схілах і нават ля падэшвы. У Беларускім Паазер'і гарадзішчы будаваліся таксама на астравах сярод азёр (Асвея, Дрысвяты, Мядзель).

Побач з многімі гарадзішчамі знаходзіліся неўмацаваныя селішчы, на якіх жыла большасць мясцовых жыхароў. У час небяспекі яны знаходзілі прытулак за равамі і валамі гарадзішчаў.

**Археалагічныя культуры ранняга жалезнага веку.** У раннім жалезным веку на тэрыторыі Беларусі знаходзілася некалькі вялікіх груп плямён са сваімі асобнымі прыкметамі матэрыяльнай культуры і рытуалам пахавання. Паўднёвую Беларусь засялялі плямёны мілаградскай і паморскай культур. Пазней на іх месцы склалася зарубінецкая культура. У сярэдняй і паўночнай частцы рэспублікі была пашырана культура штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінская[19].

Мілаградская культура належала плямёнам ранняга жалезнага веку, якія ў VII—III стст. да н. э. жылі ў Сярэднім і Верхнім Падняпроўі на тэрыторыі сучасных Гомельскай, Магілёўскай, усходзе Брэсцкай, поўдні Мінскай абласцей, поўначы Украіны. Назву атрымала ад гарадзішча каля в. Мілаград Рэчыцкага раёна. На поўначы Украіны мілаградскія (падгорцаўскія) плямёны займалі тэрыторыю ад Гарыні да ракі Рось, дзе межавалі са скіфамі.

Насельніцтва жыло на гарадзішчах і неўмацаваных паселішчах. Гарадзішчы асабліва шматлікія ва ўсходняй частцы Гомельшчыны. Адны з іх ляжаць на высокіх берагавых мысах, другія — у нізінах, сярод балот. Выяўлена каля 150 гарадзішчаў мілаградскай культуры. Іх памеры ад 0,3 да 1 га. Найбольш вывучаны гарадзішчы («гарад-

кі») каля вёсак Гарошкаў, Мілаграды, Ліскі, Старое Сяло Рэчыцкага, Асарэвічы Брагінскага, Мохаў, Ліпнякі Лоеўскага, Шчаткава Бабруйскага, Халапенічы Глускага, Ясянец Мазырскага раёнаў[20]. З ростам насельніцтва некаторыя гарадзішчы пашыраліся, узнікалі новыя, дадаткова ўмацаваныя пляцоўкі. На такіх пляцоўках звычайна адсутнічае культурны слой, бо з'яўляліся яны месцам, дзе насельніцтва ў момант небяспекі хавала толькі жывёлу.

Пры даследаваннях выяўлены рэшткі каля 50 жылых пабудоў плошчай ад 10 да 50 м$^2$, для якіх характэрна слупавая канструкцыя, а таксама паўзямлянкі. Вогнішча на пэўнай адлегласці ад уваход іншы раз абкладвалася камянямі. Каля жылля ўзводзіліся гаспадарчыя пабудовы — стойлавыя памяшканні, ямы-скляпы для прыпасаў.

Мілаградцы карысталіся дзідамі ды стрэламі з жалезнымі наканечнікамі, жалезнымі сякерамі, сярпамі, нажамі і нават брытвамі. Шматлікія віды ўпрыгожанняў звязаны з адзеннем. У асобных мясцовасцях насілі маніста з прывазных шкляных пацерак. На гарадзішчы каля Гарошкава на беразе Дняпра археолагі знайшлі два скарбы. У адным месцы былі жалезныя рэчы — тры сярпы, сякера ды матыка, абгарнутыя ланцугом ад цугляў. Другі скарб складаўся з 11 бранзалетаў — дзевяці бронзавых і двух сярэбраных.

Посуд у плямён мілаградскай культуры кругладонны, верхняя частка якога арнаментавалася ямкамі, насечкамі, зашчыпамі. Выяўлена шмат гліняных грузікаў, відаць, прасліц, звычайна арнаментаваных. Своеасаблівая рыса мілаградскай культуры — гліняныя фігуркі жывёл (каня, каровы), напэўна, культавага прызначэння.

Памёршых плямёны мілаградскай культуры хавалі на бескурганных могільніках каля гарадзішчаў і паселішчаў (даследавана 150 пахаванняў). На раннім этапе бытавалі абрады трупапалажэння і трупаспалення, пазней толькі трупаспалення. Вядомы пахаванні ў курганах. Курганны могільнік з трупапалажэннямі каля в. Дубай адносіцца да VI — пачатку V ст. да н. э. Мілаградская культура існавала да рубяжа нашай эры і на познім этапе суіснавала з зарубінецкай культурай. Паводле другой думкі, яе проста змяніла зарубінецкая культура на I—II стагоддзі раней. У сацыяльнагістарычным развіцці плямёны мілаградскай культуры знаходзіліся на пачатковай стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу.

Пытанне аб генезісе мілаградскай культуры не мае адназначнага вырашэння. Даследчыкі мяркуюць аб сувязі яе паходжання з мясцовым насельніцтвам позняй бронзы. Некаторыя звязваюць мілаградскія плямёны з «герадотавымі» неўрамі і бачаць у іх ранніх славян. Аднак большасць вучоных лічаць мілаградскую культуру балцкай. У складзе культуры многа скіфскіх элементаў, сустракаюцца рэчы гальштацкага тыпу.

У IV—II стст. да н. э. на паўднёва-захад Беларусі, дзе з пачатку жалезнага веку знахо-

дзіліся позналужыцкія плямёны, з Польшчы перасялілася частка насельніцтва паморскай (усходне-паморскай) культуры. Яе помнікі ў заходніх раёнах Брэсцкай вобласці — паселішчы і грунтавыя могільнікі. Паселішчы выяўлены каля вёсак Кусічы і Хмялі, могільнікі Трасцяніца, Ратайчыцы Камянецкага, Дружба (Скорбічы) Брэсцкага раёнаў. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, дамашнімі рамёствамі. Жыло на паселішчах у паўзямлянках або наземных жытлах з каменнымі агнішчамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных, часам курганных могільніках. Пасля крэмацыі рэшткі ссыпаліся ў невялікія урны і пакрываліся вялікім гаршком (клёшам). Ад гэтага могільнікі атрымалі ў навуцы назву «падклёшавых». Даследчыкі мяркуюць, што гэта былі самыя раннія славяне, у якіх існаваў патрыярхальна-родавы лад.

З канца I тыс. да н. э. у Верхнім і Сярэднім Падняпроўі, там, дзе раней знаходзіўся асноўны арэал мілаградскай культуры, склалася зарубінецкая культура, плямёнам якой належыць значная роля ў гісторыі насельніцтва ранняга жалезнага веку. Зарубінецкая культура была пашырана ў межах Гомельскай, Магілёўскай, часткі Брэсцкай, Менскай абласцей. Амаль на кожным гарадзішчы мілаградскай культуры ў паўднёвай Беларусі прысутнічаюць напластаванні зарубінецкай культуры. Зарубінецкія плямёны выкарыстоўвалі ўмацаваныя паселішчы, пабудаваныя іх папярэднікамі.

У пачатковы перыяд існавання зарубінецкай культуры асноўным тыпам пасяленняў былі гарадзішчы. Каля гарадзішчаў узнікалі селішчы і бескурганныя могільнікі. Найбольш важныя помнікі на тэрыторыі Беларусі Чаплін, Гарошкаў, Мохаў, Глыбаў, Вароніна, Сямурадцы на Гомельшчыне, Атвержычы, Велямічы на Брэстчыне, Шчаткава, Янава на Магілёўшчыне[21]. Распаўсюджанымі жылымі пабудовамі ў плямён зарубінецкай культуры былі аднакамерныя квадратныя або прамавугольныя ў плане плошчай ад 10 да 24 $м^2$ наземныя збудаванні слупавой канструкцыі, якія мелі двухсхільныя стрэхі. У адным з кутоў ці каля сцяны ўнутры жытла размяшчаліся на гліняных пляцоўках адкрытыя каменныя агнішчы. У басейне Прыпяці археолагамі даследаваны паселішчы плошчай ад 1 да 10 га і жылыя пабудовы — паўзямлянкі, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м, каля жытлаў ямы-скляпы.

Важныя даследаванні помнікаў зарубінецкай культуры праведзены каля в. Чаплін Лоеўскага раёна. Старажытны ўмацаваны пасёлак (0,6 га) на высокім беразе Дняпра налічваў каля 20 невялікіх наземных слупавых жытлаў. Побач знаходзілася паселішча і грунтавы могільнік III ст. да н. э.— пачатку II ст. н. э., дзе раскапана 282 пахаванні.

Усяго даследавана 11 зарубінецкіх могільнікаў (730 пахаванняў). Зарубінцы памёршых спальвалі, астанкі ссыпалі на дно ямы глыбінёй 0,5—0,7 м, куды змяшчалі гаршкі ды міскі. Звер-

Бронзавы бранзалет I—II ст. н. э. з раскопак у Чапліне.

ху клалі прылады працы, рэчы ўзбраення, упрыгожанні. Асабліва цікавыя бронзавыя фібулы — шпількі для верхняга адзення, якія адыгрываюць ролю надзейнага датуючага матэрыялу. Рэчавы матэрыял з пахаванняў сведчыць аб маёмаснай няроўнасці.

На кожным зарубінецкім паселішчы выяўляюцца прыкметы здабычы і апрацоўкі жалеза. Упрыгожанні з бронзы таксама рабілі на месцы, што пацвярджаюць гліняныя тыглі для плаўкі каляровых металаў, формы, у якіх адлівалі вырабы. Сярод глінянага посуду вылучаюцца тры групы: кухонныя гаршкі, міскі ды невялікія кубкі з ручкамі. Шмат гліняных прасліц для верацён.

Зарубінецкія плямёны, якія былі земляробамі ды жывёлаводамі, падтрымлівалі сувязі з кельтамі Заходняй Еўропы, скіфамі Ніжняга Падняпроўя. З грэчаскіх гарадоў Паўночнага Прычарнамор'я да іх траплялі амфары, шкляныя антычныя пацеркі.

Зарубінецкая культура прыцягвае ўвагу даследчыкаў у сувязі з загадкавай яе роляй у этнічнай гісторыі насельніцтва Усходняй Еўропы. Адны даследчыкі лічаць зарубінецкія плямёны продкамі славянскага насельніцтва Падняпроўя, другія — плямёнамі з асобным дыялектам, які займаў прамежкавае палажэнне паміж славянскай мовай і блізкімі да яго заходнебалцкімі гаворкамі. Паводле

трэцяй думкі — гэта культура мае агульныя рысы з культурай згаданых антычнымі аўтарамі бастарнамі-прышэльцамі, якія нагадваюць часткова галаў, часткова германцаў.

Балцкія плямёны культуры штрыхаванай керамікі размяшчаліся на поўнач ад арэала мілаградскай культуры. У VII—VI стст. да н. э.— IV—V стст. н. э. яны займалі сярэднюю паласу Беларусі і ўсходнюю палавіну Літвы. Культура штрыхаванай керамікі аформілася на аснове мясцовай культуры эпохі бронзы. Яе посуд адрознівае знешняя паверхня, пакрытая хаатычнай штрыхоўкай, нанесенай пучком травы ці саломы па неабпаленай гліне. Гэта культура вядома пераважна па аднаму віду помнікаў — гарадзішчам. Найбольш даследаванымі помнікамі ў Беларусі з'яўляюцца Аздзяцічы, Кімія, Навасёлкі Барысаўскага, Лабеншчына, Збаравічы, Дварышча Менскага, Малышкі Вілейскага, Старая Рудзіца Дзяржынскага раёнаў[22]. Раскопкі праводзіліся на 21 гарадзішчы.

У VII—V стст. да н. э. невялікія паселішчы размяшчаліся на ўзвышшах па берагах рэк і азёраў. Людзі ў V ст. да н. э. пачалі сяліцца на высокіх мысах і ўзгорках, там, дзе паблізу зручныя былі месцы для заняткаў земляробствам і жывёлагадоўляй. У пачатку нашай эры вакол паселішчаў будавалі штучныя ўмацаванні — земляныя валы і равы.

Жытлы на паселішчах культуры штрыхаванай керамікі адлюстроўваюць патрыярхальнародавы быт плямён. Гэта былі вялікія доўгія дамы, сцены якіх апіраліся на слупы. Жытлы размяшчаліся на спецыяльна выраўненай пляцоўцы ўздоўж краю паселішча. Кожны дом падзяляўся на асобныя памяшканні плошчай 20—26 м$^2$. У цэнтры паселішчаў знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы (ямы-скляпы, стойлавыя памяшканні для жывёлы).

У II—III стст. адбыліся істотныя змены ў планіроўцы жытлаў. Яны сталі меншых памераў і размяшчаліся ўжо па ўсёй плошчы паселішча. З'явіліся зрубныя жытлы. Яны мелі сцены, абмазаныя глінай, двухсхільныя дахі. На гарадзішчы ў Малышках выяўлены рэшткі чатырох наземных дамоў памерам 18×7 м. Кожны з іх быў падзелены на чатыры жылыя памяшканні, усярэдзіне знаходзіліся адкрытыя агнішчы авальнай або круглай формы.

Характар размяшчэння жытлаў, іх шматкамернасць сведчаць аб тым, што яны належалі аднаму калектыву, вялікай патрыярхальнай сям'і, у якой пачаўся працэс выдзялення меншых сямей. Кожны асобны дом, верагодна, належаў галаве такой сям'і, яго дарослым дзецям ды ўнукам. Відаць, вылучыўшыеся невялікія сем'і сваёй гаспадаркі не вялі, а з'яўляліся часткамі вялікай сям'і, якая на абшчынных пачатках вырашала гаспадарчыя і іншыя пытанні.

Насельніцтва займалася земляробствам. На гарадзішчах знойдзены абвугленыя зярняты пшаніцы, гароху, палявога бобу, вікі, проса. Былі развіты рамёствы — здабыча і апрацоўка

жалеза, бронзаліцейная справа, ганчарства, прадзіва, пляценне, ткацтва; выраблялiся сякеры, сярпы, дзіды, дроцікі, нажы, шылы, шпількі, спражкі, бронзавыя ўпрыгожанні (бляшкі, падвескі, спіралькі, бранзалеты, пярсцёнкі). Сыравінай для вырабу ўпрыгожанняў служылі таксама свінец і волава, якія плавілі ў спецыяльных лыжачках-льячках. Гаршкі ляпілі вастрарэбрыя і слоікападобныя. Многія праслiцы арнаментаваны наразнымі лініямі, якія прамянямі разыходзіліся ад цэнтральнай адтуліны, або трохвугольнікамі, ромбамі, трапецыямі.

Пра этнічную прыналежнасць плямён культуры штрыхаванай керамікі няма адзінай думкі. Адны вучоныя звязваюць гэту культуру з усходнелітоўскімі плямёнамі, іншыя лічаць, што яна належала ўсходнебалцкім плямёнам, якія зніклі, не пакінуўшы пасля сябе назвы.

На поўначы Беларусі, у Віцебскай вобласці ды суседніх з ёй раёнах, у VIII ст. да н. э.— IV ст. н. э. жылі плямёны днепрадзвінскай культуры, якія належалі, як і плямёны культуры штрыхаванай керамікі, да балтамоўнага насельніцтва[23]. Абедзве гэтыя групы плямён мелі аднолькавы гаспадарчы ўклад жыцця. Іх заняткамі былі ляднае земляробства, жывёлагадоўля, паляванне, рыбная лоўля, разнастайныя дамашнія промыслы. Яны будавалі на гарадзішчах аднолькавыя тыпы жытлаў — доўгія шматкамерныя дамы слупавой канструкцыі.

Тэрыторыя, якую займалі плямёны днепра-дзвінскай культуры, вялікая: Верхняе Паднепроўе, Верхняе і сярэдняе Падзвінне, вярхоўі Акі, левыя прытокі р. Вялікай, там, дзе потым жылі крывічы. У Беларусі вядома 188 гарадзішчаў (раскопваліся 17). Найбольш важнымі помнікамі з'яўляюцца гарадзішчы Абрамава, Барсукі, Урагава Верхнядзвінскага, Кублічы Ушацкага, Буракова (Новы Болецк), Казінова Гарадоцкага, Загаваліна Лепельскага, Паддубнікі, Пруднікі, Язна Міёрскага, Гаравыя Полацкага, Кастрыца Лепельскага раёнаў. Культурны слой днепра-дзвінскай культуры быў выяўлены ў ніжніх гарызонтах сярэднявечных гарадзішчаў у Віцебску, Полацку, Лукомлі. Пахавальныя помнікі застаюцца невядомымі.

На крайняй поўначы Беларусі пры раскопках гарадзішчаў знойдзена кераміка (кавалкі гаршкоў) трох археалагічных культур. Сярод яе пасудзіны гладкасценныя, амаль без арнаменту, характэрныя для днепрадзвінскай культуры, у другіх гаршках яна пакрыта штрыхоўкай, а на іншых пасудзінах праслежваюцца адбіткі тэкстылю. Кераміка ў археалагічнай навуцы названа тэкстыльнай таму, што на яе паверхні пакінуты адбіткі грубай тканіны на гліне да яе абпальвання. Такая кераміка была распаўсюджана да рубяжа нашай эры, а затым яе пастyпова выцесніла кераміка гладкасценная.

Тэкстыльная кераміка была вельмі шырока распаўсюджана ў раннім жалезным веку на гарадзішчах у басейнах Верхняй Волгі, Акі, Камы. Па першаму

Гаршчок днепра-дзвінскай культуры і бронзавая фібула I ст. да н. э. з раскопак у Чапліне.

даследаванаму гарадзішчу каля в. Дзякава ў наваколлі Масквы культуру назвалі дзякаўскай. Вучоныя лічаць, што дзякаўскія плямёны з'яўляліся фіна-ўграмі. Да прыбалтыйска-фінскай этнамоўнай групы цяпер належаць эстонцы, фіны (суомі). Прыбалтыйска-фінскія плямёны ў старажытнасці засялялі многія мясціны наўгародскай і Пскоўскай зямель. Прысутнасць тэкстыльнай керамікі на гарадзішчах жалезнага веку сведчыць аб наяўнасці змешанага насельніцтва з балтаў і фіна-ўграў. Не выпадковасцю трэба лічыць, што назвы некаторых рэк і азёр на Віцебшчыне належаць да тыповай прыбалтыйска-фінскай тапаніміі.

Аднак пераважная большасць назваў рэк на тэрыторыі ўсёй Беларусі захавала карані, якія ёсць у літоўскай і латышскай (балцкіх) мовах, і характэрныя канчаткі. Адсюль назвы рэк Верхіта, Волча, Гайна, Грыўда, Друць, Клёва, Лесна, Лучоса, Мытва, Нача, Палата, Туроса, Ула, Усяжа, Эса і інш. Можна прыгадаць азёры, якія адносяцца да балцкай гідраніміі: Асвея, Дрывяты, Лосвіда, Муйса, Нарач, Снуды, Усвяча і інш. Найбольш густа размешчаны гідронімы, звязаныя з балтамі ў басейнах рэк Бярэзіна (Мена, Ольса, Серуч, Уса) і Сож (Рэкта, Рэста, Сноў, Туросна)[24].

Даныя гідранімікі паслужылі адным з аргументаў для вываду, што на тэрыторыі Беларусі з глыбокай старажытнасці прыкладна да сярэдзіны першага тысячагоддзя нашай эры і яшчэ пазней жылі балтамоўныя плямёны. Славянскае насельніцтва

запазычала назвы рэк і азёр ад сваіх папярэднікаў. Такім чынам, вядома, са зменамі, старажытныя назвы дажылі да нашых дзён і ператварыліся ў сведчанне этнічнай гісторыі.

**Помнікі другой чвэрці I тысячагоддзя н. э.** У заходніх раёнах Беларускага Палесся ў другой палове II—IV стст. там, дзе да гэтага былі вядомы помнікі паморскай і зарубінецкай культур, распаўсюдзіліся старажытнасці тыпу Брэст — Трышын (могільнік быў даследаваны на ўсходняй ускраіне Брэста). Такія могільнікі выяўлены каля вёсак Вялічкавічы Камянецкага, Дружба (Скорбічы) Брэсцкага раёнаў. Пахаванні-трупаспаленні змешчаны ў невялікіх круглых ямах глыбінёй да 1 м. Тут былі складзены рэчы: гліняныя пасудзіны, бронзавыя шпількі, розныя падвескі (у тым ліку зробленыя з рымскіх манет), спражкі, касцяныя грэбні і інш. Асноўная колькасць матэрыялу мае аналогіі сярод готска-гепідскіх помнікаў у ніжнім цячэнні Віслы. Выснова аб усходне-германскай прыналежнасці значнай часткі гэтай вельбарскай культуры пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі, якія паведамляюць аб перасяленні готаў з Ніжняй Віслы ў Пабужжа, Падняпроўе і Падунайе. Готы ды гепіды рухаліся па слаба заселеных пагранічных тэрыторыях паміж рознымі плямёнамі. Разам з імі маглі рухацца таксама групы славян. Частка прышэльцаў потым растварылася сярод мясцовага насельніцтва[25].

У першыя стагоддзі нашай эры насельніцтва Верхняга Падняпроўя пакінула ўмацаваныя паселішчы (гарадзішчы) і перайшло жыць на адкрытыя паселішчы плошчай прыкладна ад 1 да 10 га.

Археалагічныя помнікі другой чвэрці 1 тысячагоддзя н. э. вылучаюцца ў асобную культурную гістарычную групу. Упершыню яны шырока вывучаліся на Кіеўшчыне і атрымалі назву кіеўскай культуры. У Беларусі сістэматычнае даследаванне такіх помнікаў праводзілася ў Магілёўскім Падняпроўі на селішчы і могільніку Абідня каля в. Адаменка Быхаўскага раёна. Такія ж даследаванні селішча і могільніка праводзіліся каля в. Тайманава таго ж раёна, дзе знойдзены шматлікія матэрыялы II—IX стст. н. э.

Разглядаемыя старажытнасці II—V стст. выяўлены амаль на ўсёй тэрыторыі, якая да гэтага была занята зарубінецкай культурай. У басейне Бярэзіны іх арэал выходзіў на поўнач за межы тэрыторыі распаўсюджвання зарубінецкай культуры, уключаючы значную частку Смаленшчыны і Браншчыны.

Да помнікаў кіеўскай культуры адносяцца селішчы і бескурганныя могільнікі з трупаспаленнямі. Звычайна селішчы маюць памеры ад 2 да 7 га. Яны знаходзіліся на невысокіх узгорках у пойме па берагах рэк або азёраў. У некаторых выпадках селішчы ўзнікалі побач з гарадзішчамі, пабудаванымі раней. Вызначана, што ў другой чвэрці I тысячагоддзя н. э. былі распаўсюджаны два тыпы жытлаў: паўзямлянкі і пабудовы слупавой канструкцыі.

У II—V стст. у плямён Верхняга Падняпроўя былі папулярныя ўпрыгожанні з выемчатай эмаллю чырвонага і іншых колераў — бронзавыя падвескі і фібулы. З ускраін рымскіх правінцый на тэрыторыю Верхняга Падняпроўя трапілі чырваналакавая кераміка, фрагменты бронзавых пасудзін, шкляныя пацеркі. Выяўлены таксама скарбы рымскіх манет — дынарыяў. Гэта першыя манеты, якія з'явіліся на тэрыторыі Беларусі ў канцы II — пачатку III ст. н. э.[26].

Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Пры раскопках знойдзены жалезныя сярпы адносна вялікіх памераў у параўнанні з папярэднім часам, што ўскосна пацвярджае далейшае ўдасканальванне сістэмы земляробства і павышэнне прадукцыйнасці працы ў вытворчых галінах гаспадаркі. Для размолу зерня ўжываліся каменныя зерняцёркі і зрэдку жорны. Невялікую ўдзельную вагу ў харчовым балансе займалі паляванне і рыбалоўства.

Прыкметы апрацоўкі чорнага і каляровых металаў прысутнічаюць на кожным паселішчы. Вывучэнне якасці жалеза і зробленых з яго прылад працы пацвердзіла, што ў Беларускім Падняпроўі яны адпавядалі тэхналагічнаму ўзроўню часу.

Вучоныя адзначаюць важнае значэнне ў генезісе кіеўскай культуры зарубінецкіх старажытнасцей, што пацвярджае супадзенне арэалаў гэтых культур[27]. Іншыя разглядаюць помнікі кіеўскага тыпу як позні этап зарубінецкай культуры. Не выключана, што старажытнасці, аб якіх тут ідзе гаворка, адносяцца да славянскага этнасу.

У Еўропе з канца IV ст. да VI ст. н. э. мела месца асабліва буйное, масавае перамяшчэнне плямён, названае «Вялікім перасяленнем народаў». Зыходным штуршком да гэтага з'явілася перасяленне выхадцаў з Азіі — гунаў. У V ст. гуны разбілі германскія плямёны готаў у Прычарнамор'і, але потым ужо ў Заходняй Еўропе самі панеслі ад іх паражэнне. Некаторыя плямёны перавандроўвалі на тысячы кіламетраў па тэрыторыі Еўропы. Перасяленне народаў працягвалася да VIII ст. Яно карэнным чынам перакройвала этнічную карту Усходняй Еўропы, што не магло не закрануць таксама тэрыторыю Беларусі.

Разгледжаная вышэй эпоха старажытнага грамадства ў гісторыі Беларусі змяняецца, як і ў краінах Заходняй і Сярэдняй Еўропы, сярэднявеччам (VI—XV стст.), якое мае свой ранні перыяд. Ранняе сярэднявечча — гэта час, які працягваўся ад VI ст. н. э. прыкладна да сярэдзіны XIII ст. У сваю чаргу беларускае ранняе сярэднявечча падзяляецца на два этапы: балцка-славянскі (VI—VIII стст.), калі славяне рассяляліся на землях сярод балцкіх абарыгенаў, і полацкі (IX—XIII стст.), як прапанаваў яго называць У. М. Ігнатоўскі[28]. У полацкі перыяд у гісторыі Беларусі адбываўся пераход да класавага грамадства і Полацкае княства з'яўлялася вытокам беларускай дзяржаўнасці.



# РАЗДЗЕЛ II

# РАННЯЕ СЯРЭДНЯВЕЧЧА. ПАЧАТАК ПЕРАХОДУ ДА КЛАСАВАГА ГРАМАДСТВА. УЗНІКНЕННЕ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

**(VI — першая палова XIII ст.)**

## 1. Балта-славянскае насельніцтва ў VI—VIII стст. на тэрыторыі Беларусі.

**Банцараўская і калочынская археалагічныя культуры.** У пачатку ранняга сярэднявечча ў пісьмовых крыніцах з'яўляюцца дакладныя паведамленні пра славян. Тады ў іх распадаўся родавы лад. З VI ст. славяне (склавіны і анты) рассяляліся на тэрыторыі Паўднёвай, Сярэдняй і Усходняй Еўропы. Потым яны паступова падзяляліся на тры вялікія групы: заходнія — чэхі, славакі, палякі, паўднёвыя — сербы, харваты, балгары, усходнія — беларусы, рускія, украінцы.

Пра знаходжанне славян ці іх рассяленне на тэрыторыі Беларусі ў V—VIII стст. звесткі ў пісьмовых крыніцах адсутнічаюць. Асноўнымі данымі для вырашэння гэтага складанага пытання з'яўляюцца матэрыялы даследаванняў археалагічных помнікаў: гарадзішчаў, паселішчаў, курганных і грунтавых (бескурганных) могільнікаў. Адказы даследчыкаў на пастаўленае пытанне не адназначныя.

У сярэдзіне I тысячагоддзя н. э. у жыцці насельніцтва сярэдняй і паўночнай Беларусі адбываюцца значныя змяненні, якія адбіліся ў матэрыяльнай культуры. Культура штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінская змяняюцца помнікамі тыпу верхняга слоя Банцараўшчыны. Упершыню яны сталі вядомымі ў канцы 20-х гадоў па матэрыялах V—VIII стст., атрыманых з верхняга культурнага гарызонту Банцараўскага гарадзішча пад Менскам.

У выніку археалагічных раскопак атрыманы значныя і разнастайныя звесткі аб характары помнікаў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя цэнтральнай і паўночнай Беларусі. У паўночна-заходняй

частцы дняпроўскага басейна і ў Панямонні выяўлена некалькі дзесяткаў селішчаў V—VIII стст. (Рэвячкі, Гуры, Дзядзілавічы, Гарадзішча, Мікольцы, Хведзічы ў Менскай вобласці). Матэрыялы гэтага ж часу і адпаведнага культурнага аблічча знойдзены ў Віцебскай вобласці на селішчах паблізу населеных пунктаў Варганы і Лукомль, на гарадзішчах у Полацку і Віцебску, у курганах з трупапаленнем каля в. Дарахі, в. Янкавічы (ва ўр. Атокі, Павалішына). У апошнія гады такія ж старажытнасці ў Беларускім Падзвінні выяўлены на гарадзішчах каля в. Цясты Верхнядзвінскага, Пруднікі Міёрскага раёнаў.

На першай стадыі існавання банцараўскай культуры насельніцтва пражывала толькі на селішчах, размешчаных па берагах рэк і азёраў. Да ранніх належаць паселішчы каля в. Курчына і Рэвячкі Мядзельскага, Варонеч Полацкага, Гуры і Сосенка Вілейскага, Малое Стахава Барысаўскага раёнаў. Найбольш ранні комплекс рэчаў знойдзен пры раскопках паселішча і грунтавога могільніка каля в. Рэвячкі. У раскопе выяўлены наземныя і паўзямляначныя жытлы з печамі-каменкамі. Да V—VI стст. н. э. можна аднесці і селішча ў в. Гуры Вілейскага раёна.

Селішчы другога храналагічнага перыяду ўзнікаюць у непасрэднай блізкасці ад ранніх гарадзішчаў, ужо запусцелых да таго часу. Гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскія былі значна перабудаваны і перatвораны ў добра ўмацаваныя сховішчы, дзе хавалася насельніцтва ў час небяспекі. Такія гарадзішчы-сховішчы і селішчы іх выяўлены каля в. Дзядзілавічы Барысаўскага, Гарадзішча, Мікольцы, Некасецк Мядзельскага, Буракова Гарадоцкага, Урагава Верхнядзвінскага раёнаў[1].

Важныя раскопкі праведзены на селішчы Дзядзілавічы. Яно ляжыць на схілах узгорка, на вяршыні якога знаходзілася невялікае гарадзішча, заснаванае плямёнамі культуры штрыхаванай керамікі. На селішчы раскапана 54 жытлы двух тыпаў — наземныя збудаванні слупавой і зрубавай канструкцый. Звычайна жытлы ўяўляюць сабой паўзямлянкі, падобныя збудаванням, выяўленым на вышэйназваным селішчы Абідня. Ацяпляліся жытлы з дапамогай адкрытых ачагоў або пячэй-каменак, размешчаных у адным з куткоў паўзямлянак. Печы будаваліся з камянёў без прымянення гліны.

Істотныя вынікі атрыманы пры раскопках гарадзішча і селішча ў в. Гарадзішча Мядзельскага раёна. Вызначана, што гарадзішча неаднаразова перабудоўвалася. Яно было заснавана старажытнейшым насельніцтвам, культура якога блізкая да мілаградскай. Паселішча апусцела ў канцы III — пачатку IV ст. н. э. У V стагоддзі каля гарадзішча ўзнікла селішча. Яго насельніцтва ператварыла пакінутае гарадзішча ў магутнае ўмацаванае сховішча. Па краі пляцоўкі была ўзведзена абарончая сцяна. Гарадзішча было аперазана валам і ровам. Аднак на ім ніхто не жыў пастаянна. Яно

Ляпныя гаршкі банцараўскай культуры VI—VIII ст.: а) з Павалішынскага курганнага могільніка каля в. Янкавічы; б) курганнага могільніка Дарахі Віцебскай вобласці.

выкарыстоўвалася як сховішча, месца для захоўвання гаспадарчых прыпасаў і, відаць, як свяцілішча. Неўмацаванае пасяленне размяшчалася на пакатых схілах узгорка вакол гарадзішча. Тут пры раскопках выяўлены 42 паўзямлянкі.

Вучоныя звязваюць з насельніцтвам банцараўскай культуры грунтавыя і курганныя могільнікі V—VIII стст. Грунтавыя пахаванні выяўлены на селішчы паблізу в. Рэвячкі. Адно трупаспаленне змешчана ў урне, два іншыя — у ямках. Блізкія аналогіі такому абраду пахавання прасочваюцца на могільніках у Смаленскім Падняпроўі і Падзясенні.

У Паўночнай Беларусі былі выяўлены шматлікія пахаванні ў курганных могільніках. Такія курганы даследаваны ў в. Янкавічы Расонскага, Дарахі Гарадоцкага, Гаравыя Полацкага, Старое Сяло Віцебскага раёнаў. Курганы ў плане — доўгія, круглыя, падоўжаныя. Пахавальны абрад падобны на рытуал апісаных грунтавых могільнікаў. Рэшткі крэмацыі ў урнах ці без іх змяшчаліся ў насыпы курганоў.

Інвентар пахаванняў у курганах бедны. Сустракаюцца знаходкі дэталяў касцюма, упрыгожанні, адзінкавыя рэчы (сінія шкляныя пацеркі, невялікія бронзавыя бляшкі, жалезныя спражкі, цуглі, фрагменты арнаментаваных касцяных вырабаў). У якасці урн або накрываючых іх пасудзін выкарыстоўваліся ляпныя гаршкі слоікавай, слабапрафіляванай або цюльпанападобнай формы. У Беларускім Падзвінні ўзнік лакальны (ато-

кінскі) варыянт банцараўскай культуры, які характарызуецца паяўленнем побач з круглымі курганамі доўгіх валападобных насыпаў. Некаторыя даследчыкі лічаць такія могільнікі крывіцкімі.

Як паказалі археалагічныя даследаванні, на паселішчах трэцяй чвэрці I тысячагоддзя вядучымі галінамі гаспадаркі былі ляднае земляробства і жывёлагадоўля. Дапаможную ролю ў забеспячэнні насельніцтва харчаваннем адыгрывалі прысвойваючыя формы гаспадаркі — паляванне і рыбалоўства. Былі развіты дамашнія рамёствы, чорная і каляровая металургія, ганчарства, прадзенне, ткацтва, апрацоўка скур, дрэва і інш.

Храналагічныя рамкі банцараўскай культуры вызначаюцца V—VIII стагоддзямі. Помнікі гэтай культуры ў сярэдняй і паўночнай Беларусі сфарміраваліся на аснове культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, пры актыўным удзеле элементаў культур тыпу Абідні на Дняпры і Почапа на Дзясне. Асаблівасці ўздзеяння паўднёвых культур праявіліся ў распаўсюджванні адкрытых паселішчаў, у будаўніцтве паўзямлянчачных жытлаў, з'яўленні гаршкоў з паверхняй, упрыгожанай расчосамі, у пахавальным абрадзе.

Этнічны склад насельніцтва V—VIII стст. у цэнтральнай і паўночнай Беларусі канчаткова не вызначаны. Напэўна, у гэты час славяне рассяляліся ў землях балцкіх плямён. Археалагічныя матэрыялы дазваляюць меркаваць, што ў фарміраванні банцараўскай культуры ўдзельнічалі таксама славянскія плямёны. Яны з'явіліся на тэрыторыі, дзе раней жылі балты і ў значнай ступені самі асіміляваліся. Пры далейшым рассяленні славяне канчаткова засялілі Верхняе Падняпроўе і Падзвінне. Другая археалагічная культура трэцяй чвэрці I тысячагоддзя атрымала назву калочынскай (ад в. Калочын Рэчыцкага раёна)[2]. Тэрыторыя распаўсюджання калочынскай культуры ўключае гомельска-магілёўскае парэчча Дняпра і Сожа, Падзясенне, вярхоўі Сулы, Сейма, басейн ніжняй Прыпяці. Даследчыкі разглядаюць калочынскія помнікі ў якасці варыянта вялікай культурнай супольнасці, уключаючы ў яе арэал Смаленскае Падняпроўе, сярэднюю і паўночную Беларусь. Матэрыялы калочынскага тыпу былі выяўлены на Навабыхаўскім могільніку. Помнікі пачалі разглядацца ў навуцы як асобная культурна-храналагічная група пасля раскопак селішча і гарадзішча каля вёскі Калочын. У Беларускім Падняпроўі паселішчы і могільнікі калочынскай культуры выяўлены каля в. Тайманава, Ніжняя Тошчыца, Новы Быхаў, Шчаткава. Аналагічныя паселішчы выяўлены ў басейне ніжняй Прыпяці сярэдняга і ніжняга Сожа.

Асноўным тыпам помнікаў калочынскай культуры з'яўляюцца селішчы і грунтавыя могільнікі. Ёй належаць таксама гарадзішчы і курганныя могільнікі. Было раскапана тры гарадзішчы: Калочын на Дняпры, Чырвоная Зорка на Бярэзіне, Залатаміно на Сажы. Гарадзішчы добра ўмацаваны валамі і равамі. На

іх пляцоўках выяўлены гаспадарчыя ямы, відаць, для запасаў харчавання. Селішчы размяшчаліся каля вады. На селішчах Калочын, Тайманава, Юравічы, Нясімкавічы выяўлены жытлы. Гэта невялікія прамавугольныя ці квадратныя паўзямлянкі плошчай ад 9 да 22 $м^2$ з ачагом у яе кутку.

Пахавальны абрад характарызуецца змяшчэннем рэшткаў трупаспалення ў грунтавых могільніках. Пераважаюць ямныя бязурнавыя пахаванні, але сустракаюцца таксама пахаванні ў пасудзінах. Такія могільнікі даследаваны ў Новым Быхаве, Тайманаве, Ніжняй Тошчыцы. Да калочынскіх старажытнасцей належаць асобныя пахаванні ў курганных могільніках Дзям'янкі на беразе Іпуці, Кветунь на Дзясне.

Калочынская культура датуецца V—VIII стст. Вучоныя аднадушны ў меркаванні, што фарміраванне калочынскіх старажытнасцей звязана з помнікамі папярэдняга часу на гэтай тэрыторыі. Застаецца нявырашаным пытанне аб этнічнай прыналежнасці калочынскай культуры. Шэраг даследчыкаў уключаюць іх у балцкі этна-культурны масіў. Абгрунтоўваючы сваю выснову, яны ўказваюць на адсутнасць генетычных сувязей з мясцовымі ўсходнеславянскімі старажытнасцямі наступнага перыяду і на распаўсюджанне балцкай гідраніміі ў Верхнім Падняпроўі ў І тысячагоддзі н. э. Іншыя даследчыкі гавораць аб славянскім характары калочынскіх помнікаў[3]. Трэція лічаць, што калочынская культура балцкая, але знаходзіцца пад моцным уплывам славян. Не выключана, што гэта адпавядае сапраўднасці. У такім выпадку асноўную тэрыторыю Беларусі ў VI—VIII стст. займалі плямёны ўсходніх і дняпроўскіх балтаў, у асяроддзе якіх усё больш пранікалі славяне.

Але не на поўначы і не ў цэнтры Беларусі вырашаліся асноўныя пытанні славянскага этнагенезу. Толькі ў VI—VIII стст. на паўднёвым захадзе Беларусі пасяляліся плямёны старажытных славян. Прыпяць стала славянскай ракою.

**Славяне на поўдні Беларусі ў V—VIII стст.** Буйным дасягненнем археалагічнай навукі з'явілася адкрыццё паселішчаў і могільнікаў славян V—VII стст. на правабярэжнай Украіне, Чэха-Славакіі, Польшчы, усходзе Германіі, Румыніі. Упершыню яны былі выяўлены ў наваколлі Прагі і пагэтаму атрымалі назву культуры пражскага тыпу. Гэта самыя раннія помнікі, славянская прыналежнасць якіх даказана археалагічным шляхам. На тэрыторыі Усходняй Еўропы называюцца помнікамі тыпу Карчак па сялу ў Жытомірскай вобласці, каля якога яны шырока вывучаліся. Найбольш істотныя прыкметы культуры славян выяўляюцца ў формах ляпных пасудзін, домабудаўніцтве і пахавальнай абраднасці[4].

Помнікі славянскай культуры знойдзены ў паўднёвай частцы Беларусі: на ўскраіне г. Петрыкава каля вёсак Курадава, Гарадзішча, Кажан-Гарадок, Чэрнічы і інш., па рэках Прыпяць, Ясельда і Гарынь.

На Украіне і на поўдні Беларусі славянскія помнікі прадстаўлены пераважна паселішчамі плошчай ад 0,3 да 1,5 га. Яны знаходзіліся на берагах рэк на спадзістых схілах надпойменнай тэрасы звычайна групамі па 3—4 паселішчы блізка адно ад аднаго. Жытлы будаваліся з бярвён, мелі слупавую канструкцыю прамавугольнай формы з даўжынёй сцен ад 2,4 да 4—5 м. Паўзямлянкі былі заглыблены ў грунт на 0,5—1,2 м. На паселішчы яны размяшчаліся групамі або бессістэмна. У VIII—IX стст. паселішчы забудоўваліся паралельнымі радамі жытлаў. У сярэдзіне жытлаў, у далёкім ад увахода куце, знаходзіліся печы-каменкі авальнай або круглай формы. З'явіліся паўзямлянкі зрубнай канструкцыі.

Добра даследаваным славянскім помнікам другой паловы І тысячагоддзя н. э. з'яўляецца гарадзішча і селішча каля вёскі Хатомель Столінскага раёна. Невялікае гарадзішча авальнай формы ўмацавана двума валамі і ровам. Культурны слой падзяляецца на два гарызонты. У ніжнім знойдзены толькі ляпныя пасудзіны карчакскага тыпу. Тут былі неарнаментаваныя слабапрафіляваныя гаршкі ды невялікія гліняныя патэльні, тыповыя для старажытных славян. Датаванне VII ст. пацвярджаецца знаходкай жалезнага трохпалоснага наканечніка аварскай стралы.

У верхнім больш познім гарызонце культурнага слоя гарадзішча Хатомель на ўчастках, якія прымыкаюць да вала, праслежаны рэшткі наземных слуповых пабудоў. Побач з карчакскай керамікай знойдзена шмат ляпной славянскай керамікі VIII—IX стст., у меншай колькасці пасудзін, зробленых з дапамогай ганчарнага круга.

У другім перыядзе свайго існавання гарадзішча належала больш заможнай частцы абшчыны. Аб гэтым сведчаць знаходкі — рэчы ваеннага побыту — жалезныя наканечнікі дзідаў і стрэл, пласцінкі ад панцыра, бляшка ад партупеі, цуглі. Такія рэчы звычайна належалі да ўзбраення старажытных дружыннікаў. Гарадзішча магло быць месцам сходаў старэйшын і дружыннікаў, калі ў славян адбываўся працэс выдзялення абшчыннай знаці.

Простае насельніцтва знаходзілася побач на неўмацаваным даволі вялікім паселішчы, дзе адкрыта 16 заглыбленых у грунт жылых пабудоў. Кожная з іх даўжынёй ад 3 да 6 м. Падлога ў жылым памяшканні была земляная. У адным з куткоў яго заўсёды знаходзілася глінабітная печ, пастаўленая на драўляным каркасе.

На паселішчы ў час раскопак не выяўлена прадметаў узбраення і каштоўных упрыгожанняў. Былі знойдзены жалезныя наральнікі ад рала, якое ўжывалася для апрацоўкі зямлі, сярпы, восці для лоўлі рыбы, тачыльныя брускі, праслiцы для прадзіва. Такія знаходкі характэрны для вясковага паселішча, жыхары якога займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбнай лоўляй. Жыхары паселішча карысталіся вылепленымі ад рукі глінянымі пасудзінамі на працягу

ўсяго IX ст. У канцы IX ці пачатку X ст. з'явіўся посуд, зроблены з дапамогай ганчарнага круга[5].

Археалагічныя помнікі каля Хатомеля — сведкі паступовага распаду патрыярхальна-родавага ладу. У славян гарадзішча родавага калектыву ператварылася ў добра ўмацаваны пасёлак, дзе знаходзіліся прадстаўнікі знаці і сярод іх узброеныя дружыннікі. Побач на паселішчы жылі тыя, хто араў, сеяў і збіраў збожжа, гадаваў жывёлу.

## 2. Усходнія славяне — асноўнае насельніцтва Беларусі ў IX — першай палове XIII ст.

Славяне рассяляліся на неабсяжных прасторах раўніны ад Ладажскага возера на поўначы да прычарнаморскіх стэпаў на поўдні. Іх суседзямі былі шматлікія неславянскія плямёны. У VIII—IX стст. славяне ва Усходняй Еўропе падзяляліся на 13—15 этнічных супольнасцей ці племянных «княжанняў», як яны названы ў летапісе. На тэрыторыі Беларусі знаходзілася некалькі такіх этнічных аб'яднанняў усходніх славян. Гэта былі даволі ўстойлівыя этнаграфічныя аб'яднанні — крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў, якія ўтвараліся стыхійна. Яны ўяўлялі сабой не плямёны, як у раннім жалезным веку, а склаўшыеся протанароднасці («народцы») і адначасова пачатковыя дзяржаўныя ўтварэнні ці протадзяржавы[6].

**Крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы. Іх заняткі і вераванні.** Крывічы, вялікае аб'яднанне плямён, якія жылі ў вярхоўях Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, на поўдні Чудскага возера. Звесткі аб іх змешчаны ў летапісах пры апісанні падзей IX—X стст. Пра крывічоў піша таксама візантыйскі гісторык X ст. Канстанцін Парфірародны.

Назву «крывічы» даследчыкі выводзяць па-рознаму: ад прозвішча старэйшага роду Крыў, што найбольш верагодна, ад слоў «крэўныя» (блізкія па крыві), ад язычніцкага першасвяшчэнніка Крыва-Крывейтэ, ад перасечанай, узгоркаватай мясцовасці (крывізна).

Працэс фарміравання крывічоў — вынік асіміляцыі прышлымі славянамі мясцовых балцкіх і заходне-фінскіх плямён, паступова славянізаваных. У канцы I тысячагоддзя н. э. аб'яднанне крывічоў распалася на тры групы — полацкую, смаленскую, пскоўскую (паводле назваў іх галоўных гарадоў). Для полацкіх крывічоў, ці «палачан», як яны абазначаны ў пісьмовых крыніцах, характэрна культура доўгіх курганоў паўночнай Беларусі, у якой прысутнічае шмат этнаграфічных элементаў усходніх балтаў. Смаленскія крывічы вельмі блізкія да полацкіх па мове і культуры, таму ў этнаграфічных адносінах

звычайна разглядаюцца як полацка-смаленская група плямён.

У актавых беларускіх дакументах старажытныя курганы названы «валатоўкамі». Паводле народных паданняў, тут як быццам пахаваны волаты. Волат — персанаж беларускай міфалогіі, асілак высокага росту. Назва «валатоўкі» пашырана на поўначы Беларусі і ў сумежных раёнах Пскоўшчыны, Латвіі, на Смаленшчыне, у мінулым карэнных землях крывічоў.

Курганныя могільнікі крывічоў другой паловы I тысячагоддзя нашай эры складаюцца з доўгіх (валападобных), падоўжаных і круглых у плане насыпаў вышынёй 1—2 м, у якіх змешчаны рэшткі крэмацыі памёршых. У Віцебскай вобласці вывучаны курганы V—VII стст. атокінскага варыянта банцараўскай культуры каля в. Янкавічы Расонскага раёна, аб чым ужо гаварылася вышэй. У Гарадоцкім раёне на беразе воз. Сеніца каля вёскі Дарахі выяўлена 11 курганных могільнікаў трох перыядаў: трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э., IX ст. з крэмацыяй памёршых і X — пачатку XI ст. з трупапалажэннем[7].

Курганныя могільнікі крывічоў IX—X стст. даследаваліся каля вёсак Баркі, Глінішча Полацкага, Бяскатава, Вышадкі, Смалькі Гарадоцкага раёнаў. Трупаспаленне амаль заўсёды знаходзілася пад насыпам, на грунце. Часта перапаленыя косткі сабраны ў неглыбокай ямцы, зверху якой змешчаны перакулены ўверх дном невялікі ляпны гаршчок. Большасць курганоў бедныя на інвентар ці зусім яго не маюць. Зрэдку сустракаюцца курганы з вялікай колькасцю пашкоджаных агнём жаночых упрыгожанняў, распаўсюджаных у балтаў, характэрных таксама для культуры смаленскіх доўгіх курганоў: бронзавыя трапецыяпадобныя падвескі, шыйныя грыўні, бранзалеты, маніста, у якіх чаргуюцца шкляныя сінія пацеркі з бронзавымі спіралепадобнымі трубачкамі-пранізкамі — дэталямі вянкоў, што насіліся на галаве, касцяныя птушкі, плоскія скроневыя кольцы, падобныя на шыйныя грыўні латгалаў. Славянскімі рысамі курганоў IX—X стст. з'яўляецца абрад трупаспалення і наяўнасць ляпных гаршкоў з акруглым плячом у верхняй частцы тулава, якое захавана і ў кераміцы, зробленай пазней на ганчарным крузе. У доўгіх курганах паўночнай Беларусі, відаць, пахаваны славяне, у побыце якіх адчуваўся моцны ўплыў матэрыяльнай культуры балтаў.

На мяжы X—XI стст. паяўляюцца круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння, які канчаткова выцясніў крэмацыю. Для полацкіх, як і смаленскіх, крывічоў у XI—XII стст. характэрны пэўны тып упрыгожанняў — бранзалетападобныя драцяныя кольцы з завязанымі канцамі дыяметрам 5—11 см, якія насілі жанчыны каля скроняў на павязцы. Курганы XI—XII стст. вывучаліся каля вёсак Багрынава, Драздова, Навінка Талачынскага, Пуцілкавічы Ушацкага, Кублішчына Міёрскага, Захарнічы, Плусы, Пуканаўка Полацкага раёнаў.

Бронзавая шыйная грыўна XI ст. з раскопак кургана каля вёскі Абрыцкая Слабада Мінскага раёна.

У полацкіх крывічоў у VIII—IX стст. узніклі ўмацаваныя паселішчы, на аснове якіх потым сфарміраваліся гарады. У «Аповесці мінулых гадоў» крывічы названы пад 859 г. Яны плацілі даніну варагам. У 862 г. крывічы разам з другімі плямёнамі прагналі варагаў за мора, адкуль яны прыйшлі. Аднак потым, як паведамляе летапіс, чудзь, наўгародскія славене і крывічы заклікалі да сябе варажскіх князёў. Тут гаворыцца пра Полацк, што варагі ў ім прышлыя, а заснавалі горад крывічы. У час паходу князя Алега (907 г.) і Ігара (944 г.) супраць грэкаў прымалі ўдзел крывічы. У X ст. на аснове племяннога княжання крывічоў склалася буйное Полацкае княства — самастойная дзяржава на тэрыторыі паўночнай Беларусі. Да яе належалі гарады Полацк, Віцебск, Лукомль, Браслаў, Менск, Ізяслаўль (Заслаўе), Лагойск, Орша, Копысь, Барысаў.

Насельніцтва Полацкай зямлі і прадстаўнікі мясцовай дынастыі князёў названы «крывічамі» ў летапісах пад 1127, 1129, 1140, 1162 гг. Назва «крывіцкія землі» ў некаторых выпадках захоўвалася за тэрыторыяй паўночнай Беларусі да першай чвэрці XIV ст. У латышскай мове тэрмін «крывічы» замацаваўся для вызначэння ўсходніх славян. На славянска-балцкім сумежжы ўзніклі тапонімы «крывічы», размешчаныя ланцугом на заходняй ускраіне Полацкай зямлі.

Адначасова ў старажытных летапісах ужываецца тэрмін «палачане». Паводле тлумачэння летапісца, гэтая назва паходзіць ад ракі Палаты — правага прытока Заходняй Дзвіны, ля вусця якой заснаваны Полацк. Відаць, палачане — група крывічоў,

якія вылучыліся з крывіцкага аб'яднання з цэнтрам у Полацку, ад якога яна атрымала сваю назву. У XI—XII стст. і ў больш познія часы палачанамі называлі жыхароў Полацка, або Полацкай зямлі.

Дрыгавічы, як адзначыў летапісец, жылі паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной. Але названыя рэкі не акрэслівалі дрыгавіцкую тэрыторыю. Басейн Заходняй Дзвіны і вярхоўі Бярэзіны засялялі крывічы. Дзякуючы археалагічным даследаванням устаноўлена, што дрыгавічы займалі тэрыторыю на ўсходзе да Дняпра, на поўначы да лініі гарадоў Заслаўя, Лагойска, Барысава. Тут дрыгавічы перамешваліся з полацкімі крывічамі. Паўднёвая мяжа тэрыторыі дрыгавічоў знаходзілася крыху на поўдзень ад Прыпяці, дзе яны суседзілі з драўлянамі. У напрамку на захад мяжа пераходзіла Заходні Буг, што пацвярджаюць матэрыялы шматгадовых даследаванняў курганных могільнікаў у Сярэднім Пабужжы.

Найбольш распаўсюджана думка, што назва «дрыгавічы» паходзіць ад слова «дрыгва» (балота). Дрыгавічы — жыхары сырой, балоцістай мясцовасці. Выказваюцца меркаванні, што найменне «дрыгавічы» ўтварылася ад асабовага імя, напрыклад Драг і Драгавіт. Летапісец называе дрыгавічоў сярод этнічных груп, якія мелі «сваё княжанне» яшчэ да ўзнікнення Кіеўскай Русі.

Папярэднікамі летапісных дрыгавічоў на сярэдняй Прыпяці ў VI—VIII стст. былі славянскія плямёны пражскай археалагічнай культуры. У гэты час тэрыторыя Беларускага Палесся была заселена славянамі. Даследчыкі налічваюць тут звыш 60 паселішчаў пражскай культуры. Значную тэрыторыю на поўнач ад Прыпяці займалі плямёны балта-славянскай банцараўскай культуры.

Пра тое, што засяленне левабярэжнай часткі Прыпяцкага басейна праходзіла з поўдня, пацвярджае паўтор славянскіх назваў рэк. Случ — правы прыток Гарыні і р. Случ — левы прыток Прыпяці, р. Грыўка ў ніжнім цячэнні Стахода і р. Грыўка ў басейне Бярэзіны, пяць рэчак з назвай Стаў.

Курганы дрыгавічоў IX—X стст. з крэмацыяй памёршых і ляпной керамікай вядомы на Дняпры, Прыпяці, у вярхоўях Случы і Арэсы. На рубяжы X—XI стст. з'яўляюцца першыя дрыгавіцкія курганныя трупапалажэнні. У курганах XI—XIII стст. трапляюцца збудаванні ў выглядзе невысокага зруба, пакрытага дахам.

Сярод жаночых упрыгожанняў у дрыгавічоў былі распаўсюджаны зярнёныя пацеркі. Яны рабіліся з медзі і серабра. Каркас пацеркі быў аздоблены напаянымі дробнымі па памерах сярэбранымі шарыкамі — зерню. Такое спалучэнне розных металаў надавала вырабу асаблівую прыгажосць. Зярнёныя пацеркі лічацца характэрнай племяннной адзнакай дрыгавічоў. Пацеркі насілі разам з маністам па адной або некалькі штук. Набор упрыгожанняў дрыгавіцкіх жанчын быў менш багаты ў параўнанні з крывіцкім.

Капыль. Курган дрыгавічоў X ст.

У пісьмовых крыніцах не паведамляецца, якія плямёны рассяляліся ў міжрэччы Нёмана і Буга. Уяўленне аб гэтым дае вывучэнне археалагічных помнікаў, гідранімікі, этнаграфіі.

Заходняе Палессе ў X—XIII стст. было пагранічнай тэрыторыяй паміж паўднёва-заходняй групай усходнеславянскіх плямён (валыняне, дрыгавічы), заходнімі славянамі (мазаўшане), балтамі (яцвягі). Некаторыя даследчыкі прыйшлі да высновы аб змешаным у этнічных адносінах складзе насельніцтва пры колькаснай перавазе прадстаўнікоў таго ці іншага этнасу ў асобных раёнах. У Пінскім Палессі ў X ст. пераважалі дрыгавічы, у Берасцейскім Пабужжы была значная колькасць валынянаў. У XI ст. сюды праз вярхоўі Ясельды і Мухаўца пранікалі дрыгавічы[8].

Паводле меркаванняў некаторых даследчыкаў, горад Берасце быў заснаваны на рубяжы X—XI стст. дрыгавічамі і належаў Тураўскаму княству[9]. У многіх курганных могільніках на поўнач і на захад ад старажытнага Берасця[10] знаходзяць зярністыя пацеркі дрыгавіцкага тыпу. Яны выяўлены на гарадзішчы ў Драгічыне Надбужным і ў культурным слоі самога Берасця. Вывучэнне пахавальнага абраду ды інвентара курганоў X—XIII стст., іх класіфікацыя прывялі да высновы аб тым, што дрыгавічы былі асноўным насельніцтвам Сярэдняга Пабужжа[11]. Іншыя вучоныя лічаць, што археалагічныя помнікі, якія нагадваюць так званыя «каменныя курганы», належаць славянізаваным нашчадкам заходнебалцкіх плямён яцвягаў[12].

Племяннное княжанне дрыга-

вічоў доўгі час захоўвала незалежнасць. Аднак паўночныя раёны дрыгавіцкай тэрыторыі там, дзе дрыгавічы жылі ў суседстве з крывічамі, рана ўвайшлі ў склад Полацкай зямлі і пазней тут утварылася Менскае княства. У «Аповесці мінулых гадоў» дрыгавічы згадваюцца пад 1116 годам, калі менскі князь Глеб «спустошыў быў дрыгавічоў». У апошні раз дрыгавічы названы ў летапісе пад 1149 годам у сувязі з тым, што гарады «Слуцк, Клецк і ўсе дрыгавічы» часова апынуліся пад уладай чарнігаўскага князя.

На тэрыторыі рассялення дрыгавічоў узніклі гарады Тураў, Пінск, Берасце, Слуцк, Клецк, Рагачоў, Мазыр, Драгічын Надбужны, Капыль, Давыд-Гарадок, у канцы X ст. склалася Тураўскае княства. Паўднёва-ўсходняя частка земляў дрыгавічоў увайшла ў Кіеўскае княства.

Радзімічы — усходнеславянская этнічная супольнасць, землі якой размяшчаліся ў паўднёва-ўсходняй частцы сучаснай Беларусі (усход Гомельскай і Магілёўскай абласцей), а таксама ў заходніх раёнах Бранскай і паўднёва-заходніх раёнах Смаленскай абласцей. На тэрыторыю Беларусі такім чынам прыходзіцца больш чым палова асноўных радзіміцкіх зямель.

Паколькі асноўная тэрыторыя радзімічаў знаходзілася ў зоне малаўрадлівых суглініста-падзолістых глебаў, яны імкнуліся да рассялення ў чарназёмных землях, вынікам чаго з'явіўся каланізацыйны іх паток у паўднёва-ўсходнім напрамку.

Як сказана ў летапісе, назва этнічнай супольнасці паходзіць ад імя Радзім, на чале з якім радзімічы прыйшлі з прапольскіх (ляшскіх) зямель. Папярэднікамі радзімічаў у Пасожжы былі носьбіты калочынскай археалагічнай культуры V—VIII стст.

Найбольш даследаванымі археалагічнымі помнікамі радзімічаў з'яўляюцца курганныя могільнікі. Пахавальны абрад — трупаспаленне (VIII—X стст.), з канца X ст. трупапалажэнне. У Беларусі курганы радзімічаў вывучаліся каля вёсак Абідавічы Быхаўскага, Ветачка, Вішанька, Гадзілавічы, Каласы, Мадора, Ходасавічы, Шапчыцы, Юдзічы Рагачоўскага, Дзям'янкі Добрушскага, Нясімкавічы Чачэрскага, Калодзецкая Касцюковіцкага, Эсмоны Бялыніцкага раёнаў.

Надзвычай характэрным для радзімічскіх жанчын было ўбранне, дзе ў розных варыянтах спалучаліся сяміпрамянёвыя ды пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, дробны бісер, пазалочаныя шкляныя пацеркі, круглыя падвескі, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы, лунніцы. Для радзімічаў акрамя скроневых кольцаў этнавызначальнымі з'яўляюцца пласцінкавыя шыйныя грыўні. Этнаграфічныя асаблівасці жаночага касцюма тлумачацца ўплывам балцкага субстрата на культуру радзімічаў[13].

Амаль да канца X ст. радзімічы жылі самастойна і выплачвалі даніну спачатку хазарам, а потым Кіеву. У 984 годзе самастойнасці радзімічаў прыйшоў канец. У летапісах апавядаецца



Жаночыя ўпрыгожанні радзімічаў XI—XII стст. (скроневыя кольцы, шыйныя грыўні, падвескі з каляровых металаў).

пра паход кіеўскага вялікага князя Уладзіміра Святаславіча на радзімічаў. Перадавы атрад княжацкага войска ўзначальваў ваявода Воўчы Хвост. Радзімічы былі разбіты на рацэ Пяшчань, як мяркуюць, у ваколіцах Слаўгарада.

З XI ст. тэрыторыя радзімічаў была ў складзе Чарнігаўскага княства. З пачатку XII ст. яе паўночная частка знаходзілася пад уладай Смаленска. Да XII ст. адносяцца пісьмовыя звесткі аб гарадах на зямлі радзімічаў Гомелі, Крычаве, Слаўгарадзе (Прупой), Чачэрску. Яны існавалі ўжо ў X ст., але не ўсе з'яўляліся тады гарадамі ў сацыяльна-эканамічным разуменні. Найбольш буйным і значным быў Гомель, як пераканаўча пацвердзілі археалагічныя раскопкі[14]. Апошні раз у летапісе радзімічы ўпамінаюцца пад 1169 годам.

Канчатковае завяршэнне асіміляцыі крывічамі-палачанамі, дрыгавічамі, радзімічамі ўсходнебалцкага насельніцтва адбывалася ва ўмовах фарміравання тэрыторыі Кіеўскай Русі, зараджэння феадальных адносін. Усходнія славяне з канца I тысячагоддзя знаходзіліся на ступені ўзнікнення класавых адносін, упраўляліся старэйшынамі, князямі.

Галоўным заняткам усходніх славян было земляробства. Пры археалагічных раскопках атрыманы доказы існавання ворыўнага земляробства. Асноўнымі прыладамі для апрацоўкі зямлі былі саха і рала. Жалезныя нарогі для рала, знойдзеныя на паселішчы каля Хатомеля, адносяцца да VII—VIII стст. На тэрыторыі Беларусі часцей ужывалася саха, з дапамогай якой верхні пласт зямлі ўзрыхляўся, але не пераварочваўся, як плугам.

Ацэньваючы ролю сельскай гаспадаркі ў жыцці ўсходніх славян, можна гаварыць аб поспехах раёнаў лясной паласы ў развіцці папаравага земляробства, аб дасягненнях у асваенні двухпольнай і трохпольнай яго сістэм. Падсека паступова выцяснялася, але, паколькі стараворыўныя глебы былі малаўрадлівымі і патрабавалі ўгнаення, яна яшчэ доўгі час была неабходнай сістэмай земляробства.

Асноўнымі сельскагаспадарчымі культурамі з'яўляліся жыта, проса, пшаніца, ячмень, лён. Усходнім славянам былі вядомы культуры бабоў, гароху, чачавіцы і асабліва рэпы. Важную ролю ў гаспадарцы земляроба

займала жывёлагадоўля. Усходнія славяне разводзілі буйную і дробную рагатую жывёлу, свіней, а таксама коней. Распаўсюджаны былі лясныя і рачныя промыслы. Палявалі на ляся, зубра, бабра, ваўка, дзіка, зайца, мядзведзя, на розных птушак. Мела значэнне лясное пчалярства. Прадукт бортніцтва — воск, побач з футрай і мёдам, складаў вельмі істотную частку вывазу пры гандлі Русі з іншымі краінамі.

У вёсцы існавалі свае рамеснікі, якія забяспечвалі патрэбнасці сельскага насельніцтва ў некаторых вырабах. Занятак рамяствам для вясковых майстроў меў падсобнае значэнне. Сяляне самі выраблялі прадзіва, шылі адзенне і абутак, рабілі прадметы побыту, посуд, будавалі жыллё.

Ва ўсходнеславянскіх пісьмовых крыніцах для абазначэння сельскіх паселішчаў выкарыстоўвалася некалькі назваў. Найбольш распаўсюджана «сяло». Так называлася паселішча спачатку свабодных, а потым феадальна залежных сялян. Негарадскія паселішчы ў X—XIII стст. насілі збіральную назву «весь», і весь у старажытных крыніцах супрацьпастаўляецца гораду. Ад старажытнага слова «весь» паходзіць беларускае «вёска». «Сяло», «пагост» звычайна ў крыніцах абазначаюцца як паселішчы сялян; «двор», «дом», «град» — месца жыхарства феадалаў.

Тыпам сельскіх паселішчаў, якія вядомы па пісьмовых крыніцах, адпавядаюць два тыпы археалагічных помнікаў: адкрытыя неўмацаваныя паселішчы плошчай ад некалькіх сот квадратных метраў да некалькіх гектараў і невялікія добра ўмацаваныя гарадзішчы.

Шырокія археалагічныя даследаванні ў Беларусі праводзіліся на сярэднявечных паселішчах: Хатомель Столінскага, Дружба, Франопаль Брэсцкага, Гарадзішча на рэчцы Ясельдзе Пінскага, Чэрнічы Жыткавіцкага, Гарадзілаўка Навагрудскага, Дружба, Дварэцкая Слабада Менскага раёнаў. Значныя матэрыялы выяўлены на Чавускім паселішчы ў Магілёўскім Падняпроўі.

На рассяленне ўсходніх славян рабіла ўплыў прыроднае асяроддзе, наяўнасць рэк, азёр, лясоў, спрыяючы клімат. Яно абумоўлівалася кожнадзённымі патрэбамі чалавека ў пітной вадзе, ежы, паліве і г. д.

У пачатковай стадыі рассялення паселішчы славян размяшчаліся, як і ў раннім жалезным веку, у рачных далінах і на берагавых тэрасах групамі («гнёздамі») па 3—5 і больш паселішчаў. У VIII—IX стст. характар размяшчэння паселішчаў не змяніўся, аднак павялічваліся іх памеры і колькасць. Людзі пачалі рассяляцца на больш высокіх месцах карэнных берагоў[15]. У XI—XIII стст. адзначаецца рэзкае павелічэнне насельніцтва на тэрыторыі Беларусі, як і на іншых землях славян.

Сярод земляробчага насельніцтва панаваў далінны, прырэчны тып рассялення з перарывістым («гнездавым») размяшчэннем паселішчаў. Іх скапленне




Рассяленне ўсходніх славян на тэрыторыі Беларусі (IX—XII ст.).

(агламерацыі) канцэнтраваліся ў бязлесных ці рэдкалесных месцах далін з прыдатнымі для земляробства, часцей лёгкімі глебамі.

Бліжэйшыя паселішчы складалі адзіную грамадска-тэрытарыяльную структуру — абшчыну, а паміж «гнёздамі» заставаліся вялікія незаселеныя прасторы, занятыя лесам.

Пераважалі вёскі плошчай да 2,5 га з безсістэмнай забудовай. Паселішчы, якія ўзніклі ў XI—XIII стст., звычайна былі меншымі за вёскі IX—X стст. Гэта значыць, што пры захаванні разнастайнасці ў памерах вёсак праяўлялася тэндэнцыя да павелічэння колькасці малых, маладворных паселішчаў. Пазней большасць такіх паселішчаў складалася з 3—5 двароў. Працэс адасаблення сялянскіх сядзіб адлюстроўваў фарміраванне сялянскай абшчыны, аб чым будзе размова далей.

Рэлігія ўсходніх славян язычніцкая, многабожая. Яны абагаўлялі навакольную прыроду — сонца і месяц, камяні і горы, рэкі і азёры, дрэвы і розныя расліны. Іх «духам» прыносілі ахвяры. Паступова складалася ўяўленне аб бажаствах, якія ўвасаблялі сабой стыхійныя з'явы прыроды. Багі ўяўляліся ў выглядзе людзей. Сварог — бог неба, Ярыла, Дажбог,

Велес — сонечныя бажаствы, Пярун — бог грому і маланкі[16].

Старажытныя светапогляды праяўляліся ў святкаванні дзядоў, радаўніцы. Абрадамі каляндарнага цыкла было гуканне вясны, пахаванне «стралы» (зброі Пяруна), купалле, каляды. У купальскую ноч (7 ліпеня) на берагах рэк шугала полымя вогнішчаў, хлопцы і дзяўчаты вадзілі вакол іх карагоды, скакалі, спявалі абрадавыя песні. На досвітку дзяўчаты кідалі ў ваду вянкі. У магічных уяўленнях старажытных людзей знаходзяцца вытокі валачобных песень, своеасаблівай народнай каляндарнай паэзіі[17].

Паводле язычніцкіх вераванняў, агонь быў свяшчэннай ачышчальнай сілай. Яму аддавалі цела памёршага разам з рэчамі, якімі ён раней карыстаўся. Лічылася, што ўпрыгожанні, прылады працы, зброя спатрэбяцца нябожчыку ў загробным жыцці. Памёршага любога ўзросту па традыцыі адносілі да ліку «дзядоў», продкаў. Насельніцтва, асабліва ў вёсцы, у XI—XIII стст. працягвала хаваць нябожчыкаў пад курганамі, але ў хуткім часе пасля прыняцця хрысціянства з канца X ст. іх больш не спальвалі.

Язычніцкімі культавымі збудаваннямі былі капішчы (свяцілішчы), дзе адбываліся старажытныя абрады. Паводле падання, каля Полацка на беразе Валовага возера знаходзілася капішча Пяруна. Рэшткі свяцілішча сельскай абшчыны X ст. адкрыты каля в. Ходасавічы Рагачоўскага раёна. Тут стаяў драўляны ідал, вакол якога ў час святкаванняў распальваліся вогнішчы.

**Усходнія славяне і суседнія плямёны яцвягаў, літоўцаў.** У заходніх раёнах Беларусі цесна перапляталіся разнастайныя этнічныя элементы. Тут усходнеславянскія плямёны дрыгавічоў, валынян, крывічоў суседнічалі і суіснавалі з усходнебалцкімі (літоўскімі), заходнеславянскімі (мазавецкімі), заходнебалцкімі (яцвяжскімі) плямёнамі.

Балцкія плямёны ў сярэднявеччы засялялі вобласці паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі, уключаючы значныя часткі басейнаў Нёмана і Заходняй Дзвіны. Плямёны балтаў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Смаленшчыны, былі асіміляваны славянамі, пра што было сказана вышэй. На астатняй тэрыторыі ў пачатку II тысячагоддзя на базе старажытных балцкіх плямён пачалі складвацца народнасці: літоўцы, латышы, прусы, яцвягі. Па мове балты падзяляліся на заходніх (прусы, яцвягі) і ўсходніх (літоўцы, латышы, куршы і інш.).

Літоўская галіна балтаў у раннім сярэднявеччы займала асноўную тэрыторыю сучаснай Літвы і, магчыма, некаторыя суседнія мясцовасці ў вярхоўі р. Вілія. У другой палове I — пачатку II тысячагоддзя н. э. гэта галіна балтаў падзялялася на племянныя групы, якія атаясамліваюцца, паводле пісьмовых крыніц, з жэмайтамі, аўкштайтамі і ўласна літвой. У эпоху сярэдневякоўя аўкштайты склалі ядро старажытналітоўскай народнасці і ў далейшым з жэмай-

тамі (жмуддзю) і іншымі балцкімі групамі кансалідаваліся ў адзіны літоўскі этнас.

На пачатку II тысячагоддзя тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі р. Нараў насяляла група яцвяжскіх плямён. Існуе думка, што племянны саюз яцвягаў складаўся з чатырох плямён: судзінаў, дайновы, паляксянаў і ўласна яцвягаў. Як лічаць лінгвісты, мова яцвягаў была пераходная паміж балцкімі і славянскімі мовамі, але бліжэйшай да прускай, чым да літоўскай і латышскай. Адзначаюць уплыў яцвяжскай мовы на польскую, чым слушна тлумачыць чляненне польскай моўнай тэрыторыі на дзве часткі: усходнюю і заходнюю.

Найбольш спрэчным і дыскусійным застаецца пытанне пра межы рассялення яцвяжскіх плямён. Многія даследчыкі прытрымліваліся думкі, што першапачаткова яцвягі займалі больш шырокую тэрыторыю, чым тая, на якой яны вядомы паводле пісьмовых крыніц XIII ст. Адны вучоныя ўключаюць у склад яцвяжскай тэрыторыі Падляшша ў басейне сярэдняга цячэння Заходняга Буга, дзе затым узніклі ўсходнеславянскія гарады Драгічын (1142 г.), Бельск (1253 г.), Мельнік (1260 г.). Другія — яцвяжскімі лічылі таксама землі, размешчаныя па левых прытоках Нёмана — Молчадзі, Шчары, Росі і Свіслачы. У апошні час супраць думкі аб шырокім рассяленні яцвяжскіх плямён выступае большасць польскіх гісторыкаў, лінгвістаў, археолагаў. Старажытную яцвяжскую тэрыторыю яны абмяжоўваюць раёнам Сувалкіі ў паўночна-ўсходняй Польшчы.

В.В. Сядоў і некаторыя іншыя даследчыкі не згодны з абмежаваннем арэала яцвягаў пераважна Сувалкіяй і лічаць, на аснове даных гідранімікі і археалогіі, што яцвягі займалі большую тэрыторыю, уключаючы Нёманска-Бугскае міжрэчча. У правабярэжнай частцы Беларускага Панямоння лакалізуецца тэрыторыя яцвяжскіх плямён дайновы[18].

Яцвягі ўпершыню называюцца ў летапісе пад 983 г., калі яны былі часова пераможаны ў выніку паходу кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча. Барацьба паўднёварускіх князёў з ваяўнічымі яцвягамі працягвалася ў XI і XII стагоддзях. У 1038 г. на яцвягаў хадзіў Яраслаў Мудры, у 1112 г. валынскі князь Яраслаў Святаславіч, у 1196 г. князь Раман Мсціславіч. У 1205 г. яцвягі разам з літоўцамі зрабілі набег на Валынскую зямлю і дайшлі да гарадоў Турыйска і Чэрвеня. Асаблівага напружання дасягнула барацьба з яцвягамі ў часы княжання ў Галіцка-Валынскай зямлі Данілы Раманавіча. У 1227 г. яцвягі былі каля Берасця, але вымушаны адступіць. Даніла і Васілька Раманавічы ў 1248, 1253, 1258 гг. сумесна з польскімі князямі зрабілі тры вялікія паходы супраць яцвягаў[19]. Зямля яцвягаў была часткова падпарадкавана галіцка-валынскімі і мазавецкімі князямі.

У другой палове XIII ст. узмацніўся націск з боку нямецкіх крыжакоў на яцвягаў. Пасля

працяглай кровапралітнай барацьбы яцвягі, як і суседнія роднасныя ім прусы, былі канчаткова заваяваны крыжакамі. Нейкая іх колькасць перасялілася ў суседнія землі — Літву, Польшчу, тэрыторыю Беларусі. У Іпацьеўскім летапісе паведамляецца аб пасяленні ў наваколлі Гродна і Слоніма літоўскім князем Тройдэнам прусаў. Магчыма, гэтымі падзеямі тлумачыцца тое, што ў заходніх раёнах Беларусі з'явіліся назвы населеных пунктаў Яцвязь, Ядзьвінкі, Прусы, Прусікі. Сляды знаходжання дайновы захаваліся ў тапонімах Дзейнава, Дайнава, Дайноўка, якія лакалізаваны ў раёнах Валожына, Гродна, Слоніма, Івянца[20].

У Польшчы вывучаны курганы яцвягаў, якія датуюцца, пачынаючы з першых стагоддзяў нашай эры. Яцвяжскія курганы Сувалкіі складзены амаль цалкам з камянёў. Каменныя курганы III—IV стст. даследаваны на тэрыторыі Літвы. У Заходняй Беларусі раннія яцвяжскія могільнікі пакуль не знойдзены.

Аднак у Беларускім Панямонні выяўлены своеасаблівыя каменныя курганы X—XIII стст., падобныя на пахаванні яцвягаў. Яны плоскія, круглыя, вышынёй 0,5—0,8 м. Верхняя частка складзена з камянёў часам у некалькі радоў. Пахавальныя абрады — трупаспаленні і трупапалажэнні. Пры раскопках знойдзены жалезныя прылады працы і зброя, упрыгожанні славянскага і балцкага тыпаў, славянскія пасудзіны, што сведчыць аб працэсе славянізацыі балцкіх плямён. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што частка каменных курганоў належала славянізаваным яцвягам.

Насельніцтва гэтых зямель было ў той час пераважна славянскім. Там, дзе назіраецца канцэнтрацыя каменных курганоў, магчыма, захоўвалася доўга яцвяжскае насельніцтва. Верагодна, яно папаўнялася за лік бежанцаў у час нашэсця крыжакоў. У XIII—XIV стст. на змену курганам шырока распаўсюдзіліся каменныя могільнікі — невысокія збудаванні з камянёў. Яцвягі былі адным з кампанентаў у фарміраванні беларускай народнасці.

На тэрыторыі ўсходняй і паўднёва-ўсходняй Літвы, а таксама паўночна-заходніх раёнаў Беларусі распаўсюджаны помнікі, якія атрымалі назву «ўсходнелітоўскія курганы», і лічацца пахаваннямі балцкіх плямён сярэдзіны і другой паловы I тысячагоддзя н. э.

Вобласць іх распаўсюджання на захадзе абмежавана сярэднім цячэннем Нёмана, на поўначы — вярхоўем р. Швантойі, на поўдні ахоплівае басейн р. Меркіс. У межах Беларускага Панямоння падобныя курганы знаходзяцца пераважна ў вярхоўях Віліі. У Беларусі яны вывучаліся каля в. Гудагай Астравецкага, Засвір, Чорная Лужа Мядзельскага, Андрэеўцы, Рымшанцы, Маркененты Смаргонскага раёнаў, каля г. Смаргонь. Курганы звычайна размешчаны каля рэк ці азёр. Больш раннія маюць каля падэшвы вянкі з камянёў.

Для самых ранніх курганоў

IV—V стст. характэрны абрад трупапалажэння ў грунтовых ямах, які затым змяніўся трупаспаленнем. Пераважаюць курганы з 2—4 пахаваннямі, але трапляюцца нават з 9—10 крэмацыямі. У мужчынскіх пахаваннях прадметы ўзбраення — наканечнікі дзідаў, дэталі ад шчытоў (умбоны і ручкі). У курганах канца I — пачатку II тысячагоддзя прадметы ўзбраення сустракаюца толькі ў багатых магілах. У другой палове I тысячагоддзя атрымала шырокае распаўсюджанне пахаванне коней. Спаленага ці неспаленага каня звычайна хавалі асобна ад чалавека[21]. Археолагі звязваюць гэтыя пахавальныя помнікі з этнічнымі літоўцамі.

Літоўскія даследчыкі разглядаюць культуру ўсходнелітоўскіх курганоў як пераемніцу культуры штрыхаванай керамікі ва ўсходняй Літве і некаторых паўночна-заходніх раёнах Беларусі. На іх думку, у пісьмовых крыніцах X—XII стст. насельніцтва гэтай тэрыторыі выступае пад назвай «Літва», этымалогія якой канчаткова не вызначана. Усходняя і цэнтральная Літва, як мяркуюць, стала ядром раннефеадальнай літоўскай народнасці[22]. Аднак далейшая этнічная гісторыя насельніцтва суседніх раёнаў Беларусі, уключаючы Астравецкі, Ашмянскі, Смаргонскі, мела іншы накірунак і вяла да фарміравання тут беларускай народнасці.

На левабярэжжы Верхняга Нёмана ў V—VIII стст. жылі плямёны банцараўскай культуры. Да пахавальных помнікаў культуры доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі адносіцца курганны могільнік каля в. Сосенка ў Вілейскім раёне. Па форме і прапорцыях гліняныя ўрны амаль ідэнтычны кераміцы з культуры доўгіх курганоў Полаччыны і Смаленшчыны. Падобныя курганы былі выяўлены каля в. Занарач Мядзельскага р-на. Курганы належалі крывічам.

У басейне Верхняга Нёмана паўсюдна сустракаюцца славянскія курганныя могільнікі. Курганны могільнік каля в. Брацянка за 2 км ад Навагрудка ў XI—XII стст. з'яўляўся месцам пахавання жыхароў старажытнага Навагрудка. Пахавальны інвентар з курганоў каля в. Суляцічы мае рысы, характэрныя для дрыгавічоў, драўлян і валынян.

Вывучэнне асаблівасцей пахавальнага абраду і рэчавага інвентару дазволіла даследчыкам зрабіць выснову, што славянскае насельніцтва было змешаным. У паўднёвых і цэнтральных раёнах Беларускага Панямоння асноўную колькасць складаюць пахаванні дрыгавічоў і драўлян, у меншай ступені — валынян. У цэнтральных раёнах сустракаюцца пахаванні крывічоў. У паўночных раёнах побач з дрыгавіцкімі прысутнічаюць, несумненна, крывіцкія пахаванні.

Такім чынам, археалагічныя даследаванні дазваляюць вырашыць пытанні пра вытокі славянскай каланізацыі Панямоння. Яна здзейснівалася з розных бакоў: з зямель дрыгавічоў, валынян, крывічоў, драўлян, у меншай ступені мазаўшан. Узаемаадносіны прыйшоўшых сла-

вян з мясцовымі балтамі ў асноўным былі мірныя, што пацвярджае паўсюдна захаваўшаяся гідраніміка, шырока распаўсюджаныя змешаныя шлюбы. Этнічныя працэсы ў Верхнім Панямонні ўвогуле мелі такі ж самы напрамак, як па ўсёй тэрыторыі, дзе потым сфарміравалася беларуская народнасць. Толькі ў гэтым рэгіёне яны зацягнуліся на больш доўгі час.

**Перадумовы ўзнікнення беларускага этнасу.** На тэрыторыі Беларусі, пачынаючы з канца VI ст., адбывалася пранікненне славян у вобласці, дзе знаходзіліся балты, якія звычайна не пакідалі месц свайго пражывання. Першапачаткова балты і славяне жылі побач, аднак потым пачалі паступова змешвацца паміж сабой, і адбывалася славянізацыя дняпроўскага балтамоўнага насельніцтва.

Уплыў балтаў прасочваецца на знешнім выглядзе шматлікіх груп крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў. Існуе шэраг даных, што іх антрапалагічны тып сфарміраваўся ў выніку змяшэння і своеасаблівага сімбіёзу славян з балтамі.

Абагульненне вялікага матэрыялу археалагічных раскопак, даных антрапалагічнай, лінгвістычнай, этнаграфічнай і іншых навук прывяло да стварэння тэорыі субстратнага паходжання беларусаў. Сутнасць яе заключаецца ў тым, што ў выніку славянізацыі балцкага насельніцтва і змешвання з ім прышлых носьбітаў славянскай мовы намецілася аддзяленне часткі ўсходнеславянскай народнасці, што садзейнічала затым станаўленню беларускай мовы і народнасці[23]. Паводле даных археалагічных даследаванняў, адбывалася гэта на працягу доўгага часу ад рубяжа VII—VIII ст. да канца XIII ст.

Новыя археалагічныя матэрыялы, пра якія гаварылася вышэй, пацвярджаюць такую выснову аб перадумовах паходжання беларусаў. У складаным этнагенетычным працэсе на тэрыторыі Беларусі ў другой палове I тысячагоддзя нашай эры было тры стадыі. Да першай адносяцца археалагічныя помнікі банцараўскай культуры і культуры доўгіх курганоў паўночнай Беларусі VI—VII стст. У добра ўмацаваных гарадзішчах хавалася насельніцтва ў час ваеннай небяспекі, і тут была арганізавана яго калектыўная абарона[24]. Гарадзішчы-сховішчы з'яўляліся таксама рэлігійнымі цэнтрамі. Распаўсюджанымі былі неўмацаваныя паселішчы, якія можна разглядаць як пераходную форму ад родавай да сельскай абшчыны.

Другая стадыя датуецца VIII—IX стст. і характарызуецца больш інтэнсіўным пранікненнем славян у асяроддзе мясцовых плямён. Паміж славянамі і балтамі мелі месца мірнае суіснаванне, ваенныя сутыкненні, асіміляцыйныя працэсы, прычым асімілявалі не толькі славяне балтаў, але ў шэрагу выпадкаў славяне былі асіміляваны балтамі. Кантакты славянскай, балцкай і суседняй фіна-угорскай культур доўга ажыццяўляліся ў межах шырокай паласы, і працягласць іх была вялікай. Славянскія старажытнасці ранеӣ

X ст. цяжка аддзяліць ад славяна-балцкіх.

Трэцяя стадыя адносіцца да X—XI стст., калі моцна павялічваецца колькасць усходнеславянскага (крывіцка-дрыгавіцкага) насельніцтва, узнікаюць гарады, славяне становяцца асноўным насельніцтвам краю. Рассяленне славян мела вялікае прагрэсіўнае значэнне для гістарычнага лёсу Беларусі.

У выніку славяна-балцкага сінтэзу ў VIII—X стст. у Верхнім Падзвінні і Падняпроўі сфарміраваліся новыя ўсходнеславянскія, этнічныя супольнасці. У культуры і мове крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў перапляліся славянскія і балцкія элементы. Гэта былі якасна новыя прабеларускія ўтварэнні. Увабраўшы ў сваю культуру шэраг балцкіх элементаў, яны адрозніваліся спецыфічнымі рысамі славянскай культуры. Крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы паступова ўцягваліся ў працэс фарміравання беларускай народнасці.

Праблема этнічнага развіцця Кіеўскай Русі, вытокаў беларускай, рускай, украінскай народнасцей да канца не высветлена. В. В. Ключэўскі пісаў аб старажытнарускай дзяржаве, што яна «не была дзяржавай рускага народа, таму што яшчэ не існавала самога гэтага народа: да паловы XI ст. былі гатовыя толькі этнаграфічныя элементы, з якіх потым доўгім і цяжкім працэсам складваецца руская народнасць. Усе гэтыя разнапляменныя элементы пакуль былі аб'яднаны чыста механічна». В. В. Ключэўскі праніклíва адзначыў, што ўтварэнне вялікарускай народнасці звязана з каланізацыяй славянамі з Прыдняпроўя басейна Акі і Верхняй Волгі і было вынікам змяшэння славянскіх і мясцовых фінскіх (мурама, мера, весь) элементаў. Гэты працэс ён адносіў да XII—XIII стст.[25]. Такімі ж самымі былі перадумовы фарміравання беларускай народнасці.

У 20—30 гады для вызначэння этнічнай супольнасці ўсходніх славян IX—XII стст. выкарыстоўваліся розныя назвы — «рускія», «рускія славяне», «рускі народ», «усходнія славяне», «славяне»[26].

На пачатку 50-х гадоў стаў распаўсюджвацца тэрмін «старажытнаруская народнасць». Яго з'яўленне тлумачылася жаданнем адзначыць розніцу паміж усходнеславянскім насельніцтвам Кіеўскай Русі, уключаючы продкаў рускіх, украінцаў і беларусаў, ды назвай рускай (вялікарускай) народнасці XIV—XVI стст. Тэрмін быў прызнаны правамерным пасля публікацыі ў 1950 г. работы Сталіна «Марксізм і пытанні мовазнаўства» і хутка стаў хрэстаматыйным.

У разуменні тэрміна «старажытнаруская народнасць» вызначаюцца разыходжанні і непаслядоўнасць. Адны сцвярджаюць, што адзіная старажытнаруская народнасць была сапраўднай этнічнай супольнасцю, ва ўсялякім разе ў IX—XI стст[27]. Другія лічаць, што гэта народнасць не склалася канчаткова, і яе распад вызначаўся распадам

старажытнарускай дзяржавы на чале з Кіевам у час феадальнай раздробленасці XII—XIII стст. Эканамічныя сувязі паміж землямі па ўсёй тэрыторыі старажытнарускай дзяржавы былі слабымі. Моўныя, культурныя і іншыя этнічныя асаблівасці ўсходнеславянскіх груповак не паспелі сцерціся. У адзенні, упрыгожаннях, побыце, мове, вераваннях асобных галін усходніх славян захоўвалася шмат адрозненняў, якія захаваліся яшчэ ад племянных асаблівасцей.

У ходзе эканамічнага, сацыяльнага і дзяржаўнага развіцця старажытнай Русі ў XII ст. складваліся групы зямель і княстваў, што з'явіліся адной з передумоў узнікнення беларускай, рускай, украінскай народнасцей. Асобныя княствы былой Кіеўскай Русі пастунова аб'ядноўваліся ў групы, якія з'яўляліся папярэднікамі арэалаў будучых усходнеславянскіх народаў.

У другой палове XII — пачатку XIII ст. назіраецца ўтварэнне некалькіх груп зямель, унутры якіх зараджаліся эканамічныя і культурныя ўзаемасувязі: 1) Ноўгарадская і Пскоўская землі; 2) Уладзіміра-Суздальская, Разанская, Усцюжская, Мурамская; 3) Кіеўская, Чарнігаўская, Северская; 4) Галіцкая і Валынская; 5) Полацкая, Менская, Смаленская, Тураўская, Пінская, Гродзенская, Наваградская і інш. Ва ўтварэнні гэтых груп ужо намецілася выдзяленне вялікарускай, украінскай і беларускай народнасцей.

На пачатку XIII ст. у гарадоў Полацка, Віцебска, Смаленска пачыналі складвацца ўстойлівыя ўзаемныя гандлёвыя сувязі. Зблiжэнне іх гандлёвых інтарэсаў адлюстроўвалася ў заключэнні дагавора з Рыгай. У «Хроніцы Лівоніі» гаворыцца аб заключэнні дагавора Полацка з немцамі ў 1210 г. пры ўдзеле Смаленска. Упершыню Заходняя Дзвіна была аб'яўлена свабоднай для плавання купцоў на ўсім працягу ў дагаворы 1212 г. Полацка з Рыгай.

Важнай крыніцай з'яўляецца дагавор («Праўда») Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г., які распаўсюджваўся таксама на Полацк і Віцебск. Ён стаў асновай для арганізацыі гандлю па Заходняй Дзвіне на працягу доўгага часу. Сумесныя ўмовы гандлю з нямецкімі гарадамі выпрацоўваліся на з'ездах («снемах») прадстаўнікоў Смаленска, Полацка, Віцебска[28]. Усё гэта пацвярджае, што ў Полацкай і Смаленскай землях мелі месца кансалідацыйныя тэндэнцыі ў перыяд феадальнай раздробленасці.

Невыпадкова ў помніках пісьмовасці, якія звязаны з Полацкам, побач з агульнымі ўсходнеславянскімі моўнымі асаблівасцямі пастунова пачынаюць выяўляцца з'явы, якія сведчаць аб складванні беларускай мовы. Гэта назіраецца ў Смаленскай грамаце 1229 г., шэрагу полацкіх грамат другой паловы XIII ст.[29]

Існаванне Полацкай зямлі на чале з Полацкам, буйным эканамічным, палітычным і культурным цэнтрам заходніх зямель усходняга славянства, спрыяла




Старажытныя землі Беларусі ў XI—XIII стст.: 1 — цэнтры княстваў да іх распаду на ўдзелы; 2 — цэнтры ўдзельных княстваў у XII ст.; 3 — гарады, якія існавалі ў XI—XIII стст.; 4 — граніцы княстваў; 5 — сучасныя граніцы Рэспублікі Беларусь.

зараджэнню гаспадарчай і культурнай супольнасці гэтых земель і ўзнікненню ўмоў для фарміравання беларускай народнасці. Вакол Полацка і Смаленска ўзнік буйны мясцовы, смаленска-полацкі дыялект[30]. На ранняй стадыі ён адыграў значную ролю ў яе складванні.

Удзел нашчадкаў смаленска-полацкіх крывічоў у фарміраванні беларускага народа пацвярджаюць акрамя археалогіі даныя мовы, генетычна звязаныя, верагодней за ўсё, з крывіцкімі племяннымі дыялектамі. Паводле высновы лінгвістаў, старажытная смаленска-полацкая гаворка была прамежкавым звяном паміж гаворкамі паўночных крывічоў, з аднаго боку, і дрыгавічоў — з другога. На мяжы рассялення крывічоў-палачан і дрыгавічоў была шырокая паласа змяшэння гэтых дзвюх этнічна блізкіх груп усходнеславянскага насельніцтва, што мела ўплыў на працэс этнічнай кансалідацыі беларусаў[31].

У заходніх абласцях Беларусі доўга пражывалі асобныя балцкія і змешаныя балцка-славянскія групы насельніцтва. Даследчыкі вызначаюць для IX—XI стст. балцка-славянскую мяжу па лініі Гародня — Ліда —

Іўе — Вілейка — Мядзель — Браслаў. У XII—XIII стст. яна адсунулася яшчэ больш на захад да граніц сучаснай Літвы і Латвіі.

Змяшэнне балтаў са славянамі адбывалася не толькі на тэрыторыі Беларусі. У нейкай меры яно назіраецца таксама на тэрыторыі Літвы і Латвіі.

Так, у XII—XIII стст. на тэрыторыі Латвіі існавалі княствы Кукенойс і Герцыке, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад Полацка і кіраваліся князямі, відаць, з полацкай дынастыі, іх сваякамі ці намеснікамі. Выказана думка, што найбольш старажытная частка горада Вільні (Вільнюса) таксама была заснавана крывічамі ў XI—XII стст. Невыпадкова ў складзе аўкштайтаў выдзяляецца лакальная група дзукаў, у лексіцы, матэрыяльнай культуры і побыту якіх шмат агульнага з беларусамі. Паступовая каланізацыя ўсходнімі славянамі (пераважна крывічамі і дрыгавічамі) зямель Заходняй Беларусі і частак Латвіі і Літвы адлюстравалася ў шэрагу змен у матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва сумежных раёнаў.

Адначасова сярод славянскага насельніцтва працягвалі існаваць групы балтаў, што абумовіла захаванасць балцкіх племянных назваў, пашыраных у Беларусі,— «лотва», «ятвягі», «дайнова», «прусы» і інш.[32].

На думку даследчыкаў, геаграфічны арэал тапонімаў з коранем «гуд» (Гудагай, Гудзенай і т. п.) акрэслівае з даўніх часоў кантактную зону беларускага і літоўскага насельніцтва. Адсюль «гуды», «гудасы» — старажытная назва беларускамоўнага насельніцтва Усходняй Літвы і беларусаў сумежных тэрыторый.

У выніку развіцця тых асаблівасцей, якія мелі месца ў старажытных землях Беларусі і паглыбляліся ў XII стагоддзі пасля палітычнага распаду Кіеўскай Русі, складваўся беларускі народ (этнас).

У другой палове XIII — пачатку XIV стагоддзя насельніцтва тэрыторыі Беларусі, асабліва прадстаўнікі феадальнага слоя, прынялі актыўны ўдзел у стварэнні Вялікага княства Літоўскага, у складзе якога ў наступныя стагоддзі працягвалася фарміраванне беларускага этнасу.

## 3. Шматукладныя сацыяльна-эканамічныя адносіны

**Сельская абшчына.** Вывучэнне шматлікіх канкрэтных матэрыялаў пацвердзіла, што менавіта ў апошняй чвэрці I тысячагоддзя н. э. адбываліся буйныя перамены ў сацыяльна-эканамічным развіцці ўсходніх славян[33]. Іх гаспадарка на працягу значнага часу па сутнасці ўжо была земляробчай. На змену падсечнаму земляробству прыходзіла ворыўнае, якое садзейнічала індывідуалізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Рода-

выя адносіны хутка распадаліся.

Пераход да ворнага земляробства, змены ў іншых галінах вытворчасці: жывёлагадоўлі, рамястве, гандлі, а таксама пачатак узнікнення класавых адносін — усё гэта прыводзіла да распаду родавай абшчыны і фарміравання сельскай. Сельская абшчына, ці — як яна названа ў крыніцах — «верв», «мір», становіцца новай ячэйкай грамадства, заснаванай не на кроўнародпасных сувязях, а тэрытарыяльных. На змену родаваму ладу прыйшла суседская (сельская) абшчына, якая складалася з асобных сямейных сялянскіх гаспадарак.

Археолагі прыйшлі да высновы, што абшчына знайшла сваё адлюстраванне ў комплексе помнікаў — групе блізка размешчаных паселішчаў. Вывучаючы іх, удалося ахарактарызаваць тыпы славянскай абшчыны: вялікасямейную — VI—VII стагоддзяў, земляробчую (суседска-вялікасямейную) — VIII—IX стагоддзяў і суседскую — X—XI стагоддзяў[34]. Гэта разнавіднасці сельскай абшчыны, якая складвалася на патрыярхальнай аснове і захоўвала перажыткі папярэдніх эпох.

У вялікасямейнай абшчыне VI—VII стст., якая налічвала прыкладна 150—200 чалавек, спалучалася калектыўная ўласнасць на зямлю і прыватная (асабістая) на жыллё ды гаспадарчыя пабудовы, што пацвярджаецца таксама даследаваннямі на тэрыторыі Беларусі[35].

Абшчына складалася з вялікіх патрыярхальных сем'яў, якія разам апрацоўвалі зямлю, збіралі ўраджай ды затым яго размяркоўвалі паміж сабой. Структура славянскага (таксама як балцкага) грамадства была прыстасавана да вядзення падсечнай сістэмы земляробства. Этнографы называюць такую абшчыну суседскародавай. Патрыярхальная сям'я распадалася на асобныя манагамныя аднашлюбныя сем'і.

У першабытнаабшчыннай гаспадарцы не было неабходнасці рэгламентаваць формы валодання зямлёй. Права на зямлю вызначалася звычаем, агульнапрызнанымі пачаткамі. Дакладных межаў племянных валоданняў не існавала.

Асноўным напрамкам далейшага сацыяльнага развіцця стаў пераход ад уласнасці родавай да ўласнасці больш малых калектываў, а потым да ўласнасці сямейнай і індывідуальнай. Фарміраванне гаспадаркі, якая вялася сіламі адной вялікай ці малой сям'і, было вынікам і адначасова ўмовай станаўлення сялянства.

Этнаграфічныя даныя пацвярджаюць, што накапленне багацця адбывалася ў першую чаргу ў сем'ях рода-племянных правадыроў. Распараджэнне багаццямі абшчыны было важным пачаткам для прысваення гэтага багацця. Рабы, як і іншая ваенная здабыча, станавіліся ўласнасцю ў першую чаргу племянной вярхушкі — правадыроў, дружыннікаў, іх бліжэйшых сародзічаў.

Гнёзды славянскіх паселішчаў VIII—IX стст. (тэрытарыяльныя абшчыны) мелі больш складаную структуру ў параўнанні з вялікасямейнай абшчынай VI—

VII стст. У такім гняздзе паселішчаў найбольш значным з'яўлялася вялікае паселішча — абшчынны цэнтр, вакол якога сканцэнтроўваліся менш буйныя паселішчы — патраніміі і малыя пасёлкі — «сямейныя абшчыны».

Асноўнай гаспадарчай адзінкай заставалася вялікая патрыярхальная сям'я, нягледзячы на тое, што пачаўся працэс выдзялення малых сем'яў. Паселішчы патрыярхальных сем'яў размяшчаліся на зямлі абшчыны на значнай адлегласці адно ад другога. Гэта тлумачыцца тым, што патрыярхальныя сем'і пачалі карыстацца зноў разворваемымі ўчасткамі зямлі, якія з цягам часу пераходзілі ў іх уласнасць. Са з'яўленнем адасобленай уласнасці сярод патрыярхальных сем'яў вылучаліся найбольш уплывовыя і багатыя сем'і.

Працяглы час вялікія і малыя сем'і суіснавалі. Гэта пацвярджаецца данымі археалагічных даследаванняў. Сельскія курганныя могільнікі ў Беларусі ўключаюць насыпы розных памераў, больш усяго вышынёй 1—3 м, але ёсць курганы памерам 4—5 м. Пры вывучэнні курганнага могільніка каля в. Ізбішча Лагойскага раёна высветлена, што членам абшчыны, пахаваным у вельмі вялікіх курганах, пакладзены інвентар (у мужчынскіх пахаваннях звычайна сякера, нож, гаршчок), часам бяднейшы, чым у сярэдніх і нават малых насыпах. Растлумачыць гэта можна тым, што мнагалюдным сем'ям было пад сілу насыпаць больш буйны курган над памёршым сародзічам, чым малым сем'ям, якія ў шэрагу выпадкаў былі заможнымі, і нябожчыкам на «той свет» клалі па язычніцкаму звычаю значную колькасць упрыгожанняў і іншых рэчаў, якімі ён карыстаўся пры жыцці.

Земляробчай (суседска-вялікасямейнай) абшчыне VIII—IX стст. адпавядае тэрмін «верв». Першапачаткова гэта назва магла адносіцца да адасобіўшайся патрыярхальнай сям'і, затым так сталі называць сялянскую абшчыну. У тэндэнцыях развіцця землеўласніцкай абшчыны апошняй чвэрці X ст. усё больш выяўляліся пачаткі фарміравання індывідуальных сялянскіх гаспадарак, як вынік распаду вялікіх патрыярхальных сем'яў.

Узросшы ўзровень агрыкультуры дазваляў атрымаць устойлівы прыбавачны прадукт сіламі меншай колькасці вытворцаў. Такі працэс, адзначаўшы пераход да суседскай абшчыны, назіраўся ў канцы VIII — пачатку IX ст.

«Верв», ці «мір»,— гэта ўжо не патрыярхальная, а суседская абшчына, якая ведала прыватную ўласнасць і індывідуальную гаспадарку. Такія абшчыны складаліся з асобных сямей — вялікіх і малых, генетычна звязаных паміж сабой, стадыяльна розных, але храналагічна часта суіснуючых.

Далейшая эвалюцыя сельскай абшчыны адбывалася ў двух напрамках. Адбываўся марудны працэс эканамічнай дыферэнцыяцыі абшчыннікаў, расла прыватная сялянская ўласнасць, а затым феадальная ўласнасць на

зямлю. Меў месца захоп абшчыннай зямлі і падпарадкаванне свабодных абшчыннікаў дзяржаўнай уладай. Абодва гэтыя працэсы ўзаемаперапляталіся і развіваліся адначасова.

Працэс узнікнення прыватнай уласнасці на зямлю быў паступовым і працяглым. Вывучаючы лёс сельскай абшчыны, Ф. Энгельс заўважыў, што ў сувязі з развіццём вытворчых сіл і ростам маёмаснай няроўнасці «глыбей падрываецца старое абшчыннае землеўладанне» і «абшчына ідзе насустрач свайму разлажэнню, ператвараючыся ў вёску малых уласнікаў-сялян»[36]. Аднак як калектыўная (абшчынная) сялянская зямельная ўласнасць, так і прыватная былі дафеадальнымі формамі зямельнай уласнасці. У працэсе ўтварэння дзяржавы, узнікнення і развіцця феадальных адносін уласнасць сялян на зямлю паступова знікала.

Захаваныя нямногія даныя даюць нам магчымасць меркаваць, што на першых ступенях працэсу феадалізацыі сяляне-абшчыннікі яшчэ карысталіся ў індывідуальным парадку зямельнымі ўчасткамі. Па некаторых крыніцах выяўляецца існаванне ў Смаленскай зямлі (у яе складзе знаходзілася тэрыторыя Усходняй Беларусі) абшчыны-верві «дзедзічаў»[37]. Названыя «дзедзічы» карысталіся спадчынным правам на зямлю.

Далейшае развіццё вытворчых сіл, у асаблівасці распаўсюджванне жалезных прылад, пашырэнне ворыўнага земляробства і ўдасканаленне яго сістэм, узнікненне рамесніцкай вытворчасці і гандлю, зараджэнне гарадоў (Кіеў, Ноўгарад, Полацк і інш.) абумовілі распад першабытнаабшчыннага ладу.

З'яўленне багатых і бедных патрыярхальных сем'яў паступова прывяло да ўтварэння племяннойзнаці, якая прэтэндавала на абшчынную ўласнасць, пачынаючы захопліваць уладу ў племянных цэнтрах і ва ўсім племені. Так змаглі з'явіцца племянныя князі. Племянная знаць палачан знаходзілася ў «градзе» Полацку, куды паступала даніна з валасці, якой валодаў полацкі князь і яго спадручныя.

Баяры, як уплывовая сацыяльная групоўка, вядуць сваё паходжанне ад мясцовай рода-племянной знаці. Без садзейнічання знаці, якой падпарадкоўвалася мясцовае насельніцтва, наўрад ці магчыма было ўмацаваць княскую ўладу. Знаць служыла князю, але па сутнасці дзейнічала ў сваіх інтарэсах, як фарміруючаяся пануючая праслойка грамадства.

Маюцца ўскосныя даныя аб рода-племянной знаці ў крывічоў, славен (наўгародскіх) і іншых племянных аб'яднанняў. З выгнаннем прэч варагаў, якім крывічы плацілі даніну ў IX ст., наступае перыяд развіцця, калі мясцовая знаць узнавіла сваю ўладу над абшчыннікамі і даніна, якую яны часова плацілі варагам, поўнасцю перайшла ў рукі мясцовай племяннойзнаці.

Сяляне-земляробы, якія знаходзіліся ў складзе абшчыны, у X—XI стагоддзях вялі сваю індывідуальную гаспадарку і былі падпарадкаваны толькі дзяржаве, выконваючы павіннасці.

Ворыўная зямля абшчыны-верві знаходзілася ва ўладанні сялян-уласнікаў і перадавалася па спадчыне. Ёй належала права карыстання непадзеленымі ўгоддзямі (лясамі, выганамі, вадаёмамі) і права агульнага ўласніка на ўсю зямлю. У абшчыне адбываўся працэс сацыяльнай дыферэнцыяцыі сялянскіх гаспадарак. Абшчына-верв, якая склалася на грунце земляробчай (суседска-вялікасямейнай) абшчыны, у многім паўтарала свой прататып (самакіраванне, кругавая парука, калектыўная адказнасць за злачынства на сваёй тэрыторыі і г. д.).

Такім чынам, аб'яднаныя ў сельскія абшчыны сем'і мелі сваёй сацыяльнай асновай калектыўную ўласнасць на зямлю. Апрацоўка зямлі праводзілася сіламі сям'і, якой належала атрыманая прадукцыя. Калектыўная ўласнасць ажыццяўлялася на раллю, паплавы, воды. Абшчына характарызавалася агульным уладаннем сродкамі вытворчасці, поўным ці частковым самакіраваннем. На першым этапе зямля была ўласнасцю ўсіх членаў абшчыны. Пазней індывідуальная ўласнасць на рухомую маёмасць спалучалася з абшчыннай зямлёй, якая паступова пераходзіла ў прыватную ўласнасць асобных сем'яў. З узнікненнем дзяржавы абшчына страціла значэнне ўсёабдымнага сацыяльнага інстытута і ператварылася ў ніжэйшае звяно грамадскай структуры, у сельскую арганізацыю непасрэдных вытворцаў.

**Шматукладнае грамадства. Зараджэнне феадалізму.** Дынаміка грамадскага развіцця ўсходніх славян была такая, што цяжка высветліць, калі канчаецца ваенная дэмакратыя і пачынаецца феадалізм. Утваралася шматукладнае грамадства, дзе феадальны ўклад паступова пераважаў над іншымі (рода-племянным, рабаўладальніцкім). Сацыяльная рознаўкладнасць — характэрная рыса многіх грамадстваў, якія ў сваім развіцці выйшлі за межы першабытнай абшчыны. Разам з феадальнымі землеўладальнікамі і залежным сялянствам паўсюдна існавалі рэшткі слоя дробных уласнікаў.

Існуюць сведчанні аб вывазе вялікай колькасці рабоў з краін Усходняй Еўропы, у тым ліку славянскіх, у IX—X стст. Але адсутнічаюць даныя аб значным выкарыстоўванні працы рабоў у сельскагаспадарчай вытворчасці самой Кіеўскай Русі, асабліва ў XI—XII стст. Такім чынам, тут праца рабоў не магла канкурыраваць з працоўнай дзейнасцю вольных земляробаў.

На працягу доўгага часу ў славян і балтаў існавала вольнае сялянства, былі значныя рэшткі рода-племяннога ладу, абшчынных адносін. У параўнанні з іншымі краінамі мелі месца менш цяжкія формы феадальнай залежнасці сялян.

Да канца X ст. асноўным слоем усходнеславянскага грамадства заставаліся земляробы-абшчыннікі. Побач з тым у IX—XI стст. марудна развіваўся працэс феадалізацыі. Аб станаўленні класавых адносін сведчыць наяўнасць дружыны, залежны стан асобных катэгорый насельніцтва, у першую чаргу чэлядзі.

Дружыннікі альбо баяры атрымлівалі ад князёў падараванні — права збіраць даніну і «кармленні» (збор даходаў з воласці). Менавіта так складвалася васальная залежнасць, якая выглядала як права збірання даніны з пэўнай тэрыторыі дружыннікамі ў якасці васалаў вялікага князя.

Эксплуатацыя дзяржавай (князем) у выглядзе даніны сельскай вытворчасці пацвярджае наяўнасць феадальнага па тэндэнцыі развіцця грамадства, дзе была дзяржаўнай арганізацыя, якая дапамагала князям, дружыннікам, баярам ажыццяўляць эканамічнае і палітычнае панаванне над працаўнікамі ўжо ў IX—XI стст.

Сялянства не было адзіным слоем тагачаснага грамадства. Яно складвалася з шэрага катэгорый — сялян, якія траплялі ў залежны стан. Кожная з катэгорый мела сваю назву (смерды, закупы, радовічы, прошчанікі, ізгоі і інш.).

Асноўнай масай насельніцтва ва ўсходніх славян з'яўляліся свабодныя абшчыннікі, «людзі», як яны названы ў крыніцах[38]. Сацыяльнае становішча «людзей» з цягам часу змянялася. У працэсе феадалізацыі грамадства частка іх пераходзіла ў залежны стан. Другая частка заставалася адносна свабоднай. Іх суадносіны змяняліся, але вольныя абшчыннікі захоўваліся доўгі час.

Існуе некалькі меркаванняў аб сацыяльнай сутнасці смердаў. Верагодней за ўсё яны ўяўлялі сабой несвабодных ці паўсвабодных княскіх даннікаў, што сядзелі на зямлі і неслі павіннасці ў карысць князя.

У X ст. залежных людзей называлі «чэляддзю». Гэты тэрмін ужываўся ў XI—XIII стст. У разуменні сучаснай гістарычнай навукі слова «чэлядзь» азначала самае шырокае кола людзей, якія знаходзіліся ў залежнасці ад гаспадара і працавалі на яго. Чэлядзь упамінаецца ў Менску і яго акрузе ў сувязі з падзеямі 1084 г., калі Уладзімір Манамах разбурыў горад і не пакінуў тут «ні чалядзіна, ні скаціны».

У складзе чэлядзі былі катэгорыі насельніцтва, пазбаўленыя асабістай свабоды. Іх называлі халопамі. У гістарычнай літаратуры халопаў звычайна лічаць рабамі. Рабаўладанне ва ўсходніх славян з'яўлялася перажыткам рода-племяннога ладу, мела патрыярхальны характар. У IX—X стст. чэляддзю сапраўды называлі рабоў. У далейшым тэрмін «чэлядзь» стаў ужывацца да больш шырокага кола залежнага насельніцтва. З сярэдзіны XI — пачатку XII ст. яго паступова змяніла назва «халопы».

Ператварэнне раней свабодных абшчыннікаў у феадальназалежных сялян адбывалася рознымі шляхамі. Гэта быў павольны працэс, які адбываўся на працягу некалькіх стагоддзяў з дапамогай дзяржаўнай улады. Цяжка вызначыць мяжу, якая аддзяляе даніну ад феадальнай рэнты. У іншых выпадках гэта наогул зрабіць немагчыма.

У пачатковы перыяд гісторыі раннесярэднявечных зямель Беларусі існавала вярхоўная зя-

мельная ўласнасць дзяржавы, і княская ўлада пастулова адчужала дзяржаўныя землі разам з сялянамі. У летапісе пад 862 годам сказана, што князь Рурык, знаходзячыся ў Ноўгарадзе, раздаваў «мужам сваім гарады, таму — Полацк, таму — Растоў, другому — Белавозера». Гаворка ідзе аб наданні Рурыкам сваім дружыннікам права збіраць даніну з пералічаных гарадоў, у тым ліку з іх воласці. Тут праглядаюцца прыкметы васалітэта. Гэта найбольш старажытнае сведчанне аб тым, што ва ўсходнеславянскіх землях васал-дружыннік нёс князю-сюзярэну службу за лён, які складаўся з даніны.

Тэрмін «муж» азначае чалавека, набліжанага да князя, які выконвае яго даручэнні і якому ў кіраванне і для збірання даніны даецца горад з воласцю. Паступова «мужы» з разнастайнымі адзначэннямі (добрыя, лепшыя і інш.) пачалі называцца баярамі.

У паведамленнях летапісаў пра падзеі, што адбываліся ў 980, 1128 гадах, аб Полацкай зямлі гаворыцца як «отчине» Рагнеды, яе сына Ізяслава і іх нашчадкаў, якія ўвесь час варагуюць з кіеўскімі князямі. Слова «отчина» першапачаткова азначала — зямля продкаў, бацькаўшчына. З XII—XIII стст. пад ёй пачалі разумець уласнасць роду — «вотчину». Полацкія князі «отчину» сваю ўзялі па спадчыне ад бацькі Рагнеды Рагвалода, а не ад падаравання кіеўскага князя Уладзіміра.

Усе крыніцы адзначаюць асаблівасць Полацка — існаванне тут дынастыі крывіцкіх князёў, правы якой захоўваліся на працягу многіх пакаленняў. З 12 сыноў Уладзіміра Святаславіча толькі адзін Ізяслаў здолеў перадаць перад смерцю Полацкую зямлю свайму сыну Брачыславу. Полацкія князі, якія ў летапісах называюцца крывіцкімі, з'яўляліся сюзярэнамі тэрыторыі, дзе ажыццяўлялася іх улада, як гэта назіралася ў іншых сярэдневечных дзяржавах. Фарміраванне межаў уладанняў полацкага князя ў якасці сюзярэна краіны адбывалася ў X—XI стст.

Летапіс перадае пад 1128 г. паданне, якое тлумачыць асобнае становішча полацкіх Рагвалодавічаў у параўнанні з іншымі Рурыкавічамі тым, што Уладзімір Святаславіч назаўсёды абмежаваў правы Ізяслава і нашчадкаў толькі Пола[illegible] княствам з-за віны Рагн[illegible] якая зрабіла замах на жы[illegible] кіеўскага князя. Калі Улад[illegible] аддаў Полацкае княства Ізя[illegible]ву, праз некаторы час По[illegible] у палітычных адносінах [illegible] адасабляецца ад Кіева і пра[illegible]вае заставацца бацькаўшчы[illegible] нашчадкаў Ізяслава — Брач[illegible]лава, Усяслава і іншых п[illegible]стаўнікоў полацкай княскай дынастыі.

У XII ст. у Полацкай зямлі назіраецца раздзяленне на «отчины» асобных ліній нашчадкаў Усяслава. Глебавічы захоўвалі за сабой Менск і некаторыя іншыя гарады, Барысавічы — Друцк, Васількавічы — Віцебск. Пасля смерці Усяслава ў Полацку, відаць, пачаў княжыць яго сын Барыс.

Улада полацкага князя над

вотчынай мела для яго значэнне, паколькі сама гэта зямля была заселена сялянамі, уяўляла для полацкіх князёў матэрыяльныя каштоўнасці. Князі мелі патрэбу ў «данях», «кармленні» і іншых прыбытках, атрымліваемых з насельніцтва («людзей»). Без такіх даходаў князь і яго дружына не маглі весці ваеннае жыццё, быць узброенымі ды ўдзельнічаць у войнах і паходах.

У падрабязным паведамленні аб падзеях у Полацкай зямлі, якое змешчана ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 годам, гаворка ідзе пра «жизнь» як валоданні полацкіх князёў. Тэрмін «жизнь» у старажытных летапісах азначае асабістую ўласнасць, відаць, таксама сёлы і нівы. У летапісе гаворыцца пра «жизнь» дружыннікаў друцкага князя, што асабліва цікава. Верагодна, у Полацкай зямлі ў XII ст. кармленне азначала права збіраць даходы з воласці і было падобнае да феадальнага ўмоўнага трымання.

Знакамітая Любечская пастанова 1097 г. пацвердзіла ў Рускай зямлі спадчынны прынцып валодання валасцямі («отчинами»), паводле формулы «няхай кожны трымае зямлю свайго бацькі». У Любечскім з'ездзе князёў прымаў удзел тураўскі князь Святаполк, які атрымаў вялікую тэрыторыю з гарадамі Туравам, Пінскам, Берасцем ды Пагарыннем, а вялікі князь Кіеўскі — Кіеўскае княства і Наўгародскую зямлю.

Полацкія князі не ўдзельнічалі ў Любечскім з'ездзе, яны былі незалежнымі правіцелямі Полацкага княства. Аднак у Полацкай зямлі дзейнічаў таксама прынцып валодання валасцямі па спадчыне. Рагвалод Барысавіч, знаходзячыся на троне ў Полацку ў 1158 г., палічыў немагчымым перадаць Ізяслаўль на Свіслачы з воласцю Усеваладу Глебавічу, таму што гэты горад як бацькаўшчына павінен быць аддадзены Брачыславу Васількавічу. Усевалад замест Ізяслаўля атрымаў ад полацкага князя горад Стрэжаў.

У васальнай залежнасці ад полацкіх князёў знаходзіліся землі ў ніжнім цячэнні Заходняй Дзвіны (Даўгавы) ва Усходняй Прыбалтыцы. Заходнія хронікі паведамляюць, што «кароль» з Полацка збіраў даніну з ліваў. Полацкія князі выкарыстоўвалі атрады ліваў у час вайны. Так было ў 1181 г., калі «Ліб і Літва» ўдзельнічалі ў сумесным паходзе з палачанамі. Паводле паведамленняў нямецкай хронікі, адной з умоў мірнага дагавору 1210 г. Рыгі з полацкім князем было пацвярджэнне таго, каб «каралю (полацкаму) штогод плацілась неабходная даніна лівамі ці за іх епіскапам (рыжскім)».

Латгалы, як і лівы, плацілі даніну полацкаму князю ды пастаўлялі дапаможнае войска. У паўднёвай частцы Латгаліі на беразе Даўгавы знаходзіліся два галоўныя ўмацаваныя пункты — Кукенойс (Кокнесе) і Герцыке (Ерсіка). У Кукенойсе на пачатку XIII ст. княжыў Вячка (Вячаслаў), напэўна, з дынастыі полацкіх князёў. Вячка з'яўляўся ў той жа час землеўладальнікам. Акруга Кукенойс уключала ворную зямлю і іншыя ўгоддзі. а таксама «людзей». якія

неслі службу на карысць гаспадароў.

Герцыке была багатай рэзідэнцыяй праваслаўнага князя Усевалада (Вісвальдзіса) з яго дружынай, які прызнаваў, як і Вячка, верхавенства князя ў Полацку. Па апісанню Генрыха Латвійскага, у 1209 г. замак Герцыке ўяўляў сабой добраўпарадкаваную княскую вотчыну з чэляддзю, жывёлай, збудаваннямі і іншым скарбам. Усеваладу належала звыш дзесяці замкаў (пагостаў) з блізляжачымі вёскамі, ворнымі землямі ды сенажацямі[39].

Можна меркаваць, што ў Полацкім княстве не занятая асобнымі феадаламі зямля лічылася дзяржаўнай, і, каб уступіць ва ўладанне ёй, патрэбна было даванне ад імя князя. У Полацкай зямлі дзядзька карыстаўся перавагай перад пляменнікамі, каб заняць лепшую воласць.

Полацкі князь лічыўся галавой княства, а калі ў XII ст. Полацкая зямля распалася, мясцовыя князі з'яўляліся валадарамі больш дробных княстваў-валасцей (Менскага, Друцкага, Віцебскага, Ізяслаўскага, Лагойскага ды інш.). Фармальна, мясцовым князям належала ўлада (упраўленне, суд, войска і г. д.). Фактычна, яны павінны былі падзяляць уладу з іншай знаццю.

Прычыны пераходу да феадальнай раздробленасці трэба бачыць у з'яўленні і распаўсюджанні феадальнага землекарыстання, з чым звязана ўзнікненне баярскіх сёл. Эксплуатацыя залежных сялян у баярскіх вотчынах стала грунтам эканамічнай сілы пануючага класа. Адбываўся працэс паступовага асядання дружыны на зямлю, у выніку чаго князь жадаў умацаваць сваё асабістае княства, сваю «вотчыну». Феадальнай раздробленасці садзейнічаў таксама рост гарадоў, якія станавіліся менш залежнымі ад Полацка.

Да пачатковых форм эксплуатацыі ва ўсходніх славян адносяць, побач з рабствам, данніцтва, якое развівалася з кантрыбуцыі, калі вяліся войны з мэтай рабаўніцтва. Даннікі ў сваёй гаспадарцы былі падобнымі да феадальна-залежных сялян, у якіх прыбавачны прадукт забіраўся шляхам пазаэканамічнага прымусу. Данніцтва паводле эканамічнай структуры і па сваіх тэндэнцыях адносіцца да феадалізму ці вельмі блізка да яго.

Збор дароў з свабоднага насельніцтва той тэрыторыі, якой «валодаў» (упраўляў) князь, называўся палюддзем. Паступова даніна станавілася феадальнай рэнтай. З умацаваннем феадальнай уласнасці ўсё больш распаўсюджваліся аброчныя павіннасці — рэнта прадуктамі. Натуральныя формы рэнты, вядомыя пад старой назвай «даніна» і «палюддзе», засведчаны ва ўсходніх славян у раннесярэднявечны перыяд. Паводле ўстаўной граматы Смаленскага князя Расціслава (1136 г.), з мясцовага насельніцтва, у тым ліку з жыхароў Копысі, Крычава, паступалі да князя ўлічваемыя ў грашах «даніна» і «палюддзе».

З аброкам натурай збліжаліся «кармленні», пра якія гаварылася вышэй. Памеры аброку паступова ўзрасталі. Трапіўшы ў залежнасць ад буйных землеўла-

дальнікаў, сяляне працягвалі ўплочваць у карысць дзяржавы ўстаноўленыя паборы з «дыма» (гаспадаркі). На сялян прыходзіўся і цяжкі збор у карысць царквы, які называўся «дзесяцінай».

Гістарычныя ўмовы першых стагоддзяў феадальнай эпохі абумовілі працэс узнікнення розных форм феадальнай залежнасці. Сяляне станавіліся закупамі, радовічамі, уключаліся ў чэлядзь, закладваліся ў халопы. Крыніцы XII—XIII стст. называюць асноўныя віды феадальнага землеўладання: баярскае, княскае, царкоўнае.

У духоўнай грамаце XIII ст. валынскі князь Уладзімір Васількавіч завяшчаў з непасрэднага свайго ўладання жонцы Вользе Раманаўне г. Кобрын і сяло Гарадзел. Людзі, якія жылі ў сяле, абавязаны былі «страдаць» (відаць, несці падымны падатак) на княгіню.

Аб адной з многіх павіннасцей, якія неслі залежныя ад феадала людзі,— «лоўчым», гаворыцца ва ўстаўной грамаце 80-ых гадоў XIII ст. валынскага князя Мсціслава. Сяляне з сёл каля Берасця (Брэста) павінны былі ўносіць на ўтрыманне княскіх слуг аброк натурай, куды ўваходзілі мёд, авечкі, лён, пячаны хлеб, авёс, жыта, куры. Жыхары Берасця ў пакаранне за выступленне супраць князя плацілі «лоўчае» кунамі, гэта значыць, у грашовай форме.

У Полацкай зямлі, як і ў іншых буйных княствах, пануючы слой уяўляў сабой у нейкай меры іерархічную арганізацыю, якую ўзначальваў полацкі князь. Ваенная дружына была важнай апорай княскай улады. Дружыннікі акружалі князёў, падзялялі ўсе іх інтарэсы. З імі князь радзіўся па пытаннях арганізацыі паходаў, а таксама суда і адміністрацыйнага кіравання.

Калі князь перамяшчаўся на новае княства, дружына ішла за ім. Паводле паведамлення летапісу, Святаполк Ізяславіч, які быў у 1088 г. тураўскім князем, а затым перайшоў на вялікакняскі стол у Кіеве, меў сваю тураўскую «дружыну», «маладую», «несмышлёную», «новую», як яе назваў летапісец, абражаны за старую вопытную кіеўскую дружыну.

Аб дружынніках мінскага князя Глеба ў Іпацьеўскім летапісе гаворыцца пад 1116 г. З імі Глеб выйшаў для перагавораў з Манамахам і паабяцаў «ва ўсім слухацца Уладзіміра». Гэтыя словы выражалі васальную залежнасць Глеба ад Уладзіміра Манамаха, якая выглядала сімвалічнай і была нядоўгай. Аднак адсюль вынікае, што ў Полацкай зямлі выконваліся працэдурныя фармальнасці, якія суправаджалі ўступленне князёў у васальную залежнасць.

Дружыны полацкіх князёў падзяляліся на групы. На першым месцы была «старэйшая» дружына. Гэта «баляры», «сільныя мужы», вядомыя па жыцію Ефрасінні. Малодшая дружына («дзецкія») жыла пры двары князя. З яе выходзілі слугі князя, яго целаахоўнікі, малодшыя службовыя асобы. «Дзецкі» папярэдзіў полацкага князя ў 1158 г. аб рыхтаваўшымся на яго замаху і параіў Рагвалоду Бары-

Археалагічныя раскопкі Менска (1984 г.).

савічу вярнуцца з паўдарогі ад Полацка назад у Бельчыцы, дзе размяшчаўся княскі двор.

«Мужы» — воіны ўваходзілі ў склад «малодшай» дружыны або зліваліся з гарадскім насельніцтвам, выступалі ў якасці «вояў» гарадскіх апалчэнняў — «палкоў». «Полацкі полк» названы ў Іпацьеўскім летапісе.

Напэўна, у XII ст. дружынныя адносіны перараслі ў Полацкай зямлі ў васальныя. Сыны і ўнукі Усяслава, які памёр у 1101 г., неаднаразова ў час войнаў дзейнічалі «ўсёй браццяю». У 1106 г. яны з дружынамі зрабілі няўдалы паход на зямгалаў. Узначальваў Усяславічаў полацкі князь, пад рукой якога яны былі. Другі полацкі князь Расціслаў атхадзіў да горада Друцка таксама «з усёй браццяю». З ёй ён вярнуўся дадому, але для мірнага ўладкавання справы павялічыў воласць друцкага князя Рагвалода, каб паставіць яго ў васальную залежнасць ад сябе.

Яшчэ раней у 1151 г. той жа самы Расціслаў Глебавіч, знаходзячыся на полацкім троне, з ведама веча прызнаў сябе васалам чарнігаўскага князя Святаслава. Расціслаў не выконваў свае абавязкі адносна чарнігаўскага князя, і таму гэты князь прыняў да сябе другога князя з дынастыі полацкіх князёў Рагвалода і ў 1158 г. даў яму свае палкі для адшуквання валасцей. Князі, верагодна, давалі землі сваім служылым васалам у часовае трыманне. Князі і баяры, якія атрымлівалі гэткім чынам землі,

абавязаны былі службай сюзэрэну — яны ўдзельнічалі ў яго ваенных мерапрыемствах. З летапісу вядома, што сярод служылых князёў Данілы Галіцкага знаходзіўся Глеб Ваўкавыскі і Ізяслаў Свіслацкі. Ва Уладзіміра Васількавіча служылым князем быў Васілька Слонімскі, які, па паведамленню Іпацьеўскага летапісу (1281 г.), вяртаючыся з паходу, паспяшаўся пасланць «звестку» і здабычу да «свайго князя Уладзіміра».

У старажытных землях Беларусі ў XII—XIII стст. назіраецца пэўная сацыяльная іерархія. Але яна выяўлена слабей у параўнанні з шматступенчатай феадальнай іерархіяй у краінах Заходняй Еўропы таго часу.

Як ужо гаварылася, сукупнасць розных відаў залежнага насельніцтва абазначалася абагульняючым паняццем «чэлядзь». Палажэнне дадзенай катэгорыі насельніцтва было вельмі цяжкім. Іх прадавалі і куплялі як унутры дзяржавы, так і на знешніх рынках. Халопа можна было біць, здзекавацца над ім і нават забіць. У творы «Слова», якое прыпісваецца Кірылу Тураўскаму, гаворыцца, што гаспадары «недабрачынны да рабоў сваіх і да рабынь, і не даюць ім дастаткова ежы і адзення... і б'юць не за справу»[40].

Летапісы часта паведамляюць аб захопе палонных у якасці здабычы пры княскіх міжусобіцах у другой палове XI—XII ст. Гісторыя ваенных сутыкненняў Полацка з суседнімі княствамі сведчыць, што пераможца накіроўваўся дадому з «палонам». Полацкі князь Брачыслаў у 1021 г. звяртаўся з Наўгародскай зямлі з палоннымі, а яго пераемнік на полацкім стале Усяслаў у 1066 г. завёў за Полацк цэлы наўгародскі пагост. У дадзеным выпадку «пагост» — адносна вялікае сельскае паселішча ці цэнтр некалькіх вёсак. Яго жыхароў узяў у палон полацкі князь і перасяліў у сваё ўладанне.

«Палон» быў звычайнай з'явай у X—XIII стст. Князь Расціслаў, прагнаны ў 1158 г. з Полацка, накіроўваючыся ў Менск, апустошаў Полацкую воласць. Расціслаў забіраў з сабой па дарозе жывёлу і чэлядзь, напэўна, для таго, каб пасадзіць у сваёй вотчыне людзей на зямлю.

Акрамя палона крыніцай халопства быў пабег закупа ад гаспадара, нараджэнне ад рабыні. Такія крыніцы халопства не выключаліся ў Полацкай зямлі. У грамаце полацкага князя Ізяслава (каля 1265 г.) гаворыцца аб выдачы ўцёкшых «паручнікаў», даўжнікоў, халопаў, што сведчыць пра ўцёкі залежнай чэлядзі ад сваіх гаспадароў і пацвярджае наяўнасць такой формы супраціўлення сялян супраць узрастаючай эксплуатацыі.

З устанаўленнем феадальных адносін назва «сяло» выкарыстоўвалася пераважна да пунктаў, якія належалі феадалам і былі населены залежнымі ад іх людзьмі. Колькасць такіх сёл паступова павялічвалася. У летапісе ёсць паведамленне, што ўдава менскага князя Глеба Усяславіча падаравала Пячэрскаму манастыру ў XII ст. 5 сёл з чэляддзю. Сёлы адышлі да ма-

настыра з сваім насельніцтвам, а таксама з усім інвентаром. Ва ўладанне манастыра пераходзіла феадальная гаспадарка з эксплуатуемай у ёй чэляддзю.

З «Жыція» Ефрасінні Полацкай можна атрымаць падрабязнасці аб юрыдычным афармленні ўласнасці на зямлю ў Полацкім княстве. У гэтым помніку гаворка ідзе пра «сяльцо», якое належыць полацкаму епіскапу Іллі. Сяльцом у XII—XIII стст. звычайна называўся маёнтак якога-небудзь валадара, дзе ён жыў сам і меў сядзібную гаспадарку. У сёлах існавалі цэрквы, пабудаваныя гаспадарамі. Менавіта ў гэтым значэнні трэба разумець «сяльцо» на правым беразе Палаты, частка якога была аддадзена епіскапам Ефрасінні ў 20-я гады XII ст. У сяльцы існавала невялікая царква, а затым Ефрасіння пабудавала цагляны Спаскі сабор, які захаваўся да нашых дзён з выдатнымі фрэскамі.

Епіскап Ілля, вырашыўшы аддаць Ефрасінні зямельны ўчастак для пабудовы царквы і заснавання манастыра, запрасіў да сябе полацкага князя Барыса Усяславіча, яго брата Георгія (бацьку Ефрасінні) і «сілныя мужы». Ён абвясціў ім аб сваім рашэнні, якое не можа быць падвергнута асуджэнню ці сумненню ні пры яго жыцці, ні пасля яго смерці[41].

Значыць, у Полацку існавала працэдура афармлення ўласнасці на зямлю, пры якой патрабавалася абавязковая прысутнасць аўтарытэтных асоб у якасці сведак, і выпрацаваліся правілы афармлення такіх здзелак.

У «Жыціі» Ефрасінні Полацкай выкарыстоўваюцца словы «дамы свая», у якіх жылі полацкія князі і баяры. Пад «домам» трэба разумець комплекс двара з пабудовамі і гаспадарчымі ўгоддзямі. У «Жыціі» слова «дом» выкарыстана некалькі разоў у значэнні «двор» князя. З летапісу вядома, што ў горадзе Друцку двор князя размяшчаўся ў дзядзінцы, які быў абнесены магутным валам.

У Іпацьеўскім летапісе пад 1159 годам, дзе гаворка ідзе аб асадзе Турава шматлікім войскам, адзначана, што пры гэтым былі спалены «гарады і сёлы». У Тураўскай воласці існавалі ўмацаваныя двары феадалаў ды сёлы, якія ім належалі. Значная частка баярства звычайна знаходзілася ў гарадах.

Зараджэнне феадалізму было сустрэта раней свабоднымі абшчыннікамі з незадавальненнем і выклікала іх супраціўленне, якое часам перарастала ў народныя рухі.

**Узнікненне гарадоў.** Істотнае значэнне для разумення працэсу станаўлення феадалізму мае пытанне аб часе ўзнікнення гарадоў. Яны садзейнічалі разбурэнню перажыткаў патрыярхальнародавых адносін. Узнікненне гарадскога жыцця было пераломным момантам у развіцці грамадства. Гарады ўзнікалі пры паглыбленні грамадскага падзелу працы — аддзялення рамёстваў ад земляробства, якое адбылося пры пераходзе ад першабытнаабшчыннага да феадальнага ладу, як гэта назіралася ў большасці краін Еўропы.

Гарады з'явіліся тады, калі

з асноўнай масы насельніцтва, занятага ў сельскай гаспадарцы, вылучыліся рамеснікі, у нейкай меры адарваныя ад земляробства. Звычайна ў перыяд ранняга сярэднявечча гарадское жыццё ўзнікала ў найбольш развітых і густанаселеных раёнах, у месцах перасячэння важных шляхоў зносін.

Зародкі найбольш старажытных гарадоў ва ўсходніх славян з'яўляюцца ў IX—X стст. Гэтыя «грады», як яны названы ў летапісах, адрозніваліся ад іншых паселішчаў сваімі ўмацаваннямі і тым, што былі адміністрацыйнымі цэнтрамі, рэзідэнцыямі князёў і іншай знаці.

Шэраг гарадоў атрымалі назву ад рэк, на якіх заснаваны: Полацк ад Палаты, Віцебск ад Віцьбы, Пінск ад Піны, Слуцк — Случы, Друцк — Друці, Чачэрск — Чачоры, Орша ад ракі Рша і г. д.

Некаторыя беларускія гарады ўзніклі на аснове старажытных гарадзішчаў жалезнага веку. Відаць, гэта былі спачатку племянныя цэнтры. Так развіваўся Полацк, Віцебск, Лукомль, Гомель, Крычаў і інш.

Важнай крыніцай звестак аб пачатковай гісторыі гарадоў з'яўляюцца старажытнарускія летапісы («Аповесць мінулых гадоў», яе працяг па Лаўрэнцьеўскаму, Іпацьеўскаму ды іншым летапісным зборам). Пры апісанні падзей IX—XIII стст. летапісы, хронікі і іншыя пісьмовыя помнікі называюць на тэрыторыі Беларусі звыш 35 гарадоў: Полацк (862 г.), Тураў (980), Віцебск (974, 1021), Заслаўе (каля 985), Друцк (1001, 1078), Берасце (1017, 1019), Копысь (1059, 1060), Браслаў (каля 1065), Менск (1067), Орша (1067), Лагойск (1078, 1127), Лукамль (1078), Пінск (1097), Барысаў (1102, 1127), Слуцк (1116), Наваградак (па ўскосных даных, 1117, 1119, 1228, 1235), Гародня (1127), Клецк (1127), Мсціслаў (1135), Гомель (1142), Рагачоў (1142), Брагін (1147), Мазыр (1155), Чачэрск (1159), Рэчыца (1213, 1214), Слонім (1252), Ваўкавыск (1252), Здзітаў (1252), Турыйск (1253), Капыль (1274), Камянец (1276), Кобрын (1287). Ва ўстаўной грамаце князя Расціслава Смаленскага 1136 г. названы «Прупой» (Слаўгарад), «Крэчут» (Крычаў).

У пералічаных гарадах, за невялікімі выключэннямі, праведзены археалагічныя раскопкі, якія пацвердзілі іх існаванне ў перыяд Полацкага княства. Некаторыя населеныя пункты ўзніклі раней, чым трапілі на старонкі дакументаў. У IX ст. акрамя Полацка існаваў Віцебск, Лукомль, у канцы X ст.— Наваградак, Ваўкавыск, Гомель, Чачэрск. Устаноўлена існаванне Давід-Гарадка, узнікшага на р. Гарынь на рубяжы XI—XII стст. Працягвае заставацца невядомым месцазнаходжанне Галацічаска (1071), Стрэжава (1127). Загадкавыя таксама звесткі крыніц аб Некалачы, Одрску, Гарадцу. Магчыма, у Панямонні быў княжацкі горад Свіслач (1256 г.), аб якім упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе.

Гарады — гэта паселішчы шматфункцыянальнага тыпу. Яны выконвалі гандлёва-рамес-

ніцкія, аграрныя, адміністрацыйна-фіскальныя, ваеннаабарончыя, культурныя, рэлігійныя функцыі. Гарады з'яўляліся цэнтрамі сельскагаспадарчых акруг, якія адносіліся да іх.

У раннефеадальную эпоху невялікія гарады праходзілі просты этап развіцця сваёй планіроўкі — дзядзінец, гандлёвая плошча і пасад вакол яе. Больш складаную структуру планіроўкі мелі буйныя гарады.

Побач з дзядзінцам утвараўся вакольны горад, таксама абнесены валамі і равамі, утвараючы другую лінію абароны горада. У Іпацьеўскім летапісе пад 1274 годам названы вакольны горад у Наваградку. Да нашага часу зберагліся валы і равы вакольнага горада XII—XIII стст. у Ваўкавыску, Друцку, Тураве. Неўмацаваныя пасадскія паселішчы цягнуліся ўздоўж берагоў рэк[42].

У гарадах жылі свецкія і духоўныя феадалы, іх слугі, сюды сцякалася таксама насельніцтва з ліку беглых рабоў і сялян, якія займаліся рамёствамі і гандлем. Рамеснікі былі асноўным насельніцтвам гарадоў. Яны падзяляліся на залежных і свабодных. Княскія і баярскія рамеснікі жылі ў дзядзінцы і абслугоўвалі сваіх гаспадароў.

Шматлікія знаходкі з раскопак даюць магчымасць уявіць эканамічнае жыццё раннесярэднявечных гарадоў. У X—XI стст. рамяство і абмен былі развіты слаба. У XII—XIII стст. буйныя і сярэднія гарады станавіліся цэнтрамі рамяства, што пацвярджаецца матэрыяламі археалагічных даследаванняў.

Атрымалі развіццё кавальскае, ганчарнае, гарбарна-шавецкае, ювелірнае, кастарэзнае, бандарнае і іншыя рамёствы. Пацвярджаецца гэта многімі ўзорамі гатовых вырабаў, рэшткамі майстэрань (Полацк, Менск, Віцебск, Слуцк, Наваградак), паўфабрыкатамі ды адходамі розных рамёстваў, выяўляемых пры раскопках гарадоў.

Старажытныя кавалі ведалі шмат сакрэтаў апрацоўкі металаў: маглі атрымліваць сталь і зварваць яе з жалезам, валодалі загартоўкай, цэментацыяй, паялі меддзю, лудзілі металічныя рэчы. У сваіх кузнях яны выраблялі зброю: наканечнікі стрэл і коп'яў, баявыя сякеры. Аб высокім узроўні кавальскага рамяства сведчаць розныя іншыя рэчы, знойдзеныя пры раскопках беларускіх гарадоў: нажы, нажніцы, складаныя па канструкцыі замкі, косы-гарбушы, сярпы і г. д.

Ювеліры рабілі розныя ўпрыгожанні, якім удзялялася значная ўвага ў адзенні старажытнага чалавека. З канца X ст. распаўсюдзіліся новыя прыёмы вырабу каштоўных ювелірных рэчаў. Яны аздабляліся зерню (напаянымі шарыкамі металу), сканню (драцяным арнаментам). Вельмі распаўсюджанымі былі танныя рэчы, якія адліваліся ў ~~каменных~~ формах з алавянна-свінцовых сплаваў і іншых металаў.

Ганчары з гліны рабілі посуд: гаршкі, міскі, кубкі. Важная падзея ў гісторыі рамяства — пачатак выкарыстання ганчарнага круга — прыстасавання для фармоўкі полых ганчарных вырабаў. На Беларусі ён з'явіўся

Мсціслаў. Гарадзішча XII—XIII стст. (гравюра XIX ст.).

ў першай палове X ст. Пашырэнне ганчарнага круга звязана з ператварэннем ганчарства ў рамяство і вылучэннем у грамадстве спецыялістаў-ганчароў.

Сталяры ведалі такарны станок прыкладна з таго ж часу. Яны выточвалі з дрэва прыгожыя міскі. З дрэва выраблялі большую частку гаспадарчых рэчаў: дзежкі, вёдры, кадушкі, лыжкі, чарпакі. Больш каштоўныя драўляныя прадметы пакрывалі мастацкай разьбой.

У старажытных гарадах вельмі распаўсюджаным было гарбарна-шавецкае рамяство. «Кажамякі» займаліся вырабам скуры. Тады яе называлі «ўсміяй». У якасці сыравіны выкарыстоўваліся скуры буйной і дробнай рагатай жывёлы. З мяккай, добра выробленай трывалай усміі рамеснікі шылі абутак: чаравікі, боты, туфлі. Яго шмат знайшлі ў Полацку, Менску, Віцебску, Пінску, Берасце, Слуцку, Гародні пры археалагічных раскопках у пластах XII—XIII стст. Жаночыя і дзіцячыя чаравікі вышывалі каляровымі шарсцянымі ніткамі.

Аб высокім майстэрстве касцярэзаў гавораць многія знаходкі: розныя касцяныя накладкі на каштоўныя рэчы, тронкі нажоў, праколкі. Распаўсюджаным відам прадукцыі касцярэзаў з'яўляліся звычайныя грабяні з рога лася.

Гарадскія рамеснікі апрацоўвалі камень. Блокі і пліты выкарыстоўваліся для ўзвядзення манументальных збудаванняў. З валунных камянёў жарнасекі высякалі мукамольныя жорны, з пясчаніку і сланцу — тачыльныя брускі.

Полацк. Рэшткі жылля рамесніка XIII ст.

Пэўнае месца ў гаспадарчым жыцці горада займалі прадзіва і ткацтва. Яны былі добра знаёмы кожнай жанчыне-гараджанцы. Валакно пралі пры дапамозе верацяна. Тканіны выраблялі на простых ткацкіх станах. З XIII ст. шырока распаўсюджваецца гарызантальны стан з навітай асновай — кросны. Асноўная сыравіна — лён, пянька, воўна. З воўны валялі лямец. Ён выкарыстоўваўся як матэрыял для шатроў, папон, шапак.

У рамеснай вытворчасці і хатніх промыслах панавала выключна ручная тэхніка. Інструменты, якімі карысталіся старажытныя рамеснікі, даволі простыя, нават грубыя. Недасканаласць ручнога інструменту кампенсавалася добрай вывучкай, умелымі прыёмамі работы майстра. Рэчы старажытных рамеснікаў былі надзіва дабротныя, моцныя, па-майстэрску апрацаваныя. Толькі вузкая спецыялізацыя дазваляла сярэднявечным майстрам ствараць такія добрыя вырабы. Рамеснік-адзіночка спецыялізаваўся на асобным тыпе вырабаў, якія ён павінен быў рабіць сам ад пачатку да канца, сваімі самадзельнымі прыладамі працы і ўласнымі рукамі. У гэтым — адметная рыса ўсялякага сярэднявечнага рамяства. Вядучай галіной рамяства ў гарадах XII—XIII стст. быў выраб спажывецкіх тавараў (скуранога абутку, упрыгожанняў, розных гліняных пасудзін).

На тэрыторыю Беларусі траплялі рамесныя вырабы з іншых зямель і гарадоў. З Кіева сюды паступалі прадметы рэлігійнага культу, шкляны посуд, белыя гліняныя пасудзіны з зялёнай

палівай, з Оўруча на Валыні — каменныя прасліцы для верацён, з Прыбалтыкі — бурштын. Відаць, з поўдня дастаўлялася соль, а таксама вялікія гліняныя пасудзіны-амфары з віном ці аліўкавым маслам. Найбольшая колькасць амфар знойдзена пры раскопках у Наваградку і Ваўкавыску. Волжскім шляхам прывозіўся для вырабу грэбняў самшыт, які расце ў лясах Каўказа. Пісьмовыя крыніцы паведамляюць аб дастаўцы з Полацка ў Ноўгарад воску.

З далёкіх краін у гарады паступалі каляровыя і высакародныя металы, неабходныя для рамесніцкіх вырабаў. У IX—X стст. імпарціраваліся арабскія манеты-дырхемы, а ў XI ст. асноўным экспарцёрам манетнага серабра — дынарыяў — былі Германія і Англія. У XII—XIII стст. быў «безманетны» перыяд. У грашовым абарачэнні шырока прымяняліся сярэбраныя злiткі: «літоўскія» вагой 100—105 г., «кіеўскія» — 163—165 г., «наўгародскія» — 200 г[43]. У Полацкім княстве злiткі называліся «ізроямі».

Для феадальнага двара з Візантыі і Бліжняга Усходу зрэдку дастаўляліся прадметы раскошы — каштоўныя каляровыя тканіны (павалокі), шкляныя пасудзіны тонкай мастацкай работы, распісаныя золатам і эмаллю, грэцкія арэхі, з Ірана трапляў фаянсавы посуд.

Кіеўская Русь збывала на рынках Канстанцінопаля (Царграда) футры, воск, мёд, а таксама рабоў, захопленых у час войн. Пісьмовыя крыніцы гавораць аб гандлёвых сувязях Полацка і Віцебска з буйным цэнтрам Прыбалтыкі — Рыгай на пачатку XIII ст.

Гандаль у IX—XIII стст. развіваўся ва ўмовах абмежаванай патрэбнасці ў прывазных таварах. Асноўная частка прадуктаў вытворчасці не ўключалася ў працэс абмену. Натуральная гаспадарка панавала ў эканамічным жыцці. Значнага тавараабароту паміж горадам і вёскай не існавала. Таму гарадскія рамеснікі не парывалі з земляробствам, займаліся гародніцтвам, садоўніцтвам, жывёлагадоўляй, промысламі. У гарадах знойдзены рэшткі ворыўных прылад і прылады ўбору ўраджаю, каменныя жорны. Нават у вялікіх гарадах трымалі шмат жывёлы. Звычайна ў культурным пласце пры раскопках колькасць знойдзеных касцей дамашняй жывёлы ў 4—5 разоў перавышае колькасць касцей дзікіх звяроў. Шматлікія даныя пацвярджаюць існаванне рыбалоўства.

Гарады былі цэнтрамі сярэдневечнай культуры. У цеснай сувязі з іх ростам знаходзілася манументальная архітэктура. Наяўнасць гарадской абшчыны ў гарадах старажытных зямель Беларусі пацвярджаецца фактам існавання веча, што сведчыць аб складванні перадумоў для іх самакіравання.

# 4. Беларуская дзяржаўнасць у раннім сярэдневеччы. Рэлігія і культура

**Полацкае княства — выток беларускай дзяржаўнасці.** Самым магутным і значным княствам з усіх, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі ў X—XIII стст., з'яўлялася Полацкая зямля, гістарычным ядром якой было племянное княжанне крывічоў-палачан больш ранніх часоў.

У сувязі з незвычайнай гісторыяй Полацкага княства неабходна прыгадаць, што ўяўляла сабой Кіеўская Русь, якая ўзнікла ў канцы IX стагоддзя ва Усходняй Еўропе, там, дзе пралягаў шлях «з вараг у грэкі». Спасылаючыся на работу К. Маркса «Выкрыццё дыпламатычнай гісторыі XVIII стагоддзя» (не перакладзена на рускую і беларускую мовы), некаторыя даследчыкі называюць старажытнарускую «імперыю Рурыкавічаў» «скараспелай», «шматковай» дзяржавай і параўноўваюць яе з імперыяй Карла Вялікага — кангламератам плямён і народаў у Заходняй Еўропе[44]. Рурыкавічы — княская дынастыя, якая замацавалася ў Кіеве, а пад «шматкамі» маюцца на ўвазе землі, што ўваходзілі ў склад Русі.

Многія сучасныя гісторыкі пішуць аб адносна адзінай дзяржаўнай структуры Кіеўскай Русі ў канцы X—XI стагоддзяў, якая ў першай палове XII стагоддзя канчаткова распалася на самастойныя княствы. Яна характарызуецца як сярэднявечная федэрацыя з пэўным саюзам адносін паміж князямі на пачатках сюзеранітэта-васалітэта. З пункту гледжання дзяржаўнай арганізацыі Кіеўская Русь складалася з розных тэрытарыяльных адзінак. Гэтыя ўтварэнні вядомы пад назвай «воласць», «зямля», «вобласць».

Ужо ў першым упамінанні Полацка ў Іпацьеўскім летапісе пад 862 годам адзначана яго воласць. Полацк тады не падпарадкоўваўся Кіеву.

Полацкая зямля размяшчалася ў паўночнай Беларусі, уключаючы Віцебскую вобл... паўночную палову Менскай. ...паўночным захадзе ўладанні полацкіх князёў прасціраліся ...ніжняму цячэнню Заходняй Дзвіны (Даўгавы), дзе знаходзіліся гарады Кукенойс і Герсіке, да Рыжскага заліва.

Кіеў і Ноўгарад сапернічалі паміж сабой за аб'яднанне ўсходнеславянскіх зямель, пры гэтым Полацку надавалася важнае значэнне. Кіеўскі князь Аскольд разам са сваім братам Дзірам у 860-х гадах зрабіў паход на палачан і прынёс ім шмат бяды. Пераемнік Рурыка князь Алег у 882 годзе здолеў аб'яднаць паўночную і паўднёвую Русь у адну дзяржаву са сталіцай у Кіеве.

У летапісе Полацк залічаны да гарадоў, дзе «седяху велиции князи, под Олгом суще» ў апавяданні пра яго паход на Канстанцінопаль у 907 годзе. Упамінанне тут пра Полацк пацвяр-

джае, што полацкая знаць і мясцовыя князі дзейнічалі, абапіраючыся на кіеўскага князя. Полацк у пачатку X стагоддзя можна разглядаць як саюзніка Кіева. Горад на рэчцы Палата ў перыяд фарміравання старажытнарускай дзяржавы падтрымліваў кантакты з Кіевам. Даніна, што ішла ў Полацк ад грэкаў, выкарыстоўвалася на ўтрыманне полацкай дружыны, якая прымала ўдзел у гэтым удалым паходзе.

У апошняй трэці X ст. у Полацку сядзеў незалежны ад Кіева і Ноўгарада князь Рагвалод. Яго зусім выключнае становішча сярод іншых княстваў летапісец падкрэсліў словамі «трымаў Полацкую зямлю і правіў ёй». Гэта сведчыць пра самастойнасць Полацка.

Відаць, мелі рацыю тыя гісторыкі, якія сцвярджалі, што да драматычных падзей 980 года Полацк ніколі не быў пад уладай Кіева[46]. Іншыя даследчыкі сцвярджаюць, што Полацк з сваёй воласцю з'яўляўся горадам-дзяржавай. Горадам-дзяржавай таксама называюць Тураў[47].

У 980 годзе Уладзіміру Святаславічу, які быў тады наўгародскім князем і змагаўся з сваім братам Яраполкам за кіеўскі трон, удалося захапіць Полацк. Рагвалод быў забіты, яго дачка Рагнеда прымусова стала жонкай Уладзіміра. Затым у роспачы Рагнеда зрабіла няўдалы замах на жыццё Уладзіміра і была разам з сынам Ізяславам выдалена з Кіева ў Полацкую зямлю.

Уладзімір Святаславіч вымушаны быў узнавіць бацькаўшчыну Рагнеды, аддаўшы ёй яе «отчину» — Полацкую зямлю. Сацыяльнай сілай, якая выражала мясцовыя палітычныя тэндэнцыі, з'яўлялася полацкае баярства. Адсюль вынікае, што ўступка была зроблена Уладзімірам гэтай рэальнай сіле ў Полацкім княстве.

Ізяслаў Уладзіміравіч з Рагнедай атрымаў спачатку Ізяслаўль (сучаснае Заслаўе), а затым, верагодна, быў запрошаны палачанамі княжыць у Полацк. Супраць гэтага не выступаў Уладзімір, бо прыкладна тады, пасля хрышчэння Русі, кіеўскі князь, праводзячы адміністрацыйную рэформу, накіроўваў другіх сваіх сыноў у буйныя гарады ў якасці намеснікаў.

Знаходжанне Полацка ў складзе старажытнарускай дзяржавы было непрацяглым і нетрывалым. У адпаведнасці з уяўленнямі скандынаваў (варагаў) уся Кіеўская Русь у XI ст. падзялялася на тры часткі на чале з Ноўгарадам, Полацкам і Кіевам. Гэтыя гарады сапернічалі паміж сабой нават у галіне манументальнага дойлідства.

Пасля 1036 г. уладу ў Кіеўскай Русі захоўвалі толькі дзве княскія галіны, сын Уладзіміра — Яраслаў Мудры ў Кіеве і праўнук Рагвалода — Брачыслаў Ізяславіч у Полацку. У той час, калі ўсе іншыя землі на тэрыторыі старажытнарускай дзяржавы пераходзілі паводле старшынства да нашчадкаў Яраслава Мудрага, Полацк устойліва знаходзіўся ў руках прадстаўнікоў мясцовага княскага роду. Добра вядомы ў старажытнай

Менск. Забудова XIII ст. Рэканструкцыя па матэрыялах раскопак замчышча (каля магазіна «Алеся»).

гісторыі Беларусі князь Усяслаў Брачыславіч, які княжыў у Полацку з 1044 да 1101 г.[48] Пры ім Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці.

Адносіны паміж Кіевам і Полацкам часта ўскладняліся ў XI ст. Полацк сапернічаў з Ноўгарадам і Смаленскам за суседнія раёны. Калі ў першай палове XI ст. кіеўскія князі яшчэ стрымлівалі імкненне полацкага князя да адасаблення, дык у другой палове становішча змянілася і полацкі князь зрабіўся асноўным сапернікам Кіева. Пацверджаннем гэтага з'яўляецца Нямігская бітва, якая адбылася ў 1067 г. паміж князямі Яраславічамі і полацкім князем Усяславам, паходы Уладзіміра Манамаха ў Полацкую зямлю.

Полацкія князі настойліва намагаліся пашырыць свае уладанні, у першую чаргу, за кошт выгадна размешчаных тэрыторый, здаўна заселеных крывічамі. Перыядычныя спробы паўднёварускіх князёў прымусіць Полацк і Менск падпарадкоўвацца ўладзе Кіева прыводзілі да ваенных сутычак. Працягласць і ўпартасць барацьбы сведчаць, што полацка-менскія князі мелі моцную падтрымку ў сваім княстве.

Пасля смерці Усяслава паміж яго сынамі (іх было шасцёра) адбывалася міжусобная барацьба, у якую ўмешваліся іншыя князі. Менскі князь Глеб праводзіў палітыку ўзвышэння Менска і ўсю сваю энергію накіроўваў на ўмацаванне і пашырэнне межаў Менскага княства. Княжанне Глеба скончылася яго пляненнем кіеўскім князем Уладзімірам Манамахам (1119 г.).

Адносіны паўднёварускіх князёў з Полацкам у першай трэці XII ст. працягвалі заставацца вельмі вострымі. У 1129 г. кіеўскі князь Мсціслаў вераломна захапіў за непадпарадкаванне полацкіх князёў з семьямі ў палон і саслаў у Візантыю да свайго зяця імператара Іаана II, дзе яны, па словах В. Н. Тацішчава,

«з пахвалою служылі ў войску, якое ваявала супраць сарацін». Да 1140 г. полацкія князі, якія яшчэ заставаліся ў Візантыі, былі адпушчаны імператарам на радзіму, калі ўжо не было ў жывых Мсціслава і сепаратызм полацкіх князёў больш не турбаваў яго зяця Іаана II. Высылка полацкіх князёў Мсціславам у Канстанцінопаль садзейнічала падтрыманню прамых культурных і рэлігійных сувязей Полацка з Візантыяй, што асабліва адчуваецца ў архітэктуры, манументальным жывапісе і прыкладным мастацтве. Да гэтага праз кіеўскіх правіцеляў полацкія князі знаходзіліся ў некаторым сваяцтве з домам візантыйскіх імператараў.

У палітычным жыцці горада пэўнае значэнне мела веча — агульны сход палачан для вырашэння розных пытанняў. Гэта была пачатковая форма гарадскога самакіравання, ў той ці іншай ступені падуладнага мясцовай знаці. У пачатку XII ст. роля веча ўзрасла настолькі, што яно актыўна вырашала пытанні вайны і міру, запрашала на трон у Полацк князёў і нярэдка праганяла іх з горада. Веча кантралявала дзейнасць князя і ажыццяўляла вышэйшы суд.

Веча абмяжоўвала ўладу князя, але не знішчала яе. Княская ўлада ў Полацку была значнай нават у перыяды найбольш актыўнай дзейнасці веча. Князь узначальваў ваенныя сілы, меў пры сабе дружыну, ажыццяўляў суд і ўнутранае кіраванне, мог заключыць мір. Полацкі князь раздаваў воласці на чале з гарадамі іншым князям-васалам.

У Полацку, як, бадай, і ў іншых княствах, можна канстатаваць наяўнасць двоеўладдзя ў сферы сацыяльна-палітычнага жыцця. Вечавы лад існаваў побач з княскай уладай (князь са сваімі памочнікамі па кіраванню).

У 1132 г. полацкае веча выбрала сваім князем Васілька, які, відаць, вярнуўся з Канстанцінопаля. На пачатку 40-ых гадоў XII ст. уся Полацкая зямля, за выключэннем Копысі, зноў была пад уладай мясцовай дынастыі нашчадкаў Усяслава. Кіеўскія князі больш не рабілі спроб падпарадкаваць сабе Полацк. Паўднёварускія князі цяпер аддавалі перавагу ўстанаўленню сваяцкіх сувязей з полацкімі князямі.

Высокае грамадскае становішча ў Полацку займаў епіскап. Ад імя князя і епіскапа пісаліся дагаворы, якія заключала полацкае веча, і да дакументаў прывешваліся іх пячаткі.

У другой палове XII ст. палітычнае жыццё Полацка характарызавалася выступленнямі гараджан супраць непажаданых ім князёў і іх прыхільнікаў, барацьбой варагуючых паміж сабой баярскіх груповак, зменай князёў мясцовай дынастыі на полацкім троне. Адно з выступленняў веча супраць князя ў 1158 г. узначаліла «братчына» (верагодна, арганізацыя купцоў).

У 1151 г. полацкае веча прагнала князя Рагвалода Барысавіча. На полацкі трон быў пасаджаны менскі князь Расціслаў Глебавіч. У 1158 г. (па летапісу 1159 г., паводле так званага ультрамартаўскага летазлічэння)[49] Рагвалод Барысавіч, ка-

рыстаючыся падтрымкай іншай знаці, стаў зноў прэтэндаваць на полацкі трон. У гэты час у Друцку адбылося выступленне супраць князя Глеба Расціславіча. Княскі двор і двары дружыннікаў былі разрабаваны. Сам князь уцёк да бацькі ў Полацк. Аднак у самім Полацку адбылося выступленне гараджан, пачаўся народны рух («мяцеж», як сказана ў летапісе). Рагвалоду Барысавічу ўдалося завалодаць полацкім тронам. Расціслаў з дружынай накіраваўся да свайго брата Валадара ў Менск, спустошваючы па дарозе Полацкую воласць. Хутка скончылася кароткатэрміновае ўзвышэнне Менска.

Рагвалод асадзіў і ўзяў Ізяслаў (Заслаўе), у якім паставіў свайго прыхільніка. У летапісах гаворыцца аб трох паходах Рагвалода Барысавіча на Расціслава Глебавіча да Менска (1158, 1160, 1161 гг.). Рагвалод не змог узяць горад і быў вымушаны заключыць мір з Расціславам. Пацярпеўшы паражэнне ў 1161 г. (у летапісе 1162 г.) пад Гарадцом, Рагвалод вырашыў не вяртацца ў Полацк і ўцёк у сваё ўладанне Друцк. У Полацку стаў княжыць Усяслаў Васількавіч, які быў да гэтага, відаць, віцебскім князем.

У XII ст. у Друцку абсталяваліся нашчадкі Усяслава — князі Барысавічы. Друцкае веча адыгрывала немалую ролю ў палітычным жыцці не толькі Друцка, але аказвала ўплыў на ход падзей у Полацку. У 1180 г. у Друцку княжыў Глеб Рагвалодавіч — саюзнік смаленскіх князёў, якія варагавалі з чарнігаўскімі князямі. Супраць Друцка сумесна з чарнігаўскім войскам выступілі дружыны з Полацка, Віцебска, Лагойска, што сведчыць аб міжусобнай барацьбе сярод полацкіх князёў[50].

У XII ст. Полацкая зямля паводле адміністрацыйнай структуры складалася з удзельных княстваў Віцебскага, Менскага, Заслаўскага, Лагойскага і інш., у якіх улада, абмежаваная вечам, належала прадстаўнікам полацка-крывіцкай правячай дынастыі. Феадальная раздробленасць і бясконцыя княскія сваркі аслаблялі Полацкую зямлю.

Полацкай зямлі давялося весці цяжкую барацьбу з крыжакамі. Палачане сумесна з старажытналатышскімі і іншымі плямёнамі змагаліся супраць нямецкіх рыцараў, уварваўшыхся ў Прыбалтыку. Латгалы і лівы, якія жылі па ніжняму цячэнню Заходняй Дзвіны, даўно плацілі даніну полацкаму князю і пастаўлялі яму дапаможнае войска. У землях латгалаў [...] мяшчаліся гарады Кукеной[...] Герцыке. Імі кіравалі вас[...] полацкага князя, якія ў пер[...] феадальнай раздроблен[...] карысталіся значнай самаст[...] насцю.

У апошняй чвэрці XII ст[...] ўсходнюю Прыбалтыку па[...] прасочвацца нямецкія рыца[...] У 1201 г. ля вусця Заход[...] Дзвіны яны пабудавалі крэпа[...] Рыгу. Быў створаны царко[...] рыцарскі ордэн, які спача[...] называўся Ордэнам мечаносцаў, а з 1237 г. Лівонскім.

Дружыны з Полацка і іншых старажытных гарадоў дапама-

галі мясцоваму насельніцтву ўсходняй Прыбалтыкі адбіваць напады рыцараў. У 1203 г. войска полацкага князя Уладзіміра асадзіла нямецкія крэпасці Ікскуль і Гольм (зараз у Латвіі), але ўзяць іх не змагло. У 1206 г. палачане зноў асаджалі Гольм на працягу 11 дзён. Па прычыне пагрозы падыходу на дапамогу крыжакам новага падмацавання асада была спынена.

Самааддана змагаліся супраць рыцараў кукенойскі князь Вячка (Вячаслаў) і герсіцкі князь Усевалад. Рыцарам удалося захапіць Кукенойс (1208 г.) і Герцыке (1209 г.). У 1216 г. князь Уладзімір рыхтаваў новы сумесны паход палачан і літоўцаў супраць рыцараў. Аднак полацкі князь нечакана памёр (мяркуюць, быў атручаны), і сабранае войска разышлося. Вячка разам з эстамі абараняў Юр'еў (Тарту) ад крыжакоў і загінуў у 1224 г.

Полацк апынуўся не ў стане ўтрымаць свае пазіцыі ва ўсходняй Прыбалтыцы. Але і нямецкія рыцары былі не ў сілах рухацца далей на Падзвінне. Барацьба з нямецкімі феадаламі не спынялася. Рыцары былі разбіты літоўцамі пад Шаўляем (1236 г.), а князем Данілам Галіцкім — у Драгічыне Надбужным (1237 г.).

Полацк і Віцебск умацоўвалі палітычныя сувязі з Уладзіміра-Суздальскай і Наўгародскай землямі, аб чым сведчыць шлюб князя Аляксандра (Неўскага) з дачкой полацкага князя Брачыслава ў 1239 г. У бітве са шведскімі рыцарамі на Няве (1240 г.) вызначыўся адвагай палачанін Якаў, які быў на службе пры двары Аляксандра. Пра бітву

Якаў Палачанін (з узнятым мячом), удзельнік Неўскай бітвы 1240 г. (мініяцюра XVI ст.).

расказвае сучаснік у «Жыцці» князя Аляксандра. Палачанін Якаў, гаворыцца ў ім, «наехаў на полк з мячом і мужна біўся і пахваліў яго князь». Другая перамога Аляксандра Неўскага ў бітве на Чудскім возеры 5 красавіка 1242 г. прыпыніла рух крыжакоў на ўсход.

Такім чынам, Полацк на працягу некалькіх стагоддзяў быў стольным горадам буйнога княства — асобнай старажытнай дзяржавы са сваёй княскай дынастыяй, вечавым ладам, моцным войскам. Палачане першымі з ўсходніх славян уступілі ў адкрытую барацьбу супроць агрэсіі нямецкіх крыжакоў, адбіваючы іх «націск на ўсход».

**Тураўскае княства і гарады, тэрытарыяльна з ім звязаныя.** Тураўскае княства прымыкала да паўднёвых граніц Полацкай зямлі і знаходзілася на тэрыторыі паўднёвай Беларусі ў басей-

не Прыпяці. Першапачатковы яе палітычны цэнтр — Тураў. Буйным горадам быў Пінск. Тураў упершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 980 годам. Назву горада летапісец звязваў з імем князя Тура і лічыў, што той з'явіўся ў Беларускім Палессі тады ж, калі князь Рагвалод у Полацку.

Узнікненню і развіццю Турава, як і Пінска, садзейнічала іх выгаднае размяшчэнне на водным Прыпяцка-Бугскім гандлёвым шляху з Кіева ў Польшчу. Ураджайнасць глеб садзейнічала развіццю земляробства — неабходнай умовы для аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі і больш інтэнсіўнага развіцця феадальных адносін.

Тураўская зямля ў асноўным адпавядае тэрыторыі рассялення дрыгавічоў. Тураў стаў галоўным горадам сваёй воласці. Тэрыторыя зямель і валасцей вызначалася распаўсюджваннем даніны і суда прадстаўнікоў дзяржаўнай улады. У XI—XII стст. тапанімічнай назвай горада звычайна замянялі слова «зямля». Зямля не ўяўлялася без свайго галоўнага «старшага» горада. Так, назва жыхароў Полацка пераносілася на насельніцтва ўсёй зямлі і яно называлася «палачане». У летапісе пад 980 г. прыгадваюцца «тураўцы». Гэта, відаць, жыхары Турава і яго акругі.

У 988 г. вялікі кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч аддаў Тураў свайму сыну Святаполку. Пасля смерці бацькі (1015 г.) Святаполк пераходзіць на вялікае княжанне ў Кіеў, застаўшыся тураўскім князем. Калі на чале Кіеўскай Русі стаў Яраслаў Мудры, ён аддаў Тураў у валоданне свайму сыну Ізяславу. Затым пасля бацькі Ізяслаў апынуўся на троне ў Кіеве. Пазней у Тураве княжылі яго сыны: Яраполк і Святаполк. Атрымаўшы кіеўскі трон у 1093 г., Святаполк Ізяславіч пакінуў Тураў за сабой. Тураўскія князі паводле дзейнічаючага права атрымання спадчыны траплялі на вялікакняскі трон у Кіеве.

Уладзімір Манамах, знаходзячыся ў Кіеве з 1113 да 1125 года, трымаў Тураў у залежнасці ад сябе і вёў барацьбу з Менскім князем Глебам. Князь Мсціслаў, сын Уладзіміра Манамаха, накіраваў у Тураў на княжанне свайго малодшага брата Вячаслава. Вячаслаў Уладзіміравіч прымаў удзел у паходзе на полацкіх князёў у 1127 г. Ён двойчы пераходзіў княжыць з Турава ў Пераяслаўль і Кіеў, а затым зноў вярнуўся ў Тураў.

Усеваладу Ольгавічу даводзілася змагацца з роднымі і дваюраднымі братамі, якім ён прапанаваў далёка раскіданыя ўдзелы. У 1142 г. найбольш мяцежнаму Ігару Ольгавічу ён даў Гарадзец пад Кіевам і Рагачоў, другога Ольгавіча — Святаслава — паслаў у Клецк і Чартарыйск. Ізяславу Давыдавічу ён даў гарады Драгічын над Бугам і Берасце.

Вячаслаў Уладзіміравіч пасля смерці Усевалада пачаў вяртаць раздадзеныя ім гарады Тураўскай зямлі і нават заняў уладзіміра-валынскі трон. У адказ на гэта новы кіеўскі князь Ізяслаў Мсціславіч накіраваў у Тураў дружыны, якія захапілі горад

(1146 г.). Тураўскі епіскап і пасаднік з бліжэйшага акружэння Вячаслава былі ўзяты ў палон. Вячаслаў вымушаны пакінуць Тураў, які зноў апынуўся ў сферы ўплыву кіеўскага вялікага князя. Разам з Кіевам Тураўская зямля пераходзіла з рук у рукі суздальскіх і валынскіх князёў. Юрый Даўгарукі, знаходзячыся на троне ў Кіеве, у 1155 г. перадаў Тураў сыну Барысу, а Мазыр — северскаму князю Святаславу Ольгавічу.

Барыс быў выгнаны з Турава ўнукам тураўскага і кіеўскага вялікага князя Святаполка Ізяславіча Юрыем Яраславічам, які вярнуў горад сваёй дынастыі. У 1158 г. шэсць рускіх князёў на чале з кіеўскім князем Ізяславам, у тым ліку дружыны з Полацка, зрабілі паход на Тураў, з намерам адняць яго ў Юрыя Яраславіча. Дзесяць тыдняў цягнулася няўдалая асада горада. Юрый, відаць, карыстаўся моцнай падтрымкай гараджан, а горад меў добрыя ўмацаванні.

Юрый Яраславіч у 1160 г. паспяхова вытрымаў аблогу Турава валынскімі князямі. Іх войска, прастаяўшы каля горада тры тыдні, вярнулася ні з чым назад. Пераемнікамі Юрыя на троне ў Тураве былі яго сыны. З летапісаў вядомы князі тураўскія: Іван (1170 г.), Святаполк (1162, 1190 гг.), Глеб (1196 г.), пінскія — Яраслаў (1183 г.), Ярапалк (1190 г.).

Тураў у 50-ыя гады XII ст. выйшаў з падпарадкавання Кіеву, і ў ім усталявалася самастойная княская дынастыя. Гарады Мазыр і Брагін заставаліся за Кіевам. Тураўская зямля сама падзялілася на ўдзельныя княствы — Тураўскае, Пінскае, Клецкае, Слуцкае і іншыя. Дробныя княствы трапілі ў залежнасць ад галіцка-валынскіх князёў.

Такім чынам, Тураўская зямля-княства - ўтварылася ў канцы X ст. і захоўвала сваё значэнне ў XI ст. У 20-ыя гады XII ст. яна пазбавілася палітычнай самастойнасці, аднак у складзе Кіеўскай зямлі заставалася цэльным княствам. Тураўскае княства на працягу першых ста год пасля смерці Яраслава Мудрага (1054 г.) каля 40 год існавала самастойна, 60 год было ў падпарадкаванні Кіева, а з канца 50-ых гадоў XII ст. канчаткова вылучылася, і ў ім зацвердзілася пастаянная дынастыя князёў[51]. У гістарычнай літаратуры ўжываецца тэрмін «Турава-Пінская зямля». Пінск у XII—XIII стст. меў вялікае эканамічнае значэнне для ўсёй старажытнай вобласці. Аднак Пінск з'яўляецца ў летапісах пазней Турава.

Пра грамадска-палітычны лад у Тураўскім княстве і яго гарадах звестак мала і яны надта важныя. Вельмі верагодна, што ў Тураве актыўна дзейнічала веча. Паводле паведамлення «Жыція Кірылы Тураўскага», ён стаў епіскапам па просьбе князя «і людзей таго горада». З гэтага вынікае, што гараджане ў Тураве мелі права голасу, калі вырашалася пытанне пра выбранне епіскапа[52]. Факт цікавы яшчэ і таму, што звычайна епіскап назначаўся кіеўскім мітрапалітам.

У Тураве існавала пасада тысяцкага. Тысяцкі ўзначальваў гарадскі полк (апалчэнне).

Галоўным яго абавязкам было ваеннае кіраўніцтва. Тураўскі тысяцкі Іванка ўдзельнічаў у паходзе 1127 г. у Полацкую зямлю. У складзе тураўскіх вояў названы «отракі»[53].

Не менш цікавае паведамленне аб пасадніку ў Тураве. У Іпацьеўскім летапісе пад 1146 г. паведамляецца, што кіеўскі князь Ізяслаў паслаў на Вячаслава свайго брата Расціслава ды пляменніка Святаслава Усеваладавіча. Яны адабралі Тураў у Вячаслава, схапілі ў горадзе епіскапа Іакіма і пасадніка Жыраслава. Вячаслаў быў пераведзены ў горад Перасопніцу, тураўскі трон атрымаў сын Ізяслава Яраслаў.

Баярын Жыраслаў Іванкавіч — асоба, вядомая далёка за межамі Тураўскага княства. Праз некалькі год ён апынуўся пасаднікам у Ноўгарадзе Вялікім. Напэўна, Жыраслаў — сын тураўскага тысяцкага Іванкі. Гэта былі відныя прадстаўнікі аднаго баярскага роду.

Знаходжанне ў горадзе адначасова князя і пасадніка, акрамя Ноўгарада Вялікага, з'ява незвычайная для іншых гарадоў. Аб існаванні пасадніка ў Полацку звестак няма. Такое параўнанне сведчыць аб асаблівасцях грамадска-палітычнага ладу ў Тураўскім княстве.

У цеснай сувязі з Туравам і Кіевам быў старажытны горад Берасце. З пачатку свайго ўзнікнення Берасце было важным цэнтрам Сярэдняга Пабужжа. Тут існавалі Кобрын, Камянец, Драгічын, Бельск, Мельнік. Гэтая тэрыторыя, аб'яднаная вакол свайго галоўнага горада Берасця, складала даволі адзіную ў сацыяльна-палітычных адносінах вобласць[54]. У другой палове XII ст., а таксама ў XIII ст. яна ўваходзіла ў склад Уладзіміра-Валынскага княства.

Берасце карысталася значнай самастойнасцю. Фактычна ўлада ў горадзе належала мясцоваму вечу, з сілай якога былі вымушаны лічыцца як валынскія, так і польскія князі. Аб самастойных дзеяннях «берасцян» неаднаразова паведамляе Іпацьеўскі летапіс. Берасце адыгрывала ролю фарпоста ў абароне старажытных зямель усходніх славян. Калі ў 1229 г. пад горадам з'явіўся атрад літоўцаў, «берасцяне» сумесна з пінскім князем Уладзімірам разбілі яго. У 1282 г. дружыны польскага князя Баляслава занялі побач Берасця 10 сёл. Жыхары горада на чале з ваяводам Цітам далі адпор прышэльцам і шмат узялі ў палон.

У 1287 г. князь Юрый Львовіч у выніку тайных перамоваў з баярамі атрымаў абяцанне, што пасля смерці князя Уладзіміра ён будзе запрошаны ў Берасце. Юрый пачаў княжыць у горадзе, але хутка быў вымушаны пакінуць яго з-за прэтэнзій Мсціслава Васількавіча на гэта княжанне.

У паўднёвай Беларусі рана ўзніклі некаторыя іншыя гарады, якія тэрытарыяльна звязаны з Тураўскім княствам. Нялёгка вызначыць, да якога княства належаў Рагачоў. Горад размешчаны пры ўпадзенні Друці ў Днепр. Яго заснавальнікамі маглі быць як дрыгавічы, так і радзімічы. Першае ўпамінанне Рагачова ў

летапісе пад 1142 г. дазваляе гаварыць аб ім як аб адным з тураўскіх гарадоў, якія кіеўскі князь Усевалад Ольгавіч раздаваў сваім братам. Даследаванне курганоў у наваколлі Рагачова дазваляе меркаваць, што рагачоўская дружына фарміравалася ў асноўным з радзімічаў.

Аб Мазыры Іпацьеўскі летапіс паведамляе пад 1155 г., калі князь Юры Даўгарукі, атрымаўшы трон у Кіеве, аддаў Мазыр Святаславу Ольгавічу. Аднак неўзабаве горад зноў перайшоў у падпарадкаванне кіеўскаму князю. Гістарычны лёс Мазыра, які размешчаны на тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, цесна звязаны з Туравам. Пра Мазыр гаворыцца ў летапісе таксама пад 1170 годам і ўпамінаецца другі горад Межымосце, які, відаць, размяшчаўся недалёка ад Мазыра, на тэрыторыі сучаснай Беларусі (мяркуецца, што яго рэшткамі з'яўляецца археалагічны комплекс каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёна).

Брагін узнік як дрыгавіцкі горад, аднак хутка трапіў у залежнасць ад кіеўскіх князёў. У летапісах упамінаецца пад 1147 годам. У 1187 г. кіеўскі князь Рурык Расціславіч падараваў яго сваёй нявестцы Верхуславе.

**Княствы ў Верхнім Панямонні XII—XIII стст. і ўтварэнне беларуска-літоўскай дзяржавы.** Усходнія славяне ў канцы І тысячагоддзя н. э. асвойвалі землі Беларускага Панямоння, як гаварылася вышэй. Археалагічныя раскопкі паказалі, што найбольш старажытнымі гарадамі тут з'яўляюцца Наваградак (Навагрудак) і Ваўкавыск, жыццё ў якіх зарадзілася ў канцы X стагоддзя. Амаль адначасова на правым беразе Нёмана пры вусці Гараднічанкі ўзнік пасёлак, відаць, ваеннага прызначэння, які паклаў пачатак гораду Гародня (Гродна). Тут існавалі яшчэ гарады Слонім, Турыйск, магчыма, Вавярэск[55]. Летапісныя звесткі аб іх вельмі фрагментарныя.

У Іпацьеўскім летапісе пад 1116 г. паведамляецца, што Уладзімір Манамах аддаў сваю дачку Агафію за Усеваладка. Гарадзенскі князь Усеваладка прымаў удзел у паходзе 1127 г. кіеўскага князя Мсціслава на Полацкую зямлю. У 1132 г., калі Мсціслаў распачаў паход на Літву, у складзе яго войска знаходзіліся дружыны на чале з гарадзенскім князем Усеваладкам Давыдавічам. Адсюль відаць, што Гародня была сталіцай удзельнага княства. Усеваладка памёр у 1141 г. Яго нашчадкамі засталіся сыны Мсціслаў, Барыс і Глеб. Вялікі князь кіеўскі Усевалад выдае дочак Усеваладкі ў 1144 г. за суседніх князёў — Уладзіміра Давыдавіча драгічынскага і Юрыя Яраславіча тураўскага. Дынастычныя шлюбы звязвалі гарадзенскіх князёў з княскімі дынастыямі іншых зямель, што садзейнічала згуртаванню сіл у інтарэсах палітыкі Кіева.

У XII ст. нашчадкі Усеваладкі неаднаразова выступалі разам з кіеўскімі князямі ў сумесных паходах супраць качэўнікаў. Мсціслаў Усеваладкавіч з Гародні і пінскі князь Яраслаў удзельнічалі ў паспяховым паходзе

1183 г. кіеўскага вялікага князя Святаслава на палавецкага хана Канчака.

Летапісец паведамляе, што ў 1183 г. згарэў горад і цэрквы, якія ў ім знаходзіліся. Наяўнасць трох манументальных царкоўных пабудоў у Гародні сведчыць аб тым, што гэта быў значны горад у Беларускім Панямонні.

Непасрэднае паведамленне летапісаў аб панёманскім горадзе «Новоугородоу» адносіцца да 1252 г., а пад 1253 г. названа яго «зямля». Ваўкавыск упершыню ўпамінаецца ў летапісе таксама пад 1252 г., калі ён з'яўляўся цэнтрам невялікага ўдзельнага княства, дзе княжыў Глеб. Слонім названы ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 г. У сувязі з падзеямі 1281 г. упамянуты князь «васлонімскі». У гэты час Слонім з'яўляўся сталіцай удзельнага княства. Такім чынам, у Верхнім Панямонні (так званая «Чорная Русь») узніклі Гарадзенскае, Наваградскае, Ваўкавыскае, Слонімскае ўдзельныя княствы. У летапісе названа яшчэ Свіслацкае княства.

У XIII ст. адбывалася барацьба галіцка-валынскіх князёў з князем Міндоўгам за валоданне Верхнім Панямоннем. Міндоўг разам з іншымі балцка-літоўскімі князямі ў 1219 г. абавязваўся перад галіцка-валынскімі князямі выяваць супраць палякаў. У той жа самай ролі ён у 1237 г. разам з наваградскім князем Ізяславам паводле жадання Данілы Галіцкага выяваў з Кандратам Мазавецкім. У 1245 г. Міндоўг зноў дапамагаў Данілу Галіцкаму ў яго барацьбе з

Вялікі князь Міндоўг (1236—1263 гг.).

чарнігаўскім князем Расціславам.

Міндоўг, які паходзіў з сям'і буйнога літоўскага феадала, гвалтам і подкупамі падначаліў сабе дробных феадалаў у прамежак ад сярэдзіны 1230-ых гг. да 1263 г. і заснаваў адносна адзіную новую незалежную дзяржаву. Адбываліся гэтыя падзеі ва ўмовах вострых феадальных міжусобіц. У 50—70-ыя гг. XIII ст. Панямонне стала арэнай барацьбы галіцка-валынскіх і літоўскіх князёў. У 1252 г. сюды ўварвалася войска галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька Раманавічаў. Даніла Галіцкі накіраваў брата на Ваўкавыск, сына на Слонім, а сам пайшоў да Здзітава. Князі захапілі гарады, аднак затым вярнуліся дадому.

Вайна ўзнавілася ў 1253 г. Даніла Галіцкі спустошыў усю

«землю Новгородьскоую», як сведчыў летапіс. Тым часам Васілька з пляменнікам Раманам Данілавічам захапіў Гародню. Тады ў адказ сын Міндоўга спустошыў наваколле Турыйска.

Неўзабаве Міндоўг накіраваў паслоў да Данілы Галіцкага з прапановай аб міры. Мірны дагавор быў заключаны прыкладна ў 1254 г. пасля яшчэ аднаго паходу князя Данілы «на Літву на Наваградак», як сказана ў Іпацьеўскім летапісе. У заключэнні міру прымаў удзел сын Міндоўга Войшалк, які быў князем у Наваградку. За сына Данілы Шварна была выдадзена замуж дачка Міндоўга. Раман Данілавіч атрымаў ад Міндоўга Наваградак, ад Войшалка — Слонім, Ваўкавыск і іншыя гарады з умовай прызнаць над сабой уладу Міндоўга, быць яго васалам. У 1256 г. войскі наваградскага князя Рамана Данілавіча, ваўкавыскага князя Глеба і свіслацкага князя Ізяслава прынялі ўдзел у паходзе Данілы і Васількa Раманавічаў на яцвягаў.

З сярэдзіны XIII ст. усё больш узвышалася Наваградскае княства, якое дасягнула параўнаўча высокага эканамічнага і культурнага ўзроўню. Тут было добра развіта земляробства, дзякуючы ўрадлівай глебе, існавалі розныя рамёствы. Наваградская зямля мела выгаднае геаграфічнае размяшчэнне. У часы вялікіх няшчасцяў, якія абрушыліся на Русь, Польшчу, усходнюю Прыбалтыку, — мангола-татарскае нашэсце і паходы крыжакоў — Верхняе Панямонне было адносна бяспечнай тэрыторыяй, і пагэтаму з сярэдзіны XIII ст. яно служыла прытулкам для людзей з многіх абласцей Усходняй Еўропы, якія ратаваліся ад жорсткіх заваёўнікаў з Усходу і Захаду. Прыліў новага насельніцтва спрыяў яшчэ большаму развіццю вытворчых сіл. Гэта ў першую чаргу выкарыстоўвалі мясцовыя правіцелі для свайго далейшага абагачэння. У 1252 годзе, як паведамляе Густынскі летапіс, у сваёй рэзідэнцыі Наваградку каранаваўся і прыняў тытул караля князь Міндоўг. Яму ўдалося стварыць адносна адзіную беларуска-літоўскую дзяржаву, якая паслужыла асновай Вялікага княства Літоўскага.

Між тым міжусобная барацьба працягвалася. У канцы 50-ых гадоў XIII ст. князі Войшалк і Таўцівіл схапілі і, відаць, забілі Рамана Данілавіча. У адказ на гэта Даніла Раманавіч зрабіў паход у Беларускае Панямонне, узяў Ваўкавыск і захапіў у палон князя Глеба. Аднак іншыя гарады ў гэтай вобласці яму падпарадкаваць не ўдалося. Войшалк зноў стаў княжыць у багатым і добра ўмацаваным Наваградку.

У 1263 г. Міндоўг стаў ахвярай змовы феадальнай знаці. Вялікакняскі трон у 1264 г. заняў яго сын Войшалк, які нечакана перадаў княжанне галіцкаму князю Шварну Данілавічу, зяцю Міндоўга. Пры яго пераемніку Трайдэну (1270—1282 гг.) землі Верхняга Панямоння зноў перайшлі пад уладу Літвы. Спробы галіцкага князя Льва Данілавіча вярнуць страчаныя землі з дапамогай татар поспеху не мелі. Яму ўдалося адваяваць

часова толькі Турыйск і Слонім.

Барацьба галіцка-валынскіх князёў з Вялікім княствам Літоўскім закончылася перамогай апошняга. Падначаленне адзінай уладзе невялікіх княстваў Верхняга Панямоння спыніла працэс феадальнага драблення і садзейнічала інтэграцыі насельніцтва Беларусі з суседнімі народамі ў межах адзінай дзяржавы.

Такім чынам, вытокі беларускай дзяржаўнасці адносяцца да часу ўтварэння Полацкага і Тураўскага княстваў (IX—X стст.), а пазней у XII—XIII стст. Гарадзенскага, Наваградскага, Смаленскага ды іншых. Дасягнуты ўзровень сацыяльнага і палітычнага развіцця гэтых дзяржаў стаў падмуркам дзяржаваўтваральных працэсаў у беларускіх землях на працягу ўсяго перыяду сярэднявечча.

**Распаўсюджанне хрысціянства.** У X ст. існавала дзве хрысціянскія царквы: заходняя на чале з папам у Рыме і ўсходняя з усяленскім патрыярхам у Канстанцінопалі. Істотнай розніцы паміж імі тады яшчэ не было. Афіцыйнае прыняцце хрысціянства ў яго візантыйскай традыцыі ў 988 г. кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам як дзяржаўнай рэлігіі — важная падзея ў гісторыі ўсходніх славян, у тым ліку тых, якія знаходзіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Прыняцце хрысціянства з'явілася, безумоўна, прагрэсіўнай з'явай ва ўсіх сярэднявечных дзяржавах.

У Полацкай зямлі існавалі свае передумовы прыняцця новай веры. Полацкія воі ўдзельнічалі ў паходзе на Візантыю ў 907 г. і мелі ўяўленне аб хрысціянстве. У апавяданні аб забойстве Рагвалода і ўзяцці ў палон яго дачкі Рагнеды ў 980 г. летапісец падкрэсліў, што Уладзімір быў тады маладым і знаходзіўся ў язычніцтве. Ці былі хрысціянамі Рагвалод і Рагнеда ў той час, застаецца невядомым. Аднак напярэдадні драматычных падзей у Полацку Рагнеду вырашылі аддаць замуж у Кіеў за Яраполка, які спачувальна адносіўся да хрысціянскай веры. Верагодна, са спачуваннем таксама ставіліся да новай рэлігіі ў полацкай княскай сям'і.

Больш упэўнена можна сцвярджаць, што хрысціянства ў Полацку было прынята прадстаўнікамі вышэйшай знаці ўслед за афіцыйным увядзеннем яго ў Кіеве. Ізяслаў, сын Уладзіміра і Рагнеды, хутка пасля прыняцця новай веры пачаў княжыць у Полацку. Аб клопаце па распаўсюджванню тут хрысціянства ўскосна сведчыць характарыстыка Ізяслава, змешчаная ў Цвярскім летапісе, дзе сказана, што ён «прилежаще прочитанию божественных писаний», г. зн. быў вельмі набожны.

У пісьмовыя крыніцы трапіла цікавае паданне аб Рагнедзе-манахіні, якая правяла апошнія гады свайго жыцця ў «манастыры» пад імем чарніцы Анастасіі. Ён, па мясцовых паданнях, размяшчаўся паблізу ручая Чарніца ў Заслаўі. Магчыма, гэта быў пачатковы скіт, якому не суджана было стаць сапраўдным манастыром па прычыне смерці манахіні-адзінотніцы ў 1000 годзе.

Пасля прыняцця хрысціянства ў буйных гарадах і княствах пачалі ствараціца епархіі — тэрытарыяльныя царкоўныя акругі, якімі кіравалі епіскапы. Лічаць, што ў 992 годзе ўзнікла епархія ў Полацку[56].

Сведчаннем актыўных кантактаў Усяслава Полацкага з духавенствам служыць увага князя да шанавання кананізаваных у 1072 годзе братоў яго дзеда — князёў Барыса і Глеба. Невыпадкова такія імёны насілі таксама сыны Усяслава. Гэта пралівае святло на ступень хрысціянізацыі жыцця двара полацкага князя, а таксама на кантакты яго з царкоўным асяроддзем, якое з'явілася ў Кіеве ініцыятарам шанавання святога Барыса і святога Глеба, што атрымала распаўсюджанне і ў Полацкай зямлі. Гэта відаць на прыкладзе помнікаў жывапісу ў Полацку (фрэскі святых Барыса і Глеба ў Барысаглебскім (Бельчыцкім) манастыры) і прыкладнога мастацтва (віслая пячатка з выявай святога Глеба з археалагічных раскопак Менска, бронзавы абразок з раскопак Копысі і інш.).

Полацкая княская сям'я цесна была звязана з Кіева-Пячэрскім манастыром. Добрыя адносіны манастыра з Полацкам склаліся яшчэ пры жыцці Усяслава, якога падтрымліваў манастыр у 1068 годзе, і Усяслаў Полацкі быў абраны кіяўлянамі на трон у Кіеве, на якім пратрымаўся нямнога — 7 месяцаў.

Кароткая звестка аб полацкім епіскапе змешчана ў Іпацьеўскім летапісе пад 1105 годам, калі мітрапаліт Нікіфар І «постави Мину Полотьску» з манахаў Кіева-Пячэрскага манастыра. В. Н. Тацішчаў сцвярджае нават, што мітрапаліт Нікіфар І, які пасвяціў Міну, сам раней быў полацкім епіскапам, але гэта патрабуе больш грунтоўнага пацвярджэння.

У «Жыцці Ефрасінні Полацкай» называецца полацкі епіскап Ілля. Акрамя Міны і Іллі пісьмовыя крыніцы змяшчаюць звесткі яшчэ аб шасці полацкіх епіскапах XII—XIII стст. Касьма (Грэк) пастаўлены ў 1143 г.; Дыянісій памёр у 1183 г.; Мікалай пастаўлены ў 1183 г.; Аляксей упамянуты каля 1231 г.; Сімяон (Наўгародзец) упамянуты каля 1274 г.; Іакаў вядомы па дакументу прыкладна 1300 г.

У XII ст. каля Полацка ўзнікаюць манастыры. Два манастыры — жаночы св. Спаса і мужчынскі св. Багародзіцы — заснавала Ефрасіння Полацкая. У іх вялі манашаскі вобраз жыцця прадстаўнікі полацкай княскай дынастыі. Найбольш вядомая з іх прападобная Ефрасіння (да пастрыжэння княжна Прадслава), пазней прылічаная да ліку святых. У распаўсюджванні хрысціянства, пісьменнасці, культуры ў Полацкай зямлі яе заслугі асабліва вялікія. У цяперашні час вызначана, што ў Полацку ў XII ст. існавала не менш 10 культавых манументальных збудаванняў, трох манастыроў.

Нягледзячы на адзначаныя поспехі хрысціянізацыі, неабходна сказаць, што новая вера ў Полацкай зямлі распаўсюджвалася параўнальна марудна і павінна была вытрымаць барацьбу



Сафія Полацкая. XI ст. Рэканструкцыя Г. В. Штыхава.

з язычніцтвам, якое мела тут глыбокія карані ў выніку блізкага суседства Полацка з літоўскімі і іншымі неславянскімі плямёнамі, у якіх высокага развіцця дасягнуў язычніцкі культ.

Язычніцкія вешчуны ў старажытным Полацку былі ў пашане нават сярод прадстаўнікоў княскай дынастыі пасля афіцыйнага прыняцця хрысціянства. «Аповесць мінулых гадоў» прыпісвае Усяславу Полацкаму нараджэнне ад «вяшчунства». Сучаснікі надзялялі Усяслава звышнатуральнымі якасцямі. Сама Полацкая зямля ўяўлялася летапісцам і аўтару «Слова аб палку Ігаравым» краінай чараўнікоў[57].

Да гісторыі рэлігійных вераванняў жыхароў Полацкай зямлі маюць адносіны велізарныя валунныя камяні з высечанымі на іх выявамі крыжа з «Галгофай» і набожнымі надпісамі. У Падзвінні вядома 9 такіх камянёў. На шасці з іх значыцца імя Барыса, ад чаго камяні называюць «Барысавымі». Камяні з'яўляюцца сведчаннем барацьбы полацкіх князёў з язычніцкімі вераваннямі (пакланенні камяням-фетышцам) у перыяд двухвер'я, якое ўтрымлівалася ў Полацкай зямлі да XII ст. і яшчэ пазней.

Згодна паведамленню «Аповесці мінулых гадоў», пасля прыняцця хрысціянства ў Кіеве князь Уладзімір Святаславіч накіраваў у Тураўскую зямлю ў якасці пасадніка свайго сына Святаполка. Падобна іншым княжычам, ён быў абавязаны не толькі валодаць дрыгавіцкай зямлёй, але і распаўсюджваць тут новую веру. У іншых крыніцах («Сказанні аб Барысе і Глебе», Пераяслаўска-Суздальскім летапісе) гаворка ідзе аб накіраванні Святаполка на княжанне ў Пінск. Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што Святаполк атрымаў адначасова два гарады і мог сапраўды некаторы час знаходзіцца ў Пінску[58].

Паводле дайшоўшага да нас падання, сам князь Уладзімір Святаславіч заснаваў пад Пінскам Лешчынскі манастыр. Выказваюць меркаванні, што Тураў стаў цэнтрам епархіі пасля таго, як у 1088 г. тут пачаў княжыць Святаполк Ізяславіч, праўнук Уладзіміра.

Аднак у «Кіева-Пячэрскім пацерыку» (зборнік апавяданняў) змешчаны тэкст аб заснаванні Тураўскай епархіі ў 1005 г. і прыводзіцца ўстаноўчая яе грамата, якая дадзена ад імя князя Уладзіміра з пералікам гарадоў, што ўваходзілі ў Тураўскую епархію. Першым яе епіскапам быццам быў Фама[59]. У духоўным

падпарадкаванні тураўскага епіскапа пазней знаходзіліся гарады Пінск, Наваградак, Гародня, Берасце, Ваўкавыск, Здзітаў, Степань, Дубровіца, Слуцк, Копысь і інш.

У старажытнарускіх летапісах няма паведамленняў пра тураўскіх епіскапаў X—XI стст. Але ёсць звесткі ў іншых крыніцах аб епіскапе Рэйнберне. Тураўскі князь Святаполк у 1013 г. узяў шлюб з дачкой польскага караля Баляслава. З ёй прыехаў калобжацкі епіскап Рэйнберн, які выкарыстаў момант для распаўсюджання каталіцызму. Уладзімір, даведаўшыся аб гэтых намерах, выклікаў Святаполка разам з жонкай і яе духоўнікам у Кіеў, дзе зняволіў у турму. Рэйнберн неўзабаве памёр[60]. У 1015 г. пасля смерці Уладзіміра княжыць у Кіеве становіцца Святаполк. У гэтым годзе адбылося забойства братоў князёў Барыса і Глеба, якія потым былі абвешчаны першымі ўсходнеславянскімі святымі. У 1054 г. хрысціянская царква канчаткова раздзялілася на каталіцкую і праваслаўную. Адбыўся афіцыйны разрыў цэркваў. У Тураве вядомы ў XII ст. праваслаўныя епіскапы: грэк Ігнацій (1137 г.), Іакім (пастаўлены ў 1144 г.), Кірыла (каля 1169 г.), Лаўрэнцій (названы ў летапісе пад 1182 г.).

Клопатам аб распаўсюджванні хрысціянства было адкрыццё цэркваў і манастыроў. Жонка Святаполка Ізяславіча Варвара заснавала ў Тураве Варварынскі манастыр, у якім жыла з дзяцьмі пасля смерці князя. Сказанне аб Марціне-мніху паведамляе аб існаванні ў Тураве мужчынскага манастыра. Тут жа знаходзілася епіскапская рэзідэнцыя.

У Тураве пры археалагічных даследаваннях выяўлены рэшткі мураванага трохапсіднага сабора. Уплыў хрысціянства распаўсюджваўся на творы прыкладнога мастацтва. Пры раскопках гарадоў знойдзены металічныя, каменныя, бурштынавыя крыжы, у Тураве — цудоўныя свінцовыя абразкі, якія ўстаўляліся ў вялікі крыж, у Пінску — каменны абразок Ісуса Хрыста Эмануіла.

**Рукапісныя кнігі.** Ва ўсходніх славян яшчэ ў эпоху першабытнага грамадства ўзніклі і склаліся цыклы абрадавай паэзіі (вясенні, летне-асенні, зімні). Непарыўная сувязь з вуснай паэтычнай творчасцю старажытных усходнеславянскіх плямён — адметная асаблівасць сярэднявечнага фальклору.

У першай палове XI ст. пачалося летапісанне. У пачатку XII ст. была створана «Аповесць мінулых гадоў». Яе аўтар манах Кіева-Пячорскага манастыра Нестар. Ён працягваў работу тых невядомых летапісцаў, якія склалі больш старажытныя летапісныя зводы. Летапісцы, лічачы, што «адзіны народ славянскі», праяўлялі цікавасць да падзей, якія адбываліся ва ўсіх усходнеславянскіх землях.

Важнай крыніцай па гісторыі Кіеўскага, Галіцка-Валынскага, Полацкага, Тураўскага і іншых княстваў XII—XIII стст. з'яўляецца Іпацьеўскі летапісны звод, у які былі ўключаны тры летапісныя творы: «Аповесць мінулых гадоў», Кіеўскі летапіс і

Галіцка-Валынскі летапіс. Выказваюцца думкі, што арыгінал Іпацьеўскага летапісу перапісваўся ў Пінску мясцовым перапісчыкам. Ёсць звесткі аб існаванні Полацкага летапісу, які быў страчаны ў XVIII ст. (не быў надрукаваны) і Смаленскага летапісу. Летапісныя запісы, магчыма, вяліся ў Тураве і Наваградку.

Рукапісных кніг XI—XIII стст. да нас дайшло не шмат. Вядомы тураўскае і полацкае евангеллі таго часу. Самае ранняе (з тых, што захаваліся) Тураўскае евангелле, створанае на беларускіх землях у XI ст. Твор напісаны царкоўна-славянскай мовай, аздоблены вялікімі загаловачнымі літарамі-ініцыяламі, якія намаляваны фарбамі: чырвонай, сіняй, зялёнай.

У Полацку пры Сафійскім саборы існавала бібліятэка, у якой захоўваліся рукапісныя кнігі. Яна загінула ў час Лівонскай вайны.

Кнігі пісалі на пергаменце — спецыяльна вырабленай тонкай скуры маладых жывёл. Рукапісы складалі ў сшыткі. Вокладкамі служылі дзве дошкі. Такая кніга мела выгляд скрынкі большых ці меншых памераў. Пераплёт каштоўных рукапісаў аздабляўся металічнымі ўпрыгожаннямі. Каб лісты кнігі не камячыліся, дошкі-вокладкі сцягваліся асобнымі металічнымі засцёжкамі. Розныя засцёжкі ад старажытных кніг знойдзены пры археалагічных раскопках у Менску, Друцку, Ваўкавыску, Наваградку.

З XII—XIII стст. пачалі распаўсюджвацца ілюстраваныя рукапісы, у якіх змешчаны малюнкі-мініяцюры. Самы цікавы ілюстраваны летапіс — так званы Радзівілаўскі. У ім звыш 600 малюнкаў. Сярод іх мініяцюры, якія маюць дачыненне да старажытнай гісторыі беларускіх зямель.

Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр каля Полацка. Фрэска «Устрэчанне». XII ст.

Вяршыняй мастацкай літаратуры старажытнай Русі лічыцца вядомы ва ўсім свеце твор «Слова аб палку Ігараве». Уяўляюць цікавасць паведамленні аўтара аб полацкіх князях, асабліва вобразнае апавяданне аб Усяславе Полацкім. Тут узнаўляюцца сапраўдныя гераічныя ўчынкі гэтага незвычайнага князя, а

таксама складзеная пра яго легенда, якая напоўнена рамантычнымі прыгодамі. Па свайму зместу, мове і форме «Слова» — помнік, агульны для ўсіх усходніх славян.

**Ефрасіння Полацкая.** Перапіскай царкоўных кніг займалася сярод іншых князёўна Прадслава, вядомая ў гісторыі пад імем Ефрасінні Полацкай. Прадслава — выключна старажытнае полацкае імя, такое ж, як і Звяніслава, Гардыслава (сёстры Ефрасінні), як Усяслаў, Брачыслаў. Ефрасіння была ўнучкаю князя Усяслава Брачыславіча, дачкою малодшага яго сына Святаслава (у хрышчэнні Георгія). Нарадзілася яна, як мяркуюць, у 1104 г. З маленства мела здольнасці да «вучэння кніжнага». У юнацтве стала манашкаю, прыняўшы імя Ефрасінні. Затым яна заснавала каля Полацка жаночы манастыр, пры якім адкрыла школу для навучання грамаце дзяцей. Ефрасіння заснавала яшчэ і мужчынскі манастыр, якому падаравала твор старажытнага мастацтва — абраз Эфескай Божай Маці, прывезены з Візантыі[61].

Ефрасіння Полацкая падаравала Спаскай царкве жаночага манастыра крыж, зроблены майстрам-ювелірам Лазарам Богшам па яе заказу і эскізу. Даўжынёй паўметра, зроблены з трывалага дрэва, ён быў абкладзены залатымі пласцінамі. На вонкавым і тыльным баках крыжа на пласцінах было змешчана 20 выяў святых хрысціянскай царквы. Усе яны выкананы ў тэхніцы перагародкавых эмаляў сінімі, чырвонымі, белымі, зялёнымі адценнямі. Тры верхнія фігуры (Ісус, Марыя, Іаан Прадцеча) ўтвараюць асноўны цэнтр — «маленне». З выявамі святых чаргуюцца шматлікія арнаменты-эмалі. Па сваіх мастацкіх якасцях і тэхніцы перагародкавых эмалей полацкі крыж не саступае найлепшым узорам тагачаснага прыкладнога мастацтва, якія карысталіся сусветнай славай[62]. З поўным правам яго можна назваць шэдэўрам — узорным творам сваёй эпохі. (Крыж знік у 1941 г. з пакоя спецсхова ў Магілёве, і яго месца знаходжання застаецца невядомым).

Прападобная Ефрасіння была не адзінокай у сваёй дзейнасці. Яна мела сувязі з выдатнымі людзьмі таго часу, перш за ўсё ў самім Полацку — дойлідам Іаанам, майстрам-ювелірам Богшам, якіх настройвала на творчыя пошукі. Памерла Ефрасіння Полацкая ў 1167 г. (паводле іншых меркаванняў, у 1173 г.), зрабіўшы цяжкое падарожжа ў Іерусалім[63]. Пасля смерці Ефрасінні невядомы аўтар склаў яе «Жыціе». Гэта адзін з вельмі нямногіх помнікаў літаратуры старажытнага Полацка, які дайшоў да нас.

**Кірыла Тураўскі.** Да другой паловы XII ст. адносіцца літаратурная дзейнасць Кірылы Тураўскага. Ён нарадзіўся ў Тураве ў багатай сям'і каля 1130 г. Па жаданню гараджан быў пастаўлены епіскапам у сваім горадзе. З таго часу пачалася яго пісьменніцкая дзейнасць.

Кірыла Тураўскі — выдатны для свайго часу пісьменнік і прамоўца, аўтар шэрага «слоў»,

малітваў-споведзяў, дыдактычных аповесцей-прытчаў. Творы Кірылы Тураўскага вельмі добра былі вядомы за межамі Тураўскай зямлі. Ён вёў перапіску з князем Андрэем Багалюбскім. Літаратурная дзейнасць Кірылы Тураўскага атрымала прызнанне яшчэ пры яго жыцці. Яна дае ўяўленне аб духоўнай культуры аднаго з гарадоў старажытных зямель Беларусі. Сучасныя вучоныя ставяць імя Кірылы Тураўскага ў адзін рад з геніяльным стваральнікам «Слова аб палку Ігаравым».

Другой крыніцай пісьменнасці Турава XII ст. з'яўляецца «Сказанне аб мніху Марціне», у якім гаворыцца аб цяжкім жыцці манаха-пустэльніка ў келлі Барысаглебскага манастыра. Марцін быў поварам і абслугоўваў чатырох тураўскіх епіскапаў, якія змянялі адзін другога: Сімяёна, Ігнація, Іакіма, Георгія. Калі Марцін быў ужо стары, і ў час разліву ракі манастыр з усіх бакоў абкружала вада, хвораму манаху не было каму падаць папіць, каб прагнаць смагу. Цікавыя словы, якія сустракаюцца ў творы: «карэц» — коўш для пiцця, выраблены з карнявішча, «дзецкія» — слугі князя Яраслава. Больш познім помнікам з'яўляецца «Сказанне аб Кірыле Тураўскім».

**Клімент і Аўрамій з Смаленска.** Выдатнымі царкоўнымі дзеячамі і пісьменнікамі XII ст. з'яўляліся Клімент і Аўрамій. Клімент Смаляціч быў з 1147 да 1154 г. мітрапалітам у Кіеве, дзе абараняў незалежнасць усходнеславянскай праваслаўнай царквы ад Візантыі. У яго творы «Пасланне прэсвітэру Фаме» сустракаюцца беларускія словы «сябры», «ляда», «пожні» і інш.

Аўрамій Смаленскі паходзіў з багатай сям'і. Пасля смерці бацькоў раздаў маёмасць людзям і пайшоў у манастыр. Яго казанні прыцягвалі слухачоў не толькі са Смаленска, але і з іншых месц. З «Жития Аврамия Смоленского», напісанага каля 1240 г. яго вучнем Яфрэмам, мы даведваемся, што ўжо ў XII ст. у Смаленску існавалі школы, перапісваліся кнігі, маляваліся іконы. У «Житии» прысутнічаюць беларускія словы: «наставник», «злодий», «потреба», «велми» і інш.[64].

**Помнікі архітэктуры, мастацтва, пісьменства.** Усходнія славяне стварылі шматгранную культуру, якая ўключала архітэктуру, выяўленчае мастацтва, пісьменства, музыку.

Выдатным дасягненнем старажытнай культуры справядліва лічацца помнікі манументальнай архітэктуры. У Полацку ў 50-ыя гады XI ст. будуецца грандыёзны кафедральны Сафійскі сабор — трэці храм такога тыпу і назвы ва ўсходняй Еўропе пасля кіеўскай і наўгародскай Сафіі. Храмы — не толькі культавыя, але і грамадскія пабудовы, дзе захоўваўся архіў, бібліятэка, дзяржаўная казна. У пачатку XII ст. побач з Полацкам у Бельчыцах — рэзідэнцыі полацкіх князёў — узнікае Барысаглебскі манастыр, а каля 1159 г. на беразе Палаты была пабудавана знакамітая Спаская царква Ефрасіньеўскага манастыра з вежападобнай кампазіцыяй. Яна

адлюстроўвала характэрныя рысы мясцовай школы дойлідства (вежападобны выгляд царквы з кілепадобнымі какошнікамі ўверсе).

Сцены і слупы знутры былі распісаны непаўторнымі фрэскамі (выявы святых), якія захаваліся да нашых дзён. Фрэскі размяшчаліся на сценах і слупах царквы ў два рады. Фарбы фрэсак — жоўтая і цёмная вохра, ружовы і блакітны колеры, фон — сіні і зялёны. Мастацтва полацкіх фрэсак нагадвае жывапіс Ноўгарада і Кіева і звязана з візантыйскай традыцыяй. Але гэта і высокае самабытнае мастацтва Полацкай зямлі.

Своеасаблівыя каменныя культавыя пабудовы (цэрквы) у XII ст. былі ўзведзены ў Віцебску, Наваградку, Гародні, Тураве. Да нашых дзён захавалася Барысаглебская (Каложская) царква ў Гародні. Яе сцены ўпрыгожаны ўстаўкамі з каляровага паліраванага каменю і керамічнымі пліткамі, пакрытымі зялёнай і карычневай палівай. У Камянцы ў канцы XIII ст. была пабудавана абарончая вежа — выдатны помнік ваеннага дойлідства Беларусі.

Некаторыя ўяўленні аб музычнай культуры і інструментах даюць выявы на вырабах прыкладнога мастацтва. У Наваградку знойдзен касцяны выраб XII ст., на верхняй частцы якога выява музыкі. Ён грае на струнным інструменце. Касцяная фігурка барабаншчыка з бубнам выяўлена ў Ваўкавыску[65].

Гісторыя беларускага пісьменства пачынаецца з першай паловы XIII ст., калі ствараюцца пісьмовыя помнікі з характэрнымі прыкметамі беларускай мовы. Да іх адносіцца дагаворная грамата смаленскага князя Мсціслава з Рыгай і Готландам, дагавор з Рыгай невядомага смаленскага князя, заключаны каля 1230 г., грамата полацкага князя Ізяслава прыкладна 1265г. і інш.[66]. Усе гэтыя дакументы напісаны кірылаўскімі літарамі — шрыфтам, які пакладзены ў аснову сучаснай беларускай, рускай і ўкраінскай пісьменнасці.

Археалагічныя даследаванні значна папоўнілі колькасць крыніц па культуры зямель Беларусі. Старажытнымі ўзорамі пісьменства з'яўляюцца надпісы на свінцовых віслых пячатках, якія прывешваліся да дакументаў на шнурку. На пячатцы полацкага князя Ізяслава канца X ст. змешчана выява трызубца (знака князёў Рурыкавічаў), а вакол надпіс «Изас(лав)ос», які кірылічнымі літарамі перадае грэчаскае гучанне імя «Ізяслаў». Полацкая пячатка — найбольш старажытны ўзор пісьма ўсходніх славян.

Надпіс XI ст. знойдзены ў Сафійскім саборы ў Полацку. На вялікім плоскім камені ў падмурку выдрапаны імёны людзей, якія будавалі сабор: «Давидъ, Тоума, Микоула», а таксама «Петърь, Воришъ». Графіці XII ст. ёсць на прасліцах, амфарах. Яны даюць звесткі аб імёнах, лексіцы: «Бабино праслень» (Віцебск), «Ярополче вино» (Пінск), «Настасино праслен» (Пінск). У надпісе на сцяне Сафійскага сабора ў Кіеве «Воинегъ писалъ Журяговиць

Надпіс на камяні з падмурка Полацкай Сафіі. XI ст.

полоцянинь» вызначана месца жыхарства яе аўтара — Полацк і адчуваюцца прыкметы мясцовага дыялекту.

Да полацкага пісьменства адносіцца адзін з вельмі нямногіх вядомых нам, так званых дзелавых надпісаў XII ст. Ён зроблены на пласцінах крыжа Ефрасінні Полацкай. У надпісе паведамляецца год падаравання крыжа Ефрасінняй Спаскай царкве (6669-ы, ці 1161-ы па нашаму злічэнню), кошт матэрыялу (100 грыўняў) і працы (40 грыўняў). У другой частцы надпісу запісаны праклён таму, хто знясе крыж са Спаскай царквы.

Дакументы, запіскі, лісты ў XI—XV стст. пісалі на бяросце даволі часта. Берасцяныя граматы выяўлены пры раскопках гарадоў, найбольш у Ноўгарадзе на берагах Волхава. На бяросце літары надрапавалі касцяной ці жалезнай палачкай — пісалам. Пісалы знойдзены ў многіх беларускіх гарадах.

У Ноўгарадзе выяўлена берасцяная грамата XI ст., якую напісаў Жыравіт, жыхар аднаго з гарадоў — Смаленска, Полацка або Віцебска, і накіраваная ў Ноўгарад Вялікі. У асобных берасцяных граматах з Ноўгарада ўпамінаецца «Гавъко Полоцанино», жыхар Полацка, справа якога разбіралася ў судзе, і палонны, які быў выкуплены «ис Полоцька».

Берасцяная грамата XIII—XIV стст. знойдзена ў Віцебску. У ёй Сцяпан просіць Няжылу купіць яму «жыта за 6 грыўняў». Фрагмент граматы пачатку XIII ст. выяўлены ў Мсціславе. Захавалася 2 радкі. У першым гаворыцца аб пшаніцы на 4,5 грыўні,

у другім — пра нейкага Сямёна. Для мовы грамат характэрна адсутнасць царкоўнаславянскай кніжнай лексікі.

Раскопкі гарадоў у Беларусі далі каштоўную калекцыю шахмат XII—XIII стст. Гэта абстрактныя сімвалічныя фігуры, якія зроблены з косці ці рога пры ўліку ўсходніх узораў. Інакш выглядалі дэкаратыўныя шахматы. Кожная такая фігурка — гэта мініяцюрная скульптура, у якой адлюстраваны жывыя назіранні разбяра. Знаходкі шахмат — яшчэ адно пацвярджэнне значнага ўзроўню культуры нашых старажытных гарадоў.

Створаная матэрыяльная і духоўная культура ў раннесярэднявечных беларускіх землях стала грунтам для развіцця самабытнай культуры беларускага народа ў наступныя стагоддзі.



# РАЗДЗЕЛ III

# АФАРМЛЕННЕ ФЕАДАЛЬНАЙ СІСТЭМЫ

## (Сярэдзіна XIII — першая палова XVII ст.)

## I. Палітычныя адносіны ў Вялікім княстве Літоўскім

**Утварэнне Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага.** Трынаццатае стагоддзе для ўсходняга славянства стала адным з самых драматычных і цяжкіх часоў, калі варожыя зграі — татара-манголы з паўднёвага ўсходу, крыжакі — з паўночнага захаду,— агарнулі іх землі пятлёю, якая пагрозліва зацiскалася. У гэтых умовах унутрыпалітычныя супярэчнасці, бойкі адыходзілі на другі план перад пагрозай знішчэння. Ідэя кансалідацыі набывала больш і больш прыхільнікаў, станавілася звышактуальнай. Тыя 20 удзельных княстваў, што існавалі на тэрыторыі Беларусі ў XIII ст., шукалі ўсё больш цеснага кантакту як у эканамічнай, так і ў палітычнай сферах. Здаецца, Полацкае княства, якое ў свой час першым вылучылася са складу Кіеўскай Русі і мела багатыя традыцыі незалежнага і самастойнага існавання, павінна стаць тым аб'яднаўчым магнітам, які сцягнуў бы ў адзіную дзяржаву змоглыя ад феадальных усобіц і іншаземных набегаў навакольныя землі. Але ж Полаччына XIII ст. не была ўжо настолькі багатай і магутнай, як у папярэднія XI, XII стст., бо страта выхаду да Балтыкі, цяжкая зацяглая барацьба з крыжацкай агрэсіяй падтачылі сілы гэтага волата. І ў сярэдзіне XIII ст. цэнтр палітычнага жыцця на беларускіх землях пераходзіць у Наваградак, які падчас двух вялікіх супрацьстаянняў — з крыжакамі і татара-манголамі — быў адносна бяспечнай тэрыторыяй[1]. Менавіта Наваградская зямля разам з суседнімі ёй літоўскімі стала ядром зараджэння новай дзяржавы ў верхнім і сярэднім Панямонні, якая атрымала назву Літоўскае княства[2]. Нездарма ж першы князь гэтага дзяржаўнага ўтварэння — Міндоўг — зрабіў Наваградак сталіцай сваёй краіны і там жа ў 1253 г. каранаваўся з благаслаўлення папы рымскага Інакенція XIV.

Становішча маладой дзяржавы было даволі хісткім у акружэнні магутных Галіцкай зямлі, Тэўтонскага ордэна. Стабіль-

насць і магутнасць даставаліся не толькі выгадным геаграфічным становішчам, тонкай дыпламатыяй, але сілай і крывёю. Неаднойчы зляталі галовы з яе валадароў. Шляхам забойстваў з гістарычнай арэны былі ўбраны Міндоўг, сын ягоны Войшалк, Трайнята. Цяжкую і працяглую барацьбу супраць вярхоўнай улады з боку мясцовай знаці вытрымаў вялікі князь Віцень (1293—1316), які ўвёў агульнадзяржаўны герб «Пагоня». Больш-менш стабільнымва ўнутрыпалітычным плане было княжанне Гедыміна (1316—1341), пры якім граніцы княства пашырыліся амаль на ўсю беларускую тэрыторыю. Цэлае стагоддзе, нават крыху больш, Літоўская дзяржава станавілася Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім. Да сярэдзіны XV ст. гаспадарства афіцыйна называлася Вялікім княствам Літоўскім і Рускім, а пазней — Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншых зямель. У Вялікім княстве тэрмін «Літва» тады адносіўся да тэрыторыі верхняга і сярэдняга Панямоння, а пад «Руссю» разумелася верхняе Падзвінне і Падняпроўе. Сучасныя заходнія этнічна літоўскія землі (Жмудзь) канчаткова далучыліся да Вялікага княства ў першай палове XV ст.



Вялікі князь Войшалк. Выява на абкладзе Лаўрышаўскага Евангелля.

Шляхі ўваходжання беларускіх зямель у склад Літоўскай дзяржавы былі розныя. Але скупыя, адрывачныя звесткі, што дайшлі ад той пары, не дазваляюць вызначыць дакладную карціну гэтага працэсу. З упэўненасцю можна гаварыць толькі аб дабравольна-дагаворнай аснове ўваходжання ў склад Літоўскай дзяржавы найбольш буйных беларускіх зямель — Полацкай і Віцебскай. Аб гэтым сведчаць земскія прывілеі вялікіх князёў літоўскіх, якія зацвярджалі аўтаномны статус гэтых зямель у складзе Вялікага княства. Галоўныя рысы гэтай аўтаномнасці былі звязаны, па-першае, з правам палачан і віцяблян выказваць сваю думку пры назначэнні намеснікаў і ваяводаў у сваіх землях, якую абавязкова


Вялікі князь Гедымін (правіў у 1316—1341 гг.).

павінен быў улічваць вялікі князь літоўскі. Ён быў абавязаны «им давати воеводу по старому, по их воли; и который им будет нелюб воевода... ино нам воеводу им иного дати, по их воли».

Аўтаномнасць зямель, па-другое, прадугледжвала абмежаванне судовай улады намеснікаў і ваявод. Так, у прыгаданых земскіх прывілеях спецыяльна агаворвалася: «А воеводе нашому полоцкому мешчан не судити одному, судити ему с бояры и мешчаны». Фактарам аўтаномнасці, па-трэцяе, заставалася функцыяніраванне полацкага і віцебскага вечаў, на якіх вырашаліся многія пытанні мясцовага самакіравання: выбранне ўлад, нясенне воінскай службы, гаспадарчыя гарадскія справы. Манапольнае права полацкага і віцебскага баярства на ўсе пасады мясцовага кіравання таксама было фактарам аўтаномнага статуса гэтых зямель у складзе Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага[3].

Наяўнасць гэтых дакументаў дазваляе гаварыць аб федэратыўнасці створанай дзяржавы, у якой вакол першапачатковага ядра (уласна Літва) аб'ядноўваліся абласныя аўтаноміі. Феадальныя княствы-дзяржавы, што існавалі на тэрыторыі Беларусі, менавіта наяўнай у іх з часоў Кіеўскай Русі развітой эканомікай, прававой сістэмай і сістэмай улады, культурай удыхвалі свае багатыя традыцыі ў новую Літоўскую дзяржаву, робячы яе Вялікім княствам. Усе народы, якія прымалі ўдзел у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Вялікага княства, а найперш беларускі і літоўскі, з'яўляюцца гістарычнымі спадкаемцамі гэтай дзяржавы. Таму ёсць падставы ўжываць тэрмін для вызначэння дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага: Беларуска-Літоўскае гаспадарства.

**Супраць варожых нашэсцяў.** Толькі еднасць славянскіх і літоўскіх зямель у барацьбе з хцівымі ворагамі дазволіла народам, што насялялі іх, супрацьстаяць агрэсіям з паўночнага захаду і паўднёвага ўсходу, зберагчы свой этнас і дзяржаўную незалежнасць. Як падкрэсліваў Ф. Энгельс, «у той час, калі Вялікаросія трапіла пад мангольскі прыгнёт, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства»[4]. Зусім нездарма бела-

руска-літоўскія летапісы, калі падаюць легендарныя звесткі аб гераічных старонках барацьбы нашых продкаў супраць татара-мангольскай навалы, увесь час пільна адзначаюць, што перамогі над татарскімі ордамі ў нізоўі Прыпяці, пад Крутагор'ем (сённяшні Дзяржынск Менскай вобласці), «за Мазыром на рацэ Акунеўцы» здабылі «літва а русь», дзе плячо ў плячо з Руссю — «новгорожаны, слонимчаны, пинщаны» — стаялі войскі са «жмондами и литвою»[5].

Абараніўшы сваю зямлю ад татарскіх нашэсцяў у 1275, 1277, 1287, 1315, 1325, 1338 гг., войскі набраўшага моц Вялікага княства Літоўскага і Рускага ў сваю чаргу наносяць у другой палове XIV ст. магутныя ўдары ардынцам, вызваляюць ад татара-мангольскага нашэсця некаторыя славянскія землі. У бітве 1362 г. на рацэ Сінія Воды — левым прытоку Паўднёвага Буга — войска вялікага князя Альгерда разбіла татарскіх князёў Кутлубуга і Хачэбоя, у выніку чаго Кіеўшчына і Падолле вызваліліся ад татар і былі далучаны да Вялікага княства.

Не засталіся ў баку воіны з зямель Беларусі і ў вызначальнай для татарскага панавання на Русі Кулікоўскай бітве 1380 г. Князь Андрэй Полацкі, які абапіраўся ў дынастычнай барацьбе супраць брата Ягайлы на маскоўскага князя Дзмітрыя, прывёў на поле Кулікова, паводле «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», «войско великое» (мяркуючы, што ў ім было каля 2 тысяч полацкіх і пскоўскіх вояў) і камандаваў у бітве з Мамаем



Герб Пагоня.

палком правай рукі. Полк адбіў усе напады ворага і прымусіў яго адступіць. Разам з Андрэем змагаўся і яго родны малодшы брат Дзмітрый Альгердавіч. Засадны ж полк, на чале якога стаяў іх стрыечны брат Дзмітрый Баброк-Валынскі, практычна вызначыў зыход бітвы на карысць рускіх войск. Нездарма ж аўтар вядомай «Задонршчыны» такімі ўзнёслымі словамі ўхваляе гэтых герояў Кулікоўскай перамогі: «Те бо суть сынове храбрии... ведоми полководцы, под трубами и под шеломы возлелеяны, конец копия вскормлены».

Не меншую небяспеку для беларускіх зямель у XIII—XIV стст. уяўляла крыжацкая навала. Калі не большую. Бо татара-манголы вялі свае заваёвы дзеля багацця, з прымяненнем толькі ваеннай сілы, без выкарыстання аніякіх палітыч-

ных сродкаў. Чаго нельга сказаць пра Ордэн. Яго агрэсія ішла пад знакам місіянерскай дзейнасці і пагражала не толькі разбурэннямі славянскіх і балцкіх гарадоў і вёсак, фізічным знішчэннем народаў, але і знішчэннем духоўным, анямечваннем этнічных груп, што насялялі Усходнюю Еўропу. Таму барацьба з тэўтонамі стала барацьбой за выжыванне славянства. І на пярэднім яе краі стаялі беларускія землі, беларускі народ, які закрываў сабою ад крыжацкай навалы іншыя ўсходнеславянскія землі. Але колькіх жыццяў, гора і слёз тое каштавала. Летапісы адзначаюць амаль штогадовыя набегі крыжакоў на Полаччыну, Гародзеншчыну, Наваградчыну. А ў асобныя гады такіх наскокаў налічвалася да 8. Барацьба з Ордэнам нараджала сваіх герояў. У аналах гісторыі захавалася імя гародзенскага ваяводы Давыда, сына князя Доўманта-Цімафея і князёўны Марыі — унучкі Аляксандра Неўскага. У 1314 г. Давыд Гарадзенскі са сваёй дружынай разбіў крыжакоў, што напалі на Наваградак. У 1319 г. ён узначаліў пераможны паход гародзенцаў на Прусію. У 1323 г., калі ордэнскае войска трымала ў аблозе Пскоў, «послаше псковичи к Давыду князю в Литву» за дапамогай. І той выратаваў Пскоў ад крыжацкай навалы, пагнаўшы лівонскіх рыцараў за раку Вялікую. Наступны ўдар Ордэну Давыд нанёс у Мазовіі ў 1324 г. А праз два гады арганізаваў паход на Брандэнбург, падчас якога быў па-здрадніцку — ударам нажа ў спіну — забіты мазавецкім рыцарам Андрэем. Воіны-гародзенцы прынеслі цела свайго ваяводы дамоў на шчытах і пахавалі на беразе Нёмана каля старажытнай прыгажуні Каложы.

А колькі нязнаных герояў засталося па-за межамі летапісных сведчанняў, гістарычных крыніц, што дайшлі да нас! Але аднаго з гэтых герояў мы можам назваць з дакладнасцю — гэта беларускі народ. Народ, які ўвесь як адзін падняўся на смяротную рашучую бітву са сваім адвечным ворагам. 15 ліпеня 1410 г. на вузкім полі каля вёсачак Грунвальд, Людвікава і Таненберг сышліся на бітву аб'яднаныя войскі Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства з войскам крыжацкім. Гэтая бітва ўвайшла ў гісторыю як вялікая. Вялікая таму, што ніводная з бітваў Сярэднявечча не збірала такой колькасці воінаў — некалькі дзесяткаў тысяч. Але вялікая яшчэ і таму, што практычна прадвызначыла далейшае гістарычнае развіццё многіх еўрапейскіх народаў і стала фіналам страшнага, больш чым двухсотгадовага, супрацьстаяння двух магутных сіл: славянства і крыжацкіх заваёўнікаў.

На грунвальдскім полі войскі Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага налічвалі 40 харугваў, сярод якіх значыліся Гародзенская, Лідская, Полацкая, Віцебская, Наваградская, Ваўкавыская, Берасцейская, Пінская, палкі Мсціслаўскі, Аршанскі, Слуцкі, Магілёўскі, воіны з Нясвіжа, Кобрына, Крэва, Лукомля, Ашмянаў... Ды кожны беларускі горад, мястэч-

ка, вёска выправілі на гэтую бітву сваіх прадстаўнікоў.

Раніцай, 15 ліпеня, адзін супраць аднаго сталі ордэнскае войска, за плячыма каторага бачылася ўся Еўропа — рыцары з рэйнскіх зямель, Мейсана, Вестфаліі, Швейцарыі,— і польска-вялікакняскае войска, у якім пераважалі славяне (палякі, беларусы, украінцы, рускія, чэхі) у саюзе з літоўцамі, пры падтрымцы татар, што знайшлі сабе прытулак у Вялікім княстве. Сілы бакоў, калі ўлічыць лепшае ўзбраенне рыцараў-тэўтонаў і колькасную перавагу саюзнага войска, былі прыкладна роўныя. Але ж за спіной у беларусаў, палякаў, літоўцаў была свая зямля, свае хаты ды сем'і, і таму баявы дух іх быў куды вышэйшы. Гэта, пэўна, і прадвырашыла зыход жудаснай сечы, якая доўжылася цэлы дзень. Пачалася ж бітва атакай конніцы Вялікага княства Літоўскага, якая панесла значныя страты з прычыны «воўчых ям», накапаных крыжакамі, куды трапіў князь Іван Жадзевід, «и еще многим людям большой вред от тех ям был». А потым сышліся ў смяротнай бойцы левы фланг саюзнага войска, які займалі харугвы Вялікага княства, і жалезная рыцарская лавіна галоўнага маршала Фрыдрыха фон Валенрода: «Нага наступала на нагу, даспехі ўдараліся аб даспехі, і дзіды накіроўваліся ў твары ворагаў... Нарэшце, калі дзіды былі пераламаны, шэрагі таго і другога боку і даспехі з даспехамі настолькі самкнуліся, што рабілі пад ударамі мячоў і сякер, насаджаных на дрэўкі, страшны грукат, які можна пачуць ад udараў молата аб кавадла, і людзі біліся, і коні давілі людзей»[6]. Магістр Ордэна Ульрых фон Юнгінген прыдаў падмацаванне супраць левага крыла саюзнікаў, і войска Вялікага княства мусіла пайсці на рызыкоўны, але вымушаны манеўр. Як занатаваў у лісце адзін з кіраўнікоў Ордэна ўжо ў паслягранвальдскі час, што «і ў новай бітве ворагі могуць наўмысна выклікаць уцёкі некалькіх атрадаў, каб прывесці да разрыву баявых парадкаў цяжкай конніцы, як то сталася ў «вялікай бітве»[7]. Сапраўды, згодна з апісаннямі сведкаў бітвы, пасля наўмыснага адыходу часткі вялікакняскага войска атрады крыжакоў, «мяркуючы, што яны ўжо атрымалі перамогу, аддаліліся ад сваіх сцягоў, чым парушылі парадак сваіх атрадаў. Потым, калі яны захацелі вярнуцца да сваіх людзей і сцягоў... былі палонены ці загінулі ад мяча»[8]. У гэты ж час насмерць стаялі 3 харугвы Смаленскай зямлі: Мсціслаўская, Аршанская і Смаленская, што асцерагалі ад магчымага захаду крыжакоў у тыл да польскага войска, якое ў гэтым выпадку трапляла ў акружэнне. Трэба ўлічваць, што апісваемыя падзеі разгортваліся без удзелу правага фланга саюзнага войска, якое на дзве гадзіны пазней за Вітаўтава ўступіла ў бітву. У другой фазе бітвы менавіта на правым крыле вырашаўся яе зыход. Сеча з пераменным поспехам цягнулася шэсць гадзін. У магістра ў падмацаванні знаходзілася яшчэ 16 харугваў (прыкладна трэць крыжацкага войска). І калі Юнгінген адчуў,

што сілы саюзнікаў зыходзяць, стаў на чале іх і пайшоў, як ён лічыў, на разгром супраціўніка. Але пралічыўся, бо мелі свае некранутыя рэзервы Ягайла і Вітаўт. Палякі з аднаго боку, ліцьвіны — з другога ўдарылі па войску магістра. У гэтай апошняй, рашаючай сутычцы адборныя аддзелы Ордэна, «абложаныя адусюль, былі павержаны і раздаўлены, амаль усе воіны, што біліся пад шаснаццацю сцягамі, былі перабіты ці ўзяты ў палон»[9]. Не ўдалося Ордэну закаваць славянства ў тыя кайданы, што былі знойдзены пераможцамі пасля бітвы ў крыжацкім лагеры. Удар для тэўтонаў быў настолькі ашаламляльны, што землі ўсходніх славян 5 стагоддзяў не ведалі германскай агрэсіі.

**Унутрыпалітычныя супярэчнасці другой паловы XIV — першай паловы XV ст.** Як адзначалася, *Вялікае княства* Літоўскае і Рускае паўстала ў форме своеасаблівай федэрацыі зямель «Літвы» і «Русі». Прычым ад таго, як складваліся суадносіны пачаткаў, залежала ўнутраная еднасць і ўнутрыпалітычная стабільнасць гэтага поліэтнічнага дзяржаўнага аб'яднання. Магутны славянскі зачын Вялікага княства (9/10 яго тэрыторыі і 8/10 насельніцтва)[10] прадвызначыў беларускі змест, «прарускую» накіраванасць гэтай дзяржавы. К. Маркс у рабоце «Сценька Разін» пісаў, што «Русь тады была падзелена на дзве дзяржавы: Маскву і Літву», якія з'яўляліся двума цэнтрамі аб'яднання ўсходнеславянскіх зямель[11].

Пачынальнікам правядзення праграмы збірання Вялікім княствам Літоўскім і Рускім тэрыторый, аб'яднаных у свой час у старажытнай Кіеўскай Русі, і яе паслядоўным праваднікам быў вялікі князь Альгерд. Паказальна ўжо тое, што першую палову жыцця Альгерд правёў у Полацку (у першым шлюбе ён быў жанаты на віцебскай князёўне Марыі Яраслаўне), дзе прыняў праваслаўе (аб'яднальнік праваслаўных рускіх зямель павінен быць праваслаўным) і спрабаваў падпарадкаваць сваёй уладзе Пскоў. Калі ж Альгерд стаў вялікім князем літоўскім, ён з поспехам працягваў ажыццяўляць сваю «агульнарускую» праграму. Пры ім робяцца спробы авалодаць Ноўгарадам Вялікім, далучаюцца да Вялікага княства Валынь (1352), Бранск і Смаленск (1357), Кіеў (1362), Падолле (1363—1364), Чарнігава-Северская зямля (канец 60 — пачатак 70-ых гг. XIV ст.)[12].

Аднак у асобе Ягайлы — свайго пераемніка на княжацкім сталe — Альгерд не знайшоў пераемніка ў ажыццяўленні праграмы збірання ўсіх рускіх зямель вакол Вільні. Сваю ролю, на наш погляд, тут адыграла палітыка Рыма, які баяўся стварэння магутнага праваслаўнага бастыёна на ўсходзе Еўропы. Ды і актывізацыя захопніцкай палітыкі Ордэна падштурхоўвала Вялікае княства да саюзу з Польшчай. Да таго ж, набіраючы моц, маскоўскі князь робіць спробу вярнуць у склад сваёй дзяржавы шэраг былых зямель Старажытнай Русі, якія на той час знаходзіліся ў межах Вялі-



Вялікі князь Альгерд (правіў у 1345—1377 гг. сумесна з Кейстутам).



Князь Кейстут (правіў асобна ў 1381—1382 гг.).

кага княства. Аб гэтым сведчыць «Хроніка Літоўская і Жамойцкая»: «...Дмитрий, великий князь московский ... умыслил под Литвою Киевское, Витебское и Полоцкое князство войною доходити, обецуючи ... Литву всю огнем і мечем звоевати...»[13]. Гэта акалічнасць, безумоўна, таксама прымушала Ягайлу кінуць свой позірк на захад — у бок Польшчы. І калі ў сярэдзіне 80-ых гг. XIV ст. вызначыліся два варыянты жаніцьбы Ягайлы — на польскай каралеве Ядзвізе ці на дачцы Дзмітрыя Данскога,— вялікі князь прыняў першы варыянт. Такім чынам, Польшча дала згоду аддаць каралеўскі трон літоўскаму князю ў абмен на каталіцкую Літву, з далейшым прыцэлам на акаталічванне беларускіх, украінскіх, рускіх зямель Вялікага княства Літоўскага і Рускага.

1387 год, у які Ягайла стаў Уладзіславам, прыняўшы каталіцтва, можна лічыць годам змянення сацыяльна-прававога становішча беларускіх зямель у Вялікім княстве. Паводле граматы «караля польскага, вялікага князя літоўскага і спадкаемца Русі» (так Уладзіслава-Ягайлу велічалі афіцыйныя дакументы) ад 20 лютага 1387 г. феадальная знаць каталіцкага веравызнання, якая была ў большасці літоўскага паходжання, атрымлівала неабмежаванае права валодання і распараджэння сваімі вотчынамі, а таксама вызвалялася ад выканання шэрагу дзяржаўных павіннасцей. На праваслаўных феадалаў, што вялі сваю радаслоўную з беларускіх, украін-

скіх, рускіх зямель, гэты прывілей не распаўсюджваўся[14]. Натуральна, гэткі дыскрымінацыйны для знаці ўсходнеславянскага паходжання закон выклікаў у іх асяроддзі рэзкае незадавальненне палітыкай вярхоўнай улады Вялікага княства, нарадзіў сепаратысцкія «антылітоўскія» настроі.

З гэтага часу (з канца XIV ст.) так званае «рускае» пытанне ў поліэтнічным Вялікім княстве неаднойчы падымалася і выкарыстоўвалася рознымі палітычнымі дзеячамі і групоўкамі. Першым скарыстаў яго Вітаўт, які ў 90-ых гг. XIV ст. выступіў з праграмай стварэння самастойнага «Руска-Літоўскага» каралеўства, якое супрацьстала б з аднаго боку Польшчы, з другога — Маскве[15]. Унутры дзяржавы для ажыццяўлення сваёй праграмы Вітаўт узяў у саюзнікі праваслаўную знаць, апазіцыйную каталіцкай экспансіі Польшчы; за межамі Вялікага княства — Ордэн, якому было выгадна пагаршэнне адносін паміж княствам і польскай дзяржавай, а таксама татарскага эмігранта, ранейшага залатаардынскага хана Тахтамыша. З Ордэнам вясной 1398 г. на востраве Салін было заключана пагадненне, па якому Вітаўт абвяшчаўся «каралём Літвы і Русі»[16]. Аб планах жа Вітаўта і Тахтамыша, які, дарэчы, выдаў літоўскаму вялікаму князю ярлык на кіраванне ўсімі рускімі землямі, даведваемся з «Хранографа»: «Витовт рече: Я тебя (Тахтамыша.— *П. Л.*) посажю на Орде и на Сараи, и на Болгарех, и на Азтархан, и на Озове, и на Заятцькой Орде, а ты



Вялікі князь Вітаўт (правіў у 1392—1430 гг.).

мене посади на Московском великом княжении... и на Новгороде Великом, и на Пскове, а Тферь и Рязань моа и есть, а Немцы и сам возму»[17].

Аднак гэтым амбіцыёзным задумам здзейсніцца не ўдалося. 12 жніўня 1399 г. на рацэ Ворскла адбылася рашаючая бітва паміж кааліцыяй Вітаўт — Тахтамыш і войскамі Залатой Арды на чале з Цімур-Кутлуем і Эдзігеем, у якой «попусти бог татаром». Армія Вітаўта была амаль цалкам знішчана, сам жа вялікі князь «побеже в мале дружине»[18].

Паражэнне на Ворскле мела сваім вынікам дагавор паміж Вялікім княствам і Польшчай 1401 г., які пацвярджаў «польска-літоўскую» унію, што была заключана 16 гадоў перад гэтым у Крэве.

Акрамя таго, у працяг прывілею 1387 г. дагавор 1401 г. зноў жа супрацьпастаўляў феадалаў каталіцкага веравызнання «рускім» — праваслаўным.

Названыя дакументы падрыхтавалі прынядце пастановы Гарадзельскага сейма 1413 г. аб уніі паміж Вялікім княствам і Польшчай, паводле якой праваслаўная знаць княства ставілася практычна ў дыскрымінацыйнае становішча ў гэтай этнічна неаднароднай дзяржаве. Параграф 3 Гарадзельскай пастановы, працягваючы прывілеі 1387 і 1401 гг., устанаўліваў, што толькі «каталікі, Рымскай царкве падуладныя», валодаюць і карыстаюцца эканамічнымі і палітычнымі прывілеямі і падараваннямі пануючаму класу з боку вярхоўнай улады. У параграфе 6 пацвярджалася забарона на шлюбы паміж католікамі і праваслаўнымі. Асаблівае значэнне ў далейшай унутрыпалітычнай барацьбе ў Вялікім княстве меў параграф 9 Гарадзельскай пастановы, па якой на «дастоінства, месца і пасады» назначаліся «толькі каталіцкай веры прыхільнікі і падуладныя святой Рымскай царкве. Таксама і ўсе пастаянныя ўрады земскія надаюцца толькі спавядальнікам хрысціянскай каталіцкай веры і да савета нашага (вялікакняскай Рады.— *П. Л.*) дапускаюцца і ў ім прысутнічаюць, калі абмяркоўваюцца пытанні аб дзяржаўным дабрабыце, таму што часцяком розніца ў веравызнаннях прыводзіць да розніцы ў пазіцыях і аказваюцца цераз гэта вядомымі такія рашэнні, якія неабходна ў тайне захоўваць». Параграфы 11 і 12 гэтага дакумента пазбаўлялі праваслаўных феадалаў права выбрання вялікага князя, якім зноў жа карысталіся толькі «паны і шляхціцы зямлі літоўскае, прыхільнікі хрысціянскай рэлігіі, Рымскай царкве падуладныя, не схізматыкі ці іншыя паганыя»[19].

Тым самым Гарадзельская пастанова была ўжо далёка не клінам, укалочаным паміж дзвюма часткамі Вялікага княства, а пагрозлівым дынамітам, закладзеным пад федэратыўнае адзінства гэтага дзяржаўнага ўтварэння. Выбуху доўга чакаць не прыйшлося. Ён адбыўся ў 30-ыя гг. XV ст.— у час барацьбы за вялікакняскі стол, які застаўся пасля смерці Вітаўта вольным.

**Грамадзянская вайна 30-ых гг. XV ст.** У 1430 г. вялікім князем літоўскім становіцца малодшы брат Ягайлы Свідрыгайла Альгердавіч, які ў свой час выступаў апанентам вымушанай нрапольска-каталіцкай палітыкі Вітаўта першых дзесяцігоддзяў XV ст. Характэрна, што барацьбу супраць колішняга «гаспадара» Вялікага княства ён вёў, выкарыстоўваючы праграму Вітаўта 90-ых гг. XIV ст.— праграму стварэння Літоўска-Рускай дзяржавы з апорай на праваслаўныя элементы Вялікага княства. Як заўважаў храніст XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі, Свідрыгайла змагаўся супраць Вітаўта, «абапіраючыся на Русь, што яму спачувала»[20].

Свідрыгайла і на вялікае княжанне ўзышоў пры падтрымцы князёў і баяраў беларускіх,



Вялікі князь Свідрыгайла (правіў у 1430—1432 гг.).

украінскіх, рускіх зямель Вялікага княства. Таму няма нічога дзіўнага, што новапасаджаны гаспадар пачаў абапірацца на гэтыя сілы і ў кіраванні дзяржавай. Пры ім праваслаўная арыстакратыя «рускіх» абласцей Княства займае вышэйшыя пасады, засядае ў вернай вялікакняскай Радзе (князі Друцкія-Красныя, Бабы-Карсаковічы, Хадкевічы, Палазовічы і інш.)[21]. Яны ж прымаюць удзел у вырашэнні самых адказных дзяржаўных пытанняў, такіх як, напрыклад, заключэнне абарончa-наступальнага саюзу з Ордэнам супраць Польшчы. Нездарма ў лісце кракаўскага біскупа Збігнева Алясніцкага кардыналу Юліяну Цэзарыні, якое датавана студзенем 1432 г., маецца заўвага, што Свідрыгайла ва ўсім слухаецца «рускіх» схізматыкаў і параздаваў ім усе галоўныя замкі і пасады, чаго не было пры нябожчыку Вітаўце[22].

Узрастанне палітычнай ролі феадалаў беларускага, украінскага, рускага паходжання, выпаданне з рук каталіцкай арыстакратыі неабмежаванай улады прывяло да змовы апошняй супраць Свідрыгайлы Альгердавіча. У ноч на 1 верасня 1432 г. адбыўся замах на вялікага князя. Свідрыгайла ратаваўся ўцёкамі ў Полацк, а змоўшчыкі пасадзілі на віленскі стол брата Вітаўта Жыгімонта. Полацк, які ўвесь час знаходзіўся ў гушчы палітычных падзей, становіцца сталіцай Вялікага княства Рускага. Існаванне менавіта такога дзяржаўнага ўтварэння адзначае летапісец: «И Литва же посадиша великого князя Жигимонта Кесьтутевичь на великое княжение на Вилни и на Троцех месяца сентября 1 день. И приде Швидригайло на Полотескь и на Смоленскь, и князи руськыи и бояре посадиша князя Швидригайло на великое княжение на Руское»[23].

Такім чынам, федэратыўнае гаспадарства распалася на два дзяржаўныя ўтварэнні: Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Рускае. Апошняя з прыгаданых дзяржаў, якая стварылася і функцыяніравала на аснове аўтаноміі Полацкай, Віцебскай, Смаленскай зямель у складзе Вялікага княства, існавала 4 гады. Намінальна яна загінула ў выніку ваеннага паражэння войскаў Свідрыгайлы ў бітве пад Вількамірам (сённяшняе Укмерге) летам 1435 г., але фактычна Вялікае княства Рускае спыніла сваё існаванне ў выніку авантурных, неабачлівых дзеянняў «князя рускага», які

Фрагмент грабніцы вялікага князя Ягайлы.

не ў моцы быў адолець тонкай дыпламатыі «вялікага князя на Вільна і на Троках», скаардынаванай з польскім каралём.

Для таго, каб выбіць у Свідрыгайлы апору на праваслаўных феадалаў «рускіх» зямель, 15 кастрычніка 1432 г. каралём Польшчы Уладзіславам-Ягайлам быў выдадзены, са згоды Жыгімонта Кейстутавіча, прывілей, па якому прадстаўнікі знакамітых родаў беларускага, украінскага, рускага паходжання праваслаўнага веравызнання ўраўноўваліся ў некаторых правах з феадаламі-католікамі. Праз год і сем месяцаў, 6 мая 1434 г., быў абнародаваны аналагічны прывілей, які ўжо паходзіў толькі ад аднаго вялікага князя Жыгімонта. Неабходнасць яго выдання тлумачыцца ў прэамбуле тым, што «гаспадар» жадае «нашыя землі Літоўскія і Рускія прывесці ў

парадак і справы іх давесці да найлепшага стану... каб паміж народамі гэтых зямель не было ніякага разладу ці непатрэбнага ўрону... каб яны карысталіся роўнымі міласцямі і тым больш горача і настойліва імкнуліся заўсёды да адзінства душ і дапамагалі захаванню найшчаслівейшага стану гэтых зямель»[24]. Восем пунктаў, што ішлі ўслед за гэтай прэамбулай, даравалі «рускім» князям і баярам права свабоднага распараджэння спадчыннымі маёнткамі па прыкладу «іншых месц хрысціянскіх»; права атрымання ў спадчыну зямельных валоданняў жонкамі і дзецьмі; вызвалялі княжацкіх і баярскіх падданых ад асобных дзяржаўных падаткаў і павіннасцей, дазвалялі мець ва ўжытку праваслаўнай шляхце нараўне з феадаламі-каталікамі гербы і знакі шляхецтва[25].

Прывілей 1434 г., па якому праваслаўныя дабіліся саслоўнай роўнасці з каталіцкай арыстакратыяй,— безумоўная перамога феадалаў беларускіх зямель у барацьбе за раўнапраўе ў Вялікім княстве. Але то была перамога не канчатковая. Адно з галоўных пытанняў — удзел праваслаўных беларускіх, украінскіх, рускіх феадалаў у кіраванні дзяржавай — гэтай граматай Жыгімонта Кейстутавіча не вырашалася. Параграф 9 Гарадзельскай пастановы, паводле якога праваслаўныя феадалы не мелі права займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады, не быў адменены.

Менавіта ў сувязі з гэтым і працягвалася далейшая барацьба «рускіх» феадалаў за палітычнае раўнапраўе ў дзяржаве. І барацьба гэта часцяком абумоўлівалася знешнепалітычным становішчам Беларуска-Літоўскага гаспадарства, асабліва адносінамі з суседняй Маскоўскай дзяржавай.

**Пагранічныя войны канца XV — пачатку XVI ст. і ўнутраная палітыка Вялікага княства.** З канца XV ст. усходні сусед княства — Маскоўская дзяржава, якая набірала моц,— пачала збіранне ўсходнеславянскіх зямель, што складалі некалі старажытную Русь. У 50—80-ыя гг. XV ст. адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і Маскоўскай Руссю рэгуляваліся дагаворам 1449 г. Казіміра і Васілія II, які ў гістарычнай літаратуры кваліфікуецца як «вялікі акт падзелу Русі паміж Масквою і Вільняй». Васілій II браў на сябе абавязак «не вступатися» ў вотчыну Казіміра: «ни в Смоленск, ни в Любутеск, ни во Мценск, ни во вси... вкраинные места». У сваю чаргу Казімір адмаўляўся ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі і Пскоў. Дагавор заклікаў суседнія дзяржавы «жыти в любви, быти везде заодин»[26].

Аднак, маючы такі камень спатыкнення як беларускія, украінскія, частка рускіх зямель з іх праваслаўным насельніцтвам, цяжка было ажыццявіць гэты заклік. Маскоўская дзяржава так фармулюе сваю пазіцыю ў адносінах да названых зямель: «Ано не то одно наша отчина, кои города и волости и ныне за нами; и вся Русская земля, Киев и Смоленск и иные городы... з божьею

волею, из старины, от наших прародителей наша отчина»[27].

Гэтая пазіцыя не нарадзілася на пустым месцы. Яна была падрыхтавана палітычнымі выступленнямі праваслаўнай знаці «рускіх» зямель Вялікага княства. У 1481 г. была выкрыта змова супраць Казіміра ў Кіеве, на чале якой стаялі слуцкі князь Міхаіл Алелькавіч, яго стрыечны брат Фёдар Іванавіч Бельскі і адзін з князёў Гальшанскіх. Сафійскі летапіс так зафіксаваў мэту гэтай змовы: «восхотеша вотчичи — Ольшанской да Олелькович, да князь Федор Бельский по Березину реку отсести на великого князя (маскоўскага.— *П. Л.*)»[28].

Змова абапіралася, хутчэй за ўсё, на пэўнае кола мясцовых феадалаў, якія знаходзіліся ў апазіцыі да пракаталіцкага ўрада Вялікага княства, і сярод каторых былі адчувальныя сепаратысцкія прамаскоўскія настроі. Пацвярджэннем таго з'яўляюцца частыя пераходы ў 80—90-ых гг. XV ст. праваслаўных феадалаў «рускіх» зямель Княства на бок Масквы. З 1487 па 1493 г. «на службу ў Маскву» выйшлі князі Варатынскія, Бялеўскія, Мярэцкія, Вяземскія[29]. Выходзілі яны не з голымі рукамі, а са сваімі ўдзеламі, якія з дапамогай рускага войска далучаліся да Маскоўскай дзяржавы. У гэтыя гады практычна ішла неафіцыйная вайна паміж Масквой і Вялікім княствам Літоўскім.

У 1494 г. быў заключаны новы мірны дагавор паміж суседнімі дзяржавамі. Іван III і Аляксандр змацавалі сваімі подпісамі дакумент, паводле якога «ліцвінскі» бок прызнаваў усе ад'езды «вярхоўскіх» князёў і далучэнне да Масквы іх уладанняў, а таксама адмаўляўся «на вечныя часы» ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Цвер, Разань. Іван III у сваю чаргу пацвердзіў абавязацельства Васіля II не «вступатися» у Смаленск[30]. Аднак гэтага мірнага дагавора хапіла толькі на 6 гадоў.



Герб князёў Гальшанскіх.

У XVI ст. Вялікае княства Літоўскае і Маскоўская дзяржава знаходзіліся ў стане вайны паміж сабою. Ваеннае сутыкненне зноў жа было справакавана дзейнасцю праваслаўных князёў пагранічных зямель княства. У канцы 90-ых гг. XV ст. на бок Масквы перайшлі князі Сямён

Бельскі, Сямён і Іван Мажайскія, Васіль Шамяціч. Пад уладай Рускай дзяржавы аказаліся багатыя воласці з гарадамі Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Старадуб, Гомель і інш. Такое развіццё падзей, натуральна, не магло не прывесці да ваеннага канфлікту. І сапраўды, 14 ліпеня 1500 г. «зехалося войско литовское з московским на Ведрошы, и учинили межы собою бой и сечу великую, и побила Москва Литву»[31]. Вынікам пераможнай для Маскоўскай дзяржавы вайны з'явіўся мірны дагавор 1503 г., па якому да Масквы афіцыйна *былі далучаны* Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Гомель, Бранск, Пуціўль, Старадуб, Мцэнск.

XVI ст., такім чынам, для Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага пачалося няўдала — са страты значнай тэрыторыі ўсходніх зямель. Аднак на гэтым беды не скончыліся. Нявырашанае «рускае» пытанне, якое раздзірала ўнутранае адзінства Вялікага княства з канца XIV ст., дало аб сабе знаць і ў новым стагоддзі. Гаворка ідзе аб так званым паўстанні Глінскага — самым буйным палітычным выступленні на тэрыторыі беларускіх зямель пасля феадальнай вайны 30-ых гг. XV ст.

На чале выступлення стаў князь Міхаіл Глінскі. Прыбліжаны ў свой час да вялікага князя Аляксандра, Глінскі быў адукаваным, тонкім палітыкам-дыпламатам, аднак грашыў палітычным авантурызмам. Атрымаўшы адстаўку пры двары Жыгімонта І, славалюбівы князь адкрыта выступіў і супраць новага «гаспадара», і супраць свайго асабістага ворага і канкурэнта ваяводы трокскага Яна ЗабеОт разінскага. Пасля таго, як апошняга ён знішчыў фізічна, Глінскі пачаў ствараць кааліцыю для барацьбы з Жыгімонтам: «збирал прыятели одны кревные, другие за пенязи так з Руси, яко з Литвы»[32]. Разам з тым вопытны палітык, які ведаў стан спраў у дзяржаве і настроі розных колаў насельніцтва Вялікага княства, Міхаіл Глінскі добра разумеў, што можа разлічваць на поспех свайго дастаткова авантурнага пачынання толькі пры падтрымцы шырокага фронта сепаратысцкі настроеных феадалаў і насельніцтва «рускіх» зямель княства, якія выступалі супраць каталіцкай экспансіі. Невыпадкова ён распаўсюджваў чуткі, што хутка ўсіх праваслаўных у Вялікім княстве пачнуць гвалтоўна абарачаць у каталіцкую веру[33].

Такая падрыхтоўчая работа падзейнічала, і, як адзначае ў сваёй «Хроніцы» М. Стрыйкоўскі, «было іх ужо вельмі многа... якія Глінскаму дапамагалі і з ахвотай засталіся б з імі да канца і дамагаліся таго, што задумалі»[34]. А задумаў Міхаіл Глінскі з «братьею своею» ні многа ні мала як стварэння самастойнага княства з апорай на «рускі» элемент Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Аб гэтым мы даведваемся ад таго ж Мацея Стрыйкоўскага, які пісаў, што Міхаіл Глінскі спадзяецца «ўзнавіць Вялікае княства ад Літвы да Русі» і «адрадзіць кіеўскую манархію».

Разумеючы, што без моцнага знешняга саюзніка не абысціся, Міхаіл Глінскі заручыўся падтрымкай Масквы. Падчас вайны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай, якая пачалася ў 1507 г., Васілю III было з рукі «ўзбунтаванне» прыгранічных тэрыторый свайго праціўніка, што давала дадатковыя шанцы на лёгкую перамогу. А дзеля аслаблення магутнага заходняга суседа маскоўскі ўрад мог пайсці і на стварэнне марыянетачнага буфернага княства. Практычна ў ідэале такі зыход мяцяжу і прадугледжваўся. Аб гэтым сведчыць змест перагавораў паміж прадстаўніком Васіля III Губай Маклокавым і Міхаілам Глінскім. На іх ішла гаворка аб сумесных баявых дзеяннях, а таксама аб перадачы пад уладу Глінскага захопленых зямель: «и которые литовские городы возьмут и на тех гродех сидети им, а великому князю (маскоўскаму.— *П. Л.*) в те гроды не вступатися, и на том на всем великого князя дьяк Губа Маклоков правду дал»[35].

Цэнтрам паўстання стаў горад Тураў — спадчыннае уладанне князёў Глінскіх. Адсюль князь Міхаіл са сваім атрадам пайшоў да Мазыра і, як паведамляла «Хроніка Літоўская і Жамойцкая», «Мозыр взял и своими людми осадил». Далей летапісец занатаваў, што «пристали теж до него княжата Друцкие и князь Михаил Мстиславский з замков своим, той з Друцким, а сей Мстиславским, так теж и оршанци, Кричев, Гомель паддалися ему»[36]. Сумесна з маскоўскім войскам атрады Глінскага ўзялі ў аблогу Менск. Аблога суправаджалася рэйдамі асобных падраздзяленняў «мало не до Вильни». Атрад пад камандаваннем Андрэя Дажджа хадзіў пад Слуцк; Дзмітрыя Жыжэмскага і Андрэя Лукомскага — да Наваградка.

Размах паўстання прымусіў Жыгімонта падрыхтаваць для барацьбы з «бунтаўнікамі» шматлікае польска-ліцьвінскае войска. Падраздзяленні Глінскага супрацьстаяць яму не маглі, таму пачалі адыходзіць да Оршы, дзе былі сканцэнтраваны асноўныя сілы арміі Маскоўскай дзяржавы. Пры набліжэнні да Оршы ваенных злучэнняў Жыгімонта рускія палкі сумесна з атрадамі Глінскага перайшлі цераз Днепр, ухіліўшыся ад бітвы. Здарылася гэта супраць волі Міхаіла Глінскага, які «остатнего щастя своего и звитязства в той битве усиловал скоштовати, напоминал гетманов московских, абы... до битвы поле дали, обецуючи им певное и велми снадное звитязство, если будут ведлуг его рады поступовати»[37]. Але камандаванне рускім войскам не прыняло ўгавораў Глінскага. Яно заключыла мірнае пагадненне з Жыгімонтам, па якому Глінскім і іх блізкім паплечнікам гарантаваўся свабодны выезд з Вялікага княства ў Маскву. Гэты ж дагавор пацвярджаў граніцы, што былі вызначаны Іванам III і Аляксандрам.

Такім чынам, выступленне Глінскага закончылася няўдачай. Характар гэтага руху быў неадназначным. З аднаго боку,

гэта была барацьба вярхушкі пануючага класа беларускіх, украінскіх, рускіх зямель за прававую і маёмасную роўнасць з прывілеяванай часткай феадалаў-католікаў. З другога боку, калі мець на ўвазе шырокую падтрымку гэтага руху насельніцтвам беларускіх зямель, якое было не задаволена этнічнай няроўнасцю, каталіцкай экспансіяй, то можна гаварыць і аб нацыянальным характары выступлення Глінскага.

Вынікі паўстання 1508 г. таксама былі неадназначнымі. З аднаго боку, на яго ўдзельнікаў абрушыўся жорсткі тэрор: «И была у Литве после Глинского замятня велми великая, и панов тых имали, которые с Глинским мешкали горазд и некаторых шляхту, и мучоно»[38]. З другога — вярхоўная ўлада Вялікага княства добра ўсвядоміла, што без прыцягнення на свой бок феадалаў беларускіх зямель ва ўмовах пастаяннага суперніцтва з Маскоўскай дзяржавай ёй не ўдасца ўтрымаць у сваіх руках гэтыя багатыя, вялізныя тэрыторыі. А адносіны з Масквой складаліся далёка не проста і не заўсёды на карысць вялікакняскай дыпламатыі і войска. Агрэсія ўсходняга суседа пад ідэалагічным вэлюмам далучэння праваслаўнага насельніцтва княства ды адзінаверцаў, вяртання да былога адзінства Кіеўскай Русі набывала небяспечны для незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага размах. У 1512 г. з ініцыятывы Масквы распачалася чарговая вайна, і ў 1514 г. войскі Васілія III, авалодаўшы Смаленскам, рушылі ў глыб княства ў напрамку Друцка і Оршы. Спыніць 80-тысячнае рускае войска князя М. Булгакава-Голіцы ды баярына І. Чаляднiна магло толькі не намнога большае за 30 тысяч вялікакняскае войска на чале з вядомым ваяром і дасведчаным палкаводцам, гетманам Канстанцінам Астрожскім. Сутычка паміж гэтымі далёка не раўназначнымі па колькасці арміямі адбылася 8 верасня 1514 г. на рацэ Крапіўна пад Оршай. Тонкі тактычны разлік гетмана Астрожскага, добрая ўзброенасць (прынамсі, гарматамі) войска Вялікага княства, а самае галоўнае мужнасць і рашучасць воінаў, якія абаранялі незалежнасць сваёй дзяржавы, свае хаты і сем'і, дазволілі вялікакняскаму войску ўшчэнт разбіць супраціўніка і тым самым на пэўны час спыніць памкненні Масквы авалодаць суседнімі ліцьвінскімі тэрыторыямі[39].

Зыходзячы менавіта з рэалій склаўшайся ўнутры і знешнепалітычнай сітуацыі канца XV — пачатку XVI ст., вялікакняскі ўрад пачынае праводзіць палітыку ўцягвання знаці «рускага» краю ў палітычную эліту Вялікага княства. З канца XV ст. значна пашыраюцца зямельныя ўладанні прадстаўнікоў знатных беларускіх, украінскіх родаў.

Зямельнае багацце давала палітычную вагу. У канцы XV — першай палове XVI ст. сярод засядацеляў вышэйшага органа дзяржаўнай улады — Рады — знаходзім прадстаўнікоў беларускага краю: Глябовічаў, Ільінічаў, Сапегаў, Зяноў-

евічаў, Храптовічаў, Багавіцінавічаў, Вяжэвічаў, Друцкіх, Солтанаў, Копацяў, Адзінцэвічаў, Стратовічаў, Саламярэцкіх і іншых[40]. Аб тым, што ў першай палове XVI ст. вялікакняская ўлада пачала шырэй прыцягваць беларускіх магнатаў да кіравання дзяржавай, сведчыць і статыстыка. Так, з тых 20 назначэнняў на вышэйшыя дзяржаўныя пасады **праваслаўных** феадалаў за перыяд з канца XIV ст. па 1569 г. 14 прыходзілася на час пасля 1500 г.

У першай палове XVI ст. праваслаўных феадалаў усходніх зямель Вялікага княства знаходзім нават у складзе пярэдняй Рады, каталіцкую чысціню якой вельмі ахоўвалі. З 1522 па 1529 г. праваслаўны князь К. Астрожскі займаў пасаду трокскага ваяводы, што дазволіла яму сесці на першае месца раднай лавіцы. Праз 20 гадоў у пярэдняй Радзе атрымлівае першае месца феадал беларускага паходжання, праўда, каталік, Я. Глябовіч, які заняў пасаду віленскага ваяводы. А ў 1559 г. на пярэднюю лавіцу трапляе праваслаўны украінскага паходжання Р. Хадкевіч, які атрымаў трокскае кашталянства.

Такім чынам, калі адпаведны параграф Гарадзельскай пастановы, які забараняў праваслаўным засядаць у Радзе, дзейнічаў да 20-ых гг. XVI ст. хаця б у адносінах да Рады пярэдняй, то з назначэннямі Астрожскага і Хадкевіча ён практычна губляў сілу закона і, як зжыўшы сябе, быў канчаткова адменены ў 1563 г. З гэтага часу «достоинства и преложеньства всякие, и до рады нашое, и на уряды дворные и земские, не только подданые костелу римскому... обираны и прекладаны быти мають, але одинаково и заровно вси рыцерского стану з народу шляхетского люди веры християнское, яко Литва, так и Русь, кождый водле заслуг и годности своее, от нас, господаря, на месца зацные и преложеньства с ласки нашое браны быти мають...»[41].

Такім чынам, больш чым стагадовая барацьба, якую вялі праваслаўныя феадалы «рускіх» зямель Вялікага княства за палітычнае раўнапраўе з літоўска-каталіцкай арыстакратыяй, закончылася іх перамогай. Святкавала яе беларуская знаць ужо ў 20-ыя гг. XVI ст., а 1563 г. замацаваў дасягнутае.

Неабходна звярнуць увагу таксама на той факт, што сам тэкст даравальнай граматы вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ад 7 чэрвеня 1563 г. з'яўляецца пераканаўчым доказам удзелу праваслаўных феадалаў у пасяджэннях гаспадарскай Рады і да адмены параграфа 9 Гарадзельскай прывілеі. У гэтым дакуменце адзначаецца, што «...бываючи не только римского костела послушные, але и грецкого, в лавицы рады предков наших и нашое, так же и иные вси станы, на розных службах наших бываючи, верность и сталость свою к службам предков наших и нашим охотне, яко добрым и верным подданым належит, завжды со всякою сталостью оказывали»[42]. І сапраўды не даводзіцца сумнявацца у тым, што бела-

рускія феадалы «охотне» служылі інтарэсам Вялікага княства, выказваючы пры гэтым і «верность и сталость».

У першай палове XVI ст. карэнні сепаратызму ў асобах родавых князёў і баярства, што іх акружала, былі ў асноўным ліквідаваны. На пасадах дзяржаўнага кіравання Вялікага княства мы бачым «рускую» знаць, якая ўвайшла ў моц пры вялікіх князях, пашырыла свае зямельныя ўладанні за кошт вялікакняскіх падараванняў і, зразумела, падтрымлівала палітыку «гаспадара». На працягу XVI ст. буйныя феадалы Вялікага княства як літоўскага, так і беларускага, украінскага, рускага паходжання, католікі, пратэстанты, праваслаўныя ўяўлялі адну сацыяльную групу, якая была аб'яднана агульнасцю палітычных, эканамічных, класавых інтарэсаў. Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае стала іх дзяржавай. Нездарма ў першай палове XVI ст. у найвышэйшым органе ўлады — гаспадарскай Радзе — не сустракалася груповак, якія б утварыліся на аснове этнічных ці рэлігійных адрозненняў.

Такім чынам, пасля першай ваенна-абарончай кансалідацыі XIII—XIV стст. беларускіх і літоўскіх зямель у Вялікае княства Літоўскае і Рускае і амаль двухсотгадовага перыяду «прыціркі» этнасаў гэтага поліэтнічнага дзяржаўнага ўтварэння, у XVI ст. адбылася другая — дзяржаўна-палітычная — кансалідацыя грамадства Вялікага княства, калі на другі план адыходзілі мясцовыя, этнічныя, рэлігійныя інтарэсы, а найперш усведамляўся вялікакняскі агульнадзяржаўны патрыятызм. Застаецца меркаваць, як надалей ішло б развіццё беларуска-літоўскай дзяржавы, калі б не унія з Польшчай, што ў 1569 г. аб'яднала дзве суседнія краіны ў федэратыўную Рэч Паспалітую.

**Люблінская унія 1569 г.: вытокі і змест.** Заключэнне уніі паміж дзвюма суседнімі дзяржавамі — Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і Польскім каралеўствам — было падзеяй, якая прадвызначыла далейшы лёс не толькі тых народаў, што насялялі гэтыя краіны, але мела значны ўплыў і на стан спраў ва ўсёй Еўропе. Бо ж на яе карце з'явілася новая дзяржава — Рэч Паспалітая — адна з самых вялікіх і магутных. Сярод насельніцтва гэтага шматэтнічнага аб'яднання аказаўся і беларускі народ.

Што ж прымусіла кіруючыя вярхі Вялікага княства пайсці на такі звышцесны, на мяжы страты самастойнасці, саюз? Сярод шэрагу прычын уніі 1569 г. адной з самых важных бачацца ўнутрыкласавыя супярэчнасці ў пануючым шляхецкім саслоўі Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Таму што сапраўды, без прымусу з боку шматлікай дробнай і сярэдняй шляхты элітарнае магнацтва, што трымала ўладу ў княстве, не пайшло б на яе падзел з кімсьці. А ўлада тая ў вялікакняскай магнатэрыі была амаль што неабмежаваная. Паны-рада праводзілі толькі свае рашэнні на сейме ў Вялікім

княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім, маніпулюючы паводле свайго меркавання большасцю шляхты, якая не мела ніякай рэальнай улады. Аб гэтым можна даведацца з заявы члена гаспадарскай Рады магната Альбрэхта Гаштольда, які параўноўваў сеймы польскага і ліцьвінскага ўзораў: «...сеймы нашы (у Вялікім княстве.— *П. Л.*) праходзяць зусім інакш: што вырашае гаспадар і паны-рада — тое шляхта абавязкова прымае да выканання: мы ж запрашаем шляхту на нашыя сеймы як бы для гонару, дзеля таго, каб усе ведалі, што мы вырашаем»[43]. І на павятовых сейміках, органах шляхецкага самакіравання, якія былі створаны паводле рэформы 1565—1566 гг., таксама верхаводзілі буйныя землеўласнікі. Пераконваюць у гэтым сведчанні сучаснікаў. Вось адно з іх: «Там (у Вялікім княстве Літоўскім.— *П. Л.*) шляхта не прымае ўдзелу ні ў якіх нарадах, там паны робяць, што захочуць... Там прыязджаюць на сеймік толькі ваявода, стараста ды харужы, напішуць, што ім уздумаецца, і адправяць да земяніна дахаты, каб падпісаў. Калі ж ён не падпіша, то яны аддубасяць яго палкамі...»[44]. Такога нельга было сустрэць у суседняй Польшчы, дзе шляхта ўплывала самым рашучым чынам на ўнутраную і знешнюю палітыку ўрада. Польскія шляхецкія вольнасці, відавочна, прываблівалі шляхту Княства. Падтрымліваючы ідэю уніі, яна меркавала заняць такое ж вызначальнае становішча ў сваёй дзяржаве, як польская шляхта ў сваёй.

Унутрыпалітычны крызіс у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім, што быў выкліканы супярэчнасцямі ў стане пануючага класа, найбольш абвастрыўся ў 60-ыя гг. XVI ст. Супрацьстаянне магнацтва і шляхты стала адкрытым. Асабліва яскрава яно выявілася ў час сейма, які адбыўся ў восень 1562 г. пад Віцебскам. Сеймаваўшыя звярталіся да Жыгімонта Аўгуста з прашэннем «учыніць супольны сейм з палякамі, каб разам караля выбраць, мелі агульную абарону, супольна сеймікавалі і права аднолькавае ўжывалі»[45].

Каб неяк кансалідаваць грамадства, збіць прапольскія настроі шляхты, магнацкая апазіцыя на чале з Радзівіламі пайшла на значную мадэрнізацыю ўнутранай палітыкі. Яна ўвасобілася ў прыняцці пастановы 1563 г., паводле якой праваслаўная і каталіцкая шляхта поўнасцю ўраўноўвалася ў правах, ва ўхваленні на сейме 1564 г. судовай рэформы, што на польскі ўзор стварала мясцовыя суды, дзе галоўную ролю адыгрывала шляхта.

Гэтыя захады вялікакняскага ўрада, можа б, і мелі поспех, калі б не драматычнае знешнепалітычнае становішча краіны. На пачатку 60-ых гг. баявыя дзеянні ў Лівонскай вайне, што пачалася паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім у 1558 г., перанесліся на тэрыторыю Княства, на беларускія землі. У 1562 г. маскоўскія войскі стаялі ля сцен Віцебска, Дуброўна, Оршы, Копысі, Шкло-

ва. 15 лютага 1563 г. быў захоплены Полацк. Да сталіцы — Вільні — заставалася напрасткі каля двухсот кіламетраў. Сілы дзяржавы былі на мяжы магчымага. Вайна выцягнула са скарбу ўсе сродкі, амаль штогадовая сярэбшчына не наталяла патрэбы ў грошах. Неадкладна патрабаваўся саюзнік. Канешне, позірк адразу быў кінуты на захад. Чаму? Ды таму, што Княства мела значны вопыт — дзесяткі унітарных дагавораў ад часоў Ягайлы да Жыгімонтаў — сужыцця з Польшчай. Да таго ж заходні сусед сам дамагаўся уніі. На тое былі важкія прычыны як эканамічнага, так і палітыка-ідэалагічнага парадку. Па-першае, шматлікай польскай шляхце стала цесна ў каралеўстве. Яна сквапна паглядала на княжацкія землі, якія б далі новыя багацці, а значыць, новыя пасады, узнагароды. Па-другое, Польшча з'яўлялася самым моцным каталіцкім бастыёнам ва Усходняй Еўропе, а таму менавіта ёй Ватыканам адводзілася галоўная роля ў экспансіі каталіцызму на ўсход — беларускія, украінскія, рускія землі.

Праўда, вялікакняскі ўрад меў і другі варыянт выхаду з крызіснага становішча: заключэнне уніі з Маскоўскай дзяржавай і прызнанне Івана Грознага ці яго сына сваім князем. На гэты конт нават вяліся тайныя перамовы. Але вынікаў яны не далі. Гэта зразумела, бо для шляхты Вялікага княства Іван IV 60-ых гг. XVI ст. ужо не быў у бляску пакарыцеля Казані (1552) і Астрахані (1556), ён стаў Грозным — ініцыятарам апрычніны, падпарадкоўцам сваёй уладзе маскоўскага баярства. Такім чынам, вольнасці шляхецкай рэспублікі павярнулі пануючы клас беларускіх зямель у бок Польшчы, прымусіўшы стаць спінай да Масквы.

Пытанне заключэння уніі з Польшчай было прадвырашаным, і як ні адцягвалі фінал уладу трымаючыя магнаты Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, ён наступіў у 1569 г. Яго, безумоўна, наблізіла Лівонская вайна. Па словах віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла, што прыбыў на перамовы ў Люблін, «на нашым хрыбце быў вораг, калі мы ехалі сюды, жадаючы пастанавіць з вамі унію, якая б аб'яднала нас узаемнаю любоўю, і, калі казаць праўду, мы пачалі імкнуцца да яе амаль бегам, тады як продкі нашыя ішлі да яе вельмі паціху»[46].

10 студзеня 1569 г. пачаўся Люблінскі сейм, які доўжыўся амаль 6 драматычных месяцаў. Кожны з бакоў ставіў свае ўмовы, якія не прымаліся супрацьлеглым. Ніхто не саступаў. Больш таго, калі паслы Вялікага княства ўбачылі пагрозу гвалтоўнага заключэння уніі на непрымальных для іх умовах, яны 1 сакавіка 1569 г. пакінулі Люблін. І тут польскі бок пайшоў на дэманстрацыю сілы. Скарыстаўшы цяжкае знешнепалітычнае становішча Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, польскія феадалы дабіліся ад Жыгімонта Аўгуста выдання ўказаў аб далучэнні да каралеўства Польскага Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчы-

ны. На працягу сакавіка — чэрвеня 1569 г. гэтыя вялізныя і багацейшыя землі Вялікага княства былі ўключаны ў склад Польшчы, што, канешне, аслабіла і без таго падарваную Лівонскай вайною эканоміку Княства. Хоць гэтыя акты і былі супрацьпраўныя, бо кароль іх выдаў асабіста, без згоды сейма Вялікага княства, але ў сітуацыі, якая склалася, вялікакняскі ўрад не мог ісці на ваенны канфлікт з Польшчай.

Тэрыторыя Княства звузілася ў асноўным да літоўскіх і беларускіх зямель. Прычым на значнай частцы апошніх гаспадарыла маскоўскае войска. Гаспадарыла грунтоўна. У 1566—1569 гг. з мэтай замацавання на адваяванай тэрыторыі былі пабудаваны ў раёне Полацка крэпасці Тураўля, Суша, Сокал, Сітна, Чырвоная, Каз'яны, Ула, Усвяты. У такім становішчы для вялікакняскага ўрада шлях быў адзіны — за стол перамоваў з Польшчай. Супольны сейм зноў распачаў работу, і 1 ліпеня 1569 г. быў падпісаны акт Люблінскай уніі. «З гэтага часу абедзве дзяржавы ўяўляюць сабою адно непадзельнае цела, а таксама адну агульную Рэч Паспалітую, у якой абодва гаспадары і абодва народы ўз'ядналіся ў адзіны народ і адзіную дзяржаву»,— дэклараваў акт.

Наколькі ж цесна зліліся дзве часткі толькі ўтворанай дзяржавы? Вышэйшым органам улады станавіўся агульны сейм, які мог збірацца толькі на тэрыторыі Польшчы. Асобных сеймаў як для Кароны, так і для Вялікага княства не прадугледжвалася. Манарх бачыўся агульным. «...новы гаспадар пры выбранні і каранацыі павінен аб'яўляцца каралём Польскім, вялікім князем Літоўскім, Рускім, Прускім, Мазавецкім, Жмудскім, Кіеўскім, Валынскім, Падляшскім і Інфлянцкім... Выбранне і ўзвядзенне князя на прастол Вялікага княства Літоўскага, якое да гэтага часу праводзілася асобна, павінна спыніцца». Выключна да кампетэнцыі Рэчы Паспалітай адыходзіла знешняя палітыка. Усе ранейшыя законы і дагаворы, што былі накіраваны супраць інтарэсаў адной з частак новай федэрацыі, павінны былі быць скасаваны. Акт засяроджваў увагу на прынцыповым для польскага боку пытанні: «Статуты і ўсе якія бы то ні былі пастановы, ухваленыя ў Літве супраць польскага народа па пытаннях аб набыцці і валоданні палякамі маёнткаў у Літве, надалей не павінны дзейнічаць. Дазваляецца набываць маёнткі і валодаць імі паляку ў Літве, а літоўцу ў Польшчы». Разам з тым Вялікаму княству актам не адводзілася роля нейкай польскай каланіяльнай ускраіны. Тут поўнасцю захоўваліся былы адміністрацыйны апарат, асобнае ад Польшчы заканадаўства і судовая арганізацыя, тытул і пячатка, а таксама войска[47].

Такім чынам, нельга трактаваць Люблінскую унію як паглынанне Польшчай Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Рэч Паспалітая была федэрацыяй суседніх дзяржаў, у якой Княства існавала да канца XVIII ст.— часу разбору Рэчы Паспалітай Расійскай імпе-

рыяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Іншая справа, што Польшча, якая на той час была ў лепшым палітычным і эканамічным становішчы і таму валодала ўнутрыпалітычнай ініцыятывай у Рэчы Паспалітай, магла ажыццяўляць вялікадзяржаўную палітыку ў адносінах да ўсходнеславянскага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага.

**Барацьба за захаванне самастойнасці Вялікага княства.** Унутраная палітыка ўрада Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Беларусі ў канцы XVI — пачатку XVII ст., якая мэтанакіравана насаджала ідэі каталіцызму і «пальшчызны», мела неадназначныя, часам зусім супрацьлеглыя задумам вынікі для стану грамадства ў Вялікім княстве. Першае ўражанне для пануючага класа ад вынікаў Люблінскай уніі, падзей, што ёй папярэднічалі, было шокавым. Прычым як для магнацтва, так і для шляхты, якая ў свой час дамагалася злучэння з Польшчай. Для вышэйшай уплывовай знаці Люблінская унія пагражала поўнай згубай былога палітычнага вяршэнства. У Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім сейм, дзе магнацтва праводзіла свае рашэнні, юрыдычна перастаў існаваць. У агульны ж сенат Рэчы Паспалітай многа былых членаў паноў-рады проста не трапіла. Ды і тыя нешматлікія галасы сенатараў з Вялікага княства заглушаліся больш мнагалюдным польскім прадстаўніцтвам у сенаце Рэчы Паспалітай. Тое ж самае адбывалася і ў сейме, дзе з 180 выбраных на сейміках па ўсёй Рэчы Паспалітай паслоў, толькі 46 прыходзілася на Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае (з іх 34 з беларускіх паветаў)[48].

Палітычная дыскрымінацыя дапаўнялася эканамічнай. Цяпер прадстаўнікі шляхецкага саслоўя Вялікага княства не маглі атрымліваць землі ў тых раёнах, якія былі гвалтоўна адарваны Польшчай у 1569 г., ды і дазвол на атрыманне зямельных уладанняў у межах Княства польскай шляхце стварыў небяспечнага канкурэнта для шляхты мясцовай. Безумоўна, гэткае становішча нараджала ў большай частцы пануючага класа Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага сепаратысцкія, антыпольскія настроі. Яны праяўляліся ў рэзкім непрыняцці шляхтай, як буйной, так і дробнай, уніі, ды і наогул палітыкі польскіх каралёў. У лісце аршанскага старасты Ф. Кміты-Чарнабыльскага да кашталяна троцкага А. Валовіча, які быў напісаны ўсяго праз 5 гадоў пасля уніі — у жніўні 1574 г.,— гаворыцца: «Не дай бог ляху быть (каралём.— *П. Л.*) — вырежет Литву и Русь поготову», бо знаць польская «давно резать почали литвина»[49]. Яшчэ больш рэзка супраць прапольскай палітыкі апошняга Ягелона, пры якім склалася унія, ліцьвінская шляхта выказалася ў «Прамове Мялешкі», што датуецца 1589 годам: «Проч Жикгимонта короля! Того нечего и в люди личити, бо Подляше и Волынь наш вытратив, ляхом менечися»[50].

Што ж тады прываблівала шляхту Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага,

да чаго яна імкнулася? Ды да старыны, да тых, з яе пункту гледжання, «залатых» часоў, калі князі, «которие королевали и которие воеводами бывали... правым сердцем просто говорили, политыки не знали», калі незалежнае Вялікае княства самастойна вызначала і праводзіла ўнутраную і знешнюю палітыку: «Але Жикгимонта первого,— солодкая паметь его... Ляхов з их хитростю велми не любил, а Литву и Русь нашу любително миловал»[51]. З прыведзеных слоў вынікае, што пануючы клас Вялікага княства меў на мэце адраджэнне яго поўнай дзяржаўнасці, а значыць, адраджэнне той «беларушчыны», якая была базай гэтай дзяржавы.

Характэрна, што антыпольскія словы не разыходзіліся са справамі. «Вялікакняскае адраджэнне» ішло як у палітыка-эканамічнай, так і ў духоўнай сферах. Насуперак люблінскаму акту аб уніі на працягу 70—80-ых гг. у Вялікім княстве рэгулярна збіраліся агульнадзяржаўныя сеймы. Прычым у час бескаралеўя (1574—1576) на Віленскім сейме дэбатавалася пытанне аб выбары караля, на Сейме 1580 г. прысутнічаў нават кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторы. Больш таго, у 1581 г. ствараецца, а ў 1582 г. пачынае дзейнічаць Галоўны трыбунал Вялікага княства Літоўскага[52].

Але самым моцным успляскам дзяржаўнай незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага было прыняцце Статута 1588 г., які, па сутнасці, скасоўваў многія пастановы Люблінскай уніі. Паказальна ўжо тое, што ў Статуце ніводнага разу не ўпамінаецца акт уніі. Па зместу гэтага заканадаўчага помніка, які дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі аж да 1840 г., Вялікае княства паўставала самастойнай дзяржавай не толькі з асобным заканадаўствам, але і са сваёй тэрыторыяй, апаратам, войскам, фінансамі. Артыкул 12 раздзела III Статута 1588 г. адмяняў звышпрынцыповы для палякаў пункт пастановы Люблінскага сейма 1569 г. аб дазволе ім набываць зямельную ўласнасць у межах Княства. Пасля ўвядзення Статута 1588 г. у якасці галоўнага заканадаўчага акта

Стэфан Баторы — кароль Рэчы Паспалітай (правіў у 1576—1586 гг.).

шляхта Польскага каралеўства не мела юрыдычнага права набываць землі і займаць дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім, заўважым, другой складанай частцы федэратыўнай Рэчы Паспалітай: «...в том паньстве великом князстве литовском и во всих землях ему прислухаючих достойностей духовных и светских, городов, дворов, кгрунтов, староств, держав, врядов (пасадаў.— *П. Л.*) земских и дворных... жадных (ніякіх.— *П. Л.*) чюжоземцом и заграничником, а ни суседом того паньства давати не маем, але то все мы и потомки наши великие князи литовские давати будем повинни только литве, руси, жомойти, родичом старожитным и уроженцом великого князства...»[53].

Барацьбой за «старыну», за незалежнасць Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага з'явілася змаганне за захаванне дзяржаўнасці беларускай мовы ў Княстве, адстойванне адвечных на зямлі Беларусі ўсходнеславянскіх духоўных каштоўнасцей. Палымяным прапагандыстам гэтай ідэі быў дробны полацкі шляхціц Васіль Цяпінскі. У прадмове да выдадзенага ім каля 1580 г. на беларускай мове «Евангелля» В. Цяпінскі адзначае, што «зацный, славный, довстипный» народ беларускі мае даўнія і багатыя гістарычныя і культурныя традыцыі. А таму кнігавыдаўца непакоіла «езыка своего славного занедбане», і ён заклікаў «великих княжат», паноў, духавенства да развіцця нацыянальнай культуры, адукацыі на роднай мове[54].

Леў Сапега — дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага.

Гэты голас дробнага беларускага шляхціца знаходзіў рэзананс ва ўсім шляхецкім саслоўі Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Яго падтрымаў магнат, вялікакняскі канцлер Леў Сапега, адзін са складальнікаў Статута 1588 г. У прадмове да гэтага выдатнага помніка еўрапейскай юрыдычнай думкі ён з годнасцю адзначае: «...не обчым (чужым.— *П. Л.*) яким языком, але своим власным права списаные

маем...»[55]. Больш таго, артыкул I раздзела IV Статута зацвярджаў у плане адметнасці ад Польшчы, дзе моваю прававых дакументаў была лацініца, дзяржаўнасць старабеларускай («рускай») мовы: «А писар земский маеть по руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим языком и слова»[56].

Пры падтрымцы прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя шырокае распаўсюджванне ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім у канцы XVI — на пачатку XVII ст. атрымала дзейнасць брацтваў — нацыянальна-рэлігійных арганізацый праваслаўнага насельніцтва, што ўзніклі ў адказ на прапольска-каталіцкую палітыку ўрада Рэчы Паспалітай. Буйныя беларускія брацтвы існавалі ў Вільні, Магілёве, Берасці, Слуцку, Менску, Пінску, Барысаве, Оршы, Полацку, Мсціславе, іншых гарадах. Яны сталі сапраўднымі інтэгратарамі беларускага тагачаснага грамадства на базе нацыянальнай ідэі. У віленскім брацтве, што дзейнічала з 1592 г. пры праваслаўным манастыры, налічвалася 370 членаў, сярод якіх былі «ихь милости княжата, панята, рыцерство, шляхта, мещане»[57]. Вялікую ролю адыгрывалі брацтвы ў прапагандзе беларускай мовы, пашырэнні асветы і кнігадрукавання на Беларусі. Пачатковыя і сярэднія брацкія школы былі адкрыты ў Вільні, Берасці, Пінску, Слуцку, Менску, Магілёве і шматлікіх іншых гарадах і мястэчках. Брацкія друкарні дзейнічалі ў Вільні, Еўі (цяпер Вэвіс Літоўскай рэспублікі), Магілёве. З-пад іх варштатаў выйшла 127 выданняў, сярод якіх буквары, палемічна-публіцыстычныя творы. Большасць з гэтых кніг напісана на царкоўна-славянскай і беларускай мовах.

Нездарма пачатак XVII ст. спарадзіў на свет словы беларускага паэта Яна Казіміра Пашкевіча: «Польска квітнет лаціною, Літва квітнет русчызною». Радкі гэтыя напісаны ў 1621 г., а ўжо ў 1696-ым — праз тры чвэрці стагоддзя — пастановай усеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай адзначалася, што ў справаводстве Вялікага княства «ўсе рашэнні павінны складацца на польскай мове». Што ж здарылася за гэтыя 75 гадоў, якія працэсы прывялі да таго, што «квітнеючая» культура і грамадства прыйшло ў поўнае занядбанне? Першую ролю адыграла тут, канешне, шматлюднае фізічнае вынішчэнне беларускага этнасу ў перыяд войнаў на пачатку другой паловы XVII ст., якое працягнулася і на пачатку стагоддзя XVIII — у час Паўночнай вайны. Сваё значэнне мела таксама дэзінтэграцыя грамадства Вялікага княства па сацыяльна-рэлігійнай прыналежнасці.

## 2. Вёска і горад у перыяд усталявання паншчыны і прыгонніцтва

**Сельская гаспадарка і промыслы.** У XIV—XVI стст. галоўнай матэрыяльнай базай развіцця грамадства Беларусі, як і іншых частак Вялікага княства Літоўскага, з'яўлялася сельская гаспадарка, якой спадарожнічалі цесна звязаныя з ёю промыслы і сельскія рамёствы.

Прыродныя ўмовы Беларусі ў цэлым спрыялі развіццю раслінаводства, жывёлагадоўлі і розных промыслаў. Але здараліся і рэзкія адхіленні надвор'я ад нормы. Гэта вяло да неўраджаяў, якія выклікáлі голад, а з ім і масавую пагібель людзей, эпідэміі, падзеж жывёлы.

Істотна тармазілі развіццё гаспадаркі амаль пастаянныя войны, а таксама ўзброеныя канфлікты паміж феадаламі Вялікага княства. Яны наносілі вялікія людскія і матэрыяльныя страты.

Сялянства Беларусі, пераадольваючы цяжкія вынікі стыхійных і ваенных бедстваў, сваёй стваральнай працай забяспечвала паступовае, хаця і маруднае, развіццё сельскай гаспадаркі і промыслаў.

Адным з важных паказчыкаў развіцця сельскай гаспадаркі з'яўляецца асваенне зямель, занятых лесам, але прыдатных для земляробства. Пры экстэнсіўных метадах гаспадарання натуральны прырост насельніцтва абумоўліваў неабходнасць пастаяннага пашырэння сельскагаспадарчых угоддзяў. Феадалы таксама былі зацікаўлены ў павелічэнні такіх угоддзяў сваіх маёнткаў як аднаго са шляхоў росту колькасці сваіх падданых, а тым самым і сваіх даходаў. Таму яны рознымі льготамі заахвочвалі распрацоўку сялянамі лясных участкаў «на сыром кораню». Сяляне, якія іх атрымлівалі, вызваляліся на некалькі гадоў ад павіннасцей і таму называліся «валянамі», або «слабодзічамі».

У XIV—XVI стст. паступова ўдасканальвалася культура земляробства, г. зн. розныя спосабы захавання, аднаўлення і павышэння ўрадлівасці глебы. Прыкладна да сярэдзіны XVI ст. прымянялася пераважна своеасаблівая сістэма земляробства, асновай якой быў трохпольны севазварот: папар, азімае жыта, яравыя. У адрозненне ад класічнага, рэгулярнага трохполля, калі звычайна ворыва дзялілася на тры роўныя часткі і засявалася дзве трэці яго, пры архаічным трохполлі ворыва дзялілася на тры часткі, але засявалася толькі палова, або нават меншая яго частка, а астатняя заставалася аблогай. Архаічнае трохполле па сваёй сутнасці адпавядала двухполлю. Рэгулярнае трохполле ў якасці пераважаючай сістэмы земляробства замацавалася ў другой палове XVI ст. у выніку правядзення аграрнай рэформы (памеры валочнай). Нягледзячы на гэта, і ў далейшым сустракаліся архаічныя сістэмы земляробства: падсечна-агнявая і абло-

гавая, або ялавінная. Яны дапамагалі сельскагаспадарчаму асваенню лясных зямель.

Урадлівасць глебы падтрымлівалася таксама ўзворваннем, баранаваннем, а часам ўгнойваннем і праполкай палёў.

Асноўнымі прыладамі земляробства былі драўляная двухзубая саха, на рабочыя часткі якой насаджваліся жалезныя сашнікі (нарогі), і барана. У якасці цяглавай сілы на захадзе Беларусі выкарыстоўваліся пераважна валы, а на ўсходзе — коні.

Асноўнай галіной сельскай гаспадаркі з'яўлялася раслінаводства. Як і раней, вырошчваліся зерневыя збожжавыя культуры (азімае жыта, авёс, грэчка, ячмень, пшаніца і інш.), а таксама зерневыя бабовыя (гарох, сачавіца) і прадзільныя (лён, каноплі).

Урадлівасць сельскагаспадарчых культур — адзін з асноўных паказчыкаў агульнага стану земляробства — у разглядаемы перыяд была адносна нізкай. Так, мяркуючы па даных XVI ст., сярэдняя ўраджайнасць збожжавых складала прыблізна «сам-3», г. зн. каля чатырох цэнтнераў з гектара, вагаючыся ў розныя гады ў даволі вялікіх межах.

Паблізу сядзіб на агароджаных участках (агародах) вырошчвалася разнастайная гародніна: капуста, морква, буракі, цыбуля, часнок, агуркі, кроп, мак і многія іншыя культуры.

Развівалася і другая важная галіна сельскай гаспадаркі — жывёлагадоўля, якая забяспечвала земляробства рабочай жывёлай і ўгнаеннямі, а насельніцтва — прадуктамі і сыравінай. Разводзілі коней, якія выкарыстоўваліся не толькі ў земляробстве, але і ў войску, а таксама валоў, з дапамогай якіх апрацоўвалі зямлю і перавозілі грузы. У складзе прадукцыйнай жывёлы асноўнае месца займала буйная рагатая. Разводзілі таксама свіней, авечак, коз, хатнюю птушку (курэй, гусей, качак).

Трэба падкрэсліць, што істотнай розніцы па ўзроўню развіцця, калі не ўлічваць колькасныя і сацыяльныя паказчыкі, паміж гаспадаркамі сялян і феадалаў не існавала.

У XIV—XVI стст. у якасці дапаможных заняткаў развіваліся разнастайныя промыслы (бортніцтва, рыбалоўства, паляванне) і хатняе рамяство. Такія заняткі забяспечвалі насельніцтва мёдам, воскам, рыбай, футрам, мясам, адзеннем, абуткам, лесаматэрыяламі, хатнім начыннем і часткова гаспадарчым інвентаром.

Важным фактарам эвалюцыі сельскай гаспадаркі і промыслаў, як і наогул аграрных адносін, у Беларусі было далейшае паглыбленне грамадскага падзелу працы і пашырэнне на гэтай аснове іх сувязей з унутраным рынкам. Уздзеянне таварна-грашовых адносін на феадальную эканоміку беларускага краю, як і іншых мясцін на ўсход ад Эльбы, значна ўзмацнілася прыкладна з сярэдзіны XV ст.: калі яна стала паступова ўцягвацца ў міжнародны гандаль. Рост попыту і цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю ў краінах Заходняй Еўропы з развітой ган-

длёвай рамесніцкай і мануфактурнай вытворчасцю стымуляваў зацікаўленасць феадалаў у значным пашырэнні такой прадукцыі і збыту яе на знешнім рынку з мэтай павелічэння сваіх даходаў. Гэта абумовіла істотныя змены ў аграрным ладзе Беларусі і іншых частках Вялікага княства Літоўскага.

**Умацаванне права ўласнасці феадалаў на зямлю. Усталяванне фальварка.** Галоўны сродак вытворчасці — зямля — знаходзіўся ва ўласнасці феадалаў. Яна была матэрыяльнай асновай іх эканамічнага і палітычнага панавання. Гэты клас складаўся з саслоўяў свецкіх і духоўных феадалаў.

Да пачатку XV ст. свецкія феадалы, якімі з'яўляліся воіны-рыцары, называліся баярамі. З часу ж Гарадзельскай уніі (1413) сталі пашырацца польскія назвы свецкіх феадалаў «шляхціцы» і «зямяне». Нашчадкі Рурыкавічаў, Гедымінавічаў і іншых родаў захоўвалі тытул «князь», а тыя феадалы, якія займалі важныя пасады ў дзяржаўным апараце, з пачатку XV ст. атрымлівалі польскі тытул «пан».

Саслоўе свецкіх феадалаў Беларусі не было аднародным і па этнічнаму паходжанню, і па рэлігійнай прыналежнасці, і па велічыні зямельных уладанняў. Па этнічнаму паходжанню ў яго складзе адрозніваліся «рускія» (г. зн. беларускія, украінскія і рускія), а таксама літоўскія, татарскія, польскія і іншыя шляхціцы. Неаднароднасць складу свецкіх феадалаў па рэлігійнай прыналежнасці выражалася ў тым, што, як правіла, «рускія» шляхціцы вызнавалі праваслаўе, літоўскія і польскія — каталіцызм, татарскія — іслам. Асноўнай масай шляхціцаў Беларусі былі беларусы, якія спавядалі праваслаўе.

Рашаючым жа фактарам, які вызначаў месца шляхціца ў іерархіі свецкіх феадалаў і яго ролю ў грамадска-палітычным жыцці, была велічыня яго зямельных уладанняў. Яна ж служыла асновай вызначэння колькасці конных воінаў (коней), якіх кожны шляхціц, як васал вялікага князя, абавязаны быў выстаўляць у войска. Згодна з рашэннямі сеймаў 1528 і 1529 гг., адзін узброены коннік павінен быў выстаўляцца з васьмі сялянскіх «службаў», г. зн. адзінак абкладання феадальнымі павіннасцямі, якія ў сярэднім складаліся прыкладна з дзвюх сялянскіх гаспадарак (дымоў). Калі шляхціц меў менш васьмі службаў або наогул не меў сялян, то ён з'яўляўся ў войска асабіста. Пры вялікай беднасці некалькі шляхціцаў рыхтавалі ў войска аднаго каня супольна. Па рашэнню ж сейма 1567 г. адзін конны воін павінен быў выстаўляцца з дзесяці службаў альбо дваццаці дымоў[58]. Такім чынам, колькасць коней, якіх выстаўляў шляхціц у войска, дае прыблізнае ўяўленне аб велічыні яго зямельных уладанняў у сялянскіх службах і дымах.

На падставе даных перапісаў (попісаў) войска ВКЛ 1528, 1565 і 1567 гг. аб колькасці конных воінаў, якіх выставілі шляхціцы — васалы вялікага

князя, іх можна падзяліць па велічыні зямельных уладанняў на пяць асноўных сацыяльных катэгорый феадалаў: драбнейшыя (1 конь), дробныя (2—10 коней), сярэднія (11—50 коней), буйныя (51—100 коней), буйнейшыя (магнаты, больш 100 коней).

Абсалютная большасць шляхціцаў-васалаў вялікага князя з'яўлялася драбнейшымі феадаламі. У 1528 г. яны складалі 81 % усіх (2562) феадалаў, якія з'явіліся на перапіс з беларускіх паветаў, або 20,4 % усіх (10 178) феадалаў ВКЛ, і выстаўлялі 53,6 % усіх (3873) коней з беларускіх паветаў, або 10,5 усіх (19 817) коней ВКЛ. Магнатаў сярод феадалаў, якія валодалі маёнткамі ў Беларусі, было ў 1528 г. 14 чалавек (найбольшую колькасць коней — 466 — выстаўляў «с павіннасці», г. зн. у абавязковым парадку, літоўскі каталіцкі пан А. Гаштолт), а ў 1567-ым — 16 чалавек (з іх найбольшую колькасць коней — 539 — выстаўляў літоўскі кальвініецкі пан М. Радзівіл).

У сярэдзіне XVI ст. колькасць феадалаў, якія мелі зямельныя ўладанні на Беларусі, складала прыблізна 162 тыс. чалавек, г. зн. 9 % усяго яе насельніцтва (прыблізна 1,8 млн. чалавек), або 46 % усіх феадалаў ВКЛ (прыкладна 350 тыс. чалавек).

Найбуйнейшым феадалам была дзяржава, якая ў асобе вялікага князя літоўскага з'яўлялася не толькі суверэнам дзяржаўнай тэрыторыі, але і непасрэдным уласнікам вялікіх так званых гаспадарскіх зямельных уладанняў (валасцей). Фонд гэтых уладанняў фарміраваўся рознымі шляхамі. Аснову іх складалі ўладанні тых князёў Рурыкавічаў і іх васалаў, якія ў перыяд актыўнай тэрытарыяльнай экспансіі вялікіх князёў літоўскіх не падпарадкаваліся іх уладзе. У склад гаспадарскіх уладанняў уключаліся таксама канфіскаваныя, падараваныя, завешчаныя і вымарачныя маёнткі.

Прыкладна да сярэдзіны XVI ст. дакладнага падзелу гаспадарскіх зямельных уладанняў на дзяржаўныя і асабісты дамен вялікага князя не існавала. Яны, па сутнасці, з'яўляліся дзяржаўнай уласнасцю: даходы з іх ішлі як на пакрыццё выдаткаў дзяржавы, так і на ўтрыманне вялікага князя літоўскага і яго шматлікага акружэння. Асабісты дамен вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста быў створаны ў 1548—1572 гг. У 1569 г. у яго склад толькі на Беларусі ўваходзілі, напрыклад, Васілішкі (Лідскі павет), Гародня, Гераноіны (Ашменскі), Кобрынь (Берасцейскі), Ляхавічы (Наўгародскі), Мсціслаў, Межырэчча (Міжэрычы), Мсцібагаў (Мсцібава, Ваўкавыйскі), Опса (Браслаўскі), Рагачоў (Рэчыцкі), Радашковічы (Менскі), Трабы (Ашменскі), Шарашоў (Берасцейскі) і іншыя ўладанні. У 1571 г. Жыгімонт Аўгуст, які не меў дзяцей, завяшчаў свае асабістыя маёнткі тром сваім сёстрам, а пасля іх смерці — Рэчы Паспалітай.

На каранацыйным сейме 1588 г. для забеспячэння даходамі вялікакняжацкага прастола

са складу дзяржаўных уладанняў былі выдзелены так званыя сталовыя маёнткі, якія ў далейшым называліся звычайна «эканоміямі»: Аліцкая, Берасцейская, Гародзенская, Камянецкая, Кобрынская, Магілёўская, Шавельская.

Фонд гаспадарскіх зямель быў адзінай крыніцай пашырэння зямельнай уласнасці свецкіх і духоўных феадалаў. У выніку пажалаванняў (данін) ён да Люблінскай уніі 1569 г. значна скараціўся, таму што ў XIV—XVI стст. вялікія князі літоўскія ў якасці асноўнага спосабу ўзнагароды за верную службу феадалаў-васалаў шырока выкарыстоўвалі пажалаванні гаспадарскіх зямель з сялянамі. Існавала некалькі формаў данін: у часовае ўладанне, у пастаяннае ўладанне з правам перадачы ў спадчыну толькі нашчадкам мужчынскага полу (на ленным праве), ва ўласнасць.

Поруч з зямельнай уласнасцю свецкіх феадалаў на Беларусі развівалася і землеўладанне вышэйшага духавенства, асабліва карпаратыўных духоўных феадалаў: праваслаўных і, галоўным чынам, каталіцкіх епіскапстваў, манастыроў і цэркваў.

Асноўнымі формамі феадальнага землеўладання былі вотчына, купля і залог. Адпаведныя правы феадалаў па распараджэнню сваімі маёнткамі былі заканадаўча афармлены як асобнымі прывілеямі «рускім» землям ВКЛ (Віцебскай, Полацкай і інш.), так і агульнадзяржаўнымі прывілеямі 1387, 1413, 1434, 1447 і іншых гадоў, а таксама статутамі ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. законы гарантавалі феадалам права перадаваць вотчыну ў спадчыну, прадаваць, абменьваць, закладаць, дараваць альбо завяшчаць ва ўстаноўленым парадку[59].

Разам з умацаваннем права ўласнасці феадалаў на зямлю пашыраўся іх падатковы і судовы імунітэт. Напрыклад, 1434 г.— адмена «дзякла», г. зн. даніны прадукцыяй сялянскіх гаспадарак; 1447 г.— скасаванне пастаяннага дзяржаўнага грашовага падатку (сярэбшчыны) на ваенныя патрэбы, некаторых работ, якія былі звязаны з будаўніцтвам і рамонтам гаспадарскіх замкаў, і нарыхтоўкі сена; 1559 г.— не стала гандлёвых пошлін (мыта) на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, якая ішла на экспарт з маёнткаў шляхты і г. д.

Такім чынам, адной з важнейшых заканамернасцей працэсу развіцця феадальных адносін на Беларусі ў XIV—XVI стст. з'яўляецца ўмацаванне эканамічных пазіцый феадалаў. Ён суправаджаўся афармленнем свецкіх і духоўных феадалаў у замкнутыя прывілеяваныя саслоўі феадальнага грамадства.

У XIV—XVI стст. у Беларусі працягвала развівацца панская гаспадарка, якая вялася, як правіла, пры ўсіх «дварах» — адміністрацыйна-гаспадарчых цэнтрах маёнткаў. Прыкладна да сярэдзіны XV ст. яна мела выключна натуральны характар, таму што задавальняла толькі асабістыя патрэбы феадалаў, але ў далейшым пад уздзеяннем пашырэння сувязей феадальнай эканомікі з унутраным і асаб-

ліва знешнім рынкамі пачынаецца рэарганізацыя панскай гаспадаркі ў фальварак. Істотнымі рысамі гэтага працэсу былі, папершае, пераход панскіх гаспадарак ад малапрадукцыйнай працы «чэлядзі нявольнай» да больш прадукцыйнай працы сялян і, па-другое, павелічэнне панскімі гаспадаркамі вытворчасці і збыту сельскагаспадарчай прадукцыі, а тым самым тварнасці.

Мяркуючы па фрагментарных даных XVI ст., фальварак уяўляў сабою гаспадарку з комплексам жылых і гаспадарчых пабудоў, а таксама розных сельскагаспадарчых угоддзяў. Фальваркі былі шматгаліновымі гаспадаркамі, але вядучае месца ў іх займала вытворчасць збожжа. Значная частка яго прызначалася на продаж як на ўнутраным, так і знешнім рынках. Апошняе пацвярджаецца тым, што да сярэдзіны XVI ст. фальварак як асобы тып панскай гаспадаркі ўсталяваўся амаль выключна ў басейнах Заходняга Буга, Нёмана і часткова Заходняй Дзвіны, якія звязвалі адпаведныя рэгіёны Беларусі з буйнымі цэнтрамі міжнароднага гандлю — балтыйскімі партамі Гданьск, Каралевец (Кёнігсберг, цяпер Калінінград) і Рыга.

Рэарганізацыя панскай гаспадаркі ў фальварак суправаджалася значным пагаршэннем становішча сялянства Беларусі.

**Сялянская гаспадарка.** У XIV—XVI стст. у Беларусі пераважным па сваёй колькасці і асноўным вытворчым класам-саслоўем феадальнага грамадства было эксплуатуемае і асабіста залежнае сялянства. У пісьмовых крыніцах гэтага перыяду сяляне звычайна называліся «людзьмі», «мужыкамі», ці «падданымі».

Асноўнай вытворчай ячэйкай сельскай гаспадаркі з'яўлялася гаспадарка селяніна. У крыніцах яна фігуруе пад тэрмінам «дым». Дым уяўляў сабою гаспадарку, як правіла, адной сялянскай сям'і. Найбольш тыповай яе формай была сям'я ў складзе бацькоў і дзяцей, якія яшчэ не стварылі сваіх сямей. Сустракаліся таксама і гаспадаркі вялікіх непадзяліўшыхся сямей розных відаў.

Асноўнай формай сельскіх паселішчаў былі вёскі, якія тады абазначаліся толькі тэрмінам «сяло». Населенасць вёсак была рознай: ад аднаго да некалькіх дзесяткаў дымоў. Гаспадаркі аднаго сяла складалі суседскую сельскую абшчыну, а некалькі бліжэйшых вёсак, якія належалі аднаму пану,— валасную абшчыну.

Мяркуючы па даных крыніц XVI ст., сялянская гаспадарка ўяўляла сабою складаны гаспадарчы комплекс. На сялянскіх сядзібах знаходзіліся жылыя дамы, розныя гаспадарчыя пабудовы (гумны, клеці, пуні, хлявы і інш.). Звычайна сяляне-гаспадары мелі ўвесь неабходны інвентар: бароны, калёсы, косы, сані, сохі, сякеры, сярпы, іншыя прылады працы.

Кожная сялянская гаспадарка мела таксама зямлю, якою сялян надзялялі феадалы — уласнікі зямлі. Гэта было неабходнай і істотнай рысай сістэмы феадальных вытворчых адносін і

Фрагмент апісання двара Свержань Наваградскага павета, 1568 г. Старабеларуская мова.

абумоўлівала павіннасны характар сялянскага землеўладання. Феадалы звычайна прызнавалі яго спадчыннасць. Сяляне, якія карысталіся зямлёй бацькоў (отчынай), называліся «отчычамі».

Правы сялян па распараджэнню надзеламі былі істотна абмежаваны. Сяляне не мелі права перадаваць зямлю ў пастаяннае і часовае ўладанне без дазволу свайго пана шляхам закладу (заставы), продажу і іншых здзелак[60]. Але насуперак забароне яны нярэдка ўчынялі такія аперацыі. Апошнія ліквідаваліся ў адміністрацыйным або судовым парадку, калі яны супярэчылі інтарэсам уласнікаў зямлі, на той падставе, што «мужик простый не мает моцы земли господарской обель продавати»[61].

Асноўнымі сельскагаспадарчымі ўгоддзямі ў складзе сялян-

скіх надзелаў былі ворыва і сенакосы. Да аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. надзелы розных гаспадарак, як правіла, вельмі адрозніваліся па сваёй плошчы не толькі ў розных маёнтках, але нават у адной і той жа вёсцы. У сярэднім на адзін дым прыпадала 10,6 га розных угоддзяў.

Акрамя індывідуальных надзелаў, сяляне адной або некалькіх суседніх абшчын мелі права карыстацца рознымі агульнымі ўгоддзямі пераважна ў бліжэйшых лясах.

У сялянскай гаспадарцы галоўнае месца займала раслінаводства. Важную ролю адыгрывала і жывёлагадоўля. Ступень забяспечанасці розных гаспадарак рабочай і прадукцыйнай жывёлай была вельмі рознай.

Нягледзячы на вялікую стракатасць у ступені забяспечанасці розных сялянскіх гаспадарак асноўнымі сродкамі вытворчасці, большасць з іх мела неабходныя ўмовы для нармальнага гаспадарання.

Звычайнымі для сялян былі заняткі рознымі промысламі і хатнімі рамёствамі. Промыслы былі асабліва распаўсюджанымі сярод сялян паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі, дзе яшчэ ў канцы XVI ст. у параўнанні з паўночна-заходняй шчыльнасць насельніцтва была меншай, а панская гаспадарка ў форме фальварка развівалася больш марудна.

Сялянства Беларусі сваёй працай стварала значную частку матэрыяльных рэсурсаў і тым самым уносіла істотны ўклад у эканамічную базу развіцця феадальнага грамадства ВКЛ.

**Рэарганізацыя сістэмы феадальнай эксплуатацыі сялянства.** Прыкладна да канца XV ст. асноўнай формай феадальнай рэнты была даніна прадукцыяй сялянскіх гаспадарак — збожжам, курамі, мёдам, футрам і інш., а пераважаючай катэгорыяй сялянства па характару галоўнай павіннасці з'яўляліся даннікі (людзі данныя). Адзінкай абкладання даннікаў служыў дым. Аднак члены сельскіх і валасных абшчын (валашчане) неслі калектыўную адказнасць за спраўнае выкананне ўстаноўленых павіннасцей.

Асобную групу даннікаў складалі сяляне — «дольнікі», галоўнай павіннасцю якіх была даніна чацвёртай часткі («долі») ураджаю. Разам з галоўнай у склад павіннасцей уваходзілі таксама талокі, г. зн. сельскагаспадарчыя работы ў фальварках у час іх разгару, да 12 дзён летам, будаўніцтва і рамонт панскіх пабудоў, плацяжы баброўшчыны грашамі, узносы «стацыі», г. зн. харчу і фуражу, прадастаўленне падвод. Дольнікі ў сярэдзіне XVI ст. былі адной з асноўных катэгорый сялянства Падзвіння. Так, у рэвізіі Полацкага ваяводства 1552 г. зафіксаваны 4121 дым сялян-дольнікаў, або 53,5 % усіх сялянскіх гаспадарак Полаччыны.

Прыкметнае ўзмацненне — прыкладна з сярэдзіны XV ст.— сувязей сельскай гаспадаркі з унутраным і асабліва знешнім рынкамі абумовіла працэс паступовага пераходу феадалаў ад эксплуатацыі сялянства шляхам спагнання даніны натурай у асноўным да адработнай і ў

значнай меры грашовай формы рэнты. Гэты працэс суправаджаўся пераўтварэннем асноўнай масы даннікаў Пабужжа, Панёмання і часткова Падзвіння ў «людзей цяглых», галоўнай павіннасцю якіх стала паншчына, або ў «людзей асадных», «кунічных», ці «чыншавікоў», асноўнай павіннасцю якіх была грашовая рэнта. У той жа час у Падняпроўі, дзе па прычыне ўздзеяння шэрагу неспрыяльных фактараў (цяжкадаступнасць да гандлёвых портаў, ваенныя разбурэнні і т. п.) фальварак не атрымаў значнага развіцця, даніны натурай паступова змяняліся грашамі.

У выніку гэтых працэсаў у сярэдзіне XVI ст. асноўным рэгіёнам, дзе сяляне-даннікі абсалютна пераважалі, заставалася Падняпроўе, асабліва гаспадарскія Бабруйская, Гомельская, Крычаўская, Любашанская, Магілёўская, Мазырская, Прапойская, Рэчыцкая, Свіслацкая і іншыя воласці, якія, дарэчы, у структуры феадальнай зямельнай уласнасці гэтых месцаў складалі львіную долю. Другім рэгіёнам перавагі сялян-даннікаў, як ужо адзначалася, было Падзвінне. Тут, нягледзячы на спрыяльныя геаграфічныя ўмовы для развіцця фальварка, традыцыйна данніцка-дольніцкі варыянт эксплуатацыі сялянства ва ўмовах пастаяннай пагрозы ваенных разбурэнняў у асноўным па-ранейшаму адпавядаў інтарэсам феадалаў і на дадзеным этапе развіцця іх гандлёвых сувязей з Рыгай і таму не быў рэарганізаваны.

У XIV—XVI стст. на Беларусі паступова развівалася адработная рэнта, якая складалася з разнастайных работ (службаў) сялян на паноў: узворванне, баранаванне, сяўба, жніво, касьба сена, малацьба і інш. Паншчына, г. зн. праца сялян у фальварках з сахой, сярпом, касой і г. д., у крыніцах называюцца «дзелам», «работай», «прыгонам» (пераважна ў Падзвінні), «паншчынай», але часцей за ўсё — «службай цяглай». Таму сяляне, галоўнай павіннасцю якіх была такая служба, звычайна называліся «людзьмі цяглымі».

Да аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. асноўнай адзінкай абкладання цяглых сялян павіннасцямі з'яўлялася «служба». Адпаведная адзінка ў Берасцейскім павеце звычайна называлася «жрэбіем», а ў Пінскім — «дворышчам». Яны перш за ўсё азначалі ўчасткі зямлі, за карыстанне якімі сяляне неслі ўстаноўленыя цяглыя і іншыя павіннасці. У XV ст. службы складаліся ў сярэднім з двух-трох дымоў, гаспадары якіх часта былі сваякамі. Чужыя асобы ў ёй называліся «патужнікамі».

З пачатку XV да сярэдзіны XVI ст. паншчына з адзінкі абкладання ў 14 дзён на год павялічылася да 2 дзён на тыдзень, г. зн. у 7,4 раза. Яна спалучалася з іншымі асноўнымі і дадатковымі павіннасцямі. Склад і нормы розных павіннасцей цяглых сялян звычайна не былі аднолькавымі нават у межах адной вёскі. Тыповы комплекс асноўных павіннасцей цяглых сялян са службы складаўся, акрамя галоўнай, з талок

(па чатыры дні ў год летам), данін, або «дзякла», жытам, аўсом (па бочцы), курэй (па адной), яйкамі (па дзесятку), сенам (па возу) і інш. У якасці дадатковых павіннасцей цяглыя, як і сяляне іншых катэгорый, будавалі, рамантавалі і вартавалі двары сваіх паноў, перавозілі грузы і г. д.

Да сярэдзіны XVI ст. паншчына, як і фальварак, у якасці аднаго з асноўных варыянтаў рэалізацыі феадаламі спрыяльнай рынкавай кан'юнктуры для збыту сельскагаспадарчай прадукцыі зацвердзілася ў паўночна-заходняй частцы Беларусі.

Ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі для даволі значнай часткі сялянства галоўнай павіннасцю былі разнастайныя спецыяльныя службы. Апошнія патрабавалі пэўных звычак. Да сялян-слуг адносіліся тыя, хто займаўся конегадоўлей... 

Такім чынам, пад уздзеяннем далейшага развіцця таварна-грашовых адносін да сярэдзіны XVI ст. у асноўным завяршылася рэарганізацыя архаічнай сістэмы феадальнай эксплуатацыі сялянства Беларусі. У выніку яе поруч з традыцыйна пераважаўшым у Падзвінні данніцка-дольніцкім варыянтам умацаваліся і два новыя варыянты сістэмы эксплуатацыі: фальварачна-паншчынны і чыншавы. Умоўную граніцу паміж фальварачна-паншчынным і данніцка-дольніцкім варыянтамі, з аднаго боку, і чыншавым — з другога, можна правесці прыкладна па лініі Пінск—Слуцк—Менск—Барысаў—Орша.

**Аграрная рэформа.** Да сярэдзіны XVI ст. архаічная сістэма землеўладання сялянства Беларусі і абкладання яго павіннасцямі, якая толькі вельмі прыблізна ўлічвала гаспадарчыя рэсурсы адзінак абкладання, стала для феадалаў істотнай перашкодай на шляху іх імкнення павялічыць свае даходы. Гэта і абумовіла яе рэарганізацыю шляхам вымярэння зямлі на валокі (30 моргаў, або 21,36 га), вызначэння якасці глебы і ўвядзення валокі ў якасці асноўнай адзінкі абкладання. У крыніцах комплекс адзначаных і іншых мерапрыемстваў абазначаецца тэрмінам «памера валочная», а ў гістарычнай літаратуры — «аграрная рэформа».

Упершыню аграрную рэформу ў сваіх уладаннях (Давід-Гарадок, Пінск, Клецк і некаторыя іншыя) у 40 — пачатку 50-ых гг. XVI ст. правяла

Бона — жонка караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта. Яна праводзілася на аснове спецыяльных інструкцый (устаў). Амаль адначасова з ёю на аснове асобнай уставы пачаў праводзіць аграрную рэформу ў гаспадарскіх уладаннях і яе сын Жыгімонт Аўгуст. Да 1557 г. валочная памера была завершана ў многіх гаспадарскіх уладаннях заходняй часткі ВКЛ. Але яе прынцыпы і іх рэалізацыя былі прызнаны незадавальняючымі. Таму ў 1557 г. была распрацавана новая інструкцыя — Устава на валокі, на аснове якой пачалася суцэльная рэвізія, г. зн. перагляд папярэдняй памеры[62]. Яна, па сутнасці, стала новай памерай. Другая памера, якая была закончана ў 1568 г., ахапіла ўсе гаспадарскія ўладанні заходняй часткі ВКЛ.

У 1560 г. была праведзена аграрная рэформа ў гаспадарскіх Падняпроўскіх («рускіх») валасцях. Тут яна праводзілася на аснове спецыяльнай уставы, якая ўлічвала сацыяльна-эканамічныя асаблівасці гэтага рэгіёна.

У гаспадарскіх уладаннях Падзвіння аграрная рэформа не праводзілася, таму што яна ў ходзе Лівонскай вайны (1558—1583) стала арэнай актыўных ваенных дзеянняў.

З пачатку 60-ых гг. XVI ст. прыклад гаспадара пачалі пераймаць многія іншыя свецкія і духоўныя феадалы, пераважна буйныя, таму што правядзенне аграрнай рэформы патрабавала вялікіх сродкаў. Яны праводзілі яе на аснове ўласных інструкцый, запазычваючы з Уставы на валокі 1557 г. толькі некаторыя прынцыпы, бо яна як прыватная ўстава гаспадара не мела для іх заканадаўчай сілы. Рэарганізацыя землекарыстання і абкладання сялянства ў маёнтках дробных, драбнейшых і сярэдніх свецкіх і духоўных феадалаў расцягнулася на многія дзесяцігоддзі.

Валочная памера ў гаспадарскіх уладаннях Усходняй Беларусі пачалася ў канцы XVI ст.

У гаспадарскіх уладаннях зямля вымяралася на валокі не па 30 моргаў, а па 33 (23,5 га), а іншы раз і больш. Нягледзячы на тое, што сяляне маглі атрымаць па валоцы, яны звычайна бралі толькі па паўвалокі зямлі на гаспадарку.

Усе валокі вёскі ў залежнасці ад канкрэтных умоў па характару галоўных павіннасцей размяркоўваліся на «цяглыя», «асадныя» і «вольныя» (для сялян-слуг, якія вызваляліся ад спецыфічных павіннасцей, сялян іншых катэгорый). Мяркуючы па даных рэестраў валочнай памеры, у гаспадарскіх маёнтках пераважалі асадныя, або чыншавыя, валокі, што сведчыць аб выключна шырокім распаўсюджванні ў гэтых уладаннях грашовай рэнты.

З кожнай валокі зямлі былі ўстаноўлены дакладна вызначаныя віды і нормы павіннасцей. Віды галоўных і іншых павіннасцей залежалі ад павіннаснага характару валок, а нормы — ад якасці зямлі. Яна дыферэнцыравалася на чатыры катэгорыі: «добрая», «сярэдняя», «дрэнная» і «вельмі дрэнная».

Гэта значыць, што ўпершыню ўлічвалася розная эфектыўнасць працы на землях рознай якасці. Такім чынам, агульны памер павіннасцей таксама ўпершыню быў абумоўлены як памерам надзелу, так і якасцю зямлі.

Галоўнай павіннасцю з асаднай валокі была «асада» — плацяжы грашамі — па 30 грошаў. Разам з галоўнай асадныя сяляне абавязаны былі выконваць і іншыя асноўныя павіннасці: плаціць па 12 грошаў за талокі і па 10 грошаў за «гвалты», г. зн. тэрміновыя работы ў надзвычайных выпадках (пажары, паводкі і да т. п.). Вартасць гэтых асноўных павіннасцей у грашовым выражэнні складае 52 грошы.

Галоўнай павіннасцю з цяглай валокі была паншчына па два дні на тыдзень на працягу 49 тыдняў. Замест шасці дзён паншчыны на працягу трох тыдняў зімовых і вясновых рэлігійных святаў цяглыя сяляне абавязаны былі выконваць чатыры дні талок улетку. Значыць, яны хадзілі на працу ў фальварак 102 дні на год.

Віды астатніх асноўных павіннасцей як з асадных, так і з цяглых валок былі аналагічнымі, але нормы іх залежалі ад якасці зямлі. Чынш: 21 грош — з валокі добрай зямлі, 12 — з сярэдняй, 8 — з дрэннай і 6 — з вельмі дрэннай. Дзякла аўсом: 2 бочкі (або 10 грошаў) і 10 грошаў за дастаўку — з валокі добрай і сярэдняй зямлі; бочка (або 5 грошаў) і 5 грошаў за дастаўку — з валокі дрэннай зямлі; дзякла аўсом з вельмі дрэннай зямлі не бралася. Дзякла сенам (па возу альбо 3 грошы і 2 грошы за дастаўку) спаганялася ў аднолькавых памерах, але толькі з зямель трох першых катэгорый па якасці. Нормы дзякла гусямі (па аднаму або 1,5 гроша), курамі (па дзве або 1,6 гроша), яйкамі (па 20 або 0,4 гроша), а таксама невадоўшчыны (па 2 грошы), стацыі грашамі (па 2,5 гроша), або натурай (па ялавіцы з 30 валок, па барану з 15 валок, па курыцы і па 10 яек з валокі) не залежалі ад якасці зямлі.

Агульная вартасць асноўных павіннасцей у грашовым выражэнні складала, напрыклад, з асаднай валокі добрай зямлі 106 грошаў, сярэдняй—97, дрэннай — 83 і вельмі дрэннай — 66.

Акрамя асноўных, сяляне абавязаны былі выконваць і шэраг дадатковых павіннасцей: скошваць фальварачныя сенажаці, перавозіць грузы, будаваць, рамантаваць і вартаваць панскія двары і т. д.

Рэарганізацыя ў 1560 г. сістэмы землекарыстання і абкладання сялянства павіннасцямі ў гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцях заключалася ў вымярэнні ворыва на «службы» — участкі на 30 салянак (бочак) высеву зерневых, што адпавядае 30 моргам, або валоцы зямлі. Служба была ўведзена замест дыма ў якасці новай адзінкі абкладання. Пры гэтым вызначалася і якасць зямлі кожнай службы: «добрая», «сярэдняя» і «дрэнная». Адну службу зямлі бралі, як правіла, дзве сялянскія гаспадаркі. Адначасова таксама

высвятлялася наяўнасць сенажацяў (у вазах сена), рыбалоўных і паляўнічых угоддзяў. Удакладняліся і апісваліся знешнія межы ўсіх зямель вёсак.

За карыстанне службамі і іншымі ўгоддзямі былі ўстаноўлены дакладна вызначаныя віды і нормы павіннасцей. Нормы іх былі дыферэнцыраваны ў залежнасці ад якасці зямлі, плошчы сенажацяў і наяўнасці прамысловых угоддзяў і велічыні прыбыткаў з апошніх. Нормы галоўнай павіннасці — плацяжу грашамі са службы — былі наступнымі: 60 грошаў — з добрай зямлі, 50 — з сярэдняй і 40 — з дрэннай. Іншыя асноўныя павіннасці складалі бочку збожжа і бочку аўса, 4 пенязі (0,4 гроша) за воз сена, 20 або 25 грошаў за пуд (медніцу) мёду (у залежнасці ад велічыні мясцовых мер). У якасці дадатковых сяляне выконвалі шэраг павіннасцей натурай і грашамі на карысць розных прадстаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі (ураднікаў). Па вышэйвыказаных прычынах, агульныя памеры плацяжоў сялян са служб у розных вёсках не былі аднолькавымі.

Такім чынам, адным з важных вынікаў аграрнай рэформы ў гаспадарскіх Падняпроўскіх валасцях было канчатковае пераўтварэнне сялян-даннікаў у сялян-чыншавікоў. Гэта таксама ўскосна сведчыць аб значнай ролі сувязей гаспадарак такіх сялян з унутраным рынкам.

Істотныя змены ў сістэме землекарыстання і абкладання сялян адбыліся ў тых маёнтках свецкіх і духоўных феадалаў, у якіх была праведзена валочная памера. Пры значным у цэлым падабенстве відаў і нормаў асноўных павіннасцей з валокі зямлі ў розных уладаннях яны ўсё ж многімі дэталямі прыкметна адрозніваліся ад адпаведных устанаўленняў Уставы на валокі 1557 г. Так, напрыклад, нормы паншчыны вызначаліся ад 2 да 5 дзён на тыдзень, чыншу — ад 20 да 50 грошаў, асады — ад 60 да 120 грошаў, талок — ад адсутнасці да 12 дзён на год.

Мяркуючы па даных інвентароў маёнткаў свецкіх і духоўных феадалаў, у другой палове XVI ст. у іх звычайна пераважалі цяглыя сяляне.

Аграрная рэформа галоўным чынам у выніку ўвядзення больш поўнага і дакладнага ўліку і абкладання асноўных рэсурсаў сялянскай гаспадаркі прывяла да значнага павелічэння даходаў феадалаў за кошт далейшага ўзмацнення эксплуатацыі сялянства.

Асноўныя прынцыпы землекарыстання і абкладання сялянства, якія былі ўведзены аграрнай рэформай, вызначылі істотныя рысы аграрнага ладу Беларусі на працягу далейшых двухсот гадоў яго развіцця. Тым самым яна паклала пачатак новаму этапу эвалюцыі сістэмы феадальнай эксплуатацыі беларускага сялянства.

**Запрыгоньванне сялянства.** Ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі сяляне заставаліся асабіста вольнымі, бо ў пошуках лепшай долі мелі права пры выкананні пэўных умоў пераходзіць з маёнткаў адных феадалаў у маёнткі другіх. Узмац-

ненне феадальнай эксплуатацыі суправаджалася пашырэннем пераходаў сялян як асноўнай формы іх барацьбы супраць павелічэння павіннасцей. Права сялян на пераходы ў новых эканамічных умовах стала галоўнай перашкодай на шляху ўзмацнення эксплуатацыі. Таму па меры пашырэння сувязей феадалаў з рынкам, а разам з гэтым умацавання іх эканамічнага і палітычнага панавання, ліквідацыя права сялян на пераходы і пераўтварэнне іх у прыгонных становіцца ўсё больш актуальнай задачай унутранай палітыкі пануючага класа. Але такую яе накіраванасць можна прасачыць толькі з сярэдзіны XV ст., бо адпаведныя крыніцы за папярэдні час не дайшлі.

У Беларусі з сярэдзіны XV ст. згадваюцца чатыры асноўныя па характару асабістай залежнасці ад феадалаў катэгорыі эксплуатуемага насельніцтва: 1) «людзі пахожыя», або «вольныя»; 2) «людзі непахожыя», або «атчызныя» («отчычы»); 3) «чэлядзь нявольная» (рабы) і 4) «закупы». Аднак розныя формы асабістай залежнасці абазначаліся толькі двума тэрмінамі: «воля» і «няволя». Як сведчыць аналіз даных адпаведных судовых спраў, тэрмінам «воля» абазначалася наяўнасць у селяніна права на пераходы і вызначаўся юрыдычны статус «пахожых» людзей. Тэрмін жа «няволя» сведчыў аб адсутнасці такога права і вызначаў юрыдычны статус як нявольнай чэлядзі, так і «непахожых» людзей. Закупы знаходзіліся ў часовай няволі.

У Беларусі да канца XVI ст. шырокае распаўсюджанне меў старажытны інстытут закупніцтва, г. зн. заклад асобы ў часовую няволю да адработкі або выплаты доўгу. Калі памер адработкаў ў дагаворы не ўстанаўліваўся, то ён вызначаўся па статутах. Згодна з імі, нормы пагашэння доўгу за год працы складалі: 1529 г.— 15 грошаў мужчыне і 10 грошаў жанчыне, 1566 г.— 50 і 30, 1588 г.— 100 і 60[63].

Амаль да канца XVI ст. звычайнай прыналежнасцю панскіх двароў была нявольная чэлядзь. Паводле статутаў ВКЛ, існавала некалькі прычын пераўтварэння сялян у нявольную чэлядзь. Лічыліся нявольнымі дзеці, якія нарадзіліся ў законным шлюбе нявольных і вольных. Першапачаткова сяляне гублялі волю ў выніку самапродажу ў няволю, але ў XVI ст. такія здзелкі закон прызнаваў несапраўднымі. Да сярэдзіны XVI ст. нявольнікамі станавіліся іншы раз і крымінальныя злачынцы, якім пакаранне смерцю замянялася са згоды пацярпеўшага выдачай апошняга ў няволю, але ўжо ў Статуце 1566 г. такая прычына няволі адсутнічае[64].

На працягу ўсяго разглядаемага перыяду асноўнай прычынай няволі з'яўляўся палон. У XVI ст. сярод «паланяннікаў» пераважалі «масквічы», г. зн. ураджэнцы Рускай дзяржавы, якія былі захоплены ў час амаль бесперапынных пагранічных войнаў з канца XV ст. паміж Вялікім княствам Літоўскім і Масквой.

Да канца XVI ст. у выніку заканадаўчай адмены ўсіх прычын няволі, акрамя палону, а таксама надзялення нявольнай чэлядзі невялікімі надзеламі, асабліва ў гаспадарскіх уладаннях, большасць яе ператварылася ў прыгонных сялян-агароднікаў. Такім чынам, трансфармацыя нявольнай чэлядзі ў прыгоннае сялянства ўяўляе сабой адзіны з асноўных шляхоў фарміравання класа-саслоўя прыгоннага сялянства Беларусі. Разам з гэтым інстытут нявольнай чэлядзі служыў узорам для прыгоннага права, якое фарміравалася.

Адным з асноўных юрыдычных прынцыпаў пазбаўлення сялян волі, г. зн. права на выхад, служыла даўнасць — працяглы час пражывання сялян у адным і тым жа маёнтку. Дзеянне гэтага прынцыпу канкрэтна прасочваецца па крыніцах з сярэдзіны XV ст.

Да Статута 1529 г. тэрмін даўнасці як агульны прынцып феадальнага права складаў 50 год. Таму можна меркаваць, што такі ж тэрмін даўнасці дзейнічаў і як прынцып запрыгоньвання сялянства.

Статут 1529 г. устанавіў дзесяцігадовы тэрмін даўнасці[65]. Аднак у ім, як і ў Статуце 1566 г., няма нормы аб ператварэнні вольных людзей у «непахожых» на аснове прынцыпу дзесяцігадовай даўнасці[66]. Але, як сведчаць даныя адпаведных судовых спраў, такая норма дзейнічала. Напрыклад, у 1542 г. суддзя прызнаў прыгоннымі сялян вёскі Грыцкі Ваўкавыйскага павета, якія пражылі ў маёнтку, што быў пажалаваны С. З'ялу, больш дваццаці гадоў, але па прычыне «крыўдаў і ўціскаў» вырашылі пакінуць яго. Сваё рашэнне ён матываваў тым, што «в статуте прав земских ест описано, естли бы который чоловек за паном своим десять лет жил, таковый вже мает быти за отчыча»[67].

Упершыню прынцып дзесяцігадовай даўнасці, які шырока прымяняўся для запрыгоньвання сялянства, быў заканадаўча аформлены ў Статуце 1588 г.[68]. У артыкуле «О заседенью давности чоловека прихожого, волного» ўстанаўлівалася, што вольны («пахожы») чалавек, які пражыў у пана дзесяць год, мог пакінуць яго толькі пры ўмове выплаты выкупу за сябе і кожнага са сваіх дзяцей вялікай сумы грошай (па дзесяць коп грошай) і вяртання доўгу — «запамажэння», г. зн. дапамогі інвентаром, зернем, жывёлай, грашамі і да т. п. Выканаць такія цяжкія патрабаванні селяніну было амаль немагчыма, таму ён канчаткова рабіўся прыгонным. Да таго ж феадалы звычайна ігнаравалі дэклараванае Статутам права «засядзелых» сялян на выкуп сваёй волі. Так, у інвентары 1598 г. маёнтка Клевіца Ашменскага павета адносна такіх сялян вызначана, што «тот не мает быти вольным, гды ж вжо давность земскую заседел»[69].

У выніку прыгонніцкай палітыкі феадалаў і дзяржавы асноўная маса сялян Беларусі да сярэдзіны XVI ст. была запрыгонена. Аб завяршэнні гэтага працэсу менавіта да гэтага

часу сведчаць даныя шматлікіх інвентароў маёнткаў Беларусі другой паловы XVI ст., паводле якіх абсалютная большасць сялян лічылася прыгоннымі.

Такім чынам, да канца XVI ст. на Беларусі ў выніку працэсаў збліжэння сацыяльна-эканамічнага статусу нявольнай чэлядзі са статусам прыгоннага сялянства і запрыгоньвання сялянства ў асноўным сфарміраваўся адносна адзіны класслоўе феадальнага грамадства — эксплуатуемае і прыгоннае сялянства.

Разам з запрыгоньваннем сялянства ішло і заканадаўчае афармленне і ўмацаванне прыгоннага права, г. зн. сістэмы юрыдычных норм, якія павінны былі абараняць права ўласнасці феадалаў на прыгонных сялян. Гэты працэс быў абумоўлены не толькі актывізацыяй барацьбы сялянства супраць узмацнення эксплуатацыі і іншых форм прыгнёту, але і наяўнасцю рознагалосся сярод феадалаў у пытанні аб прыёме прыгонных сялян-уцекачоў.

Першым заканадаўчым актам Вялікага княства, які не толькі сведчыў аб наяўнасці прыгонных, але і аформіў прыгоннае права, з'яўляецца Прывілей 1447 г. Адзін з яго артыкулаў забараняў прымаць сялян-уцекачоў.

У далейшым у судовай практыцы пры пошуку і вяртанні нявольнай чэлядзі і «непахожых» людзей прымяняліся як некаторыя перапрацаваныя адпаведныя артыкулы «Рускай Праўды» аб халопах, так і новыя нормы, якія ўпершыню часткова былі абагульнены ў Статуце 1529 г. Ён прадугледжваў працэдуру пошукаў, выдачы і вяртання ўцекачоў, а таксама сістэму пакаранняў-штрафаў за розныя парушэнні прыгоннага права, якое трактуецца як зусім сфарміраваны інстытут феадальнага права. Аналагічны характар мелі і адпаведныя артыкулы статутаў 1566 і 1588 гг.[70]. Але ніякія законы не маглі спыніць уцёкі, якія пашыраліся яшчэ і з прычыны зацікаўленасці феадалаў у павелічэнні колькасці сваіх падданых як плацельшчыкаў рэнты, а тым самым і сваіх даходаў. Нягледзячы на вялікія штрафы, буйныя землеўладальнікі парушалі прыгоннае права: пераманьвалі прыгонных сялян з чужых маёнткаў у свае льготамі ў павіннасцях, прымалі ўцекачоў, працідзейнічалі іх пошуку і вяртанню, вывозілі чужых отчычаў, адмаўляліся выдаваць іх і г. д. Усё гэта істотна перашкаджала поўнай рэалізацыі рэжыму прыгоннага права ў ВКЛ.

Развіццё прывілеяў свецкіх і духоўных феадалаў суправаджалася істотным абмежаваннем праў сялянства. Поруч з адсутнасцю асабістай волі ў прыгонных сялян другім важным атрыбутам «вечнага права» феадалаў на іх было права на распараджэнне, права судзіць (юрысдыкцыя) і нават караць смерцю. Да таго ж сяляне былі поўнасцю бяспраўнымі ў адносінах да свайго пана. Гэта ў 1600 г. у Менскім гродскім судзе ясна выказаў шляхціц А. Ахрэмавіч: «...а хотя бы

се деи то трафило, яко на своей властности мешкаючи, которого подданого за непослушенство бити, карати и пограбити, за то я бых се деи никому не повинен справовати»[71].

Былі таксама значна абмежаваны ў параўнанні з прывілеянымі саслоўямі і правы сялян ва ўсіх сферах сацыяльнага жыцця. Нізкі юрыдычны статус сялянства ярка адлюстраваны ў заканадаўча аформленай сістэме штрафаў за забойства.

**Антыфеадальнае супраціўленне сялянства.**

Узмацненне ўсіх форм феадальнага прыгнёту, якое суправаджалася пагаршэннем сацыяльнага становішча сялянства, з'яўлялася галоўнай прычынай далейшага абвастрэння класавых супярэчнасцей феадальнага грамадства Беларусі. Яно выражалася ва ўзмацненні класавай барацьбы сялянства з феадаламі.

Асноўнымі напрамкамі сялянскага супраціўлення былі барацьба за лепшую забяспечанасць гаспадарак зямлёй, за абмежаванне феадальнай эксплуатацыі, за захаванне волі і змякчэнне рэжыму прыгоннага права. Некаторыя антыфеадальныя выступленні сялян у той ці іншай ступені адстойвалі ўсе гэтыя мэты адначасова.

Сяляне прымянялі розныя формы барацьбы. Найбольш распаўсюджаны былі: скаргі, разнастайныя парушэнні права ўласнасці феадалаў на зямлю, адмовы па розных прычынах і без іх выконваць устаноўленыя павіннасці, уцёкі «пахожых» сялян, нявольнай чэлядзі і «атчызных» людзей ад сваіх паноў, дзеянні разбойніцкага характару.

Многія скаргі сялян былі накіраваны супраць найбольш цяжкіх відаў павіннасцей, асабліва паншчыны, а таксама супраць празмернага абцяжарання імі.

Іншы раз рост павіннасцей сустракаў рашучую адмову сялян выконваць іх. Напрыклад, супраць павелічэння паншчыны ўдвая (з аднаго да двух дзён на тыдзень) выступілі ў 1532 г. сяляне Абалецкай воласці (Аршанскі павет), якая належала каралеўне Боне. Пагрозай масавых уцёкаў яны прадухілілі спробу ўвесці такую навіну, хаця двухдзённая паншчына ўжо была звычайнай нормай не толькі ў Віцебскім ваяводстве[72].

Значную ролю ў барацьбе сялянства Беларусі супраць узмацнення эксплуатацыі адыгрывалі пераходы і ўцёкі, таму што сялянам-навапасяленцам феадалы звычайна давалі льготы ў павіннасцях. Гэтая ж форма барацьбы выкарыстоўвалася і супраць запрыгоньвання. Адносная эфектыўнасць уцёкаў абумовіла значны размах гэтай формы антыфеадальнага супраціўлення сялянства. Аб гэтым сведчаць шматлікія судовыя справы другой паловы XVI ст., якія ўзніклі ў сувязі з іскамі адных феадалаў да другіх з прычыны вывазу прыгонных сялян, прыёму ўцекачоў і адмовы выдаць іх уласніку.

Сяляне звычайна ўцякалі сем'ямі, а часта і групамі сем'яў. Яны бралі з сабой амаль

усю сваю рухомую маёмасць: жывёлу, збожжа, інвентар і г. д. Накіроўваліся ўцекачы, як правіла, па папярэдняй дамоўленасці з будучым панам у бліжэйшыя маёнткі. Часта ім аказвалі дапамогу сяляне не толькі роднай, але і іншых вёсак, праз якія пралягаў іх шлях. Іншы раз уцёкі суправаджаліся крадзяжамі маёмасці паноў і нават іх забойствам.

У выпадках асабліва значнага павелічэння павіннасцей супраціўленне сялян вылівалася ў разнастайныя дзеянні разбойніцкага характару з прымяненнем халоднай і агнястрэльнай зброі. Менавіта такі характар мела першае на Беларусі ўзброенае выступленне ў 1561—1569 гг. сялян былой гаспадарскай вёскі Багушэвічы Свіслацкай воласці пры актыўнай падтрымцы гаспадарскіх сялян суседняй вёскі Задобрычы. Яны выступілі супраць свайго новага пана В. Рудкоўскага, які ў 1560 г. атрымаў частку вёскі ўзамен за маёнтак Сакаўшчына (Ашменскі павет) і пачаў жорстка прыгнятаць сялян[73].

Антыфеадальную барацьбу сяляне вялі ва ўмовах жорсткіх рэпрэсій — ад штрафаў да пакарання смерцю.

Такім чынам, нягледзячы на ідэю пакорлівасці, якая насаджалася феадаламі з дапамогай рэлігіі і рэпрэсій, сяляне Беларусі рознымі спосабамі вялі, але, зразумела, у цэлым без істотных поспехаў, цяжкую барацьбу з феадаламі супраць пагаршэння свайго сацыяльнага становішча, за паляпшэнне ўмоў існавання.



Герб Віцебскага ваяводства, XVI ст.

**Горад.** У XIV—XVI стст. на Беларусі ішоў інтэнсіўны працэс урбанізацыі грамадства. Калі да 1500 г. крыніцы змяшчаюць звесткі аб 83 гарадах Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага, то з 1500 па 1600 г. налічваецца 530 гарадскіх пасяленняў[74].

Беларускі горад феадальнай эпохі ў сваёй большасці ўяўляў невялікае паселішча, якое налічвала ад 1,5 да 3 тысяч жыхароў. Горад з насельніцтвам у 10 і болей тысяч складаў рэдкае выключэнне. Прыгонніцкая прыкаванасць селяніна да феадальнага маёнтка была асноўнай перашкодай на шляху росту гарадскога насельніцтва. Грамата вялікага князя літоўскага Казіміра 1444 г. вылучала ва ўсёй дзяржаве 15 «лепшых» гарадоў. У іх ліку былі названы Берасце, Віцебск, Гародня, Драгічын, Менск, Навагрaдак, Полацк, Слуцк. Важным крытэ-

Замак у Наваградку ў пачатку XVI ст. З літаграфіі В. Сташчанюка.

рыем эканамічнай ролі гарадоў быў памер падатку, які ішоў у дзяржаўную казну. Па самай высокай стаўцы ў 1551 г. ён браўся ў суме, якая перавышала 100 коп грошай, з Берасця, Віцебска, Менска, Магілёва, Полацка, Пінска. Ад 60 да 30 коп грошай плацілі Бабруйск, Камянец, Клецк, Кобрын, Мазыр, Наваградак, Слонім, Слуцк. Самую меншую стаўку (да 30 коп) уносілі 263 гарады і мястэчкі.

Сярод усіх беларускіх гарадоў таго часу сваім вядучым значэннем у гаспадарчым, палітычным і культурным жыцці грамадства вызначаўся Полацк. Аб ім самі палачане, як сведчыць грамата полацкага ваяводы 1467 г., з гонарам заяўлялі, што іх горад «места славутае», нічым не саступае сталіцы ВКЛ — Вільні, сталіцы Ордэна — Мальбарку, значнаму польскаму гораду Гданьску[75]. Праз сто гадоў, у 1563 г., па назіраннях сучаснікаў, Полацк — «славуты і вельмі багаты горад»[76]. У сярэдзіне XVI ст. Полацк налічваў да 50 тыс. жыхароў. Грамата вялікага князя літоўскага Жыгімонта ад 23 ліпеня 1511 г. вылучыла яго сярод усіх гарадоў як даўнюю сталіцу Полацкай зямлі, напэўна, маючы на ўвазе межы Полацкай Русі X—XI ст., якая складалася з беларускіх зямель паміж Дняпром, Заходняй Дзвіною і Нёманам.

Але ўсё ж асноўная частка беларускіх гарадскіх паселішчаў заставалася ў становішчы паўаграрным, паўгандлёвым з невялікай колькасцю рамеснікаў. Такім узроўнем характарызавалася жыццё ва ўмовах феадалізму бадай усіх еўрапейскіх краін.

Прычынай таго былі абмежаваныя магчымасці развіцця таварна-грашовых адносін. Разам з развіццём фальварачнай сістэмы арганізацыі сельскай гаспадаркі павялічвалася зацікаўленасць феадалаў, асабліва буйных землеўладальнікаў, у гандлёвых сувязях. Сродкам яе задавальнення стала стварэнне ў межах свайго ўладання горада ці мястэчка з рынкам, дзе ўладальнік, а таксама і яго падданыя, прадавалі прадукты сваёй гаспадаркі і набывалі для сябе неабходныя рэчы. Выдзяляюцца дзве групы гарадоў — дзяржаўныя (вялікакняжацкія) і прыватнаўласніцкія.

Горад служыў феадалу не толькі як рынак, які забяспечваў грашовы даход, але таксама як адміністрацыйна-палітычны цэнтр, абарончы апорны пункт.

Існаванне горада ў якасці самастойнага сацыяльна-эканамічнага фактару феадальнага грамадства і цэнтра развіцця культуры стала магчымым дзякуючы пераатварэнню яго ў цэнтр рамяства і гандлю. XVI ст. стала часам, калі гэты працэс праявіў сябе найбольш поўна ў параўнанні з папярэднімі і наступнымі стагоддзямі феадальнай эпохі. Дакументы гэтых часоў вылучаюць у якасці цэнтраў разнастайнай рамеснай вытворчасці Берасце, Гародню, Слуцк, Менск, Полацк, Магілёў, Пінск. У кожным з гэтых гарадоў рамяство было прадстаўлена некалькімі дзесяткамі прафесій. У меншых гарадах — Нясвіжы, Копысі, Шклове, Клецку ды іншых — рамяством

Пячатка з выявай старажытнага герба Вільні.

было занята ад некалькіх дзесяткаў майстроў да 200 і больш[77].

Умовы феадальнай эпохі спарадзілі карпарацыйную арганізацыю рамеснай вытворчасці і рамеснікаў — цэхі. Карпарацыі рамеснікаў у гарадах Беларусі існавалі ўжо ў першай палове XVI ст. пад сваімі мясцовымі назвамі: сотні ў Гародні, брацтвы ў Полацку, Менску, староствы — у Магілёве. Да канца XVI ст. усюды замацавалася назва «цэх». Манапалізацыя цэхамі рамеснай вытворчасці ў гарадах яскрава вынікае з вялікакняжацкай граматы да рамеснікаў Менска 1552 г. Яна прадпісвала гарадскім уладам глядзець за тым, каб «каждый в городе тамошним мешкаючы от сего часу всякое ремесло в цех уписавшися робил. А хто бы смел ремесло робити и его вживати не вписавшихся в цех, такое ремесло от войта и бурмистра на ратуш забирано быти мает»[78].

Крыж з Полацка з надпісам на старабеларускай мове. XVI ст.

Гарадское рамяство абслугоўвала ў гарадах Беларусі разнастайныя патрэбы ўсіх слаёў насельніцтва, г. зн. з'яўлялася таварнай вытворчасцю, фарміравала ўнутраны рынак. Вырабы з адных гарадоў прадаваліся купцамі на рынках іншых гарадоў, вывозіліся за мяжу. Цэхі садзейнічалі замацаванню ўнутранага рынку за мясцовай вытворчасцю, паколькі мелі сваю манаполію на гарадскім рынку. Аднак развіццё рамяства тармазілася перш за ўсё з-за таго, што колькасць рамеснікаў павялічвалася вельмі марудна, паколькі сельскі рамеснік, прывязаны да феадальнага маёнтка ланцугамі прыгоннай залежнасці, не меў магчымасці перасяліцца ў горад. Не мог ён разлічваць і на свабодны продаж сваіх вырабаў там, дзе існавалі цэхі. У такіх умовах усё эканамічнае жыццё горада надоўга застывала на аднолькавым узроўні.

Свайго роду «другое дыханне» прыдавала гарадскому рамяству дзейнасць скупшчыка, які стаў у разглядаемы час пасрэднікам паміж рамеснікам і гарадскім рынкам. Паступова скупшчыкі ператвараюцца ў заказчыкаў вырабаў, а пры дапамозе крэдытных аперацый поўнасцю падпарадкоўваюць сабе рамеснікаў.

Рамесная вытворчасць не заўсёды папярэднічала, але заўсёды спадарожнічала і актыўна садзейнічала развіццю гандлёвай дзейнасці гарадоў. Цэнтральнай фігурай у гандлі быў гараджанін — купец, хаця з цягам часу гандлёвае асяроддзе пашырыў сельскі гандляр. Гандлёвая частка гарадскога насельніцтва была прадстаўлена некалькімі групамі. Яе багатыя вярхі складалі купцы, якія займаліся замежным гандлем,— «госці». Беларускі «госць» садзейнічаў гандлёвым сувязям гарадоў Вялікага княства Літоўскага з Масквою, Ноўгарадам, Псковам, Цверру, Разанню. Ён праклаў шляхі на захад — да Варшавы, Познані, Гданьска, да партоў Прыбалтыкі — Рыгі, Кралеўца. Сваёй дзейнасцю купец-госць рабіў тракты-гасцінцы Беларусі, тым звяном, якое злучала паміж сабой Заходнюю Еўропу і Вялікае княства Маскоўскае.

Сярод беларускіх купцоў-гасцей вядучае месца займалі палачане і магілёўцы. Пінскія, мазырскія, тураўскія «госці» былі

Рэшткі горна XVI ст. для абпальвання кафлі. Менск.

цесна звязаны з Кіевам, Львовам, рабілі паездкі ў Ясы, гарады Венгрыі.

Шырокае развіццё атрымаў унутраны гандаль, аб чым сведчаць шляхі, што звязвалі многія гарады і мястэчкі. Мясцовы гандаль стаў спецыяльнасцю часткі купецтва. Адной з яе назваў была «прасол», часта ўжываўся тэрмін «купец». Прасол купляў тавар у адным горадзе і меў магчымасць яго прадаць у другім горадзе ці мястэчку, якое знаходзілася ў межах 10 міль (60—70 км). Сярод гэтай часткі купцоў склалася прафесійная спецыялізацыя, крыніцы называлі такія спецыяльнасці — «купец гарбарны», «купец кушнерскі», «купец шавецкі» і другія. Гандаль вёў і вандроўны гандляр — карабейнік,— якога крыніцы абазначалі тэрмінам «шот».

Купцы гандлявалі таксама ў крамах. Склалася асобная праслойка тых, для каго гэта было асноўным і пастаянным заняткам. З цягам часу гандляваць у крамах пачалі і багатыя сяляне[79].

Карпарацыйны лад гарадскога рамяства вызначыў і яго распаўсюджванне на гарады, дзе была вялікая колькасць купцоў. Крыніцы ўпамінаюць купецкія цэхі ў Магілёве, Пінску, Слуцку, Шклове, Менску.

Развіццё беларускага горада як цэнтра разнастайнага эканамічнага жыцця праходзіла ў складанай палітычнай і ваеннай абстаноўцы. Вялізарныя разбурэнні прыносілі гарадам напады

рымскіх татар у канцы — пачатку XVI ст., пагранічныя войны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай. Азначаны час характарызаваўся таксама разрастаннем феадальных усобіц, шляхецкага разбою і самавольства. Яны наносілі значную шкоду гандлёвым сувязям. Адной з форм супраціўлення гараджан феадальнаму самавольству служылі ў разглядаемы час скаргі гарадоў, а дакладней органаў іх самакіравання — рады — вялікаму князю літоўскаму. У гэтых чалабітных пералічваліся супрацьзаконныя дзеянні феадалаў, адміністрацыйных асоб, падкрэслівалася шкода, нанесеная гораду. У крыніцах змяшчаецца вялікая колькасць падобнага роду допісаў. Вярхоўная ўлада выдавала па гэтых скаргах вярдыкты, у якіх асуджала і забараняла беззаконнасць. Але ўсё заставалася па-ранейшаму. З гэтымі вялікакняжацкімі пастановамі ніхто не лічыўся, а больш рашучыя меры ўрад не прымаў. Да таго ж пратэсты гараджан былі разрозненымі, кожны горад абмяжоўваўся скаргамі на тыя дзеянні феадалаў, што наносілі ўрон толькі яму. Аб салідарным выступленні гарадоў ніхто са скаржнікаў і не думаў. Застаючыся, так сказаць, у рамках законнасці, скаргі гарадскіх улад калі-нікалі мелі поспех. У асобных выпадках пасля вялікакняжацкіх грамат самавольствы феадалаў на час спыняліся. Але ж у цэлым гарады Вялікага княства заставаліся пастаянным аб'ектам рабавання ды самавольства феадалаў.

Патрэбнасць у абароне горада і гараджан ад феадальнага самавольства, саслоўна-карпарацыйны лад феадальнага грамадства наогул спарадзілі імкненне гараджан да самакіравання, саслоўнай арганізацыі, саслоўных гарантый. Першараднае значэнне мела права на самакіраванне. Яно дазваляла ператварыць горад у імунітэтную вобласць, якая мела ўласныя органы ўлады, замацаваць прынцып уласнай свабоды гараджаніна. Толькі так гараджанін меў магчымасць абараніць сябе ад прыгонніцкай няволі, якая панавала за гарадскою сцяною. Гэтае права гарадам павінна была даць вярхоўная ўлада. Зацікаўленая ў дзейнасці гарадоў, якія давалі немалы прыбытак у дзяржаўную казну, яна пайшла ім насустрач. Ужо ў канцы XIV ст. вялікі князь літоўскі выдаваў гарадам даравальныя граматы на магдэбургскае права, па якому гараджане вызваляліся ад шэрагу феадальных павіннасцей, маглі займацца рамяством, гандлем ці земляробствам, выбіраць гарадскі орган улады — магістрат, суд, ствараць рамесныя аб'яднанні — цэхі. На працягу XIV—XVI стст. яго атрымалі Берасце, Гародня, Полацк, Менск, Драгічын, Наваградак, Магілёў, Віцебск, Пінск, Орша, Ваўкавыск ды іншыя. Магнаты — уладальнікі гарадоў — таксама даравалі гэтае права сваім гарадам і мястэчкам.

Станаўленне саслоўнай гарантыі не выключыла пранікненне феадалаў у гарадское жыццё. Яны, як адзначалася вышэй,

Фрагмент прывілея Полацку на магдэбургскае права.

укараняліся ў ім, скупляючы ўчасткі і дамы, трымаючы пад сваёй юрысдыкцыяй тых, хто жыў на гэтай частцы гарадской тэрыторыі. Жыхары так званых юрыдык не былі падсудныя гарадскім уладам — магістрату — і не плацілі падаткі і паборы, якія ішлі ў бюджэт горада. Процідзеянне юрыдыкам стала адной з галоўных рыс сацыяльнага жыцця горада. Па патрабаванню магістратаў Полацка, Менска, Пінска, другіх гарадоў вярхоўная ўлада выдавала загады, якія абавязвалі ўсіх жыхароў горада, занятых рамяством і гандлем, быць пад юрысдыкцыяй магістрата[80].

Эканамічнае развіццё горада з'явілася крыніцай маёмаснага і сацыяльнага размежавання гарадскога насельніцтва. Склаліся багатыя вярхі з купцоў і цэхавых майстроў — цэхмістраў. Абедзве групы замацаваліся ў органах самакіравання горада, важнейшым з якіх была рада (магістрат). Значную частку гарадскога насельніцтва складала бедната — «люзныя», «наймітыы», «гульцяі», «людзі работныя».

Самавольства гарадской вярхушкі, злоўжыванні ўладаю парадзілі вострае незадавальненне шырокіх колаў гараджан. Каб узмацніць кантроль над усёй дзейнасцю рады, асабліва з мэтаю абмежавання ўлады багацеяў, у асяроддзі гараджан выспела ідэя стварэння кантрольнага органа, у які выбіраліся на агульным сходзе 12 гараджан, што не ўваходзілі ў раду. Ён атрымаў назву «мужы паспалітыя», «прысяглыя», «мужы гмінныя». Яны абавязваліся сачыць за расходаваннем гарадскіх сродкаў, паступленнем і ўлікам

грашовых пабораў у гарадскую казну.

Гарадское жыццё з усімі яго цяжкасцямі, трывогамі, канфліктамі аказвала ўплыў на развіццё культуры, будзіла творчую думку, фарміравала пошук перадавых поглядаў. Горад стаў цэнтрам адукацыі, на глебе гарадскога жыцця склаліся ідэі асветы, яно стала спрыяльным асяроддзем для станаўлення выдатных мысліцеляў таго часу — Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Мялецiя Сматрыцкага і інш.

Такім чынам, вызначаныя асаблівасці аграрных адносін, рост гарадоў у XV—XVI стст. выяўляюць глыбокія зрухі ў гаспадарчым жыцці, якія ўзломвалі векавыя традыцыі феадальных асноў і сведчылі аб параўнаўча высокай ступені сацыяльна-эканамічнага развіцця тагачаснай Беларусі.

## 3. Царква на Беларусі

**Праваслаўе.** Найбольш старажытнай монатэістычнай хрысціянскай царквой у грамадска-палітычнай сістэме ВКЛ была праваслаўная. У часы Кіеўскай Русі вызначыліся асноўныя сферы яе дзейнасці і ўзнікла буйная царкоўная землеўласнасць, сфарміравалася епархіяльная структура. На чале царквы стаяў кіеўскі мітрапаліт[81] і ў царкоўна-іерархічных адносінах яна падпарадкоўвалася канстанцінопальскай патрыярхіі.

У другой палове XIII—XIVст. усходнеславянскія землі ўвайшлі ў склад некалькіх дзяржаўных фарміраванняў. Грамадска-палітычны статус праваслаўнай царквы ўсюды вызначаўся перш за ўсё дзяржаўна-палітычнымі фактарамі. Праваслаўная царква працягвала непадзельна панаваць у рускіх княствах (асноўным месцазнаходжаннем кіеўскіх мітрапалітаў з канца XIII ст. стаў Уладзімір на Клязьме, з першай паловы XIV ст.— Масква); суіснавала і вяла ідэалагічную барацьбу з літоўскім язычніцтвам у ВКЛ; была пастаўлена ў залежны стан і іграла другарадную ролю ў каталіцкай Польшчы, якая падначаліла сабе ў сярэдзіне XIV ст. Галіцкую зямлю, Заходнюю Валынь і частку Падоліі.

Становішча праваслаўнай царквы на Беларусі было непасрэдна звязана з развіццём царкоўна-рэлігійных адносін у ВКЛ і ў Кіеўскай мітраполіі. Да канца XIV ст. праваслаўная царква была практычна адзінай цэнтралізаванай царкоўнай арганізацыяй у ВКЛ. Кіруючыя колы гэтай дзяржавы былі зацікаўлены ў ідэалагічнай падтрымцы праваслаўнай царквы, якая асвячала ва ўсходнеславянскім рэгіёне (а ў пэўнай ступені і ва ўсім Вялікім княстве) сістэму дзяржаўнай улады, сацыяльныя і ўнутрыпалітычныя адносіны. Хрысціянская царква, якая назапасіла вялікі вопыт сацыяльнай і ідэалагічнай дзейнасці, непараўнальна лепей, чым язычніцкія культы, адпавядала развітому феадальнаму ладу ва

ўсходнеславянскіх землях ВКЛ.

Кіеўская мітраполія ўсяе Русі ў канцы XIII — сярэдзіне XVст. (пры фактычным падначаленні царкоўнай іерархіі свецкай уладзе розных дзяржаў) заставалася фармальна адзінай арганізацыяй. Гэта адпавядала патрэбам вышэйшага праваслаўнага духавенства, якое імкнулася ў былых тэрытарыяльных межах захаваць сваю юрысдыкцыю, крыніцы даходаў, землеўладанне. Галоўную ролю адыгрывала імкненне кіруючых колаў ВКЛ і Маскоўскай Русі выкарыстоўваць старадаўнюю царкоўную арганізацыю (асабліва «месца» кіеўскага мітрапаліта) у мэтах пашырэння свайго палітычнага ўплыву ва ўсходнеславянскіх землях.

У XIV — першай палове XVI ст. тэрыторыя Беларусі ўваходзіла ў склад Наваградскай, Полацкай (Полацкай, Віцебскай, Мсціслаўскай), Турава-Пінскай, часткова — мітрапаліцкай, Уладзіміра-Берасцейскай і Смаленскай епархій, невялікая частка паўднёва-ўсходніх зямель (з Гомелем і Чачэрскам) — у Чарнігаўскую епархію. Епархіі, якія поўнасцю або ў большай сваёй частцы знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, былі важным кампанентам мітраполіі. Іх значэнне ў іерархічнай арганізацыі царквы было абумоўлена, у прыватнасці, тым, што землі Паўднёвай Русі пазней увайшлі ў склад ВКЛ і ў дадатак многія з іх былі спустошаны і аслаблены мангола-татарскімі нашэсцямі. Заходнерускія мітрапаліты звычайна жылі ў Наваградку і Менску, радзей у Вільні і Кіеве.

Ніжэйшым структурным элементам царкоўнай арганізацыі быў прыход з прыходскай гарадской, местачковай або сельскай царквой. У крыніцах XIII—XVI стст. няма звестак аб колькасці праваслаўных цэркваў на Беларусі ці ў ВКЛ. Значную ролю ў іх тэрытарыяльным размяшчэнні igралі гістарычныя традыцыі, асаблівасці рассялення насельніцтва, колькасць пасяленняў. Большасць невялікіх цэркваў знаходзілася ў вёсках і мястэчках. У час апісання прыгранічных валасцей Полацкага павета ў 60-ых гг. XVI ст. пісцы зарэгістравалі 41 царкву[82]. У гаспадарчых рэвізіях сярэдзіны XVI ст. адзначаны 14 цэркваў у Пінску, 10 у Наваградку, па 9 у Берасці і Полацку, 7 у Віцебску, па 6 у Гародні і Слоніме, па 5 у Магілёве, Клецку, Слуцку, па 3 і менш — у Менску, Кобрыне, Пружанах, Мазыры. У сталіцы ВКЛ у першай палове XVI ст. налічвалася 17 цэркваў.

У канцы XIII — сярэдзіне XVI ст. на тэрыторыі Беларусі было заснавана каля 40 новых праваслаўных манастыроў. 17 манастыроў дзейнічала ў Полацкім павеце, 7 у Наваградскім, па 5 — у Пінскім, Аршанскім, па 4 — у Віцебскім, Менскім, па 3 — у Берасцейскім, Гарадзенскім, Мсціслаўскім, па 2 — у Ашмянскім, Браслаўскім, Мазырскім, Слонімскім. Большасць з іх былі дробнымі з невялікай колькасцю чорнага духавенства (нярэдка да 10 манахаў). Некалькі манастыроў, што знаходзіліся пад асобай апекай мітрапалітаў і феадалаў, ператвары-

ліся ў значных зямельных уласнікаў і пастаўлялі асноўныя кадры царкоўнай іерархіі: Троіцкі ў Вільні, Кіева-Пячэрскі, Благавешчанскі ў Супраслі, Троіцкі ў Слуцку, Лешчынскі каля Пінска і некаторыя інш.

Мясцовае праваслаўнае духавенства адыгрывала важную ролю ў працэсе фарміравання вышэйшай царкоўнай іерархіі. У другой палове XIII—сярэдзіне XV ст. заходнерускімі мітрапалітамі былі пераважна грэкі і балгары. З 70-ых гг. XV ст. яны выбіраліся звычайна з ураджэнцаў беларускіх зямель, выхадцаў з сямей сярэдняй і дробнай шляхты, духавенства. З 12 мітрапалітаў (з часу канчатковага абасаблення заходнерускай мітраполіі да Люблінскай уніі) 9, прынамсі, мелі родавыя маёнткі на Беларусі або да гэтага займалі вышэйшыя месцы ў беларускай царкоўнай іерархіі (3 полацкія і 2 пінска-тураўскія епіскапы). Таксама мясцовымі ўраджэнцамі з сярэдзіны XV ст. былі, як правіла, епіскапы. Згодна з царкоўнымі канонамі, іх увядзенне на кафедры рабілася мітрапалітам пры ўдзеле іншых епіскапаў.

Праваслаўная царква адыгрывала значную ролю ў грамадскім жыцці Беларусі. Яна звязвала беларускія тэрыторыі з іншымі ўсходнеславянскімі, што мела вялікае грамадска-палітычнае і культурнае значэнне. Уплыў праваслаўнага духавенства быў асабліва прыкметным у тых землях, якія захоўвалі адміністрацыйна-тэрытарыяльную аўтаномію ў Вялікім княстве Літоўскім і ў некаторых «рускіх» княствах. Полацкія епіскапы падпісвалі дагаворы, якія былі заключаны з іншымі княствамі і гарадскімі абшчынамі (Рыгай, Смаленскам і інш.), уваходзілі ў княжацкі савет, прысутнічалі на з'ездах мясцовай феадальнай знаці. Напрыклад, полацкія, віцебскія і мсціслаўскія архіепіскапы Нафанаіл і Герман Храптовіч у 1531 і 1551-ым гг. зацвердзілі пагадненне феадалаў Полацкай і Віцебскай зямель аб павіннасцях «пахожых» сялян, умовах пераходу іх да іншых уладальнікаў.

Важнай сферай грамадскай дзейнасці царквы было судаводства. У яе юрысдыкцыю ўваходзілі традыцыйныя справы, звязаныя пераважна з парушэннем царкоўных канонаў сямейна-бытавога жыцця (шлюбы не па «закону», іх скасаванне, распуста), ерасямі. Духавенства абапіралася на царкоўнае права (Намаканоны, ці Кормчыя) і свецкія княжацкія ўставы XI—XII стст. (уставы князя Яраслава, Уладзіміра). У першай чвэрці XV ст. быў складзены так званы «Скрутак Яраслава», які вызначаў юрысдыкцыю праваслаўнай царквы ў ВКЛ, яе адносіны са свецкай уладай. У 1502 г. «Скрутак Яраслава» быў пацверджаны вялікім князем Аляксандрам разам з прывілеем полацкаму архіепіскапу Луку.

Асобае месца належала царкве ў ідэалагічнай сферы. Яна асвячала і ўмацоўвала існуючыя грамадскія адносіны. Хрысціянства, як і ўсе міравыя рэлігіі, успрыняло шмат якія старадаўнія нормы агульначалавечай маралі, духоўнасці, гэтым у знач-

най ступені тлумачыцца ўплыў праваслаўнай веры ў народных масах. Вялікую ролю адыгралі царква і духавенства ў развіцці школьнай справы, пашырэнні кніжнай навукі і пісьменства ў розных колах насельніцтва.

**Каталіцызм.** У адрозненне ад праваслаўя распаўсюджанне каталіцызму на тэрыторыі Беларусі, як і ва ўсім ВКЛ, пачалося пазней і прайшло два выразна адасобленыя этапы: з сярэдзіны XIII ст. да Крэўскай уніі (1385), і з канца XIV ст.— да другой паловы XVI ст. (Апошні перыяд заканчваецца важнымі актамі дзяржаўнай і царкоўна-рэлігійнай палітыкі — Люблінскай і Берасцейскай уніямі).

Для першага этапу характэрна надзвычайная разнастайнасць сіл, якія імкнуліся насадзіць каталіцызм у ВКЛ (Лівонскі ордэн, Рыжскае архіепіскапства, Ватыкан, Польскае каралеўства). Спробы ўсталяваць каталіцкую царкву ў Літве і суседніх землях у XIII — сярэдзіне XIV ст. не былі паспяховымі. Ваенна-палітычная барацьба з крыжакамі і іх саюзнікамі, у якой сумесна ўдзельнічалі літоўскі, беларускі і іншыя народы ВКЛ, доўгі час перашкаджала распаўсюджванню і тым больш афіцыйнаму зацвярджэнню каталіцызму як дзяржаўнай рэлігіі. Улічваючы ролю праваслаўя і праваслаўнай царквы ў грамадскім жыцці ўсходнеславянскіх зямель ВКЛ, вярхоўная ўлада дазваляла пераход у праваслаўе тых членаў правячай дынастыі, якія мелі там свае дамены. Па ўмовах праекту шлюбу Ягайлы з дачкой Дзмітрыя Данскога прадугледжвалася прыняцце праваслаўя вялікім князем літоўскім[83]. Але гэты шлюб, як вядома, не адбыўся.

Каталіцызм у канцы XIV ст. быў прыняты кіруючымі коламі ВКЛ як найбольш падыходзячая ў тых умовах форма хрысціянскай рэлігіі, адэкватная сувязям з Польшчай, што ўзмацніліся пасля Крэўскай уніі. Польскае каралеўства ў той час было самай рэальнай сілай, разам з якой вярхоўная ўлада ВКЛ магла паспяхова супрацьстаяць агрэсіі Ордэна ў Прыбалтыцы. Каталіцызм быў выкарыстаны як сродак сацыяльна-класавай, палітычнай, а ў пэўнай ступені і этнічнай кансалідацыі літоўскага баярства, шляхты.

У адрозненне ад здоўжанага па часе фарміравання «заходнерускай» мітраполіі арганізацыйная структура каталіцкай царквы была створана хутка, у выніку ажыццяўлення некалькіх актаў вялікакняжацкай улады. Праз паўтара года пасля Крэўскай уніі прывілеем Ягайлы ад 17 лютага 1387 г. была заснавана Віленская каталіцкая епархія (біскупства), якая ахапіла, акрамя Аўкштайтыі і некаторых рускіх зямель, амаль усю тэрыторыю Беларусі (па пазнейшаму адміністрацыйнаму падзелу — Наваградскае, Менскае, Віцебскае, Полацкае, часткова — Троцкае і Віленскае ваяводствы). Невялікая вобласць паўднёва-заходняй Беларусі ўвайшла ў Луцкае біскупства. Апошняе ахоплівала пераважна ўкраінскія землі і было зацверджана папай Грыгорыем XI у 1375 г. У 1417 г. узнікла Жмудскае біскупства.

Усе тры каталіцкія біскупы ў XV—XVI стст. падначальваліся непасрэдна польскаму архіепіскапу.

Права закладваць каталіцкія парафіі (прыходы), забяспечваць іх нерухомай маёмасцю і даходамі належала вялікаму князю. Каля 1388 года віленскі біскуп атрымаў прывілей Ягайлы, які дазваляў таксама і яму засноўваць касцёлы ў сваёй епархіі. З канца XIV да сярэдзіны XVI ст. тут узнікла 259 парафій[84].

Пры падтрымцы вярхоўнай улады і літоўскай знаці ў хуткім часе быў створаны сацыяльна-эканамічны фундамент каталіцкай царквы — буйное землеўладанне. Латыфундыя Віленскага біскупства, як паказваюць разлікі Е. Ахманьскага, амаль на 90 % узнікае за кошт вялікакняжацкіх падараванняў. Дваццаць тры з трыццаці трох найбольш багатых парафій (з колькасцю дымоў больш за 50) былі заснаваны на тэрыторыі Беларусі. Па аб'ёму землеўладання (каля 11 500 дымоў у сярэдзіне XVI ст.) Віленскае біскупства значна пераўзыходзіла праваслаўную царкву[85]. Зразумела, што і каталіцкія біскупы Вялікага княства Літоўскага (акрамя кіеўскага) уваходзілі ў групу магнацкай арыстакратыі.

Вышэйшая іерархія каталіцкай царквы фарміравалася пераважна з прывілеяваных колаў. Некалькі віленскіх біскупаў былі князямі, многія — магнатамі, а Ян з князёў літоўскіх і Павел Гальшанскі знаходзіліся ў сваяцкіх адносінах з каралеўскай і вялікакняжацкай дынастыяй.

У канцы XIV — першай палове XVI ст. на Беларусі і ў Літве ўзніклі першыя манаскія Ордэны, непасрэдна падначаленыя рымскай курыі і незалежныя ад віленскіх або польскіх епіскапаў. Пры актыўным удзеле вярхоўнай улады і літоўскай знаці на Беларусі былі заснаваны манастыры Ордэна францысканцаў — у Лідзе (1397), Старых Ашмянах (у 90-ых гадах XIV ст.), Пінску (у першай чвэрці XV ст.), аўгустыян — у Быстрыцы (1390) і Берасці (у пачатку XV ст.), бернардзінаў — у Полацку (1498). Асаблівай падтрымкай вялікакняжацкай улады ў XV—XVI стст. карыстаўся Пінскі манастыр, які знаходзіўся ў глыбі беларускіх зямель, на Палессі. Гэта адзіны францысканскі манастыр, парафія якога па сваёй тэрыторыі перавышала некаторыя польскія епархіі. Усе манаскія Ордэны, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў канцы XIV ст.— сярэдзіне XVI ст., належалі да так званых «жабрацкіх» кляштараў, статут якіх забараняў абзаводзіцца колькі-небудзь значнай нерухомай маёмасцю. Але фактычна ўжо ў той час некаторыя з іх былі досыць буйнымі землеўласнікамі.

Царкоўная арганізацыя Вялікага княства Літоўскага адлюстроўвала, як бачым, асаблівасці яго грамадска-палітычнага развіцця, этна-рэлігійнай структуры насельніцтва, унутранай і знешняй палітыкі кіруючых колаў дзяржавы, гістарычныя традыцыі ўсходнеславянскіх народаў. Як каталіцкая, так і праваслаўная цэрквы мелі гаспадар-

скія прывілеі. Пераважная падтрымка каталіцкай царквы ў пэўных сферах яе дзейнасці з боку вярхоўнай улады (стварэнне буйной царкоўнай землеўласнасці, у значнай ступені на землях Беларусі, прадстаўніцтва біскупаў у Радзе, пратэжыраванне буйным феадалам-католікам у назначэнні на важныя дзяржаўныя «вряды»), асабліва прыкметная ў канцы XIV — пачатку XVI ст., была абумоўлена галоўным чынам доўгім і даволі моцным палітычным саюзам Вялікага княства з каталіцкай Польшчай. Усталяванне каталіцкай царквы (побач з праваслаўнай) перш за ўсё на тэрыторыі Троцкага і Віленскага ваяводстваў павінна было забяспечыць пастаянную падтрымку польскай Кароны ў ажыццяўленні асноўных знешнепалітычных мэт Вялікага княства Літоўскага, у тым ліку яго «еўрапейскай» і «ўсходняй» палітыкі. Гэтым задачам адпавядалі таксама спробы ажыццяўлення царкоўна-рэлігійнай уніі ў XV—пачатку XVI ст. Аднак кіруючыя колы Вялікага княства недаацанілі трываласць рэлігійных традыцый на Беларусі і Украіне і ў пачатку XVI ст. (пасля паўстання Глінскага) вымушаны былі ўнесці прыкметныя карэктывы ў сваю палітыку. Амаль да канца XVI ст. падобныя праекты больш не рэалізоўваліся. У самой Беларусі і ва ўсім усходнеславянскім рэгіёне Вялікага княства Літоўскага праваслаўная царква была і заставалася найбольш уплывовай царкоўнай арганізацыяй у XIII—XVI стст. Грамадска-палітычныя і ідэалагічныя, а ў пэўнай ступені і сацыяльна-эканамічныя пазіцыі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў былі часова аслаблены ў другой палове XVI ст. у выніку распаўсюджвання Рэфармацыі.

**Рэфармацыя.** У першай палове XVI ст. Рэфармацыя ахапіла большасць краін Еўропы. Па сацыяльнаму складу, палітычных і сацыяльна-эканамічных мэтах у Рэфармацыі вылучаюць тры галоўныя кірункі: бюргерска-буржуазны, які выступіў за аддзяленне царквы ад папы рымскага, рэлігійныя рэформы, прыстасаванне царкоўнай арганізацыі да буржуазных грамадскіх адносін; народная рэфармацыя, якая выявіла сацыяльныя інтарэсы сялянска-плебейскіх мас; каралеўска-княжацкая рэфармацыя, якая адпавядала інтарэсам вярхоўнай улады феадальнай знаці.

Рэфармацыя на Беларусі з'явілася састаўной часткай еўрапейскага рэфармацыйнага руху, але мела значныя своеасаблівасці. Агульнае развіццё феадальнага спосабу вытворчасці, эвалюцыя гарадоў, рамяства і гандлю, рост колькасці гарадоў і мястэчак, актывізацыя гандлёва-прадпрымальніцкай і грамадска-палітычнай дзейнасці мяшчан, абвастрэнне супярэчнасцей унутры пануючага класа, пагаршэнне сацыяльнага становішча мас былі фактарамі, якія спрыялі ўзнікненню рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVI ст.

Значны ўплыў на рэфармацыю аказала ідэалогія асноў-

ных кірункаў заходнееўрапейскага пратэстантызму, гусіцкі рух, нямецка-мараўскі анабаптызм. Ідэйныя перадумовы рэфармацыі фарміраваліся таксама пад уплывам рэнесансава-гуманістычнай думкі, рускага вальнадумства і рускай ерасі. Аб дзейнасці рускіх уцекачоў-«рэфарматараў» (Арцемія, Фамы, Феадосія Касога) на Беларусі ў другой палове XVI ст., якая аказала пэўнае ўздзеянне на фарміраванне радыкальна-рэфармацыйнай ідэалогіі — антытрынітарызму (ці арыянства) — пісаў польскі пратэстанцкі храніст А. Вянгерскі[86]. Вялікае значэнне мела літаратурная і кнігавыдавецкая дзейнасць Ф. Скарыны, які сваім перакладам Бібліі зрабіў працу, шмат у чым аналагічную той, якую выканалі заходнееўрапейскія гуманісты, пратэстанты.

Разнастайнасць сацыяльных сіл, якія падтрымалі рэфармацыйны рух ці былі ўцягнуты ў яго, абумовіла неаднолькавую ідэалагічную накіраванасць асноўных рэфармацыйных плыняў на Беларусі і Літве (кальвінізму, лютэранства, антытрынітарызму), адрозненне іх грамадска-палітычных мэт. Асноўнай формай царкоўна-рэлігійнай рэфармацыі, якая зацвердзілася на Беларусі, быў кальвінізм. Яго галоўнай сацыяльнай апорай была феадальная знаць, частка дробнай і сярэдняй шляхты. Адмоўныя адносіны многіх магнатаў Вялікага княства Літоўскага (Радзівілаў, Сапег, Хадкевічаў, Кішак і інш.) да дзяржаўнай уніі з Польшчай, імкненне феадальнай знаці захаваць свае сацыяльна-эканамічныя і палітычныя правы шляхам дэцэнтралізацыі як дзяржаўнай, так і царкоўна-рэлігійнай структуры (у дадзеным выпадку каталіцкай і праваслаўнай царквы), абумовіла іх прыхільнасць да рэфармацыі.

У рэфармацыйным руху ўвасобіліся таксама апазіцыйныя настроі некаторых слаёў мяшчанства, што выступалі супраць прывілеяванага становішча традыцыйных цэркваў, якое ўшчамляла сацыяльна-эканамічныя правы гараджан.

Пераважная колькасць сялян, як і гарадскога насельніцтва, захоўвала сваю прыхільнасць праваслаўнай рэлігійнай традыцыі, нягледзячы на спробы буйных феадалаў-пратэстантаў (Радзівілаў, Валовічаў і інш.) прыцягнуць іх да падтрымкі рэфармацыі шляхам выдання розных «устаў», якія прадпісвалі падданым абавязковае наведванне пратэстанцкай царквы пад пагрозай пакарання.

Першы на Беларусі збор у сваім замку ў Берасці залажыў «некаранаваны кароль Літвы», пратэктар рэфармацыі ў Вялікім княстве Літоўскім, віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны. З сярэдзіны XVI ст. арганізоўваюцца рэфармацыйныя абшчыны (зборы), а пры іх цэрквы, школы, «шпіталі» (прытулкі) у Нясвіжы, Клецку, Беліцы, Заслаўі, Менску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Большасць рэфармацыйных абшчын знаходзілася ў залежнасці ад феадалаў-пратэктараў, якія забяспечвалі пратэстанцкіх «міністраў» (святароў)

сродкамі на пражыццё (зямельнымі ўладаннямі ці гадавым утрыманнем).

Кальвінісцкія абшчыны склалі большасць усіх рэфармацыйных збораў. У XVI — першай палове XVII ст. на тэрыторыі Беларусі было створана каля 85 кальвінісцкіх і 7 арыянскіх збораў[87]. Многія з іх дзейнічалі кароткачасова.

Да канца XIV ст. склалася арганізацыйная і тэрытарыяльная структура кальвінісцкай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім. Уся тэрыторыя была падзелена на 6 дыстрыктаў: Віленскі (уваходзілі Вільна, Трокі, Ашмяны, Ліда, Браслаў і інш.), Завілейскі (Ількамір, Упіта, Коўна і інш.), Навааградскі (Навагрудак, Рэчыца, Ваўкавыск, Мазыр і інш.), Рускі (Менск, Полацк, Мсціслаў, Орша і інш.), Берасцейскі (Берасце, Гародня, Пінск, Слонім і інш.), Жмудскі (Кейданы і інш.)[88]. Абшчыны дыстрыктаў узначальваліся суперінтэндантамі. Арганізацыйным і кіруючым цэнтрам была віленская абшчына, якая ўзнікла каля 1557 г. Важныя ідэйныя і царкоўна-рэлігійныя праблемы выносіліся на абмеркаванне партыкулярных (па дыстрыктах) сінодаў, правінцыяльных (усіх абшчын Вялікага княства Літоўскага) і генеральных (з удзелам польскіх пратэстантаў). У дзейнасці абшчыны прымалі ўдзел таксама свецкія асобы — «сеньёры» (шляхта, гараджане).

У 60-ых гг. XVI ст. на Беларусі, у Літве і на Украіне сфарміраваўся арыянскі, ці антытрынітарскі, рух. У сацыяльных і рэлігійна-філасофскіх поглядах антытрынітарыяў выразна выявіліся як радыкальныя, так і рацыяналістычна-памяркоўныя тэндэнцыі. Найбольш выдатным прадстаўніком ў беларуска-літоўскім антытрынітарызме быў Сымон Будны, пісьменнік, асветнік, гуманіст. Дзейнасць С. Буднага звязана са зборамі ў Вільні, Клецку, Холхле, Заслаўі, Лоску. У сваёй кнізе «Пра свецкую ўладу», выдадзенай у 1583 г. у Лоску, ён знаёміў чытачоў з поглядамі прадстаўнікоў радыкальнай рэфармацыі. Найбольш цікавым і арыгінальным з'яўляецца раздзел кнігі, прысвечаны дыспуту ў Іўі ў 1568 г., дзе галоўнымі апанентамі Буднага выступілі прадстаўнікі сацыяльна-радыкальнага напрамку — Якуб з Калінаўкі і Павел з Візны.

Ідэолагі радыкальнай рэфар-

Мікалай Радзівіл Чорны.

мацыі (Пётр з Ганёндза, Марцін Чаховіц, Якуб з Калінаўкі і інш.) рэзка крытыкавалі грамадска-палітычныя і сацыяльныя асновы феадальнага грамадства: жорсткую эксплуатацыю сялянства і іншых прыгнечаных слаёў насельніцтва, «нявольніцтва». Яны выступілі супраць вярхоўнай улады, дзяржаўных устаноў, якія стаялі на варце феадальных парадкаў, выкрывалі дэспатызм феадалаў. Імкненне плебейска-сялянскіх прапаведнікаў на практыцы рэалізаваць свае лозунгі прывяло іх да канфлікту з кальвінісцкай шляхтай, выклікала моцную занепакоенасць правячых колаў. У сярэдзіне XVII ст. антытрынітарызм быў заканадаўча забаронены, а члены арыянскіх абшчын выгнаны з Рэчы Паспалітай.

Рэфармацыя спрыяла актывізацыі духоўнага жыцця, распаўсюджванню новых, гуманістычных тэндэнцый, развіццю рэнесансавай культуры. Вялікае значэнне надавалася выхаванню дзяцей у пратэстанцкім духу, таму пры шмат якіх зборах ствараліся пачатковыя школы. Існавалі школы пры зборах у Беліцы, Навагрудку, Віцебску, Арлове, Клецку, Любчы, Усялюбе, Койданаве і інш.

Каля 1585 г. ва ўладанні жмудскага старасты, арыяніна Яна Кішкі ў Іўі (Ашмянскі павет) была закладзена арыянская школа. Высокі ўзровень выкладання ў ёй забяспечвала дзейнасць яе рэктара, асветніка-гуманіста Яна Ліцынія Намыслоўскага, аўтара падручнікаў для пратэстанцкіх школ, удзельніка дыспутаў з езуітамі і кальвіністамі. У 1625 г. сінод, улічваючы ўзрастаўшыя патрэбы ў пратэстанцкай адукацыі, прыняў рашэнне заснаваць евангелічныя школы новага тыпу з даволі складанай і разнастайнай праграмай навучання ў Слуцку і Кейданах (Літва).

У 70-ых гг. XVI ст. былі зроблены спробы стварыць першую рэфармацыйную Акадэмію ў Вялікім княстве Літоўскім у Вільні, аднак процідзеянне каталіцкіх колаў перашкодзіла рэалізацыі гэтай задумы.

Практычна адначасова з фарміраваннем рэфармацыйнай царквы на Беларусі ўзнікла і рэфармацыйнае кнігадрукаванне. Першыя рэфармацыйныя друкарні былі створаны пры падтрымцы ўплывовай беларускай і літоўскай шляхты, магнатаў.

У 50—60-ых гг. XVI ст. пад апекай Мікалая Радзівіла Чорнага былі заснаваны друкарні ў Берасці, Нясвіжы, у 70-ых гг. пры ўдзеле Яна Кішкі пачала сваю дзейнасць арыянская друкарня ў Лоску. Кароткачасова дзейнічала друкарня Васіля Цяпінскага ў 1570-ых гг. У першай палове XVII ст. дзейнічала буйнейшая рэфармацыйная друкарня ў Любчы.

Большасць рэфармацыйных выданняў, якія выйшлі на Беларусі, апублікаваны на польскай, некаторыя — на беларускай і лацінскай мовах. Найбольш значнымі былі выданні перакладаў і рэдакцый Бібліі ці асобных яе кніг (Берасцейская біблія 1563 г., перакладзеная і адрэдагаваная ідэолагамі кальвінісцкай рэфармацыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы; Нясвіж-

ская біблія 1572 г.; выдадзены ў 1574 г. у Лоску Новы запавет; Евангелле Васіля Цяпінскага). Асабліва цікавымі з'яўляюцца каментарыі да гэтых выданняў выдатных дзеячаў рэфармацыйнага руху (С. Буднага, Л. Крышкоўскага, М. Кавечынскага і інш.). Але, бадай, ніхто, акрамя Цяпінскага, не выказаў так яскрава, з такой трагічнай вастрынёй, з такім патрыятычным пафасам наспеўшыя духоўныя патрэбы беларускага грамадства: неабходнасць народнай асветы, развіцця духоўных традыцый славянскага свету, процістаяння паланізацыйным тэндэнцыям, якія захапілі значную частку вышэйшых слаёў: «Бо а хто богобойный... не мусил плакати, видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами, в таком зацном руском, а злаща перед тым довстипном учоном народе езыка своего славнаго занедбане, а просто взъгарду...»[89].

Пратэстанцкімі друкарнямі выдаваліся рэлігійна-палемічныя творы, навучальная і педагагічная літаратура, панегірыкі. Рэфармацыйнае кнігадрукаванне Беларусі вылучалася высокай удзельнай вагой свецкіх арыгінальных і перакладных выданняў: выдаваліся гістарычныя творы, павучальныя трактаты, пераклады антычных аўтараў, дзеячаў сярэдневяковай культуры, эпохі Адраджэння, былі выдадзены першыя на Беларусі друкаваныя выданні юрыдычнага характару.

Рэфармацыйнае кнігадрукаванне садзейнічала распаўсюджванню рэнесансавых, гуманістычных, рацыяналістычных тэндэнцый у культуры Беларусі. Многія дзеячы рэфармацыйнага руху ўнеслі свой уклад у развіццё літаратуры і пісьменнасці Беларусі.

Рэфармацыя ў Вялікім княстве Літоўскім насіла ў асноўным шляхецка-магнацкі характар. Феадалы-пратэстанты ў час палітычнага ўздыму рэфармацыі на Беларусі і ў Літве займалі вышэйшыя дзяржаўныя пасады. У сенаце Вялікага княства Літоўскага ў 1569 г. засядалі 15 сенатараў-пратэстантаў, 2 католікі, 5 праваслаўных, у 1580 г. адпаведна — 13, 6 і 4[90].

Рэфармацыйны рух адыграў пэўную ролю ў развіцці талерантнасці ў Вялікім княстве Літоўскім. Віленскі прывілей 1563 г., пацверджаны і пашыраны на Гародзенскім сейме 1568 г., ураўнаваў у правах усю шляхту «веры хрысціянскай». У 1573 г. быў прыняты акт Варшаўскай канфедэрацыі аб свабодзе веравызнання, тэкст якога ўвайшоў у Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г.

Наступленне контррэфармацыі, якое ўзмацнілася пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 г., унутраныя супярэчнасці ў асяроддзі пануючага саслоўя, адсутнасць устойлівай сацыяльнай апоры рэфармацыі абумовілі параўнальна хуткі адыход значнай часткі мясцовых феадалаў ад яе падтрымкі і пераход іх да каталіцызму. Прычым у каталіцызм пераходзілі не толькі былыя католікі, але і прадстаўнікі праваслаўных фамілій (Валовічы, Збаражскія, Сапегі). У гэ-

тым плане можна сказаць, што рэфармацыя *спрыяла паланізацыі* беларускай шляхты.

Рэфармацыя ў цэлым адыграла пэўную ролю ў развіцці духоўнага і царкоўна-рэлігійнага жыцця ў Беларусі і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Рэфармацыйныя ідэі садзейнічалі станаўленню секулярызаваных форм культуры, пашырэнню міжнародных сувязей і кантактаў.

**Царкоўна-рэлігійная унія.** У царкоўна-рэлігійнай палітыцы рымскай курыі, вярхоўнай улады ВКЛ, Польшчы, пазней Рэчы Паспалітай пэўнае месца адводзілася планам уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Рэальны кантэкст гэтых планаў залежаў ад канкрэтна-палітычных абставін, зрухаў у палітычных і царкоўна-рэлігійных адносінах на дзяржаўным, рэгіянальным і кантынентальным узроўні. Рымская курыя ўлічвала палітычнае значэнне буйных дзяржаў Усходняй Еўропы, асабліва ў канцы XIV—XV стст., распаўсюджанасць і адносную ўстойлівасць грэка-ўсходняга праваслаўя сярод славянскага насельніцтва ВКЛ, Польшчы, Маскоўскай Русі. Падзенне палітычнага і царкоўнага прэстыжу Канстантынопаля пасля заваявання яго Асманскім султанатам у 1453 г., Саборны рух у Еўропе і крызіс самой каталіцкай царквы заахвочваў рымскую курыю да актывізацыі яе ўсходняй палітыкі, прымушаў шукаць новых палітычных саюзнікаў і змяняць формы царкоўна-рэлігійных адносін для пашырэння сваіх уплываў. Важнай часткай дыпламатычных і царкоўна-рэлігійных *разлікаў апостальскага* прастола ў XV і пачатку XVI ст. былі планы стварэння антытурэцкай кааліцыі з удзелам Польшчы, ВКЛ, Маскоўскай Русі. У другой палове XVI — пачатку XVII ст. царкоўна-рэлігійныя планы рымскай курыі набылі выразную антымаскоўскую афарбоўку.

Кіруючыя колы ВКЛ, Польшчы, каталіцкая іерархія абедзвюх дзяржаў разлічвалі з прыняццем уніі на ўмацаванне дзяржаўна-палітычных і царкоўных структур, пашырэнне сувязей з Захадам, асабліва з каталіцкімі краінамі. Пэўная частка беларуска-літоўскай і ўкраінскай свецкай і духоўнай знаці ВКЛ падтрымлівала гэтыя захады. Унія магла садзейнічаць скасаванню пэўных абмежаванняў, што тычыліся праваслаўнага насельніцтва ВКЛ, сацыяльна-палітычнай кансалідацыі прывілеяваных колаў грамадства. Супраць уніі ў XV—XVI стст. выступала значная частка праваслаўнага духавенства, бо яна звужвала тэрытарыяльна-дзяржаўныя сферы яе ўплываў і прыкметна падначальвала свецкай уладзе, а таксама большасць паспалітага «рускага» насельніцтва, якое трымалася «старыны» як сродку абароны сваіх сацыяльных інтарэсаў і свайго статуса.

Можна выдзеліць некалькі этапаў, звязаных са спробамі рэалізацыі царкоўна-рэлігійнай уніі на Беларусі, у ВКЛ і ў Польшчы. На першым этапе (ад Крэўскай уніі да 50-ых гг. XV ст.) гэтыя спробы ажыццяў-

ляліся ў межах існавання адносна адзінай мітраполіі ўсяе Русі (перыяды адасаблення «заходнерускай» часткі мітраполіі змяняліся на перыяды ўзнаўлення яе дзейнасці ў былых царкоўных межах). Ужо ў 1396 г. Ягайла разам з мітрапалітам Кіпрыянам прапаноўвалі канстанцінопальскаму патрыярху склікаць уніяцкі сабор у «рускіх» землях ВКЛ[91]. У сярэдзіне другога дзесяцігоддзя XV ст. польскі кароль і вялікі князь літоўскі пачалі перагаворы аб уніі з Канстанцкім усяленскім саборам каталіцкай царквы. У 1418 г. Канстанцу наведала пасольства, якое ўзначальваў новы заходнерускі мітрапаліт Цамблак[92]. Ідэю уніі некаторы час падтрымліваў Свідрыгайла, які абапіраўся на беларускіх, украінскіх феадалаў у сваёй барацьбе з Жыгімонтам Кейстутавічам і меў патрэбу ў нейтралізацыі Ватыкана і іншых краін, што аказвалі дапамогу каталіцкай Польшчы. Царкоўна-рэлігійная унія каталіцкай і грэка-ўсходняй царквы была абвешчана на Фларэнційскім саборы 1439 г. 22 сакавіка 1443 г. польскі кароль Уладзіслаў III выдаў прывілей у Будзе, якім ураўноўваў правы уніяцкага і каталіцкага духавенства[93]. Але Фларэнційская унія не знайшла шырокай падтрымкі мясцовага насельніцтва.

Другі этап у развіцці уніяцкай ідэі вызначыўся з канца 40-ых гг. XV ст. пасля канчатковага адасаблення заходнерускай мітраполіі і на яе аснове. У канцы XV — пачатку XVI ст. вялікі князь літоўскі Аляксандр і мітрапаліт Іосіф Булгарынавіч узнавілі спробы аднаўлення царкоўнай уніі. Гэта прывяло да абвастрэння сацыяльных, этна-рэлігійных адносін, пагаршэння палітычнага становішча, што ва ўмовах напружаных адносін з Маскоўскім вялікім княствам было небяспечным. Пасля паўстання Міхаіла Глінскага, які выкарыстоўваў незадаволенасць праваслаўнага насельніцтва царкоўна-рэлігійнымі навінамі, аж да стварэння Рэчы Паспалітай пытанне аб царкоўна-рэлігійнай уніі не ўваходзіла ў шэраг актуальных.

Новы этап — 80—90-ыя гг. XVI ст.— праходзіў пад знакам аднаўлення і падрыхтоўкі уніі. Перамога контррэфармацыі ў Еўропе, ды і самыя рэфармацыйныя рухі, аслабленне праваслаўнай царквы ў ВКЛ, Лівонская вайна і палітыка царскіх улад на часова занятай тэрыторыі Беларусі ў адносінах да праваслаўнай іерархіі (полацкі архіепіскап быў адпраўлены ў ссылку) падштурхнулі значную яе частку ў бок уніі. Прыхільнікі уніі мелі надзею атрымаць статус каталіцкага духавенства, права засядаць у Радзе, Сенаце, бо праваслаўная шляхта ўжо дабілася прывілеяў, што ўстанаўлівалі поўную прававую роўнасць усіх феадалаў Рэчы Паспалітай. Вярхоўная ўлада у сваю чаргу разлічвала, што прыняцце уніі паслабіць палітычныя і царкоўна-рэлігійныя ўплывы новай маскоўскай патрыярхіі.

Берасцейскі сабор 1596 г. абвясціў аб утварэнні уніяцкай царквы, якая прызнавала звершнасць папы рымскага і захоўвала ў асноўным абрадавасць грэ-

ка-ўсходняй царквы. Ва ўмовах афіцыйнага навязвання унія выклікала шырокі сацыяльны пратэст. Абарона праваслаўя станавілася патрыятычнай справай аховы народнасці, мовы, культуры, што асабліва адчувалася ў першыя дзесяцігоддзі пасля абвяшчэння уніі. Антыуніяцкую накіраванасць мелі Віцебскі «бунт» 1623 г., у час якога быў забіты полацкі уніяцкі архіепіскап Кунцэвіч, іншыя «хлопскія» выступленні. Інтэнсіўную прапаганду супраць уніі вялі беларускі і ўкраінскія брацтвы, якія аб'ядноўвалі пераважна гарадское насельніцтва.

Антыуніяцкія выступленні стымуляваліся афіцыйнай забаронай дзейнасці праваслаўнай царквы, перадачай яе маёнткаў і іншай уласнасці уніятам, іншымі абмежаваннямі рэлігійнай дзейнасці. Жорсткая царкоўна-рэлігійная палітыка вярхоўнай улады Рэчы Паспалітай не прывяла да пажаданых вынікаў. У 20—30-ыя гг. XVII ст. кіруючыя колы і уніяцкая іерархія пасля няўдалых спроб заключыць новую унію прызналі царкоўна-рэлігійныя правы праваслаўнай царквы, магчымасць яе легальнай дзейнасці. У сваю чаргу значныя рэформы, праведзеныя уніяцкімі мітрапалітамі — Руцкім, Сялявай, Корсакам, стварэнне Базыльянскага ордэна, падрыхтоўка вопытных кадраў, паляпшэнне школьнай адукацыі спрыялі ўзросту ўплываў уніяцкага духавенства ў больш шырокіх, чым раней, колах беларускага насельніцтва. Як ні парадаксальна, гэтаму спрыяла таксама кансерватыўная палітычная пазіцыя вярхоўнай улады Рэчы Паспалітай і магнатаў, якія адмаўлялі уніяцкай іерархіі ў праве прадстаўляць духавенства і уніяцкае насельніцтва Беларусі ў вышэйшых органах дзяржаўнай улады.

## 4. Культурнае жыццё

Па свайму тыпу, сферах, матэрыяльна-вытворчай і сацыяльнай аснове, па ролі феадальнай ідэалогіі, царквы і рэлігійнага светапогляду духоўнае жыццё Беларусі ў XIV — першай палове XVII ст. у цэлым захоўвала многія характэрныя рысы сярэдневяковай культуры. Прыродныя фізіка-геаграфічныя, кліматычныя ўмовы ўплывалі на этнаграфічныя рысы беларускага народа, формы, а ў пэўнай ступені — змест і своеасаблівасць матэрыяльнай і духоўнай культуры. У культуры Беларусі ўвасобіліся багатая глыбінная спадчына мінулых стагоддзяў, генетычная і гістарычная супольнасць славянскіх народаў. На яе развіццё ў XIV—XVI стст. значна ўплывалі дзяржаўна-палітычныя фактары, фарміраванне і эвалюцыя сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага ладу Вялікага княства Літоўскага.

Высокі агульны ўзровень развіцця ўсходнеславянскіх зямель, якія ахоплівалі большую частку тэрыторыі Вялікага княства, абсалютная перавага ўсходнеславянскага этнасу ў яго насельніцтве садзейнічалі таму, што беларускія землі адыгрывалі вя-

дучую ролю ў дзяржаўнай гаспадарцы, а культура Беларусі — у духоўным жыцці ўсяго Княства, асабліва ў дзяржаўнай мове, літаратуры, пісьменнасці, справаводстве, кнігадруку і інш.

**Матэрыяльная і духоўная культура.** Побыт, а таксама штодзённая працоўная дзейнасць сялянства, гарадскога насельніцтва вызначалі найбольш характэрныя рысы матэрыяльнай культуры. Істотныя змены адбыліся ў пануючай форме земляробства: на большай частцы тэрыторыі Беларусі папарная зерневая сістэма трохполля змяніла двухполле і іншыя архаічныя формы (лясны пералог, ворыва наездам, падсека).

З асноўных землеапрацоўчых прылад шырока выкарыстоўвалася так званая літоўская саха. Рабочыя часткі сахі нярэдка ўмацоўваліся жалезнымі нарогамі, лемяхамі. Вядомы і іншыя прылады сельскай працы — бароны, сукаваткі, матыкі, сярпы, цапы, якія выраблялíся мясцовымі рамеснікамі.

Для захавання ўраджаю і прадуктаў сельскагаспадарчых культур існавалі спецыяльныя пабудовы (клеці, свірны, гумны, еўні, піўніцы, млыны і г. д.). Побач са старадаўнімі жорнамі ў XV—XVII стст. распаўсюджваюцца ветраныя і вадзяныя млыны (нярэдка з некалькімі коламі) і млыны з коннай або валовай цягай.

Значныя змены адбыліся ў формах арганізацыі і напрамках рамеснай вытворчасці. Асабліва ў гарадскіх рамёствах, якія адрозніваліся ад сельскіх больш развітой спецыялізацыяй рамеснікаў, шырокай разнастайнасцю вырабаў, больш высокай прадукцыйнасцю працы, арыентаванай на ўзрастаючыя рыначныя патрэбы. Акрамя традыцыйных рамёстваў (ганчарнае, ткацкае, бандарнае, слясарнае, апрацоўка дрэва, касці, металаў і інш.) распаўсюджваюцца новыя віды рамеснай дзейнасці — выраб паперы, адліўка шкла ў гутах, кнігадрукарства з даволі развітой спецыялізацыяй рамеснікаў. Укараняюцца прагрэсіўныя тэхналагічныя прыёмы, выкарыстоўваюцца новыя віды сыравіны, мінеральныя і арганічныя фарбы.

У мастацкіх металаапрацоўчых вырабах шырока выкарыстоўваліся тонкая пайка, зварка, коўка, разьба, люстраная шліфоўка, паліроўка, чаканка, інкрустацыя, залачэнне, серабрэнне, гравіраванне, адліўка па васковых мадэлях. Асаблівага майстэрства, складанай вымяральнай тэхнікі, разнастайных інструментаў патрабавала ювелірная справа. Дакументальнымі крыніцамі пацвярджаецца існаванне гэтага рамяства амаль ва ўсіх буйных гарадах Беларусі (Берасці, Ваўкавыску, Гародні, Кобрыне, Магілёве, Мядзелі, Наваградку, Пінску, Полацку і інш.). Уздым ювелірнага майстэрства ўскосна сведчыць аб заможнасці даволі значных слаёў «паспалітага» насельніцтва. З другой паловы XVI ст. шырокае распаўсюджанне атрымалі паліваныя ганчарныя вырабы, побач з аднакаляровай — паліхромная, тэракотавая рэльефная кафля.

Мастацка-этнаграфічныя тра-

дыцыі беларусаў асабліва выразна выяўляліся ў рамёствах, што былі звязаны з вырабам адзення, абутку, тканін, апрацоўкай скур. На ўсёй Беларусі былі распаўсюджаны саматканыя суконныя спадніцы з клятчастай ці паласатай тканіны, яркія безрукаўкі, світкі, упрыгожаныя аўчынныя кажухі. Ва ўмовах феадальнага грамадства адзенне нярэдка вызначала сацыяльнае ці прафесійнае становішча.

Адметныя асаблівасці мела адзенне шляхты, феадальнай знаці, духавенства. Беларускія «кушняры», вядомыя сваім майстэрствам, выраблялі дарагое адзенне для вялікакняскага двара ў Вільні, «літоўскіх упамінкаў» у Арду, пасольскіх падарункаў. Кошт зыходных матэрыялаў шмат у чым вызначаў цану адзежы, абутку, посуду. Напрыклад, звычайная шуба з вавёрчынага футра ў пачатку XVI ст. каштавала прыкладна 1 капу (60) грошаў літоўскіх, сабаліная ж з аксамітам на залаце больш за 50 коп.

У XVI—XVII стст. больш разнастайнымі сталі жыллёвыя, гаспадарчыя пабудовы. У буйных гарадах Беларусі, сядзібах, фальварках паяўляюцца шматкамерныя драўляныя будынкі з крытым ганкам, камяніцы. У сельскіх сядзібах усталёўваюцца два асноўныя тыпы забудовы: вяночны (пераважна ў Паўночнай і Усходняй Беларусі) і пагонны двор. Пэўную рэгламентацыю ў сельскае будаўніцтва ўнесла аграрная рэформа сярэдзіны XVI ст. Многія вёскі і мястэчкі пры гэтым атрымалі новую планіроўку з размяшчэннем хат у цэнтры агульнай тэрыторыі ўздоўж галоўнай вуліцы.

Уздым матэрыяльнай культуры ў XV—XVI стст. і сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі дазволілі перайсці да будаўніцтва найбольш складаных працаёмкіх аб'ектаў гаспадарчага ці дзяржаўнага прызначэння: буйных млыноў, шматпралётных мастоў, рачных портаў, ёсць звесткі аб ірыгацыйных, меліярацыйных работах. У апошняй трэці XVI ст. у Беларусі ўзнікае прыватны ліцейны двор. Бронзавыя гарматы і гаўбіцы, адлітыя нясвіжскімі майстрамі, былі ўпрыгожаны цудоўнай мастацкай разьбой, выявамі міфічных істот, гербамі, раслінным арнаментам.

Пераўтварэнні закранулі і архітэктурна-планіровачную структуру гарадскіх пасяленняў. У XV—XVII стст. узніклі новыя гарады і мястэчкі з радыяльнай і веернай сеткай вуліц. Разам з за́мкамі другім пануючым архітэктурна-кампазіцыйным цэнтрам гарадскіх пасяленняў гэтага тыпу сталі гандлёвыя плошчы, дзе размяшчаліся магістрацкія будынкі, купецкія лаўкі, крамы.

Духоўная творчасць народных мас, іх пачуцці і светапогляд выяўляліся не толькі ў сферах гаспадарчай дзейнасці, але і ў развіцці фальклору, песеннага, музычнага, харэаграфічнага мастацтва. У вуснай народнай творчасці адлюстроўваліся важныя гістарычныя факты, народныя ўяўленні, сацыяльны, працоўны вопыт. Глыбіня і гуманізм ідэйнага зместу ў лепшых

фальклорных творах спалучаецца з дасканалай мастацкай формай. Значнае месца ў вуснай творчасці XIV—XVII стст. займалі традыцыйныя жанры абрадавага песеннага мастацтва: каляндарныя, сямейныя, песні (калядныя, купальскія, пятроўскія, валачобныя, жніўныя і інш.). Яны паэтызавалі прыроду, узвялічвалі працоўную дзейнасць сялян, мяшчан, услаўлялі высокія маральныя якасці. Яркай вобразнасцю, паэтычнасцю вылучаліся балады, у якіх апяваліся прыгажосць, бессмяротнасць высокіх чалавечых пачуццяў. У XIV—XVI стст. побач з лірычнымі і міфалагічнымі цykламі ў баладнай тэматыцы з'яўляюцца новыя сюжэты: татарскія і турэцкія набегі, казацкія сватанні, смерць у палоне і інш. У чарадзейных і бытавых казках і ў малых жанрах фальклору (прыказкі, выслоўі і інш.) адлюстроўваліся прыродная кемлівасць народа, пачуццё гумару, аптымізм, прагдядаліся сацыяльныя матывы.

У канцы XVI — першай палове XVII ст. у народную творчасць шырэй пранікаюць сацыяльна-класавыя матывы, у іх адлюстроўваецца гісторыя, сацыяльная і нацыянальная самасвядомасць, грамадска-палітычныя ідэалы, асабістыя чалавечыя пачуцці, спадзяванні.

Вялікай разнастайнасцю меладыйных варыянтаў пры аднаснай устойлівасці ладу меладычнай формулы вылучаліся старажытныя віды музычнага фальклору, якія былі сінкрэтычна звязаны з абрадавай паэзіяй, песеннай творчасцю. Пераважалі вакал, аднагалосныя спевы. Харавое спяванне і элементы драматургічных дзей былі ўласцівы масавым народным гульням, карагодам. Музыканты карысталіся рознымі струннымі, духавымі, ударнымі інструментамі — бубнамі, сурнамі, свірэлямі, гудкамі, свістулькамі, дудамі, трубамі і рагамі. У XV—XVI стст. з'явіліся цымбалы, скрыпіцы, флейты і інш.

Вельмі папулярнымі былі прадстаўленні скамарохаў, аб чым сведчаць, прынамсі, адпаведныя тапанімічныя назвы на тэрыторыі Беларусі і вопісы гарадскіх рамеснікаў.

У канцы XVI — пачатку XVII ст. зараджаецца тэатр у брацкіх школах, езуіцкіх калегіях, пашыраецца рэпертуар народнага лялечнага тэатра (батлейка).

Значны ўплыў на народную культуру, сінкрэтычны светапогляд простага люду аказвалі язычніцкія традыцыі, хрысціянства, царква, багаты эмпірычны вопыт.

Сацыяльна-эканамічная, палітычная, культурная эвалюцыя беларускіх зямель і ўсяго Вялікага княства Літоўскага выклікала рост грамадскай патрэбнасці ў развіцці пісьменнасці, кніжнай, архіўнай справы. У XV—XVI стст. фарміруюцца і ўзбагачаюцца буйныя царкоўна-манастырскія і прыватныя бібліятэкі. Асноўнымі цэнтрамі дакументальнай пісьменнасці становяцца шматлікія дзяржаўныя, прыватнаўласніцкія і магістрацкія канцылярыі. Найбольш важныя акты дзяржаўнай палітыкі, прывілеі і іншыя дакументы зацвяр-

джала вялікакняжацкая канцылярыя ў Вільні, якая абапіралася на свой уласны архіў, т. зв. Метрыку. Абсалютная большасць усіх актаў і грамат Вялікага княства ў XIV—XVI стст. была напісана кірыліцай, на старабеларускай, «рускай», па тагачаснай тэрміналогіі, мове. Прадстаўніцтва беларускіх пісараў у персанальным складзе вялікакняжацкай канцылярыі было пераважаючым. Старажытная традыцыя была замацавана ў статутах 1566 і 1588 гг.: «А писар земский маеть по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы». Радзей, пераважна ў дыпламатычных зносінах, выкарыстоўваліся польская, лацінская, нямецкая і некаторыя іншыя мовы.

**Рэнесансавыя тэндэнцыі. Узнікненне кнігадрукавання. Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі.** Канец XV—XVI ст. характарызуецца значнымі зрухамі амаль ва ўсіх галінах духоўнага жыцця Беларусі. На гэты перыяд прыпадае росквіт рэнесансавай культуры ў Беларусі і ва ўсім Княстве, рэзкі рост і ўзбагачэнне еўрапейскіх культурных, гандлёвых і палітычных сувязей, узнікненне кірылічнага, а пазней лацінапольскага кнігадруку, распаўсюджванне рэфармацыйных ідэй і рухаў, пэўная секулярызацыя духоўнага жыцця, пранікненне свецкіх гуманістычных і асветніцкіх павеваў у культуру, пашырэнне дзяржаўнай і нацыянальна-патрыятычнай свядомасці ў розных колах шляхты, духавенства і «паспалітага» грамадства.

Важную, сапраўды рэвалюцыйную ролю ў развіцці рэнесансавых тэндэнцый, ва ўздыме беларускай і ўсходнеславянскай культуры адыграла кнігадрукаванне, заснаванае вялікім беларускім асветнікам, гуманістам і рэфарматарам Францыскам Скарынам (каля 1490 — каля 1551-га). Творчасць і жыццёвая актыўнасць Скарыны адлюстравала характэрныя рысы найбольш прагрэсіўнай у гістарычна-культурным сэнсе часткі гарадскога насельніцтва Беларусі, мяшчан, «паспалітага люду языка рускага», якая ў сваёй дзейнасці імкнулася задаволіць не толькі саслоўныя, але і агульнанацыянальныя інтарэсы. Нарадзіўся Скарына ў купецкай сям'і ў старажытным культурным і палітычным цэнтры Беларусі — Полацку, вядомым сваімі багатымі летапіснымі і кніжнымі традыцыямі. Там, мабыць, атрымаў і першапачатковую школьную адукацыю. У 1504—1506 гг. вучыўся на філасофскім факультэце ў Кракаўскім універсітэце, дзе ў той час квітнелі гуманітарныя і матэматычна-астранамічныя навукі. У 1506 г. атрымаў вучоную ступень бакалаўра філасофіі, а пазней — доктара вызваленых навук. У 1512 г. у рэнесансавай Падуі, асноўным універсітэцкім цэнтры Венецыянскай рэспублікі, Скарына бліскуча абараніў дыплом «у лекарскіх навуках доктара». У канцы другога — пачатку трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст. займаўся інтэнсіўнай літаратурна-пісьменніцкай і выдавецкай дзейнасцю ў Празе і Вільні, працаваў сакратаром віленскага біскупа Іаана з

Францыск Скарына. Гравюра XVI ст.

князёў літоўскіх, дыпламаваным медыкам, наведваў Польшчу, Прускае герцагства, Маскоўскую Русь, у канцы жыцця быў адным з заснавальнікаў старэйшага батанічнага рэнесансавага саду ў цэнтральнай Еўропе — у Празе, на Градчанах.

Пражская друкарня Скарыны была заснавана пры падтрымцы і грашовай дапамозе заможных віленскіх і полацкіх мяшчан — Багдана Онкава, магчыма, Івана Скарыны, Якуба Бабіча, Юрыя Адзверніка і іншых асоб з гандлёва-прадпрымальніцкага і адміністрацыйнага асяроддзя. Там, абапіраючыся на царкоўнаславянскія зводы «рускай» (у тым ліку «заходнерускай») рэдакцыі, проста ці ўскосна выкарыстоўваючы таксама лацінскія, чэшскія, грэчаскія, яўрэйскія тэксты Свяшчэннага пісання, Скарына пераклаў, адрэдагаваў, пракаменціраваў, падрыхтаваў да друку і выдаў 23 кнігі Старога запавету. Услед за вельмі папулярнай ва ўсёй Еўропе царкоўнарэлігійнай і вучэбнай кнігай — Псалтыром (6 жніўня 1517-га) выйшлі кнігі Іова, Ісуса Сірахава, Прытчы Саламона; у 1518 г.— Еклесіяст, Песня песняў, Прамудрасці божыяй, Царстваў, Ісуса Навіна; у 1519 г. і каля 1519-га — кнігі Юдзіфіўдавіцы, Суддзяў, Пяцікніжжа, Руф, Эсфір, Плач Ераміі, прарока Данііла. Аб інтэнсіўнай пісьменніцка-выдавецкай дзейнасці Скарыны гаворыць тое, што ўжо да 1517 г. ён меў большасць падрыхтаваных тэкстаў. Паколькі наладжванне незвычайнага для Прагі кірылічнага кнігадрукавання ва ўсім яго комплексе (нават калі друкарня арандавалася) таксама патрабавала нямала часу, можна сцвярджаць, што ён пачаў працаваць у Празе не пазней 1515—1516 гг. Скарына намерваўся, безумоўна, выдаць усю Біблію — «абы не было уменьшено в руском языку». Пра гэта сведчаць агульны тытульны ліст, прадмовы да ўсёй Бібліі і першай часткі Царстваў, дзе пералічваюцца кнігі Бібліі і ўпамінаюцца падрыхтаваныя, але нявыдадзеныя або нязнойдзеныя кнігі: «Ездры», «Товіт» і інш. «О сих всех книгах,— пісаў Скарына,— мною на руский язык нововыложеных и о именах их ширей в предословиах от мене на кожный розделне положеных, выписано знайдеши».

Тытульны ліст «Бібліі рускай», выдадзенай Ф. Скарынам.

Кнігі Бібліі, як вядома, з'яўляюцца выдатнымі помнікамі сусветнай культуры. У сувязі з культурным уздымам, абуджэннем грамадскіх інтарэсаў да антычнай, старажытнай пісьменнасці, празнымі палітычнымі і царкоўна-рэлігійнымі тэндэнцыямі яны набылі асаблівае культурна-гістарычнае і ідэалагічнае значэнне ў рэнесансавай Еўропе. Менавіта ў той час з'яўляюцца новыя рукапісныя і друкаваныя зводы, пераклады, рэдакцыі, якія адыгралі значную ролю ў развіцці духоўнага жыцця розных краін, нацыянальна-патрыятычнай і сацыяльнай свядомасці, зараджэнні рэфармацыйных рухаў і кансалідацыі традыцыйных цэркваў і г. д. Кнігі Скарыны стаяць побач з вядомымі рэнесансавымі выданнямі Эразма Ратэрдамскага, Марціна Лютэра, Лаўрэнція Валы і маюць свае характэрныя рысы, нацыянальна-культурную адметнасць, сваё сацыяльнае прызначэнне і сваю гісторыю.

Скарына не толькі пераклаў на тагачасную беларускую літаратурную мову (царкоўнаславянскую мову беларускай рэдакцыі) кнігі Бібліі, у тым ліку тыя, што былі не вядомы ў тагачаснай беларускай і заходнерускай літаратурнай традыцыі, але ён пасвойму асэнсаваў і пракаменціраваў іх, зрабіў больш прывабнымі, даступнымі для ўсіх слаёў беларускага насельніцтва. Літаратурны талент Скарыны, яго ўзнёслыя грамадска-палітычныя, этычныя, гістарычныя, філасофскія, прававыя, рэлігійныя погляды выразна адлюстраваліся ў яго прадмовах, шматлікіх «надпісаннях» — своеасаблівых анатацыях да раздзелаў, у арыгінальнасці і дакладнасці ўсяго перакладу Бібліі. Выданні Скарыны ставілі беларускую мову на ўзровень класічных старажытных моў, на якіх, згодна з царкоўнай традыцыяй, былі напісаны арыгіналы і першасныя пераклады Бібліі. Яны садзейнічалі нарміраванню беларускай мовы і распаўсюджванню яе ў розных жанрах літаратуры і пісьменнасці, узнікненню кірылічнага кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне.

Выданні Скарыны прапаведавалі рэнесансава-гуманістычныя ідэі, жыццёвую актыўнасць на карысць грамадства, «паспольства», сумленныя маральныя

прынцыпы, яны абаранялі адзінства права і неабходнасць пісаных справядлівых законаў, вяршэнства народа ў дзяржаве, спрыялі культурнаму і канфесійнаму збліжэнню, развіццю царкоўна-рэлігійнай і палітычнай талерантнасці, павагі да духоўнай і гістарычнай спадчыны розных народаў, да свецкай навукі і адукацыі. Упершыню ў гісторыі беларускай, ды і ўсёй славянскай кірылічнай, пісьменнасці выданне кніг Бібліі мела такі выразны дэмакратычны характар, прызначалася свецкім людзям «простым» і «паспалітым».

Пражскія і віленскія выданні Скарыны («Малая падарожная кніжка», каля 1522 г., і «Апостал», 1525 г.) вылучаліся таксама сваім непаўторным рэнесансавым мастацка-паліграфічным абліччам. Невялікія зручныя выданні (у чацвёртую ці восьмую частку аркуша) друкаваліся на таннай паперы асобнымі выпускамі, што рабіла іх больш даступнымі для насельніцтва. Уся ўнутраная архітэктоніка выданняў (тытульныя лісты, раздзелы, калонтытулы, калафоны і інш.) арганічна звязана з упрыгожваннямі, шматлікімі фігурнымі ілюстрацыямі, арыгінальнымі шрыфтамі. Рэнесансавы партрэт першадрукара, змешчаны ў дзвюх кнігах Бібліі — Ісус Сірахаў і Царстваў, найбольш выдатная гравюра па майстэрству, малюнку і кампазіцыі, пераканаўча даказвае, што ён поўнасцю разумеў гістарычнае і нацыянальна-культурнае прызначэнне кнігадрукавання і сваю ролю ў яго ўзнікненні на Беларусі.

Старонкі Бібліі, друкаванай Ф. Скарынам.

У 50—60-ых гг. XVI ст. былі заснаваны новыя друкарні ў Берасці, Нясвіжы, Заблудаве, Вільні. Кніжны фонд Беларусі рэзка ўзрос за некалькі дзесяцігоддзяў існавання беларускага кірылічнага і лаціна-польскага кнігадруку.

Традыцыі рэнесансава-гуманістычнага асветніцтва развіваў выдатны дзеяч славянскай культуры, прадстаўнік навалацінскай літаратуры Мікола Гусоўскі (1470-ы? — каля 1533-га г.). Пад апекай мецэната Э. Вітэлія, плоцкага біскупа, Гусоўскі наведваў Італію, іншыя еўрапейскія краіны, працаваў у канцылярыях Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. У сваім знакамітым творы «Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго» (напісана ў Рыме, выдадзе-

на ў Кракаўскай друкарні Еранімa Віетара ў 1523 г.) паэт апявае веліч і хараство роднай прыроды, заклікае да ўмацавання дзяржавы, адзінства еўрапейскіх народаў перад пагрозай Атаманскай Порты. З гуманістычных, маральна-этычных, патрыятычных пазіцый ён асуджае несправядлівыя войны, міжусобіцы, апісвае цяжкі лёс, паўсядзённую працу простых людзей, якія ўзорваюць зямлю, палююць, абараняюць Айчыну.

Рацыяналістычныя і гуманістычна-асветніцкія традыцыі Скарыны працягваў і развіваў Сымон Будны (каля 1530—1593 гг.), адзін з заснавальнікаў і супрацоўнікаў Нясвіжскай друкарні, аўтар першых друкаваных на беларускай мове вучэбна-канфесійных і палемічных твораў — «Катэхізіса», 1562 г., «Аб апраўданні грэшнага чалавека перад богам», 1562 г., і інш.

У больш позніх польскамоўных і лацінамоўных выданнях — «Пра свецкую ўладу» (1583), «Новы запавет» (1574), у вуснай палеміцы з іншымі дзеячамі рэфармацыі на царкоўных сінодах ён рэзка крытыкаваў кананічную хрысціянскую дагматыку, царкоўныя традыцыі, крайнія радыкальныя сацыяльныя погляды польскіх і літоўска-беларускіх антытрынітарыяў. Будны станоўча ацэньваў культуру еўрапейскага Адраджэння, выступаў за развіццё пісьменнасці і кнігадрукавання на роднай мове, культурныя сувязі, адмоўна ставіўся да цэнзуры.

Блізкім паплечнікам Буднага па сацыяльных і рэлігійных поглядах быў небагаты беларускі шляхціц, гуманіст, кнігавыдавец, пісьменнік і перакладчык Васіль Мікалаевіч Цяпінскі (г. нарадж. невядомы — каля 1599). Напэўна ў сваім родавым маёнтку Цяпіна на Полаччыне ён заснаваў друкарню і выдаў на царкоўнаславянскай і беларускай мовах Евангелле (1570-ыя гг.). Прадмова да кнігі — адзін з лепшых узораў беларускай гуманістычна-асветніцкай патрыятычнай публіцыстыкі. Цяпінскі заклікаў свецкіх паноў і князёў, духоўную іерархію да актыўнай духоўнай і матэрыяльнай падтрымкі беларускай культуры, мовы, звычаяў і традыцый, да развіцця школьнай асветы, маральна-этычнага ўдасканалення.

У XV—XVI стст. узрасла ўдзельная вага свецкай літаратуры і пераходных яе жанраў: гістарычнай, рэлігійна-белетрыстычнай, маральна-павучальнай. Распаўсюджанне атрымалі перакладныя творы паўднёваславянскіх, заходнееўрапейскіх, польскіх аўтараў, у тым ліку перапрацаваныя беларускімі кніжнікамі: «Жыццё Аляксея, чалавека божага», «Аповесць аб трох каралях-вешчунах», «Александрыя» і іншыя[94].

Грамадска-палітычныя канцэпцыі розных колаў пануючых саслоўяў Вялікага княства Літоўскага, тагачасныя этычныя, эстэтычныя ўяўленні, пачаткі навуковых ведаў выразна адлюстраваліся ў помніках беларускага летапісання XIV—XVI стст. У другой палове XVI ст. летапісы як сінтэтычная форма духоўнай культуры сталі паволі адміраць, саступаючы месца іншым гістарычным жанрам.

Адным з заснавальнікаў новай гісторыка-хранікальнай літаратуры быў Мацей Стрыйкоўскі (1547 — каля 1590), аўтар празаічных і вершаваных твораў «Ганец цноты...» (1574), «Пра вольнасць Кароны польскай і Вялікага княства Літоўскага» (1575), «Пра пачатак, паходжанне, мужнасць, рыцарскія і грамадскія справы слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага» (1575—1578). Найбольш значны твор Стрыйкоўскага — «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582), напісаны з пазіцый агульнадзяржаўнага патрыятызму. Ён абапіраўся на шматлікія гістарычныя крыніцы, у тым ліку старажытнарускія і беларускія летапісы, уключаючы і «Хроніку Быхаўца». У творах Стрыйкоўскага і яго пераемніка Гваніні адлюстраваліся як сярэднявечныя, так і новыя рэнесансавыя павевы, значнае месца ў іх творчасці займае гераізіраваная гісторыя Кіеўскай Русі, Беларусі, Літвы, усходнеславянскіх народаў, барацьба за незалежнасць дзяржавы.

У рэлігійнай і свецкай арыгінальнай літаратуры канца XVI—XVII ст. першараднае значэнне набываюць новыя пераклады і тлумачэнні Свяшчэннага пісання на беларускую і царкоўнаславянскую мову, у тым ліку Еўеўскага евангелля 1616 г., мемуары, палітычная, гісторыка-летапісныя палітычныя творы, сеймавыя дыярыўшы, свецкая паэзія. Сярод іх вылучаюцца Баркалабаўскі летапіс, Дзённік Фёдара Еўлашоўскага, творы Стэфана і Лаўрэнція Зізаніяў, Мялеція Сматрыцкага, Афанасія Філіповіча, Фамы Іеўлевіча і інш. Каларытнымі помнікамі палітычнай сатыры з'яўляюцца «Прамова Мялешкі» і «Ліст да Абуховіча». У рэлігійна-палемічную пісьменнасць, асабліва ў творы уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея, пранікаюць сатырычна-фальклорныя матывы, жывая народная гаворка.

Апошнія гады XVI — першыя дзесяцігоддзі XVII ст. адзначаны асаблівым уздымам літаратурна-рэлігійнай палемікі каталіцка-уніяцкіх і праваслаўных ідэолагаў і пісьменнікаў. Менавіта ў гэты перыяд у палемічнай літаратуры былі пастаўлены вострыя пытанні, якія тычыліся Берасцейскай уніі, канфесійнай арыентацыі, рэлігійнай дагматыкі, знешняй і ўнутранай палітыкі. У творах царкоўна-рэлігійных ідэолагаў і ананімных гісторыка-палітычных выданнях высвятляюцца розныя грамадска-палітычныя канцэпцыі, падтрымліваюцца ідэі дзяржаўнага і нацыянальнага суверэнітэту, вяршавенства законаў, роўнасці ўсіх народаў Рэчы Паспалітай, царкоўнай талерантнасці.

Развіццё феадальных грамадскіх адносін, запрыгоньванне сялянства абумовілі фарміраванне агульнадзяржаўнага заканадаўства. Феадальнае права Вялікага княства Літоўскага складвалася на аснове старажытнарускага, звычайнага і пісанага права беларускіх, украінскіх, літоўскіх, некаторых рускіх зямель.

У XV—XVI стст. узрос уплыў польскіх і заходнееўрапейскіх прававых традыцый. Заканадаўства адлюстроўвала ўзровень са-

цыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы, працэс кансалідацыі феадалаў незалежна ад іх этнічнага паходжання і канфесійнай прыналежнасці, уздзеянне сацыяльных адносін на станаўленне норм права.

Ідэалогія і культура Рэнесанса, агульнаеўрапейскія прававыя тэндэнцыі прыкметна адбіліся ў грамадска-палітычнай, прававой думцы Вялікага княства Літоўскага, асабліва ва ўсіх яго статутах — 1529, 1566, 1588 гг. Статуты былі прадуктам высокай прававой культуры, адлюстроўвалі такія прагрэсіўныя ідэі, як суверэннасць дзяржавы, адзінства, усеагульнасць права і інш. У Статут 1588 г. былі ўключаны пастановы Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г., якая прызнала поўную прававую роўнасць усёй хрысціянскай шляхты. Дарэчы, гэта быў першы друкаваны Статут, неаднаразова выдадзены пры падтрымцы канцлера Льва Сапегі беларускімі кнігадрукоўцамі Мамонічамі ў канцы XVI — пачатку XVII ст. у Вільні.

Даўнія гістарычныя традыцыі мела манументальная архітэктура Беларусі. У XIV—XVI стст. былі створаны выдатныя помнікі народнага дойлідства, замкавыя і палацавыя ансамблі. Мураваныя і драўляныя замкі (яны пераважалі ва ўсходніх землях Беларусі) разам з абарончымі збудаваннямі Літвы і Украіны стваралі абарончую сістэму агульнадзяржаўнага значэння. Нягледзячы на кананізаваныя формы царкоўнай архітэктуры, у XV—XVI стст. былі ўзведзены своеасаблівыя мураваныя культавыя пабудовы: Сынковіцкая, Маламажэйкаўская цэрквы абарончага тыпу, Троіцкі касцёл у Ішкальдзі. Стылявыя рысы гатычнай і рэнесансавай архітэктуры ў спалучэнні з мясцовымі асаблівасцямі выявіліся ў палацава-замкавых комплексах у Міры, Геранёнах, Смалянах.

У беларускай архітэктуры XVII—XVIII стст. пераважалі мясцовыя рысы ў спалучэнні са стылявымі плынямі барока і класіцызму. У гарадскім будаўніцтве выкарыстоўваліся агульныя або частковыя рэгулярныя планы, мяняліся абаронча-крапасныя збудаванні, больш разнастайнымі па сваіх функцыях і кампазіцыйна-мастацкіх асаблівасцях сталі тыпы гарадскога жылля, адміністрацыйных, прамысловых будынкаў. Да лепшых узораў манументальнай архітэктуры XVII—XVIII стст. належаць бернардзінскі і езуіцкі касцёлы ў Гародні, ратуша і Багаяўленскі сабор у Магілёве, касцел, пабудаваны Карлам Бароміўшам у Пінску, і інш.[95]. Пышныя магнацкія рэзідэнцыі ўзводзяцца на адкрытым месцы, аздабляюцца садамі і паркамі. У дэкаратыўным афармленні палацаў, культавых, замкавых будынкаў ужываліся архітэктурная лепка, разьба па дрэву і камню, насценны роспіс. Так, на драўляных сценах вядомай куцеінскай Багаяўленскай царквы былі напісаны шматфігурныя кампазіцыі на біблейскія і евангельскія сюжэты[96]. Цікавыя насценныя роспісы ў сярэдзіне XVII ст. упрыгожвалі Багаяўленскі сабор і Пакроўскую царкву ў Магілёве, Свята-Духаўскую

царкву Тупічэўскага манастыра ў Мсціславе. У кампазіцыях і стылістычных прыкметах, у тыпажах дзеючых асоб адчуваецца ўплыў народнага мастацтва[97].

У выяўленчым мастацтве важную ролю адыгрывалі іканапіс, фрэскі, кніжная мініяцюра, гравюра, арнамент, драўляная разьбяная скульптура.

Вядучым жанрам свецкага выяўленчага мастацтва ў XVII—XVIII стст. становіцца партрэтны жывапіс, які ўпрыгожвае мастацкія зборы беларускай і літоўскай арыстакратыі. Адна з падобных буйнейшых калекцый некалькі стагоддзяў знаходзілася ў Нясвіжскім замку Радзівілаў.

Кніжная графіка развівалася пераважна ў цэнтрах беларускага кнігадрукавання (Вільні, Куцейне, Магілёве, Нясвіжы, Любчы, Супраслі), у XVII ст. пашыраецца кніжная гравюра на медзі (Спірыдон Собаль, Ляонцій Тарасевіч і інш.).

Прыкметных поспехаў у галіне свецкай графікі дасягнуў Тамаш Макоўскі — аўтар адной з першых у Еўропе дакладных карт Вялікага княства Літоўскага. У 1613 г. карта Тамаша Макоўскага была награвіравана і выдадзена ў Галандыі. На высокім прафесійным узроўні выконваліся алтарныя скульптуры, мемарыяльныя надмагіллі знатных асоб, высокіхураднікаў.

Развівалася музычнае мастацтва. У XVI ст. паявіліся першыя свецкія хоры, капэлы. У літургічнай практыцы каталіцкай царквы шырока выкарыстоўваліся духавыя музычныя інструменты — арганы і флейты, трубы. Апекай магнатаў Беларусі карыстаюцца вядомыя кампазітары польскага Рэнесанса — Вацлаў з Шаматул, Цыпрыян Базілік. Берасцейскія і нясвіжскія друкарні ў 50—60-ых гг. XVI ст. выдаюць першыя друкаваныя зборнікі песень, заснаваныя на лінейнай сістэме нотапісання.

У XVI — першай палове XVII ст. на тэрыторыі Беларусі ўсталёўваецца складаная канфесійная сістэма школьнай адукацыі. Побач з царкоўнымі і манастырскімі школамі працуюць прыватныя педагогі, якія абслугоўваюць замóжнае насельніцтва. Універсітэцкая адукацыя «ліцьвінаў» і «русінаў» за мяжой, падарожжы ў Польшчу, Расію, заходнееўрапейскія краіны садзейнічалі ўзаемаразуменню народаў, пашырэнню іх грамадска-палітычнага далягляду, успрыманню і пераапрацоўцы гуманістычных, асветніцкіх, рэнесансавых павеваў у духоўнай культуры Беларусі.

У XVII ст. прыкметна ўзраслі культурныя сувязі Беларусі з Літвой, Польшчай, Украінай. Масавая міграцыя, вываз беларускага насельніцтва ў Расію ў сярэдзіне XVII ст. незалежна ад іх форм аказалі значны ўплыў на развіццё некаторых сфер матэрыяльнай і духоўнай культуры: вытворчасць паліхромнай паліванай керамікі, культавае і свецкае дойлідства, іканапіс, жывапіс, ювелірную справу, лекарскае рамяство і інш. Вялікі ўклад у развіццё рускай культуры, асветніцтва, школьнай і кніжнай справы, паэзіі, кнігадруку ўнёс Сімяон Полацкі

Тытульны ліст кнігі Сімяона Полацкага «Ветроград Многоцветный».

(1629—1680) — адзін з заснавальнікаў беларускай і рускай панігірычнай і алегарычнай паэзіі. У сваіх вершах беларускага і маскоўскага перыядаў ён апяваў беларускія землі, асабліва сваю радзімую Полаччыну, усхваляў годнасць, высокае прызначэнне чалавека, знешнюю і ўнутраную палітыку цара Аляксея Міхайлавіча, падтрымліваў прагрэсіўную праграму пашырэння свецкай і царкоўна-рэлігійнай асветы. Сімяон Полацкі

быў прыхільнікам зближэння «грэка-праваслаўнай» і «лацінскай» духоўных традыцый, абвяргаў стараверства, ерасі, палемізаваў з кансерватыўнымі прадстаўнікамі царкоўнай іерархіі. Некаторыя свае творы апублікаваў у заснаванай ім у Маскве «Верхняй» друкарні.

**Брацтвы.** У канцы XVI — сярэдзіне XVII ст. у сувязі з абвастрэннем сацыяльна-класавых і нацыянальна-рэлігійных супярэчнасцей, працэсам дэнацыяналізацыі значнай часткі феадальнай знаці і падтрымкай Берасцейскай уніі з боку некаторых прадстаўнікоў духоўнай іерархіі важную ролю ў развіцці беларускай і ўкраінскай культуры, царкоўна-рэлігійным адраджэнні сталі адыгрываць брацтвы — спецыфічныя рэлігійна-нацыянальныя арганізацыі галоўным чынам праваслаўнага мяшчанскага насельніцтва. Буйнейшыя беларускія брацтвы ўзніклі ў гаспадарскіх і некаторых прыватнаўласніцкіх гарадах — Вільні, Магілёве, Берасці, Менску, Пінску, Полацку, Слуцку і інш. Большасць братчыкаў складаў просты люд, але кіравалі брацтвамі заможныя мяшчане, звычайна члены магістрата.

Брацтвы актыўна ўдзельнічалі ў рэфарміраванні і дэмакратызацыі школьнай асветы, стварэнні вучэбных падручнікаў (буквароў, граматык, лексісаў), умацаванні сацыяльнай, матэрыяльнай і духоўнай асновы беларускага кнігадрукавання. Яны аказалі прыкметны ўплыў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларускага і ўкраінскага народаў, садзейнічалі пераадольванню лакальнай замкнутасці, пэўнай культурнай адасобленасці беларускіх зямель, фарміраванню мясцовых мастацкіх школ, пашырэнню культурных сувязей як з Расіяй, Украінай, так і з «лацінскімі нацыямі». Сацыяльная неаднароднасць брацтваў, падтрымка каталіцкай і уніяцкай цэркваў вярхоўнай уладай Рэчы Паспалітай, абвастрэнне сацыяльна-класавых супярэчнасцяў, паўстанні і войны сярэдзіны XVII ст. падарвалі грамадска-палітычныя пазіцыі брацтваў.

Канец XV—XVI ст.— найбольш яркі, складаны і самабытны перыяд у развіцці беларускай культуры эпохі феадалізму, час яе імклівага рознабаковага ўздыму і ўзбагачэння, Адраджэння і Рэфармацыі, сінтэзу рэнесансава-гуманістычных традыцый і сярэдневяковых павеваў у духоўным жыцці, інтэнсіўнага пашырэння ўнутраных і знешніх культурных сувязей, узросту нацыянальна-патрыятычнай і палітычнай свядомасці. У гэты час зараджаецца шматмоўнае кнігадрукаванне, узнікаюць новыя культурныя цэнтры, складаюцца выдатныя помнікі грамадска-палітычнай і прававой думкі, культура Беларусі актыўна ўключаецца ў еўрапейскі культурна-гістарычны працэс, а яе знакамітыя дзеячы — Францыск Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і іншыя — закладваюць падваліны будучага адзінства заходнееўрапейскай і ўсходнееўрапейскай, у т. л. беларускай, культуры.

# 5. Фарміраванне беларускай народнасці

Працэс фарміравання беларускай народнасці, як і ўсякага этнасу, развіваўся ва ўзаемадзеянні з геаграфічна-кліматычнымі, сацыяльнымі і непасрэдна этнічнымі фактарамі.

Пад іх уздзеяннем пашыраліся, узмацняліся і эвалюцыянавалі тэрытарыяльныя, сацыяльна-эканамічныя, культурныя сувязі, складвалася тыповая для развітога феадалізму саслоўна-класавая арганізацыя. У якасці важных кампанентаў культуры сярэднявечнага этнасу (побач з іншымі яе часткамі) неабходна адзначыць мову, веравызнанне, этнічную свядомасць і самасвядомасць, пэўныя характэрныя нормы паводзін.

**Тэрыторыя.** Узнікненне беларускай народнасці і яе развіццё былі перш за ўсё звязаны з тэрытарыяльным адзінствам рассялення. Прыродныя ўмовы Беларусі былі ў цэлым досыць спрыяльныя для жыцця і дзейнасці насельніцтва. Умерана кантынентальны клімат з адносна халоднай зімой і доўгім летам, дастатковая колькасць ападкаў (асабліва ў паўночнай і цэнтральнай частцы), перавага ў дзярнова-падзолістых глеб — усё гэта дазваляла развівацца земляробству і іншым важным галінам сельскай гаспадаркі са старажытных часоў.

Амаль усю тэрыторыю Беларусі займалі лясы, асваенне якіх пашырала абжытую тэрыторыю. Гэтая акалічнасць разам з паляпшэннем агульнай культуры земляробства (распаўсюджанне трохполля, ужыванне арганічных угнаенняў) стварала неабходныя ўмовы для ўзрастання колькасці насельніцтва, прыцягвання «новапрыходцаў», развіцця ўсіх галін сельскай гаспадаркі, промыслаў і рамёстваў. Геаграфічнае асяроддзе ўплывала на рассяленне насельніцтва, характар і напрамкі яго вытворчай дзейнасці, шмат у чым вызначала спецыфічныя рысы жылля, адзення, харчавання.

Пры вызначэнні знешніх межаў тэрыторыі, на якой фарміравалася беларуская народнасць, трэба ўлічваць і змены дзяржаўных граніц Вялікага княства Літоўскага, што ўплывала на этнічныя і міжэтнічныя адносіны, каланізацыю прыгранічных зямель і гістарычны рэгіён рассялення некаторых усходнеславянскіх племянных супольнасцей: крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў.

У перыяд феадальнай дробнасці больш прыкметную ролю сталі адыгрываць тэрытарыяльныя сувязі, што складваліся ў палітычных граніцах Полацкай, Тураўскай і некаторых іншых зямель. Палітычныя межы гэтых зямель у асноўным супадалі з арэалам рассялення памянутых племянных супольнасцей. Паўднёвая мяжа рассялення дрыгавічоў ахоплівала правабярэжжа Прыпяці па сярэдняму і часткова ніжняму цячэнню з уключэннем ніжняга цячэння прытокаў Стыры, Гарыні, Убар-

ці, заходняя — даходзіла да левабярэжных прытокаў Заходняга Буга[98].

Тэрыторыя, на якой фарміравалася беларуская народнасць, часткова ўключала землі, некалі абжытыя радзімічамі. Усходняя мяжа радзімічаў даходзіла да лініі — Рослаўль, Хоцімск, Клетня, Дзясна, Старадуб, Трубчэўск. У перыяд максімальнага пашырэння Вялікага княства Літоўскага ў яго ўваходзілі Бранскае княства (з сярэдзіны XIV ст.), Смаленская зямля (з пачатку XV ст.). Насельніцтва гэтых зямель было часова ўцягнута ў этнічныя працэсы, што адбываліся на тэрыторыі Вялікага княства.

Такім жа чынам заходнерускае насельніцтва, якое пражывала на былой тэрыторыі крывічоў, было ўцягнута ў два сумежныя працэсы фарміравання беларускай і рускай народнасцей. Этнографы мяркуюць, што ў склад беларускай народнасці ўвайшлі нашчадкі «смаленскай, або смаленска-полацкай, групы крывічоў, за выключэннем яе крайняй паўночна-ўсходняй часткі, якая прымыкала да Верхняй Волгі»[99]. Паўночныя межы рассялення палачан ахоплівалі правабярэжжа Заходняй Дзвіны (у сучасных межах Беларусі), а смаленскіх крывічоў — верхняе цячэнне Дняпра.

Этнічная мяжа паміж балцкім і славянскім насельніцтвам, якая ўсталявалася да XIII ст. прыкладна па лініі Мерач — Трабы (на поўдзень ад Ашмян) — воз. Свір (наваколле Браслава), у наступныя тры стагоддзі амаль не змянілася[100].

На фарміраванне этнічнай тэрыторыі беларускай народнасці ўплывалі і каланізацыйныя працэсы, што ў пэўнай ступені развіваліся стыхійна, а з часам усё больш актыўна выкарыстоўваліся дзяржаўнай адміністрацыяй, буйнымі феадаламі.

Працэс засялення з удзелам беларускага, украінскага, польскага, літоўскага насельніцтва адбываўся ў розных рэгіёнах Занёмання і Падляшша. Аб гэтым гавораць тапонімы «Савічы Рускія», «Кулешы Літва», «Русь», «Ляхі» і інш. Дагавор з Ордэнам 1379 г. прадугледжваў правы жыхароў Гародзеншчыны паляваць, лавіць рыбу, займацца іншымі промысламі ў Занёманскай пушчы.

У XV — першай палове XVI ст., пасля падзелаў Гародзенскай, Мерыцкай, Пераломскай і іншых пушчаў паміж гаспадарскімі дварамі, а таксама ўладаннямі беларускіх і літоўскіх феадалаў, паскорыўся працэс засялення Сейненскай, Аўгустоўскай, Сувальскай зямель з удзелам галоўным чынам беларускага і літоўскага этнасу.

Каланізацыйныя працэсы рознай інтэнсіўнасці развіваліся таксама і ў іншых прыгранічных рэгіёнах, у тым ліку ў раёне Прыпяці і ў некаторых землях паўночна-заходняй Беларусі.

У сярэдзіне XV ст. этнічныя беларускія землі прыкладна ў тры разы перавышалі літоўскія. Суадносіны агульнай тэрыторыі Аукштайціі, Жэмайціі і ўсходнеславянскіх зямель Вялікага княства на працягу XIV—XVI стст. паўстаюць у такой прапорцыі: 1 : 2,5 (у сярэдзіне

XIV ст.), 1 : 12 (у перыяд максімальнага пашырэння дзяржаўных межаў), 1 : 7 (у сярэдзіне XVI ст.)[101].

Унутранае асваенне зямель Беларусі, што працякала пераважна пад уздзеяннем сацыяльна-эканамічных фактараў, мела больш важнае значэнне, чым знешнія адносна невялікія этнатэрытарыяльныя змены. Яно ажыццяўлялася шляхам засялення лясных і цяжкадаступных месц, стварэння новых вёсак, мястэчак, заснавання гарадоў, пракладання шляхоў і інш.

Многія рэгіёны Беларусі захоўвалі свае этнаграфічныя асаблівасці, якія адлюстроўваліся ў характары рассялення, знешнім выглядзе пасяленняў, жылля, некаторых рысах гаспадарча-бытавога ўкладу. Невялікія пасяленні, прыстасаваныя да ўмоў азёрна-моравага рэльефу, былі характэрнымі для Полацкай і Віцебскай зямель. Шматдворныя сёлы былі распаўсюджаны на поўдні Беларусі. Найбольш заселенай яе часткай было ўзвышанае берасцейскае Палессе. Далей на ўсход, асабліва за Пцічу і Убарцю, прасціраліся вялікія малазаселеныя прасторы лясоў і багнаў. Высокай шчыльнасцю рассялення адрозніваліся заходнія паветы (Ваўкавыскі, Гародзенскі, Лідскі, Ашмянскі). У магілёўскім Падняпроўі, як і ва ўсёй сярэдняй паласе, пераважаў скучана-гнездавы тып рассялення.

Поліэтнічны характар Вялікага княства Літоўскага, адрозненні ў тэрытарыяльна-адміністрацыйным, прававым становішчы зямель Беларусі, неаднолькавы ўзровень асваення, заселенасці розных рэгіёнаў і іншыя фактары абумовілі адначасовае развіццё match рознатыпных этнааб'яднальных працэсаў. З аднаго боку, арэалам іх праяўлення былі сельскія абшчыны, сельскія і гарадскія пасяленні, воласці, паветы, землі. Гэта знайшло адлюстраванне ў распаўсюджанні адпаведных этнанімічных формаў («прапойчычане», «чачэране», «берасцяне», «случане», «палачане» і інш.). З другога боку, кансалідацыя і інтэграцыя насельніцтва на больш шырокай аснове праходзілі ў асобных больш важных геаграфічных і тэрытарыяльных рэгіёнах (заходнія землі Беларусі, Усходняя Беларусь, Палессе, Падляшша), а таксама ахоплівалі ўвесь усходнеславянскі этнас Княства, аб'яднаны агульнасцю паходжання і гістарычных традыцый.

**Грамадска-палітычныя ўмовы.** Станаўленне і развіццё беларускай народнасці праходзілі ў складаных грамадска-палітычных умовах. У параўнанні з этапам феадальнай дробнасці Вялікае княства Літоўскае прадстаўляла новы ўзровень палітычнай, дзяржаўнай і сацыяльна-эканамічнай арганізацыі зямель. Сумеснае супрацьстаянне народаў Вялікага княства Літоўскага мангола-татарскім набегам, агрэсіі Ордэна, першараднае значэнне ўсходнеславянскіх зямель у эканамічным, грамадска-палітычным і культурным жыцці Княства мелі пазітыўныя вынікі ў этнакансалідацыйных і інтэграцыйных працэсах. Фарміраванню беларускай народнасці са-

дзейнічала шырокае выкарыстоўванне старабеларускай («рускай») мовы і пісьменнасці ў дзяржаўным справаводстве, грамадскім жыцці, міжэтнічных кантактах.

У той жа час у новым дзяржаўным фарміраванні, неаднародным па этнічнаму складу насельніцтва, узроўню сацыяльна-эканамічнага, палітычнага, культурнага развіцця, захоўваліся шмат якія прыкметы феадальнай дробнасці, аўтаномія некаторых буйных зямель Беларусі і Украіны. Працэсы фарміравання беларускай народнасці асабліва ўскладняла адміністрацыйна-тэрытарыяльнае адасабленне ад іншых зямель Беларусі значнай яе часткі ў межах так званай Літоўскай зямлі. Уніфікацыя адміністрацыйна - тэрытарыяльнай структуры, якая адбылася ў выніку ажыццяўлення адміністрацыйных рэформ XV — сярэдзіны XVI ст., мала што змяніла ў гэтым плане.

У грамадска - палітычным жыцці Беларусі і ўсяго Вялікага княства Літоўскага (у розных суадносінах у розныя гістарычныя перыяды) назіраліся як аб'яднальныя, так і сепаратысцкія тэндэнцыі. У іх адлюстроўваліся інтарэсы ўсіх прывілеяваных саслоўяў, вярхоўнай улады дзяржавы, мясцовых феадалаў. Працэсам фармавання беларускай народнасці перашкаджалі этнарэлігійныя і грамадска-палітычныя супярэчнасці, абумоўленыя некаторымі тэндэнцыямі ў знешняй і ўнутранай палітыцы кіруючых колаў Вялікага княства Літоўскага.

Станаўленне і развіццё беларускай народнасці праходзіла таксама пад уздзеяннем уласна этнічных фактараў. Важную ролю адыгрывала этнагенетычная роднасць усходнеславянскіх (шырэй кажучы, і славянскіх) народаў, гістарычныя традыцыі. На працягу стагоддзяў на землях усходніх славян захоўваліся выразная моўная блізкасць, адзінства веравызнання (у некаторыя перыяды нават адзіная царкоўная мітраполія), многія рысы мэтаэтнічнай самасвядомасці, развіваліся эканамічныя і духоўныя сувязі.

Побач з гэтым яшчэ ў перыяд феадальнай адасобленасці буйных княстваў, накшталт Полацкага, узнікненне новых феадальных цэнтраў, якія звязвалі больш моцнымі палітычнымі і сацыяльна-эканамічнымі сувязямі пэўныя рэгіёны, рост гарадоў, развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры стваралі ўнутраныя перадумовы для фарміравання ўсходнеславянскіх народнасцей.

**Сацыяльныя фактары.** Важную ролю ў фармаванні беларускай народнасці адыгрывалі сацыяльныя фактары.

Узнаўленне матэрыяльных каштоўнасцей і самога насельніцтва, як вядома, неабходна для існавання ўсялякай этнасацыяльнай супольнасці. Прагрэс у вытворчасці ўздзейнічаў на фармаванне саслоўна - класавай структуры этнасу, забяспечваў узрастаючае этнакультурнае і гаспадарча-культурнае адзінства народнасці, вызначаў многія дэмаграфічныя змены.

Натуральная гаспадарка, як і раней, панавала ў эканоміцы Бе-

ларусі XV—XVI стст., але таварна-грашовыя адносіны ўсё ў большай ступені ўздзейнічалі на працэс складання народнасці. Пры ўсёй важнасці знешніх зносін, якія прыкметна ўплывалі на рост таварнага абароту і развіццё эканомікі (аб чым сведчаць станаўленне фальварачнай сістэмы, павелічэнне экспартна-імпартных аперацый), у гісторыка-этнічным плане найбольш значную ролю адыгрывалі ўнутраныя гаспадарчыя сувязі. Яны садзейнічалі інтэнсіфікацыі разнастайных унутрыэтнічных, эканамічных, сацыяльных, уласна этнічных кантактаў, этнакультурнай, моўнай інтэграцыі, нівеліравалі некаторыя гаспадарчыя і бытавыя адрозненні.

Эканамічныя сувязі ўзаемадзейнічалі на розным этнатэрытарыяльным узроўні. Дзякуючы грамадскаму падзелу працы, сельская гаспадарка ўсё больш уцягвалася ў гандлёвы абмен з гарадамі. Вакол буйных гарадоў складваліся лакальныя рынкі, што, у прыватнасці, абумовіла доўгае існаванне мясцовых мер побач з паступовым распаўсюджваннем гандлёва-вымяральных стандартаў. Некаторыя з апошніх былі ўзаконены ў статутах Вялікага княства. На Беларусі ў якасці мясцовых аб'ёмных мер, напрыклад, выкарыстоўваліся бочкі і паўбочкі «менская», «лукомльская», «вядро пінскае», «берасцейскае», вагі і беркавец «полацкія» і інш. Разам з тым устойлівасць лакальнай метралогіі пэўным чынам адлюстроўвала слабасць працэсу развіцця эканамічнай супольнасці і звязанай з ім этнічнай інтэграцыі. Некаторая уніфікацыя ў маштабах Вялікага княства Літоўскага была дасягнута перш за ўсё ў асобных вагавых адзінках і ў грашовай сістэме.

Пераадольванню лакальнай замкнутасці садзейнічалі гандлёвыя сувязі паміж гарадамі і іх удзел у рэгіянальным і транзітным гандлі. У XIV—XVI стст. узрасло значэнне буйных гарадоў Беларусі (Полацк, Берасце, Магілёў, Гародня, Віцебск і інш.) як важных пунктаў палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных сувязяў беларускіх земель. Імклівы рост колькасці мястэчак у XVI ст. быў вынікам далейшага развіцця таварна-грашовых адносін, уцягвання ў іх новых тэрыторый.

У геаграфічных умовах Беларусі важную ролю ў сістэме гандлёвых камунікацый адыгрывалі рэкі, якія выкарыстоўваліся таксама і ў зімні час. Прыкметна пашыралася і змянялася ў XIV—XVI стст. сетка асноўных сухапутных дарог, у тым ліку найбольш важных гандлёвых камунікацый, што звязвалі землі Беларусі з Паўночна-Усходняй і Паўночна-Заходняй Руссю, Літвой, Украінай, Польшчай.

Новы ўзровень сацыяльна-эканамічных адносін выяўляўся таксама і ў развіцці саслоўна-класавай структуры. Да сярэдзіны XVI ст. усе асноўныя класы і саслоўі беларускай народнасці як цэласнага этнасацыяльнага арганізма дасягнулі ўзроўню сталага феадальнага грамадства. Афармленне пануючага класа ў шляхецкае саслоўе было замацавана ў статутах Вялікага княства 1529, 1566, 1588 гг.,

агульназемскіх прывілеях, сеймавых пастановах; саслоўная кансалідацыя і правы мяшчан — у магдэбургскіх граматах. Сялянства ў XVI ст. канчаткова пераўтварылася ў адзінае саслоўе-клас.

**Культура.** У працэсе сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця беларускіх зямель больш разнастайнымі сталі культурныя сувязі паміж імі. Многімі агульнымі рысамі адзначаны вусная народная творчасць і літаратурныя творы, народныя песні і танцы, абрады, мастацтва і рамяство і г. д.

Супольнасць беларускай культуры асабліва выразна выявілася ў станаўленні і развіцці беларускай народнай і літаратурнай мовы. Спецыфічныя рысы беларускай мовы пачалі ўзнікаць здаўна — не пазней XIII ст.— у выніку ўзаемадзеяння і сінтэзу старажытнарускіх традыцый і мясцовых асаблівасцей[102].

Характэрныя рысы беларускай мовы (дзеканне, цеканне, цвёрдае «р» і інш.) паступова пранікаюць у помнікі пісьменнасці XIV—XVI стст. Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускай літаратурнай мовы знайшлі адлюстраванне ў свецкіх мастацкіх творах, ваенных і гістарычных аповесцях, у беларускіх летапісах, справаводстве, у меншай ступені — у царкоўна-рэлігійнай (асабліва літургічнай і кананічнай) пісьменнасці. Галоўны напрамак у развіцці беларускай літаратурнай мовы ў XV—XVI стст. вызначаўся зацвярджэннем у ёй граматычных і лексічных форм народнай беларускай гаворкі. Беларуская літаратурная мова канчаткова склалася як самастойная моўная сістэма ў другой палове XVI ст.[103].

Зразумела, што ў духоўным жыцці Беларусі адлюстроўваліся не толькі спецыфічныя асаблівасці, але і найбольш істотныя рысы, характэрныя для гісторыка-этнаграфічнага рэгіёна, дзе пражывалі ўсходнеславянскія і славянскія народы, а ў больш шырокім плане — рысы еўрапейскай і агульначалавечай культуры.

У адзначаны перыяд супольнасць культуры ўсходнеславянскіх народаў і кожнага з іх паасобку выяўлялася не толькі ў мове ды іншых з'явах духоўнай і матэрыяльнай культуры, але і ў пэўным рэлігійным, а часам і царкоўным адзінстве. У эпоху сярэднявечча, ва ўмовах, калі розныя народы прытрымліваліся рознай рэлігійнай арыентацыі, рэлігія, як вядома, звычайна была адной з этнічных прыкмет, важным, падчас вызначальным кампанентам этнічнай самасвядомасці. Згодна з «попісамі», інвентарамі і іншымі масавымі пісьмовымі крыніцамі, па выказваннях сучаснікаў, у XIV — першай палове XVI ст. (у пэўных межах і значна пазней) пераважаючая большасць беларускага насельніцтва заставалася праваслаўнай. Нават сярод шляхты ўдзельная вага католікаў у цэнтральных, паўднёвых і ўсходніх паветах Беларусі (Полацкім, Менскім, Пінскім і інш.) не перавышала некалькіх працэнтаў (у сваёй большасці за кошт літоўскіх землеўласнікаў). Прыкметную колькасць католікаў у заходніх паветах і ў Падляшшы

складалі літоўцы і палякі.

Захаванне рэлігійных, моўных і культурных традыцый сярод беларускіх феадалаў у цэлым было менш устойлівым, чым сярод іншых слаёў насельніцтва. У 50—70-ых гг. XVI ст. пад уздзеяннем палітычных і сацыяльна-эканамічных фактараў, абумоўленых галоўным чынам працэсамі стварэння новай поліэтнічнай федэрацыі — Рэчы Паспалітай, у некаторых сацыяльных і этнічных пластах насельніцтва выразна выявіліся новыя канфесійныя тэндэнцыі. У канкрэтных умовах Беларусі другой паловы XVI ст. адыход пэўнай часткі феадалаў ад рэлігійных і культурных традыцый стаў этапам на шляху іх збліжэння з польскай шляхтай. Большасць пратэстанцкай знаці пасля Люблінскай уніі 1569 г. перайшла ў каталіцызм.

У этнічным развіцці ўсходнеславянскіх народаў Вялікага княства мелі месца асіміляцыйныя з'явы. Беларускія, украінскія, рускія перасяленцы, уцекачы, «новапрыходцы» адносна лёгка «ўпісваліся» ў роднаснае этнасацыяльнае асяроддзе, большасць з іх (другое і трэцяе пакаленні) амаль нічым ужо не адрозніваліся ад мясцовых жыхароў. Асіміляцыйныя тэндэнцыі выяўляліся таксама сярод літоўскіх феадалаў (частка членаў вялікакняжацкай дынастыі, баяр і шляхты), якія здаўна аселі на беларускіх землях, мелі тут свае асноўныя ўладанні. Гэтыя тэндэнцыі закранулі частку літоўцаў-мяшчан і нешматлікіх літоўцаў-сялян, якія жылі на тэрыторыі з пераважнай колькасцю беларускага насельніцтва.

Праявы культурнай і сацыяльна-класавай інтэграцыі ў Вялікім княстве ў XIV—XV стст., хаця ў пэўнай ступені і ўплывалі на этнічныя адносіны, у цэлым не маглі спыніць працэсы кансалідацыі беларускай, літоўскай і ўкраінскай народнасцей.

У гэты перыяд па-свойму развівалася этнічная самасвядомасць народаў Вялікага княства Літоўскага, фарміраваліся новыя ўяўленні пра агульнасць паходжання, аб «айчызне», моўным, рэлігійным, культурным адзінстве ўсіх членаў этнасу. Выразнай асаблівасцю этнічнай самасвядомасці беларускай народнасці ў той час быў значны ўплыў «зямляцкай» самасвядомасці («палачанін», «віцеблянін», «магілёвец» і інш.), якая суіснавала побач з больш шырокімі этнічнымі ўяўленнямі («беларусы», «рускія»), і рэлігійных традыцый.

**Белая Русь.** У сучаснай гістарыяграфіі пануюць розныя версіі наконт паходжання назвы «Белая Русь». Адны даследчыкі звязваюць яе з кліматычна-геаграфічнымі або этнаграфічнымі асаблівасцямі, другія — з царкоўна-рэлігійнымі, знешнепалітычнымі фактарамі («Белая» — значыць вольная Русь, незалежная ад мангола-татарскіх намеснікаў)[104]. Апошняй, найбольш распаўсюджанай канцэпцыі пярэчыць той факт, што гэтая назва атрымала асаблівае пашырэнне на Беларусі ў той перыяд, калі і іншыя ўсходнеславянскія землі былі ўжо незалежнымі ад мангола-татар. Больш

верагоднай здаецца гіпотэза, якая ўлічвала своеасаблівы адміністрацыйна-дзяржаўны, «прывілеяваны» статус некаторых усходніх зямель Беларусі, перш за ўсё Полацкай і Віцебскай, у складзе Вялікага княства Літоўскага. Заходнія беларускія, як і некаторыя ўкраінскія, землі, польская Русь, знаходзіліся ў іншым становішчы. Ужо ў пачатку XVI ст., калі маскоўскі вялікі князь зрэдку пачаў тытулавацца «белым царом», ніхто з маскоўскіх дзякоў не мог даць тлумачэнне гэтага тэрміна. Так ці інакш гістарычныя традыцыі і новыя палітычныя тэндэнцыі садзейнічалі паступоваму распаўсюджванню тэрміна «Белая Русь» у адносінах да беларускіх зямель. Не даследуючы ўсіх гіпотэз, звязаных з паходжаннем гэтага тэрміна, можна вызначыць яго канкрэтны палітыка-геаграфічны змест. Несумненна генетычная і гістарычная агульнасць абодвух тэрмінаў — «Русь» і «Белая Русь».

Між іншым, у большасці пісьмовых крыніц XIV—XVI стст. (на картах, дзе адзначана «Alba Russia», у запісках чужаземцаў, летапісах і хроніках, эпісталярных, царкоўных і дыпламатычных помніках) адлюстроўваюцца ўяўленні аб «Белай Русі» як тэрыторыі, што ахоплівае ўсе або значную частку рускіх зямель (Паўночна-Усходнюю Русь, Наўгародска-Пскоўскія землі, усю або ўсходнюю частку Беларусі, частку Украіны ў межах Вялікага княства Літоўскага). Асноўным цэнтрам «Белай Русі» ў многіх памянутых чужаземных крыніцах (прыкладна да сярэдзіны XVI ст.) называецца Масква. У рускіх крыніцах XV ст. (Сімяонаўскі летапіс, Маскоўскі летапісны звод канца XV ст.) «Белая Русь» таксама нярэдка атаясамліваецца з «Вялікай Маскоўскай Руссю».

У значнай частцы крыніц XIV—XVI стст., пачынаючы з польскай хронікі Яна з Чарнкова, Белая Русь памінаецца ў дачыненні да тэрыторыі Беларусі. У канцы XV — сярэдзіне XVI ст. у літаратурных крыніцах усё больш выразна прасочваюцца ўяўленні аб Белай Русі як адасобленай уласна беларускай ці беларуска-ўкраінскай або беларускай і часткова рускай тэрыторыі.

Сакратар польскай каралеўскай канцылярыі Марцін Кромер у сваёй гістарычнай працы, прысвечанай Польшчы (каля 1558 г.), не толькі зазначае, што Белая Русь мяжуе з Маскоўскай дзяржавай, але і вызначае яе паўночную граніцу — 57° шыраты. На поўнач ад Белай Русі, адзначае Кромер, размешчана Лівонія, на поўдні яна мяжуе з Валынню і Чырвонай Руссю. У пасланнях папскага пасла ў Польшчы Ліпамана 1575 г. зроблена тлумачэнне: «Чырвоная Русь названа так дзеля таго, каб адрозніваць яе ад Белай Русі, якая знаходзіцца на сумежных землях Літвы і Маскоўскай дзяржавы». Падрабязна апісана Белая Русь у 4-ай кнізе «Хронікі» Мацея Стрыйкоўскага, які доўгі час жыў на Беларусі. У паэме «Пруская вайна» Яна з Вісліцы і ў «Хроніцы» Стрыйкоўскага сустракаецца вельмі

рэдкае ў тагачаснай літаратуры ўпамінанне этнічнай катэгорыі «беларусаў». Стрыйкоўскі адрозніваў «беларусаў літоўскіх» як частку адзінага народа ўсёй Белай Русі ў шырокім сэнсе гэтага слова і разам з тым як адзін з некалькіх роднасных беларускіх народаў.

У рускіх актах першай паловы XVII ст. упамінаюцца «беларусцы» Полацкага, Мсціслаўскага, Аршанскага, Копыскага, Дубровенскага і іншых паветаў. Беларускія выхадцы, або палонныя сяляне, мяшчане, шляхта, у XVII ст. нярэдка называлі сябе за мяжой «літвінамі беларусцамі».

Далейшае этнічнае развіццё беларускай народнасці ў канцы XVI—XVII ст. праходзіла ў асабліва складаных сацыяльна-палітычных, эканамічных і культурных умовах у дзяржаўных межах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. У выніку Люблінскай уніі і адыходу ўкраінскіх зямель і Падляшша да Польшчы былі надоўга вызначаны палітычныя граніцы Вялікага княства і асноўныя этнічныя межы Літвы і Беларусі. Гэты перыяд характарызуецца паглыбленнем сацыяльна-класавых супярэчнасцей, абвастрэннем этнарэлігійных адносін, акаталічваннем значнай часткі беларускіх феадалаў і адначасова ўздымам этнічнай самасвядомасці, грамадска-палітычнай, рэлігійнай і культурнай дзейнасці патрыятычных слаёў мяшчанства, шляхты, больш актыўным удзелам народных мас Беларусі ў духоўным жыцці, розных грамадска-палітычных рухах.



# РАЗДЗЕЛ IV

# ВОЙНЫ І УНУТРЫПАЛІТЫЧНЫЯ КАНФЛІКТЫ СЯРЭДЗІНЫ XVII—XVIII стст.

## 1. Войны сярэдзіны XVII ст.

**Антыфеадальная вайна 1648—1651 гг.** Азначаны час ўвайшоў у гістарыяграфію як перыяд «нацыянальна-вызваленчай барацьбы» беларускага народа, барацьбы супраць «польскіх паноў, за ўз'яднанне з Расіяй». Але вывучэнне архіўных крыніц не дае падстаў згадзіцца з такой трактоўкай падзей 1648—1651 гг. Для гэтага часу былі характэрныя сумесныя масавыя выступленні сялян і казацка-сялянскіх атрадаў супраць феадалаў, змыканне іх з рухам гарадскіх нізоў. Народныя масы змагаліся не за змякчэнне феадальнага прыгнёту, паслабленне тых або іншых павіннасцей, самавольстваў пануючага класа. У названыя гады мэтай іх барацьбы было вынішчэнне шляхты, незалежна ад яе этнічнага паходжання, як галоўнага віноўніка няшчаднага прыгнёту. Не было сярод палітычных мэтаў народнага руху і нацыянальнага вызвалення, ён меў ярка выражаны антыфеадальны характар. Зыходзячы з гэтага, а таксама ўлічваючы, што барацьба супраць феадальнага прыгнёту была не звычайная, не традыцыйная, а сапраўдная бітва буйных супрацьлеглых сіл — казацка-сялянскіх атрадаў, ніжэйшых слаёў мяшчанства, з аднаго боку, і войска ВКЛ, якое ўключала наёмнае і шляхецкае апалчэнне, з другога, маюцца ўсе падставы лічыць яе антыфеадальнай вайной. У ваенных дзеяннях загінулі дзесяткі тысяч яе ўдзельнікаў, быў нанесены велізарны ўрон эканоміцы краіны, што выклікала голад, эпідэміі, міграцыю насельніцтва, значную смяротнасць сярод жыхароў Беларусі. У вайне супраць феадалаў прымалі ўдзел усе слаі і сацыяльныя групы эксплуатуемага насельніцтва, а таксама частка дробнай праваслаўнай беларускай шляхты, праваслаўнае духавенства. Праўда, мэты і інтарэсы розных колаў гэтага насельніцтва не заўсёды супадалі. У той час як «людзі простага стану», асабліва сялянства — галоўная сіла руху,— вялі рашучую барацьбу супраць феадалаў-прыгнятальнікаў, дробная праваслаўная беларуская шляхта, якая была ў нейкай ступені ўшчэмлена ў правах, больш за ўсё турбавалася аб пашырэнні свайго юрыдычнага статусу, поўнай роўнасці са шляхтай каталіцкай. Для праваслаўнага духа-

венства вайна была важным сродкам абароны інтарэсаў сваёй царквы ад наступу уніяцтва і каталіцтва. Была не супраць пазбавіцца феадальных абмежаванняў і заможная частка мяшчанства. Але ў яе барацьбе не назіралася паслядоўнасці. Дзейнічалі прадстаўнікі гэтай групы беларускага грамадства ў залежнасці ад палітычных абставін, далёка не заўсёды падзяляючы імкненні сялянскай масы і гарадскога плебсу.

Важную ролю ў пад'ёме антыфеадальнага руху ў сярэдзіне XVII ст. і пераўтварэнні яго ў антыфеадальную вайну адыграла народнае паўстанне на Украіне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Ужо першыя звесткі аб перамогах Хмяльніцкага пад Жоўтымі Водамі і Корсунем у маі 1648 г. выклікалі значныя ўзброеныя антыфеадальныя выступленні беларускіх сялян і гараджан, асабліва ў тых раёнах, якія прымыкалі да Украіны. Так, пінскі падстараста 20 жніўня 1648 г. даносіў падканцлеру ВКЛ Казіміру Сапегу, што паўстаўшыя сяляне «нападаюць на шляхецкія маёнткі, паляць іх, шляхціцаў караюць на смерць, багатых купцоў да бедных раўняюць»[1]. Для падтрымкі народнага руху на Беларусі Б. Хмяльніцкі накіраваў сюды летам 1648 г. з-пад Белай Царквы і Корсуня казакоў на чале з Галавацкім, Гладкім, Галотай, Нябабай, Хвесько, Гапалічам і інш.[2].

Адначасова з пасылкай першых казацкіх атрадаў Хмяльніцкі адсылаў да «...Гомля и за Днепр аж до Борисова и далей, до Быхова теж, Могилева и далей» універсалы з заклікамі да насельніцтва ўзбройвацца і выступаць супраць магнатаў і шляхты. Універсалы адсылаліся цераз «пильных и справных» казакоў, выхадцаў з тых жа раёнаў і гарадоў, куды яны накіроўваліся, «а с людьми тамошними добре знаючихся, и послании своем осторожне и латво справитися могущих»[3].

Заклікі дзейнічалі, тым больш што яны былі падмацаваны прыходам у беларускія паветы добра ўзброеных і арганізаваных казацкіх фарміраванняў. Гэта давала вялікія надзеі беларускаму сялянству на поспех у барацьбе супраць шляхты і шляхецкага войска. Не дзіва, што ўжо да восені 1648 г. «сяляне, пачынаючы ад Валішэвічаў да Мазыра і Рэчыцы, колькі ёсць вёсак і вотчын», а таксама жыхары паўднёвых беларускіх гарадоў — Мазыра, Турава, Гомеля, Рэчыцы, Лоева і іх наваколляў, як сведчаць крыніцы, «усе паказачыліся і пакляліся адзін аднаму стаяць да апошняга»[4].

У час летняй кампаніі 1648 г. казацка-сялянскія атрады атрымалі шэраг перамог над шляхецкім апалчэннем і наёмным войскам ВКЛ. Каля Рэчыцы былі разбіты харугвы пад камандаваннем пісара ВКЛ Валовіча, пад мястэчкам Горваль — буйны атрад на чале з Мірскім. Казакі і сяляне-паўстанцы ў 1648 г. авалодалі Гомелем, Лоевам, Чачэрскам, Брагінам, Бабруйскам, Мазыром, Туравам, Пінскам, Чэрыкавам, Рэчыцай, Кобрынам, Горвалем і іншымі гарадамі і мястэчкамі на поўдні і паўднё-



Панарама Рэчыцы ў сярэдзіне XVII ст.

вым усходзе Беларусі, жыхары якіх амаль не аказвалі арганізаванага супраціўлення, а многія нават далучаліся да казацка-сялянскіх атрадаў. Толькі тыя населеныя пункты, дзе знаходзіліся буйныя вайсковыя гарнізоны, трымалі бой з казакамі. Прыкладам таму Стары Быхаў і Слуцк. Гэта былі добра ўмацаваныя гарады-крэпасці, узяць якія казацка-сялянскім атрадам не ўдалося на працягу ўсёй антыфеадальнай вайны, нягледзячы на неаднаразовыя штурмы і аблогі.

Поспехі казацка-сялянскага войска нарабілі перапалоху сярод шляхты, каталіцкага і уніяцкага духавенства. Ім прыйшлося ратавацца ўцёкамі ў глыб Вялікага княства. «А которые де, государь, литовские городы по сю сторону Днепра, и ис тех де, государь, литовских городов из всех паны, и державцы, и урядники и ляхи, и жиды все выбежали з женами и з детьми за Днепр в королевские городы, а остались де в тех литовских городах одне мещане и пашенные мужики»[5],— паведамляў на гэты конт 30 мая 1648 г. у Маскву цару Аляксею Міхайлавічу пуціўльскі ваявода Пляшчэеў.

Баявыя дзеянні на Беларусі мелі важнае значэнне і для поспехаў войска Хмяльніцкага на Украіне, бо скоўвалі значныя сілы праціўніка. У вялікай ступені дзякуючы таму, што войска Радзівіла з тэрыторыі Беларусі не змагло нанесці ўдар украінскаму казацкаму войску з поўначы, яно здолела ў верасні 1648 г. атрымаць перамогу над каронным войскам пад Піляўцамі. Гэта перамога ўцягнула ў антыфеадальную вайну новыя значныя сілы насельніцтва. Яна, са слоў Януша Радзівіла, «падняла дух усёй рускай чэрні не толькі ў каралеўстве, але і ў Вялікім княстве Літоўскім»[6]. Народнымі паўстаннямі была ахоплена значная тэрыторыя Беларусі. Той жа Радзівіл у лісце да Лубенскага паведамляў, што «ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім, акрамя княства Жмудскага, наўрад ці ёсць такі павет, якога нельга прылічыць да ліку мяцежных»[7]. Гетмана вельмі непакоіў рост колькасці казакоў «з прычыны вялікага папаўнення,— паводле ягоных слоў,— нашымі хлопамі», г. зн. беларускімі сялянамі. Радзівіл абураўся нядобразычлівасцю і здрадай «хлопаў». Ён адзначаў, што «нават у тых

самых месцах, дзе стаіць войска, сяляне, падбухтораныя казакамі на дзёрзкія ўчынкі, пачынаюць паўставаць і збірацца па лясах»[8]. Канфлікт паміж супрацьлеглымі саслоўямі феадальнага грамадства — сялянствам і шляхтай, з прычыны рэзкага абвастрэння павіннаснага ўціску, самавольстваў і рабаванняў з боку адміністрацыі і войскаў, сапраўды дасягнуў мяжы. «Чэрнь так раз'юшана, што вырашыла ці знішчыць шляхту, ці загінуць»,— сведчыць тагачасная крыніца[9].

На пачатку кастрычніка 1648 г. некалькі тысяч паўстаўшых сялян Давыд-Гарадоцкай воласці ў Пінскім павеце выбралі са свайго асяроддзя палкоўнікаў, сотнікаў «спосабам казацкім» і напалі на маёнтак князя М. С. Чацвярцінскага. Яны разгромілі гаспадскі двор ў Воранаве, да смерці збілі воранаўскага ўрадніка шляхціца К. Дзелячынскага, вынішчылі рэестры, інвентары, квітанцыі аб выплатах падаткаў. У вёсцы Стругі паўстанцы поўнасцю разрабавалі двор шляхціца Я. Макрыцкага, а самога ўтапілі ў рэчцы. Узброенае выступленне доўжылася тут да сярэдзіны 1649 г.[10].

У тую ж восень і да вясны 1649 г. на барацьбу супраць шляхты падняліся тураўскія сяляне. Некалькі іх сотняў, якія паказачыліся, «починивши межи, себе полковников, сотников, писаров, атаманов, асавул... впавши се в злость хлопскую... великие и незносные кривды и школы починили» панам сваім[11]. Напачатку ў маёнтку Семагошчы яны разбурылі дом шляхціца Янкоўскага, паразганялі ўсіх сельскіх войтаў, абраўшы паміж сябе новых. Затым каля 400 узброеных сялян накіраваліся ў Тураў, дзе «былі ім радыя і абяцалі ва ўсім дапамагаць». На чале паўстанцаў стаяў Пракоп Цыўка. З Турава сяляне разам з гараджанамі рабілі наскокі на Лахву і Давыд-Гарадок. Але ў хуткім часе пацярпелі паражэнне ў сутычцы са шляхецкім войскам. Яўхім Бяжэйчык, селянін з-пад Лахвы, які трапіў у палон, паведамляў, што было з сялянамі каля 2000 тураўскіх гараджан[12].

Такія ж аб'яднаныя атрады дзейнічалі ў іншых беларускіх гарадах. У Мазыры, напрыклад, тутэйшы мешчанін Іван Сталяр стаў на чале атрада колькасцю 400 чалавек, які быў сфарміраваны з «черни здешних краёв»[13]. У канцы лістапада 1648 г. казацкая харугва была створана з гараджан Ігумена[14]. У Рэчыцы налічвалася каля 3000 паўстанцаў, палову якіх складалі казакі, палову — сяляне[15].

Узмацненню антыфеадальнага руху на Беларусі спрыяла пасылка сюды Б. Хмяльніцкім пасля перамогі пад Піляўцамі чарговых казацкіх загонаў. Да іх усюды далучаўся просты беларускі люд. У данясенні пасольскаму прыказу сеўскі ваявода занатаваў, што «белорусцы де, государь, всякие черные люди всех городов и уездов, которые городы за казаками, стоят против поляков с казаками заодно»[16].

Супольнасць у барацьбе давала плён. У Кобрыне, напрыклад, казацка-сялянскія атрады пад кіраўніцтвам Гладкага разбілі

полк драгунаў стольніка ВКЛ В. Гансеўскага. У Мазырскім павеце яны ж атрымалі перамогу над войскам, якім кіраваў Валовіч, авалодалі Пінскам[17]. На пачатку кастрычніка 1648 г. казакі пад камандаваннем Крывашапкі занялі Чэрыкаў. Казацка-сялянскі атрад 30 снежня ў Ігумені нанёс паражэнне войску пад кіраўніцтвам харужага літоўскага Яна Паца[18].

Такі паварот падзей на Беларусі занепакоіў кіруючыя колы Рэчы Паспалітай. Па загаду караля пачалі тут фарміравацца новыя шляхецкія апалчэнні, павялічвалася колькасць наёмнай ваеннай сілы. Гэтыя войскі сцягваліся на поўдзень і паўднёвы ўсход Беларусі, каб ізаляваць ад казацкага пранікнення беларускія землі і потым задушыць тут выступленні народных мас. Агульнае кіраўніцтва войскам, якое налічвала на восень 1648 г. недзе 12—14 тысяч, было даручана Янушу Радзівілу. Ён аддаў распараджэнне стражніку Мірскаму, Горскаму,Валовічу і Я. Пацу ісці да Пінска, Чачэрска ды іншых гарадоў, якімі валодалі казакі і паўстаўшыя сяляне. Сам жа з часткай войска адправіўся на сейм у Варшаву[19].

Выконваючы загад Я. Радзівіла, Мірскі ў другой палове кастрычніка з вялікім войскам рушыў на Палессе. Першым горадам, што павінен быў вытрымаць удар гэтай моцнай, узброенай артылерыяй, ваеннай сілы, стаў Пінск. Пінчукі, якія раней прынялі казакоў на чале з Антонам Нябабай, вырашылі абараняць горад разам з імі «до последней крайности и бить ляхов»[20]. Прапановы войта Лукі Ельскага здаць горад радзівілаўскаму войску былі адвергнуты. Няскоранасць каштавала абаронцам многіх жыццяў. Пасля абароны, якая трывала «с полудня сего ... до полуденной поры следующего дня», войску стражніка ВКЛ Мірскага ўдалося захапіць горад. Пераможца «мещан побил больши 3000 человек и жён их и детей велел побить без милости за то, што были у них черкасы, и они поеднався с ними, отпустили их вцеле, а как пришли жолнере, они жолнерей к себе не пустили»[21]. Пінск быў зруйнаваны.

Найперш казакамі, а затым і войскам ВКЛ было спустошана Берасце. Як адзначаюць крыніцы, жаўнеры, якія ўварваліся ў горад пасля адыходу казакоў, «достальное разоряют и поклажеев мещанских и жидовских ищут, и везде землю роют, и остальцев мещан и мещанских детей из поклажеев мучат и огнем жгут»[22].

11 лістапада шляхецкае войска на чале з князем Друцкім-Горскім штурмам авалодала Чэрыкавам. У баі загінула звыш 1500 паўстанцаў. Горад спазнаў тое ж вынішчэнне, што і Пінск: «белорусцев всех посекли»[23]. Вялікія страты панеслі казацка-сялянскія атрады падчас штурмаў і аблогі Старога Быхава і Слуцка.

На пачатку студзеня 1649 г. гетман Я. Радзівіл, які вярнуўся з пасяджэнняў сейма, аб'яднаў значныя вайсковыя сілы і рушыў на Палессе, каб адрэзаць беларускія землі ад Украіны і перашкодзіць сумесным дзеяннем

казакоў і беларускіх сялян. Гэта быў крывавы шлях. У Тураве па загаду Радзівіла ўсе жыхары, якія засталіся ў горадзе пасля адыходу казацка-сялянскіх атрадаў, былі перабіты[24]. Пасля ўпартага змагання за Мазыр і авалодання ім радзівілаўскім войскам казацкі кіраўнік Міхненка, які быў захоплены ў палон, «с повеления княжеского казнен смертью отсечением головы, которая после взоткнута была на замковой веже»[25]. У Чачэрску жаўнеры «казаков выбрав полтораста человек, отсекли правые руки по запястья, а 50 де человек на колья посажали, а достальных де казаков и их жен и детей порубили всех». Тое ж адбылося ў Лоеве[26]. У Давыд-Гарадку па загаду Радзівіла паўстанцаў саджалі на палі, секлі, расстрэльвалі[27]. Бязлітасна расправіўся гетман і з жыхарамі Бабруйска: «мещан де всех, которые и город ему отворили мучил из животов и руки отсек 800 чел., постинал 50 человек, на паля повзбиял 100 чел., и такую де невинную кровь пролил без ума, для своей корысци»[28].

У першай палове 1649 г. войска ВКЛ здолела ўзяць пад свой кантроль поўдзень Беларусі. Склаўшаяся сітуацыя непакоіла Багдана Хмяльніцкага, таму, нягледзячы на часовае пераяслаўскае пагадненне аб прыпыненні ваенных дзеянняў, ён пачаў накіроўваць на Беларусь новыя казацкія загоны. Пад Загалле, дзе знаходзіўся лагер войска ВКЛ, быў пасланы 3-тысячны атрад казакоў на чале з Іллёй Галотай, да якога, па сведчаннях крыніц, «адразу бунтуючыя ў Літве мужыкі далучыліся»[29]. Тут адбылася бітва, у якой большая частка казацкага загона была вынішчана. Загінуў і сам Галота[30]. У ліпені 1649 г. для захопу і аховы пераправы каля Лоева, дзе Сож упадае ў Дняпро, прыбыло 12 тысяч казацкага войска, якое ўзначальваў палкоўнік Сцяпан Пабадайла[31]. Яно з поспехам авалодала пераправай.

Амаль адначасна на Беларусь быў адасланы другі казацкі 30-тысячны загон пад кіраўніцтвам Міхала Крычэўскага, да якога «прыстала некалькі тысяч рознага роду мужыкоў... з навакольных вёсак»[32]. 31 ліпеня 1649 г. каля Лоева адбылася самая буйная падчас антыфеадальнай вайны бітва, у якой прыняло ўдзел шматтысячнае з абодвух бакоў войска. У жорсткай сечы перамогу атрымала войска ВКЛ. Страты сярод казакоў і далучыўшыхся да іх паўстанцаў былі значныя: больш 8 тысяч загінуўшых на полі бітвы і каля 3 тысяч патануўшых у Дняпры. Цяжка паранены Крычэўскі трапіў у палон і цераз некалькі дзён сканаў[33].

У жніўні 1649 г. у сувязі з падпісаннем Збораўскага пагаднення вайсковыя дзеянні часова прыпыніліся. Але не на доўгі час. Паводле гэтага пагаднення, усё памежжа з Украінай уздоўж левабярэжжа Прыпяці кантралявалася шляхецкім войскам.

Каб перасцерагчыся ад удару радзівілаўскага войска з поўначы, Б. Хмяльніцкі пачаў сцягваць свае палкі ў памежныя з Беларуссю раёны. Каля Чарнігава размясціўся полк Мартына Нябабы, Кіеўскі і Нежынскі пал-

кі, татарскае войска — усяго на красавік 1651 г. прыкладна 50 тысяч чалавек[34]. Казацкае войска папаўнялася за кошт мужыкоў, што ішлі сюды з розных паветаў. I калі 15 мая 1651 г. Ян Казімір са 100-тысячным каронным войскам выступіў супраць Хмяльніцкага, казацкі гетман, адчуваючы небяспеку магчымага ўдару войскаў ВКЛ з тэрыторыі Беларусі, вырашыў атакаваць радзівілаўскія фарміраванні з двух напрамкаў: з фронту — на поўдні і з тылу — на паўднёвым усходзе. З гэтай мэтай Мартын Нябаба па загаду Хмяльніцкага накіраваў Забелу з 7 тыс. казакоў пад Гомель, а палкоўніка Шохава з атрадам у 4 тысячы казакоў і 500 татар цераз Браншчыну да Рослаўля, а затым да Крычава. З'яўленне тут казакоў неяк актывізавала барацьбу сялян супраць шляхты на паўднёвым усходзе Беларусі — у раёне Крычава і на Мсціслаўшчыне. Па сведчанню рускага ганца, «казаки сами мало и воюют, разоряют и воюют хлопы их шляхетские и панские, пограбя пана своего животы, бегают к казакам»[35]. Аднак выступленні казацка-сялянскіх атрадаў як на ўсходзе, так і на поўдні Беларусі ў гэты час поспехаў не мелі. Атраду Шохава ўзяць Крычаў не ўдалося. У баі за горад 2 і 4 ліпеня шляхецкае войска казакоў «побили немало»[36]. 7-тысячны атрад Забелы, што прыбыў пад Гомель і неаднаразова спрабаваў захапіць яго прыступамі, вымушаны быў адступіць[37]. Напаткала няўдача і тых казакоў, якія ахоўвалі пераправу цераз Дняпро каля Лоева. Іх разбіла войска ВКЛ пад камандаваннем Мірскага[38]. У лютай сечы з пяхотаю і конніцай Радзівіла і Мірскага пад Лоевам 6 ліпеня 1651 г. загінула некалькі тысяч казакоў, сярод іх і Мартын Нябаба[39].

Аднак нельга сказаць, што буйныя няўдачы казацкіх войскаў вясною і летам 1651 г. на Беларусі спынілі тут народны рух. Выступленні казацка-сялянскіх атрадаў на поўдні працягваліся і перашкаджалі Я. Радзівілу скіраваць свае вайсковыя сілы на Украіну. Нездарма ў лісце да гетмана ВКЛ Я. Кішкі ад 13 ліпеня 1651 г. ён паведамляў, што «ў далейшых планах сустракаю вялікія перашкоды». Радзівіл быў вымушаны драбіць сваё войска, «каб пакідаць як мага болей па гарнізонах», у сувязі з чым прасіў Я. Кішку даслаць дастатковае рэгулярнае войска пад Рэчыцу, бо неабходна «непрыяцельскія апорныя пункты знішчыць»[40].

Становішча змянілася толькі пасля паражэння войска Б. Хмяльніцкага пад Берасцечкам. У адпаведнасці з Белацаркоўскім пагадненнем ад 18 верасня 1651 г. казацкія загоны былі выведзены з Беларусі на Украіну. Тым самым беларускае сялянства, гарадскія нізы засталіся без магутнай дапамогі. Гэта дазволіла шляхецкаму апалчэнню, наёмнаму войску ВКЛ да восені 1651 г. задушыць народны рух на Беларусі.

Такім чынам, жорсткая антыфеадальная вайна, якая працягвалася амаль тры гады, закончылася паражэннем сялянства і гарадскога плебсу. Але гэта не абазначала спыненне барацьбы

народных мас супраць феадальнага прыгнёту, якая і надалей працягвалася ў розных формах.

**Пачатак вайны Расіі з Рэччу Паспалітай.** Новы пад'ём антыфеадальнага руху наступіў з пачаткам вайны паміж Расійскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай. З аднаго боку, ён з'явіўся лагічным працягам папярэдніх масавых антыфеадальных выступленняў народных мас, з другога — быў ідэалагічна падрыхтаваны Масквою, якая падавала сябе абаронцаю інтарэсаў праваслаўнага насельніцтва Беларусі. Характэрны ў гэтым плане змест граматы цара Аляксея Міхайлавіча ваяводам войска расійскага, дзе ён перад пачаткам баявых дзеянняў загадваў ратным людзям «накрэпко чтоб они белорусцов хрестьянские веры, которые противны не будут, и их жон и детей не побивали, и в полон не имали, и никакова дурна над ними не делали, и животов их не грабили, и которые белорусцы придут к вам в полки, и вы б тех белорусцев нашим государским жалованьем обнадёживали и велели их приводить к вере, что им быть под нашею государскою высокою рукою навеки неотступно и нам служить, и над польскими и над литовскими людьми сопча заодин...»[41].

Шляхце і духавенству цар абяцаў пацвердзіць сваімі граматамі іх правы на маёнткі, якімі валодалі «наперад сего», і былыя прывілеі. Больш таго, шляхцічам, што пажадаюць служыць маскоўскаму гасудару, гарантаваліся новыя ўладанні. І гэта невыпадкова, бо царскі ўрад разглядаў шляхецтва як сваю сацыяльную апору. Мяшчанству абяцаўся вольны гандаль з рускімі гарадамі, захаванне правоў і прывілеяў. У сваёй грамаце жыхарам Магілёва Аляксей Міхайлавіч, напрыклад, адзначаў, што за добраахвотную здачу горада «вас, шляхту, служилых людей всяких и войтов, и бурмистров, и райцов, и лавников, и мещан, и всех православных християн пожалуем нашего царского величества жалованьем... и велим вам во всех податях дать многую льготу, а разоренья над вами никакова чинити не велели»[42].

Натуральна, такія захады з боку царскага ўрада не маглі не паўплываць на настроі насельніцтва пагранічных з Расіяй беларускіх зямель, якое, са слоў апочыцкага ваяводы Нашчокіна, «хоча быць у Аляксея Міхайлавіча ў падданстве»[43]. І што такія настроі мелі месца, пераконвае нас ліст ад 7 ліпеня 1654 г. Я. Радзівіла каралю Рэчы Паспалітай Яну Казіміру, дзе падкрэсліваецца, што пад «царскую руку не толькі чэрнь, але і чыну рыцарскага людзей многа абарачаецца»[44].

Сапраўды, шматлікая беларуская праваслаўная шляхта ды некаторая каталіцкая пераходзіла на бок Расіі, прымала рускае падданства, а каталікі — нават праваслаўе. Рабілася гэта перш за ўсё з мэтай захаваць свае ўладанні і прывілеі, атрымаць дадатковыя льготы, што абяцаны былі царом. Прычынай пераходу шляхты на царскі бок таксама была немагчымасць на пачатку вайны супрацьстаяць «так

великих сил неприятеля» і спадзяванні на тое, што рускі ўрад здолее абараніць яе ад сялянскіх хваляванняў. Што тычыцца народных мас — сялян і нізоў гарадскога насельніцтва, то яны ў пераходзе ў рускае падданства — да адзінаверцаў — бачылі, як ужо адзначалася, новыя і больш вялікія магчымасці ў паспяховай барацьбе супраць сваіх прыгнятальнікаў.

Наступленне рускіх войск пачалося 21 мая 1654 г. На дапамогу ім Б. Хмяльніцкі па загаду цара накіраваў на Беларусь Нежынскі, Чарнігаўскі і Старадубскі палкі колькасцю 20 тыс. казакоў на чале з наказным гетманам Іванам Залатарэнкам. Рух шматтысячнага расійскага войска ў глыб тэрыторыі Беларусі быў даволі хуткім. Таму спрыяла падтрымка яго з боку мясцовага насельніцтва. Так, летам 1654 г. атрад у 1000 чалавек, які быў створаны з сялян вёсак Следзюкі і Кушковічы на Магілёўшчыне, змагаўся з «літоўскімі людзьмі» (г. зн. войскам ВКЛ.— *В. М.*) ля мястэчка Бялынічы і «на том бою литовских людей и татар многих побили и языки поимали ж»[45]. «Прысяжныя мужыкі» (беларускія сяляне, якія далі прысягу на вернасць Расіі.— *В. М.*) у жніўні 1654 г. сумесна з наўгародскімі стральцамі разбілі ў Аршанскім павеце шляхецкі атрад палкоўніка С. Лазоўскага[46]. Актыўны ўдзел у баявых дзеяннях супраць шляхецкага і наёмнага войска ВКЛ прымаў беларускі полк, створаны галоўным чынам з сялян у ліпені — жніўні 1654 г. На чале яго стаяў магілёўскі праваслаўны шляхціц Канстанцін Паклонскі, які перайшоў на расійскую службу. Сумесна з казакамі Залатарэнкі ён атрымаў буйную перамогу над войскам ВКЛ каля Магілёва[47].

З першых дзён баявых дзеянняў у Маскву прыходзілі звесткі аб тым, што «сялянскія масы на Беларусі бунтуюць»[48]. Шляхту асабліва непакоіла тое, што ўзброеныя выступленні сялян пашыраюцца, ахопліваюць новыя раёны і набываюць характар «казацкай вайны»[49]. У лісце з «обозу литовского» паведамлялася, што «мужики вельми не доброхоты, везде на царское имя здаются»[50]. Аб тым, што «мужыкі не з намі, але супраць нас», выказваўся і Я. Радзівіл у сваім лісце 6 ліпеня 1654 г. каралю Яну Казіміру[51].

І мяшчанства беларускіх гарадоў, асабліва бяднейшае, пры падыходзе рускіх войск схілялася на бок Масквы. Так было ў Чавусах, Полацку, Крычаве, Оршы, Дзісне, Капылі, Новым Быхаве. 24 жніўня 1654 г. жыхары Магілёва адчынілі вароты атраду рускіх стральцоў і беларускаму палку. М. Ваяйкоў у той жа дзень дакладаў цару, што «меня, холопа твоего, и полковника Константина Поклонского могилевцы всяких чинов люди встречали честно, со святыми иконами пустили в город»[52].

У 1654 г. акрамя вышэйназваных гарадоў войскамі А. Н. Трубяцкога, В. П. Шарамецева і казакамі М. Залатарэнкі былі ўзяты Друя, Мсціслаў, Галаўчын, Віцебск, Гомель, Шклоў, Рэчыца, Прапойск і інш. За асобныя населеныя пункты, дзе

стаялі буйныя гарнізоны і меліся ўмацаванні, вяліся цяжкія баі. Гомель, у якім знаходзілася двухтысячнае войска, а ў замку «стрелбы и порохов, и запасов немало», казакам удалося захапіць толькі пасля больш чым 40-дзённай аблогі. Не адразу здалася Дуброўна. Стары Быхаў і Слуцк так і не былі ўзяты ні ў 1654, ні ў 1655 гг., нягледзячы на доўгатэрміновую аблогу і неаднаразовыя прыступы.

Гарады, якія былі захоплены сілай, рускім войскам разбураліся, а насельніцтва вынішчалася. Так, пасля здабычы В. П. Шарамецевым Друі (27 чэрвеня 1654 г.) «пана Дроздовского и Масальского... и ратных и всяких людей, которые в городе сидели, побили, и город, и костелы, и дома все пожгли без остатку, чтоб польским людям впредь пристанища не было»[53]. Цяжкі лёс напаткаў і Мсціслаў, які быў захоплены войскам А. Н. Трубяцкога 12 ліпеня 1654 г. Тут «шляхты, поляков и литвы, и иных служилых людей и ксензов и езувитов, и иного их чину побито больши десяти тысеч человек»[54]. Бездакорна быў выкананы ваяводам князем Я. К. Чаркаскім, які ўзяў пасля аблогі Дуброўну, «государевой имянной указ». Згодна з ім «лутчую» шляхту ён павінен быў адаслаць да цара, «а достальную шляхту велеть послать в Тулу, а мещан и уездных людей раздать ратным людям семьями, а город... выжечь»[55]. Разбураны і выпалены былі Рэчыца, Жлобін, Рагачоў, Стрэшын, Горваль. Акрамя разбурэнняў і рабаўніцтва служылыя рускія людзі — дваране і баяры — на занятых тэрыторыях Беларусі займаліся гвалтоўніцтвам і бясчынствамі. Як адзначаюць крыніцы, яны «многих крестьян браки осквернили, также многих девиц растлили... многих жен имали в полон, а мужей секли, чтобы челобитчиков не было»[56].

Бясчынствы над мясцовым насельніцтвам казацкай старшыны і рускага камандавання, якія выконвалі волю цара, натуральна, мянялі адносіны жыхароў Усходняй Беларусі да маскоўскага войска, адбівалі ахвоту ісці пад «царову руку». Прыкладам таму — абарона Старога Быхава, якая здоўжылася на два гады. Вялікае ўражанне на абаронцаў меў лёс гамяльчан: «Быховцы то и говорили, что сколько Золотаренку ни стоять, а ему николи им не сдатца, для того сдались де из воли Золотаренку гомляне, и он де их всех приневолил и учинил вязьнями и отвёз к государю под Смоленск»[57]. Ды які ўжо давер мог быць да царскіх запэўніванняў, калі паўсюдна на захопленых беларускіх землях расійскі люд служылы, дваране і ратныя людзі чынілі жудасныя самавольствы. I ўвага нярэдка не звярталася, ці трымалі абарону жыхары той ці іншай мясціны ад маскоўскага войска, ці сустракалі з хлебам-соллю. Драмы чалавечых лёсаў адлюстроўваліся ў шматлікіх скаргах-чалабітных, якія бесперапынна ішлі на царскае імя. У адной з іх жыхар г. Горы Станіслаў Жарын пісаў: «...в 162-м (1654) году Горы город здаліся на твоё государево имя... И полку твоего государева боярина и вояводы, князь Якова

Куденетовича Черкасского рязанец взял в полон женщину мою Аленицу и с детишками моими, с тремя сынишками, да четвертую дочеришко мое да своячиницу мою, Микулеву жену Дубовского Марью саму з детми с четырмя сыновми, да з двумя дочерми, и свёз их к себе в поместье, а по имени, того как рязанцы зовут, того я, холоп твой, не ведаю. Милосердный государь... пожалуй меня, холопа своего, вели, государь, мне о том на Рязань к воеводе дать свою государеву грамоту»[58].

У верасні 1654 г. са скаргай да цара звярнуліся сяляне вёсак Любавіцкага стана Аршанскага павета. У ёй яны пісалі: «Как мы, сироты твои, прослышали твое государево пришествие, и мы, сироты твои, тебе, государю, с хлебом и с солью били челом. А ныне у нас, сирот твоих женишка и детишка все без вести распропали, потому что побрали твои государевы ратные люди и развезли по разным полкам и к тебе государю под Смоленск, а животишка, статки все у нас и скотину и хлеб поимали, и домишка пожгли, скитаемся по лесам наги и боси, сидим на пепелище, с холоду и голоду в конец погибли и разорены до основания, а тех своих женишек и детишек, без твоего государева указа и без грамоты, по твоим государевым таборам и по боярским по всем полкам, под Дубровною и по селам и по деревням искать не смеем, везде нас бьют. Милостивый государь... пожалуй нас сирот своих... вели, государь, нам бедным дать свою государеву грамоту, и вели, государь, нам женишек и детишек искать здесь под Смоленском по всем таборам и в Оршанском уезде у бояр по всем полкам у ратных людей и в Любицком стану, по селам и деревням беспенно, чтоб женишка и детишка наши без вести вечно не пропали»[59].

Лавіна чалабітных прымусіла Аляксея Міхайлавіча звярнуць увагу на становішча ва ўсходнебеларускіх раёнах. Ад яго імя была выдадзена грамата, па якой вайсковым ваяводам у запаведных мясцінах, г. зн. тых раёнах, што добраахвотна перайшлі на бок Расіі[60], забаранялася «грабить животину и лошади имать, также и не жечь, и никакова бы насильства» чыніць, бо ўжо з прычыны неймавернага гвалту «многие мужики изменяли, целовав крест»[61]. Сапраўды, маецца шэраг сведчанняў, што ўжо ў 1654 г. назіраліся выпадкі, калі сяляне, якія прысягнулі на вернасць маскоўскаму гасудару, пайшлі на здраду і стварылі ўзброеныя атрады для самаабароны. Іх удзельнікі ў афіцыйных дакументах таго часу называліся шышамі, і царызм вёў з імі, як здраднікамі, рашучую барацьбу.

Такім чынам, становішча простага люду — сялян і гараджан — з прыходам рускіх ратных людзей не палепшылася, хутчэй наадварот — пагоршылася. Грабяжы, самавольствы, палон не маглі не адбіцца адмоўна на адносінах мясцовага насельніцтва да царскай улады, не выклікаць у яго супрацьдзеяння, якое істотна паўплывала на палітычную сітуацыю ў занятых рускімі войскамі раёнах, і ў краі-

не ў цэлым, а таксама на ход ваенных дзеянняў і, не выключана, на вынік вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай.

**Контрнаступленне войск ВКЛ.** У канцы 1654 г. войска ВКЛ, якое прыйшло ў сябе пасля шэрага паражэнняў, пачало рыхтавацца да контрудараў. Галоўнай яго задачай было авалоданне гарадамі, што былі страчаны ў Верхнім Падняпроўі: Новым Быхавам, Магілёвам, Шкловам, Смаленскам, а затым рушыць на Маскву. Разам з тым было вырашана адначасова пачаць наступленне ў раён Віцебска, Полацка, Дзісны, каб вызваліць гэтыя і іншыя гарады Падзвіння, якія раней былі заняты рускім войскам[62].

Але галоўным стратэгічным напрамкам былі Новы Быхаў, Магілёў. Для дасягнення гэтай мэты асноўныя сілы войска ВКЛ на чале з гетманамі Я. Радзівілам і В. Гансеўскім сцягваліся да р. Бярэзіны. Большая частка рускай арміі пасля авалодання Усходняй Беларуссю пайшла да вясны на зімовыя кватэры, пакінуўшы толькі ў буйных гарадах нешматлюдныя гарнізоны. Гэта дало магчымасць шматтысячнаму войску Я. Радзівіла і В. Гансеўскага перайсці Бярэзіну і практычна беспераШкодна ў кастрычніку 1654 — студзені 1655 г. заняць Барысаў, Бабруйск, Талачын, Капысь, Глуск, Оршу і інш.

На шляху сваім войска ВКЛ, як і ў недалёкім мінулым маскоўскія ратныя людзі, пакідала выпаленыя і разрабаваныя вёскі, мястэчкі, гарады. Падвергліся знішчэнню ў першую чаргу тыя населеныя пункты, якія перад гэтым перайшлі на бок Расіі. Ужо 25 верасня 1654 г. К. Паклонскі дакладваў царскаму ўраду, што «ляхи, собравшиеся на сее сторону р. Березины, переправляются и крестьян православной веры в дву местех, в Бобруйску и в Свислочи, по той стороне высекли»[63]. У сярэдзіне кастрычніка жлобінскі войт паведамляў у Магілёў, што «польское войско как могло, наипаче же, укрепя великие загоны, нашествия мучительские чинят людем, рубят городы и деревни от основания искореняют»[64].

Мясцоваму насельніцтву нічога іншага не заставалася, як падначаліцца ваеннай сіле, у дадзеным выпадку войску ВКЛ. Часамі яно прыхільна ставілася да прыходу шляхецкага войска, бо не забывалася на масавае рабаўніцтва і ўгон беларусаў у маскоўскі палон служылымі рускімі людзьмі. Асобныя гарады і многія вёскі, якія прынялі раней рускае падданства, здраджвалі сваёй прысязе і добраахвотна пераходзілі на бок войска ВКЛ. Так, у допісе смаленскага ваяводы Г. Г. Пушкіна цару Аляксею Міхайлавічу ад студзеня 1655 г. адзначалася, што «оршанские... посацкие и уездные люди заворовались и от тебя, государь, отложилися, и заставы от себя по дорогам поставили крепкие»[65]. Шклоўскія мяшчане ў снежні 1654 г. накіравалі сваіх прадстаўнікоў да Гансеўскага з просьбай даслаць у Шклоў ваенныя атрады, абяцаючы здаць горад, і «готовы с ними заодно стоять»[66].

Насельніцтва некаторых гара-

доў і сяляне, якія здрадзілі гасударавай прысязе, не толькі пераходзілі на бок войска ВКЛ, але і змагаліся ў яго радах супраць рускіх ратных. Ёсць звесткі, што ў атрадзе Валовіча акрамя шляхты налічвалася 4000 сялян, у Бабраўніцкага — каля 3000 мужыкоў[67].

Невядома, праўда, ці не была гэта прымусовая сялянская мабілізацыя, да якой калі-нікалі прыбягала шляхта. Як бы ні было, але на настроі беларускага сялянства і мяшчанства ўплывала тая жорсткасць, з якой абыходзілася расійскае войска з «государевыми изменниками». Шэсць такіх было захоплена на Мсціслаўшчыне, у тым ліку адна жанчына. Аб іх лёсе даносіў цару яго служылы чалавек Л. Ражноў: «Мы, холопи твои, тех языков... пытали и огнем жгли ... и по тем их расспросным и пыточным речам мы, холопи твои, одного крестьянина велели повесить, а достальных, бив кнутьем нещадно и отрезав у них носы и уши, велели послать попрежнему в деревни, чтоб, на то смотря, иным мужиком неповадно было так воровать и в шишах ходить»[68].

Першая сур'ёзная сутычка 24-тысячнага войска Я. Радзівіла і В. Гансеўскага з рускімі ратнікамі адбылася пад Новым Быхавам, дзе стаяў 6-тысячны гарнізон. 4 студзеня 1655 г. пачалася аблога гэтага горада, якая здоўжылася амаль на месяц. Казакі Залатарэнкі не толькі абараняліся, але і рабілі адчувальныя па стратах для войска ВКЛ вылазкі. Так і не дабіўшыся поспеху, Я. Радзівіл і В. Гансеўскі пакінулі каля Новага Быхава значны заслон, а галоўныя сілы скіравалі да Магілёва. Горад пачаў рыхтавацца да абароны загадзя. Занепакоенасць звесткамі аб наступленні войска ВКЛ прымусіла магіляўчан прасіць дапамогі ў маскоўскага ўрада, каб «город Могилев пушками и ратными людми и порохами вспомочи изволил»[69]. У сувязі з гэтым цар наказаў паслаць у Магілёў з-пад Дуброўны акольнічага І. Алфер'ева, а з «солдатцкого строю полковника с полком да голов стрелецких, Аврама Лопухина да Логина Онисьева с приказы» і пушкі,а са Смаленска былі дастаўлены «зелля і свінец»[70]. У канцы снежня ў Магілёў увайшоў полк К. Паклонскага. Недзе ў гэты ж час чакаўся і атрад князя Ю. Рамаданаўскага, які быў накіраваны з Вязьмы. Але да Магілёва ён не дайшоў, бо вымушаны быў павярнуць да Шклова, дзе сутыкнуўся з пяццю харугвамі войска ВКЛ. У баі «польские и литовские люди» разбілі тры роты, адбілі абоз і ўзялі ў палон 163 чалавекі Рамаданаўскага[71].

Тым не менш Магілёў, які за гэты час значна палепшыў сваё ўмацаванні (былі збудаваны некалькі башняў і пастаўлены надоўбы) і назапасіў правіянту, быў падрыхтаваны да аблогі.

Гетман ВКЛ Я. Радзівіл адводзіў Магілёву выключна важнае значэнне не толькі ў стратэгічных, але і ў палітычных адносінах. Ён бачыў гэты населены пункт «сталіцай бунтаў у Літве»[72]. Узяцце Магілёва ліквідавала б асноўную базу казацтва на Беларусі, што дало б магчымасць

войску ВКЛ адваяваць падзвінскія беларускія гарады і развіць далейшае контрнаступленне.

2 лютага 1655 г. войскі Радзівіла і Гансеўскага колькасцю каля 20 тыс. «боевого люду» і 10 тыс. абозу падышлі да Магілёва. Пачалася аблога горада. На наступны дзень, 3 лютага, гетманы ВКЛ перадалі абаронцам ліст з прапановай спыніць супраціўленне і здацца. У адказ гарнізон Магілёва і гараджане «все сопча до обороны и бою ударили». Не вытрымаўшы рашучага адпору, войска ВКЛ «проч от города за несколько миль отступили»[73].

У гэты ж дзень на дапамогу магілёўскаму гарнізону прыбыў са Шклова полк Г. Фанстадэна колькасцю 1500 чалавек. Цяпер ратных людзей і казакоў беларускага палка, якія абаранялі горад, налічвалася каля 7000 чалавек. 6 лютага Радзівіл і Гансеўскі зноў падышлі да Магілёва і абклалі горад. Магіляўчане падрыхтаваліся да абароны. Але здарылася непрадбачанае. К. Паклонскі разам з магілёўскай і іншых гарадоў шляхтай адчыніў вароты і даў магчымасць гетманскаму войску ўвайсці ў вялікі земляны вал з Зарэцкага боку ў Лупалаўскую слабаду. Ды і ў меншы вал «хотел обманом въехать и литовских людей с собой ввести»[74]. Аднак асноўная маса казакоў не пайшла за Паклонскім. Да яго далучыліся «сотников 4 человека, да ляхов и мещан кричевских с 400 человек»[75]. Замест Паклонскага камандаванне беларускім палком прыняў былы сотнік Павел Акуркевіч[76].

Але здрада Паклонскага цару ўсё ж не дазволіла войску ВКЛ авалодаць Магілёвам. Пасля жорсткіх сутычак у вялікім земляным валу, на Дняпры і р. Дубровенцы гетманскім злучэнням прыйшлося адысці. Страты абодва бакі панеслі значныя. Загінула болей 300 рускіх салдат і каля 1000 казакоў беларускага палка. Па сведчанню ж шляхціца, які здрадзіў Радзівілу, з пачатку аблогі і да 24 лютага «государавы люди радзивиловых людей побили тысячи с три»[77].

Аднак войска ВКЛ не страціла надзею захапіць Магілёў. Аблога працягвалася. Неаднойчы рабіліся прыступы, падкопы, падрывы. Разам з ваеннай зброяй прымянялася зброя ідэалагічная. Да магіляўчан звярталіся слуцкі архімандрыт Феадосій і былы паплечнік Паклонскі: «Закаменелыя сердца ваши,— пісаў архімандрыт,— что, признавая власть митрополита, от которого я приехал, чтобы вас уговорить, не хотите опомниться». Паклонскі даводзіў да жыхароў горада: «С Москвой нам не вековать... чего вы ждёте? Умираете, а государю своему королю поклониться не хотите»[78].

Адказам на заклікі былі вылазкі «на день по дважды и по трижды», якія наносілі адчувальныя страты войску ВКЛ.

Але становішча абаронцаў штодня пагаршалася. Не хапала правіянту, вады. Пачаліся эпідэміі, якія забіралі куды больш жыццяў абаронцаў, чым баявыя дзеянні. Так, у адпісцы да Масквы стралецкага галавы паведамлялася: «На приступах побито до смерти стрельцов 19 человек,

ранено 24 человека, померло в осаде 95 человек. А ныне ... со мною... 290 человек, и из тех многие от осадные нужи оцынжали и лежат больны»[79].

Але баявы дух абаронцаў было не зламаць. Аб гэтым сведчаць хаця б словы палкоўніка войска гетмана Радзівіла В. Васілеўскага, які перайшоў на бок Масквы: «...оне (г. зн. абаронцы.— *В. М.*) в Могилеве сели насмерть, и взятьем... их взять... не мочно»[80].

Апошняя спроба авалодаць Магілёвам войскам Радзівіла і Гансеўскага была зроблена 1 мая. Але і яна не прынесла поспеху. Магчымасці працягваць аблогу гетманскія харугвы больш не мелі з прычыны небяспекі прыходу пад Магілёў казакоў Залатарэнкі. Таму пасля апошняга няўдалага прыступу Радзівіл «в большом земляном валу дворы попалил и... со стыдом проч отошел»[81] за Бярэзіну.

Ужо 3 мая да Магілёва падаспелі казакі Залатарэнкі пад камандаваннем палкоўніка Е. Каробкі. Ацаніўшы сітуацыю, казацкія атрады выправіліся наўздагон войску ВКЛ і перахапілі яго каля Талачына. У адбыўшайся сутычцы казакі разбілі два палкі войска ВКЛ, захапілі чатыры сцягі і адбілі каля 2000 захопленых у палон жыхароў Магілёва[82].

Трохмесячная абарона Магілёва рускімі ратнымі людзьмі сумесна з мясцовым насельніцтвам адыграла вялікую ролю ў ходзе далейшых ваенных аперацый 1655 г. Яна сарвала планы контрнаступлення войска ВКЛ, на доўгі час скаваўшы яго значную сілу пад Магілёвам.

Адначасова з контрнаступленнем у Падняпроўі пачаліся наступальныя аперацыі войска ВКЛ і ў Падзвінні, галоўным чынам у раёне Віцебска, Полацка і Дзісны. Сюды, як ужо адзначалася, былі накіраваны атрады шляхты пад камандаваннем князя Лукомскага і Лісоўскага. Як і для жыхароў Падняпроўя, праходжанне шляхецкага войска цераз падзвінскія землі несла яе насельнікам рабаванні і гвалт. У адпісцы полацкага ваяводы Д. Даўгарукава рускаму ўраду паведамлялася: «...литовские люди приходят беспрестанно, и Полоцкий и Дисенский уезды воюют, и всякие хлебные запасы и сена возят, и крестьян мучают и жгут и в полон емлют, и деревни разоряют»[83].

Войска ВКЛ рабіла неаднаразовыя спробы авалодаць Віцебскам, Полацкам, Дзісною. Але, нягледзячы на нешматлікасць рускіх гарнізонаў у гэтых гарадах, мэта не была дасягнута. Больш таго, войску ВКЛ быў нанесены значны ўрон. У студзені 1655 г. каля Віцебска рускімі ратнымі быў разбіты атрад князя Лукомскага і адбіты абоз у 300 вазоў. Значныя страты пад Дзісною былі і ў атрада Лісоўскага[84]. Растлумачыць гэтыя няўдачы можна непадрыхтаванасцю паходу, аб чым сведчыць малалюднасць шляхецкага войска, якая і стала перашкодай для паспяховых ваенных дзеянняў.

Аднак дадатковыя цяжкасці для маскоўскай арміі прынеслі шышы, з якімі ёй прыйшлося змагацца. Упершыню шышы

План Віцебска 1664 г.

на тэрыторыі Беларусі памінаюцца ў запісе прыказа Тайных спраў 21 чэрвеня 1654 г. Там адзначаецца, што ў маі гэтага года ратныя полацкага ваяводы Д. Даўгарукава каля вёскі Калодкіна сутыкнуліся з шышамі. У выніку «тех шишей побили с 300 человек и языков многих и барабаны поимали, да взяли три знамени... А по скаске взятых языков было тех шишей с 600 человек»[85].

Найбольш актывізаваўся рух шышоў падчас наступу войска ВКЛ. Усю тэрыторыю Падзвіння ён не ахапіў, але ў асобных месцах быў значным. У прыватнасці, у вёсцы Азярышча Полацкага павета. Крыніцы адзначаюць, што ў студзені 1655 г. атрад азярышчынскіх «шышоў» «воеводу связали и отослали к Радзивилу, и солдат наших (рускіх ратных.— *В. М.*) порубили 36 человек»[86]. Факт гэты характарызуе не толькі варожыя адносіны сялян в. Азярышча да рускіх служылых людзей, але сведчыць аб сувязях іх з камандаваннем войска ВКЛ. У царскай грамаце думнаму дваранін[у] А. Мацвееву ад 23 студзеня 1655 г., дзе даецца ацэнка ваенна-палітычнага становішча на Беларусі, указваецца, што «и из Витебска многия почали изменять», и «Любавицкие мужики изменили и воеводу Алексея Рожкова отдали ... людям польским»[87].

Згаданыя прыклады сведчаць аб даволі складанай ваенна-палітычнай сітуацыі, якая ўзнікла на беларускіх землях падчас контрнаступлення войска ВКЛ

Практычна пачаў праглядацца працэс раздвоення ў адносінах народных мас Беларусі да ваюючых бакоў. Калі на пачатку ваенных дзеянняў у 1654 г. праваслаўнае насельніцтва Усходняй Беларусі ў сваёй большасці прыхільна сустракала рускую армію, то ўжо перад канцом гэтага года і на пачатку наступнага жыхары асобных гарадоў і частка сялянства, якое прыняло рускае падданства, пачалі здраджваць гасудару і пераходзіць на бок войска ВКЛ. Працэс гэты быў абумоўлены шэрагам абставін, і перш за ўсё жорсткасцю маскоўскага ўладара да беларусаў, не прыняўшых прысягі на вернасць яму, самавольствамі і рабаваннямі насельніцтва з боку служылых людзей, дваранства і дзяцей баярскіх.

Такім чынам, агульны вынік контрнаступлення для войск ВКЛ быў практычна безвыніковым. Ні Новы Быхаў, ні Магілёў, як планавалася, не былі адваяваны. Трохмесячнае супрацьстаянне пад Магілёвам скончылася на карысць абаронцаў. Гетманы Я. Радзівіл і В. Гансеўскі са сваімі харугвамі былі вымушаны адысці. А ўжо летам 1655 г. у наступ перайшло рускае войска.

**Летняя кампанія рускіх войск 1655 г.** Яна пачалася даволі ўпэўненым наступленнем рускай арміі, а таксама казакоў на чале з наказным гетманам І. Залатарэнкам. У маі — ліпені былі ўжо ўзяты не толькі многія тыя гарады, якімі авалодалі злучэнні Я. Радзівіла ў час зімовага і вясенняга контрнаступлення, але і іншыя, у тым ліку сталіца ВКЛ г. Вільня.

Наступленне суправаджалася жорсткай расправай як са сваімі праціўнікамі, з так званымі здраднікамі, што парушылі прысягу на вернасць цару, так і ўвогуле з мірным насельніцтвам. У сувязі з гэтым жыхары многіх гарадоў вымушаны былі здавацца, каб аберагчы сябе ад расправы, а горад ад разбурэння. У маі аддаліся рускім ратным людзям Копысь, Орша, Крычаў, Новы Быхаў. Здаваліся нават цэлыя паветы. 12 мая 1655 г. І. Залатарэнка даносіў гасудару, што на бок Расіі зноў перайшлі Чавускі, Чэрыкаўскі, Мсціслаўскі і Крычаўскі паветы[88].

Тыя ж гарады, якія спрабавалі наладзіць супраціўленне, ушчэнт спусташаліся, а іх насельніцтва рабавалася і знішчалася. У г. Свіслачы, які захапілі «через мечь», казакі «под мечь пустили» ўсіх «неприятелей и недругов» гасудара, а «самое место и замок огнем без остатку сожгли»[89]. Тое ж самае здарылася з Бабруйскам і Кабыльяй Слабадою, што былі ўзятыя казакамі з боем: усіх, колькі было там «служилого люду, поляков и немец, под мечь пустили, а городы абодва без остатку попалили, чтоб вперед не было при чом держатися врагом и недругом» цара[90]. Той жа лёс напаткаў і г. Глуск. У лісце цару І. Залатарэнка паведамляў, што горад, «добывши, огнем выпалили, много врагов и недругов вашего царского величества, там пребываючих, под мечь подклонили»[91].

Разбурэнням падвяргаліся нават і тыя населеныя пункты, насельніцтва каторых прыязна ставілася да рускіх ратных лю-

дзей. Так, у сваіх скаргах цару сяляне вёсак Нераш, Забораў, Буда, Садзержычы, Бяленева, Пясошні, Нізкі Пасад Віцебскага павета пісалі: «мы сироты твои крестьянишка ныне за тобою, великим государем, и тебе, государь, мы крест целовали. И которые, государь, ратные люди разных чинов заезжают к нам в те места в село загоном и нас бедных бьют и увечат и достальные животишка грабят, лошади и животину отогнали и хлеб потолочили, и нас пытают и жгут и саблями рубят, а иных до смерти изрубили; и женишек и дочеришек позорят. И мы, бедные сироты твои государевы, ныне кои достальные крестьянишка в деревнишках по домишкам жить не смеем и збегаем по лесам. Милосердый государь царь и великий князь Алексей Михайлович... пожалуй нас бедных сирот своих, вели, государь, в те наши места, в села и деревни, дать нам, сиротам своим, для береженья на всю волость приставов, чтоб нас оберегали ото всяких воинских загонных людей, чтоб нас и достальных не разогнали и остатку не разнесли и не били бы, и не рубили, и женишек и детишек не позорили, и чтоб нам в поле хлеб свой ржаной и яровой попрятать, чем впредь сытым быть. Царь государь, смилуйся, пожалуй»[92].

Аб самавольствах рускіх служылых людзей і казакоў падчас наступлення 1655 г. сведчаць шматлікія крыніцы. Так, у адной з адпісак цару «приказного человека» А. Новікава паведамляецца аб разрабаванні імі талачынскіх сялян. У ёй гаворыцца, што «служилые люди русские и черкасы без пристани идут, рожь травят и сухари по деревням и лошади грабят и от того многие белорусцы разбежалися... Рожь стоячую и молоченую потолочили во всех местах десятин с 50. А иную рожь молоченую и сухари в деревнях всю пограбили и пожгли... Да в толочинских же, государь, деревнях и в селе Словени взял насильством Федор Степанов... крестьян многих с женами и з детьми и лошади и животину поимал»[93].

На дзяржаўную аснову было пастаўлена гвалтоўнае перасяленне беларускага насельніцтва ў Расію. Рускія служылыя людзі гналі ў палон беларусаў, прычым масава, што вынікае з адпіскі акольнічага Ф. К. Елізарава цару. У ёй чытаем наступнае: «По твоему государеву указу велено мне... быть на заставе в О... и переписывать, и смотре... ратных людей полон, кот... ратные люди имали... и я... на заставе у ратных людей полон осматриваю и переписываю. А иными, государь, многими дорогами, не замаючи Орши, многие ратные люди идут и полон ведут. А мне, холопу твоему, на те разные дороги на заставу послать некого... И мне... в том от тебя государя в опале не быти»[94].

Вывозілі не толькі сялян, *шляхту, але і рамеснікаў*. Толькі з аднаго Шклова ў Маскву за час вайны было пераселена 17... сем'яў рамеснікаў і 25 сем'яў службовых людзей[95]. Насельніцтва адсылалі ў розныя раёны Расіі, нават самыя далёкія — у Сібір. Ва ўрыўку, які захаваў-

ся, «Спіса беларускіх сялян і шляхты, сасланых у 1655 г. з захопленых гетманам І. Залатарэнкам беларускіх гарадоў у Сібір», сярод іншых адзначаецца: «2 человека померли, а достальные 3 человека ис Шклова посланы в Смоленск, а ис Смоленска к Москве, а с Москвы велено послать на Лену в пашенную. Июня 4 день прислал ис Шклова Василей Яковлев 2 мужиков, и посланы они в Смоленск, а ис Смоленска к Москве, а с Москвы велено послать на Лену в пашенные. Июня в 11 день прислал Иван же Золотаренок шляхты 5 человек, челядников 3 человека и посланы в Смоленск, а ис Смоленска к Москве, а с Москвы на Лену в дети боярские»[96].

На скаргі і адпіскі службовых асоб цар быў вымушаны рэагаваць, каб не дапусціць пашырэння незадаволенасці сярод беларускага сялянства. У падобных выпадках ён накіроўваў вайсковаму камандаванню і казакам граматы, дзе, як правіла, асуджаў недазволеныя, гэта значыць здзейсненыя без царскага ўказа, дзеянні. Так, у грамаце казацкаму гетману І. Залатарэнку ад 17 ліпеня 1655 г. Аляксей Міхайлавіч пісаў: «Ведомо нам ... учинилось, что твоего полку казаки места, и села и деревни жгут, и женский пол и девиц и малых робят секут и побивают до смерти. И тебе б своего полку казакам учинить заказ крепкой, под смертной казнью, чтоб мест и сел и деревень не жгли и не пустошили, для того, что нам великому государю, нашему царского величества ратми в здешних местах зимовать, а также и крестьян, которые нашим царского величества ратным людем не противны, не побивали до смерти, и женского полу и девиц и малых робят нигде не секли и не побивали до смерти»[97].

Здаралася, такога тыпу ўказы і граматы цар па розных матывах рассылаў загадзя. Напрыклад, калі ён накіроўваў 12 ліпеня 1655 г. ратных людзей у паход за раку Бярэзіну і на Вільню, то загадваў камандаванню і ўсім служылым людзям вёсак: «не жечь, для того, што те деревни вам же пригодятца на хлеб и на пристанище»[98].

Асобным гарадам і паветам, якія не аказвалі супраціўлення наступаючаму рускаму войску, Аляксей Міхайлавіч выдаваў ахоўныя граматы, згодна каторым ваяводы павінны былі аберагаць гэтыя тэрыторыі ад рабаўніцтва з боку ратных людзей. У адной з такіх грамат ад 3 мая 1655 г. прадпісвалася ваяводам Рамаданаўскаму і Ваейкову зрабіць «заказ крепкой» ратным, «чтоб они копышчанам и Копышевского у. всяких чинов людей», якія па сваёй волі перайшлі на бок Расіі, «убойства и грабежу и налоги никакие не чинили». Ахоўная грамата, выдадзеная 23 мая жыхарам г. Новага Быхава і навакольных вёсак за іх добраахвотны пераход пад царскую руку, абавязвала І. Залатарэнку аберагаць іх «ото всяких обид и насилия», каб ім ад рускіх ратных людзей «никакова разоренья и тесноты не было»[99].

Указамі ды шматлікімі лжывымі абяцаннямі Аляксей Міхайлавіч спадзяваўся схіліць

беларускае насельніцтва да пераходу ў рускае падданства. Але так было ў асноўным да дасягнення галоўнай мэты ў наступальнай расійскай кампаніі лета 1655 г.— авалодання Вільняй. 31 ліпеня 1655 г. сталіца Вялікага княства Літоўскага была захоплена. І тады царызм выявіў свае сапраўдныя агрэсіўныя планы. Яны асабліва яскрава паўсталі падчас паходу рускай арміі пад камандаваннем А. Трубяцкога ў заходнія раёны Беларусі ў жніўні — верасні 1655 г. Накіроўваючы сюды 18 жніўня шматлікае войска, цар Аляксей Міхайлавіч загадаў А. Трубяцкому ісці з-пад Старога Быхава да Слуцка і прапанаваць гораду здацца на царову ласку. А калі ён на працягу 2—3 дзён не скорыцца, рушыць далей — да Слоніма і «вверх по Неману реке по обе стороны и те места воевать, села и деревни и хлеб и сена и всякие конские кормы жечь, а людей побивать и в полон имать и со всем без остатку разорять»[100]. Больш таго, каб як мага шырэй ахапіць раён разбурэння, гасудар указаў вяртацца іншым шляхам, «итти целыми, жилыми месты», г. зн. цераз неспустошаныя раёны, і «потому ж велети воевать села и деревни, и хлеб и сена жечь и людей побивать и в полон имать»[101].

На ўсю гэту варварскую аперацыю Трубяцкому даваўся тэрмін да 10 верасня, пасля чаго ўсяму яго наму войску неабходна было вяртацца да Магілёва і «идучи к нему до основания разорить, выжечь весь Слуцкий уезд»[102].

Усе загады Трубяцкі выконваў бездакорна. У адпісцы да цара ён паведамляў: «по твоему государеву... указу пришли мы, холопи твои, со всеми твоими государевыми ратными конными и пешими людьми к Слуцку августа в 23 день... А пришод, государь, под Слуцк... посылали мы, холопи твои, дворян городцким людем говорить, чтоб они твоей государской милости поискали, тебе великому государю добили челом и город Слуцк здали... И городецкие, государь, люди Фреем Петерсон губернатор и всякие градцкие люди... во всем отказали, что де они тебе великому государю добить челом не хотят и города Слуцк не здадут. И мы, холопи твои, велели слуцкие посады и слободы все выжечь при себе. И по твоему государеву ... указу пошли мы, холопи твои, ис-под Слуцка со всеми твоими государевыми ратными с конными и пешими людьми к Слониму августа в 26 день. А идучи, государь, дорогою, села и деревни и хлеб и сено и всякие конские кормы мы, холопи твои, по обе стороны жгли и людей побивали и в полон имали, и разоряли совсем без остатку, и по сторонам потомуж жечь и разорять посылали.

И августа ж, государь, в 30 день... посылал я, холоп твой... к городку Мыше товарищей своих боярина и воеводу князя Юрья Алексеевича Долгоруково да окольничего и воеводу Семена Ортемьевича Измайлова... со всеми твоими государевыми ратными людьми ... и пришли к городку Мыше августа 31 день и милостию, государь, божиею литовских людей, кото-

рых застали, побили и языков взяли многих людей и городок Мыш выжгли и совсем разорили без остатку. А идучи, государь, к городку Мыше товарищи мои боярин и воевода князь Юрья Алексеевич и окольничий Семен Ортемьевич с твоими государевыми ратными людьми заходили к городу Ляховичам и посады и слободы около города Ляхович выжгли, и которых, государь, литовских людей застали в посаде и в слободах, и тех побили, и языков поимали.

Да товарищи ж, государь, мои, холопа твоего Алешкины, боярин и воевода князь Юрья Алексеевич Долгоруково и окольничей и воевода Семен Ортемьевич Измайлов, идучи из Новой Мыши ко мне, холопу твоему Алешке, к Клецку с твоими государевыми ратными людьми заходили к городку Столовичам и литовских людей, которых в Столовичах застали, побили и поимали и городок Столовичи высекли и выжгли и совсем разорили без остатку. А в языцех, государь, в том походе взято литовских людей шляхты и мещан 32 человека, отобрав лутчих, а дастальных языков велели посечь.

А я, холоп твой Алешка, со всеми пехотными полки стоял обозом у города Клецка. А по твоему государеву указу велел я... товарищам своим с твоими государевыми людьями от Клецка итти войною до Слонима жилыми и невоеванными месты розными дорогами и велел им те места воевать и людей побивать, и в полон имать, и села и деревни и хлеб и сено и всякие конские кормы жечь и со всем без остатку разорять. А в войне, государь, велел я, холоп твой Алешка, товарищем своим быти сентября по 10-е число, а с сентября, государь, з 10-го числа велел им из войны итти к себе к Клецку жилыми ж и невоеванными месты розными ж дорогами, и те, государь, места потому ж велел им воевать, села и деревни и хлеб и сено и всякие конские кормы жечь и людей побивать и в полон имать и совсем без остатку разорять.

И по твоему государеву... указу товарищи мои... с твоими государевыми ратными людьми, идучи к Слониму, город Мир и иные городки и места и села и деревни по разным дорогам и хлеб и сена и всякие конские кормы выжгли и людей побивали и в полон имали и совсем разоряли без остатку. А пришод, государь, к Слониму, в городе Слониме литовских людей, которых застали, посекли и город Слоним и слободы и Журавицкой (Жировичский) унеяцкой монастырь каменой город и около Журавицкого монастыря слободы и иные унеяцкие монастыри и костелы выжгли и людей побивали и в полон имали и совсем разоряли без остатку ж, и многие места и села и деревни и за Слоним верст по 20 и больши выжгли ж и разорили и воевали сентября по 10-е число. А назад, государь, от Слонима шли товарищи мои... к Клецку иными розными месты и те, государь, места потому ж воевали, жгли и людей побивали и в полон имали и совсем разоряли без остатку»[103].

Пададзены дакумент яскрава адлюстроўвае антынародную, рабаўніцкую палітыку царызму на Беларусі. Паход Трубяцкога быў наладжаны з уяўнай мэтай разбурэння беларускіх гарадоў і вёсак, сплюндравання краю, вынішчэння жыхарства, забрання ў палон людзей для выкарыстання ў якасці дармовай рабочай сілы. Менавіта такая, а не іншая задача ставілася перад Трубяцкім гасударом.

Нешта падобнае на паход Трубяцкога, толькі ў меншых маштабах, адбылося на поўдні Беларусі. 1 верасня 1655 г. кіеўскі ваявода **Ф. Ф.** Валконскі па загаду цара накіраваў у гэты раён войска на чале з князем Дзмітрыем Валконскім «для промыслу над литовскими городами»[104]. «Промысел» гэты працягваўся больш чым паўтара месяца, у выніку чаго ратныя людзі спалілі тры гарады — Пінск, Столін і Давыдаў, якія аказалі ім супраціўленне[105]. Тураў, Кажан-Гарадок і Лахва здаліся без бою. Мяшчане гэтых гарадоў, па згадцы ваяводы, выходзілі насустрач войску і «били челом... чтоб государь их пожаловал, не велел их побивать»[106]. Усе яны былі прыведзены «ко кресту»[107]. Характэрна, што на просьбу жыхароў Турава, Лахвы і Кажан-Гарадка пакінуць там ратных людзей «от Литвы оберегать» князь Валконскі адказаў, што зрабіць тое не можа, бо «о том ему... государева указа нет»[108]. Значыць, указ быў дадзены толькі разбурыць тыя населеныя пункты, што не скараліся рускім ратнікам. Такім чынам, і гэты паход на поўдзень Беларусі меў на мэце не захоп названых вышэй гарадоў, а хутчэй за ўсё запалохванне насельніцтва і адкрытае яго рабаўніцтва.

Гэтыя два разбуральныя рэйды напачатку далі свае станоўчыя вынікі для вядзення паспяховых баявых дзеянняў на беларускай тэрыторыі велізарнай рускай арміяй і казакамі І. Залатарэнкі. У жніўні — кастрычніку 1655 г. імі былі захоплены Гародня, Ліда, Наваградак, Іўе, Карэлічы, Нясвіж, Стоўбцы ды інш. Да канца года пад Расіяй аказалася амаль уся Беларусь.

**Палітыка царызму і настроі грамадства.** Ваенныя поспехі рускага войска, агрэсіўная грабежніцкая палітыка царскага самаўладства на акупаванай беларускай зямлі, масавы ўгон у палон жыхароў гарадоў і вёсак мелі велізарны ўплыў на ўсе слаі грамадства. Дастаткова шматлікая беларуская, польская, літоўская як каталіцкая, так і праваслаўная шляхта, непакоячыся, што згубіць свае ўладанні на ўжо падлеглай Расіі тэрыторыі, пераходзіла на «рускі» бок, прысягала на вернападданства Аляксею Міхайлавічу. Так, у адпісцы ваяводы А. Нашчокіна з Друі ў Маскву паведамлялася, што паятовая шляхта «хочет служить царю»,і менавіта з той прычыны, «чтобы не потерять старых владеній»[109]. У лістападзе 1655 г. князь Урусаў даносіў у Разрадны прыказ аб жаданні шляхты Гародзенскага, Лідскага і Ваўкавыскага паветаў перайсці ў рускае падданства[110]. 12 лістапада ад гэтых паветаў у Вільню прыбыла дэлегацыя да М. Шахаўскога з лістамі падкаморага

лідскага палкоўніка Якуба Кунцэвіча. У яе складзе былі цівун троцкі князь С. Агінскі, яго сын віцебскі падкаморы К. Агінскі, пісар земскі лідскі Я. Нарбут разам са шляхтаю ў 29 чалавек ды 28 чаляднікамі. Усе яны, як паведамляў у Маскву ваявода, «учинились под твоею высокой рукою, по святой непорочной евангельской заповеди Господней к вере приведены»[111].

Аб пераходзе шляхты ў рускае падданства паступалі звесткі да цара ад ягоных ваяводаў з Дзісны, Глыбокага і іншых месцаў. Гэтаму працэсу ў некаторай ступені садзейнічалі шматлікія абяцанні Аляксея Міхайлавіча падараваць шляхце не толькі ранейшыя ўладанні і пацвердзіць былыя правы ды прывілеі, але і здарыць новымі маёнткамі, прадаставіць ільготы ў павіннасцях і г. д. Тым больш шляхта, памятаючы пра «казаччыну», усё яшчэ мела спадзяванні на тое, што царскія ўлады змогуць аберагчы яе ад сялянскіх хваляванняў.

Але акрамя згаданых фактаў мелі месца іншыя, далёка не адзінкавыя, калі шляхта адмаўлялася прымаць рускае падданства і пераходзіць на бок Расіі. Таму цару часам прыходзілася прымушаць яе сілай «цалаваць крыж», г. зн. прымаць вернападданніцкую прысягу. Так паступіў Аляксей Міхайлавіч, напрыклад, са шляхтай ды іншым насельніцтвам Віленскага і другіх блізкіх да сталіцы паветаў у кастрычніку 1655 г. Па яго загаду ваявода М. Шахаўскі абавязаны быў заклікаць шляхту, мяшчан, сялян, «чтоб они шли и были под государскою высокою рукою». Хто ж таго не пажадае зрабіць, тады «служылыя рускія людзі» павінны былі дастаўляць «непаслухмяных» у Вільню і трымаць у вязніцы да асобага царскага распараджэння. Частка шляхты адгукнулася на «памяти» Шахаўскога і была «к вере приведена». Але «и тех много» было, якія «к государской милости не идут», даносіў у Маскву ваявода. І тут жа зазначаў, што «до государева указу держать их в Вильне в тюрьме ... негде, и кормить будет нечем»[112]. Нечаканая для Аляксея Міхайлавіча шматлікасць «непослушников» прымусіла яго трымацца іншай тактыкі ў адносінах з мясцовай шляхтай. Цяпер ён загадвае М. Шахаўскому шляхту, мяшчан «и впредь призывать и государскою милостью обнадеживать и старыя их маетности им отдавать, и к ним ласку, и береженье и привет делать»[113].

Як відаць, цар рабіў розныя захады, каб схіліць большасць шляхты на свой бок, падначаліць яе сваім інтарэсам, стварыць сабе ў заваяваным краі надзейную сацыяльную апору. Аднак дасягнуць гэтай мэты не змог. Многая шляхта так і не прыняла рускага падданства. Больш таго, некаторая яе частка, што раней прыняла бок Расіі, пачала здраджваць сваёй прысязе. «Здраднікі» ішлі ў шляхецкае апалчэнне, стваралі ўзброеныя атрады, куды прыцягвалі, падчас і сілай, сваіх падданых сялян, ды выступалі супраць рускіх ратных людзей, рускай адміністрацыі, супраць «присяжной» шлях-

ты, г. зн. той, якая заставалася вернай цару. Працэс гэты актывізаваўся з восені 1655 г., а ў наступныя 1656—1658 гг. значна ўзмацніўся.

Яшчэ ў большай ступені так званая здрада ахапіла асноўную масу насельніцтва Беларусі — шматпакутнае сялянства, на якое абрынуліся ўсе нягоды вайны. Ратуючыся ад рабаўніцтва, гвалту, палону, сяляне ішлі ў лясы, далучаліся да ўкраінскіх казакоў І. Нячая, стваралі свае казацкія атрады і са зброяй выступалі супраць акупацыйнай улады і ўсіх тых, хто з ёю супрацоўнічаў.

Такім чынам, адначасна і сярод шляхты, і сярод сялянства ды мяшчанства пачаўся працэс здрады прысязе на вернасць цару. Але паколькі ён не закрануў пагалоўна ўсіх прадстаўнікоў вышэйпералічаных саслоўяў, то на Беларусі адбыўся па сутнасці падзел грамадства на дзве супрацьлеглыя часткі. З аднаго боку былі сяляне, мяшчане і шляхта, што перайшлі на бок Расіі і «цалавалі крыж» Аляксею Міхайлавічу. Другі бок складаўся з тых жа сацыяльных колаў насельніцтва, але не прыняўшых рускага падданства ці здрадзіўшых пасля яго прыняцця прысязе на вернасць маскоўскаму гасудару. Паміж гэтымі бакамі і пачалася ўзброеная барацьба, якая ў выніку прывяла да грамадзянскай вайны, пачатак каторай можна датаваць канцом 1655 г.

Вернападданніцкі Расіі бок, натуральна, падтрымліваў рускі ўрад, яго адміністрацыю на месцах і ваенныя гарнізоны буйных гарадоў, якія складаліся з «прысяжных» — шляхты, сялян, мяшчан і параўнаўча невялікай колькасці рускіх ратных людзей. Асноўныя ж баявыя злучэнні рускага войска былі задзейнічаны ў вайне Расіі са Швецыяй у Прыбалтыцы, што пачалася ў маі 1656 г.

Ваенныя сілы другога боку былі прадстаўлены шышамі, «вараўскімі» казакамі (гэта — здрадзіўшыя цару беларускія сяляне і мяшчане, якія аб'явілі сябе казакамі), «здрадніцкай» шляхтай. Сілы гэтыя аб'ядноўваліся ва ўзброеныя атрады, што ўзначальваліся, як правіла, шляхтай. Кіраўнікамі іх былі, напрыклад, шляхціцы Селіхоўскі, Шалупіна, Юндзіл, Дзеражынскі, Лукомскі, Слонскі, Лісоўскі, Лазоўскі, Храпавіцкі, Падбярэзскі, Ціханавецкі, Янушкоўскі і інш.[114].

«Здрадніцкая» шляхта станавілася на чале «вараўскіх» казацкіх атрадаў перш за ўсё таму, што яна ж сама іх галоўным чынам і стварала: найперш з уласных падданых. Прычым рабілася гэта недзе і ва ўрачыстай абстаноўцы, з шырокім розгаласам. Як адзначае крыніца, калі полацкі шляхціц Казімір Храпавіцкі збіраў «в маетности своей в Полоцком повете и в Бешенковичах казаков под знамя, и в бубны-де он, Казимер, велит бить и в трупки де в Бешенковичах трубить»[115].

Ёсць сведчанні, калі сяляне самі просяць шляхту ўзначаліць іх атрад. Так, напрыклад, зрабілі кадзінскія мужыкі. Яны прасілі смаленскага шляхціца Вярбіцкага, каб ён «был у них сотником», і абяцалі яму: «вскоре-де у тебя

будет нас в приборе с тысячею человек. А знамя де у них и барабан есть»[116]. Відаць, гэта можна растлумачыць тым, што шляхта ведала ваенную справу, заўсёды мела зброю ды сродкі, неабходныя для вядзення вайны. Да таго ж «здрадніцкая» шляхта сама імкнулася да кіраўніцтва сялянска-казацкімі злучэннямі з тым, каб выкарыстоўваць люд просты ў сваіх мэтах. Тым больш што сяляне ў «вараўскіх» атрадах па колькасці заўсёды складалі пераважную большасць. Так, напрыклад, у атрадзе шляхціца Шалупіны з агульнай колькасцю 200 чалавек шляхты налічвалася толькі 30, астатнія — «валасныя мужыкі»[117]. Атрад Лукомскага складаўся з 400 чалавек: «...все-де шляхта разных поветов да волостные мужики»[118]. У Селіхоўскага і Дзеражынскага шляхты было «человек со сто, а то-де все волостные мужики»[119]. Некаторыя харугвы цалкам складаліся з «вараўскіх» сялян. У віцебскага шляхціца Янушкоўскага, напрыклад, у харугве налічвалася «волостных сельских мужиков конных и с бердыши человек с 30, а шляхты-де и никаких людей больши нет никово»[120].

Сумесныя дзеянні шляхты і людзей «простага стану» былі абумоўлены наяўнасцю агульнага ворага: рускіх ратных, царскай адміністрацыі і суайчыннікаў, якія па розных прычынах яе падтрымлівалі. Аднак гэта была часовая лучнасць у барацьбе, якая была выклікана канкрэтнай ваеннай сітуацыяй і якая не выключала рознасць канчатковых мэтаў выступленняў шляхты і сялянства.

Шматлікія архіўныя крыніцы канца 1655—1658 г. сведчаць аб разбуральнай братазабойчай вайне на занятай рускім войскам тэрыторыі Беларусі, аб сутычках паміж атрадамі «вараўскіх» казакоў, шышоў і так званымі «пасылкамі» ваяводаў, у склад якіх уваходзіла «прысяжная» шляхта, казакі (беларускія сяляне, мяшчане), што знаходзіліся на царскай службе, і ратныя рускія людзі. У грамаце Аляксея Міхайлавіча глыбокскаму ваяводзе М. Бешанцаву, напрыклад, адзначаецца, што ў канцы кастрычніка 1655 г. у вёсцы Далгінава Ашмянскага павета «собрались поветовой шляхты и деревенских мужиков тысячи с три и больши, и которые волости нам, великому государю, крест целовали, и те волости разоряли и крестьян мучили и жгли и многих крестьян посекли»[121]. Супраць гэтых «здраднікаў» ваявода накіраваў, «собрав с присяжных волостей служилых казаков и волостных крестьян, которые тех литовских людей побили и разогнали и село Долгиново выжгли»[122].

У кастрычніку — снежні 1655 г. баі з шышамі адбываліся ў розных месцах Барысаўскага, Полацкага і Ашмянскага паветаў[123]. Так, 6 кастрычніка барысаўскі ваявода паведамляў у Разрадны прыказ аб тым, што па яго «посылке ратные люди за рекою Березы людей шишей побили многих, а в языцех взяли 3-х человек»[124].

Разам з баявымі дзеяннямі супраць «присяжной» шляхты і сялян шышы рабілі напады на

невялікія атрады рускіх ратных людзей, не прапускалі і затрымлівалі ганцоў, якіх ваяводы накіроўвалі з данясеннямі і лістамі да цара. Так, віленскі ваявода Шахаўцоў паведамляў у Маскву аб тым, што ў кастрычніку 1655 г. ён выправіў да Аляксея Міхайлавіча з адпіскай луцкіх казакоў. Але цераз тры дні яны мусілі вярнуцца ў Вільню, бо ў лесе за Ашмянамі іх перастрэлі шышы «и по ним стреляли из ружья, и из них трех человек стрелили, да две лошади»[125]. У сувязі з гэтым супраць шышоў былі накіраваны ратныя людзі, якіх у выніку аблавы ў Ашмянскім павеце захапілі ў палон і даставілі ў Вільню 19 чалавек. Усе захопленыя шышы пасля допытаў былі павешаны.

З 1656 г. узброеныя выступленні казацка-сялянскіх атрадаў супраць «присяжных» значна актывізаваліся. Шмат у чым гэта з'явілася следствам дзейнасці І. Нячая, які са студзеня 1656 г. узначаліў усё ўкраінскае казацтва (чаркасаў) на Беларусі. Нягледзячы на тое што І. Нячай, як і яго папярэднік І. Залатарэнка, абавязаны быў поўнасцю падначальвацца волі цара і выконваць усе ягоныя і Б. Хмяльніцкага распараджэнні, гэтага не адбывалася. З самага пачатку дзейнасці на Беларусі новапрызначаны палкоўнік запарожскага войска пачаў праводзіць сваю самастойную палітыку, якая не заўсёды адпавядала, а найчасцей зусім не адпавядала расійскім інтарэсам. У прыватнасці, Нячай імкнуўся папоўніць сваё казацкае войска за кошт беларускіх сялян, мяшчан, а таксама «здрадніцкай» шляхты. Больш таго, разам з гэтым папаўненнем ён вяяваў супраць рускіх ратных і іх прыхільнікаў. Аб гэтым сведчаць шматлікія крыніцы 1656—1658 гг.

Такая дзейнасць палкоўніка Нячая знаходзіла падтрымку сярод значнай часткі насельніцтва Беларусі. Нездарма ў гэтыя гады назіралася масавае «паказачванне» беларускіх сялян, узрасла колькасць «вараўскіх» атрадаў, пашыралася здрадніцтва насельніцтва прысязе, якую яно прымала (нярэдка пад прымусам) на вернасць рускаму гасудару. Баярын ваявода В. Б. Шарамецеў у чэрвені 1657 г. паведамляў у Маскву, што ў Шклоўскім павеце «в твоих государевых (присяжных.— *В. М.*) селах и в деревнях многие мужики учинились казаками». У прыватнасці, «сотник Игнатко Костела к себе написал в казаки многих деревень мужиков; В дер. Чорной сотник Игнатко Слиской написал к себе многих же деревень мужиков; местечко Толочино, да местечко Словен, в обоих местех все мужики учинились казаками, у них сотник Сопрына был, мещанин Словенской. В дер. Вордать, Радищина, Ряпково, Двина, Любижи, Новоселки, в тех во всех деревнях все мужики учинились казаками, сотник выбран мужик... Костело ж»[126]. Падобнае назіралася ў Барысаўскім і Горацкім паветах. Той жа Шарамецеў даводзіў цару: «казаков стоит по залогам не по многу, а вокруг многие деревенские мужики шепчутца к ним в казаки и от того казаков множитца»[127].

«Паказачыўшаяся» беларускае сялянства разам з украінскімі казакамі Нячая разбуралі маёнткі «присяжной» шляхты, вымушалі насельніцтва ісці на здраду цару, прымаць удзел у баявых дзеяннях супраць расійцаў. Нязгодных жа жорстка каралі. Маскоўская канцылярыя была завалена скаргамі «присяжной» шляхты на тое, што «крестьяне их многие написались в запорожские казаки и ходят в Менском повете с теми запороскими казаками шляхту и жен их и детей бьют и грабят, ружей и платья и всякие животы и лошади и животину и всякой хлеб поимали, твоих государевых крестьян и шляхецких крестьян бьют»[128]. У сакавіку 1656 г. Аляксею Міхайлавічу скардзіліся «Гор Больших да Горок Малых люди и уездные крестьяне (присяжные), на свою братью, на мужиков, которые пристали вновь к черкасам, что те черкасы дворы их разоряют и их бьют»[129]. У сваіх чалабітных віцебская «присяжная» шляхта вясной 1656 г. пісала да цара, што «Ездят-де в Витепском у. казаки, а называютца Хмельницкого полку черкасами.. и к ним приставуют многие голодные крестьяне, и Витепскойде уезд от их разоренья стал пуст»[130].

Беларускія казацка-сялянскія атрады і шышы разам з казакамі Нячая актыўна змагаліся таксама з рускімі ратнымі. Тут асабліва вызначыліся вайсковыя фарміраванні з беларускіх сялян, якія падначальваліся Дзянісу Мурашку. Наколькі вынікoвай была барацьба супраць «маскоўскіх людзей», можна меркаваць па адпісцы І. Лабанава-Растоўскага цару Аляксею Міхайлавічу. У ёй даводзіцца, што «воровские казаки и шиши, Ивашка Нечая товарищи: сотник Ганка Дериоко да Прашкуратор... в уезды ездят и твоих, великого государя, служилых людей по дорогам побивают и в полон емлют, и села и деревни разоряют, и крестьян многих в казаки и в шиши прибирают сильно, и дороги от Смоленска до Чеус и до Могилева, и от Чеус до Смоленска те воровские казаки и шиши заняли». Антынародная, грабежніцкая палітыка царызму на Беларусі прывяла ў канцы 1658 г. да народнай вайны, якая працягвалася да 1661 г.

Усе колы насельніцтва Беларусі аб'ядналіся для барацьбы са служылымі маскоўскімі людзьмі. Выступленні пачалі набываць характар народнай вайны. Імі былі ахоплены ў 1658 г. Менскі, Барысаўскі, Наваградскі, Віленскі паветы, а летам 1659 г.— амаль уся Беларусь. Да Аляксея Міхайлавіча ішлі патокам наступнага зместу данясенні: «А Витепского уезду уездные мужики все от тебя великого государя отложились»; «шляхта повета Оршанского изменила...» і г. д.[131].

Усё гэта ўмацоўвала становішча Рэчы Паспалітай і дало магчымасць яго войску ў першай палове 1658 г. распачаць баявыя дзеянні, якія пачалі прыносіць поспех. Вясной 1660 г. Рэч Паспалітая заключыла мірны дагавор са Швецыяй. Вызваліўшыеся вайсковыя злучэнні былі накіраваны пад Вільню. У ліста-

падзе 1661 г. сталіца ВКЛ была адваявана ў рускага войска. Пасля гэтага пачаўся адыход яго з беларускіх зямель, і вайна прыняла пазіцыйны характар. Доўгія мірныя перамовы паміж двума ваюючымі бакамі нарэшце завяршыліся заключэннем у студзені 1667 г. Андрусаўскага міру. Паводле гэтага акта, Беларусь заставалася ў складзе Рэчы Паспалітай.

## 2. Палітычнае становішча. Канец Рэчы Паспалітай

**Спустошэнне Беларусі.** Даніна беларускага народа, якую ён прынёс войнам сярэдзіны XVII ст., была цяжкай, жудаснай. з 1650 па 1667 г. колькасць насельніцтва на Беларусі скарацілася з 2,9 млн. чалавек да 1,4 млн. Не стала кожнага другога беларуса. У запусценні ляжалі раней рупліва дагледжаныя землі. Трэць гаспадарак у Берасцейскім і Наваградскім ваяводствах засталіся без гаспадароў. Ва ўсходніх жа беларускіх ваяводствах — Полацкім, Віцебскім, Мсціслаўскім — 65—70 % сялянскіх хат стаялі пустымі. Яскравым прыкладам, які выяўляе маштабы разбурэнняў, можа служыць раздзівілаўскі маёнтак Смалявічы Менскага ваяводства. Разрабаванымі былі тут сотні сялянскіх гаспадарак: з 1087 дамоў, якія налічваліся ў 16 вёсках у час даваенны, засталося на 1664 г. толькі 216. Колькасць закінутых, неапрацоўваемых валок павялічылася за часы ліхалецця з 9 да 362. Падсумаваць прыведзеныя лічбы па маёнтку Смалявічы можна словамі з допісу аднаго з адміністратараў гэтага ўладання свайму гаспадару Радзівілу: «... навакол галота, у некаторых вёсках няма ніводнага селяніна, валок не гараюць, сярод насельніцтва, якое засталося, пануе страшэнная галеча»[132].

Беларусы не толькі гінулі ад голаду, гвалту вайскоўцаў, але і прымусова перасяляліся са сваёй Бацькаўшчыны ў Расійскую дзяржаву: пад Маскву, у цэнтральную Расію, найбольш жа ў Паволжа і Сібір. У 70-ых гг. XVII ст. за баярынам М. Я. Чаркаскім у Арзамаскім павеце налічвалася больш 800 сялян з Беларусі. У тыя ж часы ў Верхатур'і[133] з'явіліся цэлыя слабоды, заселеныя беларусамі. Сярод нешматлікага насельніцтва Табольска ў 1696 г. прыкладна 150 чалавек былі выхадцамі з Беларусі. У Томску (1672 г.) — каля 40, Краснаярску (1673 г.) — больш як 30, Енісейску (1674 г.) — каля 20, Тарні (1689) — каля 25 чалавек[134].

Для ўзнаўлення з попелу гаспадаркі рупліваму беларускаму сялянству спатрэбілася больш чым два дзесяцігоддзі. За гэты час колькасць насельніцтва павялічылася да 2,2 млн. чалавек. Пастунова ажывіліся рамесніцтва, гандаль.

Але новая навала — Паўноч-

ная вайна, што прыйшла на беларускія землі ў пачатку XVII ст., знішчыла намаганні працоўнага люду ў аднаўленні гаспадаркі. Беларусь з'явілася арэнай галоўных бітваў рускай і шведскай армій перад Палтавай. За гады Паўночнай вайны наша Бацькаўшчына, якая ізноў апынулася паміж молатам і кавадлам, страціла каля 700 тысяч чалавек насельніцтва. З аднаго боку, шведы, як паведамляў камандуючы рускім войскам князь А. Д. Меншыкаў, «катуюць, паляць, вешаюць мужыкоў... каб яны хлебныя ямы паказвалі»[135]. З другога боку, пятроўская канцылярыя была завалена жудаснымі па свайму зместу скаргамі аб бясчынствах расійскага войска і просьбамі да Пятра I, у якіх беларускія сяляне і мяшчане бажыліся аддаць усё, што маюць, толькі б цар не накіроўваў да іх на пастой казакоў[136]. Як і ў недалёкім мінулым, тыповай карцінай для нашай шматпакутнай зямлі сталі неапрацаваныя палеткі, пакінутыя сядзібы і вёскі. У апісанні 1710 г. маёнтка Самахвалавічы (недалёка ад Менска) адзначалася, што ў вёсцы Самахвалавічы ўсё пустое. А хат у той вёсцы 22[137]. Пуставала амаль тры чвэрткі сялянскай ворнай зямлі ў вялікай Гародзенскай эканоміі. Шклоўскае графства страціла 86,4 % свайго насельніцтва. А лёсу тых сялян, што тут засталіся, толькі паспачуваць, калі азнаёмішся з заўвагамі, якія зрабіў складальнік інвентара гэтага ўладання ў 1712 г.: «...вёска Гаршкова, Хомка Каўбушкаў без каня, нічога не мае, хлеба просіць у людзей і гэтым жыве; Васіль Каскевіч, без каня, жабруе; вёска Стары Шклоў, Філіп Алейнік, без каня, жабруе, з чаго і жыве; Апанас Грудзель, без каня, нічога не мае, акрамя адзінай душы; вёска Галашоўка, Грыцка Ісакоў, без каня, жабруе, клянчыць хлеба»[138].

Але зноў адышло ваеннае ліхалецце. Праца селяніна, гараджаніна паступова ўзнаўляла гаспадарку, якая шматразова ўжо паднімалася з попелу.

**Падзел беларускага грамадства па сацыяльна-рэлігійнай прыналежнасці.** Пачатак падзелу беларускага грамадства па сацыяльна-рэлігійнай прыналежнасці быў закладзены, як адзначалася, яшчэ ў часы Ягайлы і Вітаўта. Але ў наступныя пасля XIV стагоддзя часы крывая гэтага працэсу хоць і скачучы, але імкнулася да адзнакі «кансалідацыя», пакуль у XVII ст. не адбыўся рэзкі выбух расколу беларускага грамадства. Прычынамі яго сталі Берасцейская унія, а таксама далейшая шляхецізацыя Вялікага княства Літоўскага, якая паскаралася польскім уплывам, і, як ні дзіўна, барацьба за захаванне эканамічнай і палітычнай незалежнасці Вялікага княства ў складзе Рэчы Паспалітай. Пяцідзесяцігоддзе, якое прайшло пасля Любліна, пераканала велікакняскую шляхту ў тым, што і надалей яна будзе займаць вядучыя пазіцыі ў сваёй дзяржаве. Новыя статутныя нормы, што былі зацверджаны каралём Жыгімонтам III Вазай у 1588 г., пэўным чынам заспакоілі прадстаўнікоў пануючага класа Вялікага княст-

ва Літоўскага. А практыка прымянення заканадаўства ў жыцці наогул надала ўпэўненасці беларуска-літоўскай шляхце ў сваім трывалым становішчы ў краіне. Варта згадаць хаця б два выпадкі з гэтай практыкі за розныя стагоддзі. На пачатку 90-ых гадоў XVI ст. на віленскае біскупства Жыгімонт III хацеў пасадзіць паляка Бернарда Мацееўскага, які павінен быў заняць месца Юрыя Радзівіла, што стаў кракаўскім епіскапам. Але канцлер Вялікага княства Літоўскага Леў Сапега не прыклаў пячаткі, а значыць, не зацвердзіў гэтага прызначэння. Пасля доўгай зацятай барацьбы (з 1591 г. па 1600 г.) віленскае біскупства было пакінута за ліцьвінам Бенедзіктам Войнаю. Наколькі прынцыповым было гэтае пытанне, сведчыць вытрымка з ліста канцлера Сапегі: «...тады паддайцеся ва ўсім палякам, адмоўцеся ад літоўскай пячаткі, маршальскага жэзла і гетманскай булавы, і няхай будуць польскія жэзлы, пячаткі і булава, ды і агульны скарб... Ці загінуць, ці дабіцца таго, каб ліцьвін быў Віленскім біскупам»[139]. І ў 1752 г., калі віленскім канонікам спрабавалі прызначыць паляка Вадзінскага, то віленскі капітул звярнуўся да павятовага сейміка з заклікам неісці супраць статутных нормаў. Як і 150 гадоў таму назад, гэтае прызначэнне не адбылося.

Упэўненасць у непарушнасці свайго вядучага статуса ў дзяржаве не патрабавала ад магнацка-шляхецкага асяродка Вялікага княства барацьбы за былыя сімвалы незалежнасці: беларускую дзяржаўную мову, асобнае выбранне вялікага князя, асобных сеймаў. Праўда, яшчэ водгаласкам таго сепаратызму, які быў моцна адчувальны ў канцы XVI ст., з'явіліся спробы стварэння ў часы цяжкіх знешнепалітычных сітуацый у Рэчы Паспалітай незалежнага Вялікага княства. У 1655 г. Багуслаў Радзівіл двойчы спрабаваў аддзяліцца ад Кароны: спачатку ён прапанаваў курфюрсту Брандэнбурга пратэктарат над Вялікім княствам, а потым з каралём Густавам падпісаў унію са Швецыяй, якая, праўда, не займела сілы. У другой палове 80—90-ых гг. XVII ст. супраць караля Рэчы Паспалітай Яна Сабескага выступілі Сапегі, якія мелі намер стаць на чале самастойнага Вялікага княства Літоўскага[141]. Пасля такіх выступленняў урад Рэчы Паспалітай ішоў на ўступкі шляхце Вялікага княства. На сейме 1673 г. было прынята рашэнне, па якому кожны трэці сейм павінен збірацца ў «Вялікім княстве Літоўскім у горадзе Гародні» і на ім маршалкам выбірацца адзін з мясцовых дэпутатаў. З 1696 г. велікакняская шляхта канчаткова ўраўноўвалася ў правах з польскай у адносінах узмацнення кантролю над дзейнасцю вышэйшых службовых асоб[142].

Беларуская шляхта, якая дамагалася з рук караля ўсё большых прывілеяў, бачыла, што калі і надалей будзе ісці разам са шляхтай польскай, то набудзе на гэтым шляху вялікія прыбыткі. Так яно і адбывалася. Вядомыя «генрыкавы» артыкулы, якія канчаткова ўзаконьвалі сістэму шляхецкай дэмакратыі, надава-

ліся народам як «польскаму, так і літоўскаму... і ўсіх зямель і правінцый, што ўваходзілі ў Рэч Паспалітую». Немагчыма было не спакусіцца на такія вольнасці, якія поўнасцю абмяжоўвалі ўладу караля і надавалі магнатам і шляхце афіцыйныя правы не падпарадкоўвацца яму, калі той адмовіцца ад прызнання і выканання шляхецкіх прывілеяў. Прычым прывілеяў немалых, бо кароль у Рэчы Паспалітай быў асобай, што выбіралася на шляхецкім сейме і поўнасцю падначальвалася рашэнням гэтага вышэйшага заканадаўчага органа[143].

Далейшая шляхецізацыя Рэчы Паспалітай падымала пануючы клас гэтай краіны на новы ўзровень агульнадзяржаўнай інтэграцыі. Але гэта саслоўная агульнадзяржаўная інтэграцыя прыводзіла да дэзінтэграцыі грамадскай. У прыватнасці, на беларускіх землях шляхта, пераймаючы польскія ўзоры грамадскага ладу, усё больш паварочваецца да «пальшчызны» ўвогуле. А гэта ў першую чаргу да каталіцызму, які далучаў да польскай культуры і мовы.

У Рэчы Паспалітай паступова фарміруецца новая не толькі сацыяльная, але, можна сказаць, і этнічная супольнасць — «польскі народ шляхецкі»,— якая аб'ядноўвалася не толькі адзінымі правамі і прывілеямі, палітычнай ідэалогіяй, але і адзінай рэлігіяй (каталіцызмам), і адзінай мовай (польскай). Апалячванне пануючага класа на беларускіх землях прывяло недзе ў другой палове XVII ст. да такой сітуацыі, што беларускаму селяніну ці мешчаніну супрацьстаяў ужо не толькі пан-прыгнятальнік, але ўжо і «папежнік» і «лях» — прадстаўнік чужой веры, а значыць, і другога народу[144].

Падзел беларускага грамадства па сацыяльна-рэлігійнай прыкмеце, знішчэнне больш чым напалову беларускага этнасу ў XVII — на пачатку XVIII ст. прывялі да заняпаду беларускамоўнай культуры, дзяржаўнасці, а значыць, і нацыянальнага развіцця.

**Згодніцка - канфрантацыйнае стагоддзе.** Менавіта пад такім загалоўкам паўстае ў беларускай гісторыі, як і гісторыі ўсёй Рэчы Паспалітай, XVIII ст. Яно аб'яднала гэтыя супрацьлеглыя вызначэнні. Але гэта той выпадак, калі супрацьлегласці не аб'ядноўваюць, а толькі раз'ядноўваюць. У XVIII ст. Вялікае княства Літоўскае ўваходзіла ў стане рэзкай канфрантацыі розных магнацкіх груповак. Прычым такая спадчына дасталася XVIII ст. ад яго папярэдніка — стагоддзя XVII. Менавіта ў 60-ых — пачатку 70-ых гг. XVII ст. разгарэлася барацьба паміж Радзівіламі,з аднаго боку, Сапегамі і Пацамі — з другога. Але ўжо ў другой палове 70-ых — першай палове 80-ых гг. тыя ж Пацы, папаўшы ў апазіцыю да новага караля Яна Сабескага, канфрантуюць з Сапегамі і Агінскімі. А калі ў другой палове 80-ых гадоў XVII ст. Сапегі ўмацавалі сваё становішча ў Вялікім княстве Літоўскім, супраць іх агульным фронтам выступіла беларуска-літоўская шляхта, якая купавалася вакол Агінскіх (былых

саюзнікаў Сапегаў) і Вішнявецкіх. Гэтае супрацьстаянне перарасло практычна ў грамадзянскую вайну, якая ў першыя гады XVIII ст. раздзірала беларускія землі. Сапегі ў гэтай сітуацыі пайшлі нават на стварэнне казацка-сялянскіх атрадаў, што вялі баявыя дзеянні ў раёне Дуброўны, Быхава, Галаўчына са шляхецкімі фарміраваннямі[145].

Прадажнасць і згодніцтва апанавалі не толькі вышэйшыя колы знаці Рэчы Паспалітай. Яны зыходзілі, а значыць, санкцыянаваліся агульнадзяржаўнай каралеўскай уладай. Пераемца Яна Сабескага на троне Рэчы Паспалітай Аўгуст II, курфюрст саксонскі, паказваў найвялікшую віртуознасць у гэтай справе. У лістападзе 1699 г. у вёсцы Прэабражэнскай пад Масквой ім быў падпісаны антышведскі саюзны дагавор з Расіяй. Аднак у хуткім часе — напярэдадні бітвы пад Нарваю — Аўгуст II здраджвае саюзным абавязацельствам і за спінаю ў Расіі ўступае ў зносіны з Карлам XII, каб заключыць са Швецыяй мірнае пагадненне і накіраваць яе моц толькі супраць Расійскай дзяржавы. Задумка не спраўдзілася, і летам 1701 г. зноў на парадак дня сталі перамовы аб цесным саюзніцтве паміж Рэччу Паспалітай і яе ўсходнім суседам. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, Аўгуст II неаднаразова робіць спробы заключэння сепаратнага міру са Швецыяй, абяцаючы ёй нават частковы падзел Рэчы Паспалітай[146].

Няпэўнасці палітычнага курсу спадарожнічала нетрываласць улады. У маі 1704 г. ствараецца Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II. Ёю заключаецца саюз з Расіяй і абвяўляецца вайна Швецыі. А практычна цераз 2 месяцы па ініцыятыве Карла XII нараджаецца на свет канфедэрацыя, якая абвяшчае каралём Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага. У які раз ізноў падзяляецца на варожыя станы грамадства Рэчы Паспалітай, зноў узнікае канфрантацыя, якая вядзе да трагедыі: прыцягнення знешніх сіл для вырашэння ўнутраных супярэчнасцей. Восенню 1704 г. руская армія пад камандаваннем Рапніна ступіла на беларускую зямлю. І цяпер на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, а галоўным чынам на беларускай зямлі, свае рахункі зводзілі Расія і Швецыя.

Гэта быў пачатак канца. Менавіта з гэтага часу Рэч Паспалітая ператвараецца для суседніх краін у прывабную цацку, з якой можна было бяспечна гуляць. Але і ўсім хацелася яе мець. Цераз Рэч Паспалітую пачалі прагульвацца войскі. Хто толькі быў здольны, рабаваў гэтую шматпакутную зямлю. Па некалькі разоў пракатваўся па Беларусі смерч шведскага і расійскага разбурэнняў у часы Паўночнай вайны. Затым падчас барацьбы за польскі трон пасля смерці ў 1733 г. Аўгуста II паміж Станіславам Ляшчынскім і сынам памёршага манарха Фрыдрыхам-Аўгустам расійскае войска зноў зрабіла пераход цераз беларускія землі ажно да Варшавы. Сапраўды, па трапнаму назіранню Ф. Энгельса, Рэч Паспалітая служыла заезным дваром і карчмою для іншазем-

ных войскаў, дзе, аднак, «яны, як правіла, забываліся пра плату»[147].

Знешняе ўмяшанне ў справы Рэчы Паспалітай практычна інспіравалася ўнутранымі канфліктамі, якія працягвалі раздзіраць краіну. У 10-ыя гады XVIII ст. на Беларусі разгарэлася барацьба паміж групоўкай Пацаў-Агінскіх і прыхільнікаў польнага гетмана Вялікага княства Літоўскага Дэнгафа. Наступныя дзесяцігоддзі таксама адзначаліся рэзкай канфрантацыяй уплывовых магнацкіх родаў. Спачатку Чартарыскія разам з Радзівіламі і Рэвускімі супрацьстаялі Патоцкім і Браніцкім. Потым Радзівілы ўжо змагаюцца з Чартарыскімі. Асабліва абвастрылася гэтае апошняе супрацьстаянне падчас выбараў новага караля пасля смерці ў 1763 г. Аўгуста III. Яно зноў прывяло на беларускія землі рускія войскі, а з ім спусташэнні (былі разрабаваны Нясвіж і Слуцк — радзівілаўскія рэзідэнцыі).

Самую дакладную характарыстыку тагачаснаму становішчу Рэчы Паспалітай дала сама шляхта ў прыказцы «Polska nierzadem stoi», г. зн. «Польшча трымаецца на бязладдзі». Бязладдзе гэта стала вынікам развіцця «залатых» шляхецкіх вольнасцей, ці, лепш сказаць, злоўжывання імі. Ужо ў другой палове XVII ст. стала відавочным, што пашырэнне шляхецкай дэмакратыі пры паслабленні цэнтральнай каралеўскай улады вядзе да яе перадачы ў рукі алігархаў, якія фінансава закабалялі шляхту, робячы яе сваім васальным акружэннем. Але ніводная з груповак не мела сілы ўзяць уладу. Гэтае сілы хапала толькі на тое, каб не дапусціць да ўлады супраціўнікаў. Адсюль — разгул анархіі. Прычым пад праслаўленне тых жа «залатых» вольнасцей, якія былі незаменным сродкам ва ўнутрыпалітычнай барацьбе. Яшчэ ў 1669 г. сейм прыняў пастанову, дзе гаварылася, што «ўсялякае наваўвядзенне ў Рэчы Паспалітай можа быць небяспечным і прывядзе да вялікіх хваляванняў. Неабходна сейму сачыць за тым, каб нічога не падвяргалася змяненням»[148]. Але ў канцы XVII—XVIII ст. гэта неабходнасць для сейма адпала, бо шляхецкае права liberum veto, па якому нават аднаму дэпутату дазвалялася сарваць сейм, практычна паралізавала работу гэтага вышэйшага органа ўлады. Пасля першага прымянення гэтага права ў 1652 г., калі дэпутат Упіцкага павета В. Сіцынскі па жаданню Я. Радзівіла не згадзіўся з пастановай сейма, па 1764 г. з 55 сеймаў Рэчы Паспалітай такім чынам было сарвана 48.

Але апекаваць за непарушнасцю шляхецкіх вольнасцей знайшлося каму. Сквапныя суседзі Рэчы Паспалітай, як клапатлівая маці, ахоўвалі непарадак у Рэчы Паспалітай. Так, расійска-прускі саюзны дагавор 1764 г. меў сакрэтны артыкул, паводле якога саюзнікі абавязваліся захоўваць у Рэчы Паспалітай шляхецкую канстытуцыю, вольныя выбары караля і liberum veto[149]. Пункт гэты, асабліва з боку Расійскай імперыі, выконваўся рупліва.

Рэч Паспалітая, якая з 60-ых гг. XVIII ст. пачала інтэнсіўна праводзіць рэфармацыйную дзейнасць, пэўна ж здолела б пераадолець эканамічны і палітычны крызіс. І разбор яе суседнімі дзяржавамі не быў гістарычнай наканаванасцю. Пэўныя станоўчыя вынікі ў эканамічнай сферы мелі рэформы Тызенгаўза, дзякуючы якім на паўночным захадзе Беларусі з'явілася даволі значная колькасць мануфактур. У 1764 г., а затым у 1775-ым урад Рэчы Паспалітай уводзіць абавязковы для ўсіх саслоўяў, у тым ліку шляхты і духавенства, адзіны мытны падатак, прычым пры адмене ўнутраных пошлін. У 1766 г. усталёўваецца адзінства мераў і вагаў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Вядзецца актыўнае транспартнае будаўніцтва. Фарміруецца ў 1773—1775 гг. «Адукацыйная камісія», што стала пачаткам рэформы ў галіне асветы. Напружана працуе думка ідэолагаў-рэфарматараў. Некаторыя пачаткі палітычных рэформ матэрыялізуюцца. Так, на сейме 1764 г. было ўведзена абмежаванне на ўжытак права liberum veto — рашэнне эканамічных пытанняў прымалася большасцю галасоў і сеймавым паслам дазвалялася не прытрымлівацца наказаў сеймікаў, калі тыя пярэчылі думцы большасці.

Гэта былі першыя памкненні палітычных рэформ. Але і яны прывялі да выбуху незадаволенасці з боку рэакцыйнай магнатэрыі, якая імкнулася да неабмежаванай улады. А ўладу ў тагачасных абставінах падносілі на сваіх штыках суседнія Расія і Прусія. Яны пасадзілі на каралеўскі трон свайго стаўленіка Станіслава-Аўгуста Панятоўскага. Яны і карэкціравалі ягоную палітычную лінію згодна з папярэдняй дамоўленасцю паміж сабою аб захаванні нават сілай зброі склаўшагася парадку ў Рэчы Паспалітай.

У 60-ыя гады XVIII ст. Расія і Прусія яшчэ шукалі зачэпак, каб дыктаваць сваю волю ўладам Рэчы Паспалітай. Такой зачэпкай стала «дысідэнцкая» праблема. Перад сеймам расійскім бокам было пастаўлена пытанне поўнага ўраўнавання ў правах некатолікаў («дысідэнтаў») з католікамі, згодна дагавору Расіі з Рэччу Паспалітай 1686 г. Сейм станоўча пытанне не вырашыў, чым кінуў Рэч Паспалітую ў апошняе трыццацігоддзе крывавых, непатрэбных для выратавання дзяржавы канфліктаў. Пад патранажам Расіі і Прусіі ў 1767 г. стварыліся ў Слуцку праваслаўная, а ў Торуні пратэстанцкая канфедэрацыі, якія ставілі мэтай дасягненне роўнасці вернікаў розных канфесій у Рэчы Паспалітай. Апошнім аргументам у спрэчцы паміж слуцка-торуньскімі канфедэратамі і сеймавымі засядацелямі на карысць першых было 40-тысячнае расійскае войска.

У 1768 г. сейм задаволіў памкненні «дысідэнтаў» і даў ім роўныя правы з католікамі. Гэта, у сваю чаргу, не задаволіла гарачых прыхільнікаў «залатой» шляхецкай вольнасці. Хоць пад гарантыяй Расійскай імперыі, але вярталіся, як непарушныя, правы liberum veto і іншыя, што

абмяжоўваліся рашэннямі сейма 1764 г., але ж былі скасаваны старажытныя нормы, узвышаючыя каталіцкую шляхту над некаталіцкай. Супраціўнікі парушэння «старыны» пад старшынствам Ю. Пуласкага арганізавалі ў Бары, што на Украіне, канфедэрацыю, якая аб'яднала даволі шырокія колы шляхецкага саслоўя ўсёй Рэчы Паспалітай. Значную падтрымку барскія канфедэраты займелі і на Беларусі. Аднак супрацьстаяць моцы расійскага войска канфедэрацкія атрады не змаглі. На працягу 1768—1771 гг. яны былі разбіты. Пасля гэтых падзей пад уздзеяннем абвастрыўшайся міжнароднай сітуацыі адбываецца першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У 1772 г. да Расіі адыходзіць Усходняя Беларусь.

Але гэтая трагічная падзея не надала палітычнага розуму сапернічаючым магнацкім кланам. Падзеі надалей разгортваліся па ўжо адпрацаванаму вяршыцелямі лёсу Рэчы Паспалітай сцэнарыю. Як толькі ў краіне распачыналася рэфармацыйная дзейнасць, пільныя суседзі яе адразу прыдушвалі, а потым каралі за непаслухмянасць.

Рэфарматарская частка 4-гадовага сейма (1788—1792 гг.), узначальваемая Калантаем, Машынскім, Нямцэвічам і інш., добра разумела, што нераўнапраўнае і прыніжанае становішча «дысідэнтаў» заўсёды можа быць выкарыстана ў якасці прычыны для чарговага ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. Таму рэфарматарамі і была зроблена спроба пазбавіць найбольш небяспечнага суседа — Расійскую імперыю — ад магчымасці скарыстацца з «рэлігійнай матывацыі» верагодных новых падзелаў дзяржавы.

Нягледзячы на супраціўленне рэакцыйных, у першую чаргу каталіцкіх, колаў, сейм прыняў пастанову аб неабходнасці склікання ў Пінску «Генеральнай кангрэгацыі», вышэйшага сходу прадстаўнікоў праваслаўнага веравызнання ў Рэчы Паспалітай. 15 чэрвеня 1791 г. Пінская кангрэгацыя пачала сваю працу і скончыла яе 2 ліпеня. Усяго сабралася 96 паўнамоцных прадстаўнікоў ад праваслаўнага насельніцтва. У выніку быў складзены праект аб устанаўленні ў Рэчы Паспалітай вышэйшай праваслаўнай царкоўнай іерархіі. Згодна з ім праваслаўная царква павінна была атрымаць права на выбранне трох епіскапаў і свайго мітрапаліта. Было заяўлена аб адмове царкоўных іерархаў ад якой-небудзь іншаземнай залежнасці. У святарскіх справах і веры прызнавалася верхавенства толькі Канстанцінопальскага патрыярха, а не расійскага Сінода. Пінская кангрэгацыя вырашыла таксама пытанне аб часовым праваслаўным кіраванні ў Рэчы Паспалітай да зацвярджэння сеймам праекта аб аўтакефаліі. З гэтай мэтай было абрана 12 чалавек (па тры прадстаўнікі ад манаства і святарства, а таксама ад шляхты і мяшчанства). Старшынёю «генеральнай кангрэгацыі» стаў ігумен Бельскага манастыра С. Пальмоўскі.

Але справа зацвярджэння пададзеных сейму прапаноў Пінскай кангрэгацыі зацягнулася больш чым на 10 месяцаў. Толькі 21 мая 1792 г., ужо ва ўмовах пачатага ўварвання расійскай арміі ў межы Рэчы Паспалітай, па прапанове караля Станіслава-Аўгуста «праваслаўнае пытанне» разглядаецца самым першым у парадку дня. Пры галасаванні большасцю галасоў (123 «за», 13 «супраць») сейм прыняў прапановы Пінскай кангрэгацыі.

Ажыццяўленне рашэнняў Пінскай кангрэгацыі было вельмі небяспечным для Расійскай імперыі. Па сутнасці, яно азначала аднаўленне справы Вітаўта мець у ВКЛ незалежнага ад Маскоўскай дзяржавы праваслаўнага іерарха. Гэта падзея ды абвяшчэнне ў час работы чатырохгадовага сейма Канстытуцыі 3 мая 1791 г., якая, па сутнасці, павінна была вывесці Рэч Паспалітую з палітычнага крызісу і паставіць на шлях буржуазных рэформ, інспіравалі арганізацыю чарговага «крыжовага паходу» супраць Рэчы Паспалітай зноў жа пад сцягам непарушнасці шляхецкіх прывілеяў. Цяпер для ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай Расійскай імперыі нават не патрабавалася нейкай зачэпкі. Пад рукою Кацярыны II зарганізавалася 14 мая 1792 г. з прадстаўнікоў сярашляхецкай партыі таргавіцкая (ад назвы ўкраінскага мястэчка Таргавіца) канфедэрацыя, якая ўслед за 100-тысячным расійскім войскам ужо 18 мая ўвайшла ў Рэч Паспалітую, каб абараніць парушаныя шляхецкія правы.

Даволі значная частка беларускага шляхецтва падтрымала таргавічан альбо пасіўна аднеслася да інтэрвенцыі. На гэта былі свае прычыны. Рэфарматарскія рашэнні чатырохгадовага сейма прывялі фактычна да пераўтварэння «Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў» ва унітарную дзяржаву. За яе манархам захоўваўся толькі адзін тытул — «караля польскага». Перастаў існаваць гістарычны падзел дзяржавы на Вялікае княства Літоўскае і Карону. Тым самым былі істотна закрануты амбіцыі і беларускага магнацтва. Яно фактычна страчвала ў такой сітуацыі не толькі даходныя пасады, але і магчымасць больш грунтоўна ўплываць з улікам сваіх антарэсаў на ўнутраную і знешнюю палітыку Рэчы Паспалітай ад імя яе дзейснага чынніка — Вялікага княства Літоўскага.

Расійскай армадзе спатрэбілася толькі 2 месяцы, каб разбіць ужо цалкам дэзарганізаванае войска Рэчы Паспалітай. Прычым баявыя дзеянні зноў жа адбываліся на тэрыторыі Беларусі (Опса, Мір, Зэльва, Берасце). Натуральна, канстытуцыя 3 мая была адменена, а затым у студзені 1793 г. адбыўся і другі падзел Рэчы Паспалітай. Пад уціскам таргавічан, падтрыманых расійскім войскам, умовы другога падзелу былі зацверджаны на Гародзенскім сейме 1793 г. Да Расіі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друя — Пінск.

Стала зразумелым, што ад канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай паміж Расійскай імперы-

яй, Прусіяй і Аўстрыяй можа выратаваць толькі рашучае супрацьстаянне агрэсарам скансалідаванага грамадства. Такога не адбылося. Хоць паўстанне 1794 г., на чале якога стаў прадстаўнік старадаўняга беларускага шляхецкага роду Андрэй Тадэвуш Касцюшка, давала для гэтага апошні шанц.

**Паўстанне Т. Касцюшкі. Канец Рэчы Паспалітай.** Паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі вядзе свой пачатак ад абвяшчэння 24 сакавіка 1794 г. Кракаўскага акта паўстання. У ім былі вызначаны асноўныя мэты паўстанцаў: пазбаўленне ад іншаземнай акупацыі, барацьба за поўную суверэннасць Рэчы Паспалітай, аднаўленне яе ў межах 1772 г., вяртанне рэфарматарскіх рашэнняў Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Лозунг паўстання — «вольнасць, цэласць, незалежнасць» — стаў таксама лозунгам касцюшкаўцаў і на Беларусі, ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім.

Напярэдадні паўстання на працягу 1793 г.— пачатку 1794 г. на тэрыторыі ВКЛ вялася яго актыўная падрыхтоўка. Цэнтрам падрыхтоўкі была Вільня. Арганізатары паўстання «спіскоўцы» пад кіраўніцтвам палкоўніка корпуса інжынераў ВКЛ Якуба Ясінскага выяўлялі прыхільнікаў паўстання, збіралі сродкі, распрацоўвалі план дзеянняў. Падтрымлівалася сувязь са сваімі аднадумцамі ў Варшаве. Але, улічваючы патрабаванні канспірацыі, аддаленасць сталіц, гэтая сувязь не была надта цеснай.

Пачатак паўстанню ў ВКЛ паклаў Шавельскі акт (16 красавіка 1794 г.). Згодна з ім да паўстання далучалася Жмудзь. Але было ясна, што поспех справы ў княстве будзе залежаць ад таго, у чыіх руках будзе сталіца краю — Вільня. Менавіта там адбыліся рашаючыя падзеі ў ноч з 22 на 23 красавіка. Па распрацаванаму плану быў нечакана атакаваны і разбіты расійскі гарнізон. Гэта пры падтрымцы гараджан зрабілі часткі войска ВКЛ, раскватараваныя ў Вільні. Кіраваў аперацыяй Я. Ясінскі. Улада ў горадзе перайшла ў рукі паўстанцаў. На другі дзень, 24 красавіка, на плошчы перад гарадской ратушай быў абвешчаны Віленскі акт паўстання. Ствараецца і пачынае дзейнічаць вышэйшы для ўсяго ВКЛ орган па кіраўніцтву паўстаннем — «Найвышэйшая Літоўская Рада» разам з падпарадкаванымі ёй

Тадэвуш Касцюшка.

«дэпутацыямі» (аддзеламі): публічнай бяспекі, забеспячэння вайсковых патрэб і скарбовай. Пачынае дзейнічаць і крымінальны суд. Менавіта па яго рашэнні 25 красавіка быў павешаны на гарадской плошчы апошні гетман ВКЛ Сымон Касакоўскі. Яго абвінавацілі ў злоўжываннях супраць сваіх суайчыннікаў, здрадніцкім супрацоўніцтве з расійскімі ўладамі. Камандуючым узброенымі сіламі паўстанцаў у ВКЛ быў прызначаны Я. Ясінскі. Склад «Літоўскай Рады» налічваў 29 чалавек. Акрамя таго, ад ваяводстваў, паветаў і гарадоў княства ў яе ўвайшлі яшчэ 37 прадстаўнікоў. Гэта стварала магчымасць з цягам часуператварыць «Раду» ў свайго роду незалежны ўрад Вялікага княства.

Першыя дакументы ліцьвінскіх паўстанцаў адразу мелі больш радыкальны характар, чым у Кароне. Віленскі «Акт паўстання народа Літоўскага» заклікаў не толькі да набыцця «вольнасці», але і «роўнасці грамадзянскай». Ва «Універсале да ваяводстваў і паветаў правінцыі Вялікага княства Літоўскага і гарадоў вольных», абвешчаным «Літоўскай Радай» 24 красавіка, крытыкаваўся «кароль слабы». Адначасова там жа выказваліся сімпатыі да французскай рэвалюцыі: «Мужны народ французскі, разам з іншымі, падае нам сяброўскую руку, патрабуе паўстання нашага, дае нам у гэтым дапамогу...»[150].

Утварэнне асобнага вышэйшага органа кіраўніцтва паўстаннем у ВКЛ, а таксама той факт, што ў Віленскім акце імя Т. Касцюшкі як кіраўніка паўстання ў Рэчы Паспалітай чамусьці не было ўпамянута, прывялі на кароткі час да пэўнага непаразумення паміж Вільняй і Варшавай. Па Кракаўскаму акту ва ўсёй Рэчы Паспалітай вышэйшым органам улады, падначаленым Т. Касцюшку, павінна была стаць «Вышэйшая Нацыянальная Рада». А на месцах, у ваяводствах, а таксама ў ВКЛ павінны былі стварацца толькі «парадкавыя камісіі», што падначальваліся «Радзе». Кіраўнікоў паўстання ў ВКЛ, асабліва Я. Ясінскага, сталі падазраваць у традыцыйным ліцьвінскім сепаратызме. Але ўжо ў другой палове мая непаразуменні былі зняты. «Літоўская Рада» паспела неаднаразова выказацца наконт свайго безумоўнага падпарадкавання Т. Касцюшку. 13 мая Я. Ясінскаму было прысвоена Т. Касцюшкам званне генерал-лейтэнанта. Адначасова кіраванне паўстанцкімі сіламі было выведзена з-пад улады адной асобы. Войска было падзелена на тры часткі з трыма камандуючымі: Я. Ясінскім, А. Хлявінскім і Ф. Сапегам, якія павінны былі дзейнічаць скаардынавана. Такім чынам, з аднаго боку, ішоў працэс цэнтралізацыі кіраўніцтва паўстаннем у межах Рэчы Паспалітай, а з другога — дэцэнтралізавалася кіраўніцтва войскам у ВКЛ.

У кіраўніцтве паўстаннем «на Літве», у якім з моманту яго падрыхтоўкі і напачатку вядучую ролю адыгрывалі Я. Ясінскі, П. Гразмані, Ю. Гарноўскі, К. Эльснер і інш., назіраюцца дзве плыні. Адна з іх радыкаль-

ная, альбо «якабінская» на чале з Ясінскім і другая — ўмеркаваная, прадстаўленая магнацтвам і заможнай шляхтай. Першыя імкнуліся да як мага большых рэвалюцыйных змен у грамадстве ў духу французскай рэвалюцыі. Яны выступалі за ліквідацыю паншчыны і прыгону, адстойвалі раўнапраўе мяшчанства, падтрымлівалі ідэю ўтварэння рэспубліканскага ладу. Такі падыход да мэтаў паўстання, рэалізацыя якіх істотна закранала і нават мяняла становішча магнатэрыі і заможнейшай шляхты, не мог падабацца «ўмеркаваным». Асноўнага свайго ворага апошнія бачылі ў асобе непрымірымага рэспубліканца Ясінскага. Да Т. Касцюшкі неаднаразова накіроўваліся пасланнікі «ўмеркаваных» з прапановамі замяніць, адклікаць з «Літвы» Я. Ясінскага. Чаго ў рэшце рэшт яны і дабіліся.

Падзеі, звязаныя з паўстаннем Т. Касцюшкі на Беларусі, ахопліваюць час з красавіка па канец верасня. Для першага перыяду (красавік — чэрвень) характэрныя найбольш актыўныя дзеянні паўстанцаў і, наадварот, нерашучасць і асцярожнасць у дзеяннях расійскага войска. Гэта было выклікана поспехамі паўстанцаў і перамогай Т. Касцюшкі пад Рацлавіцамі (4 красавіка), поспехам паўстання ў Варшаве (18 красавіка) і ў Вільні. У гэты перыяд расійскія войскі, пазбаўленыя агульнага плана дзеянняў, атачоныя з усіх бакоў паўстанцамі ў чужым краі, манеўруючы, адступалі. Так, атрад князя Цыцыянава 9 мая пакідае Гародню і адыходзіць у напрамку Нясвіжа. Урэшце расійскія войскі займаюць пазіцыю прыкладна ўздоўж мяжы падзелу Рэчы Паспалітай 1793 г. 7 мая пад в. Таляны ля Ашмян Я. Ясінскі разбівае расійскія атрады пад камандаваннем палкоўніка Дзеева, прымушае іх адступіць да Смаргоні, паказаўшы сілу і моц паўстанцаў.

А ў Гародню 14 мая перабіраецца павятовая «парадкавая камісія», утвораная 9 мая ў Сакольцы. Яна пачынае актыўную працу па фарміраванні паўстанцкага войска. На 7 чэрвеня ў Гарадзенскім павеце было мабілізавана на паўстанне да 5 тысяч рэкрутаў.

9 мая ў Берасці ўтвараецца ваяводская «парадкавая камісія», афіцыйна ўхваляецца рашэнне аб далучэнні ваяводства да паўстання. У склад берасцейскай камісіі ўвайшло 8 чалавек праваслаўнага веравызнання, з якіх ігумен Грыгароўскі праз некаторы час стаў нават яе старшынёй (рэч дагэтуль нечуваная ў Рэчы Паспалітай). 15 мая Т. Касцюшка звярнуўся да сваіх землякоў са спецыяльнай адозвай. Ён вітаў іх далучэнне да Кракаўскага акта. Асабліва адзначыў годны падтрымкі і распаўсюджвання прыклад рэлігійнай талерантнасці і супрацоўніцтва з праваслаўным насельніцтвам.

Найбольш небяспечнай для расійскага войска бачылася магчымасць пашырэння паўстання на тэрыторыі Беларусі, якая была далучана да Расіі паводле I і II падзелаў. На тое былі свае падставы. Панічныя рапар-

ты з Нясвіжа да імператрыцы дасылае генерал-губернатар «мінскі, ізяслаўскі і брацлаўскі» Туталмін. Ён не перастае дамагацца ў князя М. Рапніна, прызначанага рэскрыптам Кацярыны II ад 22 красавіка 1794 г. камандуючым расійскім войскам на тэрыторыі ВКЛ, узмацнення мяжы 2-га падзелу больш значнымі вайсковымі сіламі. Адначасова паведамляе аб падазроных з'ездах шляхты, пашырэнні паўстанцкай агітацыі і збіранні зброі нават сялянамі. Пачынаецца тэрміновае ўмацаванне фартыфікацыйных эбудаванняў у Нясвіжы. Сучаснікі адзначаюць атмасферу агульнай панікі сярод адміністрацыі ў Менску. Былі зроблены захады да магчымага пераводу ў Слуцк у выпадку небяспекі менскіх кас і архіваў. Справа даходзіла да таго, што ад афіцэраў, якія прыбывалі з ахопленых паўстаннем тэрыторый Рэчы Паспалітай, пад прысягай патрабавалі, каб маўчалі аб усім, што там адбываецца.

1 чэрвеня Я. Ясінскі выдае загад павятовым органам кіравання паўстаннем аб утварэнні 300 асабовых конных атрадаў з усіх прыдатных трымаць зброю людзей. Гэтыя атрады павінны былі, перайшоўшы межы другога падзелу, распачаць партызанскія дзеянні ў тыле расійскага войска. Для лепшай арганізацыі гэтай справы Ясінскім была складзена спецыяльная «Інструкцыя для ўваходзячых у кардон расійскі». Апрача арганізацыйных вайсковых пытанняў у «Інструкцыі» асаблівая ўвага звярталася на ўздзеянне на мясцовае насельніцтва, каб «заахвочваць шляхту і люд» да паўстання. Гэтая ініцыятыва была ўхвалена Т. Касцюшкам, які сам праз два тыдні выдаў аналагічны ўніверсал.

Найбольш буйнымі рэйдамі на тэрыторыі Беларусі I і II падзелаў былі выправы атрадаў паўстанцаў пад кіраўніцтвам М. К. Агінскага (на Дынабург) і С. Грабоўскага (на Меншчыну) у жніўні 1794 г. Атрад М. Агінскага налічваў каля 2,5 тыс. чалавек, з іх да 1 тыс. конных. Пяхоты было каля паўтары тысячы чалавек, з якіх толькі 300 чалавек мелі стрэльбы. Астатнія 1200 чалавек былі ўзброены толькі пікамі і косамі. Гэта пераважна былі сяляне. Пакінуўшы асноўную частку свайго атрада на Браслаўшчыне, М. Агінскі з трымястамі найбольш падрыхтаванымі і ўзброенымі паўстанцамі накіраваўся да Дынабурга. Але ўзяць горад не ўдалося. Было толькі спалена яго прадмесце.

Атрад С. Грабоўскага пры ўваходзе на Меншчыну налічваў крыху болей 2 тысяч чалавек. Адной з галоўных мэт рэйду С. Грабоўскага было адцягненне сілаў ворага на сябе ад Вільні і Гародні. Адначасова псаваліся камунікацыі, разбураліся масты, рабіліся засекі на дарогах. Атрад С. Грабоўскага таксама быў недастаткова ўзброены і падрыхтаваны. Абмінуўшы Менск, атрад рушыў праз Пухавічы на Бабруйск. Там быў знішчаны невялікі гарнізон. Але супрацьстаяць вялікім сілам расійскага войска атрад С. Грабоўскага доўга не мог і вымушаны быў павярнуць назад. 4 верасня пад Лю-

банню ён быў разбіты. А сам С. Грабоўскі трапіў у палон. Толькі невялікая частка яго атрада здолела выратавацца.

Паступова ініцыятыва пераходзіць у рукі праціўніка. 26 чэрвеня Я. Ясінскі не здолеў перамагчы ў бітве пад в. Солы аб'яднаныя расійскія сілы пад кіраўніцтвам М. Зубава і Бенігсена. Пасля чаго Ясінскі ад'язджае ў Варшаву. З гэтага часу расійскія войскі пераходзяць да наступальных дзеянняў. Да таго ж прызнаны Т. Касцюшкам 4 чэрвеня галоўнакамандуючым усімі ўзброенымі сіламі паўстання ў ВКЛ М. Вяльгорскі зусім не адпавядаў гэтай пасадзе і нічым сябе не праявіў. (3—5 жніўня ў сувязі з хваробай М. Вяльгорскага яго замяшчае Макраноўскі). Тэрыторыя паўстання на Беларусі пачынае звужацца. На сярэдзіну ліпеня расійскія войскі кантралявалі ўсё Навагрудскае ваяводства і частку Берасцейскага.

19 ліпеня спроба расійцаў захапіць Вільню заканчваецца няўдачай. Але з таго часу яны ўжо не пакідаюць яе ваколіц. 12 жніўня расійскія войскі канчаткова займаюць Вільню. У верасні на тэрыторыю паўднёвых паветаў Беларусі ўваходзяць атрады Суворава. Спачатку пад в. Крупчыцы каля Кобрына і канчаткова пад Бярэсцем яны разбіваюць корпус Серакоўскага, складзены з «каронных» і беларускіх атрадаў.

Бітва пад Крупчыцамі (17. IX.1794), у якой з абодвух бакоў удзельнічала да 20 тыс. чалавек, была самай буйной з часоў паўстання. У ёй загінула каля трох тысяч паўстанцаў. Большасць з іх — неспрактыкаваныя сяляне-касінеры, частка якіх была пасечана казакамі за сценамі Крупчыцкага кляштару кармелітаў, дзе яны шукалі паратунку.

Міхал Клеафас Агінскі.

Даўжэй паўстанне пратрымліваецца каля Гародні. Сюды ў рэшце рэшт перабіраецца і «Цэнтральная Дэпутацыя ВКЛ» — новы орган па кіраўніцтву паўстаннем, які ў пачатку чэрвеня прыйшоў на замену Літоўскай Радзе. Сюды ж на адзін дзень, 30 верасня, паспявае прыехаць Т. Касцюшка (адзіны раз за ўвесь час паўстання на тэрыторыі Беларусі). Але і Гародню па загаду Т. Касцюшкі з 1 кастрычніка пакідаюць паўстанцы. Рэшткі паў-

станцкага войска ВКЛ праз Саколку і Беласток адступаюць да Варшавы. Там, пры гераічнай абароне варшаўскага прадмесця, Прагі, гіне Я. Ясінскі.

Паўстанне 1794 г. на Беларусі пратрымалася крыху болей пяці месяцаў. Але яно змагло адцягнуць на сябе значныя сілы расійскіх войскаў. Гэта не дазволіла адразу кінуць іх супраць атрадаў Т. Касцюшкі. Адной з прычын паражэння паўстання на тэрыторыі Беларусі з'яўлялася адсутнасць адзінага камандавання, належнага ўзаемадзеяння ў паўстанцкім войску, няздольнасць вайсковага кіраўніцтва. Але галоўнай прычынай бачыцца палавінчатасць аб'яўленых рэформаў, пастаянная аглядка на шляхецтва, якое не хацела дапускаць рэвалюцыйнага выступлення сялянства і мяшчанства. Так, выдадзены 7 мая 1794 г. Т. Касцюшкам знакаміты «Паланецкі універсал» ствараў падставу для аблягчэння становішча сялянства ў Рэчы Паспалітай. Гэтым універсалам усім прыгонным сялянам надавалася ўласная свабода, прызнавалася спадчыннае права карыстання зямлёй, якую яны абраблялі, значна аблягчаліся павіннасці. Але, каб канчаткова не адштурхнуць ад паўстання шляхту, Т. Касцюшка вымушаны быў улічваць і яе інтарэсы. Прыгон не быў скасаваны. Гэта не дазволіла перарасці паўстанню ва ўсенародны рух, а таксама спарадзіла раскол у лагеры паўстанцаў. Такія акалічнасці спрыялі рускаму войску на чале з Суворавым і Ферзенам атрымаць шэраг перамог і задушыць паўстанне.

Цяпер пытанне аб захаванні Рэчы Паспалітай не стаяла, і апошні яе падзел адбыўся ў кастрычніку 1795 г. Па ім амаль уся тэрыторыя Беларусі была далучана да Расійскай імперыі.

У заняпадзе Рэчы Паспалітай можна бачыць гістарычную заканамернасць спынення функцыянавання практычна замарожаных, незмяняльных палітычных структур. Прыклад Расійскай імперыі і прыклад Рэчы Паспалітай уяўляюць два шляхі развіцця феадалізму: таталітарны і дэмакратычны. І адзін, і другі забяспечваў жыццяздольнасць феадальнай сістэмы. Пры зараджэнні і развіцці новых капіталістычных адносін узнікла неабходнасць рэфармавання грамадства. Яно ж патрабавала падпарадкавання дзяржаве гаспадарчых і палітычных механізмаў, а значыць, моцнай цэнтральнай улады. Пры таталітарнай сістэме такая ўлада канцэнтравалася ў руках манарха-дыктатара (той жа Пётр I, Кацярына II), пры дэмакратычнай — размывалася (сейм з яго правам liberum veto). Менавіта тая акалічнасць, што дэмакратычныя інстытуты Рэчы Паспалітай не здолелі выпрацаваць, развіць цэнтралізатарскіх пачаткаў, не дазволіла кіруючым колам Рэчы Паспалітай, якія тым больш адчувалі неймаверны знешні ўціск, адарвацца ад старой сістэмы і выйсці на новы віток палітычных і вытворчых адносін, а тым самым і прадухіліць дзяржаўную катастрофу.

Асноўная маса насельніцтва — сяляне і мяшчане Беларусі — індэферэнтна ўспрынялі

распад Рэчы Паспалітай. Жыццё ў гэтай няшчаснай, запрададзенай дзяржаве не давала спадзяванняў на нейкія змены. Новыя ж гаспадары, новыя парадкі заўсёды неслі ў сабе надзеі на лепшую будучыню. Іншая справа, што надзеі тыя не спраўджваліся.

## 3. Сельскае і гарадское жыццё.

**Зямля і земляроб.** Для сялянства — самага шматлікага класа-саслоўя беларускага грамадства XVI—XVIII стст., дбаннем якога развівалася сельская гаспадарка, стваралася багацейшая культура, мудрасцю якога гадаваліся новыя пакаленні беларусаў, азначаны час быў нялёгкі для жыцця і для працы. Нялёгкі, таму што, на жаль, вельмі часта праносіліся смяротнай віхурай па зямлі беларускай спусташальныя войны. І неаднойчы пасля ліхалеццяў праца селяніна ўзнаўляла разбураную гаспадарку, неаднойчы земляроб даваў новае жыццё запусцелай зямлі, якая была для яго найвялікшым багаццем. Але багацце гэта не належала таму, хто працаваў на ёй, паліваў потам і аблашчваў. Пануючы клас аформіў заканадаўча манапольнае права валодання зямлёй. 26 артыкул раздзела III Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага 1588 г. поўнасцю адлучаў земляроба ад зямлі: «... простого стану чоловек, не осегнувши первей от нас, господара, вольности шляхетское, имение и кгрунтов шляхетских ни которим обычаем поседати, ани куплею своею держати не может»[151].

Але нягледзячы на заканадаўчую забарону, сяляне, абапіраючыся на звычаёвае права, яшчэ ў першай палове XVIII ст. праводзілі гандлёвыя аперацыі з зямлёй. Так, у інвентары за 1715 г. маёнтка Здзяцел (сучаснае Дзятлава — раённы цэнтр Гродзенскай вобласці), што з'яўлялася часткай велізарных уладанняў буйнога магнацкага роду Радзівілаў, зафіксаваны факты куплі-продажу зямлі сялянамі. Гэты, як адзначае складальнік дакумента, «вельмі злы і пану шкодны» звычай меў распаўсюджанне па ўсёй воласці: «падданства нявыкупленые ад пана грунты адзін другому запрадвалі». Прычым рабілі гэта, не звяртаючы ўвагі на пагрозу пакарання штрафам. І штрафам немалым. Інструкцыя 1755 г., якая была змешчана ў інвентары маёнтка Сожыцы Віцебскага павета, паведамляе, што падданыя «грунтаў і сенажацяў прадаваць ці здаваць у наём не маюць права.., калі ж хто-небудзь без дазволу двара гэта зробіць...— 10 коп грошай на двор аддаць павінен будзе». Цікавыя звесткі па закранутаму тут пытанню мае таксама інвентар Берасцейскай і Кобрынскай эканоміі 1742 г., у якім канстатуецца, што «хлопства... са злосці і сваволі сваёй грунты эканамічныя пастаронным людзям прадаваць, закладваць і заводзіць звыклі».

Феадальная адміністрацыя рэзка выступіла супраць падобнай практыкі. У дэкларацыі, якая была ўключана ў звышпамянуты інвентар, адзначалася, што з моманту яе складання ніводзін селянін «прадаваць, застаўляць, а ніякім іншым спосабам заводзіць грунтаў эканамічных не павінен». Гэта ж дэкларацыя рэгламентавала, што даўнасць валодання надзелам не дазваляе лічыць яго поўнай уласнасцю селяніна. Прычынай з'яўлення такога запісу было, відаць, тое, што сяляне, калі даказвалі перад адміністрацыяй свае права на правядзенне аперацый куплі-продажу зямлі, спасылаліся на даўнюю традыцыю[152].

Але традыцыя тая адыходзіла ў нябыт. Прыклады, якія нагадваліся намі, былі хутчэй адзінкавыя, чым паўсюдныя, былі выключэннем з правіла. Правіла ж даводзіла, што селянін атрымліваў ад свайго пана кавалак зямлі за тое, што выконваў на яго карысць пэўныя павіннасці.

Каб пракарміць сям'ю і даваць прыбытак свайму гаспадару, надзел сялянскі, па падліках тагачасных эканамістаў, павінен быў быць не меней $^1/_2$ валокі зямлі (крыху больш 10 гектараў). Феадалы добра разумелі і памяталі словы, моўленыя Львом Сапегам, што падданы для пана з'яўляецца «яснавельможным, таму што калі сялян не будзе мець, ён тады і сам яснавельможным панам не будзе»[153]. Таму землеўласнікі стараліся падтрымліваць жыццядзейнасць гаспадарак сваіх прыгонных. Як сведчаць дакументы, плошча сярэдняга сялянскага надзелу ў другой палове XVII — першай палове XVIII ст. зрэдку была меншай чым $^1/_2$ валокі. Калі нават інвентары фіксавалі за той ці іншай сялянскай сям'ёй надзел у $^1/_6$, $^1/_8$, а то нават і ў $^1/_{10}$ валокі, тады, як правіла, ён дапаўняўся пазанадзельнымі, так званымі прыёмнымі землямі, за якія падданыя сплачвалі меншыя падаткі[154].

Для селяніна гэта было выгадна, а таму падчас ваенных ліхалеццяў, калі многія палеткі ляжалі ў запусценні, прыгонныя часцяком наўмысна скарачалі памеры сваёй надзельнай зямлі і распрацоўвалі пусткі. Так, напрыклад, ва ўладанні Манкевічы, што на Палессі, у вёсцы Белагужа, якую мелі ва ўласнасці Радзівілы, падданы Гаўрыла Лучыч у 1663 г. «сядзеў» на паўвалочным надзеле. У хуткім часе, як адзначаюць дакументы, кавалак свайго надзелу гэты самы Лучыч пакінуў, але дадаткова пачаў апрацоўваць чвэртку валокі пустой зямлі, што належала раней ягонаму суседу Валынічу. Такую ж зямельную аперацыю ажыццявілі ў 1722 г. жыхары Смыкаўскага войтаўства Дубровенскага графства Якуб Звягін, Лазар Козыраў, Саўка Лаўкач і дзесяткі іншых[155].

Здараліся выпадкі ўтойвання сялянамі ворных пазанадзельных зямель, каб наогул не адбываць з іх ніякіх павіннасцей. У Цімкавічах, уладанні Радзівілаў, пры новым абмеры было выяўлена, паміж іншым, ажно 59 няўлічаных у інвентары валок — а гэта прыкладна 1160 гектараў.

Гэты факт зафіксаваны дакументам 1717 г. А праз некаторы час ужо інвентар маёнтка Тураў, які належаў Патоцкім, змяшчае такі запіс: «усе вёскі маюць па лясах новыя распрацоўкі нерушаў, з каторых нічога не плацяць».

Прыклады такія можна прывесці таксама па Крычаўскаму староству. Інвентарны вопіс гэтага ўладання за 1727 год адзначаў, што ў вёсцы Ахор мелася 14 сялянскіх дымоў, якія сплачвалі чынш з трох валок. Значыцца, у сярэднім на гаспадарку тут прыходзілася прыкладна па 0,2 валокі. Калі ж складаўся «рэестр розных нядоімак» з падатнага насельніцтва староства, то выявілася, што ў названай вёсцы налічвалася яшчэ 5, як адзначае дакумент, «закрадзеных» валок. З іх улікам сярэдні сялянскі надзел перавышаў ужо нават 0,5 валокі. Падобныя «нямераныя» 5 валок былі знойдзены і ў вёсцы Дрышчава таго ж Крычаўскага староства.

Характэрна, што сяляне не толькі ўтойвалі ад уладальнікаў частку зямлі, якой карысталіся, але і адмаўляліся прыняць яе на чынш пасля выкрыцця. Прычым рабілася гэта не таму, што прыгонныя не маглі апрацаваць дадатковыя кавалкі пашы, а каб і надалей пазбягаць выплаты падаткаў. Так, у вёсцы Камаровічы, размешчанай зноў жа на Крычаўшчыне, у 1727 г. аказалася 34 пустыя валокі — вялікая плошча болей чым 726 гектараў,— што на працягу некалькіх гадоў употаек апрацоўвалася сялянамі. Браць жа іх у прыём, няхай і за меншы чынш, чым з асноўнага надзелу, яны адмовіліся[156]. Гэта быў своеасаблівы пратэст чыста эканамічнага характару, які, хоць і ненадоўга, але паляпшаў умовы сялянскага жыцця.

**Сялянскія павіннасці.** За сялянскі кошт жылі і карміліся дзяржава, шляхта, войска, царква. На іх карысць прыгонны адпрацоўваў шматлікія павіннасці. Галоўныя з іх — паншчына, дзякла і чынш. Першая была асноўная для сялян цяглых, апошняя — для чыншавых. Дзякла ж, часцей за ўсё, дапаўняла гэтыя важнейшыя павіннасці.

Паншчыну адбывалі зімой і летам, мужчыны і жанчыны. На працу сяляне павінны былі выходзіць ці з рабочай жывёлай, ці без яе — па неабходнасці для панскай гаспадаркі. Пачынаўся паншчынны дзень з узыходам сонца, заканчваўся, калі сонца заходзіла. Феадалы жорстка каралі сваіх падданых, калі тыя спазняліся ці не выходзілі на працу ў вызначаныя дні. Вось як апісвае парадак адбывання паншчыны інвентар маёнтка Раклішкі Лідскага павета (1585 г.): «На працу сяляне абавязаны выходзіць і станавіцца на вызначаным месцы з узыходам сонца, а пакідаць работу хутка пасля заходу сонца. Працу павінен заказываць войт ці ўраднік. Хто б пасля заказу не выйшаў на працу, то за такую непаслухмянасць павінен адпрацаваць за адзін дзень два дні, не пакідаючы тэрыторыі панскага двара, а за другі дзень — чатыры дні, таксама знаходзячыся пры двары. Калі хто-небудзь не выйшаў на пра-

цу ўсе тры дні ці на працягу шасці тыдняў па разу на тыдзень, асабліва летам, то за гэты тыдзень у ланцугах павінен працаваць у двары. Пасля гэтага такі чалавек ўрадніку павінен быў даць барана. Калі б і пасля гэтага ў яго здарыліся нявыхады на працу, тады — бічаванне ля слупа. Калі хто праз хваробу не змог выйсці на паншчыну, тады павінен загадзя папярэдзіць войта»[157]. Памер паншчыны для сваіх падданых землеўласнік вызначаў асабіста, з улікам захавання для сялян магчымасці весці гаспадарку на сваім надзеле, а таксама з улікам вастрыні і размаху супраціўлення эксплуатуемых прыгонных феадальнаму ўціску.

На працягу XVII—XVIII стст. норма дармовай прымусовай працы ў гаспадарцы феадала, якую той патрабаваў ад сялян, павялічвалася. Асабліва добра можна гэта адчуць, калі супаставіць дадзеныя аб памерах паншчыны ў адных і тых жа уладаннях за розныя гады. Так, у маёнтку Радзівілаў Карэлічы Наваградскага ваяводства цяглыя сяляне ў 1672 г. адбывалі паншчыну 4 дні з валокі і 5-ы дзень з дыма на тыдзень. Да 1746 г. у падданых гэтага ўладання паншчына павялічылася да 12 дзён на тыдзень з валокі на сям'ю. У другім радзівілаўскім маёнтку Блювенічы Лідскага павета і без таго высокая норма паншчыны ў 16 дзён на тыдзень з валокі паднялася ў сярэдзіне XVIII ст. да фантастычных памераў — 24 дні з валокі. Ва ўладанні пана Лапы Андрэева Гародзенскага павета цяглыя сяляне ў 1685 г. адпрацоўвалі 6 дзён паншчыны на тыдзень з валокі. У 1752 г. паншчына вылічалася тут 18 днямі[158].

Але дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў цяжкія ваенныя часіны і ў пасляваеннае аднаўленне феадалы, каб прыцягнуць ці ўтрымаць у сваім маёнтку сялян, ішлі на пэўныя палёгкі ў іхнім павіннасным рэжыме. Так, землеўласнікі здавалі сваім падданым за долю ўраджаю (трэці ці чацвёрты сноп) валокі, якія не засяваліся. Сялянам, што толькі займелі жыхарства ва ўладанні, дараваліся так званыя слабады — гэта значыць, што іх павіннасці на некалькі гадоў памяншаліся ў параўнанні з тымі, што мелі старажылы. Вось як у маёнтку Сапегаў Беліца Аршанскага павета, дзе ў 1690 г. цяглыя старажылы выконвалі 4 дні паншчыны на тыдзень з валокі, а з новапасяленцаў ці «новікаў», як іх называюць дакументы, патрабаваліся толькі 2 дні з той жа зямельнай плошчы. Ці як у радзівілаўскай Смаргоні, куды ў 1672 г. перасяліўся Марцін Лазоўскі, якому на тры гады даравалася не выконваць аніякіх павіннасцей[159].

Аднак, прынамсі, нельга ўяўляць землеўласнікаў як нейкіх звышдабрачынцаў ці сялянскіх абаронцаў. Дбалі яны перш за ўсё аб павышэнні сваіх прыбыткаў, якія поўнасцю залежалі ад моцы і плацежаздольнасці сялянскай гаспадаркі. Адсюль вось і пачыналіся «клопаты» феадалаў аб абмежаванні сялянскіх пабораў, узмацненні сялянскай гаспадаркі. Як толькі землеўласнікі адчувалі самую нязначную магчымасць для павелічэння

паншчыны, чыншу ці натуральнага аброку, яны адразу падымалі гэтыя павіннасці для сваіх падданых.

Акрамя штотыднёвай паншчыны сяляне выконвалі ў XVII—XVIII стст. і такія адработачныя павіннасці, як гвалты, талокі, згоны — работы, што былі звязаны са жнівом, сенакосам, узворваннем зямлі феадала. Прычым на работы гэтыя выходзілі ўсёй сям'ёй, пакідаючы дома аднаго «малога ці старога, да работы няздатнага», каб пільнаваў хату ад пажару. Колькасць гвалтаў на сялянскую гаспадарку часцей за ўсё вызначалася лічбай «12» на год, як, напрыклад, у вёсцы Нарбутовічы Слонімскага павета (XVIII ст.): на ўзворванне зямлі — 4, на траляванне дрэва для будаўніцтва — 2, у жніво — 4, да стагавання сена — 2. Гэтая лічба магла быць і меншай. Але з таго не вынікала, што працы сваёй для выканання гвалтаў селянін пакладзе меней. Часцяком працягласць гвалта не абмяжоўвалася адным толькі днём. У інвентары радзівілаўскага маёнтка Глыбокае Ашмянскага павета (1702 г.) запісана, што прыгонныя абавязаны ў год адпрацаваць 8 гвалтаў, а кожны гвалт «роўны тром дням»[160].

Вельмі цяжкай для беларускага селяніна, для ягонай гаспадаркі была падводная павіннасць. Каб яе выканаць, прыгонны павінен быў на асабістай рабочай жывёле ды «на сваёй страве» дастаўляць панскія грузы ці то да бліжэйшай прыстані, ці ў гандлёвыя цэнтры, хутчэй за ўсё Вільню, Рыгу, Крулявец (сённяшні Калінінград). Наколькі дарагой была гэта павіннасць, сведчыць той грашовы эквівалент, які феадал спаганяў з сялян у выпадку непатрэбнасці яе выканання. Так, у інвентары вёскі Забрэжжа Менскага ваяводства за 1702 г. запісана, што сяляне абавязаны ездзіць у падводы да Вільні і да Стоўбцаў адзін раз на год. Калі ж пану не спатрэбіцца адпраўляць тыя падводы, тады падданыя павінны былі заплаціць за віленскую падводу 15 злотых, а за стаўбцоўскую — 9 злотых[161]. Гэтыя 24 злотыя на той час былі вялікія грошы, за якія селянін мог купіць 12 бараноў ці 36 гусакоў, а то 72 курыцы ці 48 вазоў дроў.

Падводная павіннасць на доўгі час адрывала селяніна ад работы на сваёй зямлі. Але шмат гэтага часу займалі і іншыя адработачныя абавязкі. Па-першае, так званая старажоўшчына ці старожа, на якую выходзілі па чарзе 2—4 чалавекі з вёскі, часцей усяго на тыдзень, каб выконваць розныя гаспадарчыя работы ў двары феадала. Па-другое, начная варта, калі сяляне таксама па чарзе ахоўвалі панскі двор.

Абавязковай адработачнай павіннасцю ў разглядаемы час для беларускіх сялян былі шарваркі. Павіннасць гэтая заключалася ў рамонце і будаўніцтве дарог-гасцінцаў, мастоў, маёнткавых збудаванняў. Выконваліся яны не рэгулярна, а па запатрабаванню панскага двара і не вызначаліся ў інвентарах дакладнай колькасцю рабочых дзён на год.

Акрамя вышэйназваных ад-

работачных павіннасцей сяляне павінны былі спраўляць іншыя работы на карысць свайго гаспадара. Прыгонных прымушалі сплаўляць лес і іншыя грузы ў партовыя гарады Прыбалтыкі. Абавязковым быў іх удзел у аблавах падчас панскага палявання, у рыбнай лоўлі для панскага стала, у раскарчоўцы лесу. Падданыя павінны былі вылучаць са сваёй грамады пастуха для панскага статка ці аплочваць яго. Жанчыны прыгонам аполвалі і палівалі панскія агароды, мылі бялізну для двара, ткалі, стрыглі авечак і г. д.

Асобнае і даволі значнае месца ў павіннасным абкладанні сялян на Беларусі ў другой палове XVII — першай палове XVIII ст. займалі грашовыя падаткі. Сярод іх на першым месцы стаяў чынш, што дапаўняў у невялікіх памерах адработачныя павіннасці цяглых падданых і з'яўляўся галоўнай павіннасцю для сялян чыншавых. Несумненна, чыншавікі, што не былі прыкаваны да амаль штодзённай працы ў панскім двары, у параўнанні з паншчыннікамі мелі куды большую гаспадарчую самастойнасць. Але ж па цяжкасці выканання чынш быў зусім не лягчэйшым за паншчыну. Чыншавыя стаўкі былі неаднолькавымі ў розных уладаннях, але паўсюдна дастаткова высокімі. І нямала сілы трэба было пакласці селяніну, каб адпаведныя сродкі зарабіць.

Чыншавым з'яўлялася Крычаўскае староства, якое возьмем за прыклад для паказу эвалюцыі чыншавай павіннасці на працягу XVII—XVIII стст. У 1682 г. грашовы чынш у крычаўскіх сялян складаў 30 злотых з валокі. Аднак ужо да канца 30-ых гадоў XVIII ст. памер яго павялічыўся больш чым у тры разы і ў 1727 г. быў роўны 10,5 талера бітым (99 злотым 22 грошам). Разам з дзяклам, якое на той час было пераведзена на грошы, чынш складаў 115 злотых з валокі. У сярэдзіне ж XVIII ст. грашовы чынш падняўся да 120 злотых[162]. Калі нават улічваць падзенне з сярэдзіны XVII па сярэдзіну XVIII ст. у 1,5 раза вартасці гроша, усё роўна падняцце чыншавай стаўкі для крычаўскіх падданых было даволі значным — больш чым у два разы.

Для беларускіх сялян рэнта грашыма чыншам не вычэрпвалася. Грашовыя ўклады сялян «сваім» панам павялічваліся ў XVII—XVIII ст. за кошт самых разнастайных падаткаў. Напрыклад, таго ж запіснога, якое сплачвалі сяляне пры здачы чынша. Звычайна яно складала адзін грош з кожнага злотага, які ішоў на чынш. Адсюль іншая назва гэтага ж падатку — грашовае. Згадаем тут і такую павіннасць, як жарнавое, што спаганялася панам са сваіх прыгонных за права мець свае жорны. За карыстанне ляснымі ўгоддзямі зямельных уласнікаў сяляне плацілі такія падаткі грашыма, як угайнае, ялавічнае, вепраўшчызна. Але ж, нягледзячы на гэта, скарыстаць найвялікшыя багацці беларускіх лясоў просты люд не мог. Так, у радзівілаўскім маёнтку Давыд-Гарадок Пінскага павета ў 1670 г. сялянам была забаронена высечка лесу для асабістых па-

трэб. У зноў жа радзівілаўскім Клецкім княстве, якое ўключала ў сябе 12 маёнткаў, падданым дазваляўся ўваход у лясы па спецыяльна вызначаных днях. І гэта ж за грошы! А парушальнікаў строга каралі. Ва ўладанні Горкі ў 1742 г. за высечку хоць адзінага дуба, які ішоў на гандаль, пагражалі вісельняй. Сялянам Ружанскага і Дзярэчынскага графстваў, якімі валодалі князі Сапегі, ляснічыя перакрывалі ўваходы ў пушчу, адбіралі коней. Падданыя скардзіліся панам, што не маюць лесу ні на дровы, ні адрамантаваць свае хаты і хлеўчукі, ні паставіць нават плот. Інвентары ж Дзярэчынскага графства за XVIII ст. прадпісвалі: «Нікому, ні пад якім выглядам без асобага дазволу гаспадара ці камісараў ягоных не выдаваць у лясах ніводнага сучка»[163].

За дазвол на выраб алкагольных напіткаў феадал спаганяў з падуладных яму сялян так званае чапавое. Землеўласнікі забаранялі сваім падданым самавольна выходзіць замуж ва уладанні да іншых феадалаў. Так, інвентар маёнтка Чашайкаўшчызна Слонімскага павета адзначаў, што «дзеўкі замуж у іншую воласць не могуць ісці — толькі ў графстве Дзярэчынскім»[164]. А каб выйсці замуж у іншую воласць, трэба была згода ўласніка. За яе ж трэба было адзячваць грашовым выдаткам, так званай куніцай.

Акрамя названых грашовых падаткаў, сяляне розных маёнткаў выплачвалі сваім гаспадарам такія павіннасці, як рагавое, акладнае, быкавое, тміннае, рыбнае..,— усяго даследчыкі налічвалі 56 найменняў толькі грашовых пабораў, што спаганяліся з сялян.

Мала таго, менавіта ніхто іншы, а селянін быў галоўным падаткаплацельшчыкам у дзяржаўную казну Вялікага княства Літоўскага. Штогод кожны сялянскі двор (дым) уносіў пэўную суму грошай — так званае падымнае. Але і гэта яшчэ не ўсё! Прыгонныя мелі на ўтрыманні і феадальнае войска. Для гэтага з дзяржаўных сялян спаганялася так званая гіберна, якая прыйшла на змену ранейшай сярэбшчыне. Прыватнаўласніцкія сяляне гэтай павіннасці не мелі. Але ў некаторых выпадках адсутнасць гіберны ў шляхецкіх маёнтках кампенсавалася іншым падаткам, які называўся рэйтаршчына і прадвызначаўся для утрымання прыватнага войска магнатаў. Рэйтаршчына ў прыватных маёнтках і гіберна ў дзяржаўных дапаўняліся стацыяй — натуральнай павіннасцю, што спаганялася з прыгонных камандаваннем вайсковых харугваў падчас кватаравання іх у той ці іншай мясцовасці. Так, падданыя Капыльскага княства ў 1751 г. абавязаны былі «стацыю на гарнізон слуцкі па даўняму звычаю» жыта $^1/_2$ карца, ячменю $^1/_4$ карца, сена 1 воз з кожнай цяглай валокі ва ўладанні[165].

Аднак даніна натураю ў выглядзе стацыі хоць і была цяжкім абавязкам для сялянскай гаспадаркі, але для іх большасці нерэгулярным. Стабільным прадуктовым аброкам, які дапаўняў паншчыну і чынш, з'яўля-

лася дзякла. Аснову яго складалі збожжавыя: жыта, ячмень, авёс, пшаніца. У дзякла ўваходзіла таксама абавязковае «дарэнне» свайму пану гусей, курэй, яек, масла, хмелю, канапель, грыбоў, ягад...

Своеасаблівымі натуральнымі паборамі было так званае «каляднае» і «валачобнае». Першапачаткова гэтыя павіннасці ўзніклі як святочныя паднашэнні феадалу. Але паступова пераўтварыліся ў пастаянны абавязак сялян штогод пад Вялікдзень і на Каляды здаваць на панскі двор пэўную колькасць хатняй птушкі і яек.

Аднак, каб чытач змог атрымаць больш поўнае ўяўленне аб феадальнай эксплуатацыі беларускай вёскі ў XVII—XVIII стст., трэба звярнуць яго ўвагу яшчэ па меншай меры на два моманты. Па-першае, неабходна падкрэсліць, што далёка не ўсе павіннасці, падаткі намі разгледжаны. Скрупулёзны падлік выявіў, што існавала іх недзе 120—140. Канешне, не ўсе ў адным уладанні. Але ж хай сабе нават дзесятая іх частка прыпадала на асобную сялянскую гаспадарку (а так хутчэй за ўсё і здаралася), то ўжо гэтага дастаткова, каб гаварыць аб высокім узроўні эксплуатацыі прыгонных падданых на Беларусі ў азначаны час.

Па-другое, дадзеныя інвентароў, па якіх галоўным чынам мяркуецца аб сялянскіх павіннасцях, не заўсёды даюць аб'ектыўную карціну сапраўднага феадальнага ўціску. Інвентары вызначалі нормы павіннасцей. Але гэтыя інвентарныя нормы, як правіла, паўсюдна парушаліся арандатарамі і адміністрацыяй маёнткаў. Арандатараў — гэтых часовых гаспадароў — асабліва не цікавіла, як развіваецца сялянская гаспадарка, ды ці развіваецца яна ўвогуле. Перш за ўсё яны клапаціліся аб атрыманні максімальных прыбыткаў для сябе. За кароткатэрміновую арэнду (1—3 гады) арандатары імкнуліся атрымаць з сялян як мага больш грошай, таму асабліва не саромеліся ў сродках эксплуатацыі і тым больш не прытрымліваліся інвентарных прадпісанняў. І вельмі часта фактычныя павіннасці прыгонных падданых былі значна вышэйшымі ў параўнанні з інвентарнымі. Напрыклад, сялян Берасцейскай эканоміі ў 1745 г. дзяржаўца Альшэўскі з дапамогай жаўнераў прымушаў адбываць звыш інвентарную паншчыну, а на ўтрыманне салдатаў спаганяў з падданых звыш усялякай нормы грашовыя і прадуктовыя падаткі. У другой эканоміі — Гародзенскай — пан Разынкоўскі, які часова гаспадарыў у гэтым уладанні, гвалтоўна выганяў сялян з вёскі Малыя Азераны на паншчыну дзень у дзень, патрабаваў розных данін натураю, здзекаваўся з падданых, кідаў без прычыны ў турму. А вось што сведчылі сяляне вёскі Паляміна Быхаўскага графства (1742 г.): «Цяжкія экзекуцыі трываем. Слугі дыспазітара пана Бучынскага вынішчаюць свірны не толькі ў таго, хто не разлічыўся за пазычаныя грошы ці не выканаў павіннасці, але і ў таго, у каго ведаюць, што ў свірнах ёсць што ўзяць. Забіраюць масла,

куры, п'юць гарэлку за кошт сялян столькі, колькі захочуць»[166]. Падобныя прыклады можна працягваць бясконца — яны масавыя.

**Прававая безабароннасць.** Беларускі селянін быў практычна безабаронным перад жорсткасцю і самавольствам свайго пастаяннага ці часовага панаўладальніка. Селянін поўнасцю залежаў ад феадала — уласніка зямлі. У любы час той мог адабраць у свайго падданага зямельны надзел, перасяліць яго ў іншае месца, запрадаць прыгоннага з усёй яго маёмасцю, зямлёй і без яе іншаму феадалу, закласці пад пэўную грашовую суму, пры гэтым прадстаўляючы пакупніку ці крэдытору поўнае права распараджацца лёсам селяніна — судзіць, караць, нават адбіраць жыццё. Прыкладам, пан Іеранім Аўсяны ў 1688 г. прадаў за 250 злотых свайго прыгоннага з маёнтка Сячэўкі Наваградскага ваяводства Лявона Ляшаніна з жонкай і двума сынамі Амяллянам і Мікітаю пану Іосіфу Чудоўскаму. А ў прадажным запісе, які быў упісаны ў кнігі Наваградскага гродскага суда, пазначыў, што збыў падданага без зямлі на «вечныя» часы, а пакупнік атрымаў права распараджацца сям'ёй Ляшаніна як сваёй уласнасцю: здарваць, закладваць, прадаваць, абменьваць.

У 1729 г. берасцейскі ваявода Караль Сапега абмяняўся сялянскімі сем'ямі — дзве на дзве — з берасцейскімі дамініканамі.

Не было ніякіх праблем ва ўласнікаў у выпадку адсутнасці грошай закласці на год, два, тры сваіх падданых пад некалькі сотняў ці тысяч злотых. Аперацыя гэта была дасканала распрацавана. Здаеш прыгонных — атрымліваеш грошы. Не пагасіў у час крэдыт — тэрмін арэнды сялян доўжыцца да канчатковага разліку. Так, мсціслаўскі стольнік Уладзіслаў Анферовіч у 1689 г. за 1200 злотых заклаў пану Яну Сулкоўскаму на адзін год трох сваіх падданых з маёнтка Касцяневічы Ашмянскага павета: Максіма Ісаевіча, Васку Яскевіча і Кандрата з іх «хатамі, жонкамі, дзецьмі, коньмі і іншай жывёлай, павіннасцямі, валокамі, сенажацьмі». Прычым у закладным дагаворы падкрэслівалася, што ў выпадку невяртання ў вызначаны тэрмін пазыкі арэнда названых сялянскіх сем'яў будзе працягвацца кожныя наступныя тры гады, пакуль доўг не будзе вернуты. У другім закладным запісе ідзе гаворка аб здачы ў арэнду Самуілам Быхаўцом у 1706 г. на адзін год шасці сялянскіх сем'яў з вёскі Магілёўцы Ваўкавыскага павета пану Іосіфу Харашэўскаму за пазыку ў 1000 злотых. Крэдытору прадстаўлялася права распараджацца закладнымі прыгоннымі як асабістай уласнасцю. У трэцім падобным дагаворы чытаем аб закладзе ў 1717 г. зноў шасці сем'яў падданых пана Людовіка Быхаўца з вёскі Асочнікі Ваўкавыскага павета пану Станіславу Ганусевічу за 1450 злотых[167].

У гэтай прадажна-абменна-закладной кругаверці здараліся нават драматычныя выпадкі, калі разбіваліся сем'і. Асобна

мужыка ці жонку прадавалі ці здавалі пад заклад. Такое здарылася з небаракам-селянінам па прозвішчу Вярэніч з вёскі Сякевічы. Некалькі разоў звяртаўся ён да пана Раецкага, каб той выдаў яму жонку з вёскі Кашалёва, але беспаспяхова.

Закончыць гэтыя сумныя замалёўкі з жыцця сялянскага канца XVI—XVIII ст. зусім лагічна будзе словамі з брашуры «Аб польскіх прыгонных», у якой ідзе гаворка, канешне ж, не толькі аб польскіх сялянах, а пра люд просты ўсёй Рэчы Паспалітай. Дык вось, нагадваючы аб тых несправядлівасцях, з якімі штодзённа сутыкаліся прыгонныя, аўтар піша: «Хіба ж вол не адчувае больш да сябе ўвагі — пасля захаду сонца ён не цягне плуг, а калі яго бачаць зморанага, з яго здымаюць ярмо. Голасу ж чалавечай скаргі ніхто слухаць не хоча»[168].

**Горад.** У наступны перыяд свайго развіцця, а менавіта ў другую палову XVII—XVIII стст., беларускія гарады ўвайшлі ў стан страшэннага разбурэння, што прынесла дваццацігадовая смута 1648—1667 гг. Так, калі 18 гарадоў і мястэчак Навагрудскага ваяводства да пачатку войнаў 1648—1667 гг. налічвалі 4071 дом, то пасля гэтага часу — 2329 дамоў, г. зн. было знішчана 1742 дамы, ці 42,8 %, 8 гарадоў Берасцейскага ваяводства налічвалі адпаведна 4745 і 2012, г. зн. знішчана 57,6 % дамоў, 12 гарадоў Менскага ваяводства — 1646 і 809, г. зн. 50,8 % даваеннай колькасці дамоў. Ад 50 да 70 % дамоў страцілі за гады войнаў полацкае, віцебскае, мсціслаўскае ваяводствы[169].

Са спыненнем ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі ў гарадах пачалося паступовае аднаўленне гаспадарчага жыцця. Гэты працэс праходзіў да другой паловы XVIII ст. шляхам вяртання гарадам звыклых ім функцый цэнтраў рамёстваў, унутранага і знешняга гандлю. З адраджэннем рамяства вярталася і яго папярэдняя арганізацыя — цэхі. Разам з тым узмацнялася значэнне некаторых з'яў, што ўзніклі ў першай палове XVII ст.: узрастанне ролі скупшчыка-пасрэдніка ўжо не толькі з купецкага асяроддзя, але і з ліку разбагацеўшых майстроў, цэхмістраў. Абвастраюцца адносіны паміж цэхамі і нецэхавымі раменікамі, паміж блізкімі па прафесіі цэхамі.

Да новых рысаў эканамічнага жыцця можна аднесці ўзнікненне мануфактурнай вытворчасці. Узмацненне манаполіі цэхаў на рынках гарадоў абумовіла канцэнтрацыю мануфактур галоўным чынам у мястэчках, малых гарадах, якія складалі частку магнацкіх уладанняў. Так, у 30-ых гг. XVIII ст. узнікла мануфактура шкляных вырабаў у мястэчку Урэчча Бабруйскага павета, у мястэчку Свержань — фарфоравая мануфактура, у 1751, 1753 гг. заснаваны ў Слуцку мануфактуры, на якіх вырабляліся шаўковыя паясы і суконныя тканіны. У другой палове XVIII ст. мануфактурная вытворчасць пачала набываць рысы маштабнасці. У ліку найбольш вядомых у гэты час былі мануфактуры ў малых

гарадах і мястэчках Крычаве, Шклове, Горках, Добрушы, Дуброўне, Мышы, Палосна і інш. Усяго ж на 53 мануфактурах у азначаны перыяд было занята 2400 рабочых, большая частка якіх складалася з прыгонных[170].

Значны зрух адбыўся ў накірунку знешняга гандлю, якім займалася гарадское купецтва. Справа ў тым, што ўзрасла роля Пецярбурга, цераз які разгарнула свае экспартныя аперацыі на Заходнюю Еўропу купецтва паўночна-заходніх гарадоў Расіі. А гэта рэзка скараціла значэнне пасрэдніцкай дзейнасці беларускага купецтва, пераарыентаваўшы яго гандлёвыя сувязі на гарады паўночна-заходняй Расіі і Левабярэжнай Украіны. Але структура гандлёвых аперацый істотна не змянілася. Па-ранейшаму асновай экспартных аперацый была прадукцыя сялянскай гаспадаркі, а ўвоз складаўся з вырабаў прамысловасці, металаў, галантарэі.

У сацыяльна-палітычнай сферы гарадское жыццё таксама аднаўлялася ў ранейшых формах і нормах. Пераносячы ўсе цяжкасці феадальнага самавольства, саслоўнага прыніжэння, рабаўніцкія паборы, гараджане дабіліся больш рашучых дзеянняў гарадскога самакіравання — магістратаў — у адстойванні неаднаразова пацверджаных вярхоўнай уладаю ў мінулыя гады саслоўных правоў і прывілеяў. Калі ж магістрату не ўдавалася законным парадкам спыніць самавольства адміністрацыі, феадалаў, духавенства, гараджане свае правы адстойвалі са зброяй у руках. Так было, напрыклад, у Полацку ў 1667 г., у Гародні ў 1670 г. і ў 1726 г., у Менску ў 1700 г., у Магілёве ў 1733 г.

Вярхоўная ўлада, улічваючы значэнне гарадоў у процідзеянні магнацкаму самавольству і феадальнай анархіі, аказвала садзейнічанне гараджанам у аднаўленні ролі самакіравання ў арганізацыі жыцця гарадоў. Так, за мяшчанамі Магілёва ў 1661 г. і пазней за мяшчанамі Гародні было замацавана права выбіраць войта горада. На працягу 60-ых гадоў XVII ст. члены магістратаў Магілёва, Віцебска, Гародні атрымалі шляхецкія правы. У 1764 г. сейм прыняў рашэнне аб ліквідацыі ў гарадах судовай юрысдыкцыі шляхты і духавенства, і гараджане, якія жылі на юрыдыках феадалаў, падлягалі перадачы пад уладу магістратаў[171]. У 1776 г. сейм пастанавіў адмяніць магдэбургскае права ў гарадах, якія не з'яўляліся цэнтрамі ваяводстваў і паветаў. Тут устанаўліваўся спецыяльнай камісіяй асобны парадак, які павінен быў гарантаваць мяшчанам іх уласнасць, свабоду займацца рамяством, гандлем, права куплі-продажу дамоў і другой маёмасці, свабоду змены месца пражывання[172].

У цэлым аднаўленчы працэс не выйшаў за рамкі традыцыйных рыс эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцця гарадоў, якія склаліся ў XVI — першай палове XVII ст. Да таго ж далёка не ўсе гарады да канца XVIII ст. завяршылі сваё аднаўленне да ранейшага, г. зн. даваеннага, узроўню.

## 4. Сялянскія паўстанні XVIII ст.

**Васіль Вашчыла і Крычаўскае паўстанне 1740—1744 гг.** Крычаўскае паўстанне было буйнейшым сялянскім выступленнем на Беларусі ў феадальную эпоху. На чале яго стаяў беларускі селянін Васіль Вашчыла. Нарадзіўся ён у сялянскай сям'і ў невялічкай вёсачцы Лобжа, што на Крычаўшчыне, у 1690 г. З цягам часу займеў жыхарства ў вёсцы Селішча Крычаўскага староства. Аднавяскоўцы выбралі Вашчылу войтам. Выбар селішчан быў невыпадковы, бо войт іх рашуча і смела выступаў супраць злоўжыванняў арандатараў і адміністрацыі Крычаўскага староства. Ён пісаў і дастаўляў сялянскія скаргі фактычным уладальнікам Крычаўшчыны — Радзівілам. А справа гэтая была небяспечная. Па гасцінцах снавалі прыслужнікі арандатараў, якія затрымлівалі тых, хто адважваўся несці скаргі князям. Скаржнікаў каралі жорстка: штрафавалі, каталі, кідалі ў турмы. Так, у кастрычніку 1731 г., калі Вашчыла вяртаўся з Міра ад Радзівілаў, куды насіў чарговую скаргу, яго затрымалі слугі арандатара Крычаўскага староства Гдаля Іцкавіча, закавалі ў ланцугі, збілі і кінулі ў крычаўскую турму. Трохі раней Вашчыла, як сведчаць дакументы, атрымаў 150 удараў бізуном за тое, што асмеліўся хадзіць са скаргай ажно ў Варшаву. Пасля гэтага селіцкі войт доўга хварэў.

Жорсткі феадальны ўціск, вайсковыя пагромы, шляхецкія наезды прымусілі сялян і простых гараджан Крычаўшчыны ўзняцца на барацьбу супраць прыгнятальнікаў. У маі 1740 г. Васіль Вашчыла ўзначаліў першы ўзброены сялянскі атрад, які пачаў баявыя дзеянні супраць арандатарскіх наймітаў, і атрымаў першыя перамогі над пыхлівым шляхецкім войскам.

Васіль Вашчыла быў не толькі вайсковым кіраўніком паўстанцаў, але і кіраўніком, так сказаць, ідэалагічным, палітычным. Паўстанцы выгналі са староства жорсткіх прыгнятальнікаў-арандатараў і ўзялі ўладу ў свае рукі. Многія пытанні кіравання Крычаўскім староствам Васіль Вашчыла вырашаў са сваімі паплечнікамі. Яны здавалі ў арэнду прамысловыя прадпрыемствы і корчмы. Новых арандатараў шукалі сярод гараджан, дробнапаместнай шляхты, заможнага сялянства. Захавалася звыш 20 арэндных дагавораў, падпісаных Васілём Вашчылам і іншымі войтамі. Прычым кіраўнікі паўстання стараліся абмяжоўваць эксплуатацыю сялян арандатарамі. Шэраг дагавораў прадпісваў арандатарам пад пагрозай пакарання (канфіскацыі тавараў, штрафу) не займацца вымаганнем.

Былі прадугледжаны меры і супраць ліхвярства. Каб прыгонныя не трапілі ў поўную залежнасць ад арандатараў, сялянам забаранялася браць у крэдыт вялікія сумы грошай і пазычаць многа збожжа. Пры малых крэдытах, якія таксама не заўсёды

дазваляліся, быў устаноўлены невялікі працэнт, які пад пагрозай штрафу забаранялася перавышаць. Кіраўнікі сялянскага руху спрабавалі паслабіць феадальны прыгнёт. Іх дзейнасць была накіравана супраць злоўжыванняў арандатараў і адміністрацыі староства. Яны абмяжоўвалі ліхвярства, якое давяло да галечы не адну гаспадарку, вызвалялі прыгонных ад прымусовай працы на панскіх прамысловых прадпрыемствах.

Аднак барацьба гэтая была накіравана не супраць сістэмы, што стварыла ўмовы эксплуатацыі, а супраць яе асобных носьбітаў. Аб гэтым сведчыць, папершае, тое, што Вашчыла разам са сваімі паплечнікамі, прагнаўшы са староства рабаўнікоўарандатараў, пачаў шукаць на іх месца новых; па-другое, прыгонныя не выступалі супраць непасрэднага ўладальніка Крычаўшчыны. Сяляне працягвалі плаціць Радзівілу ўсе падаткі. Грошы ад арэнды корчмаў і прамысловых прадпрыемстваў таксама ішлі Радзівілу. У тэксце аднаго з дагавораў на арэнду адзначаецца: «Мы: войты і мужы, непакоімся, каб да канца не была спустошана княжацкая казна». У тым і была галоўная бяда паўстанцаў, што не мелі яны ўяўлення, як пераўтварыць тую сістэму, што не магла не прывесці да бязлітаснай эксплуатацыі прыгоннага сялянства. Новыя арандатары, на сумленнасць якіх разлічваў Васіль Вашчыла, аказваліся таксама жорсткімі прыгнятальнікамі працоўнага люду. А Радзівіл, які непасрэдна, здавалася, не эксплуатаваў крычаўскіх падданых і таму ў іх вачах паўставаў нейкім панам-дабрадзеем, заставаўся адным з буйнейшых магнатаў Рэчы Паспалітай, адным з галоўных эксплуататараў.

Гэта стала відавочна, калі сялянскі рух пачаў пашырацца і ў сялянскім войску налічвалася прыблізна 2 тыс. чалавек. Радзівіл адчуў, што страчвае кантроль над сітуацыяй і ўладу ў старостве. Каб задушыць паўстанне, князь Іеранім Фларыян накіраваў на Крычаўшчыну войска са сваёй слуцкай рэзідэнцыі. 15 студзеня 1744 г. некалькі сотняў салдат з гарматамі і некалькі сотняў казацкай конніцы ўвайшлі ў Крычаў. Савет кіраўнікоў сялянскага руху вырашыў даць бой ворагу, пакуль яму на дапамогу не падаспелі конныя атрады з Себежа і Невеля. Узброеныя сяляне на чале з Вашчылам рушылі ў напрамку Крычава. 18 студзеня паўстанцы атакавалі горад. Княжацкія воіны-найміты, акрамя самай сучаснай на той час агнястрэльнай зброі, мелі вопыт вядзення ваенных дзеянняў, дапамагалі ім і гарадскія ўмацаванні. Галоўная ж сялянская зброя — нянавісць да прыгнятальнікаў — была вельмі слаба падмацавана зброяй баявой. Таму не дзіўна, што радзівілаўскае войска без відавочных страт адбіла атаку паўстанцаў і адкінула іх ад Крычава за Сож.

Але Вашчыла не лічыў сябе пераможаным. Прыгонныя не склалі зброю і не скарыліся. Яны атабарыліся ў вёсцы Царковішча, збіралі сілы і рыхтаваліся да новых бітваў. Васіль Вашчыла і яго бліжэйшыя па-

плечнікі — Іван Карпач, Стэсь Бочка, Васіль Вецер — выпрацавалі план будучых баявых дзеянняў. Паўстанцы вырашылі другі раз атакаваць Крычаў, захапіць яго, блакіраваць замак і прымусіць княжацкае войска здацца. Пачаць наступленне планавалася 26 студзеня 1744 г. Але пра гэтыя намеры дазнаўся вораг. Атрымаўшы доўгачаканае падмацаванне — гарматы і жывую сілу, кіраўніцтва радзівілаўскага войска вырашыла апярэдзіць паўстанцаў. У ноч на 26 студзеня — на той дзень, калі сяляне планавалі захапіць Крычаў, радзівілаўскія злучэнні рушылі ў напрамку Царковішча. Асцярожна, пад покрывам цемнаты, княжацкі атрад набліжаўся да лагера паўстанцаў. Калі пачало віднець, радзівілаўскае войска знянацку напала на сялян, якія не здолелі арганізаваць хоць якую абарону. Невялікія групы паўстанцаў адыходзілі да лесу, каля 200 чалавек загінула на полі бою, 176 трапіла ў палон. Камандуючы радзівілаўскім войскам загадаў 30 паўстанцаў павесіць, яшчэ 30 пасадзіць жывымі на палі і падвесіць за рэбры на круках. Уся маёмасць актыўных удзельнікаў паўстання канфіскоўвалася. Па сутнасці, вёскі Крычаўскага староства былі аддадзены салдатам на рабаванне. У першай палове лютага 1744 г. у Крычаў прыбыў гаспадар уладання Іеранім Фларыян Радзівіл, і тады адбыўся суд над кіраўнікамі сялянскага руху. 16 паўстанцаў былі прыгавораны да пакарання смерцю, аднак сярод іх імя Вашчылы не значылася.

Пасля паражэння пад Царковішчам, калі Вашчыла зразумеў, што не зможа больш сабраць сялянскія атрады, каб супрацьстаяць радзівілаўскім наймітам, ён вырашыў уцячы ў Расію. Яму ўдалося вырвацца з Крычаўскага староства і дабрацца да Латакоўскага фарпоста на тэрыторыі Расійскай імперыі. Услед доўга гналіся дзве харугвы жаўнераў. Жаўнеры даскакалі аж да фарпоста, але схапіць Вашчылу не змаглі. На той час кіраўніка паўстання пераслалі з Латакоўскага фарпоста на Цімошынскую пагранічную заставу, а потым і далей — у Старадуб, у Кіеў. Радзівіл накіраваў ліст у Кіеўскую губернскую канцылярыю з патрабаваннем выдаць яму важака прыгонных бунтаўшчыкоў. Але адразу гэта было нельга зрабіць. Спачатку патрабавалася вызначыць паходжанне Васіля Вашчылы. Калі б кіраўніка Крычаўскага паўстання палічылі падданым Расійскай дзяржавы — маларасіянінам, яго б не выдалі Рэчы Паспалітай згодна з Вечным мірам 1686 г. паміж суседнімі дзяржавамі. Калі ж аказалася б, што ён беларус, ураджэнец Крычаўшчыны, падданы Рэчы Паспалітай, то рускія ўлады мусілі б выдаць Вашчылу палякам як уцекача. Паходжанне Васіля Вашчылы царскія чыноўнікі расследавалі вельмі старанна і доўга. Допыты Вашчылы, яго родных, папяровая цяганіна паміж Старадубам, Кіевам, Пецярбургам працягвалася з лютага аж да верасня 1744 г. Пакуль перасылаліся лісты, указы, загады, Васіль Вашчыла, якога трымалі

пад аховай ў Старадубскай крэпасці, цяжка захварэў. Наглядчык за кіраўніком Крычаўскага паўстання адзначаў: «А хвароба ў яго (Вашчылы — *В. М., П. Л.*) — крывавы мыт». 26 жніўня здароўе вязня старадубскай турмы рэзка пагоршылася, а 28 жніўня 1744 г. Васіля Вашчылы не стала.

Але пагалосак Крычаўскага паўстання доўгім рэхам адазваўся па ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Праз 4 гады пасля падзей на Крычаўшчыне адзін з радзівілаўскіх слуг пісаў свайму пану: «Гэта ж ва ўсёй Кароне (гэта значыць — Польшчы) і Літве (гэта значыць — Вялікім княстве Літоўскім) вядома Крычаўскае выступленне». Вынікам мужнай барацьбы прыгонных стала паслабленне феадальнага прыгнёту ў старостве. Уладальнік Крычаўшчыны замяніў цяжкія работы на будах грашовым паборам, зняў шэраг абмежаванняў на сялянскі гандаль, адмовіўся ад здачы староства ў арэнду.

**Паўстанне на Каменшчыне.** Буйное ўзброенае выступленне сялян у 50-ых гг. XVIII ст. адбылося на паўднёвым усходзе Беларусі ва ўладанні віленскага капітула Каменшчына (Мазырскі павет). Хваляванні тут пачаліся яшчэ ў 1736 г. і працягваліся з перапынкамі больш двух дзесяцігоддзяў. Прычынай іх быў непасільны прыгнёт, які доўгі час трывалі сяляне ад адміністрацыі капітула.

У 1754 г. сялянскія хваляванні перараслі ва ўзброенае выступленне. Немалую ролю ў гэтым адыграў гайдамацкі рух. У 1754 г. паўстанне гайдамакаў адбылося на Жытоміршчыне, якая непасрэдна прымыкала да Каменшчыны. Трэба думаць, што невыпадкова ў гэты ж час супраць сваіх прыгнятальнікаў са зброяй у руках выступілі сяляне Камянецкай воласці.

Самыя раннія звесткі аб камянецкім выступленні адносяцца да 7 верасня 1754 г. Пад гэтай датай значыцца загад гетмана аб накіраванні ва ўладанне дзвюх харугваў пад камандаваннем ротмістраў Бараноўскага і Швыкоўскага для падаўлення сялянскага выступлення. Напэўна, гэта ім хутка ўдалося, бо ў снежні харугвы былі адазваны на папярэдняе месца дыслакацыі.

Аднак барацьба ва ўладанні не спынілася. У кастрычніку 1755 г. сяляне зноў узяліся за зброю і тым жа дзвюм харугвам, як і год назад, прыйшлося выпраўляцца ва ўладанне капітула. На гэты раз такой сілы для ўціхамірвання падданых не хапіла, бо Радзівіл цераз месяц накіроўвае на Каменшчыну яшчэ 4 харугвы колькасцю 70 коннікаў на чале са шляхціцам Панятоўскім. Аднак і такой колькасці для падаўлення выступлення было яўна недастаткова. У сваім лісце Радзівілу ад 8 студзеня 1756 г. Панятоўскі паведамляў, што паўстала ўся Камянецкая воласць, у якой налічваецца звыш 700 сялянскіх двароў[173].

Сяляне пры падыходзе харугваў да ўладання пакідалі свае вёскі і хаты і кіраваліся да мястэчка Славечна, дзе мелі намер, згуртаваўшыся, аказаць узброе-

нае супраціўленне войску. Так і адбылося. Сялянскі атрад перастрэў людзей Панятоўскага яшчэ перад Славечнам. Нечакана для шляхецкага атрада прыгонныя пасля абстрэлу коннікаў перайшлі ў атаку. Невялікае злучэнне Панятоўскага не здолела вытрымаць націску і пачало адступаць. Спачатку адступленне мела арганізаваны характар. Адыходзячы, харугвы аказвалі некаторае супраціўленне, але затым кінуліся ва ўцёкі. Панятоўскаму прыйшлося адысці да Убарці, мястэчка, якое размяшчалася на адлегласці 10 міляў ад Каменшчыны[174]. Тут ён вырашыў затрымацца да таго часу, пакуль не падыдзе чаканая дапамога ад Радзівіла, бо ўжо не меў ахвоты з наяўнай сілай ісці супраць згуртаваўшыхся сялян.

Рыхтаваліся да сустрэчы радзівілаўскага войска таксама і паўстанцы. Яны працягвалі сцягвацца да Славечна і стваралі там умацаваны лагер. Па дадзеных Панятоўскага, бунтаўнікоў налічвалася некалькі тысяч. Усёй воласцю яны далі клятву «змагацца да апошняга, хоць і галовы прыйшлося б пакласці»[175].

У лютым 1756 г. да Панятоўскага прыбыло 55 коннікаў, а ў сакавіку з Нясвіжа падышла пяхота з гарматамі пад камандаваннем капітана Ціля. Да таго ж да Оўруча па загаду Радзівіла была накіравана гетманская міліцыя на чале з палкоўнікам Матавідлам.

Панятоўскі са сваімі людзьмі выступіў з Убарці, каб злучыцца пад Оўручам з міліцыяй, а потым атакаваць лагер паўстанцаў. Пасля аб'яднання пад камандаваннем Панятоўскага налічвалася ўжо каля 400 чалавек. Гэта былі і гусары, і лёгкая конніца, і пяхота з артылерыяй. З гэтай сілай ён мог разлічваць на поспех у сутычцы з сялянскім атрадам, таму адразу накіраваўся да Славечна.

Атабарыўшыся пад лагерам, Панятоўскі накіраваў трубача да паўстанцаў з прапановай капітуляцыі. Але тыя адзінадушна пацвердзілі сваё рашэнне змагацца да апошняга. Пасля такога адказу камандуючы шляхецкага атрада аддаў загад на прыступ замка. Вайскоўцы падпалілі гумны, у якіх паўстанцы зрабілі засады. Атака была імгненнай, і сяляне не вытрымалі націску. Замак быў захоплены, прычым без страт з боку нападаючых. Паўстанцы ж згубілі 60 чалавек. Больш таго, некалькі дзесяткаў сялян патанулі ў балотах, якія суседнічалі з лагерам. Каля 60 чалавек раненых былі ўзяты ў палон. Аднаго з палонных карнікі адразу пасадзілі на палю.

Гэта быў пачатак жорсткай расправы, якую ўчынілі пераможцы над паўстанцамі. Потым на месца экзекуцыі яны сагналі ўсё дарослае насельніцтва Камянецкай воласці і пачалі выконваць прыгаворы: адных удзельнікаў сялянскага руху каралі смерцю, іншых — білі бізунамі. Перад адыходам з мястэчка Панятоўскі загадаў 4 кіраўнікоў паўстання пасадзіць на палі, а 10 сялянскіх важакоў, прывязаўшы да гарматаў, адправіць у Нясвіж на суд да Радзівіла[176].

Такім чынам, паўстанне на Каменшчыне, якое мела ла-

кальны характар, пацярпела паражэнне. У ім, як і ў паўстанні сялян Крычаўскага староства, а таксама іншых узброеных выступленнях прыгонных, дакладна праявіліся тыповыя для феадальнай эпохі раз'яднанасць сялянскага руху, яго непаслядоўнасць, якая вынікала з рознасці інтарэсаў асобных катэгорый сялянскага саслоўя.

Але разам з тым безвыніковымі сялянскія выступленні назваць нельга. Бо пасля іх становішча сялян на некаторы час паляпшалася і ліквідаваліся найбольш агідныя праявы феадальнага прыгнёту. Так здарылася і на Каменшчыне, калі капітул быў вымушаны пайсці на паслабленне павіннаснага абцяжарвання.

## 5. Культура.

У другой палове XVII — першай палове XVIII ст. працягвала сваё панаванне ідэалогія, якая апраўдвала каталіцкую экспансію, праследаванне іншаверцаў-дысідэнтаў. У XVIII ст. ужо не дзейнічалі брацкія школы і друкарні, акрамя адной з іх — Магілёўскай Богаяўленскай, якой прыходзілася весці сапраўдную барацьбу за існаванне. Выцесненая ў 1696 г. з афіцыйнага ўжытку беларуская мова адыходзіла ў сферу бытавых зносін, што не магло адмоўна не адбіцца на развіцці беларускай культуры і ў першую чаргу — літаратуры, якая ў тыя няпростыя часы перажывала складаны перыяд пераходу ад старажытнай да літаратуры новага часу. Глыбінныя змены наспявалі і ў мастацтве, аднак усялякія імкненні вызваліцца ад сярэдневяковых поглядаў на чалавека і рэчаіснасць скоўваліся рэлігійнымі догмамі.

Ідэалагічны кантроль царквы над культурай, духоўным жыццём стрымліваў развіццё грамадскай і навуковай думкі.

Манаполіяй на асвету, а гэта значыць і на фарміраванне светапогляду і культуры, валодалі каталіцкія ордэны, і ў першую чаргу багаты і ўплывовы ордэн езуітаў. Ён меў на Беларусі сетку пачатковых і сярэдніх навучальных устаноў, дзе выхоўваліся «адданыя каталікі». Навучэнне вялося, як правіла, на латыні і ўключала знаёмства з тэалогіяй, схаластыкай і рыторыкай.

Афіцыйная ідэалогія распальвала рэлігійны фанатызм, канфесійную нецярпімасць, узаконьвала цемрашальства. На фоне тагачасных нораваў не здаецца адыёзным наказ, які дала ў 1733 г. гародзенская шляхта сваім паслам на Варшаўскі сейм: «хадайнічаць аб выданні цвёрдага закону, каб нікога з сялянскіх дзяцей не прымалі ў школы для навучэння грамаце», бо «згодна старой прымаўцы, сялянскі род добры, калі ён у маркоце, але дрэнны, калі ён у радасці ці калі адукаваны школьнымі навукамі»[177].

А менавіта ж сацыяльныя нізы, і перш за ўсё сялянства, запрыгоненае, бяспраўнае, яко-

му цемрашалы адмаўлялі ў праве на асвету, у тыя часы выконвалі вялікую гістарычную культурную місію. У гэтым асяроддзі зберагаліся нацыянальныя традыцыі, захоўвалася беларуская мова. Яна развівалася ў народных казках, паданнях, абрадавых песнях, што суправаджалі беларуса ад калыскі да магілы. Да фальклорных вытокаў звярталася, прыпадала, пазбягаючы небыцця, беларуская літаратура. Цікава, што ў нетрах езуіцкага школьнага тэатра нарадзіліся інтэрмедыі — невялікія беларускія сцэнкі, якія ўключаліся ў лацінскія і польскія драмы — зародкі будучай беларускай драматургіі. Некаторыя інтэрмедыі пачатку XVIII ст. (Ковенскі школьны зборнік) мелі ўжо адносна самастойнае значэнне, а іх героем выступаў беларускі селянін, носьбіт народнага, прастадушнага і здаровага ў сваёй аснове светапогляду («Селянін і вучань», «Літаратар, селянін і Самахвальскі»).

**Барока** — пышнае і раскошнае, заставалася вызначальным мастацкім стылем першай паловы XVIII ст., у рэчышчы якога нараджаліся і бытавалі духоўная і свецкая паэзіі, школьная драма, кніжнае мастацтва. Гэты стыль вызначаў працы таленавітых прадстаўнікоў магілёўскай школы гравюры Васіля Вашчанкі і Фёдара Ангілейкі, шпалерныя вырабы радзівілаўскіх ткацкіх мануфактур у Белай, Міры, Альбе, урэцка-налібоцкае шкло. Найбольшага росквіту ў той час дасягнула барочная скульптура. Яна ўпрыгожвала магнацкія палацы і касцёлы шматлікіх каталіцкіх ордэнаў на Беларусі. Каталіцкая царква была багатым заказчыкам, і не будзе перабольшваннем сказаць, што яе густы ўплывалі на развіццё пэўных відаў мастацтва. Сімфоніяй пластыкі паўставаў перад чалавекам шчодра аздоблены разьбой і скульптурай інтэр'ер езуіцкага касцёла ў Гародні (разьбяр Я. Х. Шміт з памочнікамі). Менавіта ў скульптуры таго часу выразна выявілася галоўная тэндэнцыя працэсу ўспрымання беларускім мастацтвам дасягненняў сусветнай культуры — творчая перапрацоўка еўрапейскіх традыцый на мясцовай аснове, развіццё лакальных асаблівасцей (скульптурны ансамбль пінскага франціскансага касцёла — 1720—1730-ыя гг.), з'яўленне скульптуры «нізавога барока» уніяцкіх храмаў. У стылі барока перабудоўваецца разбураны ў 1706 г. шведамі нясвіжскі палацава-замкавы комплекс (пасля 1726 г., архітэктар К. Ждановіч), і будуецца Менскі касцёл і кляштар бернардзінак.

Паступова ў архітэктуры на змену сталаму барока прыходзіць позняе, якое на Беларусі і Літве найбольш выразна ўвасобілася ў так званым «віленскім барока». Выдатны прадстаўнік апошняга Я. К. Глаўбіц быў аўтарам праектаў касцёла Іаана Хрысціцеля ў Сталовічах (1740—1746 гг.) і перабудовы славутай полацкай Сафіі — на той час уніяцкай царквы (1738—1750). Архітэктуры «віленскага барока» былі ўласцівы дынамізм, маляўнічасць і вытанчанасць аб'ёмаў. Позняе барока ў сярэдзіне стагоддзя нярэдка дапаў-

нялася рысамі новага стылю — арыстакратычна-вытанчанага і гарэзлівага ракако. Арганічна спалучаліся барочная і ракайльная архітэктурныя плыні ў тварэнні вядомага архітэктара М. Д. Пёпельмана ў Гародні — Новым замку (1737—1744 гг.), рэзідэнцыі польскага караля.

**Асветніцтва і класіцызм.** Суіснаванне і змяшчэнне старых і новых тэндэнцый і плыняў у архітэктуры, грамадскай думцы, літаратуры, прыродазнаўстве, філасофіі (эклектычныя напрамкі) становяцца нормай і сведчаць аб тым, што XVIII ст. было для Беларусі «месцам сустрэчы» дзвюх культурных эпох. На змену старым уяўленням ідзе ідэалогія новага часу — Асветніцтва, з характэрным для яго культам асветы, розуму, навукі. Узнікаюць і новыя ідэалы. На змену сармату — ідэалу асобы былых часоў,— чалавеку старых правіл, набожнаму, экзальтаванаму, ненавісніку чужога і новага, шляхецкае асяроддзе фарміруе новы ідэал. Гэта — чалавек разумны, рацыяналіст і скептык, крытык рэлігіі, адкрыты дасягненням сусветнай культуры і новым яе павевам, рэфарматар[178]. Прыхільнікі новай ідэалогіі супрацьпастаўлялі сябе «сарматам» і вонкава: яны змянілі жупаны і кунтушы на еўрапейскае адзенне і перабудоўвалі на новы лад свае сядзібы, бо барока здавалася ім старамодным. Яны аддавалі перавагу мастацкаму стылю эпохі Асветніцтва — класіцызму, які імкнуўся ўсё падпарадкаваць законам розуму, прыгажосці і велічнай прастаты.

Ужо ў сярэдзіне стагоддзя моладзь Беларусі магла атрымаць больш свецкую, чым раней, адукацыю. Гэтаму садзейнічала рэформа піярскіх школ, якая праводзілася пад кіраўніцтвам С. Канарскага. Рэформа пахіснула манаполію езуітаў у галіне асветы, увяла ў школы польскую мову, значную ўвагу надала грамадска-этычным і прыродазнаўчым навукам, выхаванню разумовых здольнасцей вучняў. На дасягненні рэфарматарскай дзейнасці С. Канарскага абапіраліся дзеячы створанай у 1773 г. Адукацыйнай камісіі, першага ў Еўропе міністэрства народнай асветы. Яна зрабіла шэраг для свайго часу рэвалюцыйных крокаў і перш за ўсё адмяніла выкладанне ў рамках школьных праграм рэлігіі. На беларускіх землях камісія адкрыла 20 сваіх школ.

У другой палове XVIII ст. у грамадстве значна ўзмацнілася цікавасць да прыродазнаўчых навук. Арганізоўваліся фізічныя кабінеты ў школах, дзе практыкаваліся дэманстрацыі навуковых вопытаў і публічныя дыспуты. Навуковым цэнтрам Літвы і Беларусі была Віленская акадэмія. Усё часцей выхадцы з Беларусі атрымлівалі магчымасць удасканальваць сваю адукацыю ў Заходняй Еўропе.

Значную ролю ў распаўсюджванні навуковых ведаў на Беларусі адыграла Гародзенская медыцынская школа, заснаваная Антоніем Тызенгаўзам. Узначальваў яе ў 1775 г. французскі ўрач і натураліст Ж. Э. Жылібер. Ён стварыў пры школе прыродазнаўчы кабінет, аптэку,

анатамічны тэатр і батанічны сад, выдаў два тамы фундаментальнай працы «Літоўская флора» (1781).

Пазнанне прыроды ішло поруч з пазнаннем чалавека і грамадства. Якасныя змены ў гуманітарных навуках абумоўліваліся адыходамі іх ад тэалогіі. У роздумах аб свеце і месцы ў ім чалавека філосафы абапіраліся на ідэі рацыяналізму і прыроднага права, на дасягненні новай фізікі і астраноміі (А. Скарульскі, С. Шадурскі, Б. Дабшэвіч, К. Нарбут). Мела на Беларусі паслядоўнікаў вучэнне фізіякратаў (І. Храптовіч, А. Тызенгаўз, І. Страйноўскі).

Значную ролю ў фарміраванні новага светапогляду адыгралі творы польскіх, рускіх, заходнееўрапейскіх асветнікаў. Тут распаўсюджваліся працы С. Сташыца, Г. Калантая, Я. Казельскага, А. Радзішчава, Ж.-Ж. Русо, Ф. Вальтэра, Р. Дэкарта, Д. Лока. Актыўна прапагандаваў ідэі французскіх асветнікаў менчук І. Быкоўскі. Шырока распаўсюджвалі ідэі рускага Асветніцтва педагогі рускіх народных школ, створаных урадам Расіі на ўсходніх беларускіх землях пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Беларусь XVIII ст. вылучыла асоб, якія ўнеслі ўклад у гісторыю вальнадумства (М. Карповіч, І. Яленскі, Я. Ясінскі), дала еўрапейскай навуцы такіх буйных вучоных, як астраном Марцін Пачобут-Адляніцкі і філосаф Саламон Майман.

З сярэдзіны XVIII ст. узмацняецца ў грамадстве цікавасць да мінулага. Гісторыя Беларусі знайшла адлюстраванне ў выдадзеных Ф. Папроцкім, С. Канарскім, М. Догелем крыніцах па гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай і ў працы выдатнага польскага гісторыка і прыхільніка асветніцкіх поглядаў, ураджэнца Піншчыны Адама Нарушэвіча «Гісторыя польскага народа».

Ідэі Асветніцтва, як і ўсё новае, прымаліся нялёгка. Моцнае супрацьдзеянне царквы выклікала тэорыя геліяцэнтрызму, новыя погляды ў гісторыі, філасофіі, педагогіцы і, вядома ж, крытыка рэлігіі і феадальных парадкаў. У 1780-ыя гады на Беларусі была разгорнута цэлая антывальтэраўская кампанія. Але, нягледзячы на гэта, кнігі вялікага бязбожніка і яго паплечнікаў мелі тут вялікую папулярнасць. Імёны французскіх мысліцеляў акружаліся вялікім гонарам. А. Тызенгаўз запрасіў пасяліцца на Беларусі Ж.-Ж. Русо, і толькі выпадак перашкодзіў славутаму французу пражыць апошнія гады свайго неспакойнага жыцця на нашай зямлі. За гонар лічылі адукаваныя жыхары беларускага краю мець вядомую французскую «Энцыклапедыю» ў сваіх бібліятэках.

Чытаць і збіраць кнігі станавілася модным. Значна пашыралася кола чытання, магчымасці выбару кніг. На Беларусі першай паловы XVIII ст. існавалі 2 друкарні, а ў другой — 11. У іх прадукцыі ўзрасла колькасць свецкіх выданняў. З'явілася і першае на беларускай зямлі перыядычнае выданне: «Gazeta Grodzeńska» (1776—1783). Ра-

слі асабістыя кнігазборы: Нясвіжская бібліятэка Радзівілаў — багацейшая ў Рэчы Паспалітай, бібліятэкі Сапегаў, узнікаюць новыя — бібліятэка Храптовіча ў Шчорсах. Сярод магнатаў працвітае мецэнацтва. Значны ўклад у культуру Беларусі ўнесла мецэнацкая дзейнасць вялікага гетмана літоўскага князя Міхала Казіміра Агінскага і кіраўніка гародзенскіх каралеўскіх эканомій графа Антонія Тызенгаўза.

Сядзібы магнатаў становяцца цэнтрамі культурнага жыцця краю. Беларускія магнаты Радзівілы, Агінскія, Сапегі, Тызенгаўзы акружалі сябе раскошай, не скупіліся на вялікія расходы: выпісвалі лепшых архітэктараў, мастакоў, музыкантаў. Магнацкія рэзідэнцыі ў той час будаваліся і перабудоўваліся па праектах вядомых дойлідаў Я. К. Глаўбіца, Дж. Сака, К. Спампані. Палацы другой паловы XVIII ст. у Гародні (1760-я), Свяцку (1779), Шчорсах (1770—1776), Дзярэчыне (1786—1787) спалучалі барочна-ракайльныя і класіцысцкія стылявыя плыні. Іх веліч і прыгажосць дапаўнялі паркавыя ансамблі — выдатныя ўзоры садова-паркавага мастацтва. Багата аздабляліся палацавыя інтэр'еры. Самыя вытанчаныя густы маглі задаволіць вырабы магнацкіх мануфактур. Другая палова XVIII ст.— час росквіту дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі. Сярод выдатных дасягненняў беларускіх майстроў: посуд урэцкай і налібоцкай шкляных мануфактур, мірскія і слуцкія дываны, карэліцкія габелены і сусветна славутыя слуцкія паясы, што выраблялісся ў радзівілаўскай «персіярні» пад кіраўніцтвам таленавітага Яна Маджарскага[179].

**Прыгонны тэатр.** Здавалася, усе музы і іх служыцелі збіраліся на магнацкія двары дзеля таго, каб стварыць унікальную з'яву гісторыі культуры Беларусі — прыгонны тэатр другой паловы XVIII ст.

Пяцьдзесят гадоў праіснаваў нясвіжскі тэатр Радзівілаў, які ўзнік у 1740 г. У Слуцку трымаў таэтр на працягу 1751—1760 гг. Г. Радзівіл, у Слоніме ў 1771—1791 гг. М. К. Агінскі, у Гародні ў 1769—1780 гг.— А. Тызенгаўз. Свае «парнасы» мелі і рускія магнаты, якім дала землі на Беларусі Кацярына II: З. Р. Чарнышоў — У Магілёве і Чачэрску, С. Г. Зорыч — у Шклове (1778—1800). Кожны з гэтых тэатраў нёс на сабе выразны адбітак асобы, густаў і прыхільнасцей уладальніка: барочны аматарскі тэатр пісьменніцы і перакладчыцы Ф. У. Радзівіл, багаты і пышны тэатр К. С. Радзівіла (Пане Каханку). Веліч яго спектакляў зацьмявала каралеўскія сцэны. З імі мог паспрачацца раскошны тэатр Зорыча. Дух прускай казармы панаваў у слуцкім тэатры Г. Радзівіла, а слонімскі тэатр таленавітага музыканта-аматара і кампазітара М. К. Агінскага вызначаўся арыстакратызмам і вытанчанасцю.

Пры ўсёй разнастайнасці прыгонных тэатраў Беларусі іх яднала адно — высокі прафесійны ўзровень. Магнаты запрашалі ў свае тэатры мясцовых і заход-

неeўрапейскіх прафесіяналаў, выдатных майстроў тэатральнага мастацтва. У беларускіх прыдворных тэатрах таго часу працавалі кампазітары Дж. Альберціні, Я. Голанд, К. Чыпрыяна, музыканты А. Ваплер, А. Данезі, Л. Сітанскі, спявачкі К. Банафіна, П. Драздоўская, мастакі А. Главацкі, Я. Рустэм, К. Атасельскі, танцоўшчыкі і балетмайстары Г. Петынеці, Ф. Марыні, А. Пуціні, Л. М. Дзюпрэ — адзін з заснавальнікаў мужчынскага сцэнічнага танца [180].

Высокі прафесійны ўзровень магнацкіх тэатраў забяспечваўся таксама добра наладжанай тэатральнай адукацыяй. У балетных і музычных школах Слуцка, Слоніма, Нясвіжа, Гародні, Шклова дзеці мяшчан і прыгонных сялян навучаліся ў прафесійных педагогаў сцэнічнаму майстэрству, танцам, спевам, валоданню музычнымі інструментамі. Школы рыхтавалі высокапрафесійных артыстаў, і не дзіва, што выхаванцы гародзенскай тэатральнай школы А. Тызенгаўза ззялі потым на польскай сцэне, склаўшы ядро каралеўскага балета, а выпускнікі шклоўскіх балетнай і музычнай школ папаўнялі трупы імператарскіх тэатраў у Пецярбургу. Гісторыя захавала імёны таленавітых прыгонных акцёраў, музыкантаў і танцоўшчыкаў: Мацей з Карэліч, Я. Ценціловіч, Р. Бекер, А. Бжазінскі, А. Дарэўская, М. Чаклінская і шмат іншых, якія былі ўласнасцю сваіх паноў, і, калі апошнія паміралі, або ў тыя неспакойныя часіны вымушаны былі пакідаць свае маёнткі, прыгонныя «амуры» і «зефіры» распрадаваліся ці вярталіся ў дзявоцкія і канюшні.

Прафесійны ўзровень прыгонных тэатраў дазваляў ім мець багаты і разнастайны рэпертуар. Тут ставіліся оперы, балеты, трагедыі, камедыі, у тым ліку Ж. Б. Мальера, Ф. Вальтэра, гучала музыка Д. Паізіела, Д. Чымароза, К. В. Глюка, Л. Бакерыні, Э. Дуні, І. Гайдна і І. Х. Баха. Спецыяльна для мясцовых тэатраў пісалі творы кампазітары Дж. Альберціні, Я. Голанд, М. К. Агінскі.

Прыгонны тэатр Беларусі быў ужо суцэльна з'явай свецкага мастацтва. Менавіта імкненне да духоўнага і эстэтычнага разняволення складала магістральны кірунак развіцця мастацтва і літаратуры Беларусі эпохі Асветніцтва. Яно праявілася ў выяўленчым мастацтве: партрэтным жывапісе і графіцы («Выявы роду князёў Радзівілаў» Г. Ляйбовіча) і нават вельмі моцна ў царкоўным манументальна-дэкаратыўным жывапісе і іканапісе. Роспісы каталіцкіх касцёлаў тых часоў: кармялітаў у Мсціславе і Магілёве, езуітаў у Нясвіжы і Гародні, праваслаўнай царквы Нараджэння Багародзіцы ў Прапойску арганічна ўвабралі ў сябе рысы свецкага мастацтва і свецкага светаўспрымання. Узмацняліся рэалістычныя і дэмакратычныя тэндэнцыі ў беларускай іканапіснай школе.

**Літаратура.** Паступова пачала пераважаць свецкая плынь у шматмоўнай літаратуры Беларусі. Тут у канцы XVIII с. друкаваліся кнігі на польскай, французскай, лацінскай, італьянскай, нямецкай, рускай, яўрэйскай і латышскай мовах.

Літаратурная мода на класіцызм і сентыменталізм і значная колькасць кніг ішла на Беларусь з Варшавы і Вільні. Жыццёвы або творчы лёс амаль кожнага дзесятага польскага пісьменніка другой паловы XVIII ст. былі звязаны з Беларуссю[181]. Тут жылі і працавалі Ф. Карпінскі, М. Дудзінскі, Я. Ясінскі. Ураджэнцамі беларускага краю былі пачынальнік польскага класіцызму Ю. Нямцэвіч, паэт і гісторык А. Нарушэвіч, драматург Ф. Багамолец, адзін з пачынальнікаў польскага сентыменталізму Ф. Князьнін.

Адсутнасць друкаванай трыбуны не спрыяла нармальнаму развіццю беларускай нацыянальнай літаратуры. Але яна выжыла і адлюстравала буйныя падзеі часу ў палітычнай сатыры «Указ гарачы», «Праект», «Як расплакаўся что пруськой король» (Сямігадовая вайна), «Песнь руская» (бітва рускай арміі з канфедэратамі), «Разгавор імператрыцы з Ільгештромам лістовны дня 28 апрыла 1794 года» (паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі). У 1794 г. узнікла «Песня беларускіх жаўнераў» — першае ў беларускай літаратуры непасрэднае звяртанне да народа з заклікам змагацца з царызмам.

У барацьбе з аджыўшымі традыцыямі ў літаратуры перамагалі новыя тэндэнцыі. Відазмянялася жанравая структура: на першы план выйшлі паэзія і драматургія. Амаль знікла духоўная і маральна-павучальная паэзія і расквітнела паэзія камедыйная, бурлескная, якая звяргала старыя аўтарытэты, парадзіравала тое, што раней лічылася недатыкальным,— біблейскія сюжэты: «У Віфлееме доме ўбогім», «Таго дня вельмі слаўнага», «Уваскрэсенне Хрыстова і сашэсце яго ў пекла». Вальнадумства і антыклерыкалізм пранізвалі і парадыйна-сатырычную прозу таго часу: «Прамова русіна», «Прамова русіна аб нараджэнні Хрыста», «Казанне рускае схізнатычнае».

Невыпадкова менавіта камедыйная плынь вызначыла галоўны напрамак развіцця беларускай літаратуры другой паловы XVIII ст. І справа тут не толькі ў насмешлівым духу асветніцкага вальнадумства. Нарматыўная эстэтыка класіцызму дапускала выкарыстанне беларускай мовы як гутарковай у «нізкіх» — камедыйных жанрах і гэты «дазвол» беларуская літаратура выкарыстоўвала. Менавіта ў такім жанры з'явілася першая шматактная беларуская «Камедыя» (1787) Каэтана Марашэўскага, пастаўленая на сцэне тэатра Забельскай дамініканскай калегіі — аднаго з цэнтраў культурнага жыцця Беларусі 1780—1790-х гадоў. «Камедыя» Марашэўскага з цэнтральным персанажам, беларускім селянінам Дзёмкам, узнікла, безумоўна, на аснове беларускіх інтэрмедый. У інтэрмедыях, травесційных вершах, «студнай» бурлескнай паэзіі — тварэннях школяроў і дзякаў-вандроўнікаў выразна праявіўся нацыянальны каларыт літаратуры з яго ўвагай да народнага жыцця.

Развіццё беларускай літаратуры ў другой палове XVIII ст. сведчыць, што ні ўціск контррэфармацыйнай нецярпімасці, ні

наднацыянальны характар культуры Асветніцтва, ні адцягванне культурных сіл не знішчылі нацыянальную беларускую культуру. Творчае асэнсаванне як моцных славянскіх глыбінь, так і заходнееўрапейскіх уплываў, далучэнне — асабліва шырокае ў эпоху Асветніцтва — да здабыткаў сусветнай культуры значна ўзбагацілі яе. У канцы стагоддзя зараджаецца цікавасць да народнага жыцця, фальклору. З'яўляецца першае этнаграфічнае даследаванне («Апісанне Крычаўскага графства, або былога староства» А. К. Меера). У літаратуру і на сцэны магнацкіх тэатраў мода на сентыменталізм прывяла новых герояў — людзей з нізкіх саслоўяў (оперы «Агатка» — лібрэта М. Радзівіла, «Новае сямейства» — лібрэта С. К. Вязміцінава). Са сцвярджэннем чалавечай годнасці простага чалавека звязаны быў дэмакратычны струмень культуры Беларусі, які выразна праявіўся і даў плённыя вынікі ў наступным XIX ст.

# РАЗДЗЕЛ V

# КРЫЗІС ФЕАДАЛЬНА-ПРЫГОННІЦКАЙ СІСТЭМЫ

## (Канец XVIII —першая палова XIX ст.)

## 1. Палітычнае і сацыяльна-эканамічнае становішча ў складзе Расійскай імперыі.

**Першыя крокі расійскіх улад.** У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793 і 1795 гг.) спыніла сваё існаванне адна з самых буйных дзяржаў Еўропы. Каля 3 мільёнаў чалавек, якія пражывалі на тэрыторыі Беларусі, аказаліся ў складзе Расійскай імперыі. Гэта падзея, несумненна, адбілася на эканамічным, грамадска-палітычным і культурным развіцці беларускага народа.

Уключэнне беларускіх зямель у склад цэнтралізаванай, з моцнай вярхоўнай уладай, дзяржавы прывяло да пэўнай палітычнай стабілізацыі, якая паклала канец ваенным сутычкам на беларускіх тэрыторыях, феадальнай анархіі. Магнатам забаранялася ўтрымліваць прыватныя войскі, мець свае крэпасці.

Уцягванне Беларусі ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму пашырыла рынак збыту прадуктаў земляробства, садзейнічала пэўнай эканамічнай арыентацыі і спецыялізацыі.

Адзначаныя з'явы ў сацыяльна-эканамічным развіцці Беларусі, якія назіраліся пасля далучэння да Расіі, не мелі істотнага ўплыву на стан сялянскай гаспадаркі. Больш таго, калі ў сярэдзіне XVIII ст. фальваркі займалі 7—15 % агульнай колькасці зямель ва ўладаннях памешчыкаў, то ў 1861 г. адпаведны паказчык падняўся да 73,4[1]. Следствам такога пераразмеркавання зямельнага фонду з'явілася абеззямельванне значнай часткі сялянства і павелічэнне адработачных павіннасцей.

У першыя дзесяцігоддзі пасля далучэння царскі ўрад імкнуўся інтэграваць беларускія землі ў імперыю такімі сродкамі, каб «покорить сердце в оных живущих добрым, порядочным, правосудным, снисходительным, кротким и человеколюбивым управлением.., а не силою оружия»[2]. Рэалізацыя гэтай палітыкі спалучала ваеннае падаўленне сялянскіх хваляванняў і апякунскую заклапочанасць станам плацежаздольнасці ўсіх падатковых груп насельніцтва.

Перыядычна ўводзіліся часовыя льготы на выплату дзяржаўных падаткаў. Благачынна-папячыцельскім клопатам абстаўляліся мерапрыемствы па арганізацыі вясковых запасных магазінаў, якія прызначаліся стаць страхавым фондам для збяднелага сялянства. У 1776 г. пры здачы казённых маёнткаў у прыватную арэнду ўпраўляючым і арандатарам рэкамендавалася пазбягаць фізічных пакаранняў. У 1797 г. памер паншчыны абмяжоўваўся трыма днямі на тыдзень. Але дадзены заканадаўчы акт заставаўся на паперы, бо ён не вызначыў той акладнай адзінкі, па якой вылічалася норма эксплуатацыі. У 1799 г. на беларускія губерні быў распаўсюджаны ўказ аб адмене смяротнага пакарання.

На працягу канца XVIII — пачатку XIX ст. расійскія ўлады праводзілі перыядычныя рэвізіі маёмаснага становішча сялян з апытаннем саміх прыгонных. Гэтыя звычайна нечаканыя і сакрэтныя мерапрыемствы дзяржаўных чыноўнікаў расцэньваліся сялянамі як падрыхтоўка

самім царом скасавання прыгоннага права, а таму абуджалі «в крестьянах ... надежду, что участь их облегчится»[3]. Прыгонныя адмаўляліся ад выканання паншчыны, падпарадкавання памешчыкам. Апошнія ж вінавацілі цэнтральнае кіраўніцтва ў прамым падбухторванні сялян да бунту, у занядбанні сваіх маёнткаў. Царызм выкарыстоўваў такую саслоўную супярэчлівасць ва ўласных мэтах: дзеля насаджэння веры ў добрага цара як збавіцеля ад іншаверных прыгнятальнікаў, русіфікацыі землеўладання і адміністрацыйнага апарату.

Адной з форм кантролю за станам кіраўніцтва і вытворчых сіл былі тагачасныя сенатарскія рэвізіі (інспекцыі). Першую інспекцыю у Беларусі здзейснілі сенатары А. Варанцоў і А. Нарышкін у 1785 г. Наведвалі Беларусь праездам і царскія асобы. Першай пабывала тут у маі 1780 г. Кацярына II. Наведванні суправаджаліся паказальнымі мерапрыемствамі: вернападданніцкімі прамовамі, пышнымі балямі з феерверкамі, благачыннымі ахвяраваннямі на карысць праваслаўных цэркваў і г. д.

Сутнасць палітыкі царызму на Беларусі была прадваранская. Гэта вынікае з таго, што пад умовай прынясення прысягі мясцовай шляхтай на вернападданасць, расійскімі ўладамі захоўвалася недатыкальнасць фактычна існуючага землеўладання.

Да паўстання 1830 г. захоўваліся таксама нормы Статута ВКЛ 1588 г., па якіх дзейнічалі нізавыя судова-адміністрацыйныя ўстановы. Паводле ўказа ад 8 мая 1773 г., шляхта атрымала права абрання членаў у губернскія і павятовыя суды. Кожны выбаршчык павінен быў мець не менш 10, а абіраемы — не менш 20 сялян мужчынскага полу. Дэпутаты павятовых устаноў атрымлівалі чыны 9 класа, а члены губернскіх судоў — 8 класа. Новыя выбары праводзіліся праз 4 гады. Спісы дэпутатаў зацвярджаліся губернатарамі [4].

Раздаваліся дваранам, у асноўным расійскім саноўнікам, былыя дзяржаўныя ўладанні. З 1773 па 1796 гг. Кацярына II падаравала сваім прыбліжаным 180 550 беларускіх сялян. Пры Паўле I (з 1796 г. па 1801 г.) было падаравана яшчэ каля 28 000. Вынікам такой палітыкі стала рэзкае скарачэнне колькасці дзяржаўных сялян на Беларусі (прыкладна ў 3 разы)[5]. Пераход сялян у прыватную залежнасць адмоўна адбіваўся на іх матэрыяльным стане. Увядзеннем падушнага абкладання новая ўлада адбірала значную частку феадальнай рэнты, якую мясцовыя ўладальнікі прысвойвалі пры ранейшым падворным падатковым уліку. Незадаволенасць такой палітыкай царызму выказвалася і сялянамі, і мясцовай шляхтай. Гэта прымусіла расійскі ўрад адмяніць з 1801 г. практыку вечнаспадчынных падараванняў сялян. Частка дзяржаўных зямель у 1803—1809 гг. была перададзена самім сялянам у грашовую арэнду. Фальваркі пры гэтым ліквідаваліся. Але маёмасная няроўнасць сярод сялян перашкаджала ўраўняльна-

Менск у 30-ыя гг. XIX ст. Базыльянскія муры. З літаграфіі В. Сташчанюка.

му пазямельнаму абкладанню і была крыніцай абвастрэння сацыяльных супярэчнасцей у вёсцы, росту запазычанасці.

Фіскальныя інтарэсы прымусілі ўрад у 1810—1811 гг. распрадаць заняпалыя казённыя маёнткі ў прыватныя рукі праз аўкцыёны і таргі. Продаж суправаджаўся ростам зямельных цэн і павіннасцей, а змяненне залежнасці — сялянскімі хваляваннямі. Таму ўрад пацвердзіў непарушнасць фактычна існуючых інвентарных павіннасцей і перайшоў да непасрэдна адміністрацыйнага кіравання дзяржаўнай вёскай.

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел і мясцовае кіраванне.** Паводле новага тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу, на беларускіх землях утварыліся Полацкая (з 1802 г.— Віцебская), Магілёўская, Менская і Гародзенская губерні*. У фіскальна-паліцэйскіх мэтах губерні дзяліліся на паветы, кожны прыблізна па 20—30 тыс. чалавек падатковага альбо рэвізскага насельніцтва.

Парадак, функцыі і прынцыпы дзейнасці ніжэйшага адміністрацыйна-судовага і ваенна-гаспадарчага кіравання былі закладзены сенатскай пастановай ад 22.09. 1773 г. «О должности уездных комиссаров». Згодна гэтаму ўказу, кожны павет падзя-

* У тагачасным справаводстве ўжываліся спаланізаваныя назвы губерняў.

ляўся на 6 ключоў на чале з войтамі, абранымі «из людей средних лет, но честных и зажиточных» з асяроддзя землеўладальнікаў або іх аканомаў[6]. Войтам падпарадкоўваліся сотнікі і дзесятнікі, якія выбіраліся сялянскім мірам «из добрых и незазорных» сялян. Сотнікі абіраліся ад 100—200 двароў, дзесятнікі — ад 1—25. Войт павінен быў насіць знак арла, выбіты на жоўтай медзі і прышыты на правым баку грудзей. Сотнік атрымліваў доўгі кій з меднай круглай булавой на канцы, а дзесятнік — такі ж, але кароткі. Названыя асобы прызначаліся паліцэйска-выканаўчай уладай на месцах і падпарадкоўваліся павятоваму камісару як прадстаўніку царскіх уладаў. Камісары назначаліся з рускіх афіцэраў і зацвярджаліся ў сенаце.

Галоўным абавязкам павятовай паліцыі быў догляд па недапушчэнню самавольных перамяшчэнняў «воров, разбойников, пришельцев, бродяг». Дзеля гэтага ўводзілася пашпартная сістэма рэгістрацыі міграцыі насельніцтва. Пашпарты выдаваліся са згоды памешчыкаў у правінцыяльных канцылярыях, а пазней — павятовымі земскімі судамі, якім забаранялася трымаць прасіцеляў больш 4 гадзін. Прымушаліся да рэгістрацыі і цыгане. Схаваўшымся ад паліцэйскага ўліку забаранялася «без ... паспортов в уезде промышлять». Загадвалася «бродяг притворяющихся нищетою отнюдь не терпеть в народе» або даваць ім прытулак і начлег. Для жабракоў будаваліся багадзельні. Міласціну дазвалялася збіраць толькі пры цэрквах. На патрэбы састарэлых і калек прыхаджане збіралі дровы і па аднаму чацверыку мукі. Яўрэі не падлягалі суду павятовай паліцыі і земскім нарадам, а кіраваліся праз свае кагалы.

Дробязнай адміністрацыйнай апецы падлягалі практычна ўсе бакі сацыяльна-гаспадарчага жыцця вёскі. Павятовыя камісары займаліся расквятараваннем войскаў на пастой у сялянскіх хатах, утрыманнем і рамонтам дарог, мастоў, грэбляў, пераправаў. Яны наглядалі за тым, каб сяляне асушвалі вуліцы ад гразі, масцілі іх або насыпалі пяском. Забаранялася забруджваць рэкі, распальваць вогнішчы паблізу вёсак і г. д.

У далейшым паліцэйска-бюракратычная рэгламентацыя сацыяльна-гаспадарчых адносін пашыралася і дэталявалася. У 30-ыя гады XIX ст. дзеля гэтага паветы былі падзелены на станы на чале з прыставамі.

Губерні аб'ядноўваліся ў генерал-губернатарствы на чале з намеснікамі. Генерал-губернатары з'яўляліся даверанымі асобамі цара і таму надзяляліся фактычна неабмежаванымі паўнамоцтвамі. З 1772 па 1856 г. пасаду генерал-губернатара на Беларусі займаў 21 саноўнік. Першы з іх, граф З. Г. Чарнышоў, сваё ўсеўладства дэманстраваў нават з дапамогай сапраўднага трона[7]. «Мишурные цари», як трапна назваў намеснікаў Г. Р. Дзяржавін, абапіраліся на моцную ваенна-паліцэйскую піраміду чыноўнікаў. У штат, напрыклад, магілёўска-віцебскага генерал-губернатара

М. А. Урусава ўваходзілі правіцель, 4 сакратары з 12 памочнікамі па галіновых участках упраўлення, журналіст, экзекутар, казначэй, перакладчык, 24 пісцы, 10 чыноўнікаў асабовых даручэнняў[8].

Генерал-губернатарам падпарадкоўваліся вайсковыя і грамадзянскія губернатары («правіцелі»), якія выступалі «блюстителями неприкосновенности верховных прав самодержавия... и повсеместного точного исполнения законов, высочайших повелений, указов правительствующего сената и предписаний начальства»[9]. У абавязак правіцеля губерні, згодна палажэнню 1837 года, уваходзіў нагляд за зборам падаткаў і па недапушчэнню нядоімак, здачай водкупаў, заключэннем казённых падрадаў і паставак (ніжнімі і павятовымі земскімі судамі). Яны непасрэдна займаліся камплектаваннем і забеспячэннем войск, гарнізонаў, рэкруцкімі наборамі. Іх паліцэйскія функцыі зводзіліся да падтрымання «общественного порядка и спокойствия», недапушчэння ўзнікнення і дзейнасці «тайных и запрещенных обществ», выкаранення бадзяжніцтва, лоўлі дэзерціраў і беглых, садзейнічання сацыяльнай дабрачыннасці. У іх руках знаходзіўся нагляд за ходам следства па крымінальна-грамадзянскіх справах і г. д.

Кіравалі губернатары праз канцылярыі, у якія непасрэдна ўваходзілі 56 асоб: віцэ-губернатар, 2 саветнікі, пракурор, 4 сакратары, пратакаліст з памочнікам, 2 каморнікі, 2 перакладчыкі, 32 канцылярскія служыцелі, архівіст, 4 лекары, 3 вартаўнікі, кат, губернскі камісар. Дапаўнялі канцылярскі штат 323 чал. чыноўнікаў. Для пасылак губернатар трымаў 132 чал. ваеннай каманды[10]. Персанальны склад вышэйшых чыноў мясцовай адміністрацыі, за рэдкім выключэннем, набіраўся з рускіх саноўнікаў, чыноўнікаў. У пераважнай большасці губернатары паходзілі з ваенных і мелі чыны сапраўднага стацкага саветніка (2 клас па табелі аб рангах) або тайнага саветніка (3 клас). Сярод гэтай катэгорыі кіруючага апарату былі частыя персанальныя змены. Напрыклад, за першую палову XIX ст. толькі па Магілёўскай губерні змянілася 14, па Віцебскай — 17, Менскай — 15, Гародзенскай — 16 губернатараў.

Такая цякучасць губернскага кіраўніцтва суправаджалася распаўсюджваннем карупцыі і пратэкцыянізму. Па сведчанню князя А. Чартарыжскага, які быў добра знаёмы з тагачаснымі свецкімі парадкамі, кожны правіцель губерняў быў «вымогателем», а вакол царскіх сакратароў заўсёды круціўся рой рабалепнікаў з надзеяй пажывіцца за кошт секвестраў і канфіскацый іншых даходных месцаў[11].

У барацьбе за кіруючыя пасады часам узнікалі супярэчнасці паміж рускай адміністрацыяй і мясцовым дваранствам. Першы такі канфлікт узнік у 1777 г., калі магілёўская шляхта праз аршанскага старасту І. А. Іозефовіча і камергера польскага двара І. О. Галынскага падала калектыўную скаргу на адхіленне рускімі ваяводамі і правін-

цыяльнымі камісарамі мясцовых ураджэнцаў ад адміністрацыйных пасад, заведвання земскім раскладам павіннасцей. Яны скардзіліся на сваё становішча «іншаземцаў» і падбухторванне новымі ўладамі соцкіх і дзесяцкіх да непакорнасці сваім панам. Сенат звольніў губернатара М. В. Кахоўскага з пасады, але сваёй пастановай ад 18 чэрвеня 1778 г., каб «единожды навсегда пресечь» самавольныя дваранскія сходы, загадаў шляхецтву ў далейшым «никаких между собой скопов и советов без ведома начальников своих не чинить и общественных прошений не отваживаться подавать»[12].

Незадаволенасць мясцовага дваранства другараднай роляй у бюракратычным механізме царызму яскрава вызначылася падчас вайны 1812 г.

**Палітыка царызму на Беларусі пасля 1812 г.** Летам 1812 г. напалеонаўская армія пачала свой захопніцкі паход у Расію. Каб прыцягнуць на свой бок польскіх і мясцовых землеўладальнікаў, Напалеон абяцаў узнавіць Рэч Паспалітую ў межах 1772 г. узамен на падтрымку сваіх ваенных планаў. Напярэдадні нашэсця мясцовая шляхта не падтрымала абарончыя мерапрыемствы царскай адміністрацыі і захоўвала правіянцкія магазіны і склады да прыходу французаў[13].

У знак падзякі за падтрымку ў Вільні Напалеонам была створана камісія часовага ўрада ВКЛ на чале са старшынёй першага дэпартамента менскага галоўнага суда Камінскім. Менскім губернатарам стаў польскі арыстакрат Бранікоўскі. Рускі герб быў зменены на аднагаловага арла. Але ў хуткім часе ранейшае адміністрацыйнае дзяленне было заменена на французскі лад, а галоўныя пасады занялі французскія военачальнікі і інтэнданты. Шляхта, якая колісь прысягала на вернападданасць Расійскай імперыі, зараз ператварылася ў праваднíка экзекуцый, грабяжоў, выбівання нядоімак, катавання сялян. Просты беларускі люд узняўся на партызанскую барацьбу супраць захопнікаў і іх паслугачоў, чым садзейнічаў бліскучаму паходу царскай арміі ў Еўропу.

Тым не менш сяляне не дачакаліся збаўлення ад прыгоннага права. Царскім маніфестам ад 30 жніўня 1814 г. ім прапаноўвалася атрымаць «мзду свою от бога». Наадварот, урад прадбачыў здраду беларускай арыстакратыі. Напрыклад, той жа Камінскі захаваў пасаду старшыні ў менскім галоўным судзе. Начальнік менскага корпуса жандараў Л. Ашторп стаў губернскім маршалам. В. Гецэвіч, член савета ў Вільні, стаў менскім віцэ-губернатарам і г. д.

Але ўсё ж здрада большасці беларуска-польскай шляхты паклала адбітак на адносіны да яе вярхоўнай расійскай улады. З аднаго боку яна хацела прылашчыць сепаратысцкі настроеную шляхту, з другога боку — асабліва пасля падзей 1825 г., шляхецкага паўстання 1830—1831 гг.— жорстка карала любыя праявы іншадумства.

Так, пасля прамовы на Варшаўскім сейме 1816 г. аб захаванні польскай канстытуцыі,

Аляксандр I выказаў жаданне распаўсюдзіць рэспубліканскія парадкі на падуладную тэрыторыю. У ліпені 1817 г. з рэкрутаў і ўраджэнцаў заходніх губерняў, у тым ліку Гародзенскай і Менскай, быў сфарміраваны асобны корпус літоўскіх войск у складзе 2 дывізій і артылерыйскай брыгады (40 тыс. чалавек). Корпусам камандаваў, як галоўнакамандуючы польскай арміяй, вялікі князь Канстанцін. Дзяржаўным гербам корпуса стала «Литовская погоня» [14]. Служба ў корпусе рускіх і польскіх афіцэраў садзейнічала збліжэнню носьбітаў вольналюбівай думкі.

У 1819 г. цару была паднесена прапанова дынабурскага памешчыка Могля аб скасаванні прыгоннага права па прыкладу прыбалтыйскіх дваран. Цар згадзіўся пачаць падрыхтоўку адмены прыгонніцтва на Беларусі, пачынаючы з Віцебскай губерні. Але ён прапаноўваў, каб адбылося тое праз «собственное стремление человеколюбивых чувств дворянских сословий» і рэкамендаваў дзеля гэтага выявіць настрой і інтарэсы памешчыкаў шляхам заснавання дваранскіх камітэтаў[15]. Занепакоенасць дваранства пагрозай стыхійнага імкнення прыгонных сялян да сапраўднай волі прымусілі адкласці справу на доўгі час.

Паколькі папярэднія зямельныя падараванні не прывялі да панавання рускага памешчыцкага землеўладання, а судоваадміністрацыйныя пасады займаліся з пункту гледжання царскіх чыноўнікаў панамі-католікамі, то ўрад прадпрыняў рашучыя дзеянні па русіфікацыі мясцовага чыноўніцтва.

Да 1822 г. пад відам публічнай маёмасці захоўваліся ўладанні ордэна езуітаў. Да 1831 г. пад казённым пратэктаратам існавалі рымска-каталіцкія манастыры і касцёлы (праўда, каталіцкаму духавенству катэгарычна забаранялася схіляць у сваю веру праваслаўнае насельніцтва, галоўным чынам сялянства). А ў 1832—1841 гг. царскім урадам праводзіцца секулярызацыя нерухомасці уніяцка-каталіцкай царквы і заштатных манастыроў. Усяго ў казну было канфіскавана 230 цэркваў з 51 111 душамі мужчынскага полу[16].

Працяглы час канфіскацыі і секвестр прыватнаўласніцкіх уладанняў з'яўляліся сродкам палітычных рэпрэсій і стварэння царызмам сваёй сацыяльнай апоры сярод землеўладальнікаў і сялянства. Пасля падаўлення паўстання 1830 г. мясцовыя чыноўнікі абавязваліся даваць падпіску аб сваёй палітычнай благанадзейнасці наступнага зместу: «... Я ... ни к какой масонской ложе, ни к какому тайному обществу ни внутри империи, ни вне ее не принадлежу и обязываюсь впредь к оным не принадлежать и никаких сношений с ними не иметь»[17].

12 лютага 1855 г. Мікалай I даручыў генерал-губернатарам заходніх губерняў усе пасады земскай, гарадской і дзяржаўнай паліцыі заняць рускімі чыноўнікамі праваслаўнага веравызнання шляхам паступовага іх пераводу з унутраных губерняў імперыі. Ад намеснікаў патрабавалася, каб «никто из урожен-

цев западных губерний, кроме православных, не мог быть там определяем на службу, ежели не дослужил 10 лет в великороссийских губерниях или в войсках в офицерских чинах, да и тогда тех только переводить, которые оказались совершенно благонадежными»[18]. Гэтае ўказанне павінна было праводзіцца «в совершенной тайне». 17 мая 1855 г. цар адобрыў галажэнне камітэта міністраў, па якому начальнікам губерняў, пад іх асабістую адказнасць, надаваліся паўнамоцтвы па камплектаванню адміністрацыйных пасад памешчыкамі каталіцкага веравызнання толькі ў выпадку недастачы праваслаўных. Губернатар мог папярэдне збіраць «самые подробные... сведения об определяемых им лицах», здзяйсняць нагляд за іх «поведением и нравственностью, ... образом действий и мыслей»[19].

Адной з праяў палітыкі царызму на Беларусі стала насаджэнне ваенных пасяленняў. У Беларусі знаходзілася дзве акругі ваенных пасяленняў з колькасцю пахатных салдат у 1837 г. каля 22,7 тыс. чал. Пасяленцы знаходзіліся на харчовым самазабеспячэнні, але з-за дарагавізны ўтрымання і супраціўлення сялян ваенна-катаржнаму рэжыму яны былі ў 1858 г. канчаткова пераведзены ў склад міністэрства дзяржаўных маёмасцей[20]. Тым не менш урад працягваў разглядаць пытанне аб «водворении» на казённых землях рускіх пасяленцаў з адстаўных салдат. Сялянскае пытанне заставалася галоўным у грамадска-палітычным жыцці, якім вызначаліся сацыяльныя ўзаемаадносіны паміж саслоўямі і палітыка царызму ў цэлым.

**Зямельнае пытанне і саслоўныя ўзаемаадносіны.** Асновай гаспадаркі было ворнае земляробства з панаваннем трохпольнай сістэмы. Адсюль — монакультурны характар паляводства, нізкая ўраджайнасць. Пры недахопе сенажацяў, рэгулярным выкарыстанні сялянскай жывёлы на цяглавых работах у фальварках пастаянна і дастаткова ўгнойваліся толькі прысядзібныя ўчасткі.

Пры вузкасці ўнутранага рынку і нізкай плацежаздольнасці сялян самым надзейным і найбольш простым спосабам збыту ўраджаю для памешчыкаў было вінакурэнне. Развівалася яно шляхам перапрацоўкі збожжа і бульбы. Даход ад продажу гарэлкі складаў палову, а часам і больш памешчыцкіх даходаў. Развядзенне бульбы ў Беларусі пачалося з канца XVIII ст. на памешчыцкіх агародах, а больш шырока яна распаўсюдзілася ў 20—30-ыя гг. XIX ст. У сярэдзіне стагоддзя бульбай засявалася каля 4 % зямлі на сялянскіх надзелах[21]. Новая культура не магла істотна змяніць традыцыйнай трохпольнай сістэмы земляробства.

Увядзенне шматпольных севазваротаў і пасеваў кармавых культур, агратэхнічныя ўдасканаленні закранапі толькі рэдкія маёнткі. Гэта тлумачыцца тым, што памешчыцкая зямля апрацоўвалася інвентаром і цяглавай сілай прыгонных сялян. Прадстаўнікі царскай адмі-

ністрацыі, як і частка саміх памешчыкаў, усведамлялі адмоўны ўплыў руціннага стану земляробчай тэхнікі і прыгонніцтва на павышэнне сваіх прыбыткаў. У 1826 г. было заснавана Беларускае вольнае эканамічнае грамадства, а ў 1840 — адкрыты Горы-Горацкі земляробчы інстытут, якія былі прызваны садзейнічаць распаўсюджванню перадавога вопыту гаспадарання, узорных фермаў, выстаў і г. д. Але асноўная маса памешчыкаў лічыла прыгоннае права асновай «рационального хозяйства» і не збіралася ад яго адмаўляцца.

Большасць сялянства належала дваранскаму саслоўю (80 % у пачатку і 76 — у сярэдзіне XIX ст.). Землеўладанне на Беларусі мела буйнапамесны характар. Самыя буйныя ўладанні тут належалі кн. Вітгенштэйнам (500 тыс. дзес. зямлі і 60 тыс. сялян), кн. Радзівілам (150 тыс. дзес. і 40 тыс. прыгонных). Латыфундыі пад уздзеяннем росту сялянскай нядоімкавасці паступова драбіліся на дробныя і сярэднія ўладанні. З канца XVIII па сярэдзіну XIX ст. памеры ўласнасці латыфундыстаў скараціліся прыкладна ў 2 разы і на столькі ж вырасла землеўладанне дробных і сярэдніх дваран[22]. Тым не менш і ў сярэдзіне стагоддзя палову прыватнаўласніцкіх прыгонных на Беларусі трымала толькі 3,6 % памешчыкаў, а 80 % шляхты мелі ўсяго 16 % сялян.

З 1776 г. мясцовае дваранства атрымала доступ да займаў у цэнтральных банкава-крэдытных установах з правам закладу маёнткаў на 24 гады. Непасрэдна перад адменай прыгоннага права ў іх было закладзена каля 68 % беларускіх сялян[23]. Дзяржава такім шляхам рабілася галоўным крэдыторам і гарантам непахіснасці памешчыцкага, асабліва буйнога, землеўладання.

Уласна шляхта дзялілася на ваколічную, чыншавую і неаселую. Ваколічная шляхта сялілася асобнымі засценкамі, абрубамі, валодала зямлёй і рэдка — сялянамі. Напрыклад, у 1810 г. на аднаго ваколічнага шляхціца Магілёўскай губерні прыпадала ў сярэднім 5,2 дзес. зямлі і 0,03 сяляніна[24]. Чыншавая, без сялян, арандавала зямлю ў памешчыкаў, дзяржавы ці духавенства. Неаселая шляхта займалася дробнымі промысламі, наймалася на гаспадарча-адміністрацыйныя пасады, батрачыла. Па свайму сацыяльна-эканамічнаму становішчу яна паступова збліжалася з працоўным сялянствам, страчвала былыя фармальна-юрыдычныя пазіцыі (вызваленне ад рэкруцкіх набораў, падушнага падатку і г. д.).

Захаванне за незаможнай шляхтай саслоўных правоў і прывілеяў на фоне пашырэння фальварачна-паншчыннай сістэмы не адпавядала фіскальна-палітычным мэтам царызму. Урад імкнуўся выключыць яе з пануючага саслоўя дваран шляхам т. зв. «разбору» праз праверку дакументальных правоў на сапраўднае дваранства, прымусовага высялення ў паўднёвыя губерні. У красавіку 1829 г. былі створаны камісіі, якія прапанавалі абкласці шлях-

ту 12-рублёвым падымным падаткам і прыцягнуць яе да 8-гадовай рэкрутчыны. Неаселую шляхту прадугледжвалася пазбавіць права вольных пераходаў. На доказ правоў адводзіўся год, па заканчэнні якога намячаліся ваенна-паліцэйскія меры па высяленню ў пагранічнае абароннае войска.

Незадаволенасць шляхты стратай свайго становішча стала прычынай яе масавага ўдзелу ў паўстанні 1830—1831 гг. Абарона шляхтай сваіх правоў насіла антыпрыгонны характар і садзейнічала зближэнню яе барацьбы з барацьбой сялянства супраць фальварачна-паншчыннага ўціску. Каб прадухіліць злучэнне сялянскага руху з польскім нацыянальна-вызваленчым, царызм павёў палітыку абвастрэння і распальвання нацыянальных, рэлігійных супярэчнасцей паміж сялянамі і мясцовым дваранствам. Было адменена дзеянне Статута ВКЛ. З 1840 г. у афіцыйных паперах больш не ўжываўся тэрмін «Белоруссия», а пісьмаводства павінна было ажыццяўляцца выключна на рускай мове.

Паводле ўказа ад 19.10.1831 г., шляхта падзялялася на сельскіх аднадворцаў і гарадскіх грамадзян. Гэтыя групы станавіліся асобным падатковым саслоўем: плацілі падымны збор, выконвалі 15-гадовую рэкруцкую павіннасць. Асобы, якія не прыпісаліся да той ці іншай групы, лічыліся бадзяжнікамі. З 1835 г. асобы, якія 10 гадоў не служылі ў войску альбо не выконвалі адміністрацыйныя функцыі, пазбаўляліся права займаць выбарчыя пасады. У выніку да сярэдзіны XIX ст. колькасць толькі аднадворцаў, або былой ваколічнай і чыншавай шляхты, склала ў Менскай, Магілёўскай, Гародзенскай і Віленскай губернях 16 % ад яе колькасці ў пачатку XIX ст.[25].

За кошт канфіскаванай маёмасці ўдзельнікаў паўстання 1830—1831 гг. і духавенства ўрад намагаўся насадзіць маяраты рускіх дваран. Але вялізныя даўгі, цераспалосіца, нежаданне страціць уплыў у сялянскім асяроддзі, страх перад пагрозай сялянскага стыхійнага паўстання прымусілі ўрад перавесці сялян канфіскаваных маёнткаў з 1846 г. у склад дзяржаўнай маёмасці. Як адзначыў П. Д. Кісялёў, перадача дзяржаўнага сялянства ў прыватныя рукі была б «величайшею политическою ошибкою, ибо разрушая силу народной ... преданности престолу, она не могла бы заменить ее среди 19 872 польских владельцев водворением 420 русских дворян»[26].

Асноўная маса памешчыцкіх сялян карысталася зямельным надзелам, які на рубяжы XVIII—XIX стст. складаўся прыблізна з дзвюх аднолькавых частак: цяглай і прыёмнай доляў. За цяглую сяляне адбывалі прыгон, за прыёмную — плацілі грашовы аброк. У працэсе пашырэння фальварачна-паншчыннай гаспадаркі абедзве часткі надзелу спалучаліся, і з сялян сталі спаганяцца ў асноўным адработачныя павіннасці. На працягу першай паловы XIX ст. ішоў паступовы працэс сялянскага абеззямельвання. За кошт

сялянскіх надзелаў колькасць панскай ворнай зямлі асабліва імкліва вырасла ў час падрыхтоўкі адмены прыгоннага ладу. Землеўладальнікі ў гэты час імкнуліся прысвоіць як мага больш урадлівай зямлі, каб прымусіць сялян працягваць апрацоўку фальваркаў за адработкі ці арандаваць памешчыцкую зямлю на прымусовых умовах.

Хоць памеры паншчыны фіксаваліся інвентарамі, памешчыкі пастаянна парушалі іх у сувязі з патрэбай у рабочай сіле як за кошт павелічэння дадатковых павіннасцей, так і за кошт ускладання паншчыны на ўсе новыя катэгорыі насельніцтва, напрыклад, на жыхароў мястэчак.

Каб забяспечыць спраўнае выкананне сялянамі падатковых абавязкаў, царызм у 1830 г. дазволіў арандатарам аддаваць беззямельных сялян у наём да заможных гаспадароў. Гэтак жа паступалі і ўладальнікі, якія здавалі сялян на прымусовую працу па кантрактах, наймалі беззямельных сялян і здавалі іх на ўтрыманне да заможных сялян. Малазямельныя сяляне перадавалі свае мізэрныя ўчасткі ў арэнду з долі ўраджаю, а самі займаліся адыходніцтвам.

Заможныя сяляне складалі каля $^1/_3$ агульнай колькасці гаспадарак. Батракі ў заможных гаспадароў падвяргаліся жорсткай эксплуатацыі. Фарміраванне сялянскай прыватнай зямельнай уласнасці тармазілася манаполіяй памешчыцкага землеўладання і прыгонным правам. У Менскай губерні напярэдадні 1861 г. толькі 50 сялян набылі 4500 дзес. зямлі, а ў Магілёўскай губерні ў 50-ыя гг. 8 сялян купілі 1400 дзес.[27] Такім чынам, працэс выдзялення ў сялянскім асяроддзі процілеглых сацыяльных слаёў яшчэ толькі зараджаўся.

Найбольш шырока наёмная праца ўжывалася на суконных, шкляных, палатняных, папяровых прадпрыемствах. У гэты час панавала дробная рамесная вытворчасць з наймам несвабоднай рабочай сілы. Вядучай галіной прамысловасці заставалася суконная. На канец 50-ых гг. XIX ст. у ёй было занята амаль $^1/_4$ усіх рабочых. З 1828 па 1859 гг. колькасць мануфактур павялічылася з 3311 да 6508, а рабочых на іх — прыблізна ў 5 разоў[28]. Фактычна 44 % рабочых на іх працавала па найму. Манаполія дваран на зямлю спрыяла таму, што найбольш буйныя прадпрыемствы фабрычна-заводскага тыпу былі заснаваны менавіта памешчыкамі: суконная фабрыка ў Альберціне Гародзенскай губерні, Старынкаўскі жалезаапрацоўчы завод у Магілёўскай і г. д.

Імкненнем памешчыкаў манапольна валодаць прамысловымі прадпрыемствамі, прыбыткамі ад вінакурэння было абумоўлена прымусовае высяленне яўрэяў у мястэчкі і гарады. Царскія чыноўнікі свядома распальвалі антысемітызм і вінавацілі яўрэяў у сялянскай галечы, п'янстве. За кошт высялення яўрэяў з сельскай мясцовасці галоўным чынам і павялічылася з 1796 па 1861 гг. у 4 разы гарадское насельніцтва[29]. У сярэдзіне стагоддзя яўрэйскае насельніцтва

складала каля 70 % рамесна-гандлёвай часткі гараджан, а выхадцы з сялян давалі толькі 2,5—3 %. Прымусовае ссяленне мела пэўныя наступствы ў якасных зменах рамеснай вытворчасці. Была ліквідавана самастойнасць цэхаў у гаспадарчых і юрыдычных пытаннях, знішчана іх манапольнае права ў вытворчасці, ліквідавана карпаратыўная ізаляванасць. Члены цэхаў атрымлівалі права наймацца на фабрыкі і заводы.

Менш паспяховай стала адміністрацыйная дзейнасць царызму па стварэнню яўрэйскіх земляробчых калоній на поўдні імперыі і ў межах рысы аселасці. Па ўказу ад 26.12.1844 г. пад яўрэйскія пасяленні адводзіліся казённыя землі, на якіх яны маглі трымаць лаўкі, лабазы, невялічкія фабрыкі, ткацкія станы. Практычна «водворением» займалася міністэрства ўнутраных спраў, па прадстаўленні мясцовых палат дзяржаўнай маёмасці і губернатараў, г. зн. паліцыя. Пасяленцы вызваляліся на 10 гадоў ад грашовых і натуральных павіннасцей, нядоімак, а таксама на 25 — ад рэкруцтва. Адмовіцца ад земляробства каланіст мог праз 25 гадоў, а пры папярэднім тэрміне быў абавязаны вярнуць усе нядоімкі і пакрыць казённыя расходы. Пад яўрэйскія калоніі ў Беларусі было адведзена 26 тыс. дзес. казённых зямель, з якіх на канец 40-ых гг. XIX ст. было заселена толькі 12 тыс. дзес. (44,6 %). З гэтага ліку 24 % зямлі пуставалі, а 30 %, нягледзячы на забарону, апрацоўвалася шляхам найму і арэнды сялян[30]. Упраўляючы магілёўскай казённай палатай у 1852 г. вымушаны быў прызнаць, што «весьма немногие (яўрэі — *Я. А.*) занимались земледелием и обзавелись хозяйством, большая же часть их по крайне бедному ... состоянию ... вовсе не явились на предназначенные им земли, а занимались по-прежнему в городах и местечках разными промыслами»[31]. З 1852 г. урад зноў змяніў курс і дазволіў яўрэям сяліцца на памешчыцкай зямлі з забаронай займацца дробным промыслам і рашучым патрабаваннем зямлю апрацоўваць самім. Тым не менш пры здачы дзяржаўных уладанняў у арэнду ўрад дапускаў да публічных таргоў заможных яўрэяў, а самі памешчыкі афармлялі арэндныя кантракты пад заклад сродкаў і каменных двароў з яўрэямі-купцамі першых трох гільдый[32]. Грашовая падтрымка заможнага яўрэйства адпавядала інтарэсам царызму па захаванню непахіснасці памешчыцкага землеўладання ад фінансавага банкруцтва, а таксама пры пошуках прычыны і адказных за галечу працоўных.

З сярэдзіны 30-ых гг. XIX ст. царызм прыступіў да шырокіх рэформаў адміністрацыйна-гаспадарчага кіравання. Са снежня 1839 г. у дзяржаўнай вёсцы пачала праводзіцца люстрацыя, г. зн. падрабязнае апісанне маёнткаў і вызначэнне сялянскага землекарыстання і павіннасцей. Уводзіўся падушны надзел, роўны 3 дзес. ворыва і 1 дзес. сенажацей. На падставе маёмаснай няроўнасці сяляне дзяліліся на цяглых, паўцяглых,

агароднікаў і бабылёў. Цягламу двару паншчына вызначалася ў памеры 6 дзён на тыдзень. Агароднікі прыцягваліся на паншчыну ў выпадку неабходнасці. Бабылі працавалі за плату. З 1844 г. у дзяржаўных уладаннях ліквідаваліся фальваркі, а сяляне пераводзіліся з паншчыны на грашовы аброк.

Люстрацыя стала зыходным пунктам для рэфармацыйных падыходаў урада ў адносінах да прыватнаўласніцкага сялянства. Пры гэтым царызм ужо адкрыта выкарыстоўваў практыку інвентарызацыі маёмасці. У 1844 г. Мікалай I зацвердзіў палажэнне аб стварэнні дваранскіх камітэтаў у заходніх губернях для складання абавязковых інвентароў памешчыцкіх маёнткаў. Вызначэнне галоўных сялянскіх павіннасцей і надзелаў, такім чынам, было перададзена ў рукі саміх дваран. Апошнія выступалі супраць афіцыйнага курсу на заканадаўчае рэгуляванне ўнутрымаёмаснага размеркавання ўгоддзяў і рэгламентацыі сялянскіх абавязкаў. Складанне абавязковых інвентароў было завершана ў 1849—1850 гг. У беларускіх губернях яны пачалі ўводзіцца ў 1852 г. Уся зямля, якая знаходзілася ў фактычным карыстанні сялян, захоўвалася за імі. Памешчыкі рашуча запрацівіліся гэтаму, адстойваючы беззямельнае вызваленне прыгонных. У Пецярбургу спрабавалі зламаць дваранскі кансерватызм пагрозай прадастаўлення банкаўскіх пазык ды льгот у выплаце нядоімак толькі тым памешчыкам, «кто введет инвентарные правила 22 декабря 1852 г.»[33].

Пачаўся новы перагляд інвентароў, які суправаджаўся масавым абеззямельваннем сялянства. Пры падрыхтоўцы адмены прыгонніцтва ў краі склалася напружаная сацыяльна-палітычная абстаноўка, якая вылілася ў хуткім часе ў паўстанне 1863—1864 гг., у якім шырокі ўдзел прымала сялянства.

## 2. Грамадскі рух.

**Тайныя таварыствы.** У Расійскай імперыі, дзе шырокія колы грамадства былі адлучаны ад палітычнага жыцця, дзе народам дазвалялася толькі «квітнець пад аховай рускай кароны», а дваранству — падносіць імператарам вернападданніцкія адрасы, што неаднаразова рабіла і беларуская шляхта, усялякі грамадскі рух, які меў палітычную афарбоўку, набываў апазіцыйны да самадзяржаўя характар. Не быў выключэннем і грамадска-палітычны рух на Беларусі. Больш таго, дзякуючы яму беларускія правінцыі імперыі лічыліся аднымі з самых ненадзейных.

Шумная расійская афіцыйная прапаганда, якая сцвярджала «законнасць» далучэння Беларусі да Расіі, не магла ўсё ж заглушыць горычы, што засталася ў тагачасным беларускім грамадстве пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і падаўлення паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі.

Не выклікалі падтрымкі многія наступы царскіх улад на правы шляхты, асабліва дробнай, захады супраць уніяцкай царквы. У далучаных правінцыях (і гэта асабліва непакоіла імперскія ўлады) заставаўся былы дух «польскі» — «дух неспакою, незадаволенасці, супраціўлення»[34]. Рэчы Паспалітай, як дзяржавы, ужо не існавала, але многія прадстаўнікі беларускай шляхты, асабліва на заходніх землях краю, з надзеяй паглядалі на Варшаву. Выхаваныя на традыцыях каталіцызму і польскай культуры, яны звязвалі лёс сваёй Радзімы з адраджэннем Рэчы Паспалітай.

Такія надзеі ўзмацніліся пасля стварэння ў 1809 г. Напалеонам Варшаўскага герцагства. Французскі імператар дараваў палякам Канстытуцыю і свой грамадзянскі кодэкс. Але спадзяванні на Францыю рухнулі ў канцы 1812 г. пасля выгнання з Расіі французскай арміі.

Рашэнні Венскага кангрэса аб перадачы часткі польскіх зямель з Варшавай Расіі і абяцанне Аляксандра I дараваць Царству Польскаму аўтаномію і канстытуцыйны лад праўлення мелі сур'ёзны ўплыў на грамадскія настроі ў Беларусі. Чакалі, што польская Канстытуцыя 1815 г. будзе пашырана хаця б на заходнія землі Беларусі, верылі ў імкненне цара вырашыць тут сялянскае пытанне. Адмова Аляксандра ад такіх намераў выклікала расчараванне.

У грамадстве расла незадаволенасць існуючымі парадкамі, непаслядоўнай палітыкай расійскага ўрада, у выніку якой многія балючыя пытанні не толькі не вырашаліся, але і паглыбляліся, зацягваліся ў небяспечныя вузлы. Усё больш акрэслена ўсведамлялася неабходнасць палітычных і эканамічных змен і, перш за ўсё, скасавання прыгоннага права. Нізы нагадвалі пра гэта сялянскімі хваляваннямі і бунтамі, якія то тут, то там успыхвалі на Беларусі. У адукаванай частцы грамадства выспявалі думкі аб магчымасці вызвалення беларускіх сялян ад прыгоннай залежнасці. Такія меркаванні выказваліся на пасяджэннях масонскіх лож Беларусі. Як вядома, Аляксандр I дазволіў масонскім арганізацыям Расіі легалізаваць сваю дзейнасць. Ложы «вольных муляроў» Беларусі падпарадкоўваліся цэнтральнаму варшаўскаму «Вярхоўнаму збору Вялікага Ўсходу». У першыя дзесяцігоддзі яны існавалі ў Менску, Слуцку, Наваградку, Гародні, Нясвіжы, аб'ядноўвалі мясцовых шляхціцаў і афіцэраў рускай арміі[35]. Рост грамадзянскай незадаволенасці і апазіцыйнасць большасці масонскіх таварystваў імперыі прымусілі цара ў хуткім часе забараніць іх. У верасні 1821 года атрымалі ўказанне спыніць дзейнасць да «нявызначанага часу» і масоны Беларусі.

Ужо вельмі хутка пасля прыняцця Канстытуцыі 1815 г. стала відавочным, што Аляксандр I не змог спалучыць у Польшчы абсалютызм і парламентарызм. Пасля другога пасяджэння сейму (1820) паміж самадзержцам і яго польскімі «няўдзячнымі» падданымі ўзнікла ўзаемная халоднасць і

непаразуменне. Пачалі ўзнікаць польскія тайныя таварыствы. Уплыў апошніх, у тым ліку «Патрыятычнага таварыства», «Таварыства падхарунжых» адчуваўся і на Беларусі. Ідэі нацыянальнага вызваленчага руху пранікалі ў масонскае асяроддзе. У 1823—1826 гадах многія польскія тайныя таварыствы былі выкрыты і разгромлены. У Вільні, і гэта ўлады лічылі адным са сваіх дасягненняў, былі выкрыты тайныя таварыствы філаматаў і філарэтаў.

Філаматамі — прыхільнікамі навук — называлі сябе юнакі з Беларусі і Літвы, члены тайнага студэнцкага згуртавання, якое пачало дзейнічаць у 1817 годзе ў Вільні. Заснавальнікі і актыўныя члены таварыства Т. Зан, А. Міцкевіч, Я. Чачот, І. Дамейка, М. Рукевіч і іншыя аб'ядналіся дзеля вывучэння навук, практыкавання ў прыгожай пісьменнасці і свабодных дыскусій. У гэтым асяроддзі нараджаўся польскі рамантызм, буйным прадстаўніком якога з'яўляўся А. Міцкевіч, і новая беларуская літаратура, якую прадстаўляў Я. Чачот. Вялікі маральны і ідэйны ўплыў на членаў таварыства аказвалі выдатныя вучоныя — выкладчыкі універсітэта — і, у першую чаргу, І. Лялевель, які чытаў курс усеагульнай гісторыі.

Выхаваныя на ідэалах Асветніцтва, філаматы верылі ў магчымасці чалавечага розуму. Асаблівую ўвагу яны надавалі маральнасці і звязвалі паняцце «чалавек маральны» з паняццем «грамадзянін». Паступова ад ідэі ўдасканалення асобы яны прыйшлі да ідэі ўдасканалення рэчаіснасці. У 1821 годзе Я. Чачот так акрэсліў пашыраныя задачы таварыства: «...пры дапамозе асветы і згуртавання суайчыннікаў яно павінна рабіць усё для шчасця і вызвалення айчыны»[36]. Філаматы *марылі* аб стварэнні новай сістэмы народнай асветы, якая адпавядала б запатрабаванням часу і высокім ідэалам. Яны цікавіліся матэрыяльнай і духоўнай культурай народа, рабілі апісанні паветаў і парафій, вывучалі побыт і лад жыцця сялянства, запісвалі ўзоры яго вуснай творчасці. У іх асяроддзі папулярнай была беларуская мова.

Філаматы прапаведвалі роўнасць людзей і народаў, віталі барацьбу за незалежнасць у Грэцыі, Італіі, Іспаніі. «Быць свабодным,— лічылі яны,— неад'емнае права кожнага чалавека і кожнага народа». У дэспатызме бачылі галоўную перашкоду натуральнаму развіццю грамадства. Надзеі на шчаслівае будучае Беларусі і Літвы філаматы звязвалі з перамогай польскай ідэі, а таксама з карэннымі эканамічнымі і сацыяльнымі рэформамі: ліквідацыяй прыгонніцтва, увядзеннем канстытуцыйнай формы праўлення і росквітам сярэдняга класа, які на Беларусі, на іх думку, складаўся са шляхты.

Імкненне філаматаў пашырыць уплыў на моладзь і легалізаваць сваю дзейнасць увасобілася ў створанай у маі 1820 года Т. Занам, з дазволу кіраўніцтва Віленскага універсітэта, студэнцкай культурна-асветніцкай арганізацыі «Прамяністыя».

Сама назва адлюстроўвала сэнс абвешчанай ім тэорыі «выпраменьвання» дабратворных духоўных узаемаўплываў людзей. За кароткі час «прамяністымі» сталі каля 200 чалавек. Прапаведванне высокай маральнасці і духоўнасці было своеасаблівым выклікам амаральнаму грамадству. Таварыства «прамяністых» было распушчана ў той жа год па загаду зверху і пераўтварылася ў тайную арганізацыю філарэтаў — прыхільнікаў дабрачыннасці. Яна існавала да 1823 года. Філарэцкія філіі арганізоўваліся таксама ў правінцыях.

Інцыдэнт у Віленскай гімназіі ў 1823 годзе — з'яўленне на класнай дошцы надпісу «Няхай жыве Канстытуцыя 3 мая!» — падштурхнуў улады звярнуць асабліва пільную ўвагу на неблаганадзейных вучняў, што дазволіла ў хуткім часе выкрыць таварыствы філарэтаў і філаматаў. Для расследавання ў Вільню прыбыў сенатар М. М. Навасільцаў, па загаду якога ў зняволенні, пакуль вялося следства, заставалася каля 100 чалавек. У красавіку 1824 года спецыяльна створаны па найвышэйшаму ўказу камітэт вынес прыгавор: 20 філаматаў і філарэтаў высылаліся ў Пецярбург (А. Міцкевіч, Ю. Яжоўскі, Ф. Малеўскі) і ў аддаленыя губерні Расіі. Найбольш актыўныя — Т. Зан, Я. Чачот, А. Сузін — павінны былі адбыць турэмнае зняволенне з наступнай высылкай на Урал.

Тады ж улады звярнулі ўвагу на сярэднія навучальныя ўстановы Беларусі і Літвы і выявілі ў многіх з іх, у тым ліку і Свіслацкай гімназіі, антыўрадавыя настроі. Пяць свіслацкіх вучняў былі здадзены ў салдаты «для перавыхоўвання».

Філамат Міхаіл Рукевіч, які ў 1823 годзе за недахопам улік быў адпушчаны на волю, неўзабаве стаў адным з арганізатараў у мястэчку Бранск Беластоцкага павета тайнага таварыства дзекабрысцкага тыпу «Ваенныя сябры» (1823). Яно аб'яднала афіцэраў Літоўскага корпуса, мясцовых чыноўнікаў, шляхціцаў, вучнёўскую моладзь. Таварыства мела тры ступені: «Ваенныя сябры» — кіраўнікі таварыства і афіцэры, «Згода» — грамадзянскія асобы і «Заране» — вучні Свіслацкай і Беластоцкай гімназій.

Па ініцыятыве кіраўнікоў «Ваенных сяброў» — капітана К. Г. Ігяльстрома і паручніка А. І. Вягеліна ў снежні 1825 года літоўскі, піянерны батальён адмовіўся прысягаць імператару Мікалаю І. За гэта дзяржаўнае злачынства і ўдзел у тайным згуртаванні, якое мела на мэце «дабрабыт усяго грамадства», К. Г. Ігяльстром, А. І. Вягелін, М. І. Рукевіч, М. Ф. Вільканец, падпаручнікі П. І. Гофман, Э. А. Пятроўскі, радавы А. М. Угрыніч-Трэбінскі, шляхціц І. С. Высоцкі, беластоцкі гімназіст К. В. Ардынскі былі прысуджаны да смяротнай кары, якую, аднак, замянілі праз некаторы час рознымі тэрмінамі катаргі ці службы на Каўказе. Ігяльстром, Вягелін, Рукевіч адбывалі пакаранне ў Сібіры разам з дзекабрыстамі[37].

У пачатку 1820 гадоў многіх дзекабрыстаў лёс звязаў з

беларускімі землямі. Тут праходзілі вайсковую службу А. А. Бястужаў-Марлінскі, А. І. Адоеўскі, М. С. Лунін, К. Ф. Рылееў і іншыя. Кіраўнік Паўночнага таварыства М. М. Мураўёў напісаў у Менску варыянт праекта канстытуцыі. Членамі дзекабрысцкіх арганізацый быў шэраг афіцэраў Бабруйскай крэпасці. Сярод іх С. І. Мураўёў-Апостал і М. П. Бястужаў-Румін. На іх думку, у 1823 годзе з арышту Аляксандра І на ваенным аглядзе ў Бабруйскай крэпасці павінна было пачацца ўсеагульнае паўстанне.

«Бабруйскі план» — адна з першых спроб адкрытага выступлення дзекабрыстаў — не здзейсніўся, бо быў прызнаны заўчасным. І спроба апошняга дзекабрысцкага выступлення таксама звязана з Беларуссю — у лютым 1826 года імкнуўся падняць паўстанне ў Палтаўскім палку Барысаўскага гарнізона член таварыства «З'яднаных славян» афіцэр С. П. Трусаў.

У ходзе следства па справе дзекабрыстаў адкрыліся спробы іх кантактаў з польскімі рэвалюцыянерамі, падчас якіх вялося высвятленне пазіцый, у тым ліку і наконт будучых граніц паміж вольнай Расіяй і вольнай Польшчай. Гэтае пытанне непасрэдна закранала Беларусь,[38] — ёй і тыя і другія адмаўлялі ў праве на самастойнае існаванне.

Разгром дзекабрысцкага руху, з якога пачалося праўленне далёкага ад лібералізму Мікалая І, спрыяў росту апазіцыйных настрояў на Беларусі. Ідэі ўзброенага паўстання супраць самадзяржаўя, якое рыхтавалі польскія тайныя таварыствы, тут знаходзілі водгук сярод пэўнай часткі шляхты, асабліва беднай і беззямельнай, сярод уніяцкага і каталіцкага духавенства, якое не было ўпэўнена ў заўтрашнім дні, а таксама і ў колах інтэлігенцыі.

Натуральна, што іскры моцнага рэвалюцыйнага выбуху, якія прагучаў у 1830 г. у Еўропе, пападалі тут на вогненебяспечную глебу.

**Паўстанне 1830—1831 гг.** Весткі аб французскай рэвалюцыі 1830 г. ускалыхнулі Еўропу. А намер Мікалая І паслаць войскі для задушэння бельгійскай рэвалюцыі падштурхнуў да адкрытага выступлення польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў. У ноч на 29 лістапада ў Варшаве пачалося паўстанне, якое хутка ахапіла ўсё Царства Польскае. Галоўнакамандуючы польскай арміяй і фактычна намеснік цара ў Польшчы вялікі князь Канстанцін Паўлавіч вымушаны быў уцякаць з Варшавы, а польская армія перайшла на бок народа. Шляхецкі сейм 18 снежня аб'явіў паўстанне ўсенародным, а 20 снежня прыняў «Маніфест польскага народа» і абвясціў мэту паўстання — аднаўленне польскай дзяржавы ў межах 1772 года. 20 студзеня 1831 года ён пазбавіў дынастыю Раманавых і Мікалая І польскай кароны. Рускія войскі пачалі сцягвацца да межаў Царства Польскага. У лютым адбыліся першыя сур'ёзныя сутычкі на польскай зямлі.

У кіраўніцтве паўстаннем пераважалі кансерватары на чале з А. Чартарыйскім. Дэмакраты

гуртаваліся вакол І. Лялевеля і створанага па яго ініцыятыве «патрыятычнага клуба». Яны рабілі стаўку на буржуазна-дэмакратычныя сілы, падкрэслівалі вызваленчы характар паўстання, дэманстравалі сваю салідарнасць з расійскім вызваленчым рухам. У студзені 1831 года ў Варшаве адбылася арганізаваная імі маніфестацыя ў памяць пакараных смерцю дзекабрыстаў. Лялевель у адозве да рускага народа сфармуляваў славуты лозунг, які ўвасобіў еднасць мэтаў барацьбы польскіх і рускіх рэвалюцыянераў: «За нашу і вашу свабоду!» Прадстаўнікі левага крыла кіраўніцтва паўстання неаднаразова ўздымалі на сейме пытанне аб неабходнасці распаўсюджвання паўстання на былыя ўсходнія землі Рэчы Паспалітай, гэта значыць, і на Беларусь. Варшаўскі «Клуб аб'яднаных славян», створаны Лялевелем, дамогся таго, каб прадстаўнікі Літвы, Беларусі і Украіны, якія нелегальна прыбылі ў польскую сталіцу, сталі часовымі пасламі сейма.

У студзені 1831 года галоўнакамандуючы рускай арміяй І. І. Дзібіч, накіроўваючыся ў Польшчу, паведамляў з Вільні ў Пецярбург, што на Літве і Беларусі абстаноўка спакойная. Аднак спакой гэты быў падманлівы. Весткі пра паўстанне ўскалыхнулі шляхецкае асяроддзе. Ці была блізкая яму мэта, якую абвясцілі польскія рэвалюцыянеры? Несумненна, так. Нягледзячы на тое, што варшаўскія кіраўнікі паўстання, як правыя, так і левыя, не ставілі пытання аб аўтаноміі, у тым ліку нацыянальнай, для «усходніх крэсаў» Рэчы Паспалітай у межах 1772 года (як, дарэчы, і прадстаўнікі «крэсаў»), вялікая частка шляхты Беларусі бачыла ў аднаўленні польскай дзяржавы шлях да гістарычнай справядлівасці. Час паставіў іх перад выбарам: быць лаяльнымі да царскага ўрада ці паўстаць супраць яго. І тыя, хто звязваў паняцце «самадзяржаўе» з палітыкай захопаў, анексіі, дэспатызмам і несправядлівасцю, выбіралі бок паўстанцаў.

На беларускіх землях з'явіліся добраахвотнікі, якія далучаліся да паўстанцаў. У лютым стала вядома аб выпадках пераходу на бок паўстанцаў байцоў літоўскага корпуса, сфармаванага ў асноўным з ураджэнцаў Беларусі і Літвы. Да таго ж варшаўскае кіраўніцтва распаўсюдзіла адозву нацыянальнага ўрада ад 25 студзеня 1831 г. да жыхароў Літвы, Валыні, Падолля і Украіны. Мясцовая шляхта збірала зброю, рыхтавалася да адкрытага выступлення ў студзені — лютым. У Вільні быў створаны Цэнтральны паўстанцкі камітэт, які, аднак, аказаўся маладзейсным і нерашучым.

Каб прадухіліць пашырэнне паўстання, царскія ўлады зрабілі шэраг захадаў. У снежні 1830 года ў Заходняй Беларусі, Заходняй Украіне і Літве было ўведзена ваеннае становішча. На маёнткі тых, хто ўцёк у Польшчу, накладваўся арышт. Узмацніўся паліцэйскі нагляд. Неблаганадзейныя асобы высылаліся, многія мясцовыя чыноўнікі замяняліся рускімі.

Аднак прынятых мер было недастаткова. У пачатку сакавіка 1831 года паўстанне пачалося і ў Літве. У красавіку паўстаў захад Беларусі: Ашмянскі, Свянцянскі, Браслаўскі паветы Віленскай, Вілейскі і Дзісненскі паветы Менскай губерні. Тут ствараліся павятовыя ўрады, якія ўзначалілі мясцовыя памешчыкі, у тым ліку П. Важынскі (Ашмянскі павет), В. Барткевіч (Свянцянскі), І. Гяцэвіч (Вілейскі)[39]. Павятовыя ўрады абвяшчалі мэту паўстання: адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Яны аб'яўлялі рэкруцкія наборы, прыводзілі жыхароў да прысягі. Атрады паўночна-заходняй Беларусі налічвалі каля 10 тысяч чалавек. Супраць іх і паўстанцаў Літвы былі кінуты атрады рускай арміі, з якіх сфарміравалася спецыяльная рэзервовая армія пад камандаваннем генерала П. А. Талстога.

На тэрыторыі Беларусі значных ваенных дзеянняў не адзначалася. Тут адбываліся сутычкі паміж атрадамі ўрадавых войскаў і паўстанцаў[40]. Але апошнія дастаўлялі нямала клопатаў рускай арміі ўжо тым, што дзейнічалі ў яе тыле. Яны нападалі на вайсковыя склады, транспартныя абозы. Рускім войскам прыйшлося адбіваць у паўстанцаў Свянцяны, Дзісну, Вілейку, Ашмяны, Лепель.

Непакоіла ўрад становішча на Гарадзеншчыне, дзе паўстанне разгарнулася ў канцы мая 1831 г., калі на Меншчыне і Вілейшчыне яно ўжо пайшло на спад. У Белавежскай пушчы сканцэнтравалася каля 1000 паўстанцаў, на чале якіх сталі мясцовыя шляхціцы, у тым ліку сакратар Гародзенскага грамадзянскага губернатара Краскоўскі і галоўны лясны інспектар Ронка.

Ваенныя дзеянні прывялі да немалых чалавечых страт з абодвух бакоў. Трэба дадаць, што з красавіка на ход падзей пачала ўплываць эпідэмія халеры, якая не шкадавала ні салдат, ні генералаў: ад яе памерлі фельдмаршал Дзібіч і вялікі князь Канстанцін.

У першай палавіне мая 1831 г. польскі сейм прыняў рашэнне паслаць на дапамогу беларускім і літоўскім паўстанцам часткі рэгулярных войскаў. На Беларусь рушыў з атрадам у 820 чалавек генерал Д. Хлапоўскі. Першыя сутычкі гэтага фарміравання з рускімі войскамі адбыліся ў Белавежскай пушчы. Па шляху праходжання (Свіслач, Гародня, Ліда) атрад узмацняўся мясцовымі сіламі. Галоўнай мэтай наступаючых быў захоп Вільні. Сюды ж падышоў з Польшчы корпус генерала А. Гелгуда і паўстанцкія атрады з Літвы і Беларусі. Штурм горада быў прызначаны на 19 чэрвеня. Сілы, аднак, былі няроўныя — рускія войскі лёгка адбілі атакі і прымусілі паўстанцаў адступаць. Адны з іх, на чале з Хлапоўскім і Гелгудам, у сярэдзіне ліпеня перайшлі мяжу Прусіі і склалі зброю. Частка паўстанцаў, якімі кіраваў польскі генерал Г. Дэмбінскі, адступала да Царства Польскага праз Гародзеншчыну і Беласточчыну. Пры іх набліжэнні паўсталі жыхары Наваградскага павета.

Іх атрад колькасцю каля 400 чалавек на чале з Ю. Кашыцам далучыўся да групы Дэмбінскага, якая ў хуткім часе, адзіная з пасланых у Беларусь і Літву, вярнулася ў Польшчу.

Калі паўстанне ў Заходняй Беларусі і Літве было амаль падаўлена, пачаліся хваляванні на поўдні беларускага краю. Памешчыкі Ф. Кяневіч і Т. Пуслоўскі ўзначалілі атрады паўстанцаў у Мазырскім, Рэчыцкім і Пінскім паветах. Ізаляванасць гэтых ачагоў ад буйных цэнтраў паўстання і прысутнасць тут значнай колькасці рускіх войскаў дазволілі апошнім даволі хутка разбіць гэтыя атрады.

Беларускія землі Віленскай губерні, Меншчына, Гарадзеншчына, Піншчына і Мазыршчына, а таксама Віцебшчына і Магілёўшчына, дзе хаця і ў значна меншай ступені, аленазіраліся хваляванні, такая геаграфія паўстання 1831 года на Беларусі. У яго ўцягнуты былі ўсе колы насельніцтва: шляхта, мяшчане, сяляне, каталіцкае і уніяцкае духавенства. Кіруючая роля ў паўстанні належала шляхце. А ўдзел у ім сялянства значна паглыбляў рэвалюцыйны працэс у Беларусі і Літве.

Сяляне-касінеры — узброеныя косамі — прыходзілі ў паўстанцкія атрады за сваімі панамі і па прымусоваму (месцамі пад страхам смерці) рэкруцкаму набору, так і, што было радзей, добраахвотна. Кіраўнікі паўстання ў паветах вялі актыўную прапаганду сярод сялян, абяцалі, хаця і ў вельмі неакрэсленай форме, паляпшэнне іх цяжкай долі. Неабходнасць пастаноўкі ў той ці іншай форме пытання аб будучым стане сялянства разумела і варшаўскае кіраўніцтва. Аднак ухваленаму ў камітэтах праекту закону аб вызваленні казённых сялян з зямлёй не знайшлося месца ў парадку дня сейма. Вышэйшае кіраўніцтва ўстрымалася нават ад частковага і кампраміснага вырашэння сялянскага пытання, бо баялася закрануць інтарэсы памешчыкаў — галоўных дзеючых асоб паўстання.

Узброенае сялянства ўяўляла сабой сілу, вельмі небяспечную для прыгоннікаў, і гэта разумелі паны розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Сярод паўстанцаў, уцалелых пасля разгрому атрадаў і дэзерціраў,— усіх, хто хаваўся па лясах, вялікую колькасць складалі сяляне, якія ў тых абставінах падымалі зброю і на польскіх, і на рускіх паноў. Страх перад сялянскімі бунтамі прымусіў памешчыкаў некаторых паветаў Гародзенскай і Віцебскай губерняў устрымацца ад падтрымкі паўстання і звярнуцца за дапамогай да рускіх войскаў. У рускага боку таксама былі ўсе падставы асцерагацца, каб з польскага бунту не атрымаўся б сялянскі. Царскія загады заклікалі мужыкоў скласці зброю і абяцалі ім памілаванне.

На канец жніўня 1831 г. паўстанне на Беларусі было амаль цалкам падаўлена. А вестка пра ўзяцце 8 верасня рускай арміяй Варшавы прымусіла разысціся тыя рэшткі паўстанцкіх атрадаў, якія яшчэ хаваліся па лясах.

Разгром польскага паўстання 1830—1831 гг. прывёў да адмены

аўтаноміі Польшчы і Канстытуцыі 1815 г. На яго ўдзельнікаў абрушыліся рэпрэсіі. Адны адбывалі пакаранне ў турмах і ссылках, іншыя вымушаны былі эмігрыраваць. У Віленскай губерні ўрад канфіскаваў 118 маёнткаў шляхціцаў, якія прымалі ўдзел у паўстанні, Гарадзенскай — 70, Менскай — 22, Віцебскай — 6, Магілёўскай — 1[41]. Паколькі сярод актыўных удзельнікаў паўстання 1830—1831 гг. было нямала дзеячаў культуры Беларусі (гісторыкі М. Балінскі, К. Тышкевіч, пісьменнікі Ю. Нямцэвіч, Я. Ходзька, мастакі В. Дмахоўскі, Н. Орда, фалькларыстка Э. Плятэр, апетая Міцкевічам і ў легендах, гераіня паўстання, якая загінула ў бітве), не магло не збяднець культурнае жыццё краю.

Грамадска-палітычны рух на Беларусі развіваўся ўжо ў новых умовах.

**Страты і здабыткі 30—40-ых гг. Франц Савіч.** Пасля падаўлення паўстання рэвалюцыйны рух ставіў і імкнуўся вырашаць папярэднія і новыя задачы. Надзеі на вырашэнне эканамічных і палітычных праблем у рамках закону згінулі, і гэта ўнесла новыя рысы ў грамадска-палітычную думку і рух. Апошні па-ранейшаму быў цесна звязаны з польскім бокам — у краі дзейнічалі ячэйкі «Садружнасці польскага народа» (Пінск, Слуцк). На Беларусі распаўсюджвалася і прагна чыталася эміграцкая прапагандысцкая літаратура, творы І. Лялевеля, А. Міцкевіча. Польская эміграцыя, у сваю чаргу, асабліва левa-радыкальныя яе сілы, у першыя часы не губляла надзеі на ўзнаўленне ваенных і партызанскіх дзеянняў на тэрыторыі «рускай Польшчы».

Менавіта такі намер мела экспедыцыя 1833 г., якую ўзначаліў палкоўнік Ю. Заліўскі. Тэрыторыя будучых партызанскіх дзеянняў была разбіта ім на акругі з фактычным цэнтрам у Гародні. Стаўка рабілася на падняцце шырокага сялянскага руху. У сакавіку частка эмісараў з фальшывымі пашпартамі здолела перайсці граніцу Расійскай імперыі. Сярод іх быў і Міхал Валовіч, ураджэнец маёнтка Парэчча Слонімскага павета. Яму даручана было ўзначаліць партызанскія дзеянні ў Слонімска-Наваградскай акрузе. У хуткім часе Валовіч сфарміраваў невялікі атрад, ядро якога склалі сяляне яго вёскі. Уладам, аднак, удалося напасці на след мяцежнікаў. Валовіч быў дастаўлены ў Гародню. На допытах ён паказаў, што мэтай сваёй барацьбы бачыў вызваленне сялян, свабоду, роўнасць усіх людзей і быў прысуджаны да пакарання смерцю цераз павешанне[42].

У 1838 годзе ў Вільні публічна быў расстраляны яшчэ адзін прадстаўнік польскай эміграцыі — Шыман Канарскі, стваральнік і кіраўнік эміграцкага таварыства «Маладая Польшча». З гэтай арганізацыяй і яе кіраўніком цесныя сувязі падтрымлівала віленскае «Дэмакратычнае таварыства», якое ўзначальваў ураджэнец Піншчыны, рэвалюцыянер і беларускі паэт Франц Савіч (1815—1845), адна з самых яркіх асоб у гісторыі Беларусі XIX ст.

Выхаванец Пінскага павятовага вучылішча Ф. Савіч у 1833 г. стаў студэнтам створанай на руінах разгромленага царскім урадам Віленскага універсітэта Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Тут ён арганізаваў «Дэмакратычнае таварыства», у задачы якога ўваходзіла барацьба з дэспатызмам і падрыхтоўка рэвалюцыйнага выступлення. Мэты таварыства асноўваліся на арганічным непрыманні рускага самадзяржаўя як амаральнай формы праўлення і разуменні таго, што дэспатычная ўлада не пойдзе на ўступкі. Ідэалам палітычнага ладу для Савіча і яго сяброў было грамадства роўных магчымасцей. Яны вучыліся на ўроках гісторыі французскай рэвалюцыі, дзекабрысцкага руху і паўстання 1830—1831 гг., асэнсоўвалі памылкі папярэднікаў — шляхецкіх рэвалюцыянераў.

Адзін з папрокаў удзельнікам польскага паўстання члены «Дэмакратычнага таварыства» фармулявалі так: «Чаму тады ж не прызналі роўнасці мужыкоў?»[43]. Сам Савіч, па сведчанню сучаснікаў, быў «няўмольны ганіцель паноў»[44]. З'яўляючыся максімалістам і фанатыкам, ён дзеля вырашэння сялянскай праблемы не спыняўся і перад магчымасцю фізічнага знішчэння памешчыкаў.

Але ў 1838 годзе «Дэмакратычнае таварыства» было выкрыта, а праз год Савіч быў высланы на Каўказ у дзеючую армію. Спрабаваў уцякаць, але беспаспяхова. У красавіку 1841 года на беразе Церака былі знойдзены яго адзенне і «перадсмяротная» запіска — Савіч інсцэніраваў самагубства. Аднак і гэтыя ўцёкі, як і спроба дайсці да румынскай граніцы, не ўдаліся. Беглы салдат Савіч быў прысуджаны да двухгадовага зняволення ў цірaспальскай турме. Далей была зноў салдатчына, і зноў уцёкі, цяпер удалыя. Потым затрымка ў Янішпале з-за вывіхнутай нагі, медыцынская практыка пад імем доктара Гельгега і раптоўная смерць ад халеры, калі пераход граніцы стаў для яго рэальнай магчымасцю.

Страх перад рэвалюцыйным рухам прымушаў улады ўзмацніць нагляд за «напрамкам розумаў» жыхароў Беларусі. Пастаянна вяліся пошукі палітычных змоў і тайных таварystваў. Былі выкрыты змовы шляхціцаў у Віцебскай губерні ў 1848 г. і ў Менску ў 1855 г. Здаралася, ў празмернай руплівасці і пагоні за зычлівасцю начальства жандары не спыняліся і перад фабрыкацыяй палітычных спраў[45]. Жандарская і паліцэйская актыўнасць мела вынікі: сялянскае паўстанне ў Галіцыі і рэвалюцыйныя падзеі ў Еўропе 1848 года адгукнуліся на Беларусі рэхам менш значным, чым чакалася. Аднак задушыць апазіцыйныя настроі ў краі не ўдалося.

У 1848 годзе з адозвай да сялян выступіў смаргонскі шляхціц Юльян Бакшанскі. Ён заклікаў сялян аб'яднацца з мяшчанамі, салдатамі і выступіць супраць паноў-прыгнятальнікаў. «Адозва да смаргонскіх сялян», народжаная галіцыйскімі падзеямі, моцна напалоха-

ла ўлады. Яны зрабілі ўсё, каб звузіць яе распаўсюджанне. Аўтар быў арыштаваны і прысуджаны да дванаццацігадовай катаргі. У 1863 годзе ён стане адным з кіраўнікоў паўстанцкага атрада і загіне ў сутычцы з царскімі войскамі.

Адзнака часу — актывізацыя ў грамадска-палітычным руху вучнёўскай моладзі краю. Юнакі чыталі і распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, творы рэвалюцыйных дэмакратаў Польшчы і Расіі. Гурток, члены якога марылі «пра шчасце ўсяго грамадства», існаваў у Менскай гімназіі. Некаторыя яе вучні ўваходзілі ў тайнае гарадское таварыства, якое існавала ў канцы 1840 гадоў і ставіла за мэту падрыхтоўку паўстання. Члены яго вялі прапаганду сярод салдат Менскага гарнізона, Бабруйскай крэпасці, сялян і былі звязаны з рэвалюцыйна настроенай студэнцкай моладдзю з Беларусі, Літвы, Украіны ва універсітэтах Расіі[46]. Актыўна дзейнічала на Беларусі і падтрымлівала сувязі з групамі ў Лідскім, Наваградскім, Слонімскім паветах віленскае тайнае таварыства «Брацкі саюз», створанае ўраджэнцамі Лідскага павета братамі Далеўскімі.

У асяроддзі тайных згуртаванняў гэтага часу, якое папаўнялася за кошт разначыннай плыні, выспявала рэвалюцыйна-дэмакратычная думка, назапашвалася глеба для будучага паўстання.

## 3. Культура.

**Новыя ўмовы і асноўныя накірункі развіцця.** Пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі культура Беларусі развівалася ў новых гістарычных умовах. У канцы XVIII — першай палове XIX ст. у ёй адбываліся сур'ёзныя якасныя змены, звязаныя з неабходнасцю пераарыентацыі, у сувязі з фарміраваннем буржуазных адносін, складваннем умоў для станаўлення беларускай нацыі.

Беларусь таго часу не абмінуў агульнаеўрапейскі працэс адноснай дэмакратызацыі культуры. Яе дасягненні сталі даступнымі больш шырокаму, чым раней, колу грамадства дзякуючы развіццю даволі аднароднай і пераважна свецкай адукацыі. Стракатая сістэма адукацыі на Беларусі паступова, у адпаведнасці з рэформамі 1803, 1807, 1828 гг., набыла пэўную аднастайнасць. У 1803 г. навучальныя ўстановы ўвайшлі ў склад Віленскай навучальнай акругі і сталі пад начальваццa Віленскаму універсітэту. Пазней школы і гімназіі Віцебскай і Магілёўскай губерняў пасля непрацяглага знаходжання ў Пецярбургскай навучальнай акрузе (1824—1828 гг.) склалі асобную Беларускую навучальную акругу.

Асвета таго часу, як і належала ў манархічна-дваранскай дзяржаве, падпарадкоўвалася саслоўнаму прынцыпу: вышэйшыя і сярэднія навучальныя

ўстановы прызначаліся для дзяцей шляхты і чыноўнікаў. Прадстаўнікі сацыяльных нізоў у лепшым выпадку абмяжоўваліся пачатковай адукацыяй. З цягам часу колькасць вучняў з падатковых саслоўяў расла: на 1847 г. яна складала 40 % усіх навучэнцаў[47].

Паступова і непаслядоўна сістэма адукацыі ўсё ж вымушана была адклікацца на запатрабаванні часу. У канцы 1830-ых гг. у краі дзейнічалі 13 ланкастэрскіх (узаемнага навучання) школ для небагатых вучняў, у 1840-ыя гг. пачалі адкрывацца школы для дзяржаўных сялян. Пашыралася жаночая асвета. Складвалася прафесійная адукацыя. У 1848 годзе на базе земляробчай школы быў створаны Горы-Горацкі земляробчы інстытут — першая ў Расіі вышэйшая агранамічная навучальная ўстанова, важны навуковы і культурны цэнтр беларускага краю. Вышэйшую адукацыю юнакі Беларусі маглі атрымаць у Віленскім (1803—1832 гг.), Маскоўскім, Пецярбургскім універсітэтах, у іншых вышэйшых навучальных установах Польшчы і Заходняй Еўропы.

Цяжка пераацаніць ролю Віленскага універсітэта і Вільні — горада навукі, друкарань, перыядычных выданняў — у развіцці культуры Беларусі, яе грамадска-палітычнай думкі, літаратуры, мастацтва. Прафесарскі склад Віленскага універсітэта быў рэдкасны па колькасці яркіх дараванняў: астраном, рэктар Я. Снядэцкі, яго брат, біёлаг Е. Снядэцкі, гісторык І. Даніловіч, славіст і арыенталіст М. Баброўскі, прафесар рускай літаратуры, гісторык і мовазнаўца І. Лабойка, славуты І. Лялевель, заснавальнік рамантычнай школы ў польскай гістарыяграфіі, ідэйны кіраўнік левага крыла польскага нацыянальна-вызваленчага руху. У 1824 годзе пасля выкрыцця тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў Лялевель быў пазбаўлены кафедры. Вымушаны былі пакінуць універсітэт І. Даніловіч і М. Баброўскі. «Шкодны ўплыў» гэтых выкладчыкаў быў відавочны: у студэнцкім асяроддзі выхоўвалася незалежнае мысленне, высокая грамадзянскасць, заахвочваліся смелыя імкненні і таленты.

Пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг., калі Віленскі універсітэт быў закрыты як рассаднік крамольных ідэй і настрояў, узрасла роля рускіх універсітэтаў, дзе магла атрымоўваць вышэйшую адукацыю моладзь з Беларусі. Тут светапогляд беларускіх юнакоў фарміраваўся пад уздзеяннем рускай філасофскай думкі, літаратуры, журналістыкі, рускага вызваленчага руху, а таксама кантактаў з рэвалюцыйна-дэмакратычнымі коламі Расіі. Згадаем, што адным з такіх беларускіх юнакоў быў Кастусь Каліноўскі, з 1856 года студэнт Пецярбургскага універсітэта. Выхаванцы Пецярбургскага і Маскоўскага універсітэтаў, ураджэнцы Беларусі, значна папоўнілі рады настаўнікаў сярэдніх навучальных устаноў краю. Яны вярталіся на радзіму і станавіліся прапагандыстамі дасягненняў рускай культуры і грамадзянскіх традыцый.

Грамадска-палітычная думка і культура Беларусі першай паловы XIX ст. складвалася і развівалася пад адчувальным польскім, рускім і заходнееўрапейскім уплывамі. На іх уздзейнічалі польскія публіцыстыка і паэзія. Беларусь знаходзілася пад моцным уплывам польскага нацыянальна-вызваленчага руху.

Супрацьборства ідэй і думак адлюстроўвалася ў супрацьлеглых пазіцыях польскамоўнага друкаванага органа Полацкай езуіцкай акадэміі «Месячнік полацкі» і віленскіх выданняў, якія стаялі на пазіцыях Асветніцтва і рацыяналізму. Яно адчувалася ў рознагалоссі польскамоўных «Штотыднёвіка Пецярбургскага», каля якога групаваліся кансерватары, так званыя «пецярбургская катэрыя» (Г. Ржавускі, М. Грабоўскі, І. Галавінскі і інш.), і кіеўскага ліберальнага штогодніка «Звязда» (А. Марцінкоўскі, В. Давід), на старонках якіх часта выступалі прадстаўнікі Беларусі.

У першай палове XIX ст., як і раней, культурнае жыццё Беларусі засяроджвалася ў некаторых панскіх сядзібах. «Паўночнымі Афінамі» называлі сучаснікі маёнтак Залессе вядомага кампазітара, аўтара славутага паланеза «Развітанне з радзімай» М. К. Агінскага на Смаргоншчыне. У Гарадзішчы пад Менскам у памешчыка Л. М. Ракіцкага, меламана і скрыпача-аматара, вучня славутага італьянца Дж. Віоцці, быў выдатны, прафесійны па ўзроўню, аркестр. Маёнтак Гарадзец Магілёўскай губерні, які належаў рускаму арыстакрату, кампазітару-аматару У. Р. Кастрыёту-Скандэрбеку, сябру М. І. Глінкі і А. С. Даргамыжскага, славіўся прыгонным квартэтам. Ён лічыўся ў 1840-ыя гг. адным з лепшых у Расіі. У першай палове XIX ст. існавалі напаўпрыгонныя тэатры ў Ружанах, Зэльве, Забор'і, Плешчаніцах. Аднак у азначаны час культурнае жыццё краю ўсё больш канцэнтравалася ў гарадах. Іх роля, як цэнтраў адукацыі, друкарскай справы, кніжнага гандлю, тэатральнай, музычнай, літаратурнай дзейнасці, у гэты перыяд значна ўзрастае. Пераканаўчае сведчанне таму — літаратурна-мастацкае жыццё Менска першай паловы XIX ст. Тут жылі і працавалі мастакі В. Ваньковіч, Я. Дамель, А. Шэмеш, польскія і рускія літаратары. Нярэдка наладжваліся ў горадзе аматарскія літаратурна-музычныя вечары. 1840—1850-ыя гг. у культурнай гісторыі Менска адзначаны дзейнасцю пачынальніка новай беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча, вакол якога групаваліся мясцовыя інтэлігенты: мастак і пісьменнік А. Шэмеш, педагог і беларускі паэт І. Легатовіч, белетрыст Ю. Гарайн, кампазітар К. Кжыжаноўскі і іншыя. Сярод тых, хто наведваў беларускага дудара ў Менску і прысутнічаў на літаратурных вечарах у яго доме, былі У. Сыракомля, С. Манюшка, К. Тышкевіч.

У 1830 г. у Менску і іншых губернскіх гарадах Беларусі пачалі ствараца першыя публічныя бібліятэкі[48]. Кнігі для іх выпісваліся з Пецярбурга і Масквы.

Важнымі цэнтрамі распаўсюджвання культуры былі і гімназічныя бібліятэкі. Фонды бібліятэк павялічваліся, але рост іх часам не паспяваў за патрабаваннямі некаторых чытачоў, якія ў сярэдзіне XIX ст. рабілі спробы ствараць бібліятэкі на асабістыя ахвяраванні і прыватныя кабінеты для чытання. На Беларусь паступалі кнігі і перыядычныя выданні з Масквы, Пецярбурга, Варшавы, Вільні, Заходняй Еўропы.

Разнамоўнай і разнастайнай была прадукцыя мясцовых друкарань: казённых, царкоўных і прыватных. Колькасць іх у першай палове XIX ст. вагалася ад 36 у 1801—1832 гг. да 21 у 1833—1860 гг.[49].

Значнае ажыўленне ў кнігадрукарскую справу ўносілі прыватныя друкарні. Да паўстання 1830—1831 гг. іх было ў Беларусі 30. Яны выпускалі каля 30 % кніжнай прадукцыі краю. Пасля засталося 17[50]. Гэта былі прадпрыемствы капіталістычнага тыпу, мабільныя і арыентаваныя на новае. Невыпадкова першыя выданні новай беларускай літаратуры, творы Я. Чачота, В. Дуніна-Марцінкевіча з'явіліся ў прыватных менскіх друкарнях Ё. Дворца, братоў Бейлiных і віленскай — Ю. Завадскага.

У першай палове XIX ст. камерцыйным становіцца тэатр Беларусі. У гарадах і мястэчках актыўную дзейнасць разгарнулі прыватныя трупы. Усталяваўся тэатральны сезон, з'явіліся пастаянныя гарадскія тэатры. Развівалася як аматарскае, так і прафесійнае тэатральнае мастацтва. З'яўленне прафесійнага агульнадаступнага тэатра было выдатнай з'явай у культурным жыцці Беларусі. Гэты тэатр адчыніў дзверы для шырокага кола гледачоў, далучыў іх да здабыткаў сусветнай, польскай, рускай, украінскай драматургіі. Да сярэдзіны XIX ст. тэатр Беларусі, адлюстроўваючы моўную сітуацыю ў краі і «бацькоўскую» апеку ўлад, становіцца двухмоўным — польска-рускім. П'есы польскіх і рускіх аўтараў: В. Багуслаўскага, А. Жулкоўскага, А. Фрэдры, А. Шахоўскага, М. Загоскіна, М. Палявога, Ф. Коні ставіліся ў 1840—1850-ыя гг. трупамі Я. Халмікоўскага (Менск), М. Піёна (Віцебск), С. Навакоўскага (Гародня)[51]. Прафесійны тэатр у першай палове XIX ст. стаў неад'емнай часткай духоўнага жыцця гарадоў і мястэчак Беларусі. У той час з'явілася і прафесійная тэатральная крытыка (П. Шпілеўскі, І. Гольц-Мілер, Ф. Падабед).

Аматарскі тэатр быў папулярны ў шляхецкім, чыноўніцкім, афіцэрскім асяроддзі. Нярэдка аматары арганізоўвалі польскамоўныя і рускамоўныя спектаклі, музычныя вечары ў дабрачынных мэтах. На аматарскай сцэне рабіў свае першыя крокі беларускі нацыянальны тэатр. Пачатковы перыяд яго развіцця звязаны з дзейнасцю В. Дуніна-Марцінкевіча і тых менскіх акцёраў і музыкантаў-аматараў, якія гуртаваліся вакол беларускага драматурга. 23 верасня 1841 г.— знамянальная дата ў гісторыі беларускай сцэны. У гэты дзень адбылася прэм'ера аматарскага спектакля — камічнай оперы «Рэкруцкі яўрэйскі на-

бор», музыку да якой напісалі С. Манюшка і К. Кжыжаноўскі, а лібрэта — В. Дунін-Марцінкевіч. Гэта быў дэбют беларускага драматурга. Сродкі, атрыманыя ад пастаноўкі, пайшлі «на карысць дзіцячага прытулку». Па звестках рэцэнзента, аматары ігралі добра, а «сачыніцель Марцінкевіч быў забаўней за ўсіх». 9 лютага 1852 г. мінскія аматары паставілі «Ідылію» Дуніна-Марцінкевіча (музыка С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага). Спектаклі іграліся потым на прыватных кватэрах. Пазней «Ідылію» ставілі на аматарскіх сцэнах Бабруйска, Слуцка, Глуска.

Дзяцінства і маладосць «бацькі» польскай класічнай музыкі С. Манюшкі (1819—1872), ураджэнца Ігуменскага (цяпер Чэрвенскага) павета, прайшлі на беларускай зямлі. У доме яго бацькі часта збіраліся музыканты, мастакі, артысты. Першапачатковую музычную адукацыю ён атрымаў у таленавітага менскага музыканта і выкладчыка Д. Стэфановіча. На аматарскіх сцэнах Беларусі адбыліся пастаноўкі першых опер і аперэт Манюшкі, у тым ліку і на лібрэта Дуніна-Марцінкевіча. Беларускія народныя песні і мелодыі арганічна ўвайшлі ў яго творчасць. З'яўленне на мясцовым музычна-культурным небасхіле таленту такога маштабу тлумачыцца не толькі шчаслівым выпадкам прыроды, але і ўзроўнем музычнай культуры, нядрэнна наладжанай сістэмай музычнай адукацыі. Яна была абавязковай часткай дваранскага выхавання. Музыка выкладалася як асобны прадмет у прыватных пансіёнах, у спецыяльных музычных класах і школах. Музыканты-аматары былі амаль у кожным шляхецкім доме[52].

У той жа час узрастаў аўтарытэт прафесіяналаў у мастацтве. Прафесійнае служэнне музам ужо не лічылася, як раней, заганай для чалавека шляхецкага паходжання. Выдатныя прафесіяналы-музыканты выхоўваліся на Беларусі. Сярод іх вядомы кампазітар Фларыян Міладоўскі, юная скрыпачка Тэафіля Юзафовіч — «Паганіні ў жаночым адзенні», бліскучыя піяністы-«вундэркінды» Каміла і Міраслаў Марцінкевічы — дзеці беларускага пісьменніка, скрыпач-віртуоз Міхаіл Ельскі, ксілафаніст з еўрапейскім імем Міхаіл Гузікаў.

Беларускія гарады першай паловы XIX ст. цяжка ўявіць без гарадскіх аркестраў, якія ігралі на плошчах, у скверах і парках, без музычных вечароў у дваранскім асяроддзі і гімназіях. Канцэртную дзейнасць тут вялі вядомыя еўрапейскія музыканты. Сярод іх адзін з лепшых скрыпачоў свайго часу іспанец П. Эскудэра і выдатны бельгійскі скрыпач Ш. Мёзер[53].

Добрую прафесійную падрыхтоўку маглі атрымаць і юныя мастакі. Да іх паслуг былі рысавальныя класы гімназій і Полацкай езуіцкай калегіі. Са сцен апошняй выйшлі Валенцій Ваньковіч і Іван Хруцкі, якія потым, як і многія мастакі Беларусі, удасканальвалі сваё майстэрства ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Вялікую ролю ў падрыхтоўцы жывапісцаў адыграў Віленскі універсітэт, дзе на ка-

федры жывапісу працавалі Ф. Смуглевіч і Я. Рустэм, а на кафедры скульптуры — А. Ле Брун і першы прафесар скульптуры ў Беларусі К. Ельскі.

На Беларусі ў канцы XVIII — першай палове XIX ст. развівалася дэкаратыўна-прыкладное і манументальна - дэкаратыўнае мастацтва, скульптура. Але дух часу, напэўна, найбольш выразна адлюстравалі жывапіс і графіка. Яны былі суцэльна свецкімі і ўпісваліся ў рамкі класіцысцкага («віленская школа», рускі акадэмізм) і новага, рамантычнага, напрамкаў. Разнастайнае ў жанравых адносінах (партрэт, пейзаж, нацюрморт, гістарычныя і бытавыя палотны і замалёўкі) выяўленчае мастацтва Беларусі адлюстроўвала самабытны воблік краю, яго жыхароў і тую асаблівую цеплыню, якая ішла ад замілавання аб'ектам жывапісных прац: людзьмі, прыродай і гісторыяй роднай зямлі.

Яскрава гэта праявілася ў пейзажах В. Дмахоўскага, таленавітага мастака і кампазітара Н. Орды, бытавых і этнаграфічных карцінах і замалёўках К. Кукевіча, А. Бартэльса, Ю. Карчэўскага, К. Русецкага, гістарычных палотнах, літаграфіях і малюнках Я. Дамеля, Я. Сухадольскага, М. Кулешы. У выяўленчым мастацтве адбіўся і боль мастакоў за сваю радзіму. Літаграфія ўраджэнца Менска Ю. Азямблоўскага «Славянскі нявольнік» («Беларускі раб») — выразны пратэст супраць прыгонніцкага рабства — набыла сусветную вядомасць. Яе дэманстраваў на сваіх лекцыях у Парыжы А. Міцкевіч. А. І. Герцэн пісаў пра яе ў 1853 г. у памфлеце «Хрышчоная ўласнасць»: «Нянавісць, змешаная са злосцю і сорамам, напаўняе маё сэрца, калі я гляджу на гэты жорсткі папрок, на гэта «да сякер, браткі», якое паказана з надзвычайнай слушнасцю»[54].

Рамантычныя павевы выразна выявіліся ў пейзажным, гістарычным і асабліва партрэтным жывапісе: у працах В. Ваньковіча, І. Хруцкага, І. Аляшкевіча, Ю. Пешкі, А. Шэмеша. Рамантызм паставіў у цэнтр мастацтва асобу, чалавека высакародных пачуццяў, героя і пакутніка («Міцкевіч на скале Аюдаг» (1828), «Партрэт А. Тавянскага» (1837) В. Ваньковіча, «Аўтапартрэт» (1830) Я. Дамеля; «Партрэт А. Міцкевіча» (1828) І. Аляшкевіча).

Рамантызм, які быў рэакцыяй на сухаваты і «правільны» класіцызм, ламаў стэрэатыпы і каноны, узаконьваў свабоду думак і творчасці. Ён нібыта скрануў з месца створаны класіцызмам трывалы свет мастацтва. Рамантычныя павевы закранулі і архітэктуру Беларусі, якая развівалася ў асноўным у рамках сталага класіцызму. Яны адбіліся ў неагатычных збудаваннях (Крычаўскі і Косаўскі палацы) і найбольш відавочна ў пейзажапаркавым мастацтве. Рамантычныя пейзажныя паркі прыйшлі на змену рэгулярным. Яны ствараліся па прынцыпу свабоднай кампазіцыі і аздабляліся штучнымі руінамі, гротамі і каскадамі (Гомельскі, Лагойскі, Жыліцкі, Савейкаўскі паркі).

**Працяг паланізацыі. Узмацненне русіфікатарскіх тэндэн-**

цый. Рамантызм яскрава ўвасобіў абуджэнне цікавасці да нацыянальнага пачатку, у тым ліку да побыту і духоўнага жыцця народа. Такая арыентацыя рамантызму мела вялікае значэнне для станаўлення беларускай нацыянальнай свядомасці і нацыянальнай культуры. Яе фарміраванне адбывалася ў складаных умовах. Моцныя пазіцыі займала ў той час на Беларусі польская культура. Польская мова была мовай пераважнай часткі адукаванага грамадства, мовай асветы, тэатра, кнігадрукавання. У адным Полацку ў 1794—1840 гг. выйшла 181 польская кніга[55]. У польскай літаратуры таго часу працавала шмат ураджэнцаў і жыхароў Беларусі: Ю. Крашэўскі, А. Адынец, Т. Лада-Заблоцкі і іншыя. Беларусь дала польскай літаратуры геніяльнага А. Міцкевіча і У. Сыракомлю, польскай музыцы — М. К. Агінскага і С. Манюшку.

У той жа час з канца XVIII ст. у культурным жыцці Беларусі пачынае адчувацца моцны рускі ўплыў. Першы этап распаўсюджвання рускай культуры праходзіў праз польскае пасрэдніцтва. У канцы XVIII — пачатку XIX ст. тут перакладаліся рускія кнігі, ставіліся п'есы рускіх аўтараў, быў падрыхтаваны да друку адзін з выпускаў руска-польскага часопіса «Отечественный памятник» (Магілёў, 1818). Рускі ўплыў адбіўся на вонкавым выглядзе беларускіх гарадоў. У канцы XVIII ст. для многіх з іх былі распрацаваны ў адпаведнасці з прынцыпамі рускага горадабудаўніцтва новыя планы. Адміністрацыйныя і жылыя будынкі, палацы і саборы ў стылі рускага класіцызму і ампіру будаваліся па праектах вядомых рускіх дойлідаў М. А. Львова, А. І. Мельнікава, В. П. Стасава, Д. І. Кларка. Іосіфаўскі сабор у Магілёве распісваў славуты рускі мастак У. Л. Баравікоўскі. Руская класічная літаратура знайшла на беларускай зямлі ўдзячнага чытача. Яна ўваходзіла ў свядомасць грамадства і, як і польская, фарміравала эстэтычныя і ідэйныя ўмовы, у якіх прараслі парасткі беларускай нацыянальнай культуры і літаратуры. Чалавекам, які параднiўся з рускай літаратурай, і ведаў, «хто ў яе сын, а хто падкідыш»[56], быў аўтар паэмы «Тарас на Парнасе».

Такім чынам, на Беларусі суіснавалі роднасныя славянскія культуры. Іх высокі ўзровень быў для нацыянальнай беларускай культуры своеасаблівай планкай, на якую нельга было не арыентавацца.

У рускім і польскім культурных уплывах на Беларусь вызначаліся два напрамкі. Адзін быў цесна звязаны з натуральным імкненнем народаў да культурнага абмену. Другі — з палітыкай паланізацыі і русіфікацыі беларускіх зямель. Інерцыя паланізатарскіх традыцый была вельмі значная. Выкарыстоўвалі свой багаты вопыт у гэтай галіне і езуіты. Ім было дазволена адкрыць у Полацку акадэмію — вышэйшую каталіцкую навучальную ўстанову, якая існавала да выгнання езуітаў у сакавіку 1820 года з Расіі.

Імперскія ж улады ў сваю чар-

гу ў распаўсюджванні рускай культуры на Беларусі бачылі адзін са сродкаў русіфікацыі краю. Асцярожная пры Кацярыне II, ліберальная пры Аляксандры I, русіфікатарская палітыка стала ў час царавання Мікалая I жорсткай і рашучай. Пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. быў закрыты Віленскі універсітэт, у сярэдніх навучальных установах пашырана вывучэнне рускай мовы, гісторыі і геаграфіі Расіі. Гімназіі Магілёўскай і Віцебскай губерняў пераведзены на рускую мову навучання. Пасля спешнага скасавання уніі ў 1839 г. ліквідавалася ўсё, што з ёй было звязана, у тым ліку і культурныя традыцыі. Зачыняліся манастырскія бібліятэкі, а іх фонды вывозіліся за межы Беларусі.

Вастрыё русіфікатарскай палітыкі царызму было скіравана супраць польскага ўплыву. Але пры гэтым не ставілася за мэту стварэнне спрыяльных умоў для развіцця беларускай культуры. Існаванне апошняй не ўваходзіла ў імперскія планы. У першай палове XIX ст. руская афіцыйная грамадская і навуковая думка пачала фарміраваць тэорыю «заходнерусізму», якая даказвала правы Расійскай імперыі на валоданне беларускімі землямі і адмаўляла беларусам у праве мець сваю гісторыю, культуру і мову. Апошняя вызначалася афіцыйнай навукай як дыялектная гаворка рускай мовы. Афіцыйная дактрына, сфармуляваная ў 1830-ых гг. міністрам асветы С. С. Уваравым у трыядзе «праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць», шавіністычная ў сваёй аснове, спрыяла русіфікацыі беларускага краю.

Русіфікатарскія тэндэнцыі значна ўзмацнялі імперскія імкненні — падпарадкаваць кантролю ўсё. Паколькі беларускія правінцыі лічыліся сярод асабліва неблаганадзейных, царызм насаджаў тут моцны адміністрацыйны і паліцэйскі нагляд за культурнымі ўстановамі: бібліятэкамі, школамі, друкарнямі, кнігарнямі, тэатрамі. Праведзеная ў 1845—1847 гг. на Беларусі і Літве тэатральная рэформа па сутнасці ліквідавала вандроўныя трупы і ўскладніла гастрольную дзейнасць тэатральных калектываў, абмежавала іх свабоду ў выбары рэпертуару. Немалыя былі і ганенні на дзеячаў культуры. У розныя гады за антыўрадавую дзейнасць ці вальнадумства з Беларусі былі высланы Я. Чачот, Ф. Савіч, Р. Падбярэзскі, на салдацкую 25-гадовую службу адпраўлены П. Багрым. Вымушаны былі эмігрыраваць А. Рыпінскі, Н. Орда, Я. Сухадольскі, В. Дмахоўскі і іншыя.

Нават парасткі маладой беларускай культуры выклікалі рэзкае непрыманне з боку русіфікатарскіх і паланізатарскіх колаў. І ўсё ж спыніць развіццё культуры беларускага народа было немагчыма. Яна паўставала, абапіраючыся на сталыя традыцыі суседніх развітых культур і дапамогу іх прадстаўнікоў. Ахвотна змяшчалі беларускія матэрыялы польскамоўныя («Рубон», «Атэнеўм», «Паментнік навукова-літарацкі»), рускія («Молва», «Современник», «Отечественные записки», «Маяк») і інш. перыядычныя выданні.

У той час, калі беларуская культура не мела друкаванай трыбуны, яны бралі на сябе яе функцыі, ставілі і спрабавалі вырашаць пытанні самабытнасці беларускай мовы, гісторыі, этнаграфіі, фальклярыстыкі.

**Беларусазнаўства.** Першая палова XIX ст.— час зараджэння навуковага беларусазнаўства, якое паўставала як частка славістыкі пад моцным уплывам яе пачынальнікаў П. Шафарыка, В. Бадзянскага і З. Даленгі-Хадакоўскага (А. Чарноцкага). Арганізацыю даследаванняў бралі на сябе Віленскі універсітэт, Румянцаўскі гурток і яго заснавальнік — вядомы рускі мецэнат і збіральнік старажытнасцей М. П. Румянцаў, Расійская Акадэмія навук, Маскоўскае таварыства аматараў старажытнасцей расійскіх, Рускае геаграфічнае таварыства, а таксама створаныя па ініцыятыве Я. Тышкевіча Віленскі музей старажытнасцей і Віленская археалагічная камісія.

Першымі загаварылі пра самабытнасць беларускай мовы і неабходнасць яе вывучэння польскія вучоныя — лінгвіст С. Ліндэ і гісторык Т. Чацкі. Першая спроба навуковага даследавання мовы беларусаў — праца «Пра беларускую гаворку» (1822) — належала рускаму вучонаму К. Ф. Калайдовічу.

Знаёмства рускіх вучоных з Беларуссю пачалося ў канцы XVIII ст. з экспедыцыі акадэміка І. І. Ляпёхіна (1780) і актыўна працягвалася, аб чым сведчаць матэрыялы генеральнага межавання (1783—1785), грунтоўныя падарожныя нататкі акадэміка В. М. Севяргіна (1803, 1804). Гісторыя, этнаграфія, фальклор беларусаў знайшлі адлюстраванне ў працах П. В. Кірэеўскага, В. С. Сопікава, М. М. Бантыш-Каменскага, М. І. Кастамарава, М. Р. Устралава, С. П. Шыпава, М. І. Надзеждзіна, В. В. Турчановіча, А. М. Афанасьева. Не меншую цікавасць да Беларусі праяўляла польская навука. Сведчанні таму — працы Т. Чацкага, Ю. Нямцэвіча, І. Лялевеля, Л. Галамбіёўскага, А. Глінскага.

Рускі і польскі бакі нямала зрабілі для таго, каб свет убачылі шматлікія матэрыялы і дакументы па гісторыі Беларусі. Сярод археаграфічных выданняў першай паловы XIX ст. «Беларускі архіў» (1824) І. І. Грыгаровіча, «Летапісец Літвы і руская хроніка» (1827) І. Даніловіча, «Акты Заходняй Расіі» (1846—1853), «Кнігі пасольскія Метрыкі Вялікага княства Літоўскага» (1843); «Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Менскай губерні» (1848) і інш.[57]. Выйшлі таксама «Помнікі гісторыі Літвы» (1846) Т. Нарбута, былі надрукаваны ў рускім друку тэксты Статутаў Вялікага княства Літоўскага.

Выявілася ў той час, асабліва ў галіне гістарычных даследаванняў, супярэчнасці паміж расійскім і польскім пунктамі гледжання на Беларусь. І ўсё ж усебаковае вывучэнне беларускага краю, асабліва сумленныя навуковыя працы, сведчылі аб самастойнасці і самабытнасці беларускага народа і яго праве заняць належнае месца ў чалавечым супольніцтве.

Значны ўклад у развіццё беларусазнаўства ўнеслі ўраджэнцы Беларусі: гісторыкі Іван Грыгаровіч, Ігнат Даніловіч, аўтар дзевяцітомнай «Гісторыі літоўскага народа» (1836—1841) Тэадор Нарбут, Міхаіл Без-Карніловіч, які ў 1855 г. выдаў у Пецярбургу «Гістарычныя звесткі аб знамянальных мясцінах у Беларусі», лінгвісты Іван Насовіч і Станіслаў Мікуцкі. У сярэдзіне XIX ст. актыўна прадстаўляў Беларусь на старонках рускага друку пісьменнік-этнограф Павел Шпілеўскі (1823—1861), аўтар шматлікіх навуковых і белетрыстычных твораў, у тым ліку «Падарожжа па Палессю і беларускаму краю» (1853—1855) і «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» (1854—1856), якія літаральна адкрылі Беларусь для шырокага кола расійскіх чытачоў.

Цяжка перабольшыць уклад, які ўнеслі ў станаўленне беларускай археалогіі, этнаграфіі, краязнаўства браты Яўстафій і Канстанцін Тышкевічы, вучоны, журналіст і грамадскі дзеяч Адам Кіркор, публіцыст і адзін з першых даследчыкаў беларускай літаратуры Рамуальд Падбярэзскі (Друцкі-Падбярэзскі). У працах пачынальнікаў беларусазнаўства, у шматлікіх публікацыях беларускіх фалькларыстаў, этнографаў выявілася абуджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў і супярэчлівы працэс самапазнавання нацыі.

Этнографы, краязнаўцы, фалькларысты раскрылі багацці матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Яны апісалі побыт, жыллё, прылады працы беларускага селяніна, паказалі глыбіню народнай філасофіі, звычаяў і абрадаў, зафіксавалі каляндарна-земляробчыя (калядныя, валачобныя, купальныя, зажынкі, дажынкі), сямейна-бытавыя (хрэсьбіны, вяселле, пахаванне), абрады і звычаі, багатую і старажытную народную паэзію, а таксама песні, танцы, казкі, прыказкі, прымаўкі, забабоны, паданні і легенды — скарб гістарычнай памяці народа.

У сярэдзіне XIX ст. інтарэс да вывучэння побыту і вуснай народнай творчасці народа захоплівае шырокія колы адукаванага грамадства Беларусі. Гэты працэс адлюстравалі мясцовыя «Губернские ведомости». З'явіліся прыватныя музейныя зборы старажытнасцей (калекцыя М. П. Румянцава ў Гомельскім палацы, «кабінет» М. Гаўсмана ў Менску, музей Тышкевічаў у Лагойску).

Абуджэнне цікавасці да гісторыі, этнаграфіі і фалькларыстыкі Беларусі ў асяроддзі стагоддзямі апалячваемай беларускай шляхты і разначынных слаёў было праяўленнем пільнай увагі да сваіх каранёў, усведамлення прыналежнасці да народа. Паступова мясцовы (краёвы) патрыятызм пачынаў перарастаць у патрыятызм беларускі, мацнела нацыянальная самасвядомасць. Да беларускай культуры вярталіся «блудныя сыны» Беларусі. Выхаваныя на польскай ці рускай культурах, яны неслі з сабою традыцыі апошніх. У гэты час узнікаюць такія «сумежныя» з'явы, як творчасць беларуска-

польскіх пісьменнікаў Я. Чачота, А. Рыпінскага, Я. Баршчэўскага і руска-беларускага літаратара П. Шпілеўскага. Спадчына многіх дзеячаў культуры Беларусі першай паловы XIX ст. належыць беларускай і польскай (У. Сыракомля, В. Каратынскі, Р. Падбярэзскі, С. Манюшка, А. Абрамовіч, В. Ваньковіч, Я. Дамель, Т. Нарбут), беларускай і рускай (І. Барычэўскі, І. Хруцкі, С. Заранка, Ф. Тулаў) культурам.

Першыя дзеячы нацыянальнай культуры імкнуліся пераадолець раз'яднанасць. Яны групаваліся вакол В. Дуніна-Марцінкевіча ў Менску, А. Кіркора ў Вільні. Рукапісны «Альбом» віцябчаніна, беларускага паэта А. Вярыгі-Дарэўскага, дзе пакінулі запісы многія дзеячы культуры Беларусі, стаў своеасаблівым беларускім альманахам[58]. Так званы беларускі гурток існаваў у Пецярбургу, цэнтрам якога быў альманах Я. Баршчэўскага «Незабудка» (1840—1844). У яго ўваходзіў музыкант і кампазітар Антон Абрамовіч, ураджэнец Віцебшчыны, аўтар першага нацыянальнага музычнага твора — паэмы «Беларускае вяселле», у аснову якога пакладзены народныя абрадавыя песні і танцы.

Беларускі фальклор плённа выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці польскія літаратары, чыё жыццё было звязана з гэтым краем. Як сведчыць творчая спадчына А. Міцкевіча, беларуская міфалогія і гісторыя падсілкоўвалі польскі рамантызм. Міцкевіч высока ацэньваў легенды, казкі, песні і мову беларусаў. Пад яго ўплывам у польскай літаратуры склалася так званая беларуская школа, прадстаўнікі якой — А. Грот-Спасоўскі, А. Гроза, В. Рэут, В. Чайкоўскі і многія іншыя — адлюстроўвалі ў сваёй творчасці беларускую рэчаіснасць і вусную народную творчасць беларусаў.

**Літаратура.** Першая палова XIX ст.— перыяд станаўлення новай беларускай літаратуры, якая паўставала, абапіраючыся на народную творчасць і жывую народную мову. У ёй адбілася духоўнае жыццё народа, рост нацыянальнай свядомасці. Ананімныя вершаваныя гутаркі («Гутарка Данілы са Сцяпанам», «Сход», «Вясна гола парапала»), вершы П. Багрыма, Ф. Савіча, І. Легатовіча, У. Сыракомлі, В. Каратынскага, паэма «Мачаха» Адэлі з Устроні, «Адвячорак» Г. Марцінкевіча яскрава выявілі апазіцыйныя і антыпрыгонныя настроі, любоў да радзімы і спачуванне цяжкай долі народа. Надзеі на класавы мір і салідарнасць адлюстроўвалі Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, у творчасці якіх вельмі акрэслена праявілася блізкасць новай беларускай літаратуры да фальклору і фалькларыстыкі. Да творчасці на беларускай мове гэтыя пісьменнікі ішлі ад захаплення народнымі казкамі, песнямі, паданнямі.

З філамацкага асяроддзя вынес цікавасць да беларускага фальклору і мовы народа Ян Чачот (1796—1847). У 1837—1846 гг. ён выдаў шэсць фальклорных зборнікаў «Вясковыя песні», якія сталі важкім укладам у беларусазнаўства. У іх

поруч з народнымі песнямі (у польскім перакладзе і арыгінале) Чачот змясціў і свае — на польскай і беларускай мовах. Аляксандр Рыпінскі (1811 — пасля 1896) быў аўтарам фальклярыстычнага даследавання «Беларусь» (Парыж, 1840) і беларускіх вершаў, у тым ліку балады «Нячысцік». Ян Баршчэўскі (1790—1851) пісаў беларускія вершы («Дзеванька», «Гарэліца», «Рабункі мужыкоў») і на падставе народных легенд, паданняў і казак стварыў «беларускую Адысею» — чатырохтомны польскамоўны зборнік «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844—1846), які, па словах Р. Падбярэзскага, аднаго з першых беларускіх літаратуразнаўцаў, быў пранізаны «духам і паэзіяй народа», меў выразную нацыянальную адметнасць.

Праблема нацыянальнай самабытнасці, народнасці была адной з карэнных праблем новай беларускай літаратуры. У яе вырашэнне значны ўклад унеслі паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» — выдатныя творы беларускай літаратуры першай паловы XIX ст., найбольш верагоднымі аўтарамі якіх сёння лічацца адпаведна В. Равінскі і К. Вераніцын. У іх антычныя героі і багі паводзілі сябе, апраналіся, весяліліся і бедавалі, як беларускія сяляне і збяднелыя шляхціцы. Быццам несур'ёзна прымерваючы на багоў беларускае адзенне, паэмы сур'ёзна сцвярджалі права беларускай літаратуры на існаванне[59].

У першай палове XIX ст. у беларускую літаратуру прыходзяць паэты выразнай творчай індывідуальнасці. Першы сярод іх — Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (1808—1884), самая яркая і буйная постаць у гісторыі беларускай культуры таго часу. Ураджэнец Бабруйскага павета, сын небагатага шляхціца, Дунін-Марцінкевіч у той час, калі творчасць на «мове мужычай» здавалася дзівацтвам, марнаваннем часу і таленту, упарта ішоў па абранаму шляху. Як і яго сучаснікі, ён быў цесна звязаны з польскім пісьменніцтвам, пачынаў сваю літаратурную дзейнасць у яго рэчышчы. Двухмоўнай была яго «Ідылія» (1846): у ёй, як і ў жыцці, паны гаварылі на польскай, а мужыкі — на беларускай мове. Праблему ўзаемаадносін дэнацыяналізаваных паноў і беларускіх мужыкоў пісьменнік у гэтым творы вырашаў ідылічна. Яго ідэалам было сацыяльнае адзінства вярхоў і нізоў народа, якія ўсвядомілі сваю нацыянальную і духоўную еднасць.

Галоўнай сваёй мэтай Дунін-Марцінкевіч лічыў асвету народа, і сваю творчасць адрасаваў непасрэдна мужычаму народу Беларусі. Ён быў упэўнены, што без кнігі на роднай мове немагчыма нармальнае духоўнае жыццё нацыі. У пасля́мікалаеўскую адлігу 1850-ых гадоў пісьменнік змог надрукаваць шэраг зборнікаў: «Гапон» (1855), «Вечарніцы і звар'яцелы» (1855), «Цікавішся — прачытай» (1856), «Беларускі дудар» (1857), у якіх змешчаны вершаваныя аповесці «Гапон», «Вечарніцы», «Купала», «Шчароўскія дажынкі». Гэтыя

творы, а таксама тыя, што засталіся ў рукапісах («Травіца братсястрыца», «Быліцы, расказы Навума» — 1857) і друкаваныя польскамоўныя паэмы «Славяне ў XIX стагоддзі» (1856), «Люцынка, або Шведы ў Літве» (1861) склалі своеасаблівы вершаваны эпас — «сапраўдны арыгінальны мастацкі феномен»[60]. Пісьменнік звяртаўся да беларускай гісторыі, фальклорнага багацця, засяроджваў увагу на этнаграфічнай адметнасці народа. Гістарычныя, фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы арганічна ўпляталіся ў мастацкую тканіну яго твораў, надавалі ім выразную нацыянальную афарбоўку і сцвярджалі самабытнасць беларускага народа, яго гістарычную, этнаграфічную, духоўную самастойнасць.

Дунін-Марцінкевіч апаэтызаваў беларускага селяніна, яго побыт, лад жыцця і думкі, стварыў запамінальныя вобразы людзей з народа (Гапон, Агатка, Халімон Забалотны). Яго творчая манера спалучала рысы розных мастацкіх плыняў і стыляў: класіцызму, сентыменталізму, рамантызму, рэалізму, што сведчыла аб важных працэсах, якія адбываліся ў новай беларускай літаратуры[61].

Наогул, у творчасці Дуніна-Марцінкевіча яскрава адлюстраваліся асноўныя кірункі і тэндэнцыі развіцця беларускай літаратуры першай паловы XIX ст.— рамантычна-этнаграфічнага яе перыяду, у тым ліку вылучэнне на першы план маральных і бытавых праблем, прымат нацыянальнага над сацыяльным і моцнае імкненне да дэмакратызацыі. Апошняе спрыяла пранікненню ў літаратурную творчасць водгукаў супярэчлівай рэчаіснасці («Ідылія», «Гапон», «Халімон на каранацыі»), узмацненню крытычных і рэалістычных тэндэнцый, якія выявіліся ў творчасці беларускага дудара, яго славутай «Пінскай шляхце» (1866) і «Залётах» (1870). Аб імкненні пашырыць рамкі беларускага пісьменства, узбагаціць яго палітру сведчыць звяртанне Дуніна-Марцінкевіча да перакладу паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», якую ён апрануў у «мужыцкую сярмягу».

У тыя часы ўжо само звяртанне пісьменніка да беларускай мовы было ў вачах улады сведчаннем неблаганадзейнасці. Вынікі такога меркавання Дунін-Марцінкевіч адчуваў на працягу ўсёй сваёй літаратурнай дзейнасці. Супрацьстаяць гэтаму, а таксама неразуменню і кпінам цемрашалаў яму дапамагалі талент, грамадзянская мужнасць, падтрымка аднадумцаў, прадстаўнікоў польскай і рускай крытыкі, усведамленне свайго абавязку перад беларускім народам. Дунін-Марцінкевіч стаў адным з вялікіх яго асветнікаў і першым прафесійным пісьменнікам. Яго жыццё і падзвіжніцкая дзейнасць, якая сцвярджала «ідэю існавання айчыннай літаратуры на роднай мове»[62], сталі прыкладам для будучых пакаленняў дзеячаў беларускай культуры.

Такім чынам, агульны накірунак развіцця культуры на беларускіх землях у бок нацыянальнай формы і зместу яскрава сведчыў аб пачатку працэсаў нацыянальнага адраджэння.

# РАЗДЗЕЛ VI

# СТАНАЎЛЕННЕ БУРЖУАЗНАГА ГРАМАДСТВА

## 1. Буржуазныя рэформы. Пераход да капіталістычнай гаспадаркі.

**Адмена прыгоннага права.** Пайсці на гэту рашучую меру Аляксандра II прымусіла ўсведамленне сацыяльна-эканамічнай і ваенна-тэхнічнай адсталасці краіны, а таксама небяспекі хуткага нарастання антыпрыгонніцкага сялянскага руху, які пагражаў перарасці ў сялянскую рэвалюцыю.

Падрыхтоўка сялянскай рэформы пачалася з заходніх беларуска-літоўскіх губерняў. Тут, на думку ўрада, памешчыкі былі лепш падрыхтаваны да скасавання прыгону, чым у іншых раёнах Расіі. Многія з мясцовых паноў, асабліва ў заходніх паветах Беларусі, у сярэдзіне XIX ст. былі ўжо ўцягнуты ў рыначныя, таварна-грашовыя адносіны. Яны адчулі нявыгаднасць паднявольнай, напалову рабскай працы прыгонных сялян. У верасні 1857 г. дваранскія камітэты Віленскай, Гародзенскай і Ковенскай губерняў праз генерал-губернатара В. Назімава накіравалі ў Пецярбург адрасы (хадайніцтвы), у якіх выказалі сваё жаданне вызваліць сялян ад прыгону, але без зямлі. У сувязі з гэтым 20 лістапада 1857 г. быў апублікаваны першы ўрадавы дакумент аб сялянскай рэформе — рэскрыпт цара на імя Назімава, якім у згаданых трох губернях дазвалялася стварыць спецыяльныя дваранскія камітэты дзеля распрацоўкі праектаў скасавання прыгоннага права. Пазней такія камітэты былі ўтвораны і ў іншых губернях.

19 лютага 1861 г. Аляксандр II падпісаў Маніфест і «Палажэнні» аб вызваленні памешчыцкіх сялян ад прыгоннай залежнасці. Прыгонныя сяляне атрымалі, хоць і не адразу, асабістую волю, правы чалавека, фармальную незалежнасць ад пана. Селянін мог сам звяртацца ў дзяржаўныя ўстановы, заключаць гандлёвыя і іншыя здзелкі, пераязджаць у горад, запісвацца ў саслоўі мяшчан і купцоў, паступаць на службу ці ў навучальную ўстанову. У гэтых адносінах рэформа 1861 г. карэнным чынам змяняла становішча сялян.

Памешчык у выніку траціў уладу над вёскай. «Палажэнні

19 лютага» прадугледжвалі новы парадак кіравання сялянамі, заснаваны на выбарнасці ніжэйшых службовых асоб. Жыхары сельскай грамады выбіралі на сходзе старасту. На валасных сходах сельскія старасты і ўпаўнаважаныя ад кожных 10 двароў выбіралі валаснoе праўленне, валаснога старшыню і суддзю. Функцыі органаў сялянскага самакіравання былі вельмі абмежаваныя. Фактычна яны павінны былі выконваць усё, што патрабавалі ад іх урадавыя чыноўнікі. Да ліку галоўных абавязкаў сельскіх улад адносіліся раскладка і збор падаткаў, кантроль за выкананнем сялянамі шматлікіх павіннасцей, рэгуляванне пазямельных узаемаадносін сялян, арганізацыя ў вёсцы паліцэйскай службы (соцкія, дзесяцкія). За спраўнае выкананне павіннасцей і выплату падаткаў сяляне адказвалі на аснове кругавой парукі, якая захоўвалася да пачатку XX ст. Валасны сялянскі суд дзейнічаў на аснове норм і традыцый звычаёвага права, што было перажыткам сярэднявечча.

Паводле «Палажэнняў 19 лютага», уся зямля маёнткаў абвяшчалася ўласнасцю памешчыкаў. Аднак закон абавязваў іх прадаць сваім былым прыгонным частку зямлі на пэўных умовах. Зямельныя надзелы павінны былі вызначацца на аснове «добраахвотных» пагадненняў сялян з памешчыкамі. У выпадках, калі згода не дасягалася, закон устанаўліваў пэўныя нормы сялянскіх надзелаў, зыходзячы з інтарэсаў памешчыкаў. Апошнія мелі права пакінуць у сваіх руках ад $^1/_3$ да $^1/_2$ усёй карыснай зямлі. Калі ў памешчыкаў заставалася зямлі менш гэтай нормы, то адпаведная частка адразалася на іх карысць ад ранейшых сялянскіх надзелаў.

У Віцебскай і Магілёўскай губернях, дзе, як і ў Цэнтральнай Расіі, было шырока распаўсюджана абшчыннае землекарыстанне, рэформа праводзілася на аснове «Палажэнняў для губерняў вялікарасійскіх, новарасійскіх і беларускіх». У гэтых губернях «Палажэнні» прадугледжвалі вышэйшыя і ніжэйшыя нормы надзелаў. Першыя па асобных паветах ваҕаліся ад 4 да 5,5 дзес., другія ад 1 да 2 дзес. на душу мужчынскага полу. Паводле «Палажэнняў», для цэнтральнай і Заходняй Беларусі, а таксама Літвы захоўвалася права сялян на дарэформенны надзел. Аднак і тут прадугледжваліся адрэзкі — у тых выпадках, калі ў памешчыка пасля перадзелу заставалася менш $^1/_3$ зямлі, якая належала яму да рэформы.

Пры раздзеле зямлі землеўладальнікі выбіралі сабе лепшыя ўчасткі. Гэта прывяло да незвычайнай цераспалосіцы панскіх і сялянскіх зямель. Амаль усе лясы, лепшыя сенажаці, азёры засталіся ў руках памешчыкаў. Надзелы сялянам выдзяляліся на няўдобіцах, «пясочках», далёка ад вёсак. Адным словам, большасць сялян была пастаўлена ў такія ўмовы, пры якіх яны не маглі весці самастойную гаспадарку і былі вымушаны ісці ў кабалу да сваіх ранейшых гаспадароў. Да таго ж многія ты-

сячы сялян-дваровых, якія да рэформы служылі ў панскіх маёнтках і не мелі зямельных надзелаў, засталіся беззямельнымі і пасля рэформы.

Паводле закону, селянін павінен быў заплаціць памешчыку выкуп і за зямлю, і за сваю свабоду. Выкуп асабістай свабоды быў замаскіраваны шляхам завышэння цаны за зямлю. На Беларусі, у параўнанні з сярэдняй рыначнай, яна была завышана ў 3—4 разы. Неабходных для выкупу грошай у сялян не было, а памешчыкі хацелі атрымаць іх адразу. Выйсце з такога становішча знайшоў урад: пры выкупе сяляне плацілі 20 працэнтаў адпаведнай сумы, астатнія 80 працэнтаў памешчыкам давала дзяржава. Сяляне такім чынам рабіліся яе даўжнікамі на цэлых 49 гадоў. Яны павінны былі выплачваць не толькі суму доўгу, але і вялікія працэнты за пазыку. Выкупныя плацяжы спаганяліся да першай расійскай рэвалюцыі 1905—1907 гг., калі ўрад быў вымушаны датэрмінова адмяніць іх. За гэты час сяляне выплацілі ўраду ў 3 разы больш, чым каштавала купленая імі зямля.

Каб памешчыкі не засталіся пасля рэформы без рабочых рук, «Палажэннямі 19 лютага 1861 г.» прадугледжвалася, што выкупіць свае надзелы сяляне не маглі раней чым праз 9 гадоў. Увесь гэты час яны лічыліся часоваабавязанымі і павінны былі за карыстанне надзелам, як і раней, адбываць паншчыну або плаціць памешчыку чынш. Размеркаванне зямлі паміж памешчыкамі і сялянамі, а таксама абавязкі апошніх замацоўваліся дакументамі, якія называліся Устаўнымі граматамі. Іх складалі чыноўнікі (міравыя пасрэднікі), назначаныя з ліку мясцовых дваран. Пры складанні ўстаўных грамат часта рабіліся адрэзкі ад надзелаў сялян, павялічваліся іх павіннасці на карысць памешчыкаў. Для складання ўстаўных грамат і падпісання іх сялянамі і памешчыкамі быў назначаны двухгадовы тэрмін — да 19 лютага 1863 г. Рэалізацыяй рэформы ў паветах кіравалі з'езды міравых пасрэднікаў, у губернях — губернскія па сялянскіх справах установы на чале з губернатарамі. Прадстаўнікоў сялян у гэтых установах не было.

Устаноўленыя ўрадам часовыя абавязкі, звязаныя з адбываннем паншчыны і выплатай аброку, не маглі не выклікаць масавага абурэння сялян. У 1861 г. на Беларусі зарэгістравана 379 выступленняў, што ў 9 разоў перавысіла паказчык 1860 г. Аб вастрыні і размаху барацьбы сведчыць тое, што 125 з іх былі падаўлены войскам і паліцыяй. Гэта ў 11 разоў больш, чым у 1858—1860 гг.

Сярод сялян распаўсюджваліся чуткі, што мясцовыя ўлады і памешчыкі «сказілі», або нават падмянілі царскі маніфест. Нямала выступленняў адбылося пад уплывам гэтых чутак, якія сведчылі аб наіўнай веры сялян у цара. Пратэсты былі выкліканы парушэннямі памешчыкамі і міравымі пасрэднікамі саміх «Палажэнняў 19 лютага». Сялянам выдзялялі пустэчы, заба-

лочаныя ўчасткі, пазбаўлялі іх выпасаў, сенажацяў, вадапою для жывёлы, павышалі павіннасці і г. д. Асабліва ненавісная для сялян была паншчына. У 1862 г. на Беларусі адзначаны 152 выступленні сялян, з іх 78 былі звязаны з увядзеннем устаўных грамат. На 1 студзеня 1863 г., г. зн. за паўтара месяца да канца вызначанага тэрміну, тут не было падпісана амаль 80 працэнтаў устаўных грамат.

Паўстанне 1863 г. прымусіла царскі ўрад прыняць пэўныя захады з мэтай адцягнуць ад удзелу ў ім беларускіх і літоўскіх сялян. Указам ад 1 сакавіка 1863 г. быў уведзены абавязковы выкуп сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гародзенскай, Менскай і Ковенскай губернях. З 1 мая таго ж года спыняліся часоваабавязаныя адносіны, сяляне пераводзіліся ў разрад уласнікаў зямлі. Выкупныя плацяжы зніжаліся на 20 працэнтаў. 2 лістапада 1863 г. указ быў распаўсюджаны і на ўсходнюю Беларусь — Віцебскую і Магілёўскую губерні. У кастрычніку 1863 г. генерал-губернатар М. М. Мураўёў падпісаў загад аб надзяленні сялян, абеззямеленых у 1846—1856 гг., трохдзесяцінным сямейным надзелам; гаспадарам, якіх памешчыкі пазбавілі зямлі ў пазнейшыя гады, надзелы вярталіся цалкам.

Нягледзячы на паражэнне паўстання, царскі ўрад не адважыўся адабраць у беларускіх і літоўскіх сялян тыя льготы, якія былі ім дадзены ў 1863 г. Урад заявіў і аб захаванні на няпэўны час сервітутнага права на Беларусі і ў Літве (права сялян на карыстанне пэўнымі ўгоддзямі, найчасцей пашамі, якія належалі памешчыкам). У цэлым адзначаныя меры істотна змякчалі грабежніцкія ўмовы рэформы 1861 г. у заходніх губернях у параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расіі, садзейнічалі больш хуткаму развіццю на Беларусі і ў Літве капіталістычных адносін.

У 1867 г. былі пераведзены з аброку на абавязковы выкуп і далучаны да разраду сялян-уласнікаў дзяржаўныя сяляне, якія складалі каля 20 працэнтаў сялянскага насельніцтва Беларусі (у Еўрапейскай Расіі — 48,2 працэнта)[1]. Асноўная маса дзяржаўных сялян пражывала ў Гародзенскай і Віленскай губернях. Умовы іх вызвалення ад феадальнай рэнты былі больш спрыяльныя, чым у памешчыцкай вёсцы.

Да канца 80-ых гадоў урад прыняў шэраг законаў і ўказаў, якія вызначалі ўмовы землекарыстання і пераходу на выкуп іншых, адносна нешматлікіх катэгорый сельскага насельніцтва (стараавераў, чыншавікоў, «вольных людзей», панцырных баяр, «праваслаўных арандатараў», аднадворцаў). Захоўваючы істотныя феадальныя перажыткі, гэтыя законы ўсё ж садзейнічалі развіццю капіталістычнага ладу ў беларускай вёсцы, зліццю названых разрадаў сельскага насельніцтва з асноўнай масай сялянства.

У выніку праведзеных царскім урадам аграрных рэформ на Беларусі памешчыкі-дваране захавалі ў сваёй уласнасці больш чым

палову зямлі. У 1877 г. 50,3 працэнта зямлі належала дваранам, 11,2 працэнта — казне, царкве і іншым установам. Сялянскія надзелы складалі толькі 33,4 працэнта зямельнай плошчы. Разам узятае, феадальнае па паходжанні землеўладанне дасягала 94,9 працэнта. На долю буржуазных уласнікаў прыходзілася ўсяго 5,1 працэнта зямель. Дваранскія і прыватнаўласніцкія землі займалі 55,4 працэнта ўсёй плошчы (у 49 губернях Еўрапейскай Расіі — 24 працэнты)[2]. Такім чынам, сяляне на Беларусі ў парэформенны перыяд мелі значна менш зямлі, чым у іншых рэгіёнах.

У памешчыцкім землеўладанні на Беларусі надзвычай высокую ўдзельную вагу мелі латыфундыі. У руках 2658 буйных землеўласнікаў у канцы 70-ых гадоў знаходзілася 84,3 працэнта прыватнаасабістых зямель. На адно ўладанне гэтага тыпу ў сярэднім прыходзілася 2915 дзесяцін. Князю Вітгенштэйну належала каля 1 млн. дзесяцін, князю Радзівілу — 150 тыс., графу Патоцкаму — 121,6 тыс., князю Паскевічу — 83,5 тыс. дзесяцін і г. д.

У той жа час налічвалася 295,3 тыс. (59,9 працэнта) сялянскіх гаспадарак з надзелам да 15 дзес. на двор (у сярэднім на 1 гаспадарку 11,9 дзес.). Надзел ад 15 да 20 дзес. мелі 157,9 тыс. двароў (32,1 працэнта) і больш як 20 дзес.— толькі 39,4 тыс. (8 працэнтаў) двароў[3]. Пры нізкай культуры земляробства і велізарных падатках каля 60 працэнтаў сялян не маглі весці самастойную гаспадарку і пракарміць сям'ю з-за недахопу зямлі. У цэлым прыведзеныя паказчыкі сведчаць, што сялянскае пытанне ў выніку рэформы 1861 г. і іншых аграрных законаў царызму 60—80-ых гадоў XIX ст. не было вырашана.

**Іншыя рэформы.** Пасля адмены прыгоннага права былі праведзены рэформы дзяржаўнага ладу, ваеннай справы, органаў суда і пракуратуры, сістэмы гарадскога самакіравання, народнай асветы, цэнзуры і інш. Уступкі самадзяржаўя патрабаванням буржуазнага развіцця краіны ў значнай ступені залежалі ад сілы ўздзеяння вызваленчага руху.

Адной з першых, у 1862 г., пачалася ваенная рэформа. Былі ўтвораны 15 ваенных акруг, скарочаны тэрміны службы да 7—8 гадоў, што адкрыла магчымасць амаладжэння арміі і стварэння рэзерваў для мабілізацыі з ліку звольненых у запас. Але адзін з галоўных недахопаў старой арміі — яе саслоўны характар — захоўваўся яшчэ больш за 10 гадоў. Толькі ў студзені 1874 г. была ўведзена ўсеагульная, за выключэннем карэннага насельніцтва Сярэдняй Азіі, Казахстана, Сібіры, Поўначы, воінская павіннасць для мужчын, якія дасягнулі 20-гадовага ўзросту. Тэрмін абавязковай службы ў сухапутных войсках паніжаўся да 6, а на флоце да 7 гадоў. Маладыя людзі з дыпломамі вышэйшых навучальных устаноў павінны былі служыць 6 месяцаў, з атэстатамі гімназій — 1,5 года, гарадскіх вучылішчаў — 3, пачатковых — школ — 4 гады. У выніку ваен-

най рэформы былі даволі поўна рэалізаваны буржуазныя прынцыпы фарміравання арміі.

У 1864 г. пачаліся земская, судовая і школьная рэформы. Выбарныя земскія ўстановы ствараліся ў паветах і губернях для кіраўніцтва мясцовай гаспадаркай, народнай асветай, медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва і іншымі сферамі грамадска-культурнага жыцця. Выбары ў земскія ўстановы праводзіліся на аснове маёмаснага цэнзу па трох курыях — памешчыцкай, гарадской і сялянскай. Выбарчы закон забяспечваў перавагу ў земствах прадстаўнікам памеснага дваранства. Земствы не мелі органаў выканаўчай улады і свае пастановы вымушаны былі ажыццяўляць праз урадавых чыноўнікаў. Аб'яднанне земстваў ва ўсерасійскім маштабе не дазвалялася. З'яўляючыся адзінымі ў самадзяржаўнай Расіі выбарнымі ўстановамі, земствы сталі своеасаблівымі цэнтрамі згуртавання прагрэсіўных, апазіцыйных царызму, грамадскіх сіл буржуазна-ліберальнага і ліберальна-народніцкага накірункаў. Дзейнасць земстваў мела пэўны станоўчы ўплыў на развіццё мясцовай гаспадаркі, шляхоў зносін, асветы, аховы здароўя, навуковых даследаванняў краязнаўчага характару і інш.

На Беларусі, у Літве і Правабярэжнай Украіне земская рэформа не праводзілася аж да пачатку XX ст. у сувязі з тым, што царскі ўрад пасля паўстання 1863—1864 гг. палітычна не давяраў мясцовым польскім (апалячаным) памешчыкам. Менавіта яны складалі пераважную большасць памешчыкаў у краі. Пры выбарах земскіх устаноў па закону 1864 г. яны маглі захапіць іх у свае рукі. Пайсці на гэта царызм ніяк не мог. На ўвядзенне выбарных земстваў, прычым толькі ва ўсходніх губернях Беларусі і па спецыяльным выбарчым законе, урад адважыўся ажно ў 1911 г.

Са значным спазненнем і істотнымі адступленнямі ад прынцыпаў статуту 1864 г. была праведзена на Беларусі і судовая рэформа. Новы статут прадугледжваў бессаслоўнасць, публічнасць і незалежнасць суда ад урада. Ніжэйшымі судовымі інстанцыямі з'яўляліся міравыя суды і павятовыя з'езды міравых суддзяў, затым ішлі акруговыя суды (у губернях) і судовыя палаты (для некалькіх губерняў), якія непасрэдна падпарадкоўваліся Міністэрству юстыцыі. Для разгляду крымінальных спраў ствараўся інстытут прысяжных засядацеляў, прысуд якіх быў канчатковым. У судовым працэсе прадугледжваўся ўдзел прысяжных павераных (адвакатаў). Міравыя суддзі выбіраліся земствамі і гарадскімі думамі (у гарадах). Аднак для сялян, па дробных грамадзянскіх і крымінальных справах (да 100 руб.), захоўваўся саслоўны валасны суд, уведзены, як адзначана вышэй, рэформай 1861 г. У сваёй дзейнасці ён кіраваўся не законам, а нормамі звычаёвага права, дапускаючы вельмі часта судовыя хібы. Істотнымі адступленнямі ад норм буржуазнага права з'явіліся таксама падпарадкаванне суддзяў уладзе

губернатараў (1866 г.), перадача спраў аб дзяржаўных (палітычных) злачынствах з суда прысяжных у судовыя палаты і ваенныя суды (1878 г.), ды і іншыя меры, прынятыя пад націскам рэакцыі.

На Беларусі і ў Літве, з-за палітычных прычын, судовая рэформа пачалася толькі ў 1872 г., калі былі ўведзены міравыя суды. У сувязі з адсутнасцю земстваў міравыя суддзі ў беларуска-літоўскіх губернях не выбіраліся, а назначаліся міністрам юстыцыі з ліку памешчыкаў, якія заслугоўвалі поўны давер. Акруговыя суды і адпаведная пракуратура з інстытутамі прысяжных засядацеляў і прысяжных паверaных былі ўтвораны ў заходніх губернях у 1882 г. Пры гэтым улады захавалі за сабою права зацвярджаць, а па сутнасці фарміраваць спіс прысяжных засядацеляў[4]. Акруговыя суды Менскай, Гарадзенскай і Віленскай губерняў падпарадкоўваліся Віленскай судовай палаце. Магілёўская губерня была аднесена ў сферу дзейнасці Кіеўскай, а Віцебская губерня — Пецярбургскай судовай палаты.

З-за масавай незадаволенасці памешчыкаў дзейнасцю міравых судоў Аляксандр III у 1889 г. увёў у Расіі інстытут земскіх начальнікаў, якія атрымалі права ўмешвацца ва ўсе рашэнні органаў сялянскага самакіравання і без усякіх судовых фармальнасцей накладаць на сялян пэўныя пакаранні і спагнанні. На Беларусі, прычым толькі ў Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губернях, закон аб земскіх начальніках быў уведзены ў чэрвені 1900 г.: царскі ўрад параненейшаму не давяраў у палітычных адносінах мясцовым польскім, а часткова і рускім памешчыкам і баяўся ўручыць ім «моцную адміністрацыйную ўладу ў сельскіх мясцовасцях»[5].

Школьная рэформа праводзілася подле «Палажэння аб пачатковых народных вучылішчах» і Статута гімназій і прагімназій 1864 г., якія зыходзілі з прынцыпу ўсесаслоўнасці адукацыі. Саслоўныя абмежаванні адмяняліся і пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Кантынгент навучэнцаў у сярэдняй і вышэйшай школе рэгуляваўся высокай платай за навучанне. Пашыралася сетка пачатковых школ. Сярэднюю адукацыю давалі класічныя і рэальныя гімназіі (апошнія пазней былі пераўтвораны ў рэальныя вучылішчы). У класічных гімназіях вялікая ўвага ўдзялялася вывучэнню замежных моў (у тым ліку старажытных), а таксама дысцыплін гуманітарнага профілю. Накірунак рэальных гімназій вызначалі прадметы прыродазнаўчага цыкла. Выпускнікам класічных гімназій давалася права паступлення без уступных экзаменаў ва універсітэты, а рэальных гімназій — у тэхнічныя інстытуты. У пачатку 70-ых гадоў былі прыняты меры з мэтай абмежаваць доступ да сярэдняй і асабліва вышэйшай адукацыі асобам недваранскага паходжання, узмоцнены адміністрацыйны нагляд над школай. Аднак у цэлым, пры ўсіх абмежаваннях, школьная рэформа садзейнічала развіццю народнай адукацыі і культуры.

У выніку цэнзурнай рэформы 1865 г. некалькі пашырыліся магчымасці друку. Была адменена папярэдняя цэнзура для арыгінальных твораў памерам не менш як 10 друкаваных аркушаў, а для перакладаў — 20 друкаваных аркушаў. Выданні меншых памераў, як больш даступныя для шырокай грамадскасці, павінны былі праходзіць праз папярэднюю цэнзуру. Не пазбаўляліся ад апошняй і органы перыядычнага друку ў правінцыі, у тым ліку на Беларусі. Сталічныя газеты і часопісы пры ўнясенні вялікіх грашовых закладаў маглі дамагчыся вызвалення ад папярэдняй цэнзуры. У такім выпадку іх рэдактары і выдаўцы за парушэнні закона аб друку прыцягваліся да судовай адказнасці. Аднак пры гэтым царская адміністрацыя пакінула за сабою права накладаць на газеты і часопісы розныя спагнанні, прыпыняць на пэўны час, а таксама забараняць выданне назаўсёды, калі яго накірунак істотна разыходзіўся з курсам афіцыйнай палітыкі. Цалкам ад «усмотрения» бюракратыі залежала выдача дазволу на права выдання новага перыядычнага органа друку. У масе выпадкаў адпаведныя хадайніцтвы з боку грамадскасці адвяргаліся без усякай матывацыі. Менавіта па гэтай прычыне на сучаснай тэрыторыі Беларусі да сярэдзіны 80-ых гадоў XIX ст. не было ніводнага перыядычнага выдання, незалежнага ад урадавых устаноў і праваслаўнай царквы.

Рэформа гарадскога самакіравання, паводле палажэння 1870 г., праводзілася на Беларусі ў 1875 г. Яна засноўвалася на буржуазным прынцыпе ўсесаслоўных выбараў органаў кіравання пры адпаведным маёмасным цэнзе. Выбарчым правам карысталіся ўсе плацельшчыкі гарадскіх падаткаў. Яны выбіралі на пэўны тэрмін членаў гарадской думы (гласных), апошняя фарміравала свой выканаўчы орган — гарадскую ўправу на чале з гарадскім галавою. Дзейнасць гэтых органаў рэгулявалася губернскімі па гарадскіх справах установамі, падначаленымі губернатарам. Органы гарадскога самакіравання займаліся арганізацыяй гарадской (камунальнай) гаспадаркі і транспарту, пытаннямі народнай адукацыі, аховы здароўя, добраўпарадкавання тэрыторыі, зборам падаткаў і г. д. У перыяд рэакцыі і контррэформ Аляксандра III было зацверджана новае палажэнне (1892 г.), якое прадугледжвала ўзмацненне ў гарадскім кіраўніцтве кантролю з боку царскай адміністрацыі і рэзкае скарачэнне колькасці выбаршчыкаў шляхам павышэння маёмаснага цэнзу, а на Беларусі — і фактычнага адхілення ад удзелу ў выбарах яўрэйскага насельніцтва. У Мінску па гэтых прычынах колькасць гарадскіх выбаршчыкаў у 1893 г. скарацілася ў 14 разоў (з 3545 да 248) і склала менш 1 працэнта гараджан[6]. Такая ж з'ява назіралася і ў іншых гарадах.

Буржуазны накірунак рэформаў 60—70-ых гадоў на Беларусі быў больш абмежаваны, чым у Цэнтральнай Расіі, бо сутнасць палітыкі царызму ў заходніх губернях вызначалі вялі-

кадзяржаўныя, каланізатарскія задачы. З мэтай русіфікацыі краю тут быў фактычна ўстаноўлены рэжым выключных законаў (гл.: Фарміраванне беларускай нацыі).

**Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі.** Пасля адмены прыгоннага права памешчыкі не маглі адразу перабудаваць сваю гаспадарку на новы, капіталістычны лад. Пераважная большасць з іх не мела неабходнага інвентару, рабочай жывёлы, угнаенняў. Не хапала таксама навыкаў і вопыту гаспадарання ў рыначных умовах. Не было яшчэ і класа наёмных рабочых, які толькі пачынаў складвацца з розных катэгорый абяздоленых людзей, перш за ўсё з ліку беззямельных сялян, бабылёў, агароднікаў г. д. Не выпадкова ўмовамі рэформы прадугледжвалася дзевяцігадовае часоваабавязанае становішча сялян з захаваннем усіх ранейшых абавязкаў.

Аснова вытворчых адносін у парэформеннай вёсцы вызначалася сялянскім малазямеллем, грабежніцкімі выкупнымі плацяжамі, шматлікімі дзяржаўнымі, земскімі і мірскімі падаткамі і павіннасцямі, якія вымушалі сялян на кабальных умовах арандаваць памешчыцкія палі, пашы і сенажаці, браць у паноў натуральныя (прадуктовыя) і грашовыя пазыкі. За ўсё гэта сяляне разлічваліся адпрацоўкамі ў панскіх гаспадарках. Сяляне-гаспадары выкарыстоўвалі на адпрацоўках уласны інвентар і рабочую жывёлу; сяляне-пралетарыі, якія не мелі ні каня, ні сахі, працавалі на сенажацях, жніве, малацьбе і г. д. Адпрацоўкі першага віду з'яўляліся прамым перажыткам паншчыны і былі найбольш характэрнымі для сялян-серадня коў. Другі від адпрацовак быў пераходным да капіталістычнага найму[7].

Вядзенне памешчыцкай гаспадаркі на аснове кабальных сялянскіх адпрацовак з ужываннем прымітыўнага інвентару, слабасільнай рабочай жывёлы і старадзедаўскіх метадаў земляробства, а таксама адсутнасць зацікаўленасці ў дабраякаснай працы мелі вынікам выключна нізкую ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур. Усё гэта вяло да адсталасці і няздольнасці канкурыраваць на рынку. Такія маёнткі з цягам часу абцяжарваліся даўгамі, закладваліся ў банках і рана ці позна прадаваліся цалкам або часткамі. У канцы 80-ых гадоў у пяці заходніх губернях было закладзена ў банках 3073 тыс. дзесяцін памешчыцкай зямлі. Крызісны стан памешчыцкай гаспадаркі пашыраўся вельмі хутка. У Менскай губерні ў 1890 г. было закладзена ў банках 763, у 1895 г.— 1656, а ў 1900 г.— 2907 маёнткаў[8].

Сотні памешчыцкіх маёнткаў, якія не здолелі перабудавацца на капіталістычны лад, паступалі ў продаж. У пачатку 90-ых гадоў вялася распрадажа буйнейшай на Беларусі латыфундыі магната Вітгенштэйна. Да мая 1891 г. было прададзена 190 тысяч дзесяцін, з іх каля 10 працэнтаў купілі сяляне. Паведамляючы пра гэта, газета «Минский листок» адзначала, што распрадажа маёнткаў Віт-

*Палац графа Тышкевіча ў Валожыне.*

генштэйна прынясе сялянам мала карысці, паколькі мінімальны памер участкаў, якія прадаваліся, складаў 200—300 дзес., а найчасцей — 1000—2000 дзес.[9].

Вынікам гэтага працэсу з'явілася скарачэнне саслоўнага, перш за ўсё дваранскага, землеўладання і рост бессаслоўнай прыватнай зямельнай уласнасці. З 1877 па 1905 г. апошняя павялічылася ў 2,3 раза, у тым ліку сялянская — у 3,3 раза. Дваране ў Беларусі за гэты перыяд страцілі 10,8 працэнта зямлі, а ў Еўрапейскай Расіі — 27,2 працэнта[10].

Прыведзеныя паказчыкі сведчаць, што працэс распаду дваранскай зямельнай уласнасці на Беларусі ва ўмовах развіцця капіталізму праходзіў значна марудней, чым у Цэнтральнай Расіі. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, адносна большай эканамічнай устойлівасцю многіх памешчыцкіх гаспадарак Беларусі, іх лепшай прыстасаванасцю да рыначных умоў, а з другога — урадавай палітыкай штучнага насаджэння тут буйнога рускага памешчыцкага землеўладання. Фарміраванне буржуазнай зямельнай уласнасці ў заходніх губернях стрымлівалася таксама выключэннем з гэтага працэсу яўрэйскай буржуазіі. Былі абмежаванні і ў адносінах да сялян-католікаў. У выніку бессаслоўнае прыватнае землеўладанне на Беларусі нават у пачатку XX ст. складала толькі 16,5 працэнта (у 1877 г.— 5,1 працэнта) агульнай зямельнай плошчы.

У цэлым для парэформеннай Беларусі, як і для ўсёй Расіі, была характэрна разнастайнасць форм гаспадаркі, у асноўным пераходных ад феадалізму да капіталізму. Формы гэтыя зводзіліся «да дзвюх асноўных сістэм у самых розных спалу-

чэннях, іменна да сістэмы адпрацовачнай і капіталістычнай»[11]. Па вызначэнні Леніна, у Віленскай, Гародзенскай і Менскай губернях у канцы 80-ых гадоў пераважала капіталістычная сістэма, а ў Віцебскай і Магілёўскай — змешаная, з прыблізнай раўнавагай абедзвюх сістэм (у краіне былі ў той час і губерні, дзе пераважалі адпрацоўкі).

Капіталістычная сістэма заключалася ў найме рабочых (гадавых, тэрміновых, падзённых і інш.), якія апрацоўвалі зямлю інвентаром уладальніка. Такія гаспадаркі паступова набывалі гандлёвы, прадпрымальніцкі характар. Яны ўводзілі шматпольныя севазвароты, пародзістую жывёлу, палепшаныя прылады працы (жалезныя плугі, бароны і інш.), пазней — розныя сельскагаспадарчыя машыны. Аднак пры найме рабочых — і пастаянных і часовых — нават у перадавых маёнтках шырока выкарыстоўваліся кабальна-ліхвярскія метады, да ліку якіх можна аднесці выдачу задаткаў загадзя — зімою або нават восенню; прымацаванне батрака да панскага двара шляхам выдзялення яму хаты-халупы, агарода і так званай ардынарыі — платы прадуктамі. За гэта на пана павінна была працаваць — па сутнасці бясплатна — уся сям'я батрака. Папярэднія задаткі часта выдаваліся і пры найме тэрміновых (сезонных) і падзённых работнікаў. Памешчык у такім выпадку мог значна панізіць іх заработную плату.

У 60—70-ыя гады XIX ст. важнейшай таварнай галіной і ў памешчыцкай і ў сялянскай гаспадарцы Беларусі заставалася вытворчасць зерня. Аднак з'яўленне на рынках Заходняй Еўропы таннага і высакаякаснага хлеба з Паўночнай Амерыкі, Аргенціны, Аўстраліі прывяло да падзення цэн на зерне. Сельскую гаспадарку Беларусі, як і ўсёй Расіі, ахапіў глыбокі крызіс. Цэны на жыта ў 5 заходніх губернях у 80-ыя гады панізіліся ў 2—2,3 раза. У дадатак на чыгунках Расіі быў уведзены тарыф, які стымуляваў вываз хлеба з чарназёмных губерняў краіны ў Заходнюю Еўропу і канчаткова зрабіў нявыгаднай на Беларусі вытворчасць зерня як рыначнай культуры.

Усё гэта, разам узятае, прымусіла сельскую гаспадарку Беларусі пераарыентавацца на жывёлагадоўлю, у першую чаргу малочную. Колькасць буйной рагатай жывёлы ў памешчыцкіх гаспадарках у 1883—1900 гг. вырасла амаль удвая, а ў Менскай і Віленскай губернях — у 2—2,3 раза[12]. На Беларусі з'явіліся высокапрадуктыўныя пароды кароў (галандская, сіментальская і інш.) і спецыяльныя фермы («заводы») для іх гадоўлі. У перадавых гаспадарках адкрываліся сыраварні і масларобчыя заводы, прадукцыя якіх ішла як на ўнутраны рынак, так і на экспарт. К канцу XIX ст. на Беларусі налічвалася не менш 200 такіх прадпрыемстваў, а іх таварная прадукцыя вагалася ад 500 да 650 тыс. пудоў масла і сыру штогод[13]. Шырока распаўсюдзілася такая з'ява, як «пахт» — здача памешчыцкага,

а таксама сялянскага малочнага статка ў арэнду прадпрымальнікам на перыяд лактацыі[14].

Другі важны накірунак спецыялізацыі памешчыцкай гаспадаркі на Беларусі — вінакурства. У 1893—1894 гг. у 5 заходніх губернях дзейнічалі 404 вінакурныя заводы. У 1905 г. іх колькасць вырасла да 536. Пераважалі невялікія заводы з колькасцю рабочых да 10[15]. Асноўнай сыравінай для вырабу спірту з'яўлялася бульба. Адходы вінакурэння выкарыстоўваліся і ў жывёлагадоўлі.

Спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі на малочнай жывёлагадоўлі і вінакурстве істотным чынам адбілася на структуры пасяўных плошчаў. Найбольш высокімі тэмпамі развівалася травасеянне. Плошча пад кармавымі культурамі (канюшына, віка, сырадэля, цімафееўка і інш.) у 80—90-ыя гады павялічылася на Беларусі больш чым у 7 разоў. У 3,3 раза выраслі пасевы бульбы. Плошчы пад збожжавымі таксама пашырыліся (на 41,8 працэнта), але іх удзельная вага знізілася на 7,5 працэнта[16]. З пачаткам аграрнага крызісу памешчыцкае зерне на Беларусі ішло пераважна на корм жывёле і на вінакурэнне. У буйных маёнтках усё часцей уводзіліся шматпольныя севазвароты, выкарыстоўваліся штучныя ўгнаенні, торф. Аграрны крызіс стымуляваў рост попыту ў памешчыкаў і заможных сялян на палепшаныя прылады працы і розную сельскагаспадарчую тэхніку (жалезныя плугі і бароны, сеялкі, жняяркі, малатарні, веялкі і г. д.). У выніку назіраўся прыкметны рост ураджайнасці не толькі на памешчыцкіх, але і на сялянскіх землях[17], паскараўся працэс збору і апрацоўкі ўраджаю. За 30 парэформенных гадоў сярэднегадавы чысты збор зерня ў 5 заходніх губернях вырас у 2,1, а бульбы — у 4,8 раза[18].

Важным накірункам спецыялізацыі сельскай гаспадаркі ў Віцебскай і ў некаторых паветах Віленскай губ. з'яўлялася льнаводства. У Гародзенскай і Менскай губернях у 60—70-ыя гады XIX ст. значныя маштабы набыла танкарунная авечкагадоўля. Воўна з гэтых губерняў паступала на мясцовыя суконныя фабрыкі, у Польшчу, Германію. Пазней, аднак, канкурэнцыя больш таннай воўны з поўдня Расіі і з Аўстраліі прывяла мясцовую авечкагадоўлю да заняпаду. Як рыначная галіна паўсюдна на Беларусі развівалася свінагадоўля, асабліва ў памешчыцкіх гаспадарках[19].

У цэлым жа, нягледзячы на значныя поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі ў парэформенныя дзесяцігоддзі, перабудова яе на капіталістычны лад да пачатку XX ст. далёка не завяршылася. Характар вытворчых адносін у беларускай вёсцы ў многім вызначаўся кабальнай адпрацовачнай сістэмай, якая не была зжыта нават у перадавых гаспадарках.

**Транспарт. Гандаль і крэдыт.** Развіццё капіталістычнага рынку непасрэдна залежала ад стану шляхоў зносін і сродкаў сувязі. У пачатку XX ст. у разліку на 100 кв. вёрст Беларусь мела шашэйных дарог у 2 разы, а рач-

ных — у 3 разы больш, чым Еўрапейская Расія. У рачным суднаходстве ў парэформенныя дзесяцігоддзі прыкметна ўзрасла роля параходаў. У 1900 г. на рэках Беларусі налічвалася 194 паравых і 590 непаравых суднаў. У 70—90-ыя гады рачным транспартам перавозіліся сотні тысяч пудоў грузаў, галоўным чынам лесаматэрыялы, дровы, хлеб. Узрасталі і пасажырскія перавозкі[20]. Аднак ні рачныя шляхі з іх сезоннасцю, ні гужавы транспарт не задавальнялі патрэбы капіталістычнага рынку. У найбольшай ступені адпавядаў яму ў той час чыгуначны транспарт.

Першай па тэрыторыі Беларусі (праз Гародню) у 1862 г. прайшла Пецярбургска-Варшаўская магістраль (беларускі адрэзак — 50 вёрст). У 1866 г. дабавіліся 245 вёрст Рыга-Арлоўскай чыгункі (участак Дзвінск — Полацк — Віцебск). У 70-ыя гады былі пабудаваны дзве важнейшыя для Беларусі лініі: Маскоўска-Брэсцкая і Лібава-Роменская, якія перасеклі яе тэрыторыю, адпаведна, з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад і з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. У 80-ыя гады пачалі дзейнічаць Палескія чыгункі (Вільня — Баранавічы — Лунінец,· Гомель — Лунінец — Пінск — Жабінка, Баранавічы — Слонім — Ваўкавыск — Беласток), а з 1902 г.— Пецярбургска-Адэская магістраль, якая прайшла праз Віцебск, Оршу, Магілёў, Жлобін. Названыя дарогі ў пачатку XX ст. былі злучаны між сабою і склалі аснову чыгуначнай сеткі Беларусі. Агульная яе даўжыня ў 1904 г. склала 2837 вёрст і ў параўнанні з 1867 г. вырасла ў 12 разоў[21].

У выніку Беларусь атрымала чыгуначную сувязь з важнейшымі індустрыяльнымі раёнамі краіны: Цэнтральна-прамысловым (Масква), Паўночна-заходнім (Пецярбург, Рыга), Паўднёва-Украінскім (Крывы Рог, Данбас), Польскім (Варшава — Лодзь). На развіццё сельскай гаспадаркі Беларусі, як адзначалася, велізарны ўплыў у 80—90-ыя гады аказвалі хлебныя грузы, якія па чыгунках накіроўваліся ў прыбалтыйскія порты з Цэнтральначарназёмнага раёна і часткова з Украіны. З 1890 па 1900 г. аб'ём перавозак па чыгунках Беларусі павялічыўся амаль у 2 разы, у тым ліку хлебных грузаў — у 2,7 раза, а лясных матэрыялаў — у 12 разоў[22].

З сярэдзіны 40-ых гадоў XIX ст. на Беларусі з'яўляецца паштова-тэлеграфная сувязь. У пачатку 80-ых гадоў у Магілёўскай губ. дзейнічалі 9 тэлеграфных ліній даўжынёю 1258 вёрст. У Менскай губ. у 1900 г. даўжыня тэлеграфных ліній была 2412 вёрст. Амаль палова паштоватэлеграфных установ знаходзілася ў сельскай мясцовасці — мястэчках і памешчыцкіх маёнтках[23]. Новыя сродкі сувязі, безумоўна, садзейнічалі развіццю гандлю.

З чыгуначным будаўніцтвам пачалі страчваць сваю ролю кірмашы, затое актывізавалі дзейнасць магазіны і гандлёвыя лаўкі. У канцы XIX ст. на магазінна-лавачны гандаль прыходзілася 95 працэнтаў усяго ўнутра-

нага абароту гарадоў. Праўда, абсалютная большасць купцоў на Беларусі (у 1861 г.— 94 працэнты) мелі нязначныя капіталы і адносіліся да 3-яй (ніжэйшай) гільдыі[24].

У развіцці сельскай гаспадаркі, гандлю, прамысловасці ўсё больш значную ролю набывалі банкі. У 80-ыя гады на Беларусі пачалі дзейнічаць аддзяленні Дзяржаўнага, Сялянскага і Дваранскага банкаў. Пры дапамозе крэдытаў Сялянскага банка сяляне пяці заходніх губерняў да 1900 г. купілі 984,3 тыс. дзесяцін зямлі[25]. Дваранскі банк усяляк падтрымліваў урадавую палітыку насаджэння на Беларусі рускага памешчыцкага землеўладання. З гэтай мэтай выдаваў крэдыты на незвычайна льготных умовах. Памешчыкі «польскага паходжання» не атрымалі права на пазыкі дзяржаўнага Дваранскага банка. Яны карысталіся паслугамі прыватных камерцыйных і пазямельных банкаў — Віленскага, Менскага і іншых. У некаторых гарадах дзейнічалі таварыствы ўзаемнага крэдыту, у тым ліку пазямельнага. Мясцовыя аддзяленні Дзяржаўнага банка ўдзельнічалі ў развіцці эканомікі краю даволі пасіўна. Збіраючы на Беларусі велізарныя грашовыя сумы ў выглядзе ўкладаў насельніцтва, бягучых рахункаў і г. д., яны, як правіла, перадавалі іх у цэнтр, у Пецярбург. Так, запазычанасць Пецярбурга аднаму толькі Віленскаму аддзяленню ў 1891 г. дасягала 3668 тыс. руб. На патрэбы гандлю і прамысловасці Віленскай губ. аддзяленне на 1 студзеня 1892 г. выдала ўсяго толькі 300 тыс. руб. Магілёўскае аддзяленне Дзяржаўнага банка ў 80-ыя гады ў мясцовую гаспадарку ўкладвала не больш $^1/_3$ сабраных у губерні грошай, а астатнія перадаваліся ў Пецярбург або без карысці ляжалі ў касе[27].

**Развіццё прамысловасці і рост гарадоў.** Пад уздзеяннем усерасійскага рынку, якое па меры будаўніцтва чыгунак няўхільна нарастала, у 60—80-ыя гады XIX ст. канчаткова вызначылася спецыялізацыя беларускай прамысловасці. Не толькі асобныя *прамысловыя прадпрыемствы*, але і цэлыя галіны, даволі значныя ў 50—60-ыя гады (металургія на аснове балотнай руды, цукраварная), не змаглі вытрымаць канкурэнцыі прывазной прадукцыі, паступова занепадалі і знікалі. Скарачалася вытворчасць суконных і шарсцяных вырабаў з імпартнай сыравіны, у выніку гэтага падала ўдзельная вага тэкстыльнай прамысловасці. Адсутнасць разведаных запасаў выкапнёвых багаццяў (жалезнай руды, каменнага вугалю, нафты), з аднаго боку, і ўздзеянне ўсерасійскага рынку — з другога, прадвызначылі спецыялізацыю прамысловасці Беларусі на апрацоўцы прадукцыі мясцовай сельскай гаспадаркі, лясной і мінеральнай сыравіны.

У 60—90-ыя гады высокай удзельнай вагою ў суме вытворчасці (больш за 50 працэнтаў) выдзяляліся харчасмакавыя прадпрыемствы — вінакурныя, піваварныя, мукамольныя, крупяныя, тытунёвыя,

крухмала-патачныя і інш. Праўда, за адзначаныя 40 гадоў яна панізілася з 57,3 да 51,5 працэнта. Найбольш хутка ў гэты перыяд развівалася дрэваапрацоўчая прамысловасць (лесапільна-фанерная, запалкавая, папярова-кардонная), доля якой у валавой прадукцыі ўзрасла больш чым у 2,3 раза і ў 1900 г. дасягнула 19,5 працэнта. Адпаведны паказчык тэкстыльнай прамысловасці паменшыўся амаль удвая (з 18 да 9,7 працэнта). Яна ў асноўным перапрафіліравалася на апрацоўку мясцовага льну (фабрыка «Дзвіна» ў Віцебску і інш.). Па 5—6 працэнтаў у суме вытворчасці прыходзілася на металаапрацоўчую, гарбарную і сілікатна-будаўнічую галіны[28].

Адзначаная спецыялізацыя прамысловасці Беларусі прадвызначыла іншыя яе асаблівасці. Да ліку галоўных з іх адносіліся незвычайна шырокае распаўсюджанне дробных прадпрыемстваў, слабая энергаўзброенасць і нізкая ўдзельная вага фабрычнай вытворчасці, нягледзячы на яе адносна хуткі рост у паслярэформенныя дзесяцігоддзі. Дробныя прадпрыемствы (з колькасцю рабочых да 15, без паравых рухавікоў) у 1860 г. давалі амаль 84 працэнты ўсёй прамысловай прадукцыі, мануфактуры (прадпрыемствы з 16 і больш рабочымі, з ручной працай) — 7,4 працэнта; фабрычныя (машынізаваныя) — да 9 працэнтаў. Праз 40 гадоў удзельная вага фабрычнай прадукцыі вырасла да 46,8, а мануфактур — да 15 працэнтаў. Адпаведны паказчык дробнай прамысловасці панізіўся да 37,8 працэнта[29].

Пераход ад ручной да машыннай вытворчасці з'явіўся сапраўднай рэвалюцыяй у прамысловасці. На Беларусі ён пачаўся ў 1825 г., але праходзіў замаруджана. У 1860 г. тут налічвалася 76 прамысловых прадпрыемстваў фабрычнага тыпу, якія мелі паравыя рухавікі магутнасцю 1117 к. с. У 1900 г. колькасць фабрык і заводаў вырасла да 1137, а магутнасць іх машын да 25,8 тыс. к. с. Асаблівасцю прамысловай рэвалюцыі на Беларусі было тое, што яна, у адрозненне ад Расіі, разгортвалася не ў тэкстыльнай, а ў харчасмакавай і металаапрацоўчай галінах.

Развіццё прамысловасці і чыгуначнай сеткі садзейнічала росту гарадоў. У многіх з іх у апошняй трэці XIX — пачатку XX ст. найбуйнейшымі прамысловымі прадпрыемствамі сталі чыгуначныя майстэрні і дэпо. У 1905 г. у Галоўных майстэрнях Палескіх чыгунак у Пінску працавалі 1320 чалавек, у Галоўных майстэрнях Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі — 1290, у майстэрнях і дэпо Маскоўска-Брэсцкай чыгункі ў Менску — 750 чалавек і г. д. Самым буйным прамысловым прадпрыемствам у Віцебску (900 рабочых) з'яўлялася льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна», пабудаваная ў 1900 г. На пачатку XX ст. Віцебск стаў адным з цэнтраў па выпуску плугоў на Беларусі. Найбуйнейшым прадпрыемствам у Гародні, ды і ва ўсёй Беларусі з'яўлялася тытунёвая фабрыка Шарашэўскага

(у 1900 г.— 1445 рабочых). На Гародзенскай прыстані ў канцы 90-ых гадоў працавалі да 4 тыс. суднарабочых. Пінск, Мазыр, Бабруйск, Барысаў, Слонім фарміраваліся як цэнтры дрэваапрацоўчай, у тым ліку запалкавай, прамысловасці. У Берасце ў сярэдзіне 90-ых гадоў найбольшая колькасць рабочых (каля 850) была занята на гільзавых прадпрыемствах* і тытунёвай фабрыцы (110). У Магілёве ў 1900 г. дзейнічала больш за 70 гарбарных «заводаў» (224 рабочыя), 3 тытунёвыя «фабрыкі» (71 рабочы), якія фактычна з'яўляліся мануфактурамі, 3 друкарні і іншыя прадпрыемствы[30].

Пасля рэформы 1861 г., асабліва ў 80—90-ыя гады, даволі шпарка развівалася прамысловасць і ў многіх беларускіх мястэчках. У Дуброўне Горацкага пав. у 1902 г. налічвалася да 4 тыс. ткачоў, якія займаліся вытворчасцю шарсцяных тканін. У Ружанах Слонімскага пав. дзейнічалі 4 суконныя фабрыкі (250 рабочых). Смаргонь Ашмянскага пав. стала буйным цэнтрам гарбарнай прамысловасці. У пачатку XX ст. тут налічвалася 40 прадпрыемстваў мануфактурнага тыпу з агульнай колькасцю рабочых каля 1,5 тыс., якія выпрацоўвалі тавараў на 2 млн. руб. у год. У Копысі Горацкага пав. было больш за 20 кафельных мануфактур, на якіх працавалі каля 800 рабочых. Ганчарная вытворчасць развівалася ў Івянцы Менскага пав., вытворчасць плугоў — у Жлобіне Рагачоўскага пав. і г. д. У мяст. Ракаў Менскага пав. дзейнічалі 10 майстэрань-мануфактур, у якіх выраблялiся веялкі, малатарні, саламарэзкі і іншыя сельскагаспадарчыя прылады і машыны. У пачатку XX ст. гэтыя прадпрыемствы знаходзіліся ў залежнасці ад менскіх машынабудаўнічых заводаў[31].

У сувязі з развіццём прамысловасці і чыгуначнага транспарту паскорыўся рост гарадскога насельніцтва, якое з 1863 г. па 1897 г. павялічылася на Беларусі з 330 тыс. да 648 тыс.[32] Па колькасці жыхароў найбуйнейшымі гарадамі Беларусі ў канцы XIX ст. з'яўляліся Менск (90,9 тыс.), Віцебск (65,9 тыс.), Гародня (46,9 тыс.), Берасце (46,6 тыс.), Магілёў (43,1 тыс.), Гомель (36,8 тыс.), Бабруйск (34,3 тыс.), Пінск (28,4 тыс.). Перш за ўсё раслі гарады, якія сталі чыгуначнымі вузламі або станцыямі. Сфера гандлёва-эканамічнага ўздзеяння гарадоў прыкметна пашырылася. Менск па сваёй эканамічнай ролі паступова набываў значэнне галоўнага горада Беларусі.

Узрастала і насельніцтва мястэчак, хоць і не так хутка, як гарадское. За 40 паслярэформенных гадоў яно вырасла з 500 тыс. да 679 тыс[33]. Некаторыя мястэчкі ператварыліся ў прыкметныя прамысловыя цэнтры рэгіянальнага значэння (Смаргонь, Дуброўна і інш.) і пераўзышлі ў гэтых адносінах асобныя павятовыя гарады. У канцы 90-ых гадоў каля 60 працэнтаў местачковага насельніцтва Беларусі складалі яўрэі. Пазбаўленыя

* Выраблялі гільзы для папяросаў.

права купляць зямлю і займацца сельскай гаспадаркай, яны засяроджваліся на прамысловых і гандлёвых занятках, у сферы бытавога абслугоўвання, возніцтва і г. д. Жыхары мястэчак з ліку беларусаў у пераважнай большасці займаліся земляробствам, толькі частка іх мела дачыненне да прамысловай і гандлёвай дзейнасці. Афіцыйнай статыстыкай таго часу ўсё мястэчковае насельніцтва адносілася да сельскага.

Прыведзеныя звесткі сведчаць, што ў паслярэформеннае 40-годдзе буйных прамысловых цэнтраў на Беларусі не ўзнікла. Галоўнай прычынай таму была спецыялізацыя беларускай прамысловасці на апрацоўцы мясцовай сельскагаспадарчай, лясной і мінеральнай сыравіны, якая прывязвала яе да сельскай мясцовасці. У 1900 г. ²/₃ фабрык і заводаў і 45,4 працэнта рабочых знаходзіліся ў мястэчках і маёнтках[34]. Памешчыцкая прамысловасць або непасрэдна працягвала сельскагаспадарчую вытворчасць (вінакурныя, масларобчыя, сыраварныя, алейныя, крухмала-патачныя заводы, млыны і г. д.), або распрацоўвала прыродныя багацці маёнткаў (лесапільні, смалакурні, дзегцярні, цагельні, гуты і да т. п.). Капіталістаў, якія не мелі зямельнай уласнасці, у сельскую мясцовасць прыцягвала не толькі меншая арэндная плата за зямельныя ўчасткі, але і больш танная, а разам з тым і менш патрабавальная рабочая сіла. Размяшчэнню прамысловасці ў мястэчках і вёсках садзейнічала таксама наяўнасць на Беларусі адносна густой чыгуначнай і рачной сеткі.

## 2. Паўстанне 1863 г. на Беларусі.

**Рэвалюцыйныя дэмакраты і шляхецкія рэвалюцыянеры. К. Каліноўскі.** У канцы 50-ых гадоў XIX ст. у Расіі пачаўся новы этап вызваленчага руху — рэвалюцыйна-дэмакратычны. На змену дваранскім (шляхецкім) рэвалюцыянерам прыйшло новае пакаленне барацьбітоў з ліку так званых разначынцаў — выхадцаў з розных дэмакратычных пластоў насельніцтва, выразнікаў інтарэсаў сялянства. Ідэолагамі руху сталі выдатныя мысліцелі і публіцысты А. Герцэн, М. Чарнышэўскі, М. Бакунін, М. Агароў, М. Дабралюбаў. Іх праграму вызначалі мэты звяржэння царскага самадзяржаўя, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, перадачы зямлі і ўсіх сродкаў вытворчасці народу, устанаўлення народаўладдзя са свабодным нацыянальна-палітычным самавызначэннем народаў, пабудовы сацыялістычнага грамадскага ладу на аснове рэфармаванай сялянскай абшчыны і ўраўняльнага землекарыстання. Шлях для дасягнення гэтых мэт рэвалюцыйныя дэмакраты бачылі ў падрыхтоўцы ўсерасійскай сялянскай рэвалюцыі. На такіх пазіцыях стаяла рэвалюцыйная арганізацыя «Зямля і Воля» з цэнтрамі ў

Кастусь Каліноўскі.

Пецярбургу (М. Чарнышэўскі) і Лондане (А. Герцэн).

Пад ідэйным уплывам рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі знаходзілася некалькі падпольных гурткоў польска-беларуска-літоўскай моладзі, пераважна навучэнцаў, якія займаліся ў другой палове 50-ых гадоў у цывільных і ваенных навучальных установах Пецярбурга. Дзейнасцю гэтых гурткоў кіравалі афіцэры Генеральнага штаба Зыгмунт Сераковскі і Яраслаў Дамброўскі. Членамі арганізацыі з'яўляліся браты Віктар і Канстанцін Каліноўскія, Валерый Урублеўскі і іншыя ўраджэнцы Беларусі.

К. Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня (2 лютага) 1838 г. у Мастаўлянах Гародзенскага павета. Бацька на той час быў беззямельным шляхціцам, уладальнікам невялікай мануфактуры. З 1849 г. сям'я жыла ў набытым фальварку Якушоўка паблізу мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета. У 1852 г. Кастусь скончыў прагімназію ў Свіслачы, а ў 1860-ым — юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Менавіта там сфарміраваўся яго рэвалюцыйны светапогляд.

У сакавіку 1861 г. К. Каліноўскі вярнуўся на радзіму. Той жа вясной ён пачаў ствараць на Гародзеншчыне рэвалюцыйную арганізацыю, у якую ўвайшлі В. Урублеўскі, Ф. Ражанскі, І. Мілевіч, С. Сангін, Э. Заблоцкі і інш. Летам 1862 г. Каліноўскі стаў членам, а ў кастрычніку — старшынёй Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК) у Вільні — цэнтра «чырвоных» у Літве і Беларусі, які ўзяў на сябе падрыхтоўку да ўзброенага паўстання. Яно рыхтавалася ва ўзаемадзеянні з Варшаўскім Цэнтральным нацыянальным камітэтам (ЦНК), з кіруючымі цэнтрамі «Зямлі і Волі» ў Пецярбургу і Лондане.

Адзінства поглядаў на задачы паўстання не было. Рускія рэвалюцыйныя дэмакраты на першае месца ў сваёй праграме ставілі аграрнае пытанне. Сярод польскіх «чырвоных» пераважала памяркоўная плынь. Галоўную задачу яны бачылі ў аднаўленні незалежнай Польшчы ў межах 1772 г., гэта значыць, з далучэннем да яе былых «правінцый» — Літвы, Беларусі і Правабярэжнай Украіны. Аграрнае пытанне было другарадным. Вырашыць яго збіраліся так, каб

прымірыць інтарэсы памешчыкаў і сялян з мэтай прыцягнення да паўстання і тых, і другіх. Пры гэтым першым абяцалі захаваць маёнткі, аплаціць за кошт дзяржавы сялянскія надзелы, а другім неадкладна аддаць ва ўласнасць іх надзелы без выкупу, адбывання паншчыны і выплаты чыншаў. Беззямельным удзельнікам паўстання праектавалася даць мізэрныя ўчасткі зямлі (3 моргі). Рускія рэвалюцыянеры-дэмакраты крытыкавалі нацыяналістычна-захопніцкія тэндэнцыі польскіх «чырвоных», абмежаванасць іх аграрнай праграмы. Яны папярэджвалі, што такая праграма паўстання не атрымае падтрымкі ў Расіі і, значыць, не гарантуе яго поспех[35]. У пісьме выдаўцоў «Колокола» «Русским офицерам в Польше» (кастрычнік 1862 г.) гаварылася: «Зямля сялянам, самастойнасць абласцям — на гэтай падставе, і толькі на ёй можа ўстанавіцца дзейсны саюз ваш з польскімі братамі... Скажам разам з палякамі, быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны быць хочуць ці ні з кім, толькі б волю іх уведаць — не падробленую, а сапраўдную»[36].

К. Каліноўскі і па аграрным і нацыянальным пытаннях падзяляў погляды рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў і прапагандаваў іх у Літоўскім правінцыяльным камітэце, у Гародзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі, сярод сялян. Афіцыйны гістарыёграф паўстання 1863 г. у беларуска-літоўскіх губернях генерал В. Ратч пісаў: «Каліноўскі, захапіўшы поўную перавагу ў Літоўскім чырвоным камітэце, настойваў на ўвядзенні арганізацыі з сялян..., знаходзіў, што адзін толькі сродак прыцягнуць народ, іменна раздаць усю пазямельную ўласнасць сялянам». Разам з тым В. Ратч сцвярджаў, што К. Каліноўскі падзяляў федэрацыйныя тэорыі «Колокола» і «настойліва праводзіў ідэю аб самастойнасці Літвы», імкнуўся «канчаткова пазбавіцца ад варшаўскай апекі». Па звестках В. Ратча, варшаўскі ўрад павінен быў атрымаць ад Каліноўскага «паведамленне, што Літва і Беларусь — самастойная дзяржава»[37]. Пака-

Зыгмунт Серакоўскі.

зальна, што аналагічныя ацэнкі пазіцый К. Каліноўскага па аграрнаму і нацыянальнаму пытаннях выказаны і некаторымі дзеячамі паўстання (Ю. Яноўскі, Я. Гейштар і інш.)[38].

**«Мужыцкая праўда».** Да лета 1862 г. Каліноўскі разам з В. Урублеўскім і Ф. Ражанскім наладзілі на Гародзеншчыне падпольную друкарню і выданне першай у краіне рэвалюцыйна-дэмакратычнай газеты «Мужыцкая праўда», адрасаванай сялянству. Выходзіла яна на беларускай мове ў форме адозваў, прысвечаных набалелым для сялян пытанням. Адозвы гэтыя падаваліся ад імя «Яські-гаспадара з-пад Вільні». Першы нумар з'явіўся ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1862 г. Гэта была вялікая падзея ў гісторыі не толькі беларускагв вызваленчага руху, але і нацыянальнай культуры, мовы. Каліноўскі выдатна валодаў народнай, гутарковай мовай (з гарадзенскімі дыялектнымі асаблівасцямі) і па-майстэрску карыстаўся ёю ў мэтах рэвалюцыйнай асветы сялян: вельмі складаныя грамадска-палітычныя пытанні газета асвятляла гранічна сцісла, лагічна, паслядоўна, іншы раз наўмысна па-сялянску грубавата, выкарыстоўваючы адпаведныя прыёмы і метады агітацыі, разлічанай на асяроддзе сялян. Да канца 1862 г. убачылі свет і былі шырока распаўсюджаны (пераважна ў Гародзенскай, а таксама ў Віленскай, Віцебскай і Менскай губернях) 6 нумароў «Мужыцкай праўды». Сёмы, апошні, нумар выйшаў у пачатку лета 1863 г. ужо ў час паўстання.

«Мужыцкая праўда» заняла досыць выразную сялянскую пазіцыю. Ілюзій адносна пана сяляне і ў той час не мелі. А вось класавую сувязь, адзінства інтарэсаў пана і цара яны практычна не ўсведамлялі. Вера ў тое, што цар лепшы за паноў, што ён можа палепшыць становішча сялян, скоўвала іх рэвалюцыйныя памкненні, перашкаджала ўсвядоміць рэальныя прычыны свайго нясцерпнацяжкага становішча. Раскрыць сялянам вочы на тое, што цар і праведзеная ім рэформа, як і ўся яго палітыка, абараняе інтарэсы памешчыкаў,— такую задачу паставіў перад «Мужыцкай праўдай» К. Каліноўскі.

«Мужыцкая праўда» прапагандавала ідэю, што ніхто не дасць вольнасці мужыкам, што мужыкі самі павінны заваяваць яе і пабудаваць новы грамадскі парадак — такі, які яны захочуць самі. Пра гэта недвухсэнсоўна гаварылася ў трэцім нумары «Мужыцкай праўды»: «...нам не маніхвестаў, а вольнасці патрэбна — і то вольнасці не такой, якую нам цар захоча даці, но якую мы самі, мужыкі, памеж сабою зробімо. А для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ талкуйце памеж сабою, якой вам вольнасці патрэбна і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа».

Прынцыпова важная канкрэтызацыя грамадскага ідэалу К. Каліноўскага выкладзена ў чацвёртым нумары газеты. Тлумачачы сялянам, навошта і які патрэбны ўрад, ён пісаў: «...і як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго

гаспадара, так добры ўрад глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так, як народові лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народу». Так сфармуляваў Каліноўскі адзін з важнейшых прынцыпаў рэвалюцыйнай дэмакратыі адносна дзяржаўнага будаўніцтва. Супрацьпастаўляючы сялянскае разуменне «вольнасці» і царска-памешчыцкай «волі», якую дала рэформа 1861 г., Каліноўскі падкрэсліваў, што «мужык хоча, каб ніхто не смеў драці ні з кога», што «мужыцкая вольнасць — гэта ўсё роўна што шыбеніца для ўсіх здзерцаў і глуміцеляў».

Аналіз «Мужыцкай праўды» паказвае, што ў цэлым яна займала рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі. Аднак прамых заклікаў да захопу памешчыцкіх зямель, а таксама да барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Беларусі і Літвы няма ні ў адным нумары «Мужыцкай праўды», ды і ў іншых друкаваных адозвах і загадах К. Каліноўскага падчас паўстання. Гэта тлумачыцца слабасцю пазіцый рэвалюцыйных дэмакратаў, асабліва ў варшаўскім ЦНК, у якім напачатку кіравалі памяркоўныя «чырвоныя», а з канца лютага 1863 г. верх узялі «белыя» — прадстаўнікі буйных землеўласнікаў і буржуазіі. Яны ігнаравалі сацыяльна-эканамічныя задачы паўстання, катэгарычна адмаўлялі права беларусаў, украінцаў і літоўцаў на нацыянальна-палітычнае самавызначэнне і дамагаліся толькі аднаўлення Рэчы Паспалітай у межах 1772 г., арыентуючыся пры гэтым не на падтрымку сялянскіх мас, а на дыпламатычна-ваенную дапамогу Францыі і Англіі, якія яшчэ нядаўна ваявалі з царскай Расіяй. Вядомы прынцыпова вострыя канфлікты К. Каліноўскага і яго аднадумцаў у ЛПК з камісарам варшаўскага ЦНК у Вільні Н. Дзюлёранам[39], а таксама на перагаворах у Варшаве ў канцы 1862 г. аб устанаўленні раўнапраўных адносін паміж ЛПК і ЦНК. Па віне апошняга яны былі сарваны. ЦНК, як адзначаў К. Каліноўскі, прыняў рашэнне аб пачатку паўстання, не ўважыўшы «інтарэсаў Літвы»[40].

**Барацьба за кіраўніцтва. Баявыя дзеянні.** У Маніфесце ад 10 (22) студзеня 1863 г. і двух аграрных дэкрэтах польскага Часовага нацыянальнага ўрада, якімі абвяшчаліся задачы і мэты паўстання, патрабаванні рэвалюцыйных дэмакратаў па аграрных і нацыянальных пытаннях не былі ўлічаны. Сялянам аддавалася толькі тая зямля, якую яны ўжо атрымалі ў выніку царскай рэформы 19 лютага 1861 г., але без часоваабавязаных адносін і без выкупу. Памешчыкі захоўвалі свае маёнткі і павінны былі атрымаць грашовую кампенсацыю ад дзяржавы за перададзеную сялянам зямлю. Замест падушнага падатку ўводзіўся падымны. 25-гадовая рэкруцкая павіннасць замянялася ўсеагульнай трохгадовай вайсковай службай у сваім краі, адмянялася забарона уніяцкага веравызнання. Усе грамадзяне Польшчы «без адрознення веры, племені, паходжання і саслоўя» абвяшчаліся свабоднымі і раў-

напраўнымі. Быў выдадзены таксама спецыяльны зварот да насельніцтва Літвы і Беларусі з заклікам падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Аднак аб праве «правінцый» былой Рэчы Паспалітай на самавызначэнне свайго лёсу не гаварылася нічога.

Літоўскі правінцыяльны камітэт у папярэдні перыяд нямала зрабіў для падрыхтоўкі паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Пад кіраўніцтвам ЛПК была створана сетка падпольных рэвалюцыйных арганізацый, якія ў той ці іншай ступені ахапілі сваім уплывам усе губерні і многія паветы краю. Члены гэтых арганізацый збіралі грошы і каштоўнасці, на якія куплялі зброю і ваенны рыштунак, вялі прапаганду і агітацыю, рыхтавалі паўстанцкія кадры і ўсё неабходнае для ўзброенай барацьбы. Найбольш актыўна дзейнічалі ў падполлі дробныя чыноўнікі, разначынная інтэлігенцыя, афіцэры і навучэнцы з ліку збяднелай шляхты. Аднак на момант нечаканага для ЛПК абвяшчэння паўстання ў Польшчы падрыхтоўка да яго на Беларусі і ў Літве была далёка не завершанай. Нягледзячы на гэта, ЛПК, ператварыўшыся ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К. Каліноўскім, 20 студзеня (1 лютага) 1863 г. выдаў маніфест з заклікам да насельніцтва краю ўсімі сіламі падтрымаць паўстанне ў Польшчы[41]. Дзеля адзінства баявых дзеянняў, якія ўжо пачаліся, ЛПК вымушаны быў паўтарыць у сваім маніфесце праграму паўстання, аб'яўленую ў Варшаве. Тым не менш «белыя», захапіўшы кіраўніцтва ў польскім нацыянальным ўрадзе. 27 лютага (11 сакавіка) 1863 г. адхілілі ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім і перадалі яе віленскаму камітэту «белых», які стаў называцца Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Узначаліў яго ковенскі памешчык Якуб Гейштар. Ад імя гэтага аддзела быў распаўсюджаны спецыяльны дэкрэт, якім аб'яўляліся несапраўднымі і адмяняліся «ўсе паўнамоцтвы і мандаты», выдадзеныя ЛПК[42].

К. Каліноўскі ад імя ЛПК напісаў рэзкі пратэст супраць адзначанай акцыі Варшаўскага ўрада. У ім гаварылася, што члены камітэта лічаць «пагібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў» і «здымаюць з сябе ўсякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасце, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай». Разам з тым камітэт заявіў, што ён падпарадкоўваецца «галаве паўстання», бо, «па-першае, не жадае пачынаць згубных для рэвалюцыі разладаў і нязгод і, па-другое, з-за таго, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў»[43].

Прыведзеная заява аб'ектыўна раскрывае трагічнае становішча К. Каліноўскага ва ўмовах, калі паўстанне хутка наспявала і неўзабаве ўспыхнула: часу для належнай падрыхтоўкі і арганізацыі рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл у яго не было. З прычыны іх слабасці ён вымушаны

быў супрацоўнічаць з шляхецкімі рэвалюцыянерамі, а значыць, падпарадкоўвацца іх цэнтрам, дзейнічаць (выдаваць загады, інструкцыі і г. д.) ад імя польскага нацыянальнага ўрада, прытрымлівацца ў афіцыйных дакументах устаноўленай гэтым урадам праграмы. Магчымасці звярнуцца да беларускага і літоўскага народаў з праграмай барацьбы, якая істотна адрознівалася б ад праграмы ЦНК, напрыклад уключала б лозунг знішчэння памешчыцкага землеўладання або ўстанаўлення дзяржаўнай самастойнасці Літвы і Беларусі, у К. Каліноўскага не было. У выпадку непадпарадкавання яго маглі аб'явіць здраднікам і паступіць з ім па законах ваеннага часу. Адпаведная пагроза выказвалася ў момант роспуску Часовага ўрада Літвы і Беларусі.

Абмежаваная праграма паўстання выключала магчымасць шырокага ўдзелу ў ім сялянства, асабліва на Беларусі і ў Літве, для якога быў зусім чужы лозунг польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Сярод расійскай грамадскасці, нават ліберальна-дэмакратычнай, гэты лозунг выклікаў небывалы ўздым шавінізму. Яму супрацьстаяў фактычна толькі герцэнаўскі «Колокол». Аднак прыхільнікаў у яго было мала. Праз дзяржаўныя ўстановы, царкву, школу, друк шавіністычная хваля шырока распаўсюджвалася ў Расіі і фактычна паралізавала намаганні рэвалюцыйных дэмакратаў, перакрэсліла іх надзеі на ўсерасійскае сялянскае паўстанне. Гэтым, па сутнасці, прадрашаўся і лёс паўстання ў Польшчы, Літве і на Беларусі. Спадзяванні «белых» і памяркоўных «чырвоных» на дапамогу заходніх дзяржаў таксама не спраўдзіліся. У адзінаборстве з магутнай царскай арміяй паўстанцы былі асуджаны на паражэнне.

Першыя паўстанцкія атрады на Беларусі з'явіліся з Польшчы ў студзені — лютым 1863 г. Самым буйным з іх быў атрад пад камандаваннем Р. Рагінскага. Праз Пружанскі павет, пры няспынным праследаванні царскіх войскаў, ён дайшоў да Слуцкага павета, дзе быў разбіты. Фарміраванне мясцовых атрадаў, месцы і час іх збору вызначаліся па загадах з Вільні. Апошнія перадаваліся па лініях падпольных сувязей рэвалюцыйных арганізацый, звязаных з ЛПК. Адпаведная дзейнасць вялася ў сакавіку — красавіку 1863 г. Па губернях (ваяводствах) назначаліся цывільныя ваяводскія, павятовыя і акруговыя начальнікі, важнейшай задачай якіх з'яўлялася матэрыяльнае забеспячэнне паўстанцкіх атрадаў. Арганізацыя і кіраўніцтва баявымі дзеяннямі ў ваяводствах ускладваліся на ваенных начальнікаў. Як правіла, яны былі і камандзірамі найбольш буйных атрадаў і злучэнняў. З мэтай нагляду і каардынацыі дзеянняў усіх цывільных і ваенных паўстанцкіх улад у ваяводствы прысылаліся камісары. На пасады цывільных начальнікаў Віленскім камітэтам «белых» ставіліся звычайна мясцовыя памешчыкі. Многія з іх з самага

пачатку не верылі ў поспех паўстання, баяліся царскіх улад і ўсяляк ухіляліся ад выканання сваіх абавязкаў. Галоўнай мэтай «белых», якія далучыліся да паўстання і захапілі кіраўніцтва ім, найперш з'яўлялася недапушчэнне перарастання яго ў сялянскую рэвалюцыю. Віленскі «белы» камітэт трымаў пад кантролем і ваенныя назначэнні. Так, В. Урублеўскі быў перамешчаны з пасады ваеннага начальніка Гародзенскага ваяводства на пасаду начальніка ваяводскага штаба паўстанцаў.

З вядомых матэрыялаў аб паўстанні і даследаванняў вынікае, што адзінага плана баявых дзеянняў не было. Назіраліся спробы ўзаемадзеяння атрадаў у асобных губернях (ваяводствах), ды і яны, як правіла, заканчваліся беспаспяхова. Многія атрады былі разбіты царскімі карнікамі на самым пачатку фарміравання. Адносны поспех спадарожнічаў першаму выступленню атрада Людвіка Звяждоўскага, прызначанага кіраўніком паўстанцкіх сіл у Магілёўскай губерні. З дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута яму ў ноч з 23 на 24 красавіка 1863 г. удалося захапіць павятовы горад Горкі. Аднак мясцовыя сяляне не падтрымалі паўстанцаў, і атрад Звяждоўскага неўзабаве быў разбіты. У многіх месцах Магілёўскай і Віцебскай губерняў сяляне, прасякнутыя царысцкімі ілюзіямі, падманутыя дэмагагічнай агітацыяй улад і праваслаўнага духавенства, дапамагалі карнікам лавіць паўстанцаў, грамілі маёнткі польскіх памешчыкаў. Слабаарганізаванымі і беспаспяховымі былі дзеянні паўстанцаў і ў Менскай губ. Больш-менш значную падтрымку сярод сялян, найперш казённых, паўстанцы знайшлі на Гародзеншчыне і Віленшчыне. Так, з усіх сялян, што падтрымалі паўстанне на тэрыторыі сучаснай Беларусі асабістым удзелам у атрадах, больш за 33 працэнты складалі сяляне Гародзенскай губ., 27 працэнтаў — беларускіх паветаў Віленскай губ., да 20 працэнтаў — Менскай, каля 13 працэнтаў — Магілёўскай і толькі 7 працэнтаў — Віцебскай губ.[44]

У Гародзенскай губ. вясною 1863 г. дзейнічалі 5 паўстанцкіх атрадаў, у якіх налічвалася амаль 1700 чалавек. У маі яны правялі больш за 20 баёў з царскімі войскамі. Найбуйнейшая бітва — не толькі на Гародзеншчыне, але і на Беларусі ў цэлым — адбылася 21 мая каля мястэчка Мілавіды Слонімскага павета. З аднаго боку ў ёй удзельнічала каля 800 паўстанцаў (некалькі атрадаў), а з другога — 5 рот салдат, якія мелі 4 гарматы. Бой працягваўся некалькі гадзін. Карнікі не змаглі ўзяць лагер паўстанцаў і з вялікімі стратамі адышлі. Не чакаючы прыбыцця новых сіл ворага, паўстанцы ноччу непрыкмента пакінулі лагер. Недахоп сіл і зброі вымушаў іх ужываць тактыку партызанскай барацьбы. Поспехі паўстанцкага руху на Гародзеншчыне ў значнай меры былі абумоўлены самаахвярнай рэвалюцыйнай дзейнасцю К. Каліноўскага ў якасці ваяводскага камісара.

**Падаўленне паўстання. Курс на ўзмацненне русіфікацыі.** Падаўленнем паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы з сярэдзіны мая 1863 г. кіраваў новы віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў, які атрымаў ад Аляксандра II надзвычайныя паўнамоцтвы. Жорсткімі рэпрэсіямі ён прымусіў «белых» памешчыкаў і вышэйшае каталіцкае духавенства адмовіцца ад падтрымкі паўстання. Гэта замацоўвалася падпісаннем вернападданніцкіх адрасоў на імя цара. Многія актыўныя дзеячы былі арыштаваны, расстраляны або павешаны. Замены ім не знаходзілася. У такіх умовах Я. Гейштар і Н. Дзюлёран у пачатку чэрвеня былі вымушаны ўвесці ў склад Віленскага аддзела К. Каліноўскага, які і тут праявіў незвычайную энергію. Бліжэйшым памочнікам яго стаў У. Малахоўскі, назначаны начальнікам горада Вільні. 11 чэрвеня 1863 г. К. Каліноўскі апублікаваў на беларускай мове «Прыказ ад урада Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі літоўскай і беларускай». Галоўная ідэя фармулявалася так: «Дзела наша — не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашы дзяды і бацькі здаўна жадалі»[45]. Аб напрамку дзейнасці К. Каліноўскага сведчыць і падрыхтоўка новай пячаткі для віленскага цэнтра з надпісам: «Літоўскі камітэт. Свабода.Роўнасць.Незалежнасць»[46].

З 31 ліпеня К. Каліноўскі стаў старшынёю Віленскага аддзела, а 22 жніўня яму былі перададзены і паўнамоцтвы камісара Варшаўскага ўрада ў Вільні. Такім чынам, да канца лета 1863 г. у яго руках сканцэнтравалася ўся паўната ўлады ў паўстанцкай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. На важнейшыя пасады ён назначаў сваіх аднадумцаў: В. Урублеўскага зноў прызначыў ваенным начальнікам Гародзенскага ваяводства, І. Ямантa паслаў камісарам у Менск, А. Мацкевічу даручыў арганізацыю ўзброеных сіл Ковенскага ваяводства.

Аднак дабіцца пералому ў ходзе паўстання рэвалюцыйныя дэмакраты не змаглі: ужо на пачатку верасня 1863 г. у беларуска-літоўскіх губернях яно было практычна задушана. Менавіта так ацэньваў сітуацыю начальнік краю М. Мураўёў[47]. Сотні паўстанцаў былі забіты ў баях, расстраляны або публічна павешаны. Усе вёскі знаходзіліся пад наглядам арганізаванай і ўзброенай уладамі сельскай стражы. За выдачу паўстанцаў назначаліся ўзнагароды. Тыя вёскі, якія аказвалі падтрымку паўстанцам, цалкам спальваліся, маёмасць жыхароў прадавалася з аўкцыёнаў, а самі яны высылаліся ва ўнутраныя губерні Расіі або ў Сібір[48]. Адначасна шырылася дэмагагічная агітацыя, быццам паўстанне — гэта бунт польскіх памешчыкаў супраць рускага цара-вызваліцеля з мэтай аднаўлення прыгону. Не маглі не падзейнічаць на сялянскія масы і сацыяльна-эканамічныя мерапрыемствы царскага ўрада — адмена ў беларуска-літоўскіх губернях часоваабавязаных адносін, устаноўленых рэформай 19 лютага 1861 г., паніжэнне выкупных плацяжоў на 20 працэн-

таў і інш. У выніку паўстанне затухала.

Ва ўмовах мураўёўскага тэрору, здрадніцтва і шпіёнства К. Каліноўскі ўсё ж, дзякуючы незвычайным здольнасцям канспіратара, пратрымаўся на волі да канца студзеня 1864 г. Ён не раз мог перабрацца за мяжу, як раілі яму сябры, але не пайшоў на гэта, бо імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб захаваць падпольную паўстанцкую арганізацыю на Беларусі і ў Літве, рэшткі ўзброеных сіл з мэтай падрыхтаваць новае паўстанне. Выдадзены здраднікам, Каліноўскі ў ноч на 29 студзеня 1864 г. трапіў у рукі М. Мураўёва. На следстве, якое працягвалася да канца лютага, трымаў сябе мужна, з высокай годнасцю, нікога не выдаў. Ваенна-палявы суд прыгаварыў яго да расстрэлу, але Мураўёў замяніў расстрэл павешаннем. Пакаранне адбылося 10 (22) сакавіка 1864 г. у 10 гадзін 30 мінут раніцы на Лукішскай плошчы ў Вільні ў прысутнасці велізарнай колькасці людзей. Стоячы перад шыбеніцай, за момант да смерці К. Каліноўскі ўнёс «папраўку» ў судовы прыгавор. Калі яго назвалі «дваранінам», ён крыкнуў: «У нас няма дваран, усе роўныя».

Знаходзячыся ў турме і не цешачы сябе ніякімі ілюзіямі адносна свайго далейшага лёсу, К. Каліноўскі напісаў і перадаў на волю пісьмо ў трох частках. У 1867 г. яно было надрукавана былым членам Варшаўскага паўстанцкага ўрада Агатонам Гілерам у дадатку да кнігі «Гісторыя паўстання народа польскага ў 1861—1864 гг.» пад назвай «Да беларускага народа. Пісьмо з-пад шыбеніцы Канстанціна Каліноўскага». У «Пісьме» рэзка крытыкавалася палітыка царызму на Беларусі як да адмены прыгоннага права, так і пасля яе, выкрывалася антысялянская сутнасць рэформы. Асноўнымі ідэямі «Пісьмо» пераклікалася з «Мужыцкай праўдай». Да таго ж у ім узнімалася тэма гвалтоўнай русіфікацыі палякаў, літоўцаў і беларусаў, з гневам гаварылася аб забароне вучыцца ў школах па-польску, па-літоўску і па-беларуску. Паказваліся адрозненні паміж царскім маніфестам і маніфестам Польскага паўстанцкага ўрада, адзначалася, што апошні «ўсім братнім народам дае самакіраванне». На гэтай аснове К. Каліноўскі рабіў вывады: «Польскае дзела — гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела». У «Пісьме» выразна адлюстраваліся расчараванне і крыўда, выкліканыя тым, што рускі і іншыя народы не падтрымалі паўстанне.

Царызм рукамі Мураўёва-вешальніка жорстка расправіўся з удзельнікамі паўстання. Паводле афіцыйных даных, 128 чалавек былі пакараны смерцю, 12 483 высланы за межы радзімы — на катаргу і пасяленне ў Сібір, у арыштанцкія роты і г. д. Маёнткі памешчыкаў, якія мелі дачыненне да паўстання, канфіскоўваліся ў казну і на вельмі льготных умовах прадаваліся царскім генералам і чыноўнікам, выхадцам з цэнтральных губерняў. Усе астатнія мясцовыя памешчыкі, на першым часе нават рускія, былі абкладзены кантрыбуцыяй. Закрываліся або

пературараліся ў праваслаўныя цэрквы многія касцёлы. За ўдзел студэнтаў у паўстанні ўлады закрылі адзіную на Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову — Горы-Горацкі земляробчы інстытут, скарацілі колькасць сярэдніх навучальных устаноў. Кадры мясцовых настаўнікаў, медыцынскіх работнікаў, землямераў і інш. былі пераведзены на службу ў цэнтральныя губерні, а на іх месца прысланы новыя, якім царызм давяраў рэалізацыю сваёй палітыкі ў краі. Яны прыцягваліся сюды павышанымі акладамі і перспектывай хуткага росту кар'еры. Памешчыкам «польскага паходжання» забаранялася купляць зямлю на Беларусі, а сялянам-католікам норма зямлі на гаспадарку абмяжоўвалася 60 дзесяцінамі. Ніхто ў краі не мог купіць зямлю без дазволу губернскіх улад. Усяляк заахвочвалася распаўсюджанне рускага землеўладання, найперш памешчыцкага. Да канца 60-ых гадоў у краі захоўвалася ваенная дыктатура, у судах доўгі час разглядаліся справы людзей, якія мелі дачыненне да паўстання. Рэжым выключных законаў на Беларусі і ў Літве не быў ліквідаваны і ў пазнейшыя дзесяцігоддзі. Палітыка царызму на Беларусі мела тыпова каланіяльны характар. Мэтай яе была татальная русіфікацыя краю.

## 3. Фарміраванне беларускай нацыі.

**Тэрыторыя і насельніцтва.** Перадумовай фарміравання этнасаў з'яўляецца агульнасць тэрыторыі, з якой непарыўна звязаны пэўныя прыродна-геаграфічныя і кліматычныя ўмовы, раслінны і жывёльны свет, а значыць, і характар працоўнай дзейнасці людзей, іх побыт, матэрыяльная і духоўная культура, фарміраванне і развіццё агульнай мовы, звычаяў і традыцый, нормаў маралі і г. д. Насельніцтва, што пражывае на адной тэрыторыі, звычайна мае аднолькавы гістарычны лёс, а гістарычная памяць з'яўляецца асновай для ўзнікнення і развіцця нацыянальнай самасвядомасці.

З канца XVIII ст. у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай уся тэрыторыя беларускай народнасці была ўключана ў межы Расійскай імперыі. Існаванне беларускага этнасу не прызнавалася царскім урадам, ды і ўвогуле ён не ўлічваў этнічныя межы пры правядзенні тэрытарыяльна-адміністрацыйных падзелаў далучаных зямель. Асноўная тэрыторыя беларусаў у пачатку XIX ст. увайшла ў межы 5 заходніх губерняў: Магілёўскай, Менскай, Гарадзенскай, Віленскай і Віцебскай. Паводле перапісу 1897 г., беларусы (па роднай мове) у Магілёўскай губ. складалі 82,4, у Менскай — 76, у Віленскай — 56, у Віцебскай — 52 і ў Гарадзенскай — 44 працэнты.

У Віленскай губерні беларускае насельніцтва мела абсалютную большасць (ад 86,9 да 73,1 працэнта) у Вілейскім, Дзісненскім, Ашмянскім і Лідскім

паветах і адносную — у Свянцянскім (47,5 працэнта) і Віленскім (26 працэнтаў) паветах.

Другое месца па колькасці ў Свянцянскім павеце займалі літоўцы (33,8 працэнта), а ў Віленскім — яўрэі (21,3 працэнта). Амаль столькі ж было ў ім літоўцаў (20,9 працэнта) і палякаў (20,1 працэнта). У Трокскім павеце налічвалася 58,1 працэнта літоўцаў. Другімі па колькасці тут былі беларусы (15,7 працэнта).

У Віцебскай губерні беларусы мелі абсалютную большасць у паветах Дрысенскім (86,2 працэнта), Веліжскім (85,7), Невельскім (84,0), Гарадоцкім (83,6), Лепельскім (82,0), Полацкім (73,1) і Віцебскім (51,1 працэнта). У апошнім другое па колькасці месца займалі яўрэі (22,3 працэнта), трэцяе — рускія (20,1 працэнта). У роўнай прапорцыі (па 47,1 працэнта) размеркаваліся беларусы і рускія ў Себежскім павеце. У Люцынскім і Рэжыцкім паветах пераважала латышскае насельніцтва (адпаведна — 64,2 і 57,9 працэнта). Адносную большасць (39 працэнтаў) латышы мелі і ў Дзвінскім павеце. Беларусаў у Люцынскім павеце налічвалася 20,5, у Дзвінскім — 13,8 і ў Рэжыцкім — 5,4 працэнта.

У Гародзенскай губерні беларускае насельніцтва значна пераважала ў паветах Сакольскім (83,9 працэнта), Ваўкавыскім (82,4), Слонімскім (80,7), Пружанскім (75,5) і Гародзенскім (65,8 працэнта). У Кобрынскім і Берасцейскім паветах перапіс 1897 г. зафіксаваў, адпаведна, 79,5 і 64,3 працэнта ўкраінскамоўнага насельніцтва. У адноснай большасці (39,1 працэнта) яно паказана і ў Бельскім павеце. Другім па колькасці тут было польскае насельніцтва (34,8 працэнта). У Беластоцкім павеце адносную большасць (34,2 працэнта) мелі палякі, другое месца (28,3) займалі яўрэі і трэцяе (26,1) — беларусы.

Амаль суцэльна беларускім па складу насельніцтва быў Краснінскі павет Смаленскай губерні. Беларусы складалі 90 працэнтаў усіх яго жыхароў (рускія — 8,7 працэнта). Да 70 працэнтаў даходзіла колькасць беларускага насельніцтва ў Суражскім павеце Чарнігаўскай губерні (рускіх — каля 25 працэнтаў). 14,1 працэнта беларусаў налічвалася ў Мглінскім павеце той жа губерні. Беларусамі па мове былі 32,5 працэнта насельніцтва Аўгустоўскага павета Сувалкскай губерні і 16,8 працэнта Новааляксандраўскага павета Ковенскай губерні.

Усяго на адзначанай тэрыторыі ў канцы XIX ст. кампактна пражывалі 5710 тыс. беларусаў, у тым ліку ў 5 заходніх губернях — 5408 тыс. Акрамя іх у Віцебскай, Менскай, Магілёўскай, Гародзенскай і Віленскай губернях налічвалася 3,1 млн рускіх, палякаў, украінцаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў. Польскае і літоўскае насельніцтва ў асноўным канцэнтравалася ў заходніх паветах Гародзенскай і Віленскай губерняў, а рускае і латышскае — у паўночных паветах Віцебскай губерні. Удзельная вага яўрэяў вагалася ад 11,7 працэнта ў Віцебскай да 17,4 працэнта ў Гародзенскай

губерні. За адзінкавымі выключэннямі яўрэйскае насельніцтва пражывала ў гарадах і мястэчках. Сярод гараджан 5 заходніх губерняў яўрэі ў сярэднім складалі 53,5 працэнта, а ва ўсім насельніцтве — 13,8 працэнта.

Абсалютная большасць беларусаў жыла ў сельскай мясцовасці і адносілася да сялянскага саслоўя. Сярод беларускамоўнага насельніцтва Менскай, Магілёўскай і Віцебскай губерняў сяляне (па саслоўнай прыналежнасці) складалі 90—94 працэнты. Доля беларусаў (па мове) у гарадскім насельніцтве вагалася ад 7,6 працэнта ў Віцебскай да 30 працэнтаў у Магілёўскай губерні, а ў сярэднім складала 14,5 працэнта[49].

Па перапісе 1897 г. у Гарадзенскай, Віленскай і Ковенскай губернях налічвалася 431 тыс. (9,1 працэнта) палякаў; у Віцебскай, Менскай і Магілёўскай — 132 тыс. (2,5 працэнта). Галоўнай сацыяльнай асаблівасцю мясцовага польскамоўнага насельніцтва з'яўлялася незвычайна высокая ўдзельная вага ў ім патомнай шляхты. У названых рэгіёнах яна дасягала, адпаведна, 24 і 29 працэнтаў. Палова (86 тыс.) усіх патомных дваран 6 губерняў прызналі сваёй роднай мовай беларускую[50]. Але ў складзе беларускамоўнага насельніцтва іх удзельная вага не перавышала 2,5 працэнта. Аб сацыяльных асаблівасцях мясцовага рускага насельніцтва сведчыць тое, што сярод сялян рускія складалі 5 працэнтаў, а сярод патомных дваран — 16, асабістых дваран (чыноўнікаў) — 51,8 працэнта, духавенства — 61,5 працэнта.

Істотнай асаблівасцю беларусаў як этнасу ў параўнанні з рускімі, палякамі, літоўцамі быў падзел іх па веравызнанні на праваслаўных і каталікоў, які шырока выкарыстоўваўся ў мэтах русіфікацыі і паланізацыі беларускага насельніцтва. І праваслаўная царква, і каталіцкі касцёл не прызнавалі існавання беларускага этнасу, не дапускалі беларускую мову ў сваю дзейнасць, даказвалі, што беларусы-праваслаўныя ёсць рускія, а беларусы-каталікі — адпаведна, палякі. Пасля скасавання ў 1839 г. уніі і прымусовага далучэння ўніятаў да дзяржаўнай царквы праваслаўныя сярод беларусаў у цэлым сталі значнай большасцю (у 1897 г.— 81,2 працэнта). Асноўная маса беларусаў-каталікоў пражывала на Віленшчыне і Гарадзеншчыне. У Віленскай губ. у 1897 г. яны складалі 58,5 працэнта. У Менскай і Віцебскай губернях удзельная вага каталікоў сярод беларускага насельніцтва была 9—10,5 працэнта, у Магілёўскай — 2 працэнты, а ў цэлым па Заходнім краі — 18,8 працэнта[51].

**Палітыка русіфікацыі.** У ходзе падаўлення паўстання 1863—1864 гг. М. Мураўёвым былі сфармуляваны задачы і распрацаваны канкрэтныя меры па татальнай русіфікацыі краю. Адмаўляючы, як і раней, існаванне беларускага этнасу, яго мовы і культуры, царскі ўрад і мясцовыя адміністратары ў 60-ыя гады рэзка ўзмацнілі ідэалагічную апрацоўку беларускага насельніцтва праз царкву, асве-

ту, друк, дзяржаўныя ўстановы з мэтай надання краю «истинно русского» аблічча, выкаранення гістарычнай памяці, нацыянальнай свядомасці і ўсіх этнічных асаблівасцей беларусаў. Адпаведным чынам пісалася гісторыя Беларусі. Не давяраючы мясцовым настаўнікам і чыноўнікам, асабліва католікам, Мураўёў амаль цалкам замяніў іх выхадцамі з цэнтральных губерняў, прывабіўшы павышэннем акладаў на 50 працэнтаў і перспектывай хуткай кар'еры. Вядома, прыбывалі сюды не лепшыя кадры. Але і іх не хапала. Для падрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых школ было адкрыта некалькі настаўніцкіх семінарый, у якія прымалі дзяцей праваслаўных сялян. Адміністрацыя пільна сачыла за выхаваннем іх у духу вернасці цару, праваслаўнай царкве і афіцыйнай народнасці. І школьны настаўнік, і праваслаўны святар, і дзяржаўны чыноўнік, і афіцыйная газета настойліва і паслядоўна даказвалі беларусам, што яны — рускія, толькі «сапсаваныя» польска-каталіцкім уплывам, што ім як мага хутчэй трэба пазбавіцца ад сваёй «мужыцкай», «хамскай» мовы і зліцца з велікарусамі. Выкарыстанне беларускай мовы не дапускалася ні ў школе, ні ў дзяржаўных установах, ні ў друку (акрамя этнаграфічных публікацый).

Закрыўшы ў 1864 г. адзіную на Беларусі вышэйшую школу — Горы-Горацкі земляробчы інстытут, царскі ўрад да канца свайго існавання зацята адхіляў усе хадайніцтвы аб заснаванні ў беларуска-літоўскіх губернях вышэйшай навучальнай установы. Адсутнасць такіх устаноў вельмі адмоўна адбівалася на фарміраванні нацыянальнай інтэлігенцыі, на развіцці грамадска-культурнага і палітычнага руху. У расійскіх універсітэтах і інстытутах для ўраджэнцаў Беларусі і Літвы каталіцкага веравызнання былі ўстаноўлены абмежаванні ў прыёме на вучобу.

З мэтай выкаранення паланізму М. Мураўёў паставіў задачу паступовай замены на Беларусі і ў Літве польскага землеўладання рускім дваранска-памешчыцкім землеўладаннем. Перавага першага ў пачатку 60-ых гадоў была вельмі значнай. Так, у 1864 г. у Віленскай, Віцебскай, Менскай і Гародзенскай губернях палякам належала 10 797 маёнткаў агульнай плошчай 7532 тыс. дзесяцін, а «не польскім» памешчыкам (у пераважнай большасці рускім) — 1458 маёнткаў, плошча якіх складала 1843 тыс. дзесяцін[52], г. зн. была ў 4 разы меншай. Рускім чыноўнікам на незвычайна льготных умовах перайшлі сотні маёнткаў, канфіскаваных у польскіх памешчыкаў — удзельнікаў паўстання і тых, хто проста па падазрэнні быў высланы за межы радзімы. Па закону ад 10 снежня 1865 г. асобам «польскага паходжання» на Беларусі і ў Літве забаранялася набыццё маёнтка інакш, як па спадчыне. У выніку прынятых мер у названых чатырох губернях толькі ў 1864—1870 гг. колькасць рускіх памешчыкаў вырасла з 1458 да 2433, а плошча іх уладанняў павялічылася ўдвая і дасягнула 3669 тыс. дзесяцін.

Польскія памешчыкі былі пазбаўлены права карыстацца льготнымі пазыкамі Дваранскага банка. У сувязі з паўстаннем 1863 г. царскі ўрад скасаваў на Беларусі і ў Літве выбарныя органы дваранскага самакіравання, не дапусціў, як адзначалася, увядзення земства і выбарных міравых суддзяў. Для беларускіх сялян каталіцкага веравызнання таксама было ўстаноўлена абмежаванне: яны маглі мець не больш за 60 дзесяцін зямлі на сям'ю. Толькі заходніх губерняў датычыў і ўказ, паводле якога ўсе мясцовыя сяляне, у тым ліку і праваслаўныя, пры куплі зямлі павінны былі атрымаць пісьмовы дазвол губернатара.

Палітыка штучнага насаджэння і ўсямернай падтрымкі на Беларусі рускага памеснага землеўладання, з аднаго боку, і абмежавання польска-каталіцкага землеўладання — з другога, істотна стрымлівала натуральны працэс распаду «дваранскіх гнёздаў». Тэмпы скарачэння дваранскага зямельнага фонду ў заходніх губернях у 1862—1905 гг. былі амаль удвая маруднейшыя, чым у Еўрапейскай Расіі ў цэлым[53]. Больш таго, дзякуючы контрмерам царызму гэты фонд у Менскай губ. у 1877—1905 гг. не толькі не паменшыўся, але і ўзрос на 58,1 тыс. дзесяцін[54].

На Беларусь распаўсюджваліся шматлікія абмежавальныя законы, што датычылі яўрэйскага насельніцтва. Яшчэ ў канцы XVIII ст. была ўстаноўлена мяжа яўрэйскай аселасці. Паводле адпаведнага закона, яўрэям, за рэдкімі выключэннямі, дазвалялася сяліцца толькі ў заходніх губернях Расіі, у тым ліку беларускіх. У 1882 г. Аляксандр III падпісаў закон, які забараняў яўрэям і ў раёне аселасці жыць за межамі гарадоў і мястэчак, купляць і арандаваць зямлю. У пачатку 90-ых гадоў на Беларусь была выслана значная колькасць яўрэяў з Масквы і іншых гарадоў Цэнтральнай Расіі. Такім чынам была створана штучная перанаселенасць беларускіх гарадоў. Лішак працаздольнага яўрэйскага насельніцтва ў гарадах і мястэчках 5 заходніх губерняў у пачатку 90-ых гадоў перавышаў 470 тысяч і быў значна большы, чым усё насельніцтва Менска, Віцебска, Гародні, Пінска, Гомеля, Бабруйска і Магілёва. Яўрэі не прымаліся на работу ў дзяржаўныя ўстановы, у паліцыю, на афіцэрскія пасады ў арміі, а таксама на чыгуначны транспарт. Дзейнічала працэнтная норма прыёму яўрэяў у сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Як адзначана вышэй, яўрэйскае насельніцтва, нават буржуазія, у 90-ыя гады было фактычна пазбаўлена права ўдзелу ў выбарах органаў гарадскога самакіравання.

Перанаселенасць беларускіх гарадоў яўрэйскім жыхарствам істотна стрымлівала, а часам і выключала прыток у іх мясцовага сельскага насельніцтва як пралетарызаванага, так і буржуазнага. Колькасць выхадцаў з вёскі (сялянскага саслоўя) сярод гараджан 5 заходніх губерняў у 1866 г. вагалася ад 0,9 да 7,2 працэнта, а ў сярэднім на адну губерню складала 3,4 працэнта — усяго каля 3,6 тыс.

Менск. Кафедральны сабор. XIX ст.

Праз 30 гадоў гэты паказчык вырас да 43,1 тыс.[55] Паказальна і тое, што ва ўсёй прамысловасці 5 заходніх губерняў у пачатку 90-ых гадоў было занята толькі 20,4 тыс. «лішніх» у сельскай гаспадарцы работнікаў (2,1 працэнта іх агульнай колькасці)[56]. Асноўная маса «лішняга» на сваёй радзіме беларускага сялянства вымушана была шукаць заробкаў у іншых раёнах Расіі і за яе межамі. У 1897 г. у Пецярбургу жыло 66,5 тыс. беларусаў, у Маскве — 15,9 тыс., у Адэсе — 16,9 тыс. і г. д. Параўнаем: у Менску тады беларусаў па мове налічвалася 8,2 тыс., у Віцебску — 8 тыс., у Гародні — 5,4 тыс., у Гомелі — 6,5 тыс., у Магілёве — 12,9 тыс.

Такім чынам, палітыка царызму істотна тармазіла сацыяльна-эканамічнае, грамадска-палітычнае і культурнае развіццё Беларусі, дэфармавала працэсы міграцый сельскага і, адпаведна, нацыянальны склад гарадскога насельніцтва, тармазіла ўтварэнне класаў буржуазнага грамадства. Гарады на Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. па складу насельніцтва толькі ў нязначнай частцы былі беларускімі. Рэжым выключных законаў забяспечваў на Беларусі і ў Літве дыктат і сваволь царскай адміністрацыі ў значна большай ступені, чым у цэнтральных губернях і некаторых іншых рэгіёнах краіны. Тым не менш адмена прыгоннага права і іншыя буржуазныя рэформы праклалі шлях для развіцця рынкавых, капіталістычных адносін, якія ў сваю чаргу сталі эканамічнай асновай

фарміравання беларускай нацыі.

**Агульнасць эканамічнага жыцця. Пралетарыят і буржуазія.** Адной з перадумоў ператварэння народнасці ў нацыю з'яўляецца якасна больш высокі, чым пры феадалізме, узровень агульнасці эканамічнага жыцця насельніцтва адпаведнай этнічнай тэрыторыі, які забяспечваецца развіццём капіталізму. Рэформа 1861 г., вызваліўшы мільёны сялян ад прыгоннай залежнасці, стварыла перадумовы для канчатковага падрыву натуральнай гаспадаркі. Яна паставіла і памешчыка, і селяніна, не кажучы ўжо аб прамыслоўцу, сам-насам з капіталістычным рынкам, адкрыла магчымасці для ператварэння ў тавар рабочай сілы, забяспечыла нябачаныя раней маштабы яе міграцыі. Пачалася паступовая перабудова памешчыцкай і сялянскай гаспадарак з арыентацыяй на рынак.

Уздзеянне ўсерасійскага і сусветнага рынку на эканоміку Беларусі рэзка ўзмацнілася ў 80—90-ыя гады, калі ў асноўным склалася сетка чыгунак, якая звязала яе з сістэмай чыгуначных, рачных і марскіх шляхоў зносін усіх рэгіёнаў Еўрапейскай Расіі і іншых краін. Сусветны аграрны крызіс 80-ых гадоў так ці інакш адчула на сабе кожная памешчыцкая і сялянская гаспадарка Беларусі. Гэта, як ужо адзначалася, канчаткова вызначыла спецыялізацыю сельскай гаспадаркі Беларусі на жывёлагадоўлі, найперш малочнай, і вінакурстве. Шматлікія памешчыцкія маёнткі, якія не змаглі прыстасавацца да рыначных умоў, паступалі на распрадажу і сталі асновай фарміравання буржуазнай зямельнай уласнасці.

З 1877 па 1905 г. дваранскае землеўладанне ў Віленскай, Віцебскай, Гарадзенскай і Магілёўскай губернях паменшала на 1335,8 тыс. дзес. За той жа час сяляне 5 заходніх губерняў купілі 1651,6 тыс. дзес.[57] У 1905 г. на Беларусі налічвалася 5106 сялянскіх гаспадарак, якія набылі ад 20 да 100 дзес., і 1135 гаспадарак, якія купілі больш за 100 дзес. на двор. Першай з гэтых груп гаспадарак належала 213,7 тыс., а другой — 303,7 тыс. дзес. зямлі. Разам яны засяроджвалі 82,1 працэнта ўсёй купленай сялянамі зямлі. Варта адзначыць, што ўжо ў 70-ыя гады XIX ст. на Беларусі былі сяляне, якія купілі маёнткі плошчай больш за 1 тыс. дзес. і нават 2400—2800 дзес.[58] У выніку ўдзельная вага буржуазнага землеўладання ў 1905 г. узрасла на Беларусі да 16,5 працэнта і склала 3008,3 тыс. дзес.

Адпаведныя працэсы адбываліся і ў прамысловасці. У сувязі з рэформай 1861 г. усе прадпрыемствы, заснаваныя на прымусовай працы, закрыліся або былі пераведзены на вольнанаёмную працу. Прамысловасць атрымала неабмежаваны рэзерв асабіста вольнай рабочай сілы з ліку абеззямеленых і пралетарызаваных сялян, а таксама рынак для збыту сваёй прадукцыі, які пастаянна пашыраўся і паглыбляўся ў ходзе разбурэння натуральнай і паўнатуральнай памешчыцкай і сялянскай гаспадаркі. У прамысловасці, як і ў сельскай гаспадарцы, звужала-

ся дваранска-памешчыцкая ўласнасць: у 60—90-ыя гады ўдзельная вага памешчыцкіх фабрык і мануфактур знізілася з 83 да 45 працэнтаў. Сфера буржуазнай уласнасці адпаведна пашырылася[59].

Прывазныя прамысловыя тавары фабрычна-заводскай вытворчасці, што хлынулі на беларускі рынак у пароэформенныя дзесяцігоддзі, паступова выцеснілі цэлыя галіны мясцовай прамысловасці (металургію на балотнай рудзе, цукраварную, часткова суконна-шарсцяную), разбурылі на пачатку XX ст. цэхавую сістэму рамяства, рэзка звузілі сферу хатніх сялянскіх промыслаў, звязаных з вытворчасцю вопраткі, абутку, посуду, прыладаў працы з дрэва і металу і інш. Па прыблізных падліках, колькасць сялян-саматужнікаў у 60—90-ыя гады скарацілася ўдвая[60]. Маса збяднелых сялян шукала заробкаў у адыходных промыслах, наймаючыся на сплаў лесу, будаўніцтва чыгунак і шашэйных дарог, на сельскагаспадарчыя работы, фабрыкі і заводы, шахты, руднікі і г. д. У 90-ых гадах сялян-адыходнікаў на Беларусі налічвалася да 300 тыс. штогод[61].

Рамесная і дробнакапіталістычная прамысловасць у гарадах і мястэчках Беларусі па абсалютных паказчыках расла і ў пароэформенныя дзесяцігоддзі. У 1860 г. у ёй было занята каля 54 тыс., а ў 1900 г.— 174,5 тыс. чалавек. Вытворчасць павялічылася з 18,4 млн. да 58,2 млн. руб., аднак яе ўдзельная вага ў прадукцыі ўсёй прамысловасці скарацілася ў 2,3 раза. Тым не менш дафабрычныя формы вытворчасці на Беларусі па кошту прадукцыі і ў канцы XIX ст. пераважалі над фабрычнай, хоць і нязначна (на 3,2 працэнта). З прычыны больш нізкай механізацыі вытворчых працэсаў прадукцыйнасць аднаго рабочага ў прамысловасці Беларусі была ніжэйшай, чым у Расіі. Мясцовая прамысловасць уступала агульнарасійскаму паказчыку і ў разліку прадукцыі на душу насельніцтва[62]. Прывязка большасці прадпрыемстваў да крыніц сыравіны ў сельскай мясцовасці Беларусі замаруджвала рост прамысловых цэнтраў і гарадскога насельніцтва. Удзельная вага яго з 1866 па 1897 г. вырасла нязначна — з 11,7 да 12,5 працэнта.

У сацыяльнай сферы развіццё рыначных адносін праяўлялася ў разлажэнні класаў-саслоўяў феадальнага грамадства — сялян, мяшчан-рамеснікаў, дробных гандляроў, купцоў, дваран-памешчыкаў — і фарміраванні на іх аснове новых класаў — пралетарыяту і буржуазіі. Найбольш масавай сацыяльнай базай для росту пралетарскага насельніцтва з'яўлялася сялянская беднata, да якой на Беларусі ў канцы XIX ст. адносілася каля 400 тыс. двароў, г. зн. прыблізна 2,8 млн. чалавек. З іх 1,5 млн. складала працаздольнае насельніцтва[63]. Гэтыя людзі не маглі існаваць без найму на падзённую, сезонную і пастаянную работу ў сельскай і лясной гаспадарцы, прамысловасці, будаўніцтве, на транспарце, у гандлі і г. д. Асабліва многа збяд-

г. Ліда. Чыгуначны вакзал. Здымак пачатку XX ст.

нелых сялян у другой палове XIX ст. было занята на будаўніцтве чыгунак. Гарадскі пралетарыят на Беларусі найперш папаўняўся за кошт збяднелых мяшчан, рамеснікаў, гандляроў, якія не вытрымлівалі канкурэнцыі з боку буйных прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў, траплялі ў залежнасць ад іх і нарэшце ператвараліся ў наёмных рабочых. Рады наёмных работнікаў усё часцей папаўнялі беззямельныя і малазямельныя дваране.

На рубяжы XIX—XX стст. у прамысловасці Беларусі працавала 237 тыс. рабочых. На чыгунках колькасць рабочых дасягала 25 тыс. У іншых сферах народнай гаспадаркі (рачны і гужавы транспарт, будаўніцтва, гандаль, сельская гаспадарка і г. д.) было занята каля 200 тыс. чалавек. Агульная колькасць пастаянных наёмных рабочых на Беларусі ў той час перавышала 460 тыс. Шмат больш было паўпралетарыяў, якія толькі часткова забяспечвалі сябе ўласнымі сродкамі вытворчасці. Да іх ліку адносілася сельская і гарадская бедната. Пошукі лепшых заробкаў вымушалі значную частку пралетарыяў і паўпралетарыяў пастаянна міграваць як па Беларусі, так і за яе межамі.

Буйная буржуазія найперш фарміравалася з асяроддзя купцоў і памешчыкаў-прамыслоўцаў. На пачатку 60-ых гадоў на Беларусі налічвалася каля 9,2 тыс. купцоў (з сем'ямі), пры гэтым 1060 з іх з'яўляліся гільдзейскімі і валодалі капіталам да 2600 тыс. руб.[64]. Гэта быў ад-

Будынак спіртзавода ў маёнтку Лошыца пана Любанскага, заснаваны ў 1896 г.

носна невялікі капітал, асабліва ў параўнанні з тым, які мелі памешчыкі — уласнікі зямлі і многіх прамысловых прадпрыемстваў. У 60-ыя гады са 113 мануфактур і фабрык Беларусі дваранам належалі 94 (83 працэнты). І толькі 18 (16 працэнтаў) — купцам. Сялян і мяшчан сярод уладальнікаў такіх прадпрыемстваў тады не было. У 90-ыя гады з 741 мануфактуры і фабрыкі 343 (46 працэнтаў) былі ўласнасцю дваран, 293 (40 працэнтаў) — купцоў, 89 (12 працэнтаў) — мяшчан. «Сялянскімі» (па саслоўнай прыкмеце) былі толькі 16 мануфактур і фабрык (8 харчовасмакавых, 3 дрэваапрацоўчыя, 2 гарбарныя, 2 па вытворчасці шкла, 1 тэкстыльная)[65]. Купцоў (з сем'ямі), якія пры перапісе 1897 г. прызналі ў якасці роднай беларускую мову, налічвалася ў Віленскай губ. 5, Менскай — 43, Гародзенскай — 74, Магілёўскай — 89[66].

У цэлым з 290 тыс. чалавек, занятых у канцы 90-ых гадоў у прамысловасці, гандлі, на ўсіх відах транспарту і сродкаў сувязі 5 заходніх губерняў, а таксама ў ролі хатняй прыслугі і падзёншчыкаў (гарадскіх), беларусаў (па мове) налічвалася 48,7 тыс. (17 працэнтаў), рускіх — 29,4 тыс. (10 працэнтаў), палякаў — 29,6 тыс. (10,2 працэнта), яўрэяў — 173,5 тыс. (60 працэнтаў). Такія ж працэнтныя суадносіны характарызавалі на-

цыянальны склад пралетарскага і буржуазнага насельніцтва, не звязанага з сельскай гаспадаркай. Пры гэтым яўрэйскія рабочыя пераважалі ў сферы дробнакапіталістычнай і рамеснай прамысловасці, гандлю і бытавога абслугоўвання. Ядро прамысловага пралетарыяту, яго вядучая, параўнальна нешматлікая частка — фабрычна-заводскія і чыгуначныя рабочыя — у 5 заходніх губернях на $^{3}/_{4}$ складаліся з хрысціян, пераважна беларусаў[67]. Сельскагаспадарчыя рабочыя ў абсалютнай большасці былі беларусамі.

Гандлёва-прамысловая буржуазія ў краі была ў асноўным прадстаўлена яўрэйскімі купцамі і прамыслоўцамі. Па перапісе 1897 г., 84,5 працэнта купцоў 5 заходніх губерняў адносіліся да яўрэяў, 10,7 працэнта — да рускіх і толькі 1,7 працэнта былі беларусамі. У той жа час яўрэйская буржуазія з'яўлялася ўласнікам больш чым паловы (51 працэнт) фабрык і заводаў. Беларуская нацыянальная буржуазія фарміравалася на аснове заможнай праслойкі вясковага насельніцтва, якая ў канцы XIX ст. налічвала каля 50 тыс. гаспадароў[68]. Сярод вясковай беларускай буржуазіі было нямала патомнай шляхты.

Такім чынам, беларуская нацыянальная буржуазія ў другой палове XIX ст. знаходзілася яшчэ ў стадыі станаўлення і ўяўляла сабою найбольш слабую праслойку мясцовай шматнацыянальнай буржуазіі. Асноўныя капіталы краю — зямельны, прамысловы, гандлёвы, банкаўскі — знаходзіліся не ў яе руках, а ва ўласнасці польскіх і рускіх памешчыкаў, яўрэйскіх купцоў і прамыслоўцаў. Вельмі адмоўна на фарміраванні беларускай нацыі адбівалася і тое, што сацыяльна-эканамічнае, палітычнае і культурнае жыццё горада на Беларусі ў XIX ст. праходзіла, за нязначнай часткай, не на беларускай мове. Беларуская аграрная буржуазія, раскіданая па вясковай глухамані, расколатая па веравызнанні на праваслаўных і католікаў, у значнай меры русіфікаваная і паланізаваная, нават у канцы XIX ст. не ўсведамляла яшчэ свайго рацыянальнага адзінства і індыферэнтна, калі не варожа, ставілася да праяў нацыянальнага руху, да барацьбы за раўнапраўе сваёй нацыянальнай мовы і культуры. Яна не спадзявалася стаць гаспадаром краю і цягнулася за больш моцнымі сіламі, якія тут панавалі,— царскай бюракратыяй, з аднаго боку, і польскімі памешчыцка - клерыкальнымі групоўкамі — з другога.

**Развіццё нацыянальнай мовы і культуры.** Агульнасць мовы — адна з самых істотных прыкмет нацыі. Як важнейшы сродак чалавечых зносін яна ўдзельнічае ў працэсе ўтварэння на пэўнай тэрыторыі супольнасці эканамічнага жыцця і псіхічнага складу людзей, з'яўляецца асновай развіцця ўсіх галін нацыянальнай культуры і фарміравання нацыянальнай свядомасці. Станаўленне нацыянальнай (літаратурнай) мовы, агульнай для ўсёй этнічнай тэрыторыі, патрабуе ад прыгнечаных народаў, найперш іх інтэлігенцыі, працяглай барацьбы за пашырэнне яе

ужывання на ўсе сферы гаспадарчага, грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, а таксама дзяржаўнага кіравання на адпаведнай тэрыторыі. Канчаткова гэтыя праблемы для прыгнечаных этнасаў вырашаюцца толькі з заваяваннем імі дзяржаўнай самастойнасці.

Старая беларуская літаратурная мова ў XVIII ст. фактычна стала мёртвай. Вышэйшыя класы мясцовага грамадства і амаль уся інтэлігенцыя засвоілі польскую мову і культуру і поўнасцю адарваліся ад свайго народа. Беларускай мовай у розных дыялектах карысталася толькі сялянства, а таксама частка збяднелай шляхты і працоўных слаёў гарадскога і местачковага насельніцтва. Пасля далучэння Беларусі да Расіі афіцыйнае становішча заняла руская мова, аднак у грамадскім і культурным жыцці краю аж да часу падаўлення паўстання 1863 г. панавала польская мова. Прыгнечанае становішча беларускага народа, адсутнасць уласнай нацыянальнай інтэлігенцыі, русіфікатарская палітыка царызму і паланізатарская дзейнасць польскіх паноў і каталіцкага касцёла — усё гэта стварала незвычайныя цяжкасці на шляху фарміравання новай беларускай літаратурнай мовы. Ёй давялося развівацца без непасрэднай сувязі са здабыткамі і традыцыямі старой беларускай пісьмовай мовы, абапіраючыся выключна на жывую мову народа. Нанова складваліся графічная сістэма, правапісныя і граматычныя нормы, грамадска-палітычная, навуковая і іншая лексіка, не звязаная з працоўнай дзейнасцю і бытам сялянства.

Важнейшай, а па сутнасці адзінай, сферай развіцця нацыянальнай мовы ў першай палове XIX ст. з'яўлялася мастацкая літаратура. У якасці першых творцаў — пачынальнікаў новай беларускай літаратуры выступілі інтэлігенты — прадстаўнікі апалячанай беларускай шляхты — Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Аляксандр Рыпінскі, Уладзіслаў Сыракомля (Кандратовіч), Вінцук Дунін-Марцінкевіч і інш. Усе яны, аднак, лічылі сябе палякамі, і творчасць на беларускай мове для большасці з іх не з'яўлялася галоўнай справай жыцця. Некаторыя, як А. Рыпінскі, ставілі сваёй мэтай хутчэйшае далучэнне беларусаў да польскай культуры. Толькі ў адносінах да В. Дуніна-Марцінкевіча маюцца пэўныя сведчанні аб тым, што ён прызнаваў існаванне самастойнага беларускага этнасу, нацыянальнай мовы і культуры беларусаў. І хаця называўся палякам, аднак праявіў сябе менавіта як беларускі пісьменнік, паэт і драматург, які свядома аддаў беларускаму народу ўвесь свой талент. Характэрным для беларускамоўнай творчасці гэтых пісьменнікаў з'яўлялася ўжыванне лацінскага алфавіта.

Незвычайна цяжкай, асабліва напачатку, была праблема друкавання і распаўсюджання беларускіх твораў. Родная мова ў школе не вывучалася. Адсутнічалі беларускамоўныя часопісы і газеты, сталы кантынгент чытачоў. Грамадская думка — руская і польская — сцвярджала аб адсутнасці беларусаў як

этнасу і ў цэлым адмоўна ставілася да спроб літаратурнай творчасці на беларускай мове. Аўтар мог выдаць свой твор, толькі ахвяраваўшы ўласныя сродкі, прытым без усялякай надзеі на самаакупнасць выдання. Такіх сродкаў найчасцей не было. У сувязі з гэтым многія беларускія творы ў XIX ст. распаўсюджваліся ў рукапіснай форме і да нашага часу не дайшлі. Асабліва цяжка стала ў канцы 50-ых гадоў, калі ў Расіі было забаронена друкаванне ўкраінскіх, а разам з тым і беларускіх кніг лацінскім шрыфтам. Такое становішча прымусіла многіх, выхаваных у польскай культуры, інтэлігентаў, якія жадалі і маглі пісаць па-беларуску, увогуле адмовіцца ад сваіх намераў і замоўкнуць назаўсёды. Якраз гэтым тлумачыцца характэрная для беларускай літаратуры XIX ст. ананімнасць твораў, нават такіх таленавітых, як паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Некалькі дзесяткаў гадоў распаўсюджваліся яны ў рукапісах. Урывак з «Энеіды» быў апублікаваны ў 1845 г. у рускамоўным часопісе «Маяк», а «Тарас на Парнасе» ўпершыню ўбачыў свет на старонках газеты «Минский листок» ажно ў 1889 г.

Пры адсутнасці традыцый пісьмовага афармлення жывой мовы народа і стыхійным характары выпрацоўкі новых літаратурных норм аўтары і выдаўцы беларускіх твораў кіраваліся ў асноўным фанетычным прынцыпам правапісу, скарыстоўвалі пры гэтым пісьмовыя традыцыі польскай або рускай літаратурнай мовы: графіку (лацінку польскага ці кірыліцу рускага ўзору) і ў неабходных выпадках адпаведную лексіку. Абапіраючыся на дыялект сваёй роднай мясцовасці, кожны аўтар і выдавец па-свойму перадаваў спецыфічныя асаблівасці беларускай мовы. Тым не менш друкаванае беларускае слова нават і ў такім недасканалым выглядзе спрыяла развіццю міждыялектных сувязей і фарміраванню адзінай нацыянальнай мовы.

Ужыванне беларускай мовы ў друку прыкметна пашырылася ў перыяд рэвалюцыйнай сітуацыі канца 50 — пачатку 60-ых гадоў. З боку польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў (памяркоўных «чырвоных») беларускім сялянам адрасаваліся розныя агітацыйныя выданні («Гутарка старога дзеда», «Гутарка двух суседаў», «Перадсмяротны размавор пустэльніка Пятра...» і інш.), у якіх рэзка крытыкавалася палітыка царызму і прапагандаваліся ідэі класавага міру паміж беларускім сялянствам і польскім панам у мэтах агульнай барацьбы за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Палітычныя мэты выразна ставіліся нават у «Элементажы для добрых дзетак-католікаў», выдадзеным у Варшаве ў 1862 г., а таксама ў «Песнях набожных» (1861 г.).

Выдатную ролю ў станаўленні беларускай рэвалюцыйнай публіцыстыкі адыгралі «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага і яго «Пісьмо з-пад шыбеніцы». У час паўстання па-беларуску друкаваліся некаторыя загады, аб'явы, звароты да насельніцтва з боку Віленскага паўстанцкага цэнтра і кіраўнікоў асобных атрадаў.

І. І. Насовіч.

Яўхім Карскі.

Усё гэта садзейнічала развіццю адпаведных стыляў у беларускай літаратурнай мове.

Шырокае распаўсюджанне «Мужыцкай праўды» і ананімных «гутарак» прымушала і афіцыйныя ўлады выкарыстоўваць беларускае друкаванае слова ў мэтах контррэвалюцыйнай агітацыі. Матэрыялы, што прапагандавалі сярод сялян царысцкія ілюзіі і ідэі афіцыйнага праваслаўя, друкаваліся ў пачатку 60-ых гадоў у «Могилевских губернских ведомостях», кнігах «Бяседа старога вольніка з новымі пра іхняе дзела», «Рассказы на белорусском наречии». Намячалася нават выданне афіцыйнай газеты на беларускай мове. Паражэнне паўстання паклала канец гэтым спробам. Кончыліся ваганні і ў адносінах дапушчэння беларускай мовы ў пачатковую школу. І. П. Карнілаў, папячыцель Віленскай навучальнай акругі, кіраваўся ў сваёй дзейнасці дэвізам: «Руская адукацыя мацней за рускі штык». Адным з вынікаў такой палітыкі было тое, што на працягу чвэрці стагоддзя пасля 1863 г. у легальным друку Расіі не з'явілася ніводнага беларускага мастацкага твора.

З мэтай навуковага абгрунтавання русіфікатарскай палітыкі на Беларусі царскі ўрад не шкадаваў сродкаў на шматтомныя выданні архіўных дакументаў па гісторыі краю, на этнаграфічныя даследаванні, збор і публікацыю фальклорных запісаў, песень, казак, прымавак, загадак, абра-

даў і звычаяў беларускага сялянства. У выніку ў 60—90-ыя гады былі сабраны і апублікаваны унікальныя па багацці і каштоўнасці матэрыялы пра мову і духоўную культуру беларускага народа, якія — насуперак афіцыйным установкам — аб'ектыўна засведчылі факт існавання самастойнага беларускага этнасу (даследаванні І. І. Насовіча, М. А. Дзмітрыева, Ю. Ф. Крачкоўскага, А. М. Семянтоўскага, М. Я. Нікіфароўскага, Я. Ф. Карскага, М. Федароўскага, Е. Р. Раманава і многіх іншых). На іх аснове адпаведныя высновы былі сфармуляваны ў асяроддзі беларускай студэнцкай моладзі ў пачатку 80-ых гадоў XIX ст. У сваіх падпольных выданнях яны неаднаразова спасылаліся на даследаванні этнографаў і лінгвістаў. Напрыклад, у № 2 «Гомона» адзначалася: «Беларусь мае сваю асаблівую мову, якая, на думку вопытных філолагаў, мае шмат цікавага, бо найбольш захавала рэшткаў чыстай славянскай гаворкі (Сразнеўскі). Беларуская мова з часам можа атрымаць такое ж права і грамадзянства, як і мова маларуская... Усе гэтыя асаблівасці Беларусі даюць права на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народаў Расіі».

Першыя, пасля 25-гадовага перапынку, беларускамоўныя публікацыі ў падцэнзурным расійскім друку з'явіліся толькі ў канцы 80 — пачатку 90-ых гадоў, дзякуючы намаганням прадстаўнікоў ліберальна-народніцкай інтэлігенцыі, што групавалася вакол адзінай на Беларусі незалежнай ад урада газеты «Минский листок» (1886—1902 гг.). Разам з гістарычнымі і этнаграфічнымі даследаваннямі і фальклорнымі запісамі М. Доўнар-Запольскага, М. Янчука, А. Слупскага і іншых вучоных на яе старонках зрэдку змяшчаліся і мастацкія творы на беларускай мове — Янкі Лучыны, Каруся Каганца, Адама Бярозы, Рыгора Цягло і інш. Адначасова пад рэдакцыяй М. Доўнар-Запольскага ў Маскве быў выдадзены «Календарь Северо-Западного края на 1889 год», у якім удалося надрукаваць амаль поўны тэкст паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча «Гапон», два вершы на беларускай мове, а таксама запісы народных песень. У календары на 1890 г.

Н. А. Янчук.

М. В. Доўнар-Запольскі.

М. Доўнар-Запольскі намагаўся апублікаваць «Пінскую шляхту» В. Дуніна-Марцінкевіча і яго біяграфію, аднак цэнзура не дазволіла зрабіць гэта. У тым жа накірунку дзейнічалі і выдаўцы «Северо-Западного календаря» на 1892 і 1893 гады, які выходзіў у Менску пад рэдакцыяй гісторыка і археолага А. Слупскага. У гэтых кніжках убачылі свет некалькі арыгінальных твораў і перакладаў Янкі Лучыны.

З названых публікацый у 90-ыя гады пачалося пэўнае, хоць і вельмі няўстойлівае, ажыўленне падцэнзурнага беларускамоўнага друку. Паэма «Тарас на Парнасе» тройчы перавыдавалася ў Віцебску (1896, 1898, 1904 гг.), двойчы ў Гародні (1896, 1899 гг.) і Магілёве (1900, 1902 гг.). У Пецярбургу ў 1903 г. выйшаў з друку зборнік вершаў Янкі Лучыны «Вязанка», а ў 1904 г.— зборнік «Казкі». Раней некалькі сваіх твораў надрукаваў у Пецярбургу Аляксандр Ельскі («Сынок», «Скарэй у Томск!», «Слова аб праклятай гарэлцы»). З канца 90-ых гадоў у Віцебску пачаў актыўна друкавацца А. Пшчолка («Янкина жалоба», «Белорусские рассказы», «Микитовы хаўтуры», «Пилипово веселле» і інш.). У перакладзе з рускай мовы ў Маскве ў 1891 г. асобнай кніжкай выйшаў «Сігнал» У. Гаршына. У Чарнігаве М. Косіч у 1903 г. выдала «Переложение некоторых басен Крылова на белорусское наречие». У тым жа годзе ў Варшаве з'явіўся пераклад апавядання вядомага польскага пісьменніка Стэфана Жэромскага «Да майго Бога».

І па ідэйных, і па моўнамастацкіх вартасцях названыя публікацыі былі вельмі розныя. Найбольшай папулярнасцю, як відаць па колькасці выданняў, карысталася высокамастацкая паэма «Тарас на Парнасе», якая на той час адыграла вельмі значную ролю ў станаўленні новай літаратурнай мовы. Тое ж датычыць і зборніка «Вязанка». У ім, як і ў названай паэме, амаль не было вузкіх дыялектызмаў і непатрэбных іншамоўных запазычанняў. Пасля невядомага аўтара паэмы і В. Дуніна-Марцінкевіча Янка Лучына зрабіў наступны крок у

літаратурнай апрацоўцы сярэдне-беларускай гаворкі, якая паступова станавілася асновай беларускай літаратурнай мовы. Высокімі літаратурнымі якасцямі вызначылася і апрацоўка народных казак, сабраных у зборніку «Казкі», якія пазней сталі хрэстаматыйнымі. Публікацыі А. Ельскага, А. Пшчолкі, М. Косіч з прычыны нізкага мастацкага ўзроўню станоўча не паўплывалі на літаратурны працэс і засталіся ўбаку ад магістральнага шляху фарміравання беларускай нацыянальнай мовы.

Названымі выданнямі вычэрпваецца спіс легальных беларускамоўных публікацый у Расіі за чатыры з паловай дзесяцігоддзі, што прайшлі ад рэформы 1861 г. да пачатку рэвалюцыі 1905—1907 гг. Пры відавочнай іх нешматлікасці і нават выпадковасці з'яўлення, што тлумачыцца сваволам царскай цэнзуры, істотнае значэнне ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы набывалі бесцэнзурныя публікацыі, якія ажыццяўляліся за межамі Расійскай імперыі. Пераважна гэта былі агітацыйныя выданні, што зыходзілі ад рэвалюцыйных народніцкіх арганізацый.

Першым замежным беларускамоўным выданнем была брашура С. Падалінскага «Пра багацтва ды беднасць», надрукаваная ў Жэневе ў 1881 г. у перакладзе з украінскай мовы. Ініцыятарам беларускага выдання выступіў выдатны ўкраінскі публіцыст М. Драгаманаў, які напісаў для яго невялічкую прадмову. Прозвішча перакладчыка засталося невядомым. А гэта быў чалавек, які выдатна валодаў беларускай мовай і меў пісьменніцкі талент. Прыстасоўваючы ўкраінскі арыгінал да беларускага чытача, перакладчык зрабіў нямала ўставак і змен і прыкметна ўзмацніў мастацкія якасці тэксту[69].

У 1892 г. у Тыльзіце (Прусія) была надрукавана брашура «Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем». Як вызначыў С. Александровіч, гэта быў творча перапрацаваны пераклад польскай сацыялістычнай брашуры «Бацька Шыман», якая ў сваю чаргу зместам і формай была звязана з вядомым агітацыйным творам рускага народніка В. Варзара «Хітрая механіка», а таксама з брашурай С. Падалінскага «Пра багацтва ды беднасць». Выдаўцом «Дзядзькі Антона», а магчыма і перакладчыкам, быў польскі сацыяліст Мар'ян Абрамовіч[70], які ў пачатку 90-ых гадоў з'яўляўся адным з кіраўнікоў інтэрнацыянальнай студэнцкай арганізацыі ў Маскве. Годам раней гэтая ж арганізацыя выдала на беларускай мове «Сігнал» У. Гаршына.

У 1903 г. Польская сацыялістычная партыя ў Літве арганізавала выданне ў Лондане трох брашур на беларускай мове: «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Хто праўдзівы прыяцель беднага народа» і «Як зрабіць, каб людзям стала добра на свеце». Першае з названых выданняў з'яўлялася варыянтам «Дзядзькі Антона». Брашуры адрасаваліся беларускім сялянам і мелі на мэце пераканаць іх у антынародным характары



Францішак Багушэвіч

дзяржаўнага і грамадскага ладу Расійскай імперыі, раскрыць прычыны існавання багатых і бедных, цяжкага становішча апошніх, механізм капіталістычнай эксплуатацыі, паказаць неабходнасць сумеснай барацьбы сялян і рабочых за ўстанаўленне народнай улады і пераход у рукі ўсяго народа зямлі, фабрык і заводаў як асновы пабудовы справядлівага ладу жыцця. Брашуры былі напісаны добрай літаратурнай мовай. Толькі зрэдку ў іх сустракаліся асобныя паланізмы. Гэтыя выданні, а таксама беларускамоўныя лістоўкі ППС у Літве і Беларускай сацыялістычнай грамады («Да браця мужыкоў», «Браця мужыкі» і інш.) садзейнічалі распрацоўцы і замацаванню ў беларускай літаратурнай мове новай грамадска-палітычнай і эканамічнай лексікі і агітацыйнага стылю.

З-за цэнзурных умоў не мог публікаваць свае мастацкія творы ў Расіі Францішак Багушэвіч (1840—1900 гг.). Першы зборнік сваіх вершаў «Дудка беларуская» ён выдаў у 1891 г. у Кракаве пад псеўданімам Мацей Бурачок, другі — «Смык беларускі» — убачыў свет у Познані ў 1894 г. таксама пад псеўданімам (Сымон Рэўка з-пад Барысава). У 1896 г. у Кракаве выйшла паўторнае выданне «Дудкі беларускай». Невядомы лёс трэцяга зборніка вершаў — «Скрыпачкі беларускай», а таксама зборніка «Беларускія апавяданні Бурачка». Апошні ў канцы 90-ых гадоў быў пададзены ў цэнзуру, але ў свет не выйшаў. Праз сваю «Дудку беларускую» Ф. Багушэвіч першы з беларускіх пісьменнікаў абвясціў існаванне беларускага этнасу, адзначыў самастойнасць беларускай мовы і прынцыповую яе роўнасць з усімі іншымі мовамі, заклікаў беларусаў шанаваць і любіць сваю родную мову, папярэдзіў народ аб тым, што, страціўшы мову, ён як этнас загіне. Творчасць Ф. Багушэвіча прысвячалася беларускаму сялянству, абуджэнню яго нацыянальнай і класавай свядомасці. Менавіта Ф. Багушэвіч стаў пачынальнікам крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры. Для паэтычнай мовы Ф. Багушэвіча быў характэрны дыялект Віленскага краю, перанасычаны паланізмамі. У сувязі з гэтым яго ўздзеянне на фарміраванне бе-

ларускай нацыянальнай мовы змяншалася.

Аб незвычайна цяжкіх шляхах беларускага друкаванага слова ў Расіі сведчаць факты падпольнага выдання ў Пецярбургу ў 1904 г. на гектографе двух невялічкіх зборнікаў — «Каляднай пісанкі» і «Вялікоднай пісанкі». Выдаўцы змясцілі ў іх творы Каруся Каганца, Янкі Лучыны, Цёткі (Алаізы Пашкевіч), Фелікса Умястоўскага (дзядзькі Пранука) і інш. Вядома, іх уплыў, з-за малога тыражу, быў мізэрны. Цэнзурныя ўмовы, а фактычна — забарона беларускамоўнага друку, з'явіліся галоўнай прычынай таго, што працэс нараджэння беларускай нацыянальнай мовы да пачатку рэвалюцыі 1905—1907 гг. не завяршыўся.

**Беларускі нацыянальны рух.** Працэс складвання нацыі праяўляецца ў нацыянальным руху. Гістарычная заканамернасць з'яўлення нацыянальных рухаў звязана з эпохай канчатковай перамогі капіталізму над феадалізмам і вызначаецца тым, што «для поўнай перамогі таварнай вытворчасці неабходна заваяванне ўнутранага рынку буржуазіяй, неабходна дзяржаўнае згуртаванне тэрыторый з насельніцтвам, якое гаворыць на адной мове, пры ліквідацыі ўсіх перашкод развіццю гэтай мовы і замацаванню яе ў літаратуры»[71]. Тэндэнцыяй усякага нацыянальнага руху з'яўляецца ўтварэнне нацыянальнай дзяржавы, якая найлепш забяспечвае адзінства мовы і бесперашкоднае яе развіццё ва ўсіх сферах гаспадаркі і грамадскага жыцця.

Прадвеснікамі беларускага нацыянальнага руху з'явіліся мясцовыя інтэлігенты — пісьменнікі, публіцысты, этнографы, якія ў першай палове XIX ст. зацікавіліся беларускім этнасам, пачалі вывучаць яго песні, казкі, звычаі і абрады, запісваць і публікаваць іх, а некаторыя — і тварыць на жывой народнай мове ўласныя «песні». Гэта — названыя ўжо Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Аляксандр Рыпінскі, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, невядомыя аўтары паэм «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе» і інш. Некаторыя з іх усведамлялі існаванне самастойнага беларускага этнасу, але не заявілі сябе яго прадстаўнікамі, не выступілі ў якасці ідэолагаў нацыі.

У другой палове 50-ых гадоў, у перыяд грамадскага абуджэння ў Расіі, назіраўся і пэўны ўздым беларускага нацыянальна-культурнага руху сярод інтэлігенцыі Вільні, Менска, Віцебска (гурткі А. Кіркора, В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Вярыгі-Дарэўскага). Беларускае нацыянальнае пытанне — у сувязі з польскім, літоўскім, украінскім — ставілася на сходках зямляцтваў і гурткоў рэвалюцыйнай моладзі з ліку ўраджэнцаў заходніх губерняў, якія займаліся ў цывільных і ваенных навучальных установах Пецярбурга. Аб усім гэтым было вядома, у прыватнасці, у рэдакцыі часопіса «Колокол». Менавіта А. І. Герцэн, М. А. Бакунін і М. П. Агароў на перагаворах з прадстаўнікамі Варшаўскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў пачатку 60-ых гадоў паставілі пытанне аб прадастаў-

ленні права на самавызначэнне былым «правінцыям» Рэчы Паспалітай — Літве, Беларусі і Украіне. Актыўнымі ўдзельнікамі польска-літоўска-беларускіх гурткоў у Пецярбургу ў другой палове 50-ых гадоў былі браты Віктар і Кастусь Каліноўскія.

К. Каліноўскі, як паказана вышэй, па нацыянальным пытанні падзяляў погляды ідэолагаў рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі і выступаў з патрабаваннем дзяржаўнай самастойнасці для Беларусі і Літвы. Аднак з-за слабасці рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні ў кіраўніцтве паўстаннем, асабліва ў Варшаўскім ЦНК, ён быў вымушаны падпарадкоўвацца апошняму, дзейнічаць ад імя польскага ўрада і выконваць яго праграму, у якой не знайшлося месца для прызнання за беларусамі і літоўцамі права на ўтварэнне самастойнай дзяржавы. Таму ў «Мужыцкай праўдзе» і ў афіцыйных дакументах Віленскага паўстанцкага цэнтра адпаведнае патрабаванне не выстаўлялася.

Нацыянальныя пачуцці К. Каліноўскага найбольш поўна выявіліся ў «Пісьме з-пад шыбеніцы», у якім ён адназначна далучаў сябе да мужыкоў-беларусаў і выступаў ад іх імя. З тэксту вынікае, што «Рöнд Польскі» — не свой для Каліноўскага, як і для мужыкоў-беларусаў. Праўда, у агітацыйных мэтах Каліноўскі заявіў, што польскі ўрад у адрозненне ад маскоўскага «ўсім братнім народам дае самакіраванне». У такой форме ён выказаў тое, чаго дамагаўся ад польскага ўрада, але рэальна дабіцца не змог. Магчыма, яму і даваліся нейкія абяцанні ў гэтых адносінах. Ва ўсякім разе, ён не страціў надзеі на тое, што польскія рэвалюцыянеры раней ці пазней дадуць сваім саюзнікам па барацьбе з царызмам — беларускаму, літоўскаму і ўкраінскаму народам права на самакіраванне. Разам з тым Каліноўскі выказаў пратэст супраць русіфікатарскай палітыкі царызму ў школах Беларусі і Літвы і патрабаванне вучыць дзяцей так, «як народ таго хоча», у тым ліку і па-беларуску[72]. Нацыянальным веравызнаннем беларускага народа К. Каліноўскі прызнаваў уніяцтва.

Падаўленне паўстання 1863—1864 гг. і масавыя рэпрэсіі ў адносінах да яго ўдзельнікаў, жорсткі рэжым выключных законаў, устаноўлены ў краі, фактычная забарона беларускага друку надоўга затрымалі развіццё на Беларусі нацыянальнага і ў цэлым вызваленчага руху. Апошні ажывіўся толькі ў канцы 70-ых гадоў — у перыяд другой рэвалюцыйнай сітуацыі, калі ў барацьбу ўступіла новае пакаленне рэвалюцыйных дэмакратаў. Перадавая беларуская моладзь, найперш з ліку навучэнцаў, дзейнічала ў той час у шэрагах агульнарасійскіх народніцкіх арганізацый «Зямля і Воля», «Народная воля», «Чорны перадзел». На рубяжы 70—80-ых гадоў у вышэйшых навучальных установах Пецярбурга і іншых гарадоў утварыліся гурткі студэнтаў-беларусаў рэвалюцыйнадэмакратычнага (нарадавольніцкага) і ліберальна-асветніцкага накірункаў. Падпольна, на гектографе, яны выдалі некалькі

публіцыстычных твораў: адозвы «Да беларускай моладзі» і «Да беларускай інтэлігенцыі», «Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае» за подпісам «Даніла Баравік», «Пасланне да землякоўбеларусаў» за подпісам «Шчыры беларус», два нумары часопіса «Гоман» (усё — на рускай мове)[73].

У названых публікацыях упершыню не толькі абвяшчалася існаванне самастойнага беларускага этнасу, як «асобнай галіны славянскага племені», але і давалася тэарэтычнае абгрунтаванне гэтага тэзіса. Невядомыя аўтары адзначылі спецыфічныя кліматычныя, прыроднагеаграфічныя, гістарычныя і этнаграфічныя ўмовы, якія адрознівалі Беларусь ад Вялікаросіі, Польшчы і Украіны, у тым ліку і своеасаблівую мову. Яны канстатавалі, што беларускі народ адчувае сваю арганічную еднасць і адрознівае свае інтарэсы ад інтарэсаў «польскіх і вялікарасійскіх». Яны пратэставалі супраць русіфікацыі і паланізацыі беларусаў, выкрывалі рэакцыйнасць поглядаў на беларускі народ «як на нейкі матэрыял для ўсемагчымых эксперыментаў, а не як на жывую народнасць, здольную самастойна распараджацца сабою».

Адзінства поглядаў на задачы нацыянальнага руху сярод розных груп беларускіх народнікаў не было. Аўтары адозвы «Да беларускай моладзі» канстатавалі, што беларускі народ «складае велізарную большасць насельніцтва цэлага краю, што, нягледзячы на гэта, ён зусім безгалосы, не мае прадстаўнікоў для абароны сваіх правоў і інтарэсаў». Такое становішча яны звязвалі з існаваннем эксплуататарскага ладу і лічылі, што яго можна змяніць шляхам мірнай рэвалюцыі. Першачарговай задачай, на іх думку, з'яўлялася дзейнасць, накіраваная на ўзняцце маральнага, разумовага і эканамічнага ўзроўню народа. Разам з тым у адозве заяўлялася: «Наш народ, як і ўсякі іншы, мае падставы, а значыць, і законныя правы на выбранне з сябе самастойнага і раўнапраўнага члена агульнай славянскай сям'і»[74]. Адозва заклікала моладзь да аб'яднання ў самастойную дэмакратычную арганізацыю пад назвай «Беларуская грамада». Пытанне аб стратэгіі і тактыцы дасягнення пастаўленых мэт па сутнасці не ставілася. Устаноўка аўтараў на «мірную рэвалюцыю» ва ўмовах царскага самадзяржаўя была ўтапічнай.

Выдаўцы «Пісьма» Данілы Баравіка адзначылі, што беларуская інтэлігенцыя тэарэтычна добра ведае кітайцаў, аўстралійцаў, індыйцаў, старажытных грэкаў і рымлян, а свой народ ёй уяўляецца загадкавым сфінксам. Яны канстатавалі значнае адставанне ў вывучэнні Беларусі ў параўнанні з Вялікаросіяй, Украінай, Польшчай і іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі. У «Пісьме» падкрэслівалася, што просты беларускі народ, нягледзячы на ўсе цяжкія гістарычныя выпрабаванні, выстаяў, не паддаўся ні паланізацыі, ні русіфікацыі, захаваў сябе як асобную народнасць, звязаную «адзінствам мясцовага жыцця». Рэжым, ус-

таноўлены на Беларусі пасля падаўлення паўстання 1863 г., характарызаваўся як «асобае ваеннае становішча», якое выключала любую законнасць і любыя рэформы. Тым не менш адзінай задачай беларускай інтэлігенцыі аб'яўлялася «арганічная работа на карысць радзімы», якая па сутнасці зводзілася да вывучэння народнага жыцця. Аўтары «Пісьма» заклікалі беларускую інтэлігенцыю стаць «як мага бліжэй да народа і ўсімі сіламі садзейнічаць узняццю яго эканамічнага і маральнага быту, абуджэнню яго самасвядомасці». Ніякай палітычнай праграмы «пісьмо» не прапаноўвала, калі не лічыць абстрактнай заявы пра тое, што для Беларусі «патрэбна шырокае і самастойнае абласное жыццё». Такім чынам група Данілы Баравіка абмяжоўвала праграму нацыянальнага руху выключна культурна-асветніцкай дзейнасцю[75].

У сувязі з «Пісьмом» Данілы Баравіка ў студзені 1884 г. з'явілася «Пасланне да землякоў-беларусаў» за подпісам «Шчыры беларус». У «Пасланні» канстатавалася, што і на Беларусі, «сціснутай у яжовых рукавіцах бюракратыі і мілітарызму», пачалося ажыўленне нацыянальнага руху. Аўтары не адмаўлялі карыснасці праграмы Данілы Баравіка, але прызнавалі яе недастатковай, бо, на іх думку, рэальныя ўмовы, шматлікія забароны і розныя рэпрэсіі на кожным кроку перашкаджалі ажыццяўленню новых ідэй і вынікаў навуковых даследаванняў, накіраваных на павышэнне духоўнага і эканамічнага ўзроўню жыцця народа. У сувязі з гэтым у якасці першачарговай выстаўлялася задача звяржэння абсалютызму ў Расіі, які супярэчыў усяму ходу цывілізацыі. «Пакуль у нас не будзе заваявана свабода,— гаварылася ў «Пасланні»,— да тых пор выключаецца магчымасць выкарыстання і сотай долі таго, што ўжо выпрацавалі навука і прагрэс». Група «Шчырага беларуса», цалкам салідарызавалася з праграмай і дзейнасцю агульнарасійскай рэвалюцыйнай партыі «Народная воля» і выказала надзею, што да агульнай барацьбы з дэспатызмам раней ці пазней далучацца групы польская, літоўская і інш.[76]. Канкрэтнай палітычнай праграмы беларускага нацыянальнага руху яна не прапанавала.

У канцы 1883 г. распаўсюджвалася адозва «Да беларускай інтэлігенцыі». Невядомыя аўтары характарызавалі беларускі народ як плебейскую нацыю, якая не мела сваёй інтэлігенцыі і выдзяляла з сябе сілы, што служылі польскай або велікарускай культуры. Народ, сцвярджалася ў адозве, не паддаваўся спробам паланізаваць ці русіфікаваць яго і свята захоўваў устоі свайго жыцця. У сувязі з гэтым фармулявалася задача беларускай інтэлігенцыі: «разварушыць магутныя сілы свайго народа... даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній, глыбока схаваны ад грабежніцкіх памкненняў палякаў і велікарускага двухгаловага арла». Аўтары адозвы, як і група «Шчырага беларуса», заклікалі да барацьбы з абсалютызмам, бо

лічылі, што ўсякае абмежаванне манархічнага сваволу будзе для беларускага народа крокам да вызвалення і дасць магчымасць больш свабодна развіваць сваю культуру і распараджацца ў сваім унутраным жыцці[77].

Найбольшы ўклад у распрацоўку беларускага нацыянальнага пытання і задач нацыянальнага руху ўнеслі два нумары гектаграфаванага часопіса «Гоман», выдадзеныя ў Пецярбургу ў 1884 г. Дачыненне да іх выдання, па матэрыялах следства, мелі студэнты, ураджэнцы Беларусі А. Марчанка, Х. Ратнер і інш. Мяркуючы па карэспандэнцыях, група мела сувязі ў Вільні, Віцебску, Менску, Кіеве, Харкаве, у Слуцкім і Дзісненскім паветах. У заяве рэдакцыі (№ 1) адзначалася, што часопіс меў на мэце служыць выразнікам ідэй сацыяльна-рэвалюцыйнай групы беларусаў, якая «зусім нядаўна выступіла на арэне дзейнасці ў сябе на радзіме і атаясаміла свае інтарэсы з інтарэсамі беларускай народнасці». Па нацыянальным пытанні група падтрымлівала і прапагандавала «прынцып абласной самастойнасці як аснову для будучага федэральна-палітычнага ладу». Яна абвясціла права беларускага народа «кіраваць сабою», «распараджацца сваім лёсам», «заняць у Расіі такое ж месца, якое імкнуцца заняць іншыя больш ці менш буйныя народнасці». Рэдакцыя падкрэслівала, што Радзіма толькі тады зможа забяспечыць сваю самастойнасць, калі яна «сама сваімі ўласнымі сіламі даб'ецца свабоды, сама ўладкуецца». Для гэтага гоманаўцы прызналі неабходным выданне спецыяльнага беларускага органа д[illegible] і стварэнне самастойнай а[illegible]сной рэвалюцыйнай арганізац[illegible] якая з'яўлялася б «арганічнай часткай насельніцтва свайго раёна». Разам з тым яны лічылі абавязковымі ў неабходных выпадках самыя цесныя зносіны і поўную салідарнасць паміж асобнымі мясцовымі арганізацыямі, а таксама дапамогу з іх боку цэнтральным групам, якія дзейнічалі ў сталіцах.

Неабходнасць салідарнасці мясцовых арганізацый з агульнарасійскай партыяй «Народная воля» была яшчэ больш падкрэслена ў № 2 «Гомана», дзе было адназначна заяўлена, што сацыялісты-беларусы цалкам падзяляюць яе праграму і арганізацыйныя погляды і імкнуцца заняць у гэтай партыі адпаведнае месца з мэтай не толькі сумесна змагацца з дэспатызмам, але і пераканаць яе ў практычнай магчымасці ў будучым федэратыўнай самастойнасці Беларусі. Апошняе выклікалася тым, што Л. Ціхаміраў, адзін з лідэраў «Народнай волі», у часопісе «Вестник народной воли» заявіў аб «недарэчнасці» і «штучнасці» стварэння новых нацыянальнасцей, адносячы гэта да беларусаў. Рэдакцыя прызнала заявы Ціхамірава неабгрунтаванымі і, пацвярджаючы тэзіс аб існаванні беларускага этнасу, спаслалася на аўтарытэтныя выказванні М. Бакуніна, М. Драгаманава і іншых дзеячаў, якія прызнавалі права Беларусі — нароўні з Польшчаю і Украінаю — на федэратыўную неза-

лежнасць. «Вядома,— гаварылася ў рэдакцыйным артыкуле «Гомана»,— у народзе пакуль што няма свядомага імкнення да федэратыўнай незалежнасці ў тым яе выглядзе, як разумее гэта інтэлігенцыя, але неабходнасць гэтай незалежнасці вынікае сама сабою з усведамлення народам свайго адрознення ад суседзяў; гэта самастойнасць вынікае з эканамічных і кліматычных умоў Беларусі, якія істотна арозніваюцца ад умоў другіх абласцей Расіі, з арыгінальнасці характару самога народа»[78].

Рэдакцыя «Гомана» змясціла ў № 2 вялікі артыкул па нацыянальным пытанні (без назвы), які зыходзіў ад пецярбургскай групы, што называла сябе «беларускай мясцовай фракцыяй» партыі «Народная воля». Адным з заснавальнікаў гэтай арганізацыі быў Ігнат Грынявіцкі. У артыкуле дадзена разгорнутае навуковае абгрунтаванне прагрэсіўнасці працэсу ўзнікнення нацый і права кожнай нацыі на самавызначэнне свайго лёсу. Адносна сваёй радзімы аўтары адзначылі, што яна «мае ўсе арыгінальныя якасці, якія надаюць ёй своеасаблівую фізіяномію і самым натуральным чынам вылучаюць яе як асобную галіну славянскага племені». Пры гэтым яны спасылаліся на спецыфічныя прыродныя, кліматычныя і этнаграфічныя ўмовы, агульны гістарычны лёс народа, асобную мову, эканамічныя адносіны ў краі, усведамленне народам сваёй арганічнай еднасці і адрознення ад суседніх народаў. Зыходзячы з гэтага, аўтары заявілі аб сваёй рашучасці «энергічна абараняць Беларусь як ад польскага, так і вялікарасійскага насілля». Яны самавызначаліся як беларусы, рэвалюцыянеры і сацыялісты і ўступалі ў барацьбу на ідэйнай платформе «Народнай волі» ў імя інтарэсаў беларускага народа і права Беларусі «на аўтаномную федэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народнасцей Расіі». У цэлым дзяржаўны лад Расіі пасля звяржэння царызму ўяўляўся ім як канфедэрацыя асобных федэрацый. У артыкуле выказвалася ўпэўненасць у тым, што Беларусь у выніку барацьбы «перародзіцца для новага самастойнага жыцця і займе ганаровае месца сярод іншых федэрацый Расіі на прынцыпах свабоднага пагаднення з імі»[79].

У сярэдзіне 80-ых гадоў падпольныя гурткі беларускіх народнікаў былі разгромлены. Пазней — у канцы 80 — пачатку 90-ых гадоў — у Пецярбургу і Маскве дзейнічалі інтэрнацыянальныя студэнцкія арганізацыі, якія складаліся з ураджэнцаў заходніх губерняў — пераважна палякаў, літоўцаў і беларусаў. Пецярбургскі «Гурток моладзі польскай, літоўскай і беларускай» у пачатку 90-ых гадоў узначальваў беларускі паэт-дэмакрат Адам Гурыновіч. Ён меў сувязь з групай «Вызваленне працы», выпісваў з-за граніцы рэвалюцыйную, пераважна марксісцкую, літаратуру, якая вывучалася ў гуртках. Некаторыя члены арганізацыі вялі прапаганду сярод рабочых. У 1892 г. дэпартамент паліцыі затрымаў

пісьмо Гурыновіча, адрасаванае ў Цюрых, з просьбай выслаць для гурткоў шэраг прац Маркса, Энгельса, Бебеля, Пляханава, Аксельрода, Засуліч, а таксама некалькі ўкраінскіх выданняў і «Дудку беларускую» Ф. Багушэвіча.

Пэўны ўплыў марксізму адчуваўся і на дзейнасці Маскоўскай польска-літоўска-беларускай студэнцкай арганізацыі, звязанай з пецярбургскай. Да яе лідэраў належаў Мар'ян Абрамовіч, дзякуючы намаганням якога была выдадзена папулярная агітацыйная брашура «Дзядзька Антон». Як адзначалася вышэй, маскоўская арганізацыя выдала ў перакладзе на беларускую мову і апавяданне Ус. Гаршына «Сігнал». У ліку яе членаў былі вядомыя пазней дзеячы беларускага нацыянальнага руху Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) і Напалеон Чарноцкі. Вырашэнне нацыянальнага пытання ў дыскусіях, што праходзілі ў арганізацыі, звязвалася з утварэннем свабоднай федэрацыі славянскіх народаў. Маскоўская арганізацыя была разгромлена паліцыяй у канцы 1891 г., пецярбургская — летам 1893 г.

У канцы 90-ых гадоў сярод навучэнцаў Менска па ініцыятыве гімназістаў Івана і Антона Луцкевічаў утварыўся гурток з мэтай вывучэння Беларусі і распрацоўкі беларускага нацыянальнага пытання. Цесную сувязь з гуртком падтрымліваў пісьменнік Карусь Каганец (К. Кастравіцкі). У бібліятэцы гуртка меліся выданні В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, гістарычныя, этнаграфічныя і

Адам Гурыновіч

фальклорныя публікацыі. У 1902 г. браты Луцкевічы паступілі вучыцца ў Пецярбург і заснавалі там легальны студэнцкі «Гурток беларускай народнай асветы», які працягваў пачатую ў Менску дзейнасць. Менавіта ім былі выдадзены ў 1903 г. зборнік вершаў Янкі Лучыны «Вязанка», а ў 1904 г.— «Калядная чытанка», і «Вялікодная пісанка». Зімою 1902/03 г. на аснове нацыянальна-культурных гурткоў беларускай моладзі Менска, Вільні і Пецярбурга была ўтворана «Беларуская рэвалюцыйная грамада». Да ліку стваральнікаў і кіраўнікоў яе, акрамя І. і А. Луцкевічаў, адносіліся курсістка Алаіза Пашкевіч (Цётка), Казімір Кастравіцкі, Алесь Бурбіс, Вацлаў Іваноўскі, Фелікс Умястоўскі. Амаль усе

яны паходзілі з дробнапамеснай беларускай шляхты, у мінулым апалячанай.

На I з'ездзе ў 1903 г. БРГ прыняла праграму, у якой характарызавала сябе як сацыяльна-палітычную арганізацыю беларускага працоўнага народа. Сваёй канчатковай мэтай яна абвясціла знішчэнне капіталістычнага ладу і пераход у грамадскую ўласнасць зямлі, сродкаў вытворчасці і камунікацый. Бліжэйшай жа задачай было звяржэнне самадзяржаўя ў Расіі ва ўзаемадзеянні «з пралетарыятам усіх народаў Расійскага гасударства». Форма будучага дзяржаўнага ладу ў краіне не вызначалася. Па нацыянальным пытанні Грамада выступала за тое, «каб усе народы мелі як найбольшую свабоду», а самай жаданай формай забеспячэння нацыянальнай свабоды ў эпоху капіталізму прызнавалася незалежная дэмакратычная рэспубліка. Палітычную аснову яе павінны былі скласці: прамое, агульнае, роўнае выбарчае права з тайным галасаваннем, народнае заканадаўства з правам ініцыятывы і санкцыі, «спаўненне найвысшай уласці праз Канстытуцыйны сход», ліквідацыя пастаяннай арміі з заменай яе агульным апалчэннем народа, раўнапраўе ўсіх людзей незалежна ад полу, нацыянальнасці і веравызнання, бясплатны суд, выбарныя суддзі, падсуднасць чыноўнікаў, поўная свабода слова, друку, сходаў, сяброўстваў, таварыстваў, забастовак і інш.

Па аграрным пытанні праграма БРГ патрабавала скасавання прыватнай зямельнай уласнасці, абвяшчала права кожнага чалавека на апрацоўку зямлі «сваімі рукамі без карыстання з чужой працы» і заяўляла аб неабходнасці адначаснай прапаганды «ідэі ўсестаронняга сябравання і таварystваў» з мэтай пераходу да «сацыялістычнай гаспадаркі». У праграме былі патрабаванні 8-гадзіннага рабочага дня, устанаўлення мінімуму заработнай платы, роўнай платы пры роўнай працы, дзяржаўнага страхавання ад няшчасных выпадкаў, недастачы працы, ад хваробы і старасці, бясплатнай медыцынскай дапамогі і інш.

Тэарэтычнае абгрунтаванне і мінімальных і максімальных патрабаванняў у праграме адсутнічала. У цэлым жа ў ёй спалучаўся рэвалюцыйны дэмакратызм з народніцкім (сялянскім) сацыялізмам (ідэі ўраўняльнага землекарыстання і ўсебаковай кааперацыі як шлях да сацыялізму).

У гістарычнай літаратуры сустракаюцца памылковыя сцвярджэнні (са спасылкай на ўспаміны А. Бурбіса) аб тым, што БРГ на I з'ездзе «прыняла агулам праграму ППС». Гэта не адпавядае сапраўднасці. Па прыкладу ППС з'езд выказаўся за незалежную дэмакратычную рэспубліку, але Беларускую, а не Польскую. Прынцыпова адрознівалася БРГ ад ППС і пастаноўкай пытання аб звяржэнні самадзяржаўя ў Расіі ў саюзе з расійскім рэвалюцыйным рухам. Такой пазіцыі ў праграме ППС, якая вызначалася сепаратызмам, не было. Чужой для ППС з'яўлялася і ідэя сацыялізацыі зямлі з ураўняльным

землекарыстаннем. А ў цэлым трэба мець на ўвазе, што ва ўспамінах А. Бурбіса пераблытаны праграмныя рашэнні па нацыянальным пытанні, прынятыя на I і II (1906 г.) з'ездах Грамады.

Неабходна адзначыць і супярэчнасці, якія маюцца ў крыніцах і гістарыяграфіі, па пытанні аб назве Грамады. Паводле ўспамінаў А. Бурбіса («Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы»), БРГ на сваім I з'ездзе перайменавалася ў Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Гэты вывад шырока распаўсюдзіўся ў гістарычнай літаратуры. Аднак ва ўспамінах А. Луцкевіча («За дваццаць пяць гадоў») і Я. Хлябцэвіча («Цётка») сцвярджаецца, што гэта адбылося на II з'ездзе Грамады ў пачатку 1906 г. Першая праграма, а таксама ўсе грамадаўскія лістоўкі, выдадзеныя ў 1905 г., пацвярджаюць вывад А. Бурбіса. Але ён абвяргаецца лістоўкамі, выдадзенымі ў 1904 г., г. зн. пасля I з'езда, ад імя Беларускай рэвалюцыйнай грамады. Такім чынам, пытанне, калі і як БРГ перайменавалася ў БСГ, застаецца адкрытым.

У 1903—1904 гг. Беларуская грамада цесна ўзаемадзейнічала з ідэйна блізкімі ёй Польскай партыяй сацыялістычнай у Літве, Партыяй сацыялістаў-рэвалюцыянераў, Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыяй, Латышскім сацыял-дэмакратычным саюзам, выдавала з імі нелегальную літаратуру. У час руска-японскай вайны Грамада заклікала не ісці добраахвотна на вайну, хавацца ад мабілізацыі, не даваць грошай ні на флот, ні на царскі «Чырвоны крыж», рабіць усё, каб цар прайграў вайну. Нелегальныя выданні Грамады гэтага часу, у тым ліку «Нарыс праграмы», выходзілі пад марксісцкім дэвізам «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!». Распаўсюджваліся яны, як правіла, у сельскай мясцовасці — у паветах, прылеглых да Менска, а таксама на Гародзеншчыне і Віленшчыне. Асноўным аб'ектам уздзеяння з'яўлялася сялянства. Уплыў Грамады ў рабочым руху ў 1903—1904 гг. быў нязначным.

Такім чынам, чатыры парэформенныя дзесяцігоддзі XIX і першыя гады XX ст. з'явіліся важным этапам у працэсе ўтварэння беларускай нацыі. Нягледзячы на незвычайныя цяжкасці — рэжым выключных законаў, русіфікатарскую палітыку царызму і паланізатарскую дзейнасць польскіх паноў і касцёла, адсутнасць на Беларусі вышэйшых навучальных устаноў і г. д.,— фарміравалася інтэлігенцыя, якая паступова ўсведамляла сябе арганічнай часткай беларускага народа і пачала ствараць на аснове жывой дыялектнай народнай мовы літаратурную, нацыянальную мову. У пачатку 80-ых гадоў прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі тэарэтычна абгрунтавалі існаванне самастойнага беларускага этнасу і абвясцілі яго права на роўнасць з іншымі народамі, права на палітычнае самавызначэнне свайго лёсу. У першыя гады XX ст., у час трэцяй рэвалюцыйнай сітуацыі, завяршылася арганіза-

цыйнае афармленне першай нацыянальнай палітычнай партыі, якая выступіла з рэвалюцыйнадэмакратычнай праграмай барацьбы за нацыянальную свабоду беларускага народа. З прычыны існавання фактычнай забароны беларускамоўнага друку ў царскай Расіі, працэс складвання нацыянальнай літаратурнай мовы ў той час не завяршыўся. Беларуская нацыя ў перыяд капіталізму фармавалася як сялянская ў сваёй аснове. Працэс нацыянальнага самаўсведамлення беларускага сялянства замаруджваўся рэлігійным расколам, антыбеларускай накіраванасцю праваслаўнай («рускай») і каталіцкай («польскай») царквы, афіцыйнай школы, друку, дзяржаўных устаноў, беднасцю і непісьменнасцю большасці сялян.

## 4. Класавая барацьба. Узнікненне палітычных арганізацый і партый.

**Сялянскі і рабочы рух у 60—90-ых гадах.** Уздым сялянскага руху за зямлю і волю ў канцы 50 — пачатку 60-ых гадоў не перарос у сялянскую рэвалюцыю. Рэвалюцыйным дэмакратам на Беларусі не ўдалося зліць яго і з паўстаннем 1863 г. Падаўленне паўстання і ўстанаўленне ў краі рэжыму выключных законаў, а таксама вядомыя ўступкі царызму ў працэсе рэалізацыі рэформы 1861 г. мелі вынікам значнае і працяглае па часе аслабленне сялянскага руху. Колькасць выступленняў рэзка зменшылася і на працягу больш чым 40 наступных гадоў далёка не дасягала таго ўзроўню, які быў у перыяд рэвалюцыйнай сітуацыі. У 1864—1880 гг. на Беларусі штогод у сярэднім адбывалася 8—10 выступленняў сялян. Адносны ўздым сялянскага руху назіраўся толькі ў 80-ыя гады, калі гэты паказчык амаль падвоіўся. У 90-ыя гады наступіў чарговы спад[80].

Найбольш распаўсюджанымі ў беларускай вёсцы былі выступленні, звязаныя з пазямельнымі адносінамі сялян і памешчыкаў (захопы ворнай зямлі, лугоў і пашаў, барацьба за сервітуты, супраціўленне пры размежаванні зямель, патравы, парубкі лесу і г. д.). У 80—90-ыя гады іх удзельная вага дасягала 64,2 працэнта. Больш 1/3 складалі выступленні супраць улад, якія найчасцей праяўляліся ў супраціўленні пры выкананні судовых рашэнняў, пастаноў і распараджэнняў розных адміністрацыйных устаноў (амаль 27 працэнтаў усіх выступленняў). Унутрыкласавыя супярэчнасці ў сялянскім руху ў той час амаль не праяўляліся (1,1 працэнта выступленняў)[81].

Царскія ўлады пільна ахоўвалі інтарэсы памешчыкаў і казны, жорстка падаўлялі ўсе спробы захопаў зямлі і парушэння правоў землеўласнікаў, сілаю спаганялі нядоімкі, нярэдка забіралі

Селянін-араты. Рагачоўскі павет Магілёўскай губерні. Пач. XX ст.

пры гэтым апошнюю сялянскую маёмасць. З дэмагагічнай мураўёўскай палітыкай заігрывання з сялянствам было пакончана. У месцы, ахопленыя сялянскім рухам, у неабходных выпадках пасылаліся карныя атрады паліцыі, войска. Вайсковыя падраздзяленні пры гэтым накіроўваліся на «пастой», г. зн. размяшчаліся ў неспакойных вёсках і забяспечваліся за іх кошт.

Не зважаючы на ўсё гэта, сяляне ў масе сваёй працягвалі верыць у «добрага цара». Царысцкія ілюзіі беларускага сялянства пасля 1863 г. нават узмацніліся. Уплыў рэвалюцыйных дэмакратаў з-за слабасці і выпадковасці [illegible] вязей з вёскаю практычна не [illegible] уваўся. Сялянская барацьба [illegible] зямлю і волю ў парэформенныя дзесяцігоддзі заставалася стыхійнаю, лакальнаю, неарганізаванаю.

Прыгонніцкія перажыткі, адсутнасць палітычнай свабоды ў краіне, рэжым выключных законаў у заходнім раёне адмоўна адбіваліся на становішчы не толькі сялянства, але і класа наёмных рабочых, фарміраванне якога пасля рэформы 1861 г. істотна паскорылася. Галоўнай крыніцай папаўнення і колькаснага росту гэтага класа з'яўлялася пралетарызаванае вясковае насельніцтва. Адносная перанаселенасць беларускай вёскі ў парэформенныя дзесяцігоддзі рэзка ўзрасла. У той жа час рынак рабочай сілы ў гарадах і мястэчках быў перапоўнены яўрэйскай беднатой. У выніку адносны ўзровень перанасялення на Беларусі ў параўнанні з попы-

там на працу быў значна вышэйшы, чым сярэдні па Расіі. А гэта адпаведна пашырала магчымасць эксплуатацыі і сялян, і рабочых Беларусі і, у прыватнасці, дазваляла мясцовым прадпрымальнікам значна паніжаць заработную плату сваім рабочым. У канцы XIX — пачатку XX ст. сярэдняя гадавая заработная плата фабрычна-заводскага рабочага на Беларусі была на 31 працэнт ніжэй, чым у Расіі ў цэлым[82].

У першае парэформеннае дзесяцігоддзе эксплуатацыя рабочых у Расіі нікім і ніяк не абмяжоўвалася. У пагоні за максімальным прыбыткам капіталісты не жадалі траціцца на забеспячэнне нармальных умоў працы. Працяглы рабочы дзень— да 17—19 гадзін у суткі — у нездаровых, антысанітарных умовах ушчэнт знясільваў чалавека, тым больш — жанчын, дзяцей. Мізэрная заработная плата не забяспечвала мінімальных жыццёвых патрэб. У дадатак з яе вылічваліся адвольныя штрафы, якія папаўнялі кішэні фабрыкантаў і заводчыкаў. Прадпрымальнікі і іх адміністратары часта зусім не лічыліся з чалавечай годнасцю рабочых і работніц, маглі ў любы час прагнаць іх з работы. Хворым або пакалечаным рабочым не аказвалася медыцынская дапамога, іх звальнялі.

Спыніць наступленне капіталу на жыццёвы ўзровень рабочых магло толькі іх арганізаванае супрацоўленне. Рост рабочага руху ў буйных прамысловых цэнтрах краіны ў 70—80-ыя гады XIX ст. падштурхнуў царскі ўрад да ўвядзення некаторых абмежаванняў эксплуатацыі фабрычна-заводскіх рабочых. 1 чэрвеня 1882 г. быў выдадзены закон аб забароне на фабрыках, заводах і мануфактурах працы дзяцей да 12 гадоў. Закон абмяжоўваў працоўны дзень падлеткаў (12—15 гадоў) і вызваляў іх ад работы ў начны час і ў святочныя дні. У шкодных для здароўя вытворчасцях праца дзяцей і падлеткаў забаранялася. Для кантролю за выкананнем закона ўводзілася фабрычная інспекцыя. Законам ад 3 чэрвеня 1885 г. не дазвалялася начная праца жанчын і падлеткаў (да 17 гадоў) на тэкстыльных прадпрыемствах. Пасля вядомай Марозаўскай стачкі ў чэрвені 1886 г. быў выдадзены закон, які абавязваў увесці на прадпрыемствах разліковыя кніжкі. У іх фіксаваліся ўмовы найму. Мяняць апошнія да завяршэння тэрміну дагавору не дазвалялася. Забаранялася разлічвацца з рабочымі купонамі і таварамі. На фабрыках уводзіліся правілы ўнутранага распарадку. За іх парушэнні спаганяліся ўстаноўленыя штрафы, прычым штрафныя грошы ішлі не ў прыбытак капіталісту, а павінны былі расходавацца на патрэбы рабочых.

Пад уздзеяннем масавых рабочых стачак царскі ўрад 2 чэрвеня 1897 г. выдаў закон аб абмежаванні рабочага дня на фабрыках і заводах 11,5 гадзіны, а 2 чэрвеня 1903 г.— аб дапамозе рабочым, якія пацярпелі ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці. Першы з гэтых законаў, акрамя абмежавання рабочага дня, устанаўліваў абавязко-

Добрушская папяровая фабрыка.

выя нядзельныя і святочныя дні адпачынку (66 дзён на год)[83].

Ва ўсіх адзначаных законах меліся, аднак, выключэнні, якія ў значнай меры абясцэньвалі іх значэнне для рабочых. Так, закон ад 2 чэрвеня 1897 г. не абмяжоўваў працягласць звышурочнай работы, што давала капіталістам магчымасць беспакарана парушаць яго. Фабрычная інспекцыя не атрымала дастатковых паўнамоцтваў для таго, каб прымусіць прадпрымальнікаў выконваць усе патрабаванні законаў. На дробную і рамесную прамысловасць адзначаныя законы (і нагляд фабрычнай інспекцыі) увогуле не распаўсюджваліся. Закон 1886 г. не датычыў казённых прадпрыемстваў.

Тым не менш урадавая рэгламентацыя фабрычна-заводскай працы істотна абмяжоўвала свавол капіталістаў і ў пэўнай меры ахоўвала інтарэсы рабочых, якія атрымалі пэўныя легальныя падставы для барацьбы за рэалізацыю сваіх патрабаванняў. Гэта садзейнічала далейшаму развіццю рабочага руху, росту яго арганізаванасці і класавай свядомасці.

Узаемаадносіны гаспадароў і рабочых у рамеснай прамысловасці рэгуляваліся цэхавай сістэмай, якая дзейнічала паводле законаў 1785 і 1852 г. Цэхі аб'ядноўвалі рамеснікаў адной прафесіі. Закон забараняў адкрыццё майстэрань у гарадах без запісу іх уладальнікаў у адпаведны цэх і наяўнасці пасведчання рамеснай управы. Справамі асобных цэхаў кіравалі выбарныя цэхавыя ўправы, а ўсімі цэхамі ў маштабе гора-

Бальніца пры папяровай фабрыцы Паскевіча ў Добрушы. Пач. XX ст.

да — рамесныя ўправы, на ўтрыманне якіх з рамеснікаў збіраўся спецыяльны падатак. У кіраўніцтва траплялі толькі гаспадары. Рабочы дзень, па закону, павінен быў працягвацца з 6 гадзін раніцы да 6 гадзін вечара з паўгадзінным перапынкам для снедання і паўтарагадзінным для абеду. Але за гэтым ніхто не сачыў. Пры патуранні рамесных упраў рабочы дзень у майстэрнях доўжыўся звычайна 15—16, а нярэдка і 17—19 гадзін у суткі. Сярэдневяковая карпаратыўная сістэма арганізацыі рамяства не адпавядала нормам буржуазнага права, тармазіла развіццё капіталізму. Аднак у цэлым радзе гарадоў Беларусі яна дзейнічала аж да 1902—1903 гг.[84].

Пратэст рабочых Расіі супраць бязмернай эксплуатацыі ў 60-ыя гады праяўляўся звычайна ў стыхійных хваляваннях — групавых уцёках з месцаў работы, калектыўных скаргах і г. д. Хваляванні нярэдка суправаджаліся разгромам фабрычных будынкаў, лавак, кантор, забойствам прыслужнікаў гаспадароў. На Беларусі вясною і летам 1864 г. адбываліся хваляванні рабочых-землякопаў на будаўніцтве Дзвінска-Віцебскай чыгункі ў Дрысенскім і Віцебскім паветах, у пачатку 70-ых гадоў — на будаўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі ў Менскім павеце. У ліпені 1873 г. з Брэст-Літоўскай крэпасці ўцяклі 128 рабочых цагельнага завода. Ра[зам] з тым у другой палов[іне] 70 — пачатку 80-ых гадоў н[а] Беларусі былі арганізаваны пер[]шыя стачкі рабочых з патра[]баваннямі рэгулярнай выдачы заработнай платы, скарачэння рабочага дня. Усяго за 1864–1884 гг. адбылося 9 хваляванняў і 6 стачак. У 6 хваляваннях удзельнічалі будаўнікі чыгунак.

а ў 5 стачках — рабочыя чыгуначных майстэрань. Амаль усе стачкі, як і хваляванні, мелі абарончы характар[85].

У 1885—1894 гг. рабочы рух на Беларусі, як і ва ўсёй Расіі, узняўся на больш высокі ўзровень. За гэты час ў Менску, Гомелі і Пінску адбыліся 22 стачкі. У двух выпадках адзначаны рабочыя хваляванні. Стачачны рух стаў галоўнай формай барацьбы рабочых за паляпшэнне свайго эканамічнага становішча. Абсалютную большасць стачачнікаў, як і раней, складалі рабочыя чыгуначных майстэрань. Рабочы рух перамясціўся з сельскай мясцовасці ў горад.

У Менску ў канцы 80 — пачатку 90-ых гадоў пачаў разгортвацца рух рамесных рабочых за ўстанаўленне законнага 12-гадзіннага рабочага дня. З мэтай матэрыяльнай падтрымкі забастоўкі тут у кавальска-слясарных майстэрнях у 1885—1887 гг. з узносаў рабочых была створана першая на Беларусі і ў Літве стачачная каса, якая ўяўляла сабою зародак прафесійнага саюза.

**Народніцтва.** Пасля падаўлення паўстання 1863 г., гібелі і высылкі з краю многіх тысяч паўстанцаў арганізаваны рэвалюцыйны рух на Беларусі пачаў адраджацца толькі ў сярэдзіне 70-ых гадоў. Асноўнымі дзеячамі яго сталі разначынцы-народнікі, прыхільнікі тэорыі сялянскага сацыялізму, заснавальнікамі якой былі А. Герцэн і М. Чарнышэўскі. Аб'ектыўна дзейнасць народнікаў накіроўвалася супраць усіх перажыткаў прыгонніцтва і мела рэвалюцыйна-дэмакратычны характар. Разам з тым народнікі, як выразнікі інтарэсаў сялянства, выступалі супраць капіталізму, развіццё якога суправаджалася пралетарызацыяй дробных вытворцаў. У сувязі з гэтым выказвалася ідэя пераходу да сацыялізму шляхам сялянскай рэвалюцыі на базе сельскай абшчыны. Такім чынам, народнікі спадзяваліся абысці этап буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, барацьбы за палітычную свабоду і капіталізм у цэлым. Народніцкі сацыялізм быў утапічнай тэорыяй, але разам з тым ён падштурхоўваў сялян да рашучай барацьбы супраць прыгонніцкай Расіі. Вядомымі ўдзельнікамі агульнарасійскага народніцкага руху 70-ых гадоў былі студэнты — ураджэнцы Беларусі М. Судзілоўскі, С. Кавалік, Р. Ісаеў, Г. Грынявіцкі, А. Бонч-Асмалоўскі і інш.

У другой палове 70 — пачатку 80-ых гадоў народніцкія гурткі з'явіліся ў Менску, Магілёве, Гародні, Пінску, Віцебску, Оршы, Слуцку. Яны мелі сувязі з усерасійскай арганізацыяй «Зямля і Воля», створанай у Пецярбургу ў 1876 г. Адсутнасць апоры ў масах, з аднаго боку, і рэпрэсіі царызму — з другога, прымусілі частку землявольцаў прызнаць неабходнасць барацьбы за палітычную свабоду (што раней адмаўлялася як з'ява буржуазная) і перайсці да індывідуальнага палітычнага тэрору супраць прадстаўнікоў улады. У сувязі з гэтым летам 1879 г. адбыўся раскол «Зямлі і Волі». Прыхільнікі новай тактыкі стварылі арганізацыю «Народная во-

ля», а старой — «Чорны перадзел».

Большасць народніцкіх гурткоў на Беларусі падтрымалі платформу «Чорнага перадзелу». Менск у гэты час стаў адным з цэнтраў дзейнасці чорнаперадзельцаў не толькі ў Беларусі, але і ва ўсёй Расіі. У 1879 і 1880 гг. сюды двойчы прыязджаў лідэр «Чорнага перадзелу» Г. Пляханаў. Другі яго прыезд быў звязаны з арганізацыяй у Менску цэнтральнай падпольнай друкарні партыі. Пры актыўным удзеле менскіх і гарадзенскіх народнікаў удалося набыць неабходнае друкарскае абсталяванне і шрыфт і ўжо з вясны 1881 г. пачаць выдавецкую дзейнасць. У менскай друкарні былі выдадзены тры нумары цэнтральнага органа партыі — газеты «Черный передел» і столькі ж — газеты для рабочых «Зерно», а таксама 2 пракламацыі. У канцы 1881 г. над друкарняй навісла пагроза правалу, у сувязі з чым яна была разабрана і схавана.

У пачатку 1882 г. «Чорны перадзел» распаўся. Г. Пляханаў і некаторыя іншыя яго паплечнікі выехалі за мяжу і там пачалі крытычны перагляд ідэалогіі і практыкі народніцтва ў святле тэорыі К. Маркса. У выніку восенню 1883 г. у Швейцарыі была створана першая расійская марксісцкая арганізацыя — група «Вызваленне працы» на чале з Г. Пляханавым.

Большасць прыхільнікаў «Чорнага перадзелу» ў Расіі, а таксама на Беларусі перайшлі на пазіцыі «Народнай волі», якую ўзначалілі А. Жалябаў, С. Пяроўская, М. Марозаў, М. Кібальчыч і іншыя прафесійныя рэвалюцыянеры. Сярод іх былі і ўраджэнцы Беларусі — Р. Ісаеў, І. Грынявіцкі, Г. Гельфман і інш. Галоўныя свае сілы Выканаўчы камітэт «Народнай волі» з восені 1879 г. засяродзіў *на падрыхтоўцы* забойства цара, разлічваючы на тое, што яно з'явіцца сігналам для народнага паўстання ў Расіі. 1 сакавіка 1881 г. Аляксандр II быў забіты бомбаю, кінутай І. Грынявіцкім, які і сам пры гэтым загінуў. Аднак значных хваляванняў у народных масах, нават у Пецярбургу, забойства цара не выклікала. Новым царом стаў Аляксандр III, які пакончыў з ліберальнымі ваганнямі Аляксандра II і адкрыта абвясціў курс на непахіснасць самадзяржаўнага рэжыму. Выканаўчы камітэт «Народнай волі» і многія яе правінцыяльныя арганізацыі неўзабаве былі разгромлены. Партыя ўступіла ў паласу глыбокага ідэйна-арганізацыйнага крызісу.

На Беларусі і ў Літве ў канцы 1881 г.— пачатку 1882 г. была створана цэнтралізаваная абласная арганізацыя «Народнай волі», аднак шматлікія правалы хутка паралізавалі яе дзейнасць. Засталіся асобныя гурткі, якія засяродзілі сваю дзейнасць сярод рабочай моладзі і навучэнцаў. У Менску народавольцу Я. Хургіну ў сярэдзіне 80-х гадоў удалося прыцягнуць да гэтай работы да 20 мясцовых інтэлігентаў. У гуртках, якія яны кіравалі, займаліся каля 160 рабочых. У 1884 г. у Вільні была выдадзена гектаграфаваная «Праграма рабочых, членаў

партыі «Народная воля» ў Паўночна-Заходнім краі»[86]. На асобных палажэннях гэтай праграмы адчуваўся відавочны ўплыў першай польскай сацыялістычнай партыі «Пралетарыят», якая ў асноўным стаяла ўжо на марксісцкіх пазіцыях. У радах гэтай партыі, у тым ліку ў кіраўніцтве, было нямала ўраджэнцаў Беларусі, якія садзейнічалі пашырэнню яе сувязей на сваёй радзіме. Такую сувязь «Пралетарыят» меў, у прыватнасці, з народніцкімі гурткамі ў Менску, Віцебску, Пінску, Гародні, Берасці.

**Прапаганда марксізму.** У канцы 70 — пачатку 80-ых гадоў рабочы рух засведчыў наяўнасць сваіх, не сялянскіх, інтарэсаў і патрабаванняў. У той жа час выявіўся ідэйна-арганізацыйны крызіс усіх плыняў сялянскага сацыялізму народнікаў. Такім чынам, узніклі спрыяльныя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя ўмовы для распаўсюджання марксізму і з'яўлення сацыял-дэмакратычнага руху. Ля вытокаў гэтага працэсу на Беларусі стаялі расійская група «Вызваленне працы» і польская партыя «Пралетарыят». Менавіта яны пачалі выданне і распаўсюджанне твораў К. Маркса і Ф. Энгельса ў перакладзе на рускую і польскую мовы. У снежні 1883 г. у Віцебску ў рукі паліцыі трапіла пасылка з выданнямі «Пралетарыяту». У Менску ў сакавіку 1884 г. на кватэры землямера Л. Насовіча — былога чорнапередзельца — паліцыя знайшла «Маніфест Камуністычнай партыі» на польскай мове і шмат іншых выданняў «Пралетарыяту». З групай «Вызваленне працы» ў другой палове 80-ых гадоў быў звязаны студэнт Цюрыхскага політэхнічнага інстытута Р. Салавейчык, ураджэнец Гародні. Ён спрабаваў наладзіць транспарціроўку выданняў групы на Беларусь і Украіну.

З таго ж часу асобныя інтэлігенты пачалі ствараць гурткі рабочых з мэтай вывучэння асноўных твораў К. Маркса і Ф. Энгельса, а таксама іх паслядоўнікаў. На Беларусі першы гурток такога накірунку быў створаны студэнтам Э. Абрамовічам у Менску летам 1884 г. сярод рабочых-друкароў. У 1885 г. да прапаганды марксізму сярод рабочых Менска далучыўся былы чорнаперадзелец І. Гурвіч, які адбыў ссылку ў Сібіры. Летам наступнага года ў менскіх гуртках марксісцкага накірунку займалася каля 130 рабочых. І. Гурвіч завяршыў у Менску падрыхтоўку да друку рукапісу «Перасяленні сялян у Сібір» і ў 1888 г. выдаў яго ў Маскве асобнай кнігай. У 1892 г. за граніцаю была выдадзена другая кніга Гурвіча «Эканамічнае становішча рускай вёскі». Гэтыя даследаванні адыгралі значную ролю ў абвяржэнні народніцкіх канцэпцый аб асаблівым, некапіталістычным шляху развіцця Расіі.

Першыя прапагандысты марксізму на Беларусі, як і ў Расіі, не ўсведамлялі прынцыповага адрознення тэорыі Маркса ад народніцкіх канцэпцый. Ідэйна-арганізацыйнае размежаванне ў менскіх рабочых гуртках адбылося толькі ў 1887—1888 г. пасля працяглых дыскусій пад уздзеяннем брашуры Г. Пляханава

«Нашы рознагалоссі». Сярод прапагандыстаў, што стаялі тады на сацыял-дэмакратычных пазіцыях, былі В. Сяліцкі і С. Трусевіч. Першы з іх ужо ў той час разумеў неабходнасць пераходу ад прапаганды марксізму ў вузкіх, заканспіраваных гуртках да агітацыі сярод рабочых мас на аснове блізкіх, жыццёва важных для іх патрабаванняў — скарачэння рабочага дня, павелічэння заработнай платы, паляпшэння ўмоў працы. Толькі такім чынам, лічыў В. Сяліцкі, сацыял-дэмакраты могуць дабіцца пашырэння свайго ўплыву на рабочы рух. С. Трусевіч у канцы 80-ых гадоў удзельнічаў у дзейнасці «Саюза польскіх рабочых» у Варшаве.

У сярэдзіне 90-ых гадоў у Менску аформіліся 2 сацыялдэмакратычныя групы. Адну з іх узначальвалі Яўгенія Гурвіч і Павел Берман. Іх дзейнасць была звязана пераважна з асяроддзем яўрэйскіх рабочых, што працавалі ў сферы дробнакапіталістычнай і рамеснай вытворчасці. Другая група ўзнікла пад кіраўніцтвам С. Трусевіча і вяла прапаганду на буйных прадпрыемствах — у чыгуначных майстэрнях, на машынабудаўнічым заводзе, дзе асноўную масу рабочых складалі беларусы, а таксама рускія, палякі. У канцы 80 — пачатку 90-ых гадоў сацыял-дэмакратычныя гурткі ўтварыліся ў Вільні, Гародні, Віцебску, Гомелі, Смаргоні.

Дзейнасць першых сацыялдэмакратычных гурткоў вялася дзеля падрыхтоўкі з ліку рабочых новых кадраў прапагандыстаў. Цыкл вучобы працягваўся не менш як тры гады, прычым на працягу першых двух гадоў прапагандысты абмяжоўваліся, па сутнасці, агульнаадукацыйнымі заняткамі, мэтай якіх з'яўлялася засваенне слухачамі матэрыялістычнага светапогляду на гістарычнае развіццё прыроды і чалавецтва. І толькі на трэцім годзе з найбольш здольнымі слухачамі вывучалася тэорыя Маркса. Заняткі ў гуртках мелі акадэмічны характар, праводзіліся з захаваннем правіл канспірацыі. У рэальную барацьбу рабочых за паляпшэнне свайго становішча гурткі не ўмешваліся. Сярод прапагандыстаў таго часу былі распаўсюджаны ілюзіі, быццам такім шляхам можна праз нейкі час дабіцца ўсведамлення рабочым класам сваёй гістарычнай місіі.

Аднак жыццё разбівала падобныя ілюзіі. І гэта вельмі хутка пацвердзілася ў гарадах Беларусі і Літвы. Тут, як правіла, гурткі складаліся з рабочых дробнай і рамеснай вытворчасці, прыказчыкаў гандлёвых устаноў. Нярэдка здаралася так, што асобныя рабочыя, якія прайшлі поўны цыкл падрыхтоўкі ў марксісцкіх гуртках і павінны былі стаць прапагандыстамі, не жадалі далучаць да пазнання Марксавай тэорыі сваіх несвядомых таварышаў па працы. Наадварот, яны часта выкарыстоўвалі набытыя веды ў прадпрымальніцкіх мэтах і пераcraraліся ў дробных эксплуататараў. Гэта і падштурхнула кіраўнікоў сацыял-дэмакратычнага руху ў Вільні да пошукаў новых форм дзейнасці.

**Утварэнне рабочых саюзаў. I з'езд РСДРП.** Зыходзячы з

уласнага вопыту і выкарыстоўваючы вопыт польскага рабочага руху, віленскія сацыял-дэмакраты Я. Спонці, А. Крэмер і іншыя ў пачатку 90-ых гадоў прыйшлі да высновы аб неабходнасці пераходу сацыял-дэмакратаў ад вузкай гуртковай прапаганды марксізму да шырокай агітацыі сярод рабочых на глебе іх паўсядзённых інтарэсаў, звязаных з паляпшэннем эканамічнага становішча. У 1893 г. А. Крэмер напісаў брашуру «Аб агітацыі», у якой тэарэтычна абгрунтаваў неабходнасць змены тактыкі. Перад сацыял-дэмакратамі ў якасці першачарговай ставілася задача арганізацыі барацьбы рабочых за скарачэнне рабочага дня, павелічэнне заработнай платы, паляпшэнне ўмоў працы і разгортвання адпаведнай вуснай і пісьмовай (у лістоўках) масавай агітацыі. Дзеля гэтага рэкамендавалася ствараць прафесійныя стачачныя касы за кошт узносаў рабочых і каардынаваць іх дзейнасць у маштабах горада. Задачы па мабілізацыі рабочых на палітычную барацьбу адсоўваліся на перспектыву, што тлумачылася шырокім распаўсюджаннем сярод іх царысцкіх ілюзій. На думку аўтара брашуры, рабочыя маглі дайсці да ўсведамлення царызму як свайго класавага ворага толькі праз уласны вопыт эканамічнай барацьбы з капіталістамі. Сацыялістычная агітацыя разглядалася як трэці этап у дзейнасці сацыял-дэмакратаў. Рукапісная брашура А. Крэмера, адрэдагаваная Ю. Мартавым, неўзабаве набыла шырокую вядомасць у сацыял-дэмакратычным руху не толькі Беларусі і Літвы, але і далёка за іх межамі (у 1897 г. была надрукавана групай «Вызваленне працы»).

У 1894—1896 гг. да масавай эканамічнай агітацыі сярод рабочых, паводле рэкамендацый «віленскай праграмы» (брашуры «аб агітацыі»), перайшлі сацыял-дэмакраты Вільні, Менска, Смаргоні, Ашмянаў, Віцебска, Брэста, у 1897—1898 гг.— Гомеля, Гародні, Пінска. Пад непасрэдным уздзеяннем групы С. Трусевіча ў пачатку 1895 г. адбыліся 3 стачкі рабочых майстэрань Маскоўска-Брэсцкай чыгункі ў Менску. У красавіку 1896 г. С. Трусевіч удзельнічаў у рабоце ўстаноўчага з'езда Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі (ЛСДП) у Вільні, на якім прадстаўляў створаныя ім сацыял-дэмакратычныя гурткі Менска, Вільні і Смаргоні. У сувязі з тым, што большасць з'езда заняла сепаратысцкія пазіцыі, Трусевіч пакінуў з'езд ЛСДП і ў маі 1896 г. стварыў Рабочы саюз Літвы (РСЛ). Насуперак сепаратызму кіраўніцтва ЛСДП, якое адмаўлялася ад узаемадзеяння з расійскім пралетарыятам, праграма РСЛ абвяшчала, што «барацьба з рускім дэспатызмам можа быць паспяховай толькі пры ўмове цеснага аб'яднання ўсіх сацыял-дэмакратычных груп у Расіі» ў адну партыю.

РСЛ аб'яднаў Віленскую, Менскую і Смаргонскую інтэрнацыянальныя рабочыя арганізацыі, у якіх налічвалася каля 300 чалавек. Пад кіраўніцтвам смаргонскай арганізацыі ў

1895—1897 гг. адбылося 6 эканамічных забастовак рабочых гарбарных заводаў. 19 красавіка (1 мая) 1896 г. яна арганізавала ў прыгарадным лесе маёўку рабочых з чырвоным сцягам, рэвалюцыйнымі прамовамі і песнямі. У лютым 1897 г. РСЛ кіраваў стачкай рабочых Віленскіх майстэрань Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі. У ходзе стачкі С. Трусевіч і бліжэйшыя яго паплечнікі былі арыштаваны і пасля турэмнага зняволення высланы ва Усходнюю Сібір і Валагодскую губерню[87].

Пад уплывам агітацыі сацыял-дэмакратычнай групы П. Бермана і Я. Гурвіч у сярэдзіне 90-ых гадоў у Менску ўтварылася арганізацыя рабочых дробнай і рамеснай прамысловасці. Летам 1896 г. яна аб'ядноўвала 24 цэхавыя (прафесійныя) саюзы, у якія ўваходзіла каля 1 тыс. рабочых. Аснову саюзаў складалі стачачныя касы. Дзейнасць іх каардынавалася агульнагарадской міжкасавай сходкай. З ліпеня 1894 г. па ліпень 1896 г. пад непасрэдным кіраўніцтвам саюзаў былі праведзены 54 стачкі з удзелам 480 рабочых. Стачачнікі дамагліся скарачэння рабочага дня з 18—16 да 13—12 гадзін і павышэння заработнай платы на 20—40 працэнтаў. У ходзе стачак шырока ўжываліся тэрарыстычныя формы уздзеяння на штрэйкбрэхераў і гаспадароў. Пачынаючы з 1895 г. арганізацыя штогод наладжвала першамайскія сходы рабочых-актывістаў. З 1 сакавіка 1897 г. у якасці рэвалюцыйнага свята ў Менску на тайных сходах рабочых пачаў адзначацца дзень забойства народавольцамі Аляксандра II. Дзейнічалі прапагандысцкія гурткі, 2 падпольныя бібліятэкі (руская і яўрэйская). Заняткі ў гуртках у 1896 г. наведвала 155 рабочых[88]. У цэлым жа накірунак і характар дзейнасці Менскага яўрэйскага сацыял-дэмакратычнага камітэта ў той час вызначалі эканамічная агітацыя і арганізацыя эканамічнай барацьбы рабочых дробнакапіталістычнай прамысловасці.

У выніку пераходу да масавай эканамічнай агітацыі рабочыя арганізацыі сацыял-дэмакратычнага накірунку ўтварыліся ў Гомелі, Віцебску, Гародні, Берасці, Ашмянах, Пінску. Рэзка ўзмацніўся і пашырыўся стачачны рух рабочых з мэтай скарачэння рабочага дня, павелічэння заработнай платы, паляпшэння ўмоў працы. У 1895—1897 гг. на Беларусі адбылося 114 эканамічных стачак, якія ахапілі больш за 5 тыс. рабочых[89].

Разам з тым сярод значнай часткі сацыял-дэмакратаў заходніх губерняў зарадзіліся сепаратысцкія тэндэнцыі, якія выявіліся ў імкненні да стварэння рабочых арганізацый па нацыянальнай прыкмеце ў гарадах са шматнацыянальным насельніцтвам. На такую платформу ў 1896 г. стала Літоўская сацыял-дэмакратычная партыя. У верасні 1897 г. у Вільні адбыўся з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый Вільні, Менска, Віцебска, Беластока і Варшавы, на якім утварыўся Бунд — Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі

Лідэрам яго стаў А. Крэмер. Неабходнасць утварэння Бунда матывавалася тым, што толькі нацыянальная арганізацыя яўрэйскіх рабочых можа найлепш абараніць іх інтарэсы.

Адразу пасля з'езда разгарнулася агітацыя за далучэнне да Бунда рабочых арганізацый, што існавалі ў той час на Беларусі, і стварэнне новых. Берасцейская арганізацыя ў восень 1897 г. уступіла ў Бунд, аднак неўзабаве была разгромлена паліцыяй. Гомельскія сацыял-дэмакраты ўбачылі небяспеку расколу рабочага руху і адмовіліся далучацца да Бунда. У Гародні адбыўся раскол. Большая частка раней адзінай рабочай арганізацыі пайшла за бундаўцамі; узначаліў іх Гародзенскі сацыял-дэмакратычны камітэт. Меншасць выступіла супраць эканамізму і сепаратызму Бунда і ўтварыла асобную арганізацыю на чале з Рабочым камітэтам. Апошні, аднак, таксама нядоўга трымаўся на платформе інтэрнацыяналізму, бо ўступіў у Польскую сацыялістычную партыю (ППС), якая адмаўлялася ўзаемадзейнічаць з расійскім пралетарыятам і яго партыяй.

Не пагадзіліся з уступленнем у Бунд і многія члены Менскай яўрэйскай рабочай арганізацыі. Праціўнікі Бунда ў Менску неўзабаве абвясцілі стварэнне Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі (РППВР). Кіраўнікамі яе з'яўляліся Л. Радзівонава-Клячко, Р. Гершуні, К. Брэшка-Брэшкоўская, А. Бонч-Асмалоўскі. Яны мелі сувязі з рэвалюцыйнымі арганізацыямі ў Пецярбургу, Маскве, Кіеве, Сімферопалі, а таксама за межамі Расіі; наладзілі вытворчасць падпольных друкарняў, транспарціроўку з-за мяжы нелегальнай літаратуры. У 1900 г. ва ўласнай падпольнай друкарні ў Менску выдалі брашуру «Свабода», у якой прапагандавалі тэрарыстычныя формы барацьбы з самадзяржаўем.

Прыкметны рост рабочага руху ў Расіі ў сувязі з масавай агітацыяй сацыял-дэмакратаў, утварэнне на гэтай аснове буйных агульнагарадскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый паставілі на чаргу пытанне аб аб'яднанні іх у партыю. З гэтай мэтай у Менску ў пачатку сакавіка 1898 г. быў скліканы з'езд прадстаўнікоў пецярбургскага, маскоўскага, кіеўскага і екацярынаслаўскага «Саюзаў барацьбы», кіеўскай «Рабочай газеты» і Бунда. Арганізацыйна-тэхнічную падрыхтоўку работы з'езда забяспечылі ЦК і Менскі камітэт Бунда. З'езд прыняў рашэнне аб аб'яднанні прадстаўленых на ім арганізацый у Расійскую сацыял-дэмакратычную рабочую партыю, выбраў Цэнтральны камітэт у складзе С. Радчанкі, Б. Эйдэльмана і А. Крэмера, прызнаў «Рабочую газету» афіцыйным органам РСДРП. Бунд, як і іншыя арганізацыі, уступаў у партыю на правах аўтаноміі ў мясцовых справах. Пытанне аб раёне яго дзейнасці не ставілася. Самастойныя рашэнні ён мог прымаць толькі па пытаннях, якія датычылі яўрэйскага пралетарыяту. «Маніфест РСДРП», падрыхтаваны пасля з'езда і выдадзены ў Бабруйскай друкар-

ні Бунда, у агульнай форме вызначыў дэмакратычныя і сацыялістычныя задачы рабочага руху ў Расіі, садзейнічаў пашырэнню палітычнай агітацыі на месцах.

У канцы 90-ых гадоў на Беларусі працягваўся ўздым рабочага руху. У 1898—1900 гг. ён ахапіў 21 населены пункт і ў параўнанні з 1895—1897 гг. пашырыўся ў 2,3 раза. У сувязі з рэпрэсіямі ўлад і агітацыяй сацыял-дэмакратаў адбыліся 1 агульнагарадская і 2 групавыя палітычныя стачкі, 9 вулічных дэманстрацый і 20 палітычных масовак (сходак і маніфестацый). У палітычных выступленнях удзельнічалі рабочыя Віцебска, Гародні, Менска і Смаргоні. Асабліва востры характар набыла ў гэты час барацьба рабочых Віцебска. У ходзе вулічных выступленняў яны двойчы ўступалі ў сутычкі з паліцыяй і войскам.

**Сацыял-дэмакратычныя і народніцкія арганізацыі і партыі ў пачатку XX ст.** На рубяжы XIX — пачатку XX ст. на Беларусі пачаў адчувацца сусветны эканамічны крызіс. Сотні прадпрыемстваў, найперш дробных, спынялі або скарачалі вытворчасць. Каб выстаяць, прадпрымальнікі павялічвалі працягласць працоўнага дня, памяншалі заработную плату, затрымлівалі яе выдачу і г. д. Арганізаваць пратэст супраць гэтага было цяжка, бо рабочых рук было намнога болей, чым рабочых месц. У такіх умовах кожны, хто меў працу і заробак, баяўся страціць іх. Гэта адмоўна ўплывала на развіццё эканамічнага руху, асабліва ў шырока распаўсюджанай на Беларусі дробн капіталістычнай і рамеснай вы ворчасці, заснаванай на ручн працы. Магчымасці дробных га падароў для эканамічных ус пак рабочым былі непараўна на больш вузкія, чым у буйн капіталістаў. Ва ўмовах крызісу рабочым арганізацыям на Беларусі даводзілася нават стрымліваць эканамічны стачачны рух. Стачкі набывалі абарончы характар, зацягваліся — іншы раз на некалькі тыдняў, а то і месяцаў. Не атрымліваючы заработнай платы і не маючы іншых сродкаў для існавання, рабочыя і іх сем'і часта былі вымушаны галадаць. Невыносныя ўмовы нярэдка штурхалі іх да ўжывання ў ходзе стачачнай барацьбы тэрарыстычных сродкаў уздзеяння на штрэйкбрэхераў і гаспадароў, а гэта ў сваю чаргу вяло да ўзмацнення рэпрэсій з боку ўлады і паліцыі. Аб'ектыўныя ўмовы ў пачатку XX ст. садзейнічалі палітызацыі рабочага руху.

У той жа час сярод сацыял-дэмакратаў, якія з сярэдзіны 90-ых гадоў выступалі ў якасці яго кіраўнікоў, узмацнілася барацьба паміж прыхільнікамі рэфармісцкага і рэвалюцыйнага накірункаў. Першыя, абапіраючыся на ідэі германскага сацыял-дэмакрата Э. Бернштэйна, абмяжоўвалі задачы рабочага руху ў Расіі барацьбой за паляпшэнне эканамічнага становішча і павышэнне культурнага ўзроўню пралетарыяту. Барацьбой за палітычныя свабоды, на іх думку, павінны былі займацца буржуазныя лібералы, а рабочыя — аказваць ім дапамогу. Гэты накі-

рунак у сацыял-дэмакратычным руху атрымаў назву «эканамізм». Менавіта ён вызначаў характар дзейнасці практычна ўсіх камітэтаў і арганізацый РСДРП у канцы 90-ых гадоў. Пасля арыштаў, праведзеных у сакавіку — ліпені 1898 г., РСДРП ужо не мела ні ЦК, ні цэнтральнага органа і, па вызначэнні У. Леніна, перажывала глыбокі ідэйны і арганізацыйны крызіс, звязаны з панаваннем эканамізму.

Барацьбу з эканамізмам узначалілі Г. В. Пляханаў і У. І. Ленін. З канца 1900 г. цэнтрам згуртавання рэвалюцыйных сацыял-дэмакратаў стала газета «Іскра», якая выдавалася за мяжою пад іх кіраўніцтвам. Галоўную сваю задачу рэдакцыя «Искры» бачыла ў выхаванні палітычнай свядомасці пралетарыяту і ў падрыхтоўцы стварэння ў Расіі інтэрнацыянальнай рэвалюцыйнай марксісцкай партыі, якая павінна была ўзначаліць барацьбу за звяржэнне царскага самадзяржаўя. У сувязі з гэтым першачарговай мэтай «Іскры» з'яўляўся ідэйны і арганізацыйны разгром эканамізму і заваяванне вядучай ролі ў РСДРП, а разам з тым і ў рабочым руху краіны. «Іскра» вяла барацьбу з усімі партыямі і арганізацыямі, якія, на яе погляд, не стаялі на пазіцыях рэвалюцыйнага марксізму або адступалі ад іх.

У сацыял-дэмакратычным і рабочым руху ў заходніх губернях вядучыя пазіцыі на парозе XX ст. заняў Бунд, які падзяляў зыходныя тэарэтычныя прынцыпы эканамізму, лічыў эканамічную барацьбу «лепшым сродкам для ўцягнення шырокіх мас у рух», але разам з тым вёў і палітычную агітацыю — найчасцей у сувязі з рэпрэсіямі царызму ў адносінах да ўдзельнікаў рабочага руху. Вясною 1901 г. на IV з'ездзе Бунд абвясціў сябе адзіным выразнікам інтарэсаў яўрэйскага пралетарыяту ў Расіі і выставіў патрабаванне аб пераўтварэнні РСДРП у федэрацыю нацыянальных сацыял-дэмакратычных арганізацый. Пры шматнацыянальным складзе рабочых у гарадах, асабліва ў раёне яўрэйскай аселасці, гэта вяло да раз'яднання рабочага руху па нацыянальнай прыкмеце. На Беларусі, пасля далучэння летам 1900 г. да Бунда Гомельскага камітэта, практычна не засталося ніводнай арганізацыі РСДРП, незалежнай ад Бунда. У 1900 — 1903 гг. бундаўскія камітэты і групы аформіліся і разгарнулі актыўную дзейнасць амаль ва ўсіх павятовых гарадах і многіх мястэчках Беларусі.

Лідэры Бунда ў адносінах да «Іскры» займалі насцярожаныя, а часам і варожыя пазіцыі, перашкаджалі яе распаўсюджанню ў раёне сваёй дзейнасці, г. зн. на Беларусі і ў Літве. Тым не менш рэдакцыя «Искры» мела пэўныя сувязі і ў гэтым рэгіёне. З'яўленне асобных нумароў газеты ў 1901—1903 гг. зафіксавана ў 25 гарадах і мястэчках Беларусі. Крытыка «Искры» садзейнічала пераходу мясцовых сацыял-дэмакратычных камітэтаў, што ўваходзілі ў Бунд, да шырокай і ўсебаковай палітычнай агітацыі, арганізацыі масавых палітычных стачак,

антыўрадавых дэманстрацый, сходаў і маніфестацый рабочых. Гэта адпаведным чынам адбілася на развіцці рабочага руху на Беларусі. Аднак ні адзін з бундаўскіх камітэтаў не заявіў аб салідарнасці з платформай «Искры».

На II з'ездзе РСДРП, праведзеным летам 1903 г. за мяжою, большасць мелі іскраўцы. З антыіскраўскіх пазіцый выступалі некалькі эканамістаў і дэлегацыя Бунда. З'езд прыняў распрацаваную рэдакцыяй «Искры» праграму партыі, у якой яе канчатковай мэтаю абвяшчалася заваяванне дыктатуры пралетарыяту і пабудова сацыялізму, а бліжэйшай — звяржэнне самадзяржаўя і ўстанаўленне дэмакратычнай рэспублікі. У сувязі з адхіленнем пераважнай большасцю дэлегатаў патрабавання бундаўцаў аб перабудове РСДРП на прынцыпах федэрацыі апошнія заявілі аб выхадзе Бунда з партыі і пакінулі з'езд.

Барацьба на з'ездзе завяршылася расколам іскраўцаў па арганізацыйным пытанні на бальшавікоў і меншавікоў. Бальшавікі на чале з У. Леніным выступалі за стварэнне строга заканспіраванай і цэнтралізаванай партыі з безумоўным падпарадкаваннем ніжэйшых арганізацый цэнтра. Меншавікі, да якіх неўзабаве пасля з'езда далучыўся Г. Пляханаў, адвяргалі ленінскія арганізацыйныя прынцыпы, звязваючы з імі магчымасць устанаўлення ў партыі дыктатуры цэнтра і культу правадыра. Пасля з'езда паміж бальшавікамі і меншавікамі разгарэлася бескампрамісная барацьба за ўладу ў партыі. У. Ленін быў вымушаны выйсці з вышэйшых органаў РСДРП. Аднак у канцы 1904 г. яму ўдалося стварыць бальшавіцкія арганізацыйныя цэнтры, у тым ліку газету «Вперед». Разам яны павялі барацьбу за скліканне III з'езда партыі.

У сувязі з выхадам Бунда з РСДРП прыхільнікі «Искры» з дапамогай ЦК разгарнулі дзейнасць па стварэнні на Беларусі мясцовых арганізацый гэтай партыі. Нягледзячы на супраціўленне Бунда, у канцы 1903 г. і ў 1904 г. яны з'явіліся ў Менску, Гомелі, Віцебску, Барысаве, Бабруйску, Магілёве, Мазыры, Полацку і іншых гарадах і мястэчках. Узначалілі іх Палескі і Паўночна-Заходні камітэты РСДРП, створаныя ЦК партыі ў студзені — сакавіку 1904 г.

У Вільні, Смаргоні, Менску на рубяжы XIX—XX ст. дзейнічалі невялікія групы Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ), якая ўтварылася ў 1900 г. у Менску на з'ездзе прадстаўнікоў Рабочага саюза Літвы і сацыял-дэмакратаў Польшчы. Кіраўнікамі гэтай партыі з'яўляліся Ф. Дзяржынскі і С. Трусевіч. СДКПіЛ выступала за звяржэнне царызму ў цесным саюзе з расійскім рэвалюцыйным рухам, імкнулася да аб'яднання з РСДРП, паслядоўна змагалася з сепаратысцкай ППС, якая адмаўляла ідэю польска-расійскага рэвалюцыйнага саюза. Разам з тым СДКПіЛ лічыла нацыяналістычным і непрымальным патрабаванне аб утварэнні незалежных нацыянальных дзяржаў, у тым ліку Польшчы. Яна ўзаемадзей-

нічала з Бундам і сумесна з ім стварыла ў заходніх губернях у 1901 г. Федэратыўны сацыял-дэмакратычны саюз гарбароў.

З груп ППС, што дзейнічалі на тэрыторыі Літвы і Заходняй Беларусі, у верасні 1902 г. утварылася ППС у Літве. Яна выставіла лозунгі барацьбы за незалежнасць Літвы і Беларусі і ўстанаўленне сацыялістычнага ладу. Дзейнічала сярод насельніцтва ўсіх мясцовых нацыянальнасцей, выдавала агітацыйную літаратуру на польскай, рускай, беларускай і яўрэйскай мовах. Належала да тыпу леванародніцкіх партый. Найбольш значныя арганізацыі ППС у Літве існавалі ў Вільні, Гародні і Берасці.

У 1902 г. ідэйна і арганізацыйна аформілася Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў). Да яе далучыліся і рэшткі разгромленай Рабочай партыі палітычнага вызвалення Расіі, цэнтр якой у канцы 90-ых гадоў знаходзіўся ў Менску. ПСР выступала за знішчэнне самадзяржаўя і памешчыцкага землеўладання, за ўстанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, за пабудову сацыялістычнага ладу на аснове сацыялізацыі зямлі з ураўняльным землекарыстаннем і распаўсюджанне кааперацыі. Выключна важнае значэнне ў барацьбе з царызмам надавала індывідуальнаму палітычнаму тэрору, якім займалася спецыяльная баявая арганізацыя. Стваральнікам і першым кіраўніком яе быў менскі рэвалюцыянер, урач Р. Гершуні. У 1902—1904 гг. эсэраўскія арганізацыі ўзніклі ў Менску, Віцебску, Гомелі, Вільні, Беластоку, Смаленску і іншых гарадах заходніх губерняў. У 1904 г. яны аб'ядналіся ў Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю ПСР.

У тыя ж гады ажывіўся беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. У якасці яго ідэолага і палітычнага кіраўніка выступіла леванародніцкая Беларуская сацыялістычная грамада (гл.: Утварэнне беларускай нацыі).

**«Паліцэйскі сацыялізм» і сіянізм.** Уздым рабочага руху пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратыі і асабліва першыя палітычныя выступленні рабочых у канцы 90-ых гадоў выклікалі трывогу сярод абачлівых прадстаўнікоў правячых колаў. Начальнік Маскоўскага ахоўнага аддзялення С. Зубатаў з мэтай ізаляцыі рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыі ад масавага рабочага руху і ліквідацыі глебы для антыўрадавай агітацыі прапанаваў ураду ўзяць на сябе клопаты аб задавальненні элементарных эканамічных і культурна-асветніцкіх патрабаванняў рабочых. Такім чынам ён спадзяваўся прадухіліць пераход пралетарыяту да палітычнай барацьбы з самадзяржаўем. У канцы 90-ых гадоў С. Зубатаву ўдалося распрапагандаваць некалькіх арыштаваных бундаўцаў, якіх ён вызваліў ад пакарання і накіраваў на Беларусь для прапаганды сваіх ідэй.

У маі 1901 г. менскія зубатаўцы М. Вільбушэвіч, А. Чамярыскі і іншыя ўмяшаліся ў агульнапрафесійную стачку 600 рабочых слясарных майстэрань і з дапамогай жандарскага палкоў-

«Гандлёвы будынак» у Бабруйску. Пачатак XX ст.

ніка Васільева прымусілі гаспадароў увесці законны 12-гадзінны рабочы дзень. Лёгкасць дасягнутай перамогі прыцягнула на бок зубатаўцаў многіх рамесных рабочых Менска. У ліпені 1901 г. яны аб'явілі аб стварэнні ў Менску Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі (ЯНРП). Пазней яе аддзяленні з'явіліся ў Адэсе і Вільні. Сваёй мэтаю яна абвясціла павышэнне «па меры магчымасці» эканамічнага і культурнага ўзроўню яўрэйскага пралетарыяту шляхам стварэння шырокіх эканамічных арганізацый, кас узаемадапамогі, асветніцкіх клубаў і да т. п. ЯНРП прапагандавала самадзяржаўе як надкласавую форму кіравання, неабходнасць паслушэнства уладам і поўнае неўмяшанне рабочых у палітыку. Карыстаючыся падтрымкай дэпартамента паліцыі, ЯНРП наладжвала ў Менску легальныя агульнагарадскія і цэхавыя культурна-асветніцкія вечары, розныя чытанні, лекцыі, на якія збіралася да 1,5 тыс. чалавек. У выніку ў канцы 1901 г. з менскай арганізацыі Бунда перайшлі ў ЯНРП 15 з 20 прафесійных саюзаў рамесных рабочых. У той жа час ЯНРП узяла на ўзбраенне ідэі буржуазнага сіянізму.

У 1897 г. прадстаўнікі яўрэйскай буржуазнай інтэлігенцыі з розных краін свету, у тым ліку з Расіі, стварылі сусветную арганізацыю сіяністаў з мэтай заснавання ў Палесціне — на радзіме продкаў, сімвалам якой абвяшчалася гара Сіён,— яўрэйскай дзяржавы. Толькі там, на думку сіяністаў, яўрэі ўсяго свету маглі знайсці «прываахоўны прытулак» і пазбавіцца ад ганенняў, пагро-

маў і іншых праяў антысемітызму. У сувязі з гэтым яны аб'яўлялі бяссэнсавым, непатрэбным і нават шкодным удзел яўрэяў у вызваленчым руху ў краінах дыяспары. З мэтай аб'яднання вакол нацыянальнай ідэі ўсіх слаёў яўрэйскага насельніцтва сіяністы лжыва заяўлялі аб адсутнасці сярод яўрэяў антаганістычных класаў — буржуазіі і пралетарыяту, аб быццам бы роўнай прыгнечанасці і бяспраўнасці іх у краінах выгнання. Разам з тым сіяністы ўзялі на ўзбраенне рэакцыйныя дагматы іудаізму аб «богавыбранасці» яўрэйскага народа і мусіравалі сярод яўрэйскіх працоўных нацыянальна-рэлігійны фанатызм, недавер да працоўных іншых нацыянальнасцей. Паколькі Палесціна ў той час знаходзілася пад уладай турэцкага султана, сіяністы ва ўсім свеце, у тым ліку на Беларусі, разгарнулі збор сродкаў у спецыяльны нацыянальны фонд з мэтай яе выкупу. Царскі ўрад разумеў контррэвалюцыйную сутнасць дзейнасці сіяністаў і не перашкаджаў ёй. Колькасць сіяніцкіх арганізацый у Расіі хутка ўзрастала. Ужо ў 1898 г., па звестках дэпартамента паліцыі, толькі ў Віцебскай, Менскай і Магілёўскай губернях налічвалася 54, а ў 1900 г.— 92 сіяніцкія гурткі[90]. У 1902 г. з дазволу ўлады ў Менску адбыўся Усерасійскі з'езд сіяністаў, які шырока асвятляўся ў друку.

Дзейнасць ЯНРП і сіяністаў накіроўвалася ў першую чаргу супраць Бунда. Лідэры апошняга, вядома, адразу адчулі небяспеку і ўжо ў 1900 г. пачалі кампанію па выкрыцці правакацыйнай сутнасці зубатаўшчыны. Асабліва інтэнсіўна антызубатаўская агітацыя ў 1901—1902 гг. вялася ў Менску, дзе ЯНРП давяла да развалу мясцовую арганізацыю Бунда. Барацьба з зубатаўшчынай стала і адной з галоўных публіцыстычных тэм «Искры», якая на фактах з дзейнасці менскай ЯНРП раскрыла ідэйную сувязь «паліцэйскага сацыялізму» з сацыял-дэмакратычным эканамізмам. Да лета 1903 г. ЯНРП страціла ўплыў сярод рабочых і абвясціла аб самароспуску. У заходніх губернях «паліцэйскі сацыялізм» праваліўся, але ў Пецярбургу якраз у 1903—1904 гг. ён набыў шырокі ўплыў сярод рабочых («гапонаўшчына») і прычыніўся да трагічнай «Крывавай нядзелі» 9 студзеня 1905 г.

Поспех агітацыі ЯНРП сярод членаў бундаўскіх цэхавых саюзаў у Менску ў 1900—1901 гг. у значнай меры быў забяспечаны папярэдняй шматгадовай дзейнасцю самога Бунда ў духу эканамізму. «Искра» дапамагла яго лідэрам усвядоміць гэта. На канферэнцыі летам 1902 г. Бунд афіцыйна адрокся ад эканамізму. Былі прыняты меры (паводле рэкамендацый «Искры») і па арганізацыйнай перабудове бундаўскіх камітэтаў з мэтай забяспечыць разгортванне ўсебаковай палітычнай агітацыі і мабілізацыі рабочых мас на барацьбу з царызмам. У той жа час узмацнілася агітацыя бундаўцаў супраць сіянізму. Аднак у гэтай барацьбе яны былі непаслядоўныя, бо самі падзялялі некаторыя сіяніцкія ідэі. Не зважаю-

чы на супраціўленне Бунда, сіяністы пашыралі свой уплыў і сярод рабочых-яўрэяў. У выніку ў 1902—1904 гг. у рабочым руху заходніх губерняў з'явілася плынь «паалей-сіяністаў».

**Пераход рабочых да палітычнай барацьбы. Сітуацыя ў вёсцы.** Развіццё рабочага руху на Беларусі ў 1901—1904 гг., як і ва ўсёй краіне, вызначаў пераход ад эканамічнай да палітычнай барацьбы. У 1901 г. рабочыя Беларусі арганізавалі 3 масавыя палітычныя стачкі, 10 вулічных дэманстрацый, 23 палітычныя масоўкі і маніфестацыі, якія адбыліся ў 8 гарадах і мястэчках. *Найбольш актыўны рух назіраўся ў Смаргоні і ў Менску.* Адбылося 105 эканамічных стачак у 24 населеных пунктах. Упершыню ў барацьбу за паляпшэнне свайго становішча ўключыліся рабочыя Полацка, Слуцка, Беразіна, Свіры, Дзісны, Валожына. Ва ўмовах крызісу рабочы рух набыў пераважна абарончы характар. 1/3 колькасці стачак суправаджалася эканамічным тэрорам, а больш паловы выступленняў — арыштамі іх удзельнікаў.

Рост рабочага руху выклікаў ва ўрадавых колах усё большую трывогу. Рэакцыя іх праяўлялася як у нерашучых і непаслядоўных спробах легалізацыі эканамічных выступленняў, так і ва ўзмацненні масавых рэпрэсій. Перавага па традыцыі аддавалася рэпрэсіям. Пра гэта сведчыла і тое, што ў канцы 1901 г. асобныя мясцовасці, у тым ліку Вільня, Віцебск, Менск, Гомель, Магілёў і ўся Віленская губерня, былі пераведзены на становішча ўзмоцненай аховы. Перад мясцовай адміністрацыяй найперш ставілася задача любымі сродкамі не дапускаць вулічных антыўрадавых дэманстрацый.

У 1902 г. колькасць дэманстрацый на Беларусі знізілася да двух (у параўнанні з 1901 г.— у 5 разоў менш). Аднак палітычны стачачны рух застаўся на ўзроўні 1901 г., а ў форме масовак і маніфестацый нават узрос. Упершыню палітычныя выступленні былі праведзены ў Бабруйску і мястэчку Ляды Горацкага павета. Даволі рэзка паменшала ў 1902 г. колькасць эканамічных стачак (да 61), хаця яны і ахаплівалі 23 населеныя пункты, у тым ліку 12 новых, у якіх раней рабочы рух адсутнічаў. Некаторае ажыўленне ў мясцовай прамысловасці ў 1902 г. суправаджалася істотнымі зменамі ў характары барацьбы: удзельная вага наступальных стачак у параўнанні з 1901 г. вырасла амаль на 30 працэнтаў. Да таго ж забастоўкі сталі больш выніковымі — каля 70 працэнтаў выступленняў закончыліся перамогай рабочых. Па колькасці ўдзельнікаў эканамічныя стачкі ў 1902 г. прыблізна ў 2 разы пераўзыходзілі палітычныя.

Небывалы ўздым рабочага руху ў Беларусі назіраўся ў 1903 г. Першая хваля яго была звязана з днём памяці нарадавольцаў (1 сакавіка). Сходамі і маніфестацыямі гэты дзень адзначылі рабочыя 11 гарадоў і мястэчак. Другую, значна больш высокую хвалю выклікала святкаванне 1 Мая. Вясною і летам рабочыя многіх гарадоў і мястэчак Бела-

русі арганізавалі масоўкі і маніфестацыі, у якіх выказалі пратэст супраць яўрэйскага пагрому ў Кішынёве і салідарнасць з усеагульнымі стачкамі ў Кіеве, Адэсе, Баку і іншых паўднёвых гарадах. Усяго на Беларусі ў 1903 г. адбылося 20 палітычных стачак, у тым ліку 19 масавых (групавых і агульнагарадскіх), 22 вулічныя дэманстрацыі, 129 масовак і маніфестацый. Палітычны рух ахапіў 28 гарадоў і мястэчак і амаль зраўняўся ў гэтых адносінах з эканамічным (30 населеных пунктаў). Колькасць эканамічных стачачнікаў (8,7 тыс.) у параўнанні з 1902 г. вырасла ў 3 разы. Але хваля палітычных забастовак нарастала значна хутчэй: колькасць іх удзельнікаў за той жа час павялічылася ў 13 разоў і дасягнула 19 тыс. чалавек. У агульнай масе стачачнікаў яны складалі амаль 70 працэнтаў. У 1903 г. у палітычную барацьбу ўпершыню ўключыліся рабочыя 18 гарадоў і мястэчак Беларусі.

Рэвалюцыйная сітуацыя ў краіне рэзка абвастрылася ў 1904 г. у сувязі з руска-японскай вайною за кітайскія тэрыторыі. Усе рэвалюцыйныя партыі сваю агітацыйную дзейнасць так ці інакш звязвалі з вайною, выкрывалі яе антынародны характар. Пры гэтым бальшавікі заклікалі да ўзмацнення барацьбы з мэтай звяржэння самадзяржаўя і ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. Меншавікі антываенную агітацыю звязвалі з лозунгам барацьбы за хутчэйшае заключэнне міру ў інтарэсах народа. Блізкую да гэтай пазіцыю займаў Бунд.

У сувязі з вайною ў прамысловасці Беларусі зноў пашырыліся крызісныя з'явы, узрасло беспрацоўе. Гэта ў сваю чаргу прывяло да звужэння эканамічнага рабочага руху. Колькасць эканамічных стачачнікаў у 1904 г. скарацілася да 4 тыс., г. зн. прыблізна ў 2 разы ў параўнанні з 1903 г. Стачкі адбыліся ў 22 населеных пунктах. Рабочыя вымушаны былі ўсё часцей абараняцца ад наступлення капіталістаў на іх жыццёвыя інтарэсы. У параўнанні з 1903 г. удзельная вага абарончых выступленняў узрасла на 19, а колькасць іх удзельнікаў — на 52 працэнты.

Палітычны рух рабочых на Беларусі ў 1904 г. перажываў відавочны ўздым. Пачатак яго абазначыўся ў лютым — сакавіку ў сувязі са святкаваннем дня вызвалення сялян, дня памяці нарадавольцаў і некаторымі іншымі падзеямі. На працягу двух месяцаў ў 17 гарадах і мястэчках Беларусі адбылося не менш як 60 масовак і маніфестацый, у якіх удзельнічала каля 7 тыс. рабочых. Першамайскія выступленні ахапілі 23 гарады і мястэчкі. Адбылося 17 групавых і агульнагарадскіх забастовак, 62 сходкі і маніфестацыі, 4 вулічныя дэманстрацыі. Агульная колькасць стачачнікаў дасягнула 8,6 тыс. Летам і восенню 1904 г. масавы характар набыла арганізаваная ЦК Бунда кампанія пратэсту супраць рэпрэсій царызму ў Якуцку (суровы прыгавор палітычным ссыльным за ўзброенае супраціўленне ўладам) і

Беластоку (расстрэл сходкі рабочых). У сувязі з гэтымі падзеямі амаль усе арганізацыі Бунда на Беларусі выдалі спецыяльныя адозвы. У 17 населеных пунктах былі праведзены 44 масоўкі, на якіх прымаліся рэзалюцыі пратэсту супраць акцый царызму ў Якуцку і Беластоку. Рабочыя многіх прадпрыемстваў Менска, Слоніма, Шклова арганізавалі аднадзённыя забастоўкі. У Гародні, Віцебску, Бабруйску, Магілёве, Мазыры, Пінску, Слоніме, Лядах і Парычах адбыліся адкрытыя дэманстрацыі і маніфестацыі рабочых пад лозунгамі: «Няхай жывуць якуцкія і беластоцкія таварышы!», «Далоў самадзяржаўе!», «Далоў вайну!», «Далоў паліцэйскі свавол!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!», «Няхай жыве сацыялізм!». Выступленні ў Бабруйску і Магілёве закончыліся перастрэлкай дэманстрантаў з паліцыяй. У сходах, маніфестацыях, дэманстрацыях і забастоўках, выкліканых падзеямі ў Якуцку і Беластоку, удзельнічала больш за 11 тыс. рабочых Беларусі.

Палітычны рух рабочых у 1904 г. ахапіў 44 гарады і мястэчкі Беларусі. Колькасць населеных пунктаў, ахопленых ім, павялічылася на 60 працэнтаў. У тры разы ўзрасла колькасць палітычных стачачнікаў у параўнанні з эканамічнымі. Колькасць сутычак рабочых з паліцыяй і войскам таксама вырасла — на 57 працэнтаў.

У цэлым за перыяд рэвалюцыйнай сітуацыі рабочы рух на Беларусі характарызуюць наступныя даныя. У эканамічнай барацьбе назіраліся 2 уздымы (1901, 1903 гг.) і 2 спады (1902, 1904 гг.). Па няпоўных звестках, у ёй прынялі ўдзел каля 20 тыс. рабочых. У параўнанні з 1895—1900 гг. колькасць стачак вырасла на 24, а стачачнікаў — на 73 працэнты. Калі ў другой палове 90-ых гадоў штогод у сярэднім баставалі 1917 чалавек, то ў 1901—1904 гг.— 4975 (у 2,6 раза больш). Тэрытарыяльна эканамічны рух пашырыўся ў 2,4 раза і ахапіў рабочых 56 населеных пунктаў. У 1901 і 1904 гг. больш як 50 працэнтаў стачачнікаў былі вымушаны абараняцца ад наступлення капіталу на іх жыццёвы ўзровень. Аднак у цэлым колькасць удзельнікаў наступальных стачак дасягала 70 працэнтаў. Большасць выступленняў (60 працэнтаў) закончылася перамогай рабочых. Але ўдзельная вага стачачнікаў, якія атрымалі перамогу, складала толькі 45 працэнтаў. Амаль столькі ж налічвалася і тых, хто пацярпеў паражэнне.

Палітычны рух у форме стачак, дэманстрацый, масовак і маніфестацый у 1902—1904 гг. распаўсюдзіўся на 52 гарады і мястэчкі. У стачках прынялі ўдзел каля 34 тыс. чалавек. Па палітычных матывах штогод у сярэднім баставалі прыблізна 8,5 тыс., у той час як па эканамічных — каля 5 тыс. чалавек. Дэманстрацыйны антыўрадавы рух, нягледзячы на ўсе папераджальныя і рэпрэсіўныя меры царызму, ахапіў 24 гарады і мястэчкі. Адбылося 59 дэманстрацый з удзелам прыблізна 20 тыс. чалавек. Сапраўднай шко-

лай рэвалюцыйнага выхавання рабочых сталі палітычныя сходы (масоўкі). Амаль усе яны былі канспіратыўнымі. Па няпоўных звестках, зафіксавана каля 559 такіх выступленняў з удзелам амаль 80 тыс. рабочых. У сувязі з вулічнымі выступленнямі, найперш дэманстрацыямі, адбыліся 23 сутычкі рабочых з паліцыяй і войскам, у ходзе якіх дэманстранты аказвалі актыўнае супраціўленне карнікам, а іншы раз і нападалі на паліцыю з мэтай вызвалення арыштаваных таварышаў.

Як бачым, даволі значныя масы рабочых Беларусі пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратаў прайшлі ў 1901—1904 гг. загартоўку ў эканамічнай і палітычнай барацьбе. У выніку павысілася іх палітычная свядомасць, выраслі арганізаванасць, стойкасць, дысцыплінаванасць. Распаўсюджанне рабочага руху на ўсё новыя гарады, мястэчкі, памешчыцкія маёнткі стварала перадумовы для ўцягвання ў барацьбу сялянскіх мас.

Сялянскі рух на Беларусі і ў гэты час, нягледзячы на абвастрэнне аграрнага пытання, заставаўся на невысокім узроўні: у 1901 г. у беларускай вёсцы зафіксаваны 16, у 1902 г.— 41, у 1903 г.— 24, у 1904 г.— 32, а ўсяго — 113 выступленняў. Адносны ўздым у 1902 г., відаць, меў пэўную сувязь з выбухам масавага сялянскага руху ў Палтаўскай і Харкаўскай губернях. А ў 1904 г. на сялянскі рух паўплывалі абставіны, звязаныя з руска-японскай вайною.

Як і раней, у аснове сялянскіх выступленняў была барацьба за зямлю. Каля $^{1}/_{3}$ іх складалі патравы і лясныя парубкі. Затым ішлі адкрытыя захопы памешчыцкіх зямель, сервітутаў і сутычкі пры размежаванні зямлі (23,1 працэнта). Адміністрацыйныя і судовыя праследаванні за патравы, парубкі і інш. таксама суправаджаліся сутычкамі сялян з мясцовай адміністрацыяй і паліцыяй. Яны складалі каля 12 працэнтаў усіх выступленняў. Такая ж з'ява, але значна радзей, здаралася і пры спагнанні дзяржаўных падаткаў і павіннасцей[91].

З мэтай змякчыць сацыяльную напружанасць у вёсцы, якая найбольш выразна праявілася ў 1902 г. у сялянскіх паўстаннях на Украіне і ў Паволжы, царскі ўрад указам ад 12 сакавіка 1903 г. скасаваў кругавую паруку сялян пры спагнанні казённых, земскіх і мірскіх падаткаў і збораў. Маніфестам 11 жніўня 1904 г. адмяняліся цялесныя пакаранні сялян па прыгаворах валасных судоў, а таксама частка нядоімак па выкупных плацяжах, дзяржаўных і мясцовых падатках.

У 1902—1903 гг. сацыял-дэмакратычныя арганізацыі Гомеля, Шклова, Копысі, Віцебска пачалі агітацыйную дзейнасць сярод сялян. У 1904 г. яе пашырылі групы і камітэты РСДРП, створаныя пасля II з'езда. Акрамя сацыял-дэмакратычнай літаратуры ў асобных вёсках з'яўляліся і выданні леванародніцкіх партый — эсэраў, Беларускай грамады, ППС у Літве. Але ўсё гэта яшчэ толькі пачыналася.



# РАЗДЗЕЛ VII

# БЕЛАРУСЬ У ПЕРЫЯД БУРЖУАЗНА-ДЭМАКРАТЫЧНЫХ РЭВАЛЮЦЫЙ. БАРАЦЬБА ЗА НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ.

## 1. Рэвалюцыя 1905—1907 гг. на Беларусі.

**Тры лагеры ў грамадска-палітычным руху.** Ва ўмовах рэвалюцыйнай сітуацыі 1901—1904 гг. паскорылася ідэйна-палітычнае размежаванне ў грамадска-палітычным руху краіны. Пралетарыят, перайшоўшы да адкрытай палітычнай барацьбы з царызмам, вызначыўся як вядучая сіла дэмакратычнага лагера, агульнымі праграмнымі патрабаваннямі якога з'яўлялася знішчэнне самадзяржаўя, устанаўленне дэмакратычнай рэспублікі шляхам склікання Устаноўчага сходу, ліквідацыя памешчыцкага землеўладання і іншых феадальна-прыгонніцкіх перажыткаў, права нацый на самавызначэнне. Менавіта такія патрабаванні вызначалі бліжэйшыя мэты РСДРП (бальшавікоў і меншавікоў), Бунда, СДКПіЛ, ППС у Літве, эсэраў, БСГ і іншых сацыял-дэмакратычных і леванародніцкіх партый і арганізацый.

Вядома, ідэйна-палітычнага адзінства паміж імі не было. Сацыял-дэмакраты зыходзілі з Марксавай тэорыі і арыентаваліся на пралетарыят як на галоўную і вядучую сілу вызваленчага руху. Леванародніцкія партыі і арганізацыі (эсэры, Беларуская грамада) імкнуліся абаперціся ў роўнай меры і на рабочых, і на сялянства, і на інтэлігенцыю. Зусім розныя былі ў іх погляды на сацыялізм і шляхі яго дасягнення, істотна разыходзіліся яны і па пытаннях стратэгіі і тактыкі барацьбы. Але, як бы там ні было, названыя партыі і арганізацыі кіраваліся інтарэсамі пралетарыяту, сялянства і іншых дэмакратычных слаёў насельніцтва. Праграма-мінімум у іх практычна супадала, а гэта была аснова для ўзаемадзеяння ў барацьбе з царызмам на прынцыпах тактыкі «левага блока» («ісці розна — разам біць»).

У 1901—1904 гг. паскорылася ідэйна-палітычнае самавызначэнне буржуазна-ліберальнага лагера. У земскіх губернях складваўся «Саюз земцаў-канстытуцыяналістаў», за мяжою пад кіраўніцтвам П. Струве пачаў дзейнічаць «Саюз вызвалення». Ідэолагі ліберальнай буржуазіі і дваранства ў Расіі баяліся народнай рэвалюцыі і звяржэння царызму. Яны імкнуліся толькі да падзелу з манархам улады, да ўвядзення ў Расіі канстытуцыйнай манархіі з парламентам. У верасні 1904 г. «Саюз вызвалення» абмяжоўваўся патрабаваннем «свабоднага дэмакратычнага рэжыму на аснове ўсеагульнай падачы галасоў...». Патрабаванне было настолькі неканкрэтным, што ў яго свабодна ўкладваўся і сэнс канстытуцыйна-манархічнага ладу з двух- і трохступеннымі выбарамі, іншымі абмежаваннямі дэмакратыі. На Беларусі, дзе выбарныя земствы адсутнічалі, дзе не было вышэйшых навучальных установ і, адпаведна, ліберальнай прафесуры, буржуазна-дваранская ліберальная апазіцыя не мела ў гэты час ніякіх арганізацыйных цэнтраў.

Правы, адкрыта рэакцыйны лагер і ў першыя гады XX ст. не быў аформлены партыйнай структурай. Яго прадстаўлялі памешчыкі-паўпрыгоннікі, бюракратыя на чале з царом, вярхі праваслаўнай царквы. Урадавы лагер імкнуўся любымі сродкамі захаваць у краіне абсалютнае самадзяржаўе цара, памешчыцкае землеўладанне, саслоўныя прывілеі дваранства і іншыя феадальна-прыгонніцкія перажыткі, «адзіную і недзялімую» імперыю. Важнейшымі яго апорамі з'яўляліся армія і паліцыя.

Польскія і нешматлікія беларускія памешчыкі-католікі, каталіцкі касцёл заставаліся ў апазіцыі да царызму і па агульнапалітычных, нацыянальным і рэлігійным пытаннях у пэўнай меры схіляліся да ліберальнага цэнтра. Яны дамагаліся скасавання абмежавальных законаў, што датычылі іх, увядзення выбарных земстваў, аднаўлення саслоўнага дваранскага самакіравання ў паветах і губернях. Аднак па аграрным пытанні гэтыя «апазіцыянеры» цвёрда стаялі за захаванне памешчыцкага землеўладання, г. зн. падтрымлівалі ўрадавы лагер.

**Пачатак рэвалюцыі. Вызваленчы рух у студзені — верасні 1905 г.** Рэвалюцыя пачалася 9 студзеня 1905 г., калі загадзя падрыхтаваныя войскі па загаду цара ў розных месцах Пецярбурга расстралялі масавыя шэсці рабочых, якія накіроўваліся да Зімняга палаца з просьбай палепшыць становішча народа. Гэтай акцыяй царскі ўрад спадзяваўся прадухіліць рэвалюцыю. Аднак атрымалася непрадбачанае: залпамі на Дварцовай плошчы і ў іншых месцах сталіцы была расстраляна не рэвалюцыя, а вера народа ў цара. У выніку абудзілася каласальная рэвалюцыйная энергія. Магутная, нябачаная раней хваля выступленняў пратэсту — стачак, вулічных дэманстрацый і маніфестацый рабочых пракацілася па ўсёй краіне, у тым ліку і па Беларусі.

У якасці ініцыятараў і кіраў-

Рабочыя кавальска-маставога цэха Пінскіх чыгуначных майстэрань. 1905 г.

нікоў руху салідарнасці з рабочымі Пецярбурга ў большасці гарадоў і мястэчак Беларусі выступалі арганізацыі РСДРП і Бунда, а ў некаторых месцах — Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, ППС у Літве і БСГ. Падзеі «Крывавай нядзелі» ў Пецярбургу на доўгі час сталі цэнтральным пунктам іх агітацыйнай дзейнасці. У лістоўках і вусных выступленнях яны выкрывалі антынародную сутнасць самадзяржаўя і заклікалі мясцовых рабочых усімі сіламі падтрымаць гераічную барацьбу пралетарыяту сталіцы. У Менску забастоўка салідарнасці пачалася 11 студзеня і неўзабаве ахапіла большасць фабрык і заводаў, прыватныя друкарні і ўсе рамесныя майстэрні. 15 студзеня каля 200 рабочых спрабавалі выйсці на дэманстрацыю, аднак былі рассеяны казакамі. 16 студзеня была спынена конка. Далучыць да забастоўкі рабочых чыгуначных майстэрань не ўдалося, бо іх узялі пад ахову вайсковыя падраздзяленні. Агульная колькасць стачачнікаў у Менску дасягала 2 тыс.[1]

У Гомелі 12—15 студзеня наладжваліся сходкі і мітын
рабочых. Некаторыя з іх зак
чыліся ўзброенымі сутычкам
паліцыяй. 16—17 студзеня
бастоўка набыла агульнагарад
размах. Да яе, аднак, не ўдал
далучыць самае вялікае пр
прыемства горада — чыгун
ныя майстэрні. Усяго бастав
каля 4 тыс. чалавек. 18 студзе
пры разгоне мітынгу гарада
застрэліў работніцу і смяро
параніў рабочага. У пахава
ахвяр палітычнага свав
ўдзельнічалі 8 тыс. чалаве

Менск, 1905 г. Казачы раз'езд на вуліцах горада (вугал Захар'еўскай і Губернатарскай вул.).

У Смаргоні па закліку стачачнай камісіі 13 студзеня забаставалі каля 3 тыс. чалавек. Большасць з іх складалі рабочыя гарбарных заводаў. У цэнтры горада адбыўся масавы мітынг. Затым пачалася дэманстрацыя, якая працягвалася, чаргуючыся з мітынгамі, некалькі гадзін. Баявы атрад залпамі выстралаў салютаваў прамоўцам. Мясцовыя ўлады ў час гэтых выступленняў адчулі сваё поўнае бяссілле[3].

У цэлым студзеньскі рух салідарнасці з рабочымі Пецярбурга ахапіў на Беларусі 30 гарадоў і мястэчак. Агульнагарадскія палітычныя стачкі, акрамя Смаргоні, адбыліся ў Полацку, Гародні, Берасці, Мазыры, Ашмянах, Слоніме, Ветцы, Дуброўне, Талочыне, Парычах, Шчэдрыне. У іншых месцах стачкі таксама ахоплівалі значныя масы рабочых, але распаўсюдзіць іх на буйныя прадпрыемствы не ўдалося. Агульная колькасць стачачнікаў дасягала 34 тыс. і ў 2,7 раза пераўзышла адпаведны паказчык за ўвесь 1904 г. Дэманстрацыі былі праведзены ў 17, масоўкі і маніфестацыі — у 26 населеных пунктах. У 9 выступленнях рабочыя аказалі супраціўленне паліцыі.

У лютым — сакавіку 1905 г. хваля палітычных выступленняў рабочых рэзка знізілася, але ў той жа час назіраўся ўздым эканамічных забастовак. З патрабаваннямі скарачэння рабочага дня, павелічэння заработнай платы, паляпшэння ўмоў працы, аплаты забастовачнага часу, дапушчэння сваіх прадстаўнікоў да ўдзелу ў вырашэнні пытанняў, звязаных з устанаўленнем рас-

цэнак, прыёмам і звальненнем з работы, баставалі ў лютым — сакавіку рабочыя чыгуначных майстэрань у Пінску і Менску, запалкавых фабрык у Мазыры, Пінску і Койданаве, усіх кафельных заводаў у Копысі. Эканамічныя стачкі ў студзені — сакавіку 1905 г. ахапілі 25 населеных пунктаў Беларусі. Пад уплывам выступленняў рабочых, найперш палітычных, пачалі абуджацца дэмакратычныя слаі гарадскога насельніцтва, вучнёўская моладзь, сяляне прыгарадных вёсак.

Новы ўздым палітычнага рабочага руху ў краіне пачаўся ў сувязі са святкаваннем дня 1 Мая, які ў заходніх губернях, у тым ліку на Беларусі, адзначаўся па новаму стылю 18 красавіка. На перадмайскіх сходах у Менску ўдзельнічалі больш як 1,5 тыс. чалавек, а ў дзень самога свята баставалі каля 4 тыс. рабочых. У Пінску забастоўка ахапіла ўсе прамысловыя і гандлёвыя прадпрыемствы, за выключэннем чыгуначных майстэрань. 7, 9, 23 і 30 красавіка адбыліся вулічныя дэманстрацыі, у ходзе якіх баявыя атрады рабочых уступалі ў перастрэлку з паліцыяй і войскам. 4 дэманстрацыі, маніфестацыю і мітынг арганізавалі ў красавіку рабочыя Віцебска. Пры гэтым яны тройчы ўступалі ў сутычкі з паліцыяй і салдатамі. У невялікіх гарадах і мястэчках, дзе сілы паліцыі былі нязначныя, антыўрадавыя дэманстрацыі праводзіліся фактычна бесперашкодна.

У чэрвені шырокі размах на Беларусі набылі выступленні салідарнасці з рабочымі Лодзі, Варшавы, Адэсы, Іванава-Вазнясенска, з рэвалюцыйнымі матросамі Чарнаморскага флоту, якія ішлі ў авангардзе вызваленчага руху. У сувязі з рэпрэсіямі царызму ў названых гарадах на Беларусі праводзіліся масавы мітынгі, выдаваліся і шыро распаўсюджваліся лістоўкі. цэлым у красавіку — чэрвені 1905 г. палітычны рух рабочых ахапіў 56 гарадоў і мястэчак Беларусі (супраць 43 у студзені — сакавіку). Колькасць удзельнікаў палітычных стачак дасягала 100 тыс.[4]. У ліпені 1905 г. рабочыя Бабруйска, Віцебска, Гомеля, Копысі, Оршы, Дуброўна, Горак, Лядаў, Шклова, Баранавіч, Слуцка, Ляхавіч і іншых гарадоў і мястэчак па закліку мясцовых арганізацый РСДРП і Бунда агульнымі стачкамі, масавымі мітынгамі і вулічнымі дэманстрацыямі адзначылі паўгадавіну падзей «Крывавай нядзелі» ў Пецярбургу і пачатак рэвалюцыі.

Вясною і летам 1905 г. узмацнілася і эканамічная барацьба рабочых. Уздым яе назіраўся ў маі, калі адбылося 170 стачак — амаль столькі, колькі за 4 папярэднія месяцы, разам узятыя. Найбольш значныя выступленні назіраліся на металаапрацоўчых, дрэваапрацоўчых, гарбарных і харчасмакавых прадпрыемствах Менска, Віцебска, Бабруйска, Барысава, Гародні, Мазыра, Пінска, Смаргоні, Магілёва, Ашмянаў, Слоніма. Многія стачкі адносіліся да агульнапрафесійных, або групавых, г. зн. ахоплівалі ўсе або частку прадпрыемстваў пэўнай галіны вытворчасці ці абслугоў-

вання. Пераважная большасць стачак завяршалася уступкамі прадпрымальнікаў. У многіх выпадках рабочыя дамагліся скарачэння рабочага дня да 9—10 гадзін, істотнага павышэння заработнай платы, абмежавання сваволу ўласнікаў прадпрыемстваў, паляпшэння медыцынскага абслугоўвання і інш. У некаторых месцах быў устаноўлены 8-гадзінны рабочы дзень. У падрыхтоўцы і арганізацыі эканамічных забастовак узрастала роля падпольных прафесійных саюзаў і мясцовых камітэтаў рэвалюцыйных партый. Нярэдка ў гэты час эканамічныя стачкі суправаджаліся антыўрадавымі маніфестацыямі.

Вясною 1905 г. пад непасрэдным уздзеяннем рабочага руху пачаўся масавы рэвалюцыйны рух сялянства, накіраваны супраць памешчыкаў і мясцовай адміністрацыі. Калі ў студзені — сакавіку 1905 г. на Беларусі адбылося 53, то ў красавіку — чэрвені — 237 сялянскіх выступленняў, з іх 175 прыйшлося на чэрвень[5].

Першым найбольш значным і арганізаваным выступленнем з'явілася агульная забастоўка сялян-падзёншчыкаў і батракоў, якая ў пачатку чэрвеня 1905 г. ахапіла амаль усе маёнткі Навагрудскага павета. Кіравалі барацьбой выбарныя сялянскія камітэты, якія змаглі падрыхтаваць аднолькавыя патрабаванні аб скарачэнні рабочага дня, павелічэнні платы, зніжэнні арэндных плацяжоў. У канцы чэрвеня агульнымі сялянскімі забастоўкамі былі ахоплены Ваўкавыскі і Гародзенскі паветы.

Шырокі размах набылі сельскагаспадарчыя стачкі ў Менскім, Бабруйскім, Рэчыцкім, Слуцкім і Берасцейскім паветах.

Значна ўзмацнілася ў гэты час дзейнасць у вёсцы мясцовых арганізацый РСДРП, а таксама ПСР і БСГ, асобных рабочых, якія прыязджалі з гарадоў і прамысловых цэнтраў. Менавіта пры іх дапамозе пашыраліся новыя для вёскі формы руху — забастоўкі, палітычныя сходы і мітынгі. У студзені — жніўні 1905 г. іх удзельная вага дасягала 35,5 працэнта ад усіх выступленняў. Пры гэтым пераважная большасць забастовак, сходаў і мітынгаў адбылася менавіта летам.

Галоўнай мэтай барацьбы, якая вызначала характар сялянскага руху, па-ранейшаму з'яўлялася знішчэнне памешчыцкага землеўладання. З традыцыйных форм сялянскай барацьбы самымі распаўсюджанымі былі патравы памешчыцкіх угоддзяў (18,2 працэнта) і парубкі лесу (9 працэнтаў). 10 працэнтаў складалі сутычкі сялян з паліцыяй і войскам. Імі звычайна завяршаліся найбольш вострыя выступленні. Колькасць разгромаў і падпалаў маёнткаў на Беларусі была нязначнай (адпаведна 0,4 і 2,5 працэнта выступленняў)[6].

Пад уплывам магутнага вясновa-летняга ўздыму рэвалюцыі ўпершыню ў гісторыі Расіі сур'ёзна захісталася галоўная апора царызму — армія. Пра гэта сведчылі паўстанні на браняносцы «Пацёмкін» і іншых чарнаморскіх і балтыйскіх караблях, хваляванні ў шэрагу гарнізонаў сухапутных войск, у тым

ліку на Беларусі. У Менску ў ліпені 1905 г. «збунтаваліся» салдаты чыгуначнага батальёна, накіраванага з Баранавіч на Далёкі Усход[7]. У Віцебску ў другой палове жніўня і ў пачатку верасня адбыліся хваляванні сярод салдат, мабілізаваных у Рызе. Рэвалюцыйную агітацыю сярод іх вялі мясцовыя арганізацыі РСДРП і ПСР. 10 верасня 1905 г. з нагоды адпраўкі салдат віцебскія рабочыя арганізавалі ў цэнтры горада дэманстрацыю з заклікамі «Далоў самадзяржаўе!» Салдаты ў сваю чаргу — пры адпраўцы эшалона — выставілі ў вокнах вагонаў 14 чырвоных сцягоў і заспявалі песню «Отречемся от старого мира»[8].

З мэтай аслабіць націск рэвалюцыйных сіл, раскалоць дэмакратычны лагер, перацягнуць на свой бок ліберальную буржуазію Мікалай II 6 жніўня 1905 г. падпісаў Маніфест аб увядзенні ў Расіі «парламента» — «заканадарадчай» Дзяржаўнай думы, праект якой быў распрацаваны міністрам унутраных спраў А. Булыгіным. Паводле маніфеста, пралетарскія і бядняцкія масы працоўных горада і вёскі ад удзелу ў выбарах адхіляліся.

Буржуазна-ліберальныя групоўкі ў большасці станоўча аднесліся да ўказа аб Думе. Меншавікі, не адмаўляючыся ад лозунга Устаноўчага сходу, фактычна падтрымалі пазіцыю лібералаў. Бальшавікі выставілі лозунг актыўнага байкоту Думы і ў сувязі з ім разгарнулі агітацыю з мэтай падрыхтоўкі ўсеагульнай стачкі і ўзброенага паўстання супраць царызму. Лозунг байкоту падтрымалі практычна ўсе партыі дэмакратычнага лагера, у тым ліку Бунд, ПСР, БСГ, а таксама частка ліберальных саюзаў. На бальшавіцкія пазіцыі ў адносінах да Дзяржаўнай думы стала першая канферэнцыя прадстаўнікоў арганізацый РСДРП Паўночна-Заходняга краю, праведзеная ў Менску ў жніўні 1905 г.

Антыдумская агітацыя на Беларусі пачалася ўжо у ліпені. 12 ліпеня мітынг 400 рабочых у Гомелі, арганізаваны мясцовым камітэтам Бунда, прыняў рэзалюцыю, у якой заяўлялася: «Мы, грамадзяне г. Гомеля, пратэстуем супраць Дзяржаўнай думы і заяўляем, што не шлях кампрамісаў і петыцый, а толькі рэвалюцыя пад кіраўніцтвам паўстаўшага пралетарыяту ўсіх нацыянальнасцей прывядзе нас да жаданай мэты — дэмакратычнай рэспублікі»[9]. Падобныя рэзалюцыі ў канцы ліпеня былі прыняты на мітынгах рабочых Берасця, Высока-Літоўска, Смалявіч, Лёзна, Ігумена, Беразіна, Чашнік[10].

У жніўні 1905 г. рух пратэсту супраць булыгінскай Думы прыкметна ўзмацніўся. Адпаведныя лістоўкі з заклікам да байкоту выдалі Паўночна-Заходні саюз РСДРП, Віцебская, Полацкая, Смаргонская і іншыя групы РСДРП. У Віцебску 24 жніўня 400 рабочых наладзілі рэвалюцыйную маніфестацыю каля будынка гарадской Думы, дзе дэпутаты ад буржуазіі складалі адрас цару ў знак удзячнасці за Маніфест ад 6 жніўня. Прадстаўнік групы РСДРП з баявым атрадам з'явіўся на пасяджэнне

Думы і выказаў пратэст супраць адраса і Дзяржаўнай Думы. У зале прагучалі рэвалюцыйныя заклікі. Пасяджэнне Думы было сарвана. У Менску ў жніўні — верасні 1905 г. падобныя акцыі ў гарадской Думе наладжваліся тройчы. Мітынг 800 рабочых Менска, праведзены 19 верасня групай РСДРП, выказаўся за байкот Думы і падтрымаў рэзалюцыю аб узброеным паўстанні. Антыдумскія масоўкі і мітынгі ў жніўні — верасні 1905 г. адбыліся ў Полацку, Беразіне, Берасці, Смаргоні, Лідзе, Ашмянах, Івянцы, Лебедзеве, Халопенічах, Картуз-Бярозе, Капылі, Цімкавічах, Почапе (Чэрыкаўскі павет). У некаторых месцах яны суправаджаліся вулічнымі дэманстрацыямі. У Чашніках 23 жніўня адбылася агульная забастоўка пратэсту супраць Дзяржаўнай думы, а вечарам — дэманстрацыя.

Аднак ў цэлым на Беларусі хваля рэвалюцыйных выступленняў у жніўні — верасні 1905 г. рэзка знізілася[11]. Тое ж назіралася ва ўсёй краіне. Але гэта было зацішша перад бурай.

**Найвышэйшы ўздым барацьбы.** Да восені 1905 г. рэвалюцыйная хваля звычайна ўздымалася і набірала сілу на заходніх і паўднёвых ускраінах Расійскай імперыі — у Прыбалтыцы, Польшчы, Беларусі, на Украіне, у Закаўказзі, але адносна слаба закранала Маскву і іншыя гарады Цэнтральнай Расіі. Новы ўздым рэвалюцыйнага руху пачаўся ў Маскве, дзе ў канцы верасня разгарнулася агульнагарадская стачка, якая суправаджалася вулічнымі маніфестацыямі і сутычкамі рабочых з паліцыяй і войскам. 7—17 кастрычніка па закліку Усерасійскага чыгуначнага саюза спыніўся рух на чыгунках краіны. Забастоўка чыгуначнікаў паралізавала дзейнасць урада. Дзякуючы ёй шматлікія агульнагарадскія стачкі ўпершыню зліліся ва Усерасійскую палітычную стачку, якая праводзілася пад лозунгам звяржэння самадзяржаўя і ўстанаўлення дэмакратычнай рэспублікі. Каб збіць рэвалюцыйную хвалю, царскі ўрад пайшоў на палітычныя ўступкі. 17 кастрычніка Мікалай II падпісаў Маніфест, паводле якога Дзяржаўная дума надзялялася заканадаўчымі паўнамоцтвамі, пашыраўся кантынгент выбаршчыкаў, абвяшчаліся свабоды — слова, друку, сходаў, саюзаў і інш.

Непасрэднымі арганізатарамі і кіраўнікамі выступленняў з'яўляліся агульнагарадскія выбарныя стачачныя камітэты і камісіі. У Маскве, Пецярбургу і іншых гарадах яны называліся Саветамі рабочых дэпутатаў і выступалі ў ходзе забастовак як органы ўлады, абапіраючыся на ўзброеныя дружыны рабочых. У гарадах Беларусі выбарныя стачачныя камітэты дзейнічалі толькі на ўзроўні буйных прадпрыемстваў і некаторых чыгуначных вузлоў. Уплывовыя рэвалюцыйныя арганізацыі, найперш Бунд, не жадалі давярацца выбарчай стыхіі і выступалі супраць утварэння беспартыйных агульнагарадскіх Саветаў. З мэтай каардынацыі дзеянняў у гарадах Беларусі на аснове пагадненняў паміж рэвалюцыйнымі арганізацыямі ўтвараліся

кааліцыйныя саветы і камітэты. У Менску ў склад кааліцыйнага савета ў кастрычніку 1905 г. уваходзілі прадстаўнікі мясцовых арганізацый РСДРП, Бунда, ПСР і Чыгуначнага саюза. У большасці гарадоў і мястэчак кастрычніцкімі выступленнямі працоўных кіравалі камісіі, якія складаліся з прадстаўнікоў РСДРП і Бунда. У Гародні і Берасці, дзе да канца 1905 г. арганізацый РСДРП не было, у якасці кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху выступалі мясцовыя камітэты Бунда і ППС у Літве. Вядучую ролю ў арганізацыі Кастрычніцкай стачкі на Беларусі, як і ва ўсёй краіне, адыгралі чыгуначнікі.

На важнейшых чыгуначных станцыях (Орша, Менск, Баранавічы, Гомель і інш.) рух цягнікоў быў спынены 10—12 кастрычніка. Чыгуначнікаў падтрымалі рабочыя фабрык і заводаў, друкарань, рамесных майстэрань, а таксама работнікі гандлю і сферы абслугоўвання, служачыя многіх устаноў, вучнёўская моладзь. На чыгуначных станцыях і ў гарадах штодзённа праводзіліся масавыя мітынгі, маніфестацыі і дэманстрацыі. Некаторыя з іх заканчваліся сутычкамі з паліцыяй і войскам.

У Гомелі 14 кастрычніка пры разгоне дэманстрацыі было забіта 7 чалавек, многія паранены. 18 кастрычніка ў сувязі з абвяшчэннем царскага Маніфеста каля гарадской управы сабралася да 30 тыс. чалавек. Прадстаўнікі рэвалюцыйных партый заклікалі не верыць Маніфесту і працягваць барацьбу да звяржэння самадзяржаўя і склікання Устаноўчага сходу. Сходы і мітынгі ў цэнтры горада — ля рабочай біржы — працягваліся і пазней. Улады пэўны час не рашаліся разганяць іх. У горадзе свабодна распаўсюджваліся рэвалюцыйныя адозвы. З мэтай забеспячэння грамадскага парадку рабочыя чыгуначных майстэрань арганізавалі баявую дружыну і кругласутачнае патруляванне вуліц, на якое выходзіла да 100 чалавек.

У многіх месцах органы царскай улады знаходзіліся ў стане разгубленасці, але ў некаторых гарадах падрыхтавалі ўзброеныя сілы для падаўлення народных выступленняў. У Менску ў дзень абвяшчэння Маніфеста — 18 кастрычніка па загаду жандарскага палкоўніка, па ўзгадненні з губернатарам Курловым, на плошчы Віленскага вакзала карнікі расстралялі мітынг, у якім удзельнічала каля 20 тыс. чалавек. У выніку да 100 чалавек былі забіты, каля 300 паранены. У Віцебску ў той жа дзень казачы патруль адкрыў стральбу па ўдзельніках мітынгу, які сабраўся слухаць Маніфест. Ахвярамі сталі 7 чалавек, чацвёра былі паранены. У адказ адбылася 20-тысячная дэманстрацыя пратэсту, а 19 кастрычніка 40 тыс. чалавек прынялі ўдзел у дэманстрацыйным пахавальным шэсці. Кіравала ім і забяспечвала ахову грамадскага парадку кааліцыйная камісія з прадстаўнікоў РСДРП і Бунда.

Кастрычніцкая палітычная стачка ахапіла на Беларусі 32 населеныя пункты, а ў іх — практычна ўсіх рабочых. Агульная колькасць стачачнікаў толькі

ў прамысловасці дасягала 66 тыс. Палітычны рух працоўных у кастрычніку 1905 г. распаўсюдзіўся на 53 гарады і мястэчкі.

У цэлым, аднак, царызму ўдалося адбіць кастрычніцкі націск працоўных. Пэўную ролю ў гэтым адыграў і маніфест аб свабодах. Паступова рэвалюцыйная хваля спала. У краіне ўсталявалася адносная раўнавага сіл — рэвалюцыі і контррэвалюцыі. У такіх умовах паскорылася дыферанцыяцыя грамадска-палітычных накірункаў, якая праявілася ва ўзнікненні самых розных партый, саюзаў, арганізацый.

Крайне правыя, прыхільнікі захавання неабмежаванага самадзяржаўя цара, гуртаваліся вакол шавіністычнага «Саюза рускага народа», члены якога атрымалі назву чарнасоценцаў. Ініцыятывы стварэння чарнасоценных арганізацый зыходзілі ад рэакцыйных чыноўнікаў жандарскіх і паліцэйскіх устаноў а таксама ад праваслаўнага духавенства. З сацыяльных нізоў да іх далучаліся дэкласіраваныя, часта крымінальныя элементы. У канцы 1905 — пачатку 1906 г. арганізацыі чарнасоценцаў афармiліся ў Менску, Гомелі, Віцебску, Пінску, Оршы, Глыбокім і іншых гарадах і мястэчках Беларусі. У кастрычніцкія дні і пазней яны ўдзельнічалі ў яўрэйскіх пагромах, сутычках з рабочымі дружынамі ў ходзе дэманстрацый і мітынгаў, у забойствах рэвалюцыянераў.

Ліберальная буржуазія ў цэлым сустрэла Маніфест 17 кастрычніка з задавальненнем і прызнала мэты рэвалюцыі ў асноўным дасягнутымі. У кастрычніку 1905 г. у ліберальным лагеры ўтварыліся дзве галоўныя партыі. Правыя групоўкі буржуазіі, земскіх дзеячаў, ліберальных памешчыкаў аб'ядналіся ў «Союз 17 октября», які адобрыў Маніфест і заявіў аб неабходнасці падтрымкі «канстытуцыйнага манарха» і захавання «адзінай і недзялімай Расіі». У гэтым пункце акцябрысты былі салідарны з чарнасоценцамі. «Левыя» лібералы з ліку земцаў-канстытуцыяналістаў, «Саюза вызвалення», буржуазнай інтэлігенцыі на з'ездзе ў Маскве, які адбыўся ў дні Кастрычніцкай стачкі, абвясцілі аб утварэнні Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі, якая засталася ў апазіцыі да царызму, але разам з тым выступіла за спыненне масавага рэвалюцыйнага руху, за пераход да парламенцкіх форм барацьбы пры захаванні манархіі.

Арганізатарамі аддзелаў «Союза 17 октября» ў гарадах Беларусі выступалі, як правіла, мясцовыя рускія чыноўнікі-манархісты, памешчыкі, праваслаўнае духавенства. Іх ідэйныя і палітычныя пазіцыі вызначаў шалёны вялікадзяржаўны шавінізм, і ў гэтых адносінах яны па сутнасці не адрозніваліся ад чарнасоценцаў, з якімі пазней, у час выбараў у Дзяржаўную думу, выступалі ў адным блоку. Для іх абсалютна непрымальнай была, у прыватнасці, палітыка кадэтаў па нацыянальным пытанні (прызнанне для Фінляндыі і Польшчы права на дзяржаўную аўтаномію, поўнага грамадзян-

скага і палітычнага раўнапраўя ўсіх народаў Расіі, свабоды ўжывання ў грамадскім жыцці розных моў і г. д.). Таму мясцовыя акцябрысты, у адрозненне ад сталічных, у прынцыпе адвяргалі любыя пагадненні з аўтанамістамі і рэзка нападалі на іх у сваіх органах друку. Для ўтварэння арганізацый кадэтаў на Беларусі з-за адсутнасці земстваў і вышэйшых навучальных устаноў спрыяльнай сацыяльнай глебы не было. Да вясны 1906 г. невялікія групы кадэтаў афарміліся толькі ў Магілёве і Пінску. Кадэцкую партыю тут падтрымлівалі розныя групоўкі яўрэйскай буржуазіі, у тым ліку сіяністы, і часткова (па агульнапалітычных і нацыянальных пытаннях) — польскія памешчыкі і каталіцкі касцёл.

Саюзніцай кадэтаў стала панска-клерыкальная Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі, створаная ў канцы 1905 — пачатку 1906 г. па ініцыятыве віленскага каталіцкага епіскапа барона Э. Ропа. Дзейнасць гэтай партыі разгортвалася пераважна ў Віленскай губ., дзе большасць насельніцтва складалі католікі. З мэтай нейтралізаваць агітацыю рэвалюцыйных партый сярод сялян барон Роп узяў за ўзор канстытуцыйна-дэмакратычную праграму і дапоўніў яе прынцыпамі хрысціянска-каталіцкай веры[12].

У кастрычніку — лістападзе 1905 г., як ніколі раней, актывізавалася дзейнасць партый рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера. Іх нізавыя структуры явачным парадкам легалізаваліся. Небывалы размах набыла агітацыя — як пісьмовая (у газетах, лістоўках), так і вусная (на мітынгах і сходах). Фактычным легальным органам Менскай групы РСДРП стала вялікая штодзённая газета «Северо-Западный край», выданне якой пасля чатырохмесячнага перапынку было адноўлена ў канцы кастрычніка 1905 г. У некаторых гарадах (Менск, Берасце) рэвалюцыйныя арганізацыі практыкавалі часовы захоп сваімі баявымі дружынамі легальных прыватных друкарань і выпускалі ў іх масавымі тыражамі лістоўкі.

Усё большы размах набывала стварэнне прафесійных саюзаў, як правіла, на партыйных платформах, найчасцей — РСДРП і Бунда. Асаблівую актыўнасць праяўлялі чыгуначнікі буйных станцый, якія на масавых сходах запісваліся ў мясцовыя аддзяленні Усерасійскага чыгуначнага саюза. Сярод іх значным уплывам карысталіся эсэры. Адной з галоўных функцый прафсаюзаў з'яўлялася арганізацыя стачачнай барацьбы за паляпшэнне эканамічнага становішча рабочых і служачых. Тактыка бундаўцаў у прафсаюзным руху (стварэнне асобных прафсаюзаў яўрэйскіх рабочых) мела раскольніцкі характар і аслабляла яго.

Пасля вераснёўскага спаду ў кастрычніку 1905 г. зноў пачаўся ўздым сялянскага руху. Кастрычніцкая хваля рэвалюцыі дакацілася ў вёску ў лістападзе. Колькасць выступленняў на Беларусі ўзрасла да 154 (супраць 54 у кастрычніку). Найбольшы размах сялянскіх выступленняў

назіраўся ў снежні 1905 г.— 286. Вялікую ролю ў гэтым уздыме адыграла агітацыя рэвалюцыйных арганізацый і непасрэдна рабочых, якія ў час кастрычніцкай, а затым снежаньскай палітычных стачак тысячамі вярталіся ў родныя вёскі з гарадоў і прамысловых цэнтраў. Слесар Пуцілаўскага завода (Пецярбург) А. Шабека арганізаваў у сябе на радзіме — у Сенненскім павеце Магілёўскай губерні 5 буйных выступленняў сялян супраць памешчыкаў і мясцовых улад, у якіх удзельнічалі сяляне 12 вёсак. Антыўрадавая агітацыя рабочых, што прыбылі восенню 1905 г. з Пецярбурга, Адэсы, Екацярынаслава, Данбаса і іншых месцаў, зафіксавана ў Полацкім, Лепельскім, Барысаўскім, Слонімскім, Горацкім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім паветах. У трох апошніх паветах сялянскі рух пад уплывам рабочых-шахцёраў, што вярнуліся на радзіму, набыў характар узброенага паўстання[13].

Пад уздзеяннем Усерасійскай палітычнай стачкі значна мацней, чым гэта было раней, завагалася армія. Найбольшы рэзананс мелі паўстанні матросаў у Кранштаце (26—27 кастрычніка) і Севастопалі (11—15 лістапада). У Гародні 5 лістапада «забаставала» (выйшла з падпарадкавання камандаванню) 26-ая артылерыйская брыгада. 8 лістапада ад імя 4 тыс. удзельнікаў мітынгу рабочых і салдат быў выказаны пратэст супраць увядзення ваеннага становішча ў Польшчы. На салдацкіх мітынгах у Гародні прымаліся рэзалюцыі салідарнасці з рэвалюцыйнымі матросамі і салдатамі Адэсы, Кранштата, Севастопаля, рабочымі Пецярбурга, якія аб'явілі агульную забастоўку ў абарону соцень арыштаваных удзельнікаў Кранштацкага паўстання. У Бабруйскай крэпасці ў канцы лістапада ўспыхнула паўстанне дысцыплінарнага батальёна (900 чалавек, з іх 300 кранштацкіх матросаў). Хваляванне ў Брэсцкай крэпасці ахапіла 7 рот, якія разам з патрабаваннямі паляпшэння свайго матэрыяльнага становішча выказалі салідарнасць з удзельнікамі Севастопальскага і Кранштацкага паўстанняў. Падобныя выступленні адбываліся і ў іншых месцах Беларусі.

У пачатку снежня 1905 г. царскі ўрад паспрабаваў авалодаць становішчам у краіне. 2 снежня па яго ўказу былі закрыты ўсе дэмакратычныя газеты, якія надрукавалі Маніфест Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў, Галоўнага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза, бальшавіцкага ЦК і меншавіцкай АК РСДРП, ЦК ПСР і ЦК ППС з заклікам да фінансавага байкоту антынароднага рэжыму (Фінансавы маніфест). Неўзабаве былі арыштаваны члены выканаўчага камітэта і многія дэпутаты Пецярбургскага Савета, з'явіўся ўказ аб забароне дзейнасці чыгуначных саюзаў.

У адказ 7 снежня 1905 г. ад імя Савета рабочых дэпутатаў, РСДРП, ПСР і Бунда была выдадзена адозва «Да ўсяго народа», якая фактычна заклікала да ўзброенага паўстання супраць царызму. У Маскве ў той жа дзень пачалася ўсеагуль-

ная палітычная стачка. Усерасійскую чыгуначную стачку з 7 снежня аб'явілі прадстаўнікі 29 чыгунак і Цэнтральнае бюро Усерасійскага чыгуначнага саюза. Так пачалася снежаньская ўсерасійская палітычная стачка. Пралетарыят Масквы ў ноч на 10 снежня ўзняўся на ўзброенае паўстанне.

Усе гэтыя падзеі рэхам адгукнуліся і на Беларусі. Менскі кааліцыйны савет і Віцебскі камітэт ПСР перавыдалі адозву «Да ўсяго народа». Фінансавы маніфест у перакладзе на беларускую мову выдала БСГ. Магілёўскі кааліцыйны савет выдаў лістоўку «Банкруцтва самадзяржаўнага ўрада», у якой падтрымаў патрабаванні Фінансавага маніфеста.

Агульныя палітычныя забастоўкі ў Менску, Гомелі, Мазыры, Пінску і іншых гарадах і на чыгуначных станцыях Беларусі пачаліся 8 снежня па закліках мясцовых чыгуначных камітэтаў, кааліцыйных саветаў і адпаведных ім органаў. У дні стачкі яны выступалі як фактычныя органы мясцовай улады. Аднак у Менску ў ноч на 9 снежня былі арыштаваны 17 вядомых рэвалюцыйных дзеячаў, у тым ліку і членаў савета. У той жа дзень губернатар Курлоў аб'явіў Менск і губерню на становішчы надзвычайнай аховы, закрыў газету «Северо-Западный край». Арышты працягваліся і ў наступныя дні. У выніку рэвалюцыйныя сілы ў Менску ў самыя напружаныя дні барацьбы былі фактычна абезгалоўлены.

Забастоўка на Гомельскім чыгуначным вузле паралізавала пасажырскі і таварны рух на значнай частцы Лібава — Роменскай і Палескіх чыгунак. У чыгуначных майстэрнях і на станцыі штодзённа адбываліся мітынгі. Мясцовыя ўлады не адважваліся арыштаваць Рэвалюцыйны камітэт. У сваю чаргу і ён праявіў нерашучасць, чакаючы, відаць, вынікаў барацьбы ў сталіцах імперыі. А тым часам да Гомеля набліжаўся эшалон з карным батальёнам генерала Арлова, узброены кулямётамі і гарматамі. Гомельскі Рэвалюцыйны камітэт прымаў пэўныя захады, каб не дапусціць яго ў горад, аднак беспаспяхова. 19—22 снежня стачка ў Гомелі была падаўлена.

У Баранавічах стачачны камітэт абапіраўся на салдат другога чыгуначнага батальёна. Рух цягнікоў тут быў спынены 9 снежня намаганнямі 300 рабочых-чыгуначнікаў на чале з інжынерам М. Ляпко. 11 снежня на плацы чыгуначнай брыгады адбыўся мітынг рабочых і салдат. Генерал Арцем'еў, які з групай афіцэраў спрабаваў разагнаць іх, быў збіты. Усё гэта суправаджалася перастрэлкай, якая ледзь не перарасла ва ўзброенае паўстанне рабочых і рэвалюцыйных салдат. Аднак сілы, верныя ўраду, змаглі апярэдзіць іх і авалодаць сітуацыяй на плацы. Па звестках паліцыі, стачачны камітэт і рэвалюцыйныя салдаты рыхтаваліся да захопу ўлады і чакалі толькі прыезду з Далёкага Усходу трэцяга батальёна сваёй брыгады. Аднак не дачакаліся: 12 снежня ўлады ўвялі ў Баранавічах ваеннае становішча. Неўзабаве прыбыў карны батальён

Арлова, але і яму спатрэбілася 4 дні для падаўлення стачкі і аднаўлення руху цягнікоў.

Снежаньская палітычная стачка ахапіла на Беларусі 17 гарадоў і мястэчак, а з улікам дэманстрацый, мітынгаў, сутычак з паліцыяй і войскам — 28 гарадоў і мястэчак. У стачках удзельнічалі каля 44 тыс. рабочых. Размах руху (па колькасці населеных пунктаў) у параўнанні з кастрычнікам паменшаў у 2 разы[14]. Пры гэтым рэзка скарацілася колькасць дэманстрацый і мітынгаў. Па напалу і напружанасці барацьбы сітуацыя ў некаторых гарадах была блізкай да ўзброенага паўстання. Аднак мясцовыя рэвалюцыйныя арганізацыі прытрымліваліся тактыкі чакання зыходу барацьбы ў цэнтры краіны. Прамых заклікаў да ўзброенага паўстання і спроб арганізацыі яго на Беларусі не было. Што за гэтым хавалася — нерашучасць? разважнасць? — адказаць цяжка. Адпаведныя дакументы гісторыкам пакуль невядомы. Паўстанні ў Маскве, іншых гарадах і раёнах краіны былі падаўлены ўзброенымі сіламі.

**Адступленне рэвалюцыі. Дэпутаты ад Беларусі ў I і II Дзяржаўных думах.** У сувязі з падаўленнем снежаньскіх выступленняў пралетарыят і яго саюзнікі па рэвалюцыйнай барацьбе былі вымушаны адступаць. Аднак 9 студзеня 1906 г., нягледзячы на ўсе папераджальныя меры ўлад, рабочыя даволі шырока адзначылі гадавіну рэвалюцыі. З гэтай нагоды ў 13 гарадах і мястэчках Беларусі адбыліся аднадзённыя агульныя і групавыя палітычныя забастоўкі, у якіх удзельнічалі каля 23 тыс. чалавек. У мястэчках Ляды, Колышкі, Смаляны, Жалудок рабочыя арганізавалі вулічныя дэманстрацыі. З улікам мітынгаў і сходаў палітычны рух у студзені 1906 г. ахапіў населеныя пункты Беларусі[24]. Значным быў і размах сялянскіх выступленняў. Рэзкі спад у рабочым і сялянскім руху назіраўся ў лютым — сакавіку 1906 г.

З мэтай аслаблення рэвалюцыйнага націску царскі ўрад выкарыстаў не толькі рэпрэсіўныя меры. 11 снежня 1905 г. быў выдадзены новы закон аб выбарах Дзяржаўнай думы, які забяспечваў найперш інтарэсы памешчыкаў. Адзін голас памешчыка на выбарах адпавядаў 3,5 голаса гарадской буржуазіі, 15 галасам сялян і 45 галасам рабочых. Выбары для працоўных былі шматступенныя. Многія катэгорыі наёмных работнікаў пазбаўляліся права голасу.

Тым не менш ліберальна-буржуазныя партыі заклікалі народныя масы спыніць рэвалюцыйныя выступленні і прыняць удзел у выбарах Думы, абяцаючы ім, што менавіта мірным, парламенцкім шляхам можна вырашыць усе набалелыя пытанні. Бальшавікі і ўсе дэмакратычныя партыі спадзяваліся на новы рэвалюцыйны ўздым. Яны прынялі рашэнне байкатаваць выбары, працягваць агітацыйна-арганізацыйную падрыхтоўку да звяржэння царызму рэвалюцыйным шляхам. Меншавікі выказаліся за тактыку паўбайкоту, г. зн. за ўдзел на першых дзвюх стадыях выбараў з мэтай стварэ-

МЫ ТРЕБУЕМ СОЗЫВА УЧРЕДИТЕЛЬНАГО СОБРАНІЯ НА ОСНОВѢ ВСЕОБЩАГО РАВНАГО, ПРЯ-
МОГО И ТАЙНАГО ИЗБИРАТЕЛЬНАГО ПРАВА.
ДОЛОЙ САМОДЕРЖАВІЕ!
ДОЛОЙ ГОСУДАРСТВЕННУЮ ДУМУ!
ДА ЗДРАВСТВУЕТ РЕВОЛЮЦІЯ!
ДА ЗДРАВСТВУЕТ ДЕМОКРАТИЧЕСКАЯ РЕСПУБЛИКА
ПОЛОЦКАЯ ОРГАНИЦІЯ РОСС. СОЦ. ДЕМОКР. РАБОЧ ПАР

Зварот Полацкай арганізацыі РСДРП адносна булыгінскай Думы.

ння «рэвалюцыйнага самакіравання» на месцах, і за адмаўленне ад удзелу ў выбарах дэпутатаў Думы.

Пазіцыі большасці арганізацый РСДРП, у тым ліку Абласнога камітэта Паўночна-Заходняга саюза, па гэтым пытанні дастаткова не высветлены. Мяркуючы па выніках выбараў дэлегатаў на IV (Объединительный) з'езд партыі, якія адбываліся амаль адначасова з выбарамі ў Думу, большасць мясцовых арганізацый РСДРП у той час займала меншавіцкія пазіцыі. Полацкая і Віцебская групы РСДРП выдалі адозвы з заклікам да байкоту выбараў у Думу. Рабочыя многіх буйных прадпрыемстваў у Менску, Мазыры, Пінску, Бабруйску, Гародні, Слоніме, Магілёве і іншых месцах байкатавалі выбары, не зважаючы на ўрадавы ўказ, які забараняў гэта. Але асноўная маса сялянства і гарадской дробнай буржуазіі не зжыла яшчэ канстытуцыйных ілюзій. Таму сарваць выбары не ўдалося. Большасць месц у Думе заваявалі кадэты.

З 36 дэпутатаў пяці заходніх губерняў 29 прайшлі ў Думу пад кадэцкім сцягам пры падтрымцы Канстытуцыйна-каталіцкай партыі, сіяністаў і «Саюза дасягнення раўнапраўя яўрэяў у Расіі». Сярод гэтых 29 дэпутатаў былі 10 памешчыкаў, 13 буржуазных інтэлігентаў і духоўных асоб (рабінаў і ксяндзоў), а таксама 6 сялян. З 7 астатніх дэпутатаў (усе сяляне) 5 адносілі сябе да беспартыйных, адзін — да сацыял-дэмакратаў і адзін — да правых [15].

Пачатак дзейнасці Дзяржаўнай думы ў красавіку 1906 г. супаў з новым уздымам рэвалю-

цыйнага руху. На Беларусі ў сувязі з днём 1 Мая забастоўкі рабочых былі праведзены ў 40 населеных пунктах. Адначасова ўзмацніўся і эканамічны рабочы рух. Працоўныя патрабавалі ўвядзення 8-гадзіннага рабочага дня, устанаўлення рабочага кантролю за наймам і звальненнем, аплаты часу забастовак і інш. У арганізацыі эканамічнай барацьбы рабочых усё больш прыкметную ролю адыгрывалі прафсаюзы.

Гэтаму спрыяў указ ад 2 снежня 1905 г. аб адмене крымінальнага праследавання за ўдзел у эканамічных стачках, калі яны працякалі «мірна», а таксама «Часовыя правілы» ад 4 сакавіка 1906 г., якія дазвалялі стварэнне прафесійных саюзаў наёмных рабочых і служачых у прамысловасці і гандлі з мэтай абароны эканамічных інтарэсаў, паляпшэння ўмоў працы і быту, павышэння прафесійнага, культурнага і маральнага ўзроўню сваіх членаў[16]. Удзел прафсаюзаў у палітычнай барацьбе і іх аб'яднанне закон забараняў. Зацвярджэнне статутаў і выдача дазволу на дзейнасць прафсаюзаў цалкам залежалі ад дзяржаўных чыноўнікаў і паліцыі. Тым не менш закон адкрываў пэўныя магчымасці для эканамічнай барацьбы рабочых, арганізацыі ўзаемадапамогі і культурна-асветнай працы. У Віцебску ў чэрвені 1906 г. былі зацверджаны статуты 13 прафсаюзаў[17]. А ў Магілёве і ў Гродзенскай губ. ні адзін прафсаюз не дамогся легалізацыі нават праз год пасля ўвядзення «Часовых правіл».

Вясновае наступленне пралетарыяту, як і ў 1905 г., актыўна падтрымалі сяляне. Зноў ажывілася дзейнасць у вёсцы партый рэвалюцыйна-дэмакратычнага лагера. Найбольшае распаўсюджанне ў гэты час набылі забастоўкі сялян-падзёншчыкаў і сельскагаспадарчых рабочых: яны склалі 37 працэнтаў усіх выступленняў. У Наваградскім павеце ў пачатку ліпеня, паводле паведамлення газеты «Русское слово», работы не вяліся «ні ў адным маёнтку»[18]. Забастоўка суправаджалася масавымі мітынгамі. Удзельная вага палітычных выступленняў сялян Беларусі летам 1906 г. перавысіла паказчыкі 1905 г.

Уздым рэвалюцыйнага руху адбіўся і ў арміі. Ажывілася дзейнасць ваенна-рэвалюцыйных арганізацый. Распаўсюджанне рэвалюцыйнай літаратуры, правядзенне мітынгаў і сходак салдат у красавіку — ліпені 1906 г. адзначаны ў Гродні, Менску, Баранавічах, Бабруйскай, Берасцейскай і Асавецкай крэпасцях, Кобрыне, Картуз-Бярозе. У лагерах Берасцейскай крэпасці салдаты выказалі пратэст супраць адпраўкі іх у карную экспедыцыю.

Рэвалюцыйны ўздым аказаў пэўны ўплыў і на дзейнасць Дзяржаўнай думы. Галоўным у Думе, як і чакалася, стала аграрнае пытанне. Кадэцкая фракцыя спрабавала выступіць у ролі лідэра агульнанацыянальнай апазіцыі царызму і найперш імкнулася павесці за сабою сялянскую дэмакратыю, прадстаўленую ў Думе фракцыяй трудавікоў. Для надзялення сялян зямлёю кадэ-

ты прапанавалі стварыць «дзяржаўны зямельны запас» за кошт казённых, удзельных, манастырскіх і часткі прыватнаўласніцкіх зямель, якія здаваліся памешчыкамі ў арэнду або ўвогуле не выкарыстоўваліся імі. Такія землі падлягалі адчужэнню на аснове прымусовага выкупу па «справядліваму» (не рыначнаму) кошту. Трудавікі і эсэры па гэтым пытанні карэнным чынам разышліся з кадэтамі. Яны выказаліся за ліквідацыю памешчыцкага землеўладання, за перадачу ўсёй зямлі ў агульнанародную ўласнасць і ўвядзенне ўраўняльнага землекарыстання па працоўнай норме. Распараджэнне нацыяналізаванай зямлёю перадавалася на месцы зямельным камітэтам, выбраным усеагульным, прамым, роўным і тайным галасаваннем, г. зн. фактычна сялянам. Кадэты не пагадзіліся і з гэтай прапановай. Яны лічылі, што мясцовыя зямельныя камітэты павінны былі складацца на аснове роўнага прадстаўніцтва сялян і памешчыкаў, а ў якасці пасрэднікаў паміж імі намячаліся дзяржаўныя чыноўнікі. У выніку сяляне аказаліся б у камітэтах ў меншасці.

У ходзе работы Думы ў атмасферы вострых міжпартыйных дыскусій адбыліся істотныя змены ў пазіцыях многіх дэпутатаў ад 5 заходніх губерняў. З іх ліку толькі 8 (усе інтэлігенты і 1 памешчык) уступілі ў фракцыю кадэтаў. Сярод іншых гэта зрабілі і 3 сіяністы. 15 дэпутатаў — прыхільнікаў Канстытуцыйна-каталіцкай партыі — далучыліся да фракцыі так званых аўтаномістаў з украінскіх, польскіх, прыбалтыйскіх і мусульманскіх губерняў. У фракцыю трудавікоў уступілі 3 дэпутаты (двое з іх сяляне). Шэсць сялянскіх дэпутатаў аб'явілі сябе беспартыйнымі, але пры галасаванні падтрымлівалі кадэтаў, аўтаномістаў або правых. Абсалютная большасць дэпутатаў-сялян з Беларусі (11 з 13) не падтрымалі праграму нацыяналізацыі зямлі і ўраўняльнага землекарыстання, якая карысталася шырокай папулярнасцю ў масах рускага сялянства.

Рашучымі праціўнікамі законапраектаў трудавікоў выступілі польска-беларускія памешчыкі-аўтаномісты (Р. Скірмунт і інш.). Па аграрным пытанні яны разышліся і з кадэтамі. Апошніх пакінуў нават адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Пінскай групы Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі князь Друцкі-Любецкі. Найперш яны настойвалі на прадастаўленні аўтаноміі і шырокага абласнога самакіравання, органы якога і павінны былі вырашыць на месцы аграрнае пытанне. Польска-беларускія аўтаномісты цвёрда адстойвалі неабходнасць захавання памешчыцкай і сялянскай уласнасці на зямлю.

20 чэрвеня 1906 г. была апублікавана ўрадавая праграма па аграрным пытанні, якая прадугледжвала ліквідацыю абшчыннага землеўладання, надзяленне сялян зямлёю ў асабістую ўласнасць, пашырэнне сялянскага землеўладання за кошт казённага фонду і добраахвотнага продажу памешчыцкай зямлі праз Сялянскі банк.

Публікацыя гэтай праграмы паставіла Думу перад неабходнасцю звароту да народа. У ходзе абмеркавання гэтага пытання левыя фракцыі ў Думе згуртаваліся на рэвалюцыйнай платформе. Кадэты засталіся ў ізаляцыі. Урад, не чакаючы выбуховага дакумента, указам ад 9 ліпеня 1906 г. распусціў Думу і назначыў новыя выбары.

Значная колькасць дэпутатаў, найбольш з ліку кадэтаў і трудавікоў, неадкладна выехалі ў Выбарг і там 10 ліпеня падпісалі адозву «Народу ад народных прадстаўнікоў», у якой выказалі пратэст супраць сваволу ўрада і заклікалі насельніцтва адмовіцца ад выплаты падаткаў і выканання павіннасцей на карысць дзяржавы. «Выбаргская адозва» атрымала шырокае распаўсюджанне, у тым ліку і на Беларусі, але масавага супраціўлення царызму не выклікала. Крыху пазней фракцыі сацыял-дэмакратаў і трудавікоў разам з рэвалюцыйнымі партыямі і саюзамі выдалі адозвы «Да арміі і флоту», «Да ўсяго народа» і «Маніфест да ўсяго расійскага сялянства» з заклікамі да ўзброенага паўстання супраць царызму. Аднак арганізаваць яго не ўдалося. Асобныя паўстанні матросаў і салдат (Свеаборг, Кранштат) былі падаўлены. Урад перайшоў да адкрытага ваеннага тэрору.

У такіх умовах палітычныя выступленні рабочых, найперш дэманстрацыі і мітынгі, сталі практычна немагчымымі. Колькасць палітычных стачачнікаў у ліпені-снежні 1906 г. рэзка ўпала. На эканамічнай барацьбе рабочых наступленне контррэвалюцыі адбілася ў меншай ступені. У другой палове 1906 г. у ёй удзельнічалі каля 9,2 тыс. чалавек (на 22 працэнты менш, чым у студзені—чэрвені). Агульная колькасць удзельнікаў эканамічных стачак на Беларусі ў 1906 г. (21 тыс.) у параўнанні з 1905 г. знізілася прыкладна ў 2 разы. Павялічылася ўдзельная вага абарончых стачак, але ў цэлым і ў 1906 г. пераважная большасць выступленняў (90 працэнтаў) мела наступальны характар. Вынікі барацьбы заставаліся спрыяльнымі для рабочых[19].

У канцы 1906 — пачатку 1907 г. рабочым усё часцей даводзілася змагацца не з асобнымі прадпрымальнікамі, а з іх класавымі арганізацыямі. У Віцебску на аснове закона аб прафсаюзах ад 4 сакавіка 1906 г. утварылася 5 аб'яднанняў гаспадароў. У Менскай губ. у 1906—1907 гг. дзейнічалі 4 саюзы ўласнікаў гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў. З'явіліся і рэгіянальныя аб'яднанні — сіндыкат гарбарных заводчыкаў, таварыства лесапрамыслоўцаў, саюз уладальнікаў шчацінна-шчотачных фабрык і інш.

Адной з галоўных іх задач была барацьба з прафсаюзамі і забастоўкамі рабочых шляхам масавых лакаўтаў. Віцебскае таварыства ўладальнікаў гарбарна-пасадачных майстэрань у снежні 1906 г. аб'явіла аб аднаўленні старога парадку найма і звальнення рабочых (без удзелу прафсаюза) і іншыя патрабаванні. Рабочыя адверглі іх і былі звольнены. Пры гэтым яны пра-

ділі выключную вытрымку і ў канцы красавіка 1907 г. прымусілі гаспадароў адступіць. Аналагічны ўльтыматум выставіў саюз фабрыкантаў-шчаціннікаў і да прыняцця яго аб'явіў лакаўт. У розных гарадах і мястэчках краю былі звольнены каля 2 тыс. рабочых. Супраціўленне ўзначаліў цэнтралізаваны рэгіянальны прафсаюз шчаціннікаў. З дапамогай іншых прафсаюзаў рабочыя перамаглі. У сувязі з лакаўтамі павялічвалася колькасць беспрацоўных. Пэўную дапамогу сваім сябрам, што страцілі працу, аказвалі прафсаюзы.

Барацьба з лакаўтамі, арганізацыя дапамогі беспрацоўным і многія іншыя накірункі дзейнасці прафсаюзаў патрабавалі аб'яднання іх сіл і ў гарадскім, і ў рэгіянальным, і агульнарасійскім маштабах. У снежні 1906 г. на сходзе прадстаўнікоў 8 прафсаюзаў у Бабруйску было створана гарадское бюро. Востра стаяла гэтае пытанне і ў Менску, дзе ў пачатку 1907 г. налічвалася 19 прафсаюзаў, але сувязей паміж імі не было. Адпаведныя перагаворы вяліся ў Віцебску. У сакавіку 1907 г. адбыўся рэгіянальны з'езд гарбароў, у якім прынялі ўдзел дэлегаты 17 прафсаюзаў з 16 гарадоў і мястэчак Беларусі, Літвы і ўсходняй часткі Польшчы. На ім было выбрана Цэнтральнае бюро краявога саюза. Такія ж з'езды рыхтавалі прафсаюзы будаўнікоў, друкароў, шаўцоў, краўцоў і інш. Наладжваліся сувязі мясцовых прафсаюзаў са створанымі ў Маскве і Пецярбургу арганізацыйнымі камісіямі і бюро па скліканні ўсерасійскіх галіновых канферэнцый і з'езда прафсаюзаў[20].

У канцы 1906 — пачатку 1907 г. ва ўмовах відавочнага спаду рэвалюцыйнай барацьбы і наступлення контррэвалюцыі адбыліся выбары ў II Дзяржаўную думу. Усе партыі дэмакратычнага лагера адмовіліся ад тактыкі байкоту і прынялі актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі. На Беларусі арганізацыі РСДРП, Бунда, ПСР, БСГ выкрывалі рэакцыйную, шавіністычную сутнасць палітыкі царызму і пазіцый правых, чарнасоценных і акцябрысцкіх арганізацый, якія тут выступалі ў адным блоку. Каб супрацьстаяць іх націску, арганізацыі левых партый у некаторых гарадах заключылі пагадненні аб выстаўленні агульнага спіса кандыдатаў. У Менску ў перадвыбарны камітэт левых у кастрычніку 1906 г. увайшлі прадстаўнікі мясцовых арганізацый РСДРП, Бунда, ПСР і БСГ, а таксама некаторых прафсаюзаў і груп беспартыйных рабочых. Дзякуючы аб'яднанню сваіх сіл, левы блок на гарадскіх выбарах у Менску ў студзені 1907 г. атрымаў перамогу. Аднак вынікі гэтых выбараў былі скасаваны.

Акцябрысты і чарнасоценцы беларускіх і іншых заходніх губерняў у кастрычніку 1906 г. на з'ездзе ў Вільні аб'ядналіся ў «Русский окраинный союз» («РОС»). Уся дзейнасць «саюзнікаў» на Беларусі вялася пад лозунгам «Расія для рускіх, і рускія павінны кіраваць ёю». Змагаючыся з рэвалюцыяй, яны адначасова імкнуліся ліквідаваць эканамічнае панаванне і палітычны ўплыў у краі польскіх

землеўласнікаў і яўрэйскай буржуазіі. Стаўка рабілася на падтрымку з боку беларускага праваслаўнага сялянства. Каб павесці яго за сабою, «РОС» патрабаваў ад урада прымусовага выкупу казною ў польскіх памешчыкаў «усіх без выключэння» маёнткаў, што перавышалі земскі цэнз, і передачы іх «рускім земляробчым праваслаўным элементам», да ліку якіх далучаў і праваслаўных беларусаў. «РОС» адмаўляў існаванне беларускай нацыі, а беларускі нацыянальны рух характарызаваў як «інтрыгу» польскіх паноў і касцёла, накіраваную супраць «адзінай і недзялімай Расіі». Разам з тым мясцовы акцябрысцкі і чарнасоценны друк вёў шалёную антыпольскую і антыяўрэйскую агітацыю і патрабаваў абвяціць усіх палякаў і яўрэяў «иностранцами, не имеющими права участвовать в представительстве и в выборах». Рэзкая палеміка накіроўвалася і супраць кадэтаў, якіх «саюзнікі» абвінавачвалі ў рэвалюцыйным развале Расіі[21].

Дзякуючы такой агітацыі, якая інтэнсіўна вялася праз дзяржаўныя ўстановы, праваслаўную царкву, школы, шматлікія мясцовыя і сталічныя органы друку, акцябрысцка-чарнасоценны блок правёў у Думу ад Менскай, Віцебскай, Магілёўскай і Гародзенскай губерняў 15 дэпутатаў, прычым у Менскай губерні ўсе 9 дэпутатаў, з іх 6 сялян, былі яго стаўленікі. У многіх выпадках вынікі выбараў фальсіфікаваліся, іншы раз — як у Менску — адмяняліся, на выбаршчыкаў, асабліва на сялян, аказваўся непрыкрыты націск з боку дзяржаўных чыноўнікаў і іерархаў праваслаўнай царквы. Так было і ў іншых рэгіёнах краіны, але там, як правіла, выбіраліся левыя дэпутаты ці кадэты.

Аўтанамісты — польска-беларускія памешчыкі і ксяндзы, са свайго боку, разгарнулі масавую агітацыю праз касцёл і друк, даказваючы беларускім сялянам-католікам, што яны — палякі і павінны выбіраць у Думу тых, хто абараняе польскае насельніцтва і каталіцкую веру. Раз'юшаная антыпольская і антыкаталіцкая прапаганда акцябрыстаў і чарнасоценцаў дапамагала ім у гэтым. Аўтанамісты крытыкавалі палітыку ўрада і дзейнасць урадавых партый і арганізацый, асабліва па нацыянальным і рэлігійным пытаннях. Як і рускія вялікадзяржаўнікі, яны выступалі супраць рэвалюцыйнага руху, але, у адрозненне ад іх, лічылі неабходнай «моцную ліберальную ўладу». Яны заклікалі насельніцтва Беларусі і Літвы да «адзінадушнай, цвярозай і добразычлівай» работы на карысць культурнага і эканамічнага развіцця свайго краю. Аўтанамісты асуджалі «Выбаргскую адозву» і абураліся «авантурнай» палітыкай кадэтаў[22]. Ім удалося заваяваць 11 месцаў у Думе, з іх 7 — у Віленскай губ. Колькасць дэпутатаў ад кадэтаў скарацілася да двух. Астатнія 8 дэпутатаў ад 5 заходніх губерняў (усе сяляне) фармальна былі беспартыйнымі, а фактычна падтрымлівалі правых і часткова кадэтаў[23].

Такім чынам, на выбарах у II Дзяржаўную думу на Беларусі перамаглі 2 шавіністычна-клерыкальныя, контррэвалюцыйныя групоўкі — руская акцябрысцка-чарнасоценная і польская аўтанамісцкая. Кожная з іх змагалася за панаванне на беларускай зямлі, адмаўляючы пры гэтым існаванне беларускага этнасу. Левыя партыі — народнікі і сацыял-дэмакраты не змаглі супрацьстаяць ім і пацярпелі на выбарах поўнае паражэнне. Аднак у цэлым па краіне яны заваявалі 222 месцы ў Думе, у той час як кадэты — 98, а правыя — 54. Істотныя разыходжанні ў выніках выбараў на Беларусі, з аднаго боку, і ў краіне ў цэлым — з другога, тлумачацца тым, што рускім і польскім памешчыцка-клерыкальным групоўкам шавіністычнай і дэмагагічнай агітацыяй удалося раздзяліць значныя масы беларускага сялянства на «рускіх» і «палякаў», павесці іх на выбарах за сабою.

Нягледзячы на страту 80 месцаў, кадэтам і ў II Думе ўдалося заняць становішча ўплывовага цэнтра, які ўмела выкарыстоўваў ваганні і непаслядоўнасць працавікоў і меншавікоў, а па некаторых пытаннях — падтрымку аўтанамістаў. Кадэты прыкметна абмежавалі свае аграрныя патрабаванні, а па пытанні ўлады перайшлі да формулы стварэння ўрада, які карыстаецца даверам большасці. Працавікі, народныя сацыялісты і эсэры ў Думе па-ранейшаму настойвалі на неабходнасці нацыяналізацыі зямлі. Акцябрысты і чарнасоценцы падтрымалі аграрную праграму старшыні ўрада П. Сталыпіна, якая прадугледжвала захаванне памешчыцкага землеўладання і разбурэнне сялянскай абшчыны. Польска-беларускія аўтанамісты разам з дэпутатамі ад Польшчы («Польскае кола») патрабавалі аўтаноміі для Каралеўства Польскага з уласным заканадаўчым сеймам, а для 9 заходніх, беларуска-літоўска-ўкраінскіх губерняў — «шырокага самакіравання», якое выбіралася б усеагульным, прамым, роўным і тайным галасаваннем. Органы гэтага самакіравання павінны былі падрыхтаваць аграрныя законапраекты і перадаць іх для канчатковага разгляду ў Дзяржаўную думу[24].

Патрабаванні аўтанамістаў выклікалі раз'юшаныя нападкі з боку чарнасоценцаў і акцябрыстаў, у тым ліку сялянскіх дэпутатаў ад Менскай губерні. Яны катэгарычна адвяргалі ўсякую думку аб аўтаноміі Беларусі і выказвалі сваю гатоўнасць да канца «абараняць веру, цара і айчыну ад ворагаў знешніх і ўнутраных». Разам з тым яны скардзіліся на малазямелле і патрабавалі дадатковага надзелу зямлёю на правах уласнасці. Адзін з лідэраў чарнасоценцаў у Думе прапанаваў задаволіць гэтыя патрабаванні за кошт польскіх памешчыкаў, абавязаўшы іх прадаць ураду ў поўны тэрмін усе свае землі[25].

У перыяд дзейнасці Думы ў краіне зноў пачаўся рэвалюцыйны ўздым. У рабочым руху на Беларусі ён праявіўся ў сувязі са святкаваннем 1 Мая. Аднадзённыя агульныя і групавыя стачкі былі праведзены ў 21 населе-

ным пункце і ахапілі каля 25 тыс. рабочых. У эканамічнай барацьбе рабочых у параўнанні з апошнімі месяцамі 1906 г. уздыму не заўважалася. Пастулова павялічвалася колькасць сялянскіх выступленняў (з 7 у студзені да 38 у чэрвені 1907 г.)[26].

Як сведчаць гэтыя даныя, рэвалюцыйны ўздым вясною 1907 г. быў найслабейшы ў параўнанні з усімі папярэднімі — як на Беларусі, так і ва ўсёй краіне. Гэта, вядома, бачыў і адпаведным чынам улічваў у сваёй палітыцы царскі ўрад.

На вопыце дзейнасці I і II Дзяржаўнай думы ён пераканаўся ў непрыдатнасці выбарчага закона ад 11 снежня 1905 г. Разагнаўшы I Думу, ён стварыў II Думу, значна больш рэвалюцыйную, чым першая. Памяркоўная кадэцкая праграма, разлічаная на прымірэнне сялян і памешчыкаў, была адкінута і тымі, і другімі. У такой сітуацыі для царызму не было сэнсу ісці на пагадненне з кадэтамі.

Улічваючы агульную сітуацыю ў краіне, стомленасць і расчараванне шырокіх народных мас вынікамі працяглай і незвычайна напружанай барацьбы, царскі ўрад рашыўся выканаць патрабаванні правых партый — распусціць Думу і змяніць выбарчы закон без санкцыі народных прадстаўнікоў. Рабілася гэта дзеля таго, каб забяспечыць у новай Думе большасць прыхільнікаў «правапарадку». Шукаючы зачэпку для разгону Думы, П. Сталыпін у маі 1907 г. спраакаваў ілжывае абвінавачанне сацыял-дэмакратычнай фракцыі ў падрыхтоўцы змовы супраць цара і патрабаваў ад Думы пазбавіць яе членаў парламенцкай недатыкальнасці. Думская камісія выкрыла лжывасць абвінавачання. Не чакаючы абмеркавання вынікаў расследавання, Мікалай II указам ад 3 чэрвеня 1907 г. распусціў Думу і адначасова — насуперак Маніфесту 17 кастрычніка — змяніў выбарчы закон. Па сутнасці гэта быў дзяржаўны пераварот. Ім і закончылася першая расійская рэвалюцыя.

## 2. Развіццё эканомікі. Сталыпінскія рэформы на Беларусі.

**Прамысловасць.** Пэўны ўплыў на развіццё прамысловасці Беларусі ў пачатку XX ст. аказалі сусветны эканамічны крызіс 1900—1903 гг., а затым дэпрэсія, якая працягвалася да 1908 г. За гэты час у рамесна-саматужнай вытворчасці колькасць прадпрыемстваў скарацілася прыблізна на 4,3 тысячы, а валавая прадукцыя — на 4492 тыс. руб. (8,2 працэнта). Лік адносна буйных (цэнзавых) прадпрыемстваў за тыя ж гады павялічыўся з 799 да 1008 (на 26,2 працэнта), а іх валавая вытворчасць вырасла на 37 працэнтаў і склала амаль 42 працэнты прадукцыі ўсёй прамысловасці[27].

Найбольш высокія тэмпы раз-

віцця назіраліся ў дрэваапрацоўчай галіне. Да 1900 г. асноўная маса драўніны вывозілася або сплаўлялася за межы Беларусі (на Украіну, ва Усходнюю Прусію) неапрацаванай. Эканамічны крызіс прымусіў купцоў — гандляроў лесам — будаваць заводы па перапрацоўцы драўніны на месцы. Перш за ўсё развіваліся фанерная, папяровая, запалкавая, лесахімічная вытворчасці. Адпаведныя заводы і фабрыкі, камбінаваныя прадпрыемствы, пабудаваныя часткова пры ўдзеле замежнага капіталу, з'явіліся ў Бабруйску, Нова-Барысаве, Мазыры, Рэчыцы, у многіх памешчыцкіх маёнтках. У Выдрыцы (Аршанскі павет) у 1900 г. быў пабудаваны і абсталяваны сучаснай тэхнікай найбуйнейшы ў Расіі завод сухой перагонкі драўніны. Удзельная вага дрэваапрацоўчай вытворчасці ў прадукцыі ўсёй прамысловасці Беларусі ў 1900—1908 гг. павялічылася з 18,7 да 23,6 працэнта[28]. Гэта найвышэйшы паказчык з усіх галін прамысловасці Беларусі.

Буйны, пераважна замежны, капітал з канца XIX ст. узмоцнена пранікаў у тэкстыльную прамысловасць. У 1900—1908 гг. з'явілася 8 новых тэкстыльных фабрык, якія давалі $^{3}/_{4}$ усёй прадукцыі галіны. Аб'ём вытворчасці вырас у 4,4 раза, а яе ўдзельная вага ў прадукцыі ўсёй прамысловасці павялічылася з 1,9 да 6 працэнтаў. Адзначаны рост забяспечылі льнопрадзільныя фабрыкі. Дзейнічалі таксама некалькі шоўкакруцільных фабрык. Вытворчасць сукна працягвала скарачацца.

На рубяжы XIX—XX ст. амаль палавіну прадукцыі ўсёй беларускай прамысловасці давала харчовая галіна (вінакурныя, піваварныя, крухмальнапатачныя, маслабойныя, мукамольныя, тытунёвыя прадпрыемствы), прычым доля вінакурства складала каля 28 працэнтаў. Апошняе было сканцэнтравана ў руках памешчыкаў. Значную частку спірту скупляла па выгадных для іх цэнах казна. Таму крызіс практычна не закрануў гэтай вытворчасці: колькасць вінакурных заводаў на Беларусі ў 1900—1908 гг. вырасла з 470 да 603. Яны давалі каля 10 працэнтаў усяго спірту, што выраблялася ў Расіі. Удзельная вага прадукцыі прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, металаапрацоўчай, шкляной і іншых галін, у тым ліку і харчовай у цэлым, у адзначаны час паніжалася.

Ва ўмовах эканамічнага крызісу і дэпрэсіі паскорыўся працэс аб'яднання фабрыкантаў у сіндыкаты з мэтай устанаўлення манапольных цэн на сваю прадукцыю. Пры гэтым прамысловы капітал зрастаўся з банкаўскім. Так у 1905 г. пры Менскім аддзяленні Паўночнага банка ўзнік Заходні камітэт запалкавых фабрыкантаў, які неўзабаве аб'яднаўся з Усходнім камітэтам у Маскве. У выніку з'явілася Усерасійскае акцыянернае таварыства запалкавых фабрык. Сіндыкат рэгуляваў вытворчасць запалак з мэтай павышэння на іх розничных цэн.

У 1900—1908 гг. на Беларусі ўтварылася 13 новых акцыянерных таварыстваў з удзелам мяс-

цовага, расійскага і замежнага капіталаў. Ім належалі буйнейшыя прадпрыемствы Беларусі: Віцебская льнопрадзільная фабрыка «Дзвіна» — Руска-Бельгійскаму акцыянернаму таварыству з асноўным капіталам 2 млн. франкаў (праўленне ў Генце); трамвай і электрычная станцыя ў Віцебску — Бельгійскаму акцыянернаму таварыству з капіталам 1,5 млн. франкаў (праўленне ў Бруселі); Шклоўская папяровая фабрыка — Рускаму акцыянернаму таварыству кардонажна-папяровай вытворчасці; Выдрыцкі завод сухой перагонкі дрэва — акцыянернаму таварыству «Шэрынг»; крухмальны завод у Менску — акцыянернаму таварыству па вырабу крухмалу «Прасвет» (мела заводы ў Прыбалтыцы і Арлоўскай губерні) і г. д. Узнiклі і мясцовыя манапалістычныя аб'яднанні: акцыянернае таварыства тытунёвай фабрыкі «Нёман» (былая фабрыка Шарашэўскага) з асноўным капіталам 2 млн. руб. і фабрыкі канторскіх кніг і прылад у Гародні, запалкавых фабрык «Прагрэс-Вулкан» у Пінску і «Маланка» ў Мазыры (кожнае з асноўным капіталам 300 тыс. руб.) і інш.

Дробныя і рамесна-саматужныя прадпрыемствы па-ранейшаму былі найбольш распаўсюджаны ў сферы бытавога абслугоўвання насельніцтва (выраб адзення, абутку, скуры, аўчын, посуду, іншых прадметаў хатняга ўжытку, сельскагаспадарчых прылад, прадуктаў харчавання і інш.). У валавой прадукцыі прамысловасці іх удзельная вага ў 1900—1908 гг. панізілася з 67 працэнтаў да 58,3 працэнта. Ва ўмовах эканамічнага крызісу і дэпрэсіі значная частка дробных вытворцаў трапіла ў залежнасць ад буйнога капіталу і практычна ператварылася ў наёмных рабочых-надомнікаў.

У 1909 г. дэпрэсія змянілася прамысловым уздымам, які працягваўся да пачатку першай сусветнай вайны. Як і раней, па тэмпах развіцця выдзялялася лесанарыхтоўчая і дрэваапрацоўчая прамысловасць. У 1913 г. яе доля ў валавой прадукцыі прамысловасці Беларусі паднялася да 33 працэнтаў, а ў лесаэкспарце ўсёй Расійскай імперыі — да 27,4 працэнта. Значнага развіцця дасягнулі кардоннапапяровая, запалкавая галіны, а таксама вытворчасць шкла і абліцовачных матэрыялаў (кафля, карнізы для ўпрыгожання дамоў і кватэр). Беларускія прадпрыемствы ў 1912 г. давалі 24,4 працэнта агульнарасійскай вытворчасці дубовых шпал, 23,5 працэнта фанеры, 44,8 працэнта запалкавай саломкі, 55,7 працэнта аконнага шкла, амаль адну трэць аднакаляровай кафлі, каля палавіны абліцовачных карнізаў і г. д. Адна Менская шпалерная фабрыка выпускала 14,5 працэнта ўсіх шпалераў, што вырабляліся тады ў Расіі. У гады прамысловага ўздыму першыя фабрыкі ўзніклі ў гарбарна-абутковай вытворчасці («Арол» у Менску і інш.). У цэлым колькасць адносна буйных, цэнзавых — пераважна фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў у 1900—1913 гг. вырасла на Беларусі з 799 да 1282, а рабочых на іх — з 31,1 тыс. да 54,9 тыс.

Маёўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань. 1911 г.

Пры гэтым магутнасць рухавікоў у 1908—1913 гг. павялічылася з 27,3 тыс. да 44,9 тыс. к. с., а энергаўзброенасць аднаго рабочага ўзрасла з 0,71 да 0,82 к. с.[29], што ўскосна сведчыць аб якасным росце прамысловасці.

Аднак на Беларусі па-ранейшаму захоўваўся адносна нізкі ўзровень фабрычнай вытворчасці і канцэнтрацыі прамысловасці. Дробныя і рамесна-саматужныя прадпрыемствы ў 1913 г. давалі больш за палову валавой прадукцыі прамысловасці. На гэтых прадпрыемствах у 1913 г. было занята 184,8 тыс. работнікаў, у 3,4 раза больш, чым у цэнзавай прамысловасці. Колькасць наёмных рабочых у сферы дробнай і саматужна-рамеснай вытворчасці дасягала 94 тыс.[30] Беларусь значна адставала ад агульнарасійскага ўзроўню па вартасці прамысловай прадукцыі, што прыходзілася на душу насельніцтва.

У 1900—1913 гг. буйная прамысловасць найбольш хутка развівалася ў Менску і Віцебску, дзе колькасць рабочых на цэнзавых прадпрыемствах за гэты час павялічылася ўдвая (адпаведна да 5,1 і 4 тысяч). Новыя буйныя прамысловыя прадпрыемствы з'явіліся ў Гародні, Пінску, Гомелі і іншых гарадах. Аднак у цэлым для Беларусі і ў гэты час было характэрна пераважнае размяшчэнне прамысловасці ў сельскай мясцовасці — бліжэй да крыніц сыравіны і таннай рабочай сілы. Удзельная вага такіх прадпрыемстваў у 1900—1913 гг. павялічылася з 65,7 да 68 працэнтаў, а рабочых на іх — з 45,4 да 51,4 працэнта[31].

**Сельская гаспадарка. Падаткі і павіннасці сялян.** У пачатку XX ст. яшчэ больш выразна праявілася спецыялізацыя сельскай гаспадаркі Беларусі на вытворчасці малака, малочных прадуктаў і мяса. У сувязі з гэтым плошча травасеяння ў 1901—

1913 гг. вырасла ў 2 разы. У той жа час валавы збор бульбы — асноўнай кармавой і тэхнічнай культуры — у заходніх губернях павялічыўся на 37,6 працэнта. У пачатку першай сусветнай вайны на Беларусь прыходзілася 17,2 працэнта ўсёй плошчы пад бульбай у 50 губернях Еўрапейскай Расіі[32]. Колькасць вінакурных заводаў за той жа перыяд вырасла з 430 да 630. У 1913 г. яны перапрацоўвалі на спірт 32 млн. пуд. бульбы (амаль удвая больш, чым у 1900 г.) і каля 3 млн. пуд. зерня. Адходы ад вінакурства ішлі на корм жывёле. У пачатку XX ст. у сялян і памешчыкаў Беларусі было 2,8 млн. галоў буйной рагатай жывёлы, з іх прыблізна 1,4 млн. складалі дойныя каровы. Пашыралася прамысловая вытворчасць масла і сыру. У адзначаны час на Беларусі налічвалася каля 300 масларобчых і сыраварных заводаў. У 1912 г. па чыгунках толькі з 26 паветаў Беларусі было вывезена 649,1 тыс. пуд. мяса і сала, а з 21 павета — 79 тыс. пуд. масла, з 19 паветаў, г. зн. прыблізна з паловы сучаснай тэрыторыі Беларусі,— 141,9 тыс. пуд. сыру і тварагу[33].

Істотна вырасла тэхнічная ўзброенасць памешчыцкіх і пэўнай часткі заможных сялянскіх гаспадарак. У 1910 г. на памешчыцкі маёнтак у сярэднім прыходзілася па 5 жалезных плугоў і па 5,5 розных сельскагаспадарчых машын (малатарняў, веялак, сеялак, жняярак, сенакасілак). Машыны канцэнтраваліся ў буйных памешчыкаў. Малатарні і веялкі даволі распаўсюджанымі былі і ў гаспадарках заможных сялян. Такіх машын сяляне Беларусі ў 1910 г. мелі каля 32,4 тыс. (на 2,8 тыс. больш, чым памешчыкі). Затое сеялак, жняярак і сенакасілак у сялян амаль не сустракалася.

Значна паскорыўся працэс распаду феадальнай і фарміравання буржуазнай зямельнай уласнасці. У 1905—1913 гг. запазычанасць памешчыкаў Беларусі павялічылася на 40,7 працэнта і дасягнула 345 млн. руб. На 1 студзеня 1914 г. у банках было закладзена $^{2}/_{3}$ памешчыцкіх зямель. З 1905 па 1910 г. плошча зямлі, што паступіла ў продаж у 5 заходніх губернях, вырасла з 325,6 тыс. да 577,4 тыс. дзесяцін. За гэты перыяд дваранскае землеўладанне скарацілася на 633 тыс., а прыватнае землеўладанне сялян і мяшчан павялічылася на 525 тыс. дзесяцін. Асабліва паскорыўся працэс куплі-продажу ў 1911—1914 гг., калі дваране, чыноўнікі, афіцэры прадалі ў 5 заходніх губернях 1 млн. 514 тыс. дзесяцін зямлі. Сяляне купілі 714,1 тыс., а купцы і мяшчане — 241,6 тыс. дзесяцін. Абсалютная большасць купленых зямель пераходзіла ва ўласнасць заможных людзей. У 1905 г. 1023 сялянскія двары мелі ад 100 да 500, а 113 двароў — звыш 500 дзесяцін зямлі кожны[34].

Сялянская бедната, атрымаўшы ў ходзе рэалізацыі сталыпінскай аграрнай рэформы права ўласнасці на зямлю, выступала на зямельным рынку ў якасці прадаўца. У 1907—1914 гг. 40,8 тыс. сялянскіх двароў з ліку тых, якія выйшлі на хутары і адрубы, прадалі 187,8 тыс. дзе-

сяцін зямлі. На аднаго прадаўца пры гэтым прыходзілася ў сярэднім каля 4,6 дзесяціны[35].

Аднак яшчэ і ў 1905 г. дваране ў Беларусі трымалі ў сваіх руках 41 працэнт усёй зямлі. Яны складалі абсалютную большасць сярод тых уласнікаў, якія мелі 500 і больш дзесяцін, а таксама і сярод буйных памешчыкаў, якія мелі маёнткі ад 100 да 500 дзесяцін зямлі[36]. Многія памешчыцкія гаспадаркі, перш за ўсё буйныя, прыстасаваліся да рынку. Капіталістычная сістэма значна пацясніла паўпрыгонніцкія, адпрацовачныя формы гаспадарання і істотна ўмацавалася ў сельскай гаспадарцы Беларусі. Тым не менш развіццё капіталізму па прускаму шляху, пачатак якому паклала рэформа 1861 г., і праз 40 гадоў пасля яе не прывяло да вырашэння аграрнага пытання.

Асновай гаспадаркі пераважнай большасці сялян заставаліся надзельныя землі, якімі яны не маглі распараджацца так, як хацелі, нават у тых рэгіёнах, дзе было падворнае землекарыстанне. У пачатку XX ст. надзелы значна здрабнелі. Узрасла колькасць беззямельных і малазямельных сялян. У 1905 г. з 660 тыс. сялянскіх двароў Беларусі каля 70 тыс. (1 працэнт) з'яўляліся беззямельнымі, а 251,4 тыс. (42,6 працэнта) мелі надзелы да 8 дзесяцін, з якіх яны не маглі пражыць. Не забяспечваў у той час пражытачны мінімум сярэдняй сялянскай сям'і (6—7 душ) і надзел да 15 дзесяцін на двор. А такіх сялянскіх двароў налічвалася 82,5 працэнта[37]. Пры гэтым селянін без згоды сельскай грамады не мог прадаць свой надзел, закласці яго ў банку і г. д. Ён быў фактычна прымацаваны да тых павіннасцей, якія былі звязаны з надзелам. Менавіта шматлікія падаткі і павіннасці пры нізкай ураджайнасці зямлі і адсталай агратэхніцы і прыводзілі да таго, што сялянская сям'я, маючы надзел да 15 дзесяцін, не магла пракарміць, апрануць сябе, пачалавечы жыць.

Пасля рэформы 1861 г. з сялян спаганяліся падаці і павіннасці трох катэгорый: казённыя, земскія і мірскія. Да першай катэгорыі адносіліся выкупныя плацяжы і дзяржаўны зямельны падатак. Да другой — земскі пазямельны падатак і тры натуральныя павіннасці — дарожная, падводная і паліцэйская. Як дзяржаўны, так і земскі пазямельны падатак з дзесяціны надзельнай сялянскай зямлі быў амаль удвая вышэйшы, чым з памешчыцкай. Сумы земскіх падаткаў расходаваліся пераважна на ўтрыманне паліцыі і цэркваў[38].

Многа сіл і часу, прытым у гарачую вясноваа-летнюю пару, адбірала ў сялян дарожная павіннасць, звязаная з утрыманнем у спраўным стане паштовых і ваенна-камунікацыйных дарог, будаўніцтвам і рамонтам мастоў, гацей, плацін і г. д. Участкі дарог, прыпісаныя да сельскай грамады, знаходзіліся нярэдка за 50—100 вёрст. Закон абавязваў сялян выдзяляць падводы для падвозу па справах службы чыноўнікаў, паліцыі, жандараў, навабранцаў, хворых арыштантаў і г. д. Перыядычна адрывалі сялян ад гаспадаркі і паліцэй-

скія абавязкі на выбарных пасадах соцкіх і дзесяцкіх, звязаныя з дзяжурствамі ў павятовых паліцэйскіх упраўленнях і ў пунктах размяшчэння станавых прыставаў.

За кошт так званых мірскіх збораў, якія плацілі толькі сяляне, утрымліваліся органы сялянскага самакіравання — валасныя праўленні, суды, сельскія старасты, а таксама школы, фельчарскія і ветэрынарныя пункты і інш. Былі і натуральныя мірскія павіннасці — будаўніцтва і рамонт грамадскіх будынкаў у воласці, прасёлачных дарог, канаў і г. д. На сялян ускладваўся і абавязак тушэння пажараў у казённых і памешчыцкіх лясах у радыусе да 15 вёрст ад месца пражывання. Падлічана, што сумарны грашовы кошт усіх подацей і павіннасцей сялян Беларусі ў сярэднім складаў 60 працэнтаў чыстага прыбытку з дзесяціны зямлі. На Палессі і ў іншых месцах з неўрадлівымі глебамі сума падаткаў нярэдка перавышала чысты прыбытак з надзела[39].

Спагнанне непасільных падаткаў і шматлікіх павіннасцей адмоўна адбівалася на сялянскай гаспадарцы. Каб разлічыцца з імі, сяляне восенню былі вымушаны прадаваць хлеб і іншыя прадукты сваёй працы, а зімою, каб не памерці з голаду, браць кабальныя пазыкі ў памешчыкаў, лесапрамыслоўцаў, ліхвяроў пад вяснова-летнія адпрацоўкі. Гэта быў адзін з важнейшых фактараў закабалення сялянства, асабліва ва ўмовах абавязковай прыпіскі селяніна да пэўнай сельскай або валаснай грамады. Апошняя ў цэлым адказвала перад дзяржавай за спраўную выплату ўсіх падаткаў і выкананне павіннасцей і таму без пэўных гарантый нікому не давала вольнага выхаду нават на часовыя (больш за год) адыходныя промыслы. Гэта было галоўнай функцыяй сельскай абшчыны, прадпісанай ёй памешчыцкай дзяржавай. А важнейшым сродкам прымацавання селяніна да абшчыны і сельскай грамады якраз і з'яўляўся надзел, які катэгарычна забаранялася прадаваць не членам грамады. Селянін нават бясплатна не мог адмовіцца ад надзелу, напрыклад падараваць яго абшчыне без яе згоды на тое.

Такім чынам, сяляне заставаліся найбольш непаўнапраўным з усіх саслоўяў. За пэўныя правіннасці валасны суд і земскі начальнік да 1904 г. маглі прысудзіць селяніна нават да публічнага пакарання розгамі, што не дапускалася ў адносінах да прадстаўнікоў ніякіх іншых саслоўяў. Перажыткам феадалізму з'яўляліся і саслоўныя сялянскія валасныя суды, для дзейнасці якіх былі характэрны адсутнасць строга вызначанай законнасці і сваволле адміністрацыі. Дзейнасць гэтага суда, як і іншых органаў сялянскага самакіравання, была пастаўлена пад поўны кантроль земскіх начальнікаў.

Сярэдневяковыя формы землеўладання, саслоўная непаўнапраўнасць і прыніжанасць селяніна, непасільныя падаткі і павіннасці, якія ён нёс на карысць памешчыцкай дзяржавы, былі асноўнай прычынай, якая тарма-

зіла развіццё не толькі сельскай гаспадаркі, але і прамысловасці, бо і паўпер-селянін, які знаходзіўся у кабальнай залежнасці ад памешчыка, і памешчык, які вёў сваю гаспадарку метадамі паўпрыгонніцкай эксплуатацыі такіх сялян, амаль не з'яўляліся спажыўцамі прамысловых тавараў. Абмежаванасць унутранага рынку ўсё больш абвастрала супярэчнасць паміж высокаразвітой прамысловасцю і адсталай паўпрыгонніцкай сельскай гаспадаркай. Невыпадкова якраз аграрнае пытанне з'ўлялася галоўным і першачарговым у працэсе наспявання і развіцця першай расійскай рэвалюцыі 1905—1907 гг. Яно ж прадвызначыла буржуазна-дэмакратычны народна-сялянскі характар гэтай рэвалюцыі.

**Аграрная рэформа.** Рост масавага аграрнага, а затым і палітычнага руху расійскага сялянства ў 1905 г. прымусіў царскі ўрад прызнаць непазбежнасць рэфармавання старых парадкаў у вёсцы. Ініцыятарам і галоўным кіраўніком пераўтварэнняў выступіў прэм'ер-міністр і міністр унутраных спраў П. Сталыпін, які ўсвядоміў неабходнасць ломкі сярэдневяковых форм землеўладання, з мэтай расчысціць шлях для капіталістычнага развіцця Расіі і разам з тым зберагчы памешчыцкае землеўладанне. Стаўка рабілася на тое, каб разбіць адзіны, агульнасялянскі фронт супраць памешчыкаў, раскалоць вёску, паскорыць стварэнне класа сельскай буржуазіі з ліку заможнага сялянства, прыцягнуць яго на падтрымку царскага ўрада і такім чынам паставіць перашкоду на шляху рэвалюцыйнага руху. Важнейшымі сродкамі дасягнення гэтай мэты з'яўляліся разбурэнне сялянскай абшчыны, насаджэнне хутароў і перасяленне «лішняга» ў еўрапейскай частцы Расіі сялянства ў Сібір і на Далёкі Усход.

9 лістапада 1906 г. быў апублікаваны ўказ «Аб змяненні і дапаўненні некаторых пастаноў аб сялянскім землеўладанні». Яшчэ да гэтага, з вясны 1906 г., пачалі стварацца губернскія і павятовыя землеўпарадкавальныя камісіі, якія павінны былі садзейнічаць сялянам у куплі і арэндзе казённай і прыватнаўласніцкай зямлі, у перасяленні ў Сібір і г. д. Пераважную большасць членаў камісій складалі назначаныя ўрадам чыноўнікі і зусім нязначную — выбарныя прадстаўнікі сялян. Быў створаны таксама галоўны камітэт па справах землеўпарадкавання. У ажыццяўленне рэформы актыўна ўключыліся земствы, створаныя вясною 1911 г. у Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губернях[40].

Першапачатковым, зыходным этапам рэформы, неабходным для станаўлення прыватнай сялянскай зямельнай уласнасці, з'ўлялася разбурэнне сялянскай абшчыны. Рэвалюцыя 1905—1907 гг. разбіла ілюзіі рэакцыянераў аб патрыярхальнасці сялянства, паказала марнасць іх надзей на тое, што абшчына ўтрымае сялянскую масу на пазіцыях вернасці і аддднасці царызму. На справе часцей было наадварот: абшчынная арганізацыя нярэдка садзейнічала большай згуртаванасці ся-

лянскага руху, накіраванага супраць памешчыкаў. І гэта таксама паўплывала на рашэнне ўрада аб паскоранай ліквідацыі абшчыны, якая да 1905 г. пільна ахоўвалася ім. Указ 9 лістапада 1906 г. дазваляў кожнаму гаспадару па яго жаданні выйсці з абшчыны і замацаваць у асабістую ўласнасць сваю надзельную зямлю. Санкцыю на гэта павінен быў даць агульны сход сельскай грамады на працягу аднаго месяца з часу падачы заявы. Калі сход не задавальняў просьбу, то канчаткова вырашаў пытанне земскі начальнік. Селяніну, што выходзіў з абшчыны, дазвалялася патрабаваць выдзялення зямлі на адным участку, на хутары. Такім чынам вырашалася пытанне аб ліквідацыі цераспалосіцы, якая страшэнна перашкаджала прагрэсу сялянскай гаспадаркі.

14 чэрвеня 1910 г., пасля адабрэння ўказа 9 лістапада 1906 г. у III Дзяржаўнай думе і ў Дзяржаўным савеце, ён быў падпісаны Мікалаем II і стаў законам. Паводле ўказа ад 29 мая 1911 г., землеўпарадкавальныя камісіі атрымалі права прымусова — у мэтах ліквідацыі цераспалосіцы — выдзяляць сялянам зямлю на адным участку і такім чынам штурхаць іх да перасялення на хутары. У 1915 г. у Магілёўскай губ. выйшлі з абшчыны 56,8 працэнта, а ў Віцебскай — 28,9 працэнта гаспадароў. Усяго ў гэтых двух губернях замацавалі зямлю ў асабістую ўласнасць 48 працэнтаў абшчынных двароў (супраць 22 у цэлым па Расіі)[41]. Атрымаўшы права ўласнасці на надзел, многія сяляне-беднякі прадавалі сваю зямлю багацеям. Пры гэтым, аднак, захоўвалася ранейшае абмежаванне: надзельная зямля магла прадавацца толькі членам сваёй сельскай грамады.

На рэалізацыю рэформы ў Беларусі і Літве пэўны адбітак наклаў адкрыта вялікадзяржаўны, па сутнасці каланіяльны накірунак палітыкі царызму, які пры Сталыпіне рэзка ўзмацніўся і, у прыватнасці, праявіўся ў дадатковых мерах па насаджэнні рускага землеўладання. За кошт казённых зямель тут быў створаны спецыяльны фонд для рускіх пасяленцаў. Адпаведную палітыку павінен быў праводзіць і Сялянскі банк. У выніку ў 1907—1912 гг. толькі ў Гарадзенскай губ. рускія пасяленцы пры дапамозе банка купілі ў памешчыкаў «польскага паходжання» амаль 28 тыс. дзесяцін зямлі, а сам банк у гэтых жа мэтах набыў больш за 13 тыс. дзесяцін[42].

За 10 гадоў ажыццяўлення рэформы на надзельнай, казённай і купленай банкам зямлі ў 5 заходніх губернях было створана больш за 12,8 тыс. хутароў, якія занялі плошчу каля 1,4 млн. дзесяцін. Працэнт створаных на Беларусі хутароў (12) быў вышэйшы, чым у Расіі ў цэлым (10). Найбольш хутка працэс хутарызацыі разгортваўся ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, на якія прыходзілася больш за 60 працэнтаў усіх хутароў рэгіёна. Хутарызацыя паступова набірала тэмпы: з усіх хутароў, што ўзніклі тут да 1915 г., каля $^2/_3$ з'явілася ў 1911—1914 гг[43].

Хутарская гаспадарка шырока прапагандавалася ў друку. Ства-

раліся паказальныя хутары, якія забяспечваліся сартавым насеннем, саджанцамі пладовых дрэў, пародзістай жывёлай, мінеральнымі ўгнаеннямі, удасканаленым інвентаром, машынамі і інш. У Віленскай губ. да канца 1914 г. было арганізавана 387 паказальных гаспадарак на плошчы каля 5,6 тыс. дзесяцін. Такія ж гаспадаркі былі і ў іншых беларускіх губернях. Для пераймання іх вопыту наладжваліся экскурсіі сялян як у межах Беларусі, так і ў іншыя краі, напрыклад у Фінляндыю. На ўсё гэта адпускаліся немалыя сродкі[44].

З мэтай інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі, павышэння культуры земляробства і жывёлагадоўлі, іх тэхнічнай аснашчанасці ў перыяд рэформы землеўпарадкавальнымі камісіямі і земствамі прымаліся меры па ўзмацненні агранамічнай, заатэхнічнай, ветэрынарнай службы, арганізацыі пунктаў продажу і пракату ўдасканаленых сельскагаспадарчых прылад і машын, складоў мінеральных угнаенняў, насення, «заводаў» племяннoй жывёлы і г. д. Колькасць аграномаў у Віцебскай губ. у 1908—1913 гг. павялічылася з 3 да 169 чалавек. Земствы павялічвалі прыём на службу спецыялістаў малочнай гаспадаркі, садаводства, ільнаводства, лугаводства і інш. У Менскай губ. колькасць зернеачышчальных пунктаў і пракатных станцый у 1911—1914 гг. вырасла з 11 да 87, з іх больш пяцідзесяці арганізавала земства. Сельскагаспадарчыя склады Віцебскай губ. у 1911 г. прадалі тавараў (тэхнікі, мінеральных угнаенняў, насення і інш.) на 139,3 тыс., а ў 1913 г.— на 392,9 тыс. руб. Хутка ўзрастала сетка земляробчых гурткоў, якія займаліся прапагандай агранамічных ведаў і перадавых метадаў вядзення гаспадаркі, арганізоўвалі машынапракатныя станцыі, сельскагаспадарчыя выстаўкі. Пашыралася навукова-даследчая і асветніцкая дзейнасць Менскай балотнай станцыі, адкрытай у 1911 г. Пры ёй з 1912 г. дзейнічалі рэгіянальныя трохмесячныя сельскагаспадарчыя курсы, задачай якіх з'яўлялася падрыхтоўка спецыялістаў па культуры кармавых раслін, асушэнні балот і лугаводству для Менскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай, Кіеўскай і Валынскай губерняў. Расходы па меліярацыі ў Менскай губ. у 1907—1914 гг. выраслі з 17 тыс. да 152,3 тыс. руб.[45].

У мэтах барацьбы са спустошальнымі пажарамі, якія нярэдка суправаджаліся вынішчэннем цэлых вёсак і велізарнымі матэрыяльнымі стратамі, землеўпарадкавальныя камісіі і земствы рабілі пэўныя захады па арганізацыі вогнестойкага будаўніцтва. Аб тэмпах і маштабах гэтай работы сведчаць затраты Менскага губернскага земства, якія ў 1911—1914 гг. выраслі з 21,5 тыс. да 100 тыс. руб. Ствараліся майстэрні і заводы па вырабу цэглы, чарапіцы і іншых будаўнічых матэрыялаў, а таксама курсы па падрыхтоўцы адпаведных спецыялістаў[46]. Вогнестойкае будаўніцтва шырока прапагандавалася ў друку.

Даволі шырокі размах на Беларусі набыў кааператыўны рух,

якi найбольш праявiўся ў арганiзацыi дробнага крэдыту. У Магiлёўскай губ. з 1905 па 1913 г. колькасць крэдытных i пазыкова-ашчадных таварыстваў вырасла з 8 да 139. Агульная сума ўкладаў у iх на 1 студзеня 1914 г. дасягала 4,5 млн. руб., прычым толькi за 1913 г. павялiчылася на 1,4 млн. Акрамя таго, у губернi дзейнiчала да 150 валасных пазыкова-ашчадных кас. У Вiцебскай губ. у 1913 г. налiчвалася 144 кааператыўныя ўстановы, 21 спажывецкае таварыства, 9 масларобчых арцелей. Колькасць ашчадных кнiжак у сялян Менскай, Магiлёўскай i Вiцебскай губерняў у 1906—1915 гг. вырасла ў 2,5, а сума грашовых укладаў — у 3 разы i дасягнула 27,4 млн. руб.[47]

Аднак эфектыўнасць усёй адзначанай дзейнасцi ў цэлым была невысокай з прычыны беднасцi i непiсьменнасцi пераважнай большасцi сялян. Бядняцкая маса не магла выкарыстаць практычна нiчога з таго, што прапаноўвалi крэдытныя таварыствы, сельскагаспадарчыя склады, пункты пракату, агранамiчная i заатэхнiчная навука. Вядома, селянiн-бядняк не ў стане быў пабудаваць сабе цагляны дом пад чарапiчным дахам, купiць пародзiстую жывёлу i г. д. Адзiнае, што рэальна дала яму сталыпiнская рэформа,— гэта магчымасць прадаць свой надзел i пазбавiцца такiм чынам ад апекi сельскай грамады, а значыць, i ад кабалы ў мясцовага памешчыка, лiхвяра, кулака. Рэформа адкрыла для паўпралетарскага насельнiцтва вёскi свабоду выбару заняткаў, пошуку больш выгаднага месца i ўмоў продажу сваёй рабочай сiлы, а для заможных сялян — больш шырокiя магчымасцi для iнтэнсiфiкацыi гаспадаркi. У выйгрышы заставалiся i памешчыкi, якiя захоўвалi свае маёнткi. У цяжкае становiшча траплялi толькi тыя з iх, што вялi гаспадарку шляхам кабальных адпрацовак.

Асаблiва моцны ўдар па апошнiх нанесла адмена забароны на перасяленне сялян у азiяцкую частку Расii. Больш таго, каб прытупiць вастрыню аграрнага пытання ў Еўрапейскай Расii, урад прымаў пэўныя захады для заахвочвання перасяленцаў. З гэтай мэтай выдзялялi сродкi на праезд, кароткатэрмiновыя пазыкi i беззваротную грашовую дапамогу, забяспечвалiся спецыяльныя цягнiкi, рыхтавалiся пункты прыёму i размеркавання перасяленцаў, наразалiся ўчасткi зямлi i г. д.

За 1904—1914 гг. з пяцi заходнiх губерняў перасялiлiся 368,4 тыс. чалавек, з iх каля 70 працэнтаў — у 1907—1909 гг.[48] Пiк перасяленняў (102,5 тыс.) прыйшоўся на 1909 г.— самую глухую пару палiтычнай рэакцыi, калi сяляне страцiлi апошнюю надзею атрымаць зямлю на радзiме з дапамогай Дзяржаўнай думы. Абсалютную большасць перасяленцаў складалi беззямельныя i малазямельныя сяляне. Спакусiўшыся шырокаразрэкламаванымi сiбiрскiмi прасторамi i выгодамi, iльготамi i ўрадавай дапамогай перасяленцам, яны нярэдка за бясцэнак распрадавалi сваю маёмасць i выязджалi ў Сiбiр.

Аднак дапамога з боку ўрада

была мізэрнай і аказвалася нязначнай часткай перасяленцаў.

Доўгім і цяжкім быў шлях у Сібір. Участкі для пасялення адводзіліся ў глухіх, неасвоеных чалавекам таёжных мясцінах. Бездарожжа, суровы, нязвыклы клімат, цяжкая праца, звязаная з асваеннем новых зямель, недахоп сіл і сродкаў для гэтага, неспрыяльныя, часта нават варожыя адносіны мясцовага насельніцтва, бяздушнасць чыноўнікаў, адсутнасць урачэбнай дапамогі, масавыя хваробы і высокая смяротнасць — вось што чакала масу перасяленцаў у Сібіры. У сувязі з гэтым многія з іх вярталі вяртацца назад. Усяго за 1907—1914 гг. на Беларусь вярнулася 36,5 тыс. (каля 11 працэнтаў) перасяленцаў — зусім збяднелых людзей, якія страцілі апошнія сродкі і надзеі.

Менавіта горкі вопыт многіх тысяч перасяленцаў, які не ўтойваўся і ў тагачасным друку, прывёў да масавага расчаравання сялян Беларусі ў магчымасці знайсці шчасце ў Сібіры. Палітыка масавых перасяленняў у Сібір з прычыны іх непадрыхтаванасці і неарганізаванасці, адсутнасці належнай дапамогі перасяленцам па сутнасці правалілася. Пачатак першай сусветнай вайны, ваенныя паражэнні царскай арміі, масавае бежанства з заходніх губерняў, акупацыя значнай іх часткі ў 1915 г. кайзераўскай арміяй, дэзарганізацыя народнай гаспадаркі краіны перапынілі рэалізацыю сталыпінскай рэформы. Сялянскае пытанне засталося нявырашаным.

**Земская рэформа.** У заходніх губернях П. Сталыпін імкнуўся ўзняць і палітычную ролю заможнага сялянства ў сістэме мясцовых органаў кіравання. Гэта было магчыма пры ўвядзенні тут выбарнага земства. З увядзеннем яго ў 9 беларуска-літоўска-украінскіх губернях (Віцебская, Магілёўская, Менская, Гародзенская, Віленская, Ковенская, Кіеўская, Валынская, Падольская) Сталыпін меркаваў вырашыць яшчэ адну задачу — выцесніць ці хаця б істотна аслабіць палітычную ролю на мясцовым і імперскім узроўні буйных землеўладальнікаў «польскага паходжання». Значная перавага іх землеўладання над «рускім» давала ім магчымасць выбіраць на дваранскіх сходах у Дзяржаўны савет выключна сваіх прадстаўнікоў. «Истинно русские» памешчыкі і чыноўнікі, найперш мясцовыя, патрабавалі ад урада прыняць меры па ліквідацыі «польскага засілля». Але адкрыта пазбавіць польскую знаць права выбараў у Дзяржаўны савет урад не мог, не рызыкуючы сваім аўтарытэтам у заходніх краінах.

Выхад быў знойдзены просты і знешне нават дэмакратычны: увесці ў заходніх губернях земства, але па такой выбарчай сістэме, якая забяспечыла б у іх пераўагу «рускага элемента». Зрабіць гэта можна было, толькі павялічыўшы ў земствах колькасць прадстаўнікоў мясцовага «рускага» (праваслаўнага беларускага і ўкраінскага) сялянства, якія выступалі б разам з рускімі памешчыкамі супраць палякаў. Такім земствам урад мог даверыць не толькі кіраўніцтва мясцовай гаспадаркай,

але і выбары дваран-землеўласнікаў у Дзяржаўны савет.

Прымальны для ўрада спосаб выбараў не толькі ў земскія ўстановы, але і ў Дзяржаўную думу прапаноўвалі і настойліва прапагандавалі ў друку і на сваіх з'ездах чарнасоценныя і акцябрысцкія арганізацыі, якія ў заходніх губернях у асноўным складаліся з рускіх чыноўнікаў і праваслаўнага духавенства. Сваю сацыяльную апору яны шукалі ў масах праваслаўнага беларускага і ўкраінскага сялянства, якое абвяшчалі «рускім» і спрабавалі аб'яднаць вакол сябе пад шавіністычным лозунгам «Расія для рускіх, і толькі рускія павінны кіраваць ёю». Такую пазіцыю адкрыта падтрымаў П. Сталыпін, які ў 1909—1910 гг. стаў ініцыятарам стварэння ў III Дзяржаўнай думе фракцыі рускіх нацыяналістаў у якасці сваёй асноўнай парламенцкай апоры.

Выразнікамі інтарэсаў праваслаўнай часткі дробнай, сялянскай па паходжанні, буржуазіі і інтэлігенцыі Беларусі, што звязвала свой лёс з палітыкай царызму, у 1905—1914 гг. выступілі такія арганізацыі, як «Крестьянин» і «Белорусское общество». Арганізатарамі і кіраўнікамі іх былі выхадцы з беларускай вёскі С. Кавалюк і Л. Саланевіч.

Дзеячы «Крестьянина» і «Белорусского общества» аб'яўлялі сябе беларусамі, выступалі ад імя беларускага народа, але абвяшчалі яго «арганічнай часткай» рускага народа — «западноруссами», мову і культуру якіх «сапсавалі» палякі ў час свайго панавання на Беларусі. У сувязі з гэтым яны заклікалі беларусаў хутчэй пазбавіцца ад сваіх нацыянальных асаблівасцей, засвоіць рускую мову і культуру, зліцца з велікарусамі. Разам з тым паслядоўна і мэтанакіравана прапагандавалі тэзіс аб антырускай дзейнасці на Беларусі польскіх памешчыкаў, касцёла і яўрэйскай буржуазіі, распальвалі варожасць да іх, дамагаліся дадатковых заканадаўчых абмежаванняў для палякаў і яўрэяў і забеспячэння вядучай ролі ў палітычным і эканамічным жыцці краю мясцовых «истинно русских» людзей. Такая прапаганда імпанавала праваслаўнай частцы дробнай буржуазіі Беларусі. На выбарах у Дзяржаўную думу ўсіх чатырох скліканняў яна галасавала за стаўленікаў акцябрысцка-чарнасоценнага блока.

Менавіта з гэтага лагера зыходзіла ідэя аб замене класавасаслоўных выбарчых курый нацыянальнымі курыямі, пры адначасовым паніжэнні маёмаснага цэнзу з мэтай павелічэння «рускага» прадстаўніцтва над польскім і яўрэйскім у Думе і ў земстве. Кавалюкі і Саланевічы горача падтрымалі намер П. Сталыпіна аб стварэнні на Беларусі земстваў менавіта на такіх прынцыпах.

Прааналізаваўшы суадносіны «рускага» і «польскага» насельніцтва і адпаведныя маёмасныя цэнзы ў 9 заходніх губернях, урад не адважыўся ўводзіць выбарнае земства ў Гарадзенскай, Віленскай і Ковенскай губернях, дзе яно з прычыны значнай перавагі католікаў, якіх адносілі да палякаў, магло трапіць у рукі

польскіх паноў. Паводле законапраекта, ухваленага П. Сталыпіным, земствы меркавалася стварыць у Віцебскай, Менскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай і Валынскай губернях шляхам выбараў па нацыянальных — «рускай» і «польскай» курыях. Праваслаўныя сяляне-беларусы залічваліся ў першую з іх, католікі — у другую. Маёмасны цэнз выбаршчыкаў у параўнанні з Палажэннем аб земскіх установах ад 12 чэрвеня 1890 г. паніжаўся ўдвая (да 7,5 тыс. руб.). Пры гэтым, аднак, забяспечвалася пераважная большасць памешчыкаў.

За парэформенныя дзесяцігоддзі ў беларускай вёсцы вырасла значная праслойка заможных сялян-прадпрымальнікаў. Яны, вядома, імкнуліся павялічыць сваю зямельную ўласнасць, пашырыць прадпрымальніцкую дзейнасць, але сустракалі на гэтым шляху магутную перашкоду: з аднаго боку — памешчыкаў, найперш польскіх — асноўных уласнікаў зямлі і многіх прамысловых прадпрыемстваў, а з другога — яўрэйскую буржуазію, пад кантролем якой знаходзіліся гандаль і каля паловы прамысловага патэнцыялу Беларусі. Беларуская дробная буржуазія, нягледзячы на адносную шматлікасць, па сваіх эканамічных, фінансавых, арганізацыйных магчымасцях была ўсё ж непараўнальна слабейшай за канкурэнтаў і не разлічвала сваімі сіламі ў блізкай перспектыве авалодаць мясцовым рынкам, тым больш заваяваць палітычную ўладу. Таму яна нават у пачатку XX ст. не адгукалася на прапаганду беларускай нацыянальнай ідэі і нацыянальнай дзяржаўнасці. Праваслаўная частка гэтай буржуазіі, афіцыйна далучаная да пануючай нацыі, у пераважнай большасці свае інтарэсы звязала з шавіністычнай — антыбеларускай, антыпольскай і антыяўрэйскай палітыкай царызму на Беларусі і актыўна ўключылася ў барацьбу з беларускім нацыянальным рухам.

Прыцясненні і дыскрымінацыйныя меры царызму ў адносінах да каталіцкага касцёла на Беларусі выклікалі абурэнне сярод беларусаў-католікаў і мелі вынікам яшчэ больш цеснае згуртаванне іх вакол ксяндзоў. Апошнія выкарыстоўвалі гэта ў паланізатарскіх мэтах, даводзячы, што кожны католік ёсць паляк. Прапаганда мела поспех. Таму каталіцкая частка беларускай дробнай буржуазіі падтрымлівала дзейнасць прапольскіх памешчыцка-клерыкальных арганізацый і таксама варожа ставілася да беларускага нацыянальнага руху. Найбольш выразна гэта праявілася на выбарах у Дзяржаўную думу ў 1906—1912 гг. Дзякуючы падтрымцы беларускага каталіцкага насельніцтва, найперш Гародзеншчыны і Віленшчыны, у Думу праходзілі кандыдаты мясцовых польскіх памешчыкаў і ксяндзоў, у тым ліку і сяляне, для якіх нацыянальныя інтарэсы беларускага народа былі зусім чужыя. У Думе яны цесна ўзаемадзейнічалі з прадстаўнікамі шавіністычнай партыі «нарадовых дэмакратаў» ад Каралеўства Польскага і дамагаліся толькі ліквідацыі дыс-

крымінацыйных законаў і ўказаў, што датычылі польскага насельніцтва і каталіцкай рэлігіі на Беларусі.

Колькасць дэпутатаў ад нацыянальнай курыі ў земства ўстанаўлівалася ў адпаведнасці з сярэднеарыфметычным ад сумы працэнтаў колькасці выбаршчыкаў і вартасці іх нерухомай маёмасці. Напрыклад, калі колькасць выбаршчыкаў у «польскай» курыі ў пэўным павеце складала 2 працэнты ад агульнай, а іх нерухомая маёмасць — 38 працэнтаў, то колькасць дэпутатаў земства ў дадзеным выпадку не магла перавышаць 20 $\left(\frac{2+38}{2}\right)$[49].

Законапраект П. Сталыпіна пры абмеркаванні ў III Дзяржаўнай думе нечакана сустрэў супраціўленне сярод акцябрыстаў. Большасць з іх выступіла за захаванне ў законе толькі маёмаснага цэнзу. Асудзілі законапраект кадэты — як адкрыта шавіністычны і небяспечны для дзяржавы. Левыя фракцыі — трудавікі і сацыял-дэмакраты,— выкрываючы дух нацыянальнай і рэлігійнай нецярпімасці, якім быў прасякнуты сталыпінскі праект, адзначалі, што ён прыносіць у ахвяру інтарэсам кучкі рускіх памешчыкаў працоўнае сялянства і рабочае насельніцтва Беларусі і Украіны і мае на мэце аслабіць іх вызваленчую барацьбу. У спрэчках аб законе выявілася прапамешчыцкая, антысялянская сутнасць пазіцый польска-літоўска-беларускай групы дэпутатаў. Яны адназначна выказваліся супраць нацыянальных курый і за выбары земства толькі паводле маёмаснага цэнзу, установленага земскім Палажэннем 1890 г. (не менш за 15 тыс. руб.). У такім разе земства на Беларусі аказалася б у руках польскіх памешчыкаў. Група пратэставала супраць новай дыскрымінацыі палякаў і заяўляла, што пры ўстанаўленні ў Расіі грамадзянскага раўнапраўя яны не горш за рускіх нацыяналістаў «абаранялі б сілу і магутнасць рускай дзяржавы». Беларускія праваслаўныя сяляне, што прайшлі ў Думу па спісах чарнасоценцаў і акцябрыстаў, у цэлым падтрымлівалі законапраект Сталыпіна, але заяўлялі аб неабходнасці павелічэння ў земстве прадстаўнікоў ад сялян[50].

Галасамі фракцыі рускіх нацыяналістаў пры падтрымцы часткі акцябрыстаў законапраект П. Сталыпіна з неістотнымі папраўкамі быў праведзены праз Дзяржаўную думу і паступіў на разгляд Дзяржаўнага савета. Пазіцыя буйных землеўласнікаў выявілася тут вельмі выразна: незалежна ад нацыянальнасці яны ў пераважнай большасці выступілі супраць нацыянальных курый і паніжэння выбарчага цэнзу. 4 сакавіка 1911 г. законапраект быў адхілены. У адказ П. Сталыпін заявіў цару аб сваёй адстаўцы з пасады прэм'ер-міністра, калі той не зацвердзіць законапраект надзвычайным парадкам — па 87-ым артыкуле Асноўных законаў, які дазваляў гэта зрабіць у час паміж сесіямі Думы і Савета. Мікалай II задаволіў просьбу-ўльтыматум: распусціў на 3 дні Думу і Дзяржаўны савет і падпісаў указ аб увя-

дзенні земства ў Віцебскай, Менскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай губернях з выбарамі па нацыянальных курыях і пры паніжаным маёмасным цэнзе. Тым не менш становішча П. Сталыпіна як прэм'ер-міністра пасля гэтага рэзка пахіснулася. У верасні 1911 г. ён быў забіты агентам ахоўнай службы.

Нягледзячы на антыдэмакратычны характар выбарчага закона, выбарныя павятовыя і губернскія земствы ў Віцебскай, Менскай і Магілёўскай губернях нават за кароткі час іх дзейнасці адыгралі прыкметную ролю ў развіцці мясцовай гаспадаркі, у павышэнні культуры земляробства і жывёлагадоўлі, садаводства і агародніцтва, у арганізацыі продажу і пракату сельскагаспадарчай тэхнікі, мінеральных угнаенняў, заатэхнічнай і ветэрынарнай службы, у прапагандзе передавога вопыту і г. д. Вядома, карысць з іх дзейнасці мелі найперш памешчыкі і заможныя сяляне. Земствы садзейнічалі фарміраванню сельскагаспадарчай буржуазіі і яе русіфікацыі.

## 3. Барацьба за нацыянальнае адраджэнне.

**Беларускі нацыянальны рух у перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг.** Рэвалюцыя садзейнічала ўздыму нацыянальных рухаў прыгнечаных народаў Расійскай імперыі, у тым ліку беларускага. Мэтай апошняга было адраджэнне занядбанага і забытага, афіцыйна непрызнанага мужыцкага этнасу, яго «хамскай» (у вачах паноў і чыноўнікаў) мовы і культуры, барацьба за «пачэсны пасад між народамі». Арганізатарам, ідэйным і палітычным кіраўніком барацьбы з'яўлялася Беларуская сацыялістычная грамада.

У пракламацыях 1905 г. БСГ выступала за ўстанаўленне ў Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з супольным соймам (Канстытуцыйным сходам) для ўсіх народаў і прадастаўленне кожнаму народу права мець свой сойм, які «вёў бы яго справы». Па аграрным пытанні прапагандавалася эсэраўская ідэя сацыялізацыі зямлі і ўраўняльнага землекарыстання. Сялянам адрасаваліся заклікі забіраць зямлю ад цара, казны і памешчыкаў сілай, рыхтавацца да ўзброенай барацьбы з царскім войскам. У сакавіку 1905 г. БСГ разам з эсэрамі арганізавала ў Менску сялянскі з'езд, які падтрымаў яе платформу і ўтварыў Беларускі сялянскі саюз. Рашэнні з'езда мелі рэвалюцыйна-дэмакратычны характар[51].

Разам з іншымі рэвалюцыйна-дэмакратычнымі партыямі БСГ байкатавала булыгінскую Думу. У лістоўцы «Царова дума» яна выкрывала ашуканства маніфеста аб скліканні Думы і заклікала да далейшай барацьбы з царызмам: не плаціць падаткаў, не ісці

ў салдаты, сілай дабівацца канстытуцыі, «права народу сваёй уласцю пастанаўляць аб сваіх справах і патрэбах», права выбіраць выбарных у Канстытуцыйны сход ці сойм агульным, роўным і тайным галасаваннем, свабодна пісаць і гаварыць праўду, збірацца і змаўляцца, як палепшыць сваю долю. У лістоўцы прагучалі нават тэрарыстычныя матывы, не ўласцівыя тактыцы БСГ («біць ды забіваць слуг царовых»). «Патрабуем,— заяўляла БСГ,— каб кожны народ меў права сам пастанаўляць аб сваіх справах і патрэбах, выбіраць сабе сваіх чыноўнікаў і судзіць іх, гаварыць, пісаць і вучыцца па-свойму. Патрабуем, каб кожны народ меў свой сойм у сваім краі. Далоў цара і яго правіцельства! Далоў царову Думу! Хай жывець народнае праўленне і Канстытуцыйны сход у Вільні!»[52]

Агітацыйная дзейнасць БСГ пашырылася ў канцы 1905 г., калі яна змагла наладзіць уласную падпольную друкарню ў Менску. Тады ж, як адзначалася, яна выдала ў перакладзе на беларускую мову Маніфест Пецярбургскага Савета рабочых дэпутатаў, Галоўнага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза, ЦК і АК РСДРП, ЦК ПСР, ЦК ППС з заклікам да фінансавага байкоту антынароднага рэжыму.

У студзені 1906 г. у Менску адбыўся II з'езд БСГ, на якім былі прыняты новая праграма і арганізацыйны статут, выбраны ЦК у складзе Івана і Антона Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага і Алеся Бурбіса[53]. У праграме заяўлялася, што БСГ арганізуе «працавітую беднату Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцей» з канчатковай мэтаю замены капіталістычнага ладу сацыялістычным. Бліжэйшай сваёй задачай БСГ абвясціла звяржэнне самадзяржаўя сумесна з пралетарыятам усёй Расіі і выказалася за ўтварэнне Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі са свабодным самавызначэннем і культурна-нацыянальнай аўтаноміяй народнасцей. Для Беларусі Грамада патрабавала дзяржаўнай аўтаноміі з мясцовым соймам у Вільні. Другі з'езд БСГ адмовіўся ад эсэраўскай ідэі сацыялізацыі зямлі і адобрыў тэзіс аб утварэнні абласнога зямельнага фонду з казённых, удзельных, царкоўных і памешчыцкіх уладанняў, якія больш адпавядаў патрабаванню аўтаноміі Беларусі. Праз некалькі месяцаў аналагічная аграрная праграма («муніцыпалізацыя зямлі») намаганнямі меншавікоў была прынята IV з'ездам РСДРП. Ажыццяўленне ўсіх праграмных палітычных і сацыяльных пераўтварэнняў з'езд звязваў з рэвалюцыйным нізвяржэннем самадзяржаўя і скліканнем Устаноўчага сойма для Беларусі на аснове ўсеагульнага, роўнага, прамога і тайнага выбарчага права. Сойм павінен быў выпрацаваць і ўмовы пераходу памешчыцкай зямлі ў абласны фонд і надзялення сялян зямлёю на правах пажыццёвай арэнды. Аб пераходзе сялянскіх гаспадарак на сацыялістычны шлях нават не ўпаміналася[54].

У чэрвені 1906 г. адбылася канферэнцыя БСГ, у якой

удзельнічалі 15 прадстаўнікоў ад ЦК, 1-га краёвага камітэта (Менск), Менскага рабочага камітэта, 2-га краёвага камітэта (Вільня), Віленскай групы рабочых, Віленскай арганізацыі вучнёўскай моладзі, Пецярбургскай групы, мясцовых арганізацый Лідскага, Дзісненскага і Бельскага паветаў. З-за тэрміновага склікання не ўсе мясцовыя арганізацыі былі прадстаўлены на канферэнцыі. Па пытанні аб тактыцы яна прыняла рашэнне працягваць самы энергічны байкот Дзяржаўнай думы і адначасова падтрымліваць тыя рэвалюцыйныя патрабаванні, якія зыходзілі ад рэвалюцыйных элементаў Думы і не супярэчылі праграме БСГ. Разам з тым канферэнцыя прызнала, што вялікае рэвалюцыйнае значэнне мае адпраўка ў Думу наказаў і хадакоў ад сялян, і даручыла камітэтам арганізаваць адпаведную дзейнасць. Спецыяльным рашэннем аб'яўляўся байкот афіцыйным землеўпарадкавальным камісіям. Канферэнцыя заклікала мясцовыя камітэты прыняць самыя рашучыя захады для таго, каб выкарыстаць рэвалюцыйны настрой сялянства з мэтай зліцця сялянскага руху за зямлю з агульным палітычным рухам[55].

Зыходзячы са статута, прынятага II з'ездам, канферэнцыя канкрэтызавала і ўдакладніла арганізацыйную структуру БСГ. Будавалася яна па прынцыпу цэнтралізму — зверху ўніз. Усю партыйную дзейнасць у абласцях павінны былі ўзначальваць заканспіраваныя абласныя камітэты. Для кіраўніцтва рабочым рухам ствараліся рабочыя камітэты, таксама строга заканспіраваныя, а пры іх — Рабочыя саветы з прадстаўнікоў раённых рабочых арганізацый. Абласныя камітэты з членаў партыі фарміравалі састаў мясцовых камітэтаў, а таксама спецыяльныя камісіі па справах тэхнікі (падпольны друк, дакументы), фінансаў і інш. Дэлегаты выказаліся за тое, каб ЦК хутчэй прыступіў да выдання партыйнага органа[56].

Легальным органам БСГ стала штотыднёвая газета «Наша доля», якая пачала выдавацца ў Вільні з 1 верасня 1906 г. кірыліцай і лацінкай (адно выданне прызначалася для беларусаў-праваслаўных, другое — для каталікаў). Неафіцыйнымі яе рэдактарамі з'яўляліся браты Луцкевічы, Цётка, Умястоўскі. Да арганізацыі газеты меў дачыненне А. Уласаў, які прыцягнуў да супрацоўніцтва з ёю Якуба Коласа. Першы нумар выйшаў 10-тысячным накладам. Адкрываўся ён вершам Цёткі «Наш палетак», які заклікаў беларусаў да нацыянальнага адраджэння. У гэтым жа нумары быў апублікаваны яе публіцыстычны твор «Прысяга над крывавымі разорамі», у якім сілу і права рэвалюцыі Цётка ўвасобіла ў сімвалічных постацях родных братоў — панскага парабка, салдата і пецярбургскага рабочага. Артыкул «Як мужыку палепшыць сваё жыццё», змешчаны ў другім і трэцім нумарах, заклікаў да стварэння сялянскіх саюзаў па ўзору прафесійных саюзаў гарадскіх рабочых, тлумачыў, як гэта зрабіць. Ліквідацыя эксплуататарскага ладу звязвалася ў

артыкуле з цесным саюзам працоўных горада і вёскі: «Зрабіць гэту перамену можа толькі ўвесь рабочы народ, уся вясковая і мястовая (гарадская.— М. Б.) працавітая бедната, калі ўсе разам пойдуць па адной дарозе, дзеля чаго ўсе мужыцкія саюзы павінны злучыцца праз свае камітэты з рабочымі саюзамі і партыямі ў горадзе». Рэвалюцыйна-дэмакратычны характар мелі і многія іншыя публікацыі газеты. У сувязі з гэтым на нумары 1, 3, 4 быў накладзены арышт[57].

Наступленне контррэвалюцыі, пагроза закрыцця газеты, аслабленне левага крыла БСГ (А. Бурбіс знаходзіўся ў турме, А. Пашкевіч выехала за мяжу) мелі вынікам з'яўленне ў № 4 «Нашай долі» рэдакцыйнага артыкула, у якім у яўнай супярэчнасці з праграмай БСГ заяўлялася: «Зямлю трэба здабываць не сілаю, не грабяжом, а законам». Разам з тым рэдакцыя паведамляла аб спыненні выдання газеты. Аднак вакол «Нашай долі» згуртаваліся новыя людзі і забяспечылі выданне 18 лістапада — 1 снежня 1906 г. 5-га і 6-га нумароў у ранейшым, рэвалюцыйна-дэмакратычным накірунку. Абодва нумары былі канфіскаваны. Сёмы нумар паліцыя знішчыла ў наборы. У студзені 1907 г. рашэннем Віленскай судовай палаты выданне «Нашай долі» было забаронена назаўсёды»[58].

Пакінуўшы «Нашу долю», кіраўнікі БСГ арганізавалі ў Вільні выданне новай штотыднёвай легальнай газеты «Наша ніва», якая ў першым нумары ад 10 лістапада 1906 г. заявіла аб тым, што будзе служыць «усяму пакрыўджанаму беларускаму народу» — руху, накіраванаму на яго нацыянальнае адраджэнне. Вырашэнне асноўных сацыяльна-эканамічных пытанняў яны звязвалі ўжо не з рэвалюцыяй, а з Дзяржаўнай думай. Адпаведная праграма была апублікавана ў «Нашай ніве» ў снежні 1906 г. Яна патрабавала ад Думы скасавання ўсіх абмежавальных законаў адносна куплі і продажу зямлі, а таксама цераспалосіцы, «шнуроў» і сервітутаў («без крыўды для працуючых»). Прадугледжвалася ўтварэнне хутарской гаспадаркі, арганізацыя таннага крэдыту і дапамогі з боку дзяржавы для паляпшэння гаспадаркі, увядзенне ўсесаслоўнай воласці*, пашырэнне мясцовага самакіравання — валаснога, павятовага і губернскага, прадастаўленне асобнага самакіравання для Беларусі з соймам, выбраным усеагульным, роўным, тайным і простым галасаваннем, адмена ўскосных падаткаў і ўстанаўленне адзінага прагрэсіўнага падаходнага падатку, увядзенне ўсеагульнай абавязковай бясплатнай адукацыі з забеспячэннем права і магчымасці вучыцца на сваёй роднай мове. Пра памешчыцкае землеўладанне і дадатковае надзяленне зямлёй сялян у артыкуле не ўпаміналася[59].

Разам з тым БСГ працягвала нелегальную дзейнасць. У канцы 1906 — першай палове 1907 г.

* Сэнс гэтага патрабавання: ураўнаванне правоў і абавязкаў жыхароў воласці ўсіх саслоўяў — сялян, дваран, мяшчан і інш.

выдала некалькі падпольных брашур і лістовак рэвалюцыйна-дэмакратычнага зместу: «Чы будзе для ўсіх зямлі», «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць», «Забастоўка» і інш. У першай палове 1907 г. і на старонках «Нашай нівы» з'явілася некалькі публікацый, якія паслужылі падставай для абвінавачання яе ў агітацыі супраць тагачаснага грамадскага і дзяржаўнага ладу («Зямельная справа ў Новай Зеландыі», «Дума і народ» і інш.)[60].

У артыкуле «Дума і народ» газета заявіла, што нельга чакаць ад Думы свабоды і зямлі, «бо яна, небарака, адна гэтага не зробіць». Аўтар выступаў за ўстанаўленне ўсіх свабод і перадачу народу ўсёй зямлі, прычым звязваў гэта са скліканнем па ўказу Думы выбранай дэмакратычным шляхам Народнай Рады і актыўнай падтрымкай народа[61]. Газета заклікала да барацьбы за поўную свабоду слова, друку, сходаў, саюзаў, забастовак. З нагоды 1 Мая яна растлумачыла сэнс і значэнне міжнароднага свята працоўных, якое сімвалізавала іх імкненне «да супольнага жыцця, у каторым не будзе беднасці поруч з багацтвам, здзеку і здзірства». «І мы,— заяўляла рэдакцыя газеты,— шчыра зычым усяму працоўнаму народу, каб споўніліся яго святыя жаданні справядлівасці і праўды»[62].

У ходзе выбарчай кампаніі ў II Дзяржаўную думу і пазней газета смела выкрывала як «ісцінна рускіх», так і «ісцінна польскіх» шавіністаў як ворагаў беларускага народа, падтрымлівала выбранне «мужыкоў-сацыялістаў», заклікала сялянскіх выбаршчыкаў аб'яднацца, злучыцца з гарадскімі выбаршчыкамі і не пусціць у Думу памешчыкаў[63]. Узнімаючы аграрнае пытанне, «Наша ніва» ў гэты час неаднаразова адзначала, што на Беларусі зямлі казённай, удзельнай, манастырскай, царкоўнай і касцёльнай так мала, што задаволіць ёю сялян было немагчыма. У гэтай сувязі яна крытыкавала пазіцыю думскіх дэпутатаў ад памешчыкаў Беларусі, якія «частавалі» сялян толькі такою зямлёю і заяўлялі аб недатыкальнасці памешчыцкага землеўладання. Газета падтрымала патрабаванне браць зямлю, «дзе выпадае, і прымусам ад памешчыкаў». У тым жа нумары яна апублікавала праект зямельнай рэформы, прапанаваны ў Думе літоўскімі сацыял-дэмакратамі[64]. Трэцячэрвеньскі дзяржаўны пераварот і наступленне шалёнай рэакцыі прымусілі кіраўніцтва БСГ адмовіцца ад падпольнай дзейнасці і істотна звузіць сацыяльна-эканамічныя, палітычныя і нацыянальныя патрабаванні ў легальным друку.

Напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг. Грамада выступала як леванародніцкая нацыянальная рэвалюцыйна-дэмакратычная партыя. Па няпоўных звестках, нелегальныя выданні БСГ у той час распаўсюджваліся ў гарадах Менску, Вільні, Дзісне, Рэчыцы, Менскім, Ігуменскім, Барысаўскім, Бабруйскім, Наваградскім, Слуцкім паветах Менскай губерні, Віленскім, Лідскім, Дзісненскім, Вілейскім, Ашмянскім паветах Віленскай губ., Гародзенскім

Берасцейскім і Бельскім паветах Гародзенскай губ. Зусім слабыя сувязі Грамада мела ва Усходняй Беларусі. У Магілёўскай губ. не зафіксавана фактаў распаўсюджання яе лістовак. На тэрыторыі Віцебскай губ. нейкія, відаць выпадковыя, сувязі ў Грамады былі толькі ў Віцебскім павеце. Вядомы факт распаўсюджання адозвы БСГ у Парэцкім павеце Смаленскай губ[65].

Уплыў БСГ у рабочым руху гарадоў, за выключэннем Менска і Вільні, амаль не адчуваўся, з-за нязначнай колькасці беларускіх рабочых і іх нізкай нацыянальнай самасвядомасці. Асноўным аб'ектам дзейнасці Грамады з'яўлялася вёска — сельскія рабочыя і сяляне-падзёншчыкі. У некаторых паветах яна арганізавала значныя сельскагаспадарчыя забастоўкі, праводзіла мітынгі і палітычныя сходы. У канцы 1906 — пачатку 1907 г. Менскі краёвы камітэт БСГ, як адзначалася, разам з РСДРП, ПСР і Бундам уваходзіў у левы блок па выбарах у II Дзяржаўную думу. У красавіку 1907 г. БСГ удзельнічала ў канферэнцыі нацыянальна-сацыялістычных партый Расіі ў Фінляндыі. Па звестках дэпартамента паліцыі, у БСГ у перыяд першай расійскай рэвалюцыі налічвалася каля 2 тыс. членаў.

У 1904—1905 гг. на Гародзеншчыне распаўсюджваліся беларускамоўныя лістоўкі «Царская гаспадарка», «Прызыўныя!», «Братцы мужыкі!» і інш., выдадзеныя Сацыялістычнай партыяй Белай Русі. Заснавальнікамі яе з'яўляліся студэнты Трускоўскі, М. Фальскі і А. Жаба. Кіраўнікі БСГ неаднаразова вялі перагаворы з імі аб аб'яднанні, аднак яно не адбылося. Звестак аб гэтай партыі захавалася мала. Застаецца невядомай яе праграма. Лістоўкі СПБР прысвячаліся агульнапалітычным пытанням і заклікам да барацьбы за звяржэнне самадзяржаўя і ўстанаўленне выбарнай народнай улады — каб народ «усім камандаваў сам». У адозве да прызыўнікоў (кастрычнік 1905 г.) СПБР заклікала іх змаўляцца і не ісці добраахвотна ў царскую армію, а калі забяруць сілаю — далучацца да народнага «бунту» незалежна ад таго, які народ будзе «бунтавацца». Аграрнае і нацыянальнае пытанні ў вядомых адозвах не ставіліся, як і пытанне пра сацыялізм. Ніяк не выказаны і адносіны аўтараў да беларускага народа і «Белай Русі»[60].

Важную ролю ў развіцці беларускага нацыянальна-культурнага руху і ў пашырэнні нацыянальнай асветы адыграла дзейнасць кнігавыдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», заснаванай у маі 1906 г. у Пецярбургу па ініцыятыве прафесара Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Ужо ў канцы таго года былі выдадзены лацінкай і кірыліцай «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» К. Каганца, «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі. Затым суполка ўзялася за выданне падпіснoй серыі «Беларускія песняры», разлічанай на 8 кніжак у дарагім і танным афармленні. У 1907 г. выйшлі з друку «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча і ў перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча «Пан Тадэуш» Адама Міцкевіча.

Так быў упершыню пакладзены пачатак сістэматычнаму выданню беларускамоўных кніг, а таксама паштовак з выявамі беларускіх пейзажаў, партрэтаў пісьменнікаў, тыпаў беларускіх сялян і г. д. Суполка арганізавала рэкламу і продаж сваіх і іншых выданняў на беларускай мове, а таксама рускіх і польскіх кніг пра Беларусь.

**Узмацненне шавінізму ў палітыцы царызму. Барацьба з беларускім адраджэннем.** З мэтай адцягнуць ад удзелу ў рэвалюцыі шырокія масы рускага, а таксама праваслаўнага ўкраінскага і беларускага насельніцтва царызм, афіцыйная царква і правыя, памешчыцка-клерыкальныя партыі і арганізацыі ўсё шырэй выкарыстоўвалі ў якасці сваёй галоўнай ідэалагічнай зброі вялікадзяржаўны шавінізм. П. Сталыпін, арганізатар трэцячэрвеньскага дзяржаўнага перавароту, узвёў вялікадзяржаўны шавінізм у ранг афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі. Адпаведныя нормы, што датычылі нацыянальных рэгіёнаў імперыі, у тым ліку Беларусі, былі закладзены і ў новы выбарчы закон. Яны істотна дапаўнялі іншыя нарматывы закона, накіраваныя на забеспячэнне перамогі ўрадавых партый. Па новаму закону, колькасць выбаршчыкаў ад сялян па Еўрапейскай Расіі скарачалася з 42 да 22 працэнтаў, а ад памешчыкаў павялічылася да 51 працэнта. Значна знізілася норма прадстаўніцтва ад польскіх і закаўказскіх губерняў. Карэнныя народы Сярэдняй Азіі і Сібіры ўвогуле пазбаўляліся права ўдзельнічаць у выбарах. У заходніх губернях царызм не даў перавагі памешчыкам (іх квота ў складзе выбаршчыкаў абмяжоўвалася тут 48,5 працэнта). Разам з тым на Беларусі захоўвалася адносна большае, чым у Еўрапейскай Расіі ў цэлым, прадстаўніцтва ад сялян (29,5 працэнта выбаршчыкаў). Гэта было зроблена з мэтай супрацьпаставіць на выбарах польскім памешчыкам праваслаўных беларускіх сялян, якіх запісвалі «рускімі».

Ідучы насустрач настойлівым патрабаванням чарнасоценцаў і акцябрыстаў, царскі ўрад прадугледзеў у выбарчым законе стварэнне ў Віленскай губ., дзе пераважала каталіцкае насельніцтва, асобнай «рускай» курыі і забяспечыў ёй два абавязковыя месцы ў Думе. У Гарадзенскай, Менскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях павятовыя з'езды памешчыкаў былі падзелены на два нацыянальныя аддзяленні — «рускае» і «польскае». У гарадах Менскай губ. першая курыя (буйная буржуазія) дзялілася на тры нацыянальныя аддзяленні — «рускае», «польскае» і яўрэйскае. У другой гарадской курыі (дробная буржуазія) Менскага, Бабруйскага і Гародзенскага паветаў выдзялялася «рускае» аддзяленне, у Віцебскім, Дзвінскім і Магілёўскім паветах — яўрэйскае аддзяленне[67]. Пры гэтым да «рускіх» аддзяленняў далучаліся праваслаўныя беларусы, немцы, татары і інш., да «польскіх» — беларусы-каталікі. «Рускае» насельніцтва атрымлівала перавагу на выбарах. Яўрэйская буржуазія практычна па-

збаўлялася магчымасці ўплываць на зыход выбараў нават у гарадах, дзе большасць насельніцтва складалі яўрэі. Існаванне беларускага этнасу цалкам ігнаравалася. Царызм адкрыта далучаў праваслаўных беларусаў да рускіх, а католікаў — да палякаў.

Вядома, чарнасоценцы і акцябрысты з задавальненнем сустрэлі і разгон Думы, і новы выбарчы закон. Іх органы друку — «Руское знамя», «Московские ведомости», «Голос Москвы», «Новое время», «Окраины России», «Виленский вестник», «Варшавский дневник», «Минское слово», віленскі часопіс «Крестьянин» і многія іншыя разгарнулі раз'юшаную шавіністычную агітацыю, накіраваную супраць палякаў, яўрэяў, каталіцкага касцёла, а таксама супраць беларускага нацыянальнага руху і яго цэнтральнага органа — штотыднёвай газеты «Наша ніва». «Іншародцаў» і «іншаверцаў», кадэтаў і беларускіх «сепаратыстаў» чарнасоценна-акцябрысцкі друк аб'яўляў нават больш небяспечнымі ворагамі «адзінай і недзялімай Расіі», чым рэвалюцыйныя партыі з іх сацыялістычнымі мроямі.

Мясцовыя арганізацыі левых партый у ходзе наступлення контррэвалюцыі і рэакцыі летам і восенню 1907 г. былі амаль паўсюдна разгромлены ці вельмі аслаблены. Тыя, якія ацалелі, уключыліся ў передвыбарчую кампанію. З партый дэмакратычнага лагера толькі эсэры, калі не лічыць анархістаў, байкатавалі выбары ў III Думу, спасылаючыся пры гэтым на яе рэакцыйны характар. Такая тактыка была памылковай, бо вяла партыю да поўнага адрыву ад народных мас. Бальшавікі-ленінцы выступалі за спалучэнне падпольнай і легальнай дзейнасці, за выкарыстанне ў мэтах рэвалюцыйнай агітацыі выбарчай кампаніі і думскай трыбуны. Сярод меншавікоў і бундаўцаў у гэты час стала пануючай ліквідатарская плынь. Ліквідатары дамагаліся легалізацыі РСДРП, прыстасавання яе да сталыпінскага рэжыму шляхам адмовы ад падпольнай дзейнасці. На такія пазіцыі, па сутнасці, стала і Беларуская сацыялістычная грамада, якая згарнула свае падпольныя структуры і як партыя часова перастала існаваць. Кіраўнікі БСГ засяродзіліся на легальнай дзейнасці ў газеце «Наша ніва».

Вельмі аслаблены быў і ліберальна-апазіцыйны цэнтр, вядучай сілай якога заставалася Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (КДП). Многія правінцыяльныя арганізацыі КДП, у тым ліку Магілёўская і Пінская, распаліся, рэзка скарацілася колькасць яе друкаваных органаў. Кіраўніцтва КДП яшчэ больш схілілася ўправа. У заходніх губернях платформу КДП па-ранейшаму падтрымлівалі групоўкі яўрэйскай буржуазіі, а таксама — з пэўнымі агаворкамі — польска-беларускія памешчыкі і ксяндзы, якія летам 1907 г. стварылі Краёвую партыю Літвы і Беларусі. У сваіх шматлікіх газетах, што выдаваліся ў Вільні, яны крытыкавалі шавіністычную палітыку царызму і дзейнасць урадавых партый,

дамагаліся скасавання дыскрымінацыйных законаў у адносінах да палякаў і католікаў, аднак, як і рускія шавіністы, адмаўлялі існаванне беларускага этнасу, выступалі супраць беларускага нацыянальнага руху, імкнуліся паланізаваць каталіцкае беларускае насельніцтва.

Зыход выбараў у III Дзяржаўную думу быў фактычна перадвырашаны нормамі выбарчага закона. Па Расіі ў цэлым урадавыя партыі атрымалі 61 працэнт, лібералы — 26, дэмакраты — 6 працэнтаў месцаў у Думе. У Менскай, Віцебскай, Магілёўскай і Гародзенскай губернях чарнасоценцы і акцябрысты правялі ў Думу 27 з 29 дэпутатаў. Да іх далучыліся 2 чарнасоценцы, выбраныя ад «рускага» насельніцтва Віленскай губ. Астатнія выбаршчыкі гэтай губерні аддалі свае галасы 5 кандыдатам Краёвай партыі Літвы і Беларусі. Яшчэ адзін дэпутат ад гэтай партыі быў выбраны ў Гародзенскай губ. У Думе яны ў асноўным падтрымлівалі ліберальны цэнтр. Ні адзін кандыдат левых у 5 заходніх губернях у Думу не прайшоў. У цэлым з 36 дэпутатаў ад гэтых губерняў абсалютную большасць (80,5 працэнта) складалі прадстаўнікі ўрадавых партый[68].

Істотнае адрозненне гэтых паказчыкаў ад усерасійскіх можна растлумачыць толькі тым, што царскім уладам, праваслаўнай царкве, чарнасоценцам і акцябрыстам удалося павесці за сабою пад сцягам вялікадзяржаўнага шавінізму большасць кандыдатаў беларускага сялянства, прасеяных праз сіта трэцячэрвеньскага выбарчага закона. 10 з 11 выбраных тут сялянскіх дэпутатаў далучыліся да чарнасоценцаў і акцябрыстаў, адзін — да Краёвай партыі Літвы і Беларусі.

Найбольш актыўнымі дзеячамі чарнасоценна-акцябрысцкіх груповак у заходніх губернях і іх органаў друку — газет «Виленский вестник», «Минское слово», «Окраины России», часопіса «Крестьянин» і інш. з'яўляліся чыноўнікі В. Цяплоў, Г. Шмід, Д. Скрынчанка, П. Бывалькевіч, С. Кавалюк, Л. Саланевіч, П. Каранкевіч, А. Уруцэвіч. Усе яны зацята змагаліся з рэвалюцыяй, а таксама з аўтанамістамі, кадэтамі, палякамі, яўрэямі за ажыццяўленне лозунга «Расія для рускіх, і рускія павінны ёю кіраваць». Беларусь абвяшчалася «исконно русским краем», адмаўлялася існаванне беларускага этнасу, беларусы далучаліся да велікарусаў, а «Наша ніва» і беларускі нацыянальны рух, які яна ўзначальвала, абвінавачваліся ў сепаратызме, «мазепінстве» і ў апалячванні беларусаў («западноруссов»). Прадажныя публіцысты, якія атрымлівалі на свае выданні ўрадавыя субсідыі, ілжыва заяўлялі, быццам яна выдавалася за грошы польскіх паноў і каталіцкага касцёла.

Крайні фанатызм у гэтай барацьбе праяўляў лідэр менскіх чарнасоценцаў рэдактар газеты «Минское слово» Густаў Шмід, «ісцінна рускі немец», як яго называлі ў прагрэсіўным друку. У мінулым ён служыў на флоце, быў капітанам другога рангу, але прадаўся германскай разведцы і ў 1891 г. трапіў пад суд. Пазбаў-

лены чыноў і дваранства, пайшоў на пасяленне ў Сібір. Напярэдадні рэвалюцыі 1905—1907 гг. з'явіўся ў Менску, паступіў на службу і пачаў супрацоўнічаць у рэакцыйным «Белорусском вестнике», затым у акцябрысцкай «Минской речи», якой неўзабаве авалодаў і, перайменаваўшы ў «Минское слово», вывеў у авангард шавіністычных выданняў. За заслугі ў барацьбе з рэвалюцыяй, аўтанамістамі і «сепаратыстамі» цар памілаваў Шміда, вярнуў яму дваранства і чын капітана другога рангу. Не зважаючы на шырокую антышмідаўскую кампанію ў прагрэсіўным друку, які падрабязна асвятліў цёмную біяграфію Шміда, яго здрадніцтва Расіі, Рускі ўскраінны саюз дамогся выбрання яго дэпутатам III Дзяржаўнай думы ад Менскай губ. Але нават гэтая чарнасоценная Дума палічыла за ганьбу для сябе прысутнасць такога дэпутата і ў пачатку лютага 1908 г. пайменным галасаваннем выключыла яго з ліку сваіх членаў. Толькі 25 крайне правых дэпутатаў, у тым ліку чацвёра сялян з Менскай губ., галасавалі супраць. Неўзабаве Шмід памёр. «Минское слово» перайшло ў рукі яго вернага паслядоўніка Д. Скрынчанкі, старшыні Менскага аддзела «Саюза рускага народа», якога падтрымліваў епіскап Міхаіл.

Франтальныя атакі супраць беларускага нацыянальнага руху і газеты «Наша ніва» з адкрытым адмаўленнем існавання беларускай нацыі аказаліся беспаспяховымі. Новую тактыку барацьбы з ім прапанаваў член віленскай чарнасоценнай суполкі «Крестьянин» Лука Саланевіч, у мінулым сельскі настаўнік, валасны пісар, чыноўнік канцылярыі гародзенскага губернатара. У той час (1902 г.) на гэтай пасадзе быў П. Сталыпін. У 1906 г. ён стаў міністрам унутраных спраў і старшынёю Савета міністраў Расійскай імперыі, але Саланевіча помніў, давяраў і садзейнічаў яму. Са згоды Сталыпіна і старшыні «Усерасійскага нацыянальнага саюза» П. Балашова Саланевіч у верасні 1908 г. прыступіў да рэалізацыі свайго плана падрыву нашаніўскага руху шляхам стварэння псеўдабеларускай арганізацыі і выдання ад яе імя адпаведнага органа друку. Тады ж у «Виленском вестнике» з'явілася паведамленне аб выхадзе Саланевіча і групы яго аднадумцаў з суполкі «Крестьянин» і ўтварэнні «Белорусского общества». Пра Кавалюка і К[0] гаварылася, што яны не з'яўляюцца сапраўднымі беларусамі, а нашаніўцы характарызаваліся як лжэсябры беларускага народа.

9 лютага 1909 г. Л. Саланевіч выпусціў першы нумар газеты «Белорусская жизнь», цалкам прысвечаны прапагандзе праграмы «Белорусского общества». Мэтай суполкі абвяшчалася аб'яднанне ўсіх прадстаўнікоў беларускай народнасці без адрознення саслоўя, звання і веравызнання на адной нацыянальна-культурнай платформе. Беларусы прызнаваліся самастойнай народнасцю, але іх роднай мовай абвяшчалася «мова Пушкіна і Гогаля». У газеце канстатаваўся востры недахоп зямлі ў беларускай вёсцы, і з гэтым недахо-

пам звязваліся фізічнае выраджэнне і масавая эміграцыя беларусаў у Амерыку і Сібір. Віна за такое становішча ўскладвалася на класавую аграрную палітыку ўрада, які, на думку Саланевіча, не прымаў належных мер у адносінах да велізарнага польскага землеўладання на Беларусі, а з другога боку, насаджаў тут буйное рускае і нават нямецкае землеўладанне. У сувязі з гэтым «Белорусская жизнь» абвінавачвала ўрад у правядзенні палітыкі, накіраванай «супраць самых жыццёвых інтарэсаў беларускай народнасці, якая мела і мае пераважнае права на сваю нацыянальную маёмасць». Рэалізацыю законнага права беларускай большасці на перавагу ў сваёй роднай краіне Л. Саланевіч звязваў з цэнтральнымі і мясцовымі земскімі і гарадскімі ўстановамі, заснаванымі на ўсеагульным выбарчым праве. Праграма Саланевіча выразна адлюстроўвала надзеі праваслаўнага беларускага кулацтва на магчымасць пажывіцца за кошт польскага буйнапамеснага землеўладання пры дапамозе царызму.

Такая пастаноўка беларускага нацыянальнага пытання аказалася нечаканай і непрымальнай для ўлад. Нумар газеты быў канфіскаваны, і выданне яе прыпынена амаль на два гады. У студзені 1911 г. «Белорусская жизнь» пачала выходзіць штодзённа. Саланевіч зрабіў адпаведныя высновы, і Сталыпін забяспечыў яму самую высокую ў краі ўрадавую субсідыю — 2400 руб. у месяц. Газета выдавалася пад маскай «прагрэсіўна-дэмакратычнай» і выступала ад імя беларускага народа. «Нам,— заклікаў Саланевіч,— перш за ўсё неабходна паставіць свае нацыянальныя задачы, самавызначыцца, аб'яднацца, зарганізавацца і згуртавацца як беларусам»[69]. Але намер падарваць беларускі нацыянальны рух на чале з «Нашай нівай» пад маскай нацыянальнага дэмакратызму праваліўся. «Белорусская жизнь» выходзіла на рускай мове і заклікала беларусаў засвойваць яе, а сваю родную мову «пакінуць гісторыі». Антынацыянальную ў адносінах да беларускага народа сутнасць пазіцый «перакіньчыка» Саланевіча паслядоўна і аргументавана выкрывала «Наша ніва». У пэўнай меры дапамаглі ёй у гэтым ранейшыя сябры рэдактара-выдаўца «Белорусской жизни». «Минское слово» і пецярбургскае «Новое время» прызналі Саланевіча сваім былым супрацоўнікам, а «Белорусскую жизнь» характарызавалі як новы «нацыянальны», г. зн. вялікадзяржаўны, шавіністычны орган. У выніку восенню 1911 г. «Белорусская жизнь» поўнасцю адкінула маскіроўку, нават змяніла назву на «Северо-западную жизнь», і адкрыта далучылася да чорнай, шавіністычнай прэсы. Па распараджэнні ўлады «незалежны» Саланевіч на нейкі час перанёс сваё выданне ў Гародню, а затым перабраўся ў Менск, дзе «Северо-западная жизнь» выходзіла да восені 1915 г. Літаральна ў кожным яе нумары друкаваліся паклёпніцкія матэрыялы і даносы супраць «Нашай нівы». Крайне шавіністычныя пазіцыі займала «Северо-западная

жизнь» і ў адносінах да палякаў, каталіцкага касцёла і яўрэяў.

Па ўсіх палітычных, рэлігійных, адукацыйных і іншых пытаннях, што датычылі беларускага народа, ідэолагі «западнорусизма» займалі антынацыянальныя пазіцыі. Па пытанні аб увядзенні выбарных земстваў у 9 заходніх губернях з'езд «западнороссов» у Кіеве з удзелам Кавалюка і К$^0$ прыняў рашэнне хадайнічаць перад урадам аб уключэнні праваслаўных беларусаў у рускую курыю, а беларусаў-католікаў — у польскую[70]. Гэтае рашэнне было рэалізавана ў адпаведным сталыпінскім законе. Земствы, выбраныя ў 1911 г. на Меншчыне, Віцебшчыне і Магілёўшчыне, былі перапоўнены прадстаўнікамі рускіх і польскіх нацыяналістаў і ў сваёй дзейнасці цалкам ігнаравалі мову, культуру і нацыянальныя патрэбы беларусаў[71]. На выбарах у IV Дзяржаўную думу ў 1912 г. насельніцтва Беларусі было зноў падзелена на 3 курыі: «рускую», «польскую» і яўрэйскую. У «рускую» курыю запісвалі праваслаўных беларусаў, старавераў, лютэранаў, магаметанаў, у «польскую» — беларусаў-католікаў[72]. Вынікі выбараў практычна не адрозніваліся ад трэцядумскіх: ніхто з левых кандыдатаў, ніхто з нацыянальна свядомых беларусаў у IV Думу не трапіў.

Паводле асноўнага закона (1906 г.), ва ўсіх народных школах Расіі дзеці павінны былі вучыцца на сваёй роднай мове. З гэтага закона ўрад і чарнасоценна-акцябрысцкая большасць у Дзяржаўнай думе і Дзяржаўным савеце зрабілі выключэнне толькі ў адносінах да беларусаў і ўкраінцаў, якія афіцыйна прызнаваліся рускімі і павінны былі вучыцца па-руску. Хаўруснікі Саланевіча і Кавалюка ў III Дзяржаўнай думе зацвердзілі закон, які абавязваў перавесці выкладанне і вывучэнне каталіцкай веры ў школе для дзяцей беларусаў з польскай на рускую мову, не зважаючы на тое, што гэта штурхала масу каталіцкага беларускага насельніцтва запісвацца ў палякі. Родная для іх беларуская мова адвяргалася, хоць менавіта яна магла прыпыніць паланізацыю католікаў[73]. Па аднаму з трэцядумскіх законаў гарадам і земствам у Расіі дазвалялася адкрываць курсы па розных галінах навукі, але па просьбе дэпутата Паўловіча ад Менска дзевяць заходніх губерняў гэтага права былі пазбаўлены[74]. Адпаведнымі цыркулярамі было забаронена выпісваць і чытаць «Нашу ніву» ўсім настаўнікам Віленскай навучальнай акругі, усім святарам, усім паштовым, ваенным, паліцэйскім і валасным чынам, вучням сельскагаспадарчых школ[75].

Не менш зацята змагаліся супраць беларускага нацыянальнага адраджэння польскія памешчыцка-клерыкальныя шавіністычныя групоўкі. У 1906 г. у Вільні выдавалася 11 польскіх газет і часопісаў, у 1907—1908 гг. колькасць іх скарацілася да 8—9 за кошт ліквідацыі левых выданняў. Затым назіраўся хуткі рост: у 1910 г. польскамоўны друк у Вільні быў прадстаўлены 18, а ў 1914 г.— 28 перыядычнымі выданнямі[76]. Акра-

мя таго, асобныя газеты і часопісы выдаваліся ў іншых гарадах краю, а таксама ў Пецярбургу. У абсалютнай большасці гэта былі шавіністычныя выданні. А за імі стаяла яшчэ адпаведная прэса Варшавы і ўсяго Каралеўства Польскага.

З віленскіх выданняў асабліваю варожасць да беларускага нацыянальнага руху праяўлялі «Kurjer Litewski», «Gazeta codzienna», «Przyjaciel», «Dziennik Wileński», «Przegląd Wileński». Як і рускі ўрадавы і акцябрысцка-чарнасоценны друк, яны адмаўлялі існаванне асобнага беларускага этнасу, заяўлялі, што адраджэнне беларускай нацыянальнай мовы і культуры і непатрэбна, і немагчыма. Ігнаравалі натуральнасць і заканамернасць абуджэння беларускага нацыянальнага руху, сцвярджалі, што за ім стаіць інтрыга Масквы, што «Наша ніва» выдаецца за казённыя грошы з мэтай русіфікацыі беларусаў, якія быццам бы з'яўляліся палякамі і цягнуліся да польскай культуры. «Нашу ніву» абвінавачвалі ў рэвалюцыйнай агітацыі і ў нацкоўванні беларусаў на паноў і палякаў. Адкрыта заяўлялі, што палякі маюць такое ж права на паланізацыю беларусаў, як рускія — на іх русіфікацыю. «Dziennik Petersburski» ў 1912 г. выказаўся за мэтазгоднасць стварэння псеўдабеларускіх суполак і газет, якія ад імя беларусаў займаліся б іх паланізацыяй. Напярэдадні першай сусветнай вайны польскія шавіністычныя выданні публікавалі фальшывыя этнаграфічныя карты, на якіх паказвалі, што Заходняя Беларусь быццам з'ўлялася «чыста польскай зямлёй», на якой пражывала да 100 працэнтаў палякаў. Тады ж на старонках гэтай прэсы з'явіліся паклёпніцкія правакацыйныя звесткі аб тым, што нейкія кіраўнікі беларускага адраджэння звярталіся да нямецкіх нацыяналістаў («гакатыстаў») з просьбай аб дапамозе для барацьбы за вызваленне Беларусі ад рускага і польскага ўціску і быццам бы бралі ад іх на гэтыя мэты грошы[77].

Царская палітыка на Беларусі, накіраваная на раскол беларускага этнасу па веравызнанні на «рускіх» і «палякаў», цалкам задавальняла мясцовыя польскія памешчыцка-клерыкальныя групоўкі. Па гэтай лініі падзелу сфераў уплыву яны заключалі пагадненні з акцябрысцка-чарнасоценнымі арганізацыямі. У адносінах да Беларусі і беларускага нацыянальнага руху абедзве групоўкі займалі аднолькава рэакцыйныя пазіцыі. Адносная прагрэсіўнасць польскага памешчыцка-клерыкальнага руху, у параўнанні з чарнасоценна-акцябрысцкім, праяўлялася толькі ў патрабаваннях ліквідацыі дыскрымінацыйных законаў, што датычылі становішча на Беларусі польскага і каталіцкага насельніцтва, а таксама касцёла.

**Газета «Наша ніва».** Характар беларускага нацыянальнага руху пасля трэцячэрвеньскага дзяржаўнага перавароту вызначаўся агульным наступленнем жорсткай палітычнай рэакцыі і немагчымасцю легальнай прапаганды рэвалюцыйна - дэмакратычнай праграмы, прынятай II з'ездам

БСГ, а таксама палітыкай царызму і пазіцыямі шавіністычных рускіх і польскіх груповак па канкрэтных пытаннях, што датычылі лёсу беларускай нацыі, яе мовы і культуры. У гэтай барацьбе вырашалася дылема: быць ці не быць беларускай нацыі. Царскі ўрад, праваслаўная царква, рускія і польскія памешчыцка-клерыкальныя партыі і арганізацыі, афіцыйная школа і шавіністычны друк рэзка ўзмацнілі ў гэты час дзейнасць, накіраваную на асіміляцыю беларускага народа. У такіх умовах беларускі адраджэнцкі рух вымушаны быў у асноўным абараняцца ад націску рэакцыйных сіл, якія па сваёй магутнасці непараўнальна пераўзыходзілі яго.

Па агульнапалітычных і сацыяльна-эканамічных пытаннях кіраўнікі «Нашай нівы» ў перыяд рэакцыі сышлі на ліберальна-народніцкія, асвѐтніцкія пазіцыі. Вырашэнне гэтых пытанняў звязвалася з рэалізацыяй Маніфеста 17 кастрычніка, з дзейнасцю Дзяржаўнай думы, земстваў, увядзеннем усесаслоўнай воласці, заменай валасных судоў выбарнымі міравымі судамі. Выхад сялянскай гаспадаркі з тупіка «Наша ніва» пэўны час бачыла ў хутарызацыі, арганізацыі таннага крэдыту, складоў сельскагаспадарчай тэхнікі, сартавога насення, мінеральных угнаенняў, службы вучоных аграномаў, землямераў і інжынераў, паказальных хутарскіх гаспадарак, розных таварыстваў і суполак, школ, бібліятэк і чытанняў, развіцці хатніх промыслаў і рамяства[78]. Пры гэтым разлічвала на дапамогу казны і земства. Вядома, усе гэтыя меры і прапановы былі прагрэсіўнымі і карыснымі, але вывесці з заняпаду гаспадарку большасці сялян-беднякоў пры захаванні велізарнага паўпрыгонніцкага памешчыцкага землеўладання і царскага самадзяржаўя яны не маглі.

Рэдакцыя «Нашай нівы» ўсведамляла вымушаную абмежаванасць сваёй палітычнай і сацыяльна-эканамічнай праграмы. У адным з рэдакцыйных артыкулаў (1910. № 2. 7 студзеня) адзначалася, што ў цяжкія часы, якія тады перажывала Расія, многія людзі апускалі рукі, чакаючы для сваёй працы лепшых дзён. «А мы кажам,— гаварылася ў артыкуле,— не адкладайце вялікай грамадскай працы назаўтра... Не апускайце рук цяпер! Народ, каторы не ўмее сам выкаваць сваё шчасце, не варты лепшай долі... Ёсць яшчэ тысячы рэчаў, каторыя можна зрабіць цяпер свабодна, але іх ніхто не робіць, не карыстае з тых правоў, якія мае». Падобныя ідэі прапагандаваліся і ў іншых артыкулах[79].

Праграма «Нашай нівы» не зводзілася да дробных рэформ і прапаганды «малых» спраў. Апошняе вымушалася абставінамі часу. Ідэалы былі іншыя. «Калі ў думках сваіх мы бачым нашу старонку шчаслівай,— пісала «Наша ніва»,— то гэта будзе не Беларусь панская, не старонка для нявольнікаў, з цемнатой унізе і з яснымі зоркамі толькі ўгары, а Беларусь светлая ад нізу да вярхоў, у якой усе будуць чуць сябе паўнапраўнымі грамадзянамі ў сваёй бацькаў-

шчыне і роўна будуць аддаваць ёй свае сілы»[89].

Першачарговую і галоўную сваю задачу ў тых умовах «Наша ніва» бачыла ў барацьбе за ўсебаковае нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа, за прызнанне самога факта яго існавання, за яго раўнапраўнасць з іншымі народамі. Зыходзячы з таго, што асновай усёй нацыянальнай культуры з'яўляецца мова народа, таленавіты нашаніўскі публіцыст Сяргей Палуян у верасні 1909 г. пісаў: «Нам у першую чаргу трэба адрадзіць сваю мову... Толькі адрадзіўшы мову, мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух. Бо нацыянальны рух як вялікая жыццёвая гістарычная сіла можа жыць толькі тады, калі пад яго будзе падведзены такі фундамент, як гібка абробленая мова, дый літаратура і навука ў гэтай мове»[81].

Дзеячы «Нашай нівы» ўсведамлялі цяжкасць і складанасць вырашэння гэтай задачы. Больш двухсот гадоў сфера ўжывання беларускай мовы фактычна абмяжоўвалася вёскай, сялянствам, сялянскім фальклорам. Нацыянальная (літаратурная) мова магла нарадзіцца пры ўмове заваявання ёю месца ў ніжэйшай, сярэдняй і вышэйшай школе, у навуцы, грамадскіх і дзяржаўных установах, царкве і касцёле. А ва ўсіх гэтых установах беларуская мова не прызнавалася і не дапускалася. Краёвая інтэлігенцыя, што праходзіла праз рускую і польскую школу, у пачатку XX ст., як і раней, у пераважнай большасці выступала як антынацыянальная сіла — у ролі, адпаведна, русіфікатараў ці паланізатараў. Беларуская інтэлігенцыя абуджалася, фармавалася менавіта вакол «Нашай нівы» як цэнтра нацыянальнага адраджэння.

Многа ўвагі ўдзяляла «Наша ніва» тэарэтычнаму абгрунтаванню права беларускага народа на захаванне і развіццё сваёй мовы і нацыянальнай культуры. Найбольш грунтоўнае асвятленне гэтай праблемы давалася ў артыкуле «Ці маем права быць беларусамі?» (1912. № 22, 23, 26). Абапіраючыся на В. Бялінскага, газета паказала, што гістарычнае прызванне кожнага народа заключаецца ў развіцці сваёй нацыянальнай культуры, якая тым больш каштоўная для ўсяго чалавецтва, чым глыбей яна выяўляе нацыянальна асаблівае, тое, што ўласціва менавіта гэтаму народу, што вызначае яго спецыфічнае бачанне, успрыманне, асэнсаванне і мастацкае адлюстраванне навакольнага свету. Асіміляцыя, знішчэнне нацыянальных асаблівасцей беларусаў, даказвала «Наша ніва», наносіць велізарную, непапраўную шкоду не толькі беларускай, славянскай, але і сусветнай культуры. Яна адвяргала тэзіс асімілятараў, быццам гістарычны працэс непазбежна вядзе да зліцця меншых народаў з большымі і закончыцца з'яўленнем нейкага адзінага сусветнага народа. Сутнасць сваёй пазіцыі па гэтай праблеме «Наша ніва» сфармулявала так: «Нязменны закон, каторым кіруецца ўвесь свет: тварыць культурныя рэчы ўсясветнай вартасці можна толькі ў сваёй роднай мове... Замяніць жа

народу яго мову — гэта значыць забіць душу таго народа, яго асобенную творчаскую здольнасць... Мы, беларусы, не толькі маем права, але і павінны застацца беларусамі».

У адказ на заявы польскіх шавіністычных газет, якія называлі спробы абуджэння беларускай і літоўскай нацыянальнай свядомасці сярод апалячанага насельніцтва Беларусі і Літвы працай, варожай дэмакратызму і прагрэсу культуры, «Наша ніва» тлумачыла, што дэмакратызм — гэта жаданне абудзіць народ да жыцця, дабіцца, каб ён падаў свой голас, выказаў свае думкі і душу. «Найлягчэйшая дарога для гэтага,— пісала яна,— развіваць **народную** культуру, карыстаючыся прыроднай мовай народу, каторай ён змалку гаворыць дома, у хаце, каторая вытварылася разам з усёй яго асобеннай псіхікай, неразрыўна з той псіхікай звязана. Вось чаму адраджэнне народаў заўсягды ішло і ідзе поруч з дэмакратызмам... Работа дзеля пашырэння нацыянальнай свядомасці ў нашым народзе на ўсёй старане не толькі не задзерждвае поступу культуры, а, наадварот, адна толькі і развівае яе»[82]. З такіх пазіцый зыходзіла яна і ў палеміцы з рускімі шавіністычнымі выданнямі.

Нягледзячы на пастаянныя атакі з боку рускіх і польскіх шавіністычных выданняў, іх паклёпніцкія, правакацыйныя публікацыі, «Наша ніва» ў палеміцы з імі ніколі не сыходзіла на нацыяналістычныя пазіцыі, не атаясамлівала сваіх ворагаў з рускім і польскім народамі, заўсёды падкрэслівала, што гэтыя народы маюць вялікую навуку і культуру і беларусам трэба пазнаць іх і ведаць, вывучаць не толькі сваю, але і рускую, і польскую мовы[83]. Інтэрнацыяналістычным, класава-сялянскім пазіцыям па нацыянальным пытанні яна заставалася вернай да канца свайго існавання. «Калі польскія нацыяналісты,— пісала яна ў 1915 г.,— гавораць ад імені польскага народу,— дык гэта брахня! Польскі мужык-хлебароб, польскі парабак ці фабрычны рабочы мо бліжэй да нашага беларуса-селяніна, чым да «свайго» пана. Не раз выказвалі мы, што па той жа дарозе ідуць і расейскія нацыяналісты. Дарма «Виленский вестник» баламуціць людзей, даводзячы, быццам бы ўся Расея глядзіць на беларусаў яго вачыма. Дарма ўсе гэтыя Кансультанты і Саланевічы стараюцца зменшыць вагу слоў аб беларускім руху Максіма Горкага, катораму бот на назе завязаць яны не дастойны...»[84]

Паступова расла папулярнасць «Нашай нівы», мацнелі яе сувязі з народам, а разам з тым фармаваліся кадры нацыянальнай інтэлігенцыі, будзіліся народныя таленты. За першыя тры гады выдання яна надрукавала 906 уласных карэспандэнцый з 489 вёсак, мястэчак і гарадоў, 246 вершаў 61 паэта і 91 апавядання 36 празаікаў. За 1910 г. «Наша ніва» апублікавала 666 карэспандэнцый з 321 населенага пункта Беларусі і з 14 пунктаў, размешчаных за яе межамі. У Віленскай губ. карэспандэнты «Нашай нівы» былі ў 122, у Менскай — у 81, у Гародзенскай —

у 49, у Магілёўскай — у 27, у Віцебскай — у 9 населеных пунктах. У тым жа годзе на старонках газеты было змешчана 115 вершаў і 60 апавяданняў, а аўтарская грамада яе складалася з 427 чалавек (карэспандэнтаў, паэтаў, празаікаў)[85]. Усе яны, дарэчы, пісалі ў газету бясплатна.

Пачынаючы з 1910 г. «Наша ніва» выдавала вельмі папулярны «Беларускі каляндар», адрасаваны сялянам. Тыраж яго дасягаў 20 000 экземпляраў. Вясною 1912 г. сельскагаспадарчы аддзел «Нашай нівы» быў пераўтвораны ў самастойны часопіс «Саха», які спачатку выдаваўся ў Вільні, а са снежня 1913 г.— у Менску. Адначасова ў Менску з'явіўся яшчэ адзін парастак «Нашай нівы» — літаратурны месячнік для моладзі «Лучынка». Рэдактарам яго была А. Пашкевіч (Цётка). Вясною 1912 г. суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» пачала выдаваць літаратурны і грамадска-палітычны альманах «Маладая Беларусь». Супрацоўнічалі ў ім нашаніўскія паэты, празаікі, публіцысты.

Першым, генетычна не звязаным з «Нашай нівай» перыядычным беларускамоўным выданнем стала каталіцкая газета-тыднёвік «Bielarus», якая пачала выходзіць у Вільні ў студзені 1913 г. (рэдактары-выдаўцы — сяляне А. Бычкоўскі і Б. Пачобка). У першым нумары газеты заяўлялася, што яна будзе заўсёды стаяць на грунце хрысціянскім-каталіцкім, бароначы справы каталіцкія і беларускія. Накірунак новага органа ўстрывожыў «Нашу ніву». Адну з галоўных сваіх задач яна бачыла ў пераадоленні рэлігійнага расколу беларускага народа і імкнулася ўсімі сродкамі «паказаць беларусам-праваслаўным і каталікам, што ўсе яны — адно племя, адзін народ». «Цяпер,— пісала «Наша ніва»,— адкрылася газета толькі для адных каталікаў. Ці захоча, ці здолее яна пайсці па дарозе еднасці ўсіх беларусаў? Мы дужа баімося, каб новая газета не зышла з агульнабеларускага грунту»[86]. Дарэчы, сама «Наша ніва» да 1913 г. выдавалася двума шрыфтамі — кірыліцай і лацінкай — з мэтай аказваць уплыў, распаўсюджваць нацыянальную свядомасць сярод усіх беларусаў — і праваслаўных, і каталікаў (для першых прызначалася кірылічнае выданне, для другіх — лацінскае). Недахоп сродкаў прымусіў рэдакцыю «Нашай нівы» перайсці з 1913 г. на адно — кірылічнае выданне. Такі выбар зрабіла большасць чытачоў газеты. Адзначаная перасцярога «Нашай нівы» была ўлічана рэдакцыяй «Беларуса»: у другім нумары яна на першае месца паставіла нацыянальныя інтарэсы.

Не менш прыкметныя зрухі адбыліся і ў развіцці беларуска га кнігадруку. У 1908—1914 выйшлі ў свет 77 беларускіх к жак агульным накладам 226 б асобнікаў[87]. Асноўную част кніжнай прадукцыі забяспечы выдавецтвы «Загляне сонца і наша ваконца» і «Наша ніва». Нашаніўскае выдавецтва за першыя пяць гадоў сваёй дзейнасці выпусціла да 20 розных кніжак[88]. Акрамя іх, у 1907-1914 гг. дзейнічалі беларускія

Янка Купала.

Якуб Колас.

выдавецтвы «Наша хата», «А. Грыневіч», «Беларус», «Мінчук», «Палачанін». Аднак на іх долю прыходзілася нязначная частка кніжнай прадукцыі.

Нацыянальны друк забяспечыў публікацыю твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Каганца, Ц. Гартнага, А. Гаруна, З. Бядулі, М. Гарэцкага, К. Буйло і многіх іншых паэтаў, празаікаў, драматургаў. Дзякуючы яму ў беларускую літаратуру прыйшлі дзесяткі таленавітых творцаў, і голас іх пачуў беларускі народ, пачуў і адгукнуўся ўвесь славянскі свет.

Другое месца па колькасці выданняў і па значэнні займала навукова-папулярная літаратура. У ёй асвятляліся самыя розныя пытанні, блізкія да жыцця і побыту сялянства: аграноміі («Як ужываць штучны навоз»), ветэрынарыі («Як ратаваць уздутую жывёлу»), педагогікі («Рады для матак: як гадаваць дзяцей на добрых людзей»), палітыкі і права («Як выбіраць дэпутатаў у Дзяржаўную думу»), эканомікі («Як багацеюць чэшскія сяляне»), рамяства («Як рабіць добрыя рамовыя вуллі»), этнаграфіі («Колькі слоў аб дзявочай апратцы на Беларусі») і інш. Выпуск навукова-папулярнай літаратуры ўскладняўся нераспрацаванасцю беларускамоўнай навуковай тэрміналогіі. У сувязі з гэтым «Наша ніва» звярталася да беларускай інтэлігенцыі з просьбай запісваць ад сялян усе словы, па ўсіх галінах навукі, рамяства, гандлю і промыслаў



М. Багдановіч.

(1913. № 11). У 1910 г. у выдавецтве «Наша ніва» выйшла «Кароткая гісторыя Беларусі» Власта (В. Ластоўскага), якая істотна садзейнічала развіццю нацыянальнай гістарыяграфіі.

Значныя поспехі назіраліся і ў развіцці беларускага нацыянальнага мастацтва, якое менавіта ў гэты час перарастала з аматарскага ў прафесійнае,— драматычнага тэатра, музыкі, хору, танца. Выдатную ролю ў гэтых адносінах адыграў «Беларускі музычна-драматычны гурток», які быў арганізаваны ў Вільні ў 1910 г. У сувязі з гэтым узнікла пільная патрэба ў нацыянальнай драматургіі і музычнай літаратуры. Часткова яна была задаволена выданнем «Беларускіх песень з нотамі» А. Грыневіча (1910 г.) і «Беларускага песенніка з нотамі для народных і школьных хораў» Л. Рагоўскага, сцэнічных твораў, арыгінальных і перакладных («Модны шляхцюк» К. Каганца, «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «У зімовы вечар» Э. Ажэшкі, «Пашыліся ў дурні» і «Па рэвізіі» Крапіўніцкага, «Сватанне» А. Чэхава і інш.). Прафесійны беларускі тэатр складваўся пад кіраўніцтвам А. Бурбіса і І. Буйніцкага. Дзякуючы намаганням І. Луцкевіча пры рэдакцыі «Нашай нівы» зараджаўся Беларускі нацыянальны музей. У многіх гарадах, мястэчках і вёсках узніклі беларускія бібліятэкі, самадзейныя хоры і танцавальныя калектывы. Так, па меры пашырэння беларускага нацыянальнага руху па ўсіх накірунках развівалася і мацнела маладая нацыянальная культура беларусаў — «аграмадны дар і скарб для ўсеславянскай і ўсясветнай людскай культуры»[89].

Ідэйным, палітычным і арганізацыйным цэнтрам беларускага нацыянальнага руху з'яўлялася газета «Наша ніва». Яна паслядоўна выкрывала рэакцыйны, шавіністычны характар палітыкі царызму на Беларусі, а таксама дзейнасць памешчыцка-клерыкальных партый і груповак, накіраваную на русіфікацыю і паланізацыю беларускага народа. «Наша ніва» пратэставала супраць раздзелу яго па веравызнанні на «рускіх» і «палякаў», супрацьстаўляла гэтай палітыцы прапаганду нацыянальнай свядомасці і еднасці ўсіх беларусаў — і праваслаўных, і католікаў. Яна настойліва патрабавала ўвядзення ў школу, царкву і

касцёл на Беларусі беларускай мовы, пераходу іх на беларускія нацыянальныя пазіцыі. Зыходныя прынцыпы «Нашай нівы» па нацыянальна-рэлігійным пытанні сфармуляваў Антон Луцкевіч (Навіна). «Каталіцкую веру,— пісаў ён,— народ наш называе **польскай**, праваслаўную — **расейскай.** І пакуль касцёл і царква не зробяцца ў Беларусі **беларускімі**, народ наш заўсягды будзе дзяліцца на дзве часці... Гэты раздзел павэдлуг рэлігіі робіць у нас тое, што пры найвялікшым развіцці нашай мовы суцэльнага, адзінага нацыянальнага жыцця ў нашага народу быць не можа, пакуль наша мова не здабудзе сабе належных правоў у царкве і касцёле»[90]. Пад уплывам «Нашай нівы» асобныя святары далучаліся да беларускага нацыянальнага руху і пачалі ўжываць беларускую мову ў сваёй канфесійнай дзейнасці. Гэта спрыяла росту аўтарытэту роднай мовы ў вачах сялянства. У нашаніўскі перыяд з'явіліся першыя прыватныя беларускамоўныя школы.

Дзейнасць «Нашай нівы», абуджаных і згуртаваных ёю таленавітых пісьменнікаў, найперш, вядома, Я. Купалы і Я. Коласа, адыграла выключную ролю на завяршальным этапе станаўлення новай беларускай літаратурнай мовы. Беларускае нацыянальнае адраджэнне, дзейнасць «Нашай нівы», творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча і іншых нашаніўцаў заўважылі, высока ацанілі і падтрымалі выдатныя прадстаўнікі рускай, польскай, украінскай, чэшскай, літоўскай культуры[91].

Характэрнай асаблівасцю беларускага нацыянальнага руху ў пачатку XX ст. з'яўлялася найперш тое, што ён развіваўся пад кіраўніцтвам адной партыі (леванародніцкай, сялянскай БСГ), а затым на працягу шэрага гадоў — адной газеты («Наша ніва»). У суседніх прыгнечаных народаў — палякаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў — у той час існавалі розныя ў класавых і палітычных адносінах партыі і органы друку — ад памешчыцкіх да пралетарскіх (сацыял-дэмакратычных). Беларускі нацыянальны рух быў сялянскім, народніцкім па характары. Найбольш актыўнай яго сілай з'яўлялася сялянская і дробнашляхецкая па паходжанні інтэлігенцыя. Да 1917 г. у беларускім нацыянальным руху практычна не ўдзельнічалі прадстаўнікі памешчыкаў і гандлёва-прамысловай буржуазіі. Толькі ў клерыкальным, менавіта каталіцкім, асяроддзі напярэдадні першай сусветнай вайны з'явіліся прыхільнікі беларускага нацыянальнага руху, якія і заснавалі газету «Bielarus». Згуртаванне нацыянальна-свядомых сіл вакол БСГ і газеты «Наша ніва», як цэнтраў руху, вымагалася таксама слабасцю яго фінансавай базы і шалёным супраціўленнем непараўнальна больш магутных сіл — урадавага, чарнасоценна-акцябрысцкага блоку, з аднаго боку, і польскіх памешчыцка-клерыкальных груповак — з другога.

**Нацыянальны рух у 1915 — пачатку 1917 г.** Акупацыя ў 1915 г. амаль усёй Віленскай, Гародзенскай і заходняй часткі Менскай губерняў германскімі

Цішка Гартны.

войскамі, масавае, часта прымусовае бежанства на ўсход у ходзе ваенных дзеянняў на пэўны час дэзарганізавалі беларускі нацыянальны рух. У сувязі з набліжэннем фронту да Вільні ў жніўні 1915 г. спынілася выданне «Нашай нівы». Частка дзеячаў нацыянальнага адраджэння была мабілізавана ў армію, іншыя выехалі з Вільні ў розныя гарады Расіі, дзе прымалі ўдзел у арганізацыі бежанскіх камітэтаў і таварыстваў дапамогі ахвярам вайны. Усе даваенныя беларускія нацыянальна-культурныя арганізацыі распаліся, спынілася выданне беларускамоўных газет і кніг. Толькі восенню 1916 г. у Петраградзе з'явіліся невялікія штотыднёвыя газеты «Дзянніца» і «Светач» («Swietač»), якія выдаваліся пад рэдакцыяй, адпаведна, З. Жылуновіча і Э. Будзькі. Ва ўмовах вайны і існавання ваеннай цэнзуры яны не маглі належным чынам разгарнуцца, і ўжо ў пачатку 1917 г. іх выданне спынілася.

Частка былых кіраўнікоў «Нашай нівы» (Луцкевічы, Ластоўскі і інш.) засталіся ў акупаванай немцамі Вільні і былі вымушаны прыстасоўвацца да новых умоў дзейнасці. Яны ўзначалілі Беларускі камітэт дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Разам з адпаведнымі арганізацыямі палякаў, літоўцаў і яўрэяў камітэт выступіў з ідэяй аднаўлення поўнай дзяржаўнай незалежнасці Беларуска-Літоўскага краю ў форме Вялікага княства Літоўскага з соймам у Вільні, выбраным на аснове прамых і тайных выбараў. З мэтай ажыццяўлення гэтай ідэі ў канцы 1915 г. па ініцыятыве беларускіх дзеячаў з прадстаўнікоў азначаных арганізацый утварылася канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага. Пра гэта на чатырох мовах (беларускай, літоўскай, польскай і яўрэйскай) было расказана ў спецыяльным «Універсале»[92].

Аднак неўзабаве канфедэрацыя распалася з прычыны вострых супярэчнасцей паміж яе ўдзельнікамі, «падагрэтых» адпаведнай палітыкай акупантаў. Польскія памешчыкі і касцёл разгарнулі інтэнсіўную дзейнасць па апалячванні беларусаў. Літоўцы баяліся беларускай большасці ў адной з імі дзяржаве і імкнуліся да сепаратнага пагаднення з нямецкімі ўладамі,

дамагаючыся ад іх згоды на стварэнне асобнай літоўскай дзяржавы з уключэннем у яе склад беларускіх зямель. З мэтай абароны нацыянальных інтарэсаў беларускага насельніцтва быў створаны «Цэнтральны саюз беларускіх нацыянальных грамадскіх арганізацый» на чале з Беларускім народным камітэтам у Вільні. Пад яго кіраўніцтвам у 1916—1917 гг. на акупаванай тэрыторыі ўзнікла даволі значная сетка беларускіх школ, было распачата выданне падручнікаў і навучальных дапаможнікаў, наладжана выданне газеты «Гоман» («Homan») кірыліцай і лацінкай. Яна пачала выходзіць з 15 снежня 1916 г. у Вільні пад рэдакцыяй В. Ластоўскага 2 разы на тыдзень.

У красавіку і чэрвені 1916 г. прадстаўнікі Беларускага народнага камітэта ўдзельнічалі ў канферэнцыях народаў Расіі, якія адбыліся ў Стакгольме і Лазане. Там яны прасілі ў народаў Еўропы падтрымкі ў вызваленні беларускага народа з-пад расійскай няволі, у забеспячэнні яму ўсіх палітычных і культурных правоў і магчымасці вольна развіваць свае інтэлектуальныя, маральныя і эканамічныя сілы, стаць гаспадаром на сваёй уласнай зямлі[93].

На ўсходняй, не акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі адразу пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў ліку іншых дэмакратычных партый аднавіла сваю дзейнасць і БСГ. Адначасова ўзнікла шмат іншых нацыянальных арганізацый, гурткоў, суполак, згуртаванняў не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Петраградзе, Маскве і іншых гарадах краіны, дзе было шмат беларусаў-бежанцаў, рабочых, салдат і матросаў. 25—27 сакавіка 1917 г. у Менску адбыўся з'езд прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных арганізацый, у якім удзельнічала да 150 чалавек. Старшынёю з'езда быў абраны старэйшы дзеяч беларускай культуры, адзін з заснавальнікаў БСГ Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец). Ініцыятыва з'езда выходзіла ад Менскага камітэта дапамогі ахвярам вайны. З'езд заслухаў інфармацыі аб дзейнасці беларускіх арганізацый у Петраградзе, Бабруйску, Яраслаўлі, праграмныя дэкларацыі БСГ (А. Смоліч), Каталіцкай дэмакратычнай партыі (ксёндз В. Гадлеўскі), Народнай дэмакратычнай партыі (Р. Зямкевіч), даклады 7 утвораных ім камісій па актуальных пытаннях беларускага нацыянальнага руху, а таксама шэраг прывітальных тэлеграм і выступленняў ад розных арганізацый. Ад імя Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў выступіў З. Жылуновіч (Цішка Гартны), ад Менскага Савета — Кузьміцкі. У сваю чаргу ад імя з'езда былі пасланы прывітальныя тэлеграмы Часоваму ўраду, Петраградскаму Савету, салдатам-акопнікам, нацыянальным арганізацыям украінцаў, літоўцаў і інш.[94].

Рэзкі адзінадушны пратэст з'езда выклікала выступленне выбранага ў прэзідыум афіцыйнага прадстаўніка мясцовай улады — памочніка губернскага камісара эсэра І. Метліна, які па

сутнасці выказаўся за неабходнасць захавання адзінай і недзялімай Расіі і прызнаў пастаноўку беларускага нацыянальнага пытання несвоечасовай і надуманай, а сам з'езд і беларускі нацыянальны рух у цэлым — з'явай штучнай, пазбаўленай цвёрдага фундамента ў народных нізах. Дэлегаты ацанілі гэтае выступленне як чарнасоценна-русіфікатарскае, адзначалі, што самі яны ў пераважнай большасці выйшлі з народных нізоў, з курных хат і абавязаны бараніць беларускую справу. У выніку Метлін быў вымушаны пакінуць не толькі прэзідыум, але і з'езд.

Дэлегаты прызналі неабходным неадкладнае стварэнне ў Менску Беларускай краёвай рады. Да выбараў апошняй з'езд абвясціў сябе «вышэйшай краёвай інстытуцыяй», а сваім выканаўчым органам — Беларускі нацыянальны камітэт, у які выбраў 18 чалавек. Яму даручалася «арганізаваць Беларусь у кантакце з Часовым расійскім урадам», падрыхтаваць выбары ў Беларускую краёвую раду, прапагандаваць выбары ў Расійскі Устаноўчы сход «на прынцыпах федэратыўна - дэмакратычнай рэспублікі Расейскай», выпрацаваць у кантакце з прапарцыянальна выбраным прадстаўніцтвам усіх нацыянальнасцей Беларусі палажэнне аб Беларускім краёвым урадзе. Такім чынам, з'езд выставіў патрабаванне дзяржаўнай аўтаноміі Беларусі ў складзе федэратыўнай дэмакратычна-рэспубліканскай Расіі. У дэкларацыі, адрасаванай Часоваму ўраду, выказвалася гатоўнасць падтрымаць яго ў барацьбе са знешнімі ворагамі за свабоду Расіі і яе народаў, а таксама з прыслужнікамі старога ўрада[95].

Пераважную большасць членаў БНК складалі прадстаўнікі разначыннай беларускай інтэлігенцыі, дробныя служачыя. Але быў выбраны і буйны памешчык-прадпрымальнік, у мінулым дэпутат I Дзяржаўнай думы Р. Скірмунт. Тады ён прытрымліваўся польскай арыентацыі і толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. БНК выбраў прэзідыум з 5 чалавек, у які ўвайшлі Р. Скірмунт (старшыня), П. Аляксюк і В. Фальскі (намеснікі), Л. Заяц (скарбнік) і Б. Тарашкевіч (сакратар).

З'езд даручыў БНК неадкладна прыступіць да арганізацыі сялянства, склікання сялянскага і настаўніцкага з'ездаў, стварэння кааператываў, узмацнення агітацыі ў масах шляхам выдання і распаўсюджання сваёй газеты і папулярнай агітацыйнай літаратуры, заснавання беларускамоўных школ і г. д. Апошняе стрымлівалася з прычыны адсутнасці адпаведных падручнікаў і кадраў настаўнікаў. У сувязі з гэтым БНК павінен быў у першачарговым парадку заняцца асветнымі справамі, заснаваць таварыства «Прасвета» і запрасіць для дапамогі яму У. Ігнатоўскага, Б. Эпімах-Шыпілу, М. Багдановіча і іншых вядомых дзеячаў на ніве беларускай культуры. З'езд выказаўся за ўвядзенне беларускай мовы ў настаўніцкіх і духоўных (праваслаўных і каталіцкіх) семінарыях, за адкрыццё ў адным з бе

ларускіх гарадоў вышэйшай школы.

Займаўся з'езд і пытаннем аб устанаўленні этнаграфічных граніц Беларусі. Беларускімі прызнаваліся Менская, Гародзенская, Магілёўская, часткі Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў. У пераліку чамусьці адсутнічала Віцебская губ. З'езд выказаў пратэст супраць прэтэнзій літоўцаў на ўключэнне ўсёй Віленскай губ. у склад Літвы, тым больш яе ўсходняй часткі, якая не была захоплена немцамі і мела суцэльнае беларускае насельніцтва. Дзеля дакладнага вызначэння этнаграфічных граніц Беларусі была прынята прапанова аб стварэнні спецыяльнай камісіі ў складзе вядомых вучоных М. Любаўскага, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага і А. Шахматава[96].

З'езд зафіксаваў наяўнасць у беларускім руху і ў пачатку 1917 г. адзінага нацыянальнага фронту, характэрнага для перыяду барацьбы з самадзяржаўем. Прадстаўнікі розных класаў і плыняў па пытаннях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, асветы і культуры знайшлі агульную платформу. Пра гэта сведчыць выбранне ў БНК, з аднаго боку, памешчыка Р. Скірмунта і ксяндза В. Гадлеўскага, а з другога — такіх левых дзеячаў, дэмакратаў, як служачы А. Бурбіс, навуковец Б. Тарашкевіч, паэт-рабочы З. Жылуновіч. Сацыяльна-эканамічныя пытанні, якія маглі раздзяліць іх, на з'ездзе не абмяркоўваліся.

Выбранне Р. Скірмунта старшынёю БНК нанесла значную шкоду беларускаму нацыянальнаму руху ў пазнейшы час, паколькі дало падставу для абвінавачання яго ў прапамешчыцкай, контррэвалюцыйнай накіраванасці. З гэтым выбраннем з'езд, магчыма, звязваў надзеі на тое, што Скірмунт забяспечыць поспех перагавораў з Часовым урадам аб прызнанні БНК вышэйшым органам дзяржаўнай улады на Беларусі. Аднак яны не апраўдаліся. Часовы ўрад стаяў на пазіцыях захавання «адзінай і недзялімай Расіі», ва ўсякім разе да правядзення Устаноўчага сходу. Дэлегацыю Беларускага нацыянальнага з'езда адмовіўся прыняць і старшыня ўрада Львоў, і міністр юстыцыі Керанскі. Апошні праз чыноўніка растлумачыў, што пастаўленыя дэлегацыяй пытанні мог вырашыць толькі Устаноўчы сход.

**«Дэмакратычны» шавінізм.** Пасля Лютаўскай рэвалюцыі супраць беларускага нацыянальнага руху адзіным фронтам выступалі расійскія вялікадзяржаўнікі ўсіх палітычных накірункаў — ад былых чарнасоценцаў да эсэраў і бальшавікоў. Чарнасоценцы, праўда, перафарбоўваліся ў дэмакратаў і засноўвалі такія арганізацыі, як «Саюз беларускай дэмакратыі» ў Гомелі, «Беларускі нацыянальны камітэт» у Магілёве, «Саюз беларускага народа» ў Віцебску і інш. Беларускімі саманазвамі прыкрывалася вялікадзяржаўніцкая, шавіністычная дзейнасць, накіраваная фактычна на русіфікацыю беларускага народа. У новых умовах ажыццяўлялася тактыка Л. Саланевіча ча-

соў Сталыпіна. Дзейнічалі яго аднадумцы і паплечнікі, да ліку якіх адносіўся і П. Каранкевіч — адзін са стваральнікаў гомельскага «Саюза беларускай дэмакратыі». Саюзнікі выказаліся за бясплатную перадачу ў карыстанне беларускага народа на аснове закона Устаноўчага сходу дзяржаўных, манастырскіх, царкоўных, удзельных і прыватнаўласніцкіх зямель, але па-ранейшаму выступалі «за поўнае аб'яднанне Беларусі з Расіяй», за навучанне ў школах Беларусі на агульнадзяржаўнай рускай мове, за зліццё беларусаў, велікарусаў і маларусаў «у адну магутную і нязломную народнасць рускую»[97]. Так адрэагавалі шматлікія дробныя чыноўнікі самадзяржаўнага рэжыму беларускага паходжання на звяржэнне царызму. Рашэнні Беларускага нацыянальнага з'езда яны ацанілі як нацыяналістычныя, шкодныя для беларускага народа.

Цалкам салідарнымі з імі аказаліся і расійскія дэмакраты розных ідэйна-палітычных накірункаў. Рэзалюцыя Менскага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза, апублікаваная 6 красавіка 1917 г., беспадстаўна характарызавала Беларускі нацыянальны камітэт як нацыяналістычную арганізацыю маёмасных пластоў беларускага народа, найперш землеўласнікаў, якая быццам пагражала інтарэсам сялян і рабочых сваім імкненнем «адарваць іх на глебе ўзмоцнена падаграваемага нацыяналізму ад працоўных мас усёй Расіі і падпарадкаваць іх ідэйнаму кіраўніцтву памешчыкаў». Камітэт даслаў сваю рэзалюцыю «да ведама» Часовага ўрада, а таксама Петраградскага, Маскоўскага і Менскага Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў і ад імя сялянства абвясціў «бязлітасную барацьбу» спробам БНК «прывесці да розні ў шэрагах працоўнага народа і тым перашкодзіць яму дамагчыся карэннай змены яго эканамічнага і палітычнага становішча»[98].

Ідэнтычныя ацэнкі Беларускаму нацыянальнаму камітэту даў і Выканаўчы камітэт Савета сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерняў пад кіраўніцтвам М. Фрунзе. Сялянскі з'езд пад яго ўплывам фактычна выступіў супраць стварэння на Беларусі беларускамоўнай школы. Пазней «ультракласавыя», а па сутнасці дэмагагічныя і шавіністычныя «аргументы» Менскага камітэта Усерасійскага сялянскага саюза супраць беларускага нацыянальнага руху шырока выкарыстоўвалі А. Мяснікоў, В. Кнорын і іншыя лідэры Паўночна-Заходняй арганізацыі РСДРП(б).

## 4. Беларусь у час першай сусветнай вайны.

**Акупацыя немцамі Заходняй Беларусі.** Барацьба дзвюх імперыялістычных груповак дзяржаў за перадзел ужо падзеленых калоній і «сфер уплыву» прывяла да сусветнай вайны. Ініцыятыва

ў яе развязванні зыходзіла з боку Германіі і Аўстра-Венгрыі. 1 жніўня 1914 г. (па новым стылі) Германія аб'явіла вайну Расіі, а 3 жніўня — Францыі. На наступны дзень у вайну з Германіяй уключылася Англія. Германія разлічвала спачатку разбіць Францыю, трымаючы абарону на Усходнім фронце пераважна сіламі Аўстра-Венгрыі, а затым — Расію. Па сутнасці гэта быў план «бліц-крыга». Уварваўшыся праз тэрыторыю нейтральнай Бельгіі ў межы Францыі, немцы ўжо ў жніўні 1914 г. стварылі рэальную пагрозу для Парыжа. Рускія войскі галоўнымі сіламі пачалі наступленне на Аўстра-Венгрыю з мэтай выйсці на Балканы і да чарнаморскіх праліваў. Да сярэдзіны верасня яны авалодалі Галіцыяй з яе сталіцай Львовам. Аднак развіць гэты поспех не ўдалося ў значнай меры з-за таго, што Расіі давялося выручаць з крытычнага становішча Францыю дачасным, непадрыхтаваным наступленнем ва Усходняй Прусіі. Францыя была выратавана цаною гібелі дзвюх рускіх армій.

Напярэдадні і ў першыя дні вайны заходнія, у тым ліку беларускія, губерні былі аб'яўлены на ваенным становішчы. У сувязі з гэтым забараняліся забастоўкі рабочых і служачых, сходы, вулічныя шэсці і маніфестацыі, якія пагражалі «грамадскаму спакою і дзяржаўнаму парадку». На Беларусі былі разгромлены практычна ўсе падпольныя рэвалюцыйныя арганізацыі, што праяўлялі актыўнасць. Уводзіўся жорсткі ваенна-паліцэйскі рэжым. Выключаліся з агульнай падсуднасці і перадаваліся ваеннаму суду справы аб бунтах супраць вярхоўнай улады, аб узброеным супраціўленні мясцовым уладам, ваенным патрулям і паліцыі. Аблічча друку вызначала папярэдняя ваенная цэнзура — газеты нярэдка выходзілі з белымі плямамі. Асаблівая ўвага ўдзялялася забеспячэнню бесперабойнай дзейнасці чыгунак. Усе чыгуначнікі праходзілі праверку на палітычную добранадзейнасць. На выпадак забастовак фарміраваліся рэзервы для замены тэлеграфістаў, машыністаў і іх памочнікаў, слесараў, качагараў і іншых спецыялістаў. Загадам камандуючага Паўночна-Заходнім фронтам генерала Жылінскага прадпісвалася падаўляць забастоўкі на чыгунках «з такой хуткасцю, рашучасцю і бязлітаснай жорсткасцю, якая выключала б усякую магчымасць іх прадаўжэння»[99].

У ліпені 1914 г. на Беларусі праводзіліся першыя мабілізацыі запасных у дзеючую армію. У некаторых паветах (Сенненскі, Ігуменскі, Наваградскі, Мазырскі) яны суправаджаліся разгромам памешчыцкіх маёнткаў. Найбольш актыўныя ўдзельнікі гэтых выступленняў па прыгаворах ваенна-палявых судоў былі пакараны смерцю[100]. Разам з тым царскі ўрад, правыя партыі, праваслаўнае духавенства з мэтай псіхалагічнай падрыхтоўкі насельніцтва да вайны разгарнулі масавую ідэалагічную кампанію, якая вялася пад сцягам абароны айчыны і вылілася ў разгул шалёнага шавінізму. На Беларусі, як і ў іншых рэгіёнах

Расіі, летам 1914 г. пракацілася хваля «патрыятычных» маніфестацый, малебнаў, сходаў. Усе афіцыйныя і чарнасоценна-акцябрысцкія газеты заклікалі насельніцтва да грамадзянскай згоды ў імя абароны айчыны, да ахвяр на карысць перамогі. Асаблівым шавінізмам, як і раней, выдзяляліся «Северо-западная жизнь» і «Виленский вестник».

У «патрыятычную» кампанію актыўна ўключыліся і партыі буржуазна-ліберальнай апазіцыі (кадэты і інш.). На баку «свайго» ўрада выступілі таксама эсэры, меншавікі, бундаўцы — як і сацыялістычныя партыі ўсіх іншых краін, што ўступілі ў вайну. Тым самым быў фактычна разбураны II Інтэрнацыянал, які ў папярэднія гады не раз прымаў рашэнні аб сумесных акцыях сацыялістычных партый на выпадак вайны і неабходнасці, як мінімум, галасавання дэпутатаў-сацыялістаў у парламентах супраць ваенных крэдытаў. З усіх партый, аб'яднаных Інтэрнацыяналам, толькі бальшавікі адмовіліся падтрымліваць «свой» урад і прызналі карысным, у інтарэсах пралетарыяту, паражэнне царызму ў вайне. У гэтым ім бачылася магчымасць ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую, а затым перамога рэвалюцыі.

Па сутнасці антываенную пазіцыю заняла газета «Наша ніва», якая заставалася ідэйным кіраўніком беларускага нацыянальнага руху. Рэдактарам яе ў сакавіку 1914 г. стаў Янка Купала. Захопніцкія мэты царызму легальная газета, вядома, не магла выкрываць, аднак паказвала, наколькі дазваляла цэнзура, што вайна вядзецца не ў інтарэсах народа і нясе мільёнам працоўных не згоду, волю і шчасце, а пагрозу гібелі і незлічоныя бедствы. Асабліва выразна гэтыя матывы гучалі ў цыкле вершаў Янкі Купалы «Песні вайны» [101]. У вершы «1914-ты» Купала пісаў:

> Прыйшоў не з згоды і свабоды весцяй
> І — не ўзвялічыць праўду між людзьмі,—
> Жыццём мільёнаў ты прыйшоў затрэсці.
> Шлях вымасціць свой трупамі, касцьмі.

Захопніцкай, несправядлівай вайне, «пошасці крывавай», якая ператварала «людзей на звераў». Купала супрацьпастаўляў вызваленчую барацьбу:

> ...Хай жа бітва йдзе
> За шчасця лепшага вясну,
> За волю вольнай грамадзе[102].

У сувязі з адсутнасцю ў «Нашай ніве» афіцыйна-патрыятычных матэрыялаў на тэмы вайны вялікадзяржаўніцкія газеты («Северо-западная жизнь», «Виленский вестник», «Новое время» і інш.) абвінавачвалі яе ледзь не ў здрадзе Расіі. «Наша ніва» адказала ім артыкулам «Ваўкі ў авечай скуры», у якім паказала, што Саланевічы, Цяпловы і іншыя «ўра-патрыёты», нажываючы на гібелі мільёнаў людзей палітычны капітал, фактычна шкодзілі Расіі і рускай арміі, паколькі і ў час вайны працягвалі сеяць у краіне міжнацыянальную падазронасць і нянавісць, нацкоўваць адзін народ на другі[103].

З пачатку 1915 г. асноўныя сілы Германіі знаходзіліся на Ус-

ходнім фронце. У выніку нямецкага наступлення рускія войскі ў чэрвені 1915 г. пакінулі большую частку Галіцыі, а 22 ліпеня, пазбягаючы акружэння ў Польшчы, здалі праціўніку Варшаву. Фронт імкліва набліжаўся да Беларусі. У жніўні пачалося нямецкае наступленне ў накірунку Коўна — Вільня — Менск. 31 жніўня нечаканым для рускіх ударам у стык новастворaных Паўночнага і Заходняга франтоў немцы захапілі Свянцяны і Вілейку. Пад пагрозай акружэння руская армія ў пачатку верасня пакінула Вільню, а таксама Гародню, Ліду, Берасце і іншыя гарады Заходняй Беларусі. У сувязі з гэтым Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага была пераведзена з Баранавіч у Магілёў. 19 верасня перадавыя нямецкія раз’езды перарэзалі чыгуначную лінію Менск — Масква ў раёне Смалявіч. Велізарным напружаннем сіл рускай арміі ўдалося ліквідаваць Свянцянскі прарыў і адкінуць немцаў у раён азёраў Свір і Нарач. Заходнія саюзнікі ў гэты цяжкі для Расіі час не аказалі ёй ніякай істотнай дапамогі. У кастрычніку 1915 г. фронт стабілізаваўся на лініі Дзвінск — Паставы — Баранавічы — Пінск. Каля паловы тэрыторыі Беларусі з гарадамі Гародня, Ашмяны, Смаргонь, Ліда, Слонім, Наваградак, Баранавічы, Ваўкавыск, Пружаны, Берасце, Кобрын, Пінск апынулася пад нямецкай акупацыяй.

**Бежанства.** Вайна прынесла незлічоныя бедствы ўсім уцягнутым у яе краінам. Але беларусы трапілі ў лік тых народаў, землі якіх сталі арэнай бітваў мільённых армій. Гінула мірнае насельніцтва, руйнаваліся вёскі і гарады, знішчаўся матэрыяльны і духоўны набытак. Адступленне рускіх войск у 1915 г. суправаджалася масавым, часта прымусовым бежанствам соцень тысяч людзей на ўсход, а таксама гібеллю несабранага ўраджаю і маёмасці, якую нельга было забраць з сабою. Ніхто і нідзе не чакаў бежанцаў — жанчын, дзяцей і старых. Рухаліся яны на ўсход на конных фурманках з невялікай паклажай харчоў, адзення, фуражу. Чыгуначны транспарт, амаль цалкам пераключаны на ваенныя перавозкі, не мог забяспечыць іх вываз.

На трактах, што вялі на ўсход, у ваколіцах чыгуначных станцый і гарадоў збіраліся велізарныя абозы і табары бежанцаў. Паводле афіцыйных звестак, у пачатку кастрычніка 1915 г. у тыле IV арміі на тракце Койданава — Стоўбцы — Мір — Гарадзея — Сноў у непасрэднай блізкасці да фронту знаходзілася да 35 тыс., а ў раёне Рэчыцы — 64 тыс. бежанцаў. Да пачатку 1916 г. у Менскай губ. аселі больш за 157 тыс., у Віцебскай — 90 тыс. бежанцаў. Праз Магілёўскую губ. к таму часу прайшло каля 1 млн. бежанцаў[104]. Немцы ў час свайго наступлення на Беларусі нярэдка абстрэльвалі табары і абозы бежанцаў артылерыйскімі снарадамі, бамбілі іх з самалётаў[105].

Масы бежанцаў жылі пад адкрытым небам — на ўзлесках і палях, іншы раз спыняліся ў вёсках, фальварках і маёнтках. Не маючы ні прадуктаў, ні фуражу,

Бежанцы ў раёне Слуцка. 1915 г.

ні сродкаў да іх набыцця, людзі, каб выжыць, літаральна спустошалі ўсё наўкола. Жудасныя ўмовы — голад, холад, асенняя непагадзь, антысанітарыя — спрыялі ўспышкам розных, у тым ліку заразных, захворванняў[106].

**Ваенныя павіннасці.** Царскія ўлады, ваенныя і цывільныя, спрабавалі выкарыстоўваць бежанцаў у якасці таннай рабочай сілы на разгрузцы чыгуначных эшалонаў, пабудове дарог, мастоў, на прамысловых прадпрыемствах, што выраблялі прадукцыю для фронту, на работах па ўмацаванні баявых пазіцый, а таксама ў памешчыцкіх маёнтках, што засталіся без работнікаў. Аднак разлікі на бежанцаў у гэтых адносінах не апраўдаліся, бо, як прызнавалі самі чыноўнікі, на 80 працэнтаў яны складаліся са старых, жанчын і дзяцей, няздольных да фізічнай працы.

На работы, звязаныя з патрэбамі арміі, у прымусовым парадку пасылаліся тысячы сялян прыфрантавых паветаў (пешшу і з фурманкамі), не зважаючы на самыя пільныя патрэбы ўласных гаспадарак і сямей. Летам 1916 г. у Менскай губ. на прымусовых ваенных работах былі заняты 219 300 мужчын і жанчын, у Віцебскай губ.— 121 200 пешых рабочых і 44 000 фурманак. Па сутнасці, да гэтых работ прыцягвалася ўсё мясцовае насельніцтва[107].

Велізарныя страты неслі беларускія сяляне ад бясконцых рэквізіцый на патрэбы арміі: коней, буйной рагатай жывёлы, зерня, мукі, фуражу. Афіцыйнымі цыркулярамі прадпісвалася забіраць у бежанцаў перад выездам з дому ўсю хатнюю жывёлу, а пры пасадцы на чыгунку — і коней. Тым, хто заставаўся, належала пакідаць аднаго каня і карову і месячны запас мукі, зерня, фу-

Бежанцы. Чарга за харчам. 1915 г.

ражу. Для правядзення рэквізіцый ствараліся спецыяльныя камісіі — цывільныя, а ў прыфрантавой паласе і ваенныя (армейскія, карпусныя і дывізіённыя атрады). Належнага ўзаемадзеяння паміж імі не было. Здаралася, што ў асобныя воласці прыбывала адразу некалькі камісій і кожная патрабавала выканаць адпаведную разнарадку па рэквізіцыі[108].

Бясконцыя рэквізіцыі і прымусовыя работы на патрэбы фронту практыкавалі і нямецкія ўлады на захопленай тэрыторыі Беларусі. Матэрыялы Расійскай надзвычайнай следчай камісіі (1917 г.) сведчаць аб тым, што акупанты сілаю забіралі ў беларускіх сялян коней, кароў, іншую хатнюю жывёлу і птушку, прадукты, фураж, адзенне, абутак, прымушалі выконваць абозную службу, гвалцілі жанчын[109].

**Гаспадарка. Рост дарагоўлі.** Вайна прывяла да заняпаду сельскую гаспадарку Беларусі. У вёсцы ўсё вастрэй адчуваўся недахоп рабочых рук, найперш мужчынскіх. За гады вайны толькі ў Віцебскай, Менскай і Магілёўскай губернях былі мабілізаваны ў армію 634,4 тыс. чалавек — больш паловы працаздольных мужчын[110]. У выніку каля $^{1}/_{3}$ гаспадарак засталіся пад апекай жанчын. У дадатак сотні тысяч людзей адрываліся ад сваёй гаспадаркі на акопнабудаўнічыя работы, ахову чыгуначных ліній і г. д. З-за адсутнасці ці недахопу рабочых рук у крытычнае становішча трапілі многія памешчыцкія гаспадаркі. У выніку пасяўныя плошчы на прыватнаўласніцкіх землях у 1914—1917 гг. скараціліся на

72,3 працэнта. За той жа перыяд на 11,4 працэнта паменшала агульная колькасць хатняй жывёлы. Рэзка ўзрасла ўдзельная вага бескароўных гаспадарак (у Магілёўскай губ. у параўнанні з 1913 г.— у 8,2 раза). Амаль на $^1/_3$ зменшыліся зборы жыта і пшаніцы[111]. У 1915 г. у многіх паветах Беларусі па ваенных абставінах засталася нявыкапанай бульба, а пасевы азімых былі знішчаны перамяшчэннямі войскаў, хваляй бежанцаў, прагонам ваенных гуртоў.

З пачаткам вайны і пераводам транспарту на абслугоўванне фронту парушыліся сувязі прамысловасці Беларусі з рынкамі збыту і крыніцамі сыравіны, паліва. З гэтай прычыны істотна скарацілі вытворчасць або зусім спынілі сваю работу многія фабрыкі і заводы. У канцы 1914 г. у сувязі з увядзеннем у Расіі «сухога закону» на Беларусі закрыліся практычна ўсе вінакурні. Згортвалася вытворчасць шкла, цэглы, чарапіцы, кафлі і іншых будаўнічых матэрыялаў. З набліжэннем фронту каля $^1/_3$ прамысловых прадпрыемстваў Беларусі былі эвакуіраваны або дэманціраваны. Адначасова ва Усходнюю Беларусь былі перавезены разам з рабочымі некаторыя фабрыкі і заводы з Польшчы і Рыгі. У цэлым колькасць адносна буйных (цэнзавых) прадпрыемстваў на неакупаванай тэрыторыі Беларусі ў 1913—1917 гг. скарацілася з 829 да 297 (у 2,7 раза), а рабочых — з 37,7 тыс. да 25,1 тыс. (на $^1/_3$). У 1917 г. доля мясцовай прамысловай прадукцыі, прызначанай для цывільнага насельніцтва, складала толькі 15—16 працэнтаў даваеннага ўзроўню[112].

У час вайны пашыралася вытворчасць, звязаная з забеспячэннем арміі адзеннем і абуткам, прадуктамі харчавання, боепрыпасамі, зброяй, розным рыштункам. Па ваенных заказах працавалі тэкстыльныя, швейныя, гарбарныя, абутковыя, хлебапякарна-сухарныя, лесапільныя, тытунёвыя, хімічныя і іншыя прадпрыемствы. Усе металаапрацоўчыя заводы былі пераведзены на вытворчасць боепрыпасаў. Снарады, гранаты, бомбы выраблялiся на пяці менскіх і трох гомельскіх заводах, а таксама Рэчыцкім і Аршанскім дротава-цвіковымі заводамі.

Ваенным ведамствам, а таксама Усерасійскім земскім саюзам і Саюзам гарадоў на Беларусі былі створаны шматлікія тэхнічныя майстэрні для вырабу і рамонту зброі, ваеннай тэхнікі і транспартных сродкаў, у якіх працавалі пераважна мабілізаваныя ў прамысловых цэнтрах кваліфікаваныя рабочыя, тэхнікі і інжынеры. Звычайна гэта былі буйныя прадпрыемствы з многімі сотнямі, а то і тысячамі работнікаў. Так, у артылерыйскіх і авіяцыйных парках Гомеля налічвалася каля 10 тыс., у артылерыйскіх майстэрнях Менска і Бабруйска — 3500 рабочых. Работа на гэтых прадпрыемствах рэгулявалася спецыяльнымі правіламі і лічылася як «спецыфічны від вайсковай службы». З улікам ваенных майстэрань колькасць рабочых у Менску ў пачатку 1917 г. дасягала 30 тыс., у Гомелі — 25, у Віцебску — 18, у Магілёве — 7 тыс.[113].

Гарады Беларусі былі перапоўнены вайскоўцамі і бежанцамі. Насельніцтва Менска на працягу аднаго года павялічылася са 100 да 250 тыс. Калі ў мірны час ваенны гарнізон у Менску налічваў усяго 4 тыс. чалавек, то ў 1915—1917 гг. у ім адных толькі раненых лячылася каля 9 тыс., а агульная колькасць вайскоўцаў дасягала 150 тыс. У горадзе размяшчаліся Галоўны штаб Заходняга фронту, штабы трох армій і шматлікія службы, штабы Чырвонага Крыжа, Гарадскога і Земскага саюзаў, розныя ваенна-дарожныя, санітарныя, інжынерныя, эвакуацыйныя і іншыя арганізацыі і ўпраўленні. Нават у даваенных умовах такое раптоўнае павелічэнне насельніцтва выклікала б нямала праблем, звязаных з забеспячэннем яго прадуктамі, жыллём, палівам, транспартам, медыцынскім і санітарна-гігіенічным абслугоўваннем. У сувязі з вайною і прыфрантавым становішчам горада ўсе праблемы, асабліва харчовыя, вельмі абвастрыліся. Над Менскам неаднаразова павісала пагроза застацца без прадуктаў, паліва, вады, электрычнасці. Рэальнай была і небяспека эпідэмій[114].

Аналагічнае становішча назіралася ў Бабруйску, дзе насельніцтва ў 1914—1915 гг. вырасла з 50 да 100 тыс., і ў іншых гарадах Беларусі.

Дастаўка на Беларусь прадуктаў і іншых тавараў першай неабходнасці рэзка пагоршылася. У параўнанні з даваенным часам прывоз хлебных грузаў у Менскую і Магілёўскую губерні ў 1915 г. скараціўся на 40 працэнтаў. Запасы прадуктовых тавараў у гарадах Менскай губ. у канцы 1915 г. складалі ад 9 да 22 працэнтаў ад нормы. Многае ўвогуле і на доўгі час знікала з продажу[115].

У 1916 г. у гарады Віцебскай губ. прывозілася тавараў першай неабходнасці толькі 5—10 працэнтаў ад нормаў, скарочаных больш чым напалову ў параўнанні з даваеннымі. У сувязі з гэтым цэны на прадукты і прамысловыя тавары ў пачатку 1917 г. выраслі ў 3—5—7 і болей разоў[116]. Гэта спрыяла нябачанаму росту спекуляцыі. Указы і пастановы ўрада і мясцовых улад, накіраваныя на абмежаванне спекуляцыі, не дзейнічалі. Казнакрадства, хабарніцтва, спекуляцыя шырока распаўсюдзіліся ў інтэндацкіх службах арміі.

З пачаткам вайны былі адменены ўсе абмежаванні, што датычылі працягласці рабочага дня і выкарыстання працы жанчын і дзяцей. У прамысловасці, ды і ў сельскай гаспадарцы, менавіта дзеці і жанчыны замянілі мужчын, мабілізаваных у армію. У пачатку 1917 г. жанчыны, падлеткі і дзеці складалі 58,4 працэнта ўсіх фабрычных рабочых Беларусі[117]. Фактычна былі адменены выходныя і святочныя дні. Абавязковымі сталі звышурочныя работы. У дробнай і рамеснай вытворчасці працоўны дзень, як у XIX стагоддзі, працягваўся 15—16 гадзін у суткі. Нягледзячы на гэта, а таксама на шпаркі рост цэн, заробкі асноўнай масы рабочых Беларусі змяншаліся, прытым не толькі рэальныя, але і намінальныя.

Па звестках фабрычнай інспекцыі, сярэдняя намінальная заработная плата фабрычных рабочых у трох беларускіх губернях у 1915 г. панізілася на 10,7 працэнта і была ў гэты час ніжэй за агульнарасійскую амаль напалову (у Расіі — 322, на Беларусі — 168,8 руб.)[118]. Яна не забяспечвала самыя мінімальныя, жыццёва неабходныя патрэбы рабочых. Істотна павялічылася заработная плата толькі высокакваліфікаваных рабочых на прадпрыемствах, якія выконвалі ваенныя заказы. Але і іх заробкі не паспявалі за ростам цэн на прадукты, паліва, жыллё. *Кватэрная плата ўзрасла на 50—100* працэнтаў і была непасільнай для абсалютнай большасці рабочых.

**Стачкі рабочых.** Ва ўмовах прыфрантавой зоны, перанасычанай войскамі, органамі палітычнай бяспекі і ваеннай контрразведкі, працоўныя Беларусі не маглі даць належны адпор сваім прыгнятальнікам. Тым не менш адчайнае становішча, у якім знаходзіліся працоўныя людзі, вымушала іх уступаць у барацьбу за выжыванне, за хлеб надзённы, супраць гвалту і здзекаў. Ужо ў першыя месяцы вайны рабочыя і сяляне, у асноўнай масе сваёй, пазбавіліся ад патрыятычнага чаду, якім расійскія ўлады прыкрывалі захопніцкія мэты вайны. Афіцыйная і памешчыцка-буржуазная прапаганда аб неабходнасці захавання грамадзянскага міру ў краіне да перамогі над знешнім ворагам пераставала ўздзейнічаць на масы, асабліва ва ўмовах агульнага адступлення царскай арміі і гаспадарчага бязладдзя, якое ўсё больш паглыблялася, пачынаючы з 1915 г. Менавіта ў гэты перыяд адбыўся якасны зрух у грамадскай свядомасці, а таксама ў барацьбе супраць антынароднага рэжыму. Пра гэта сведчыць дынаміка стачачнага руху рабочых. У другой палове 1914 г. ён праявіўся ў Расіі зусім слаба (70 стачак з удзелам 35 тыс. чалавек). У 1915 г. адбылося ўжо больш за 1 тыс. стачак, у якіх удзельнічалі каля 500 тыс. рабочых. У 1916 г. колькасць стачачнікаў вырасла да 1 млн. Рабочы рух у Расіі набыў выразны антыўрадавы характар.

На Беларусі таксама назіралася нарастанне рабочага руху. Пасля зацішша ў пачатку вайны (3 аднадзённыя эканамічныя стачкі на працягу 5 месяцаў) выявіўся адносны ўздым у 1915 г., калі адбылося 12 забастовак у 6 населеных пунктах. Праўда, удзельнічала ў іх крыху больш за 300 рабочых. У 1916 г. стачачны рух ахапіў 11 населеных пунктаў Беларусі, колькасць забастоўшчыкаў перавысіла 1800. Але на расійскім фоне гэты паказчык, як відаць, быў зусім нязначны. Стачкі адбываліся разрознена, і, як правіла, у іх удзельнічала толькі частка рабочых асобных прадпрыемстваў. Асноўным патрабаваннем стачачнікаў з'яўлялася павышэнне заработнай платы ў сувязі з ростам дарагоўлі жыцця. Адзіным, бадай, выключэннем было выступленне часткі рабочых і служачых Гомельскага чыгуначнага вузла ў красавіку 1915 г., у ходзе якога яны выказалі пратэст супраць звальненняў па палі-

тычных матывах. Летам таго ж года з эканамічнымі патрабаваннямі баставалі рабочыя дэпо Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі, а ў 1916 г.— дэпо станцый Маладзечна і Віцебска[119]. Адзначаныя выступленні чыгуначнікаў былі першымі на Беларусі пасля 1905 г.

Уступаючы ў адкрытую барацьбу з прыгнятальнікамі нават з чыста эканамічнымі патрабаваннямі, рабочыя Беларусі ў перыяд вайны рэальна рызыкавалі жыццём. Пра гэта сведчыць падаўленне ў верасні 1916 г. казакамі мірнай стачкі рабочых дрэваапрацоўчага завода ў маёнтку Прылукі Менскага павета, у ходзе якога былі забіты 3 і паранены 45 чалавек. Арганізатараў стачак арыштоўвалі і адпраўлялі на фронт. Дзейнасць якіх-небудзь палітычных арганізацый у забастовачным руху на Беларусі ў гады вайны не праявілася. З-за нязначнасці сваіх маштабаў мясцовы рабочы рух практычна не аказаў уплыву на грамадскае жыццё краю. Паказальна і тое, што ў перыяд з кастрычніка 1916 да лютага 1917 г., калі ў Расіі назіраўся найбольшы ўздым рабочага руху, які прывёў урэшце да краху самадзяржаўя, на Беларусі адбылася толькі адна стачка[120]. Адзначаныя асаблівасці тлумачацца прыфрантавым становішчам Беларусі. Масавыя палітычныя, ды і эканамічныя выступленні ва ўмовах вайны былі аб'ектыўна немагчымы.

Але антыўрадавыя настроі ў 1915—1916 гг. пашыраліся і сярод рабочых Беларусі. Пра гэта сведчаць штомесячныя жандарскія данясенні ў дэпартамент паліцыі. Начальнік Магілёўскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў кастрычніку 1916 г., у прыватнасці, адзначаў: «Адносіны рабочых чыгуначнай, фабрычнай і заводскай прамысловасці да цэнтральнага ўрада рэзка пагоршыліся». Рабочыя, па яго заключэнні, былі схільныя падтрымаць «сацыял-дэмакратычны рух, які разрастаўся ў іншых мясцовасцях»[121].

**Сялянскі і салдацкі рух.** Сялянскі рух у самым пачатку вайны ў многіх месцах Беларусі выліўся ў своеасаблівую форму разгрому мабілізаванымі запаснымі памешчыцкіх маёнткаў, а ў зборных пунктах (мястэчках і павятовых гарадах) — харчовых і вінных магазінаў і лавак. З 19 па 25 ліпеня 1914 г. у Магілёўскай, Віцебскай, Менскай і Віленскай губернях былі разгромлены 43 памешчыцкія маёнткі, 2 фальваркі, 3 хутары, 9 сядзіб вясковых багацеяў і леснікоў, 67 казённых і прыватых вінных і прадуктовых лавак і складоў. У той ці іншай ступені гэты рух ахапіў 20 з 35 паветаў Беларусі. Найбольш масавым і вострым ён быў у Сенненскім, Мазырскім, Ігуменскім, Рэчыцкім, Менскім, Лепельскім паветах, дзе шматсоценныя натоўпы запасных нярэдка ўступалі ў схваткі са стражнікамі, паліцыяй і вайсковымі патрулямі. У Гародзенскай губ. падобных выступленняў не выяўлена, у Віленскай улічаны толькі 2 (у Лідскім павеце)[122].

У ліпеньскіх разгромах памешчыцкіх маёнткаў, лавак і складоў гандляроў, бясспрэчна, праявілася адвечная нянавісць сялян да сваіх прыгнятальнікаў.

І ўсё ж не варта ідэалізаваць гэты рух, прыпісваць яму рэвалюцыйны характар, як рабілася раней. Па сутнасці гэта былі стыхійныя пагромы, якія суправаджаліся рабаваннем ці знішчэннем маёмасці памешчыкаў і гандляроў-яўрэяў, з разлікам на тое, што «фронт усё спіша». Удзельнікі гэтых акцый, часта нецвярозыя, спадзяваліся, што яны, як «абаронцы цара і айчыны», не будуць пакараны. Аднак адпаведныя надзеі не апраўдаліся. Улады спаўна выкарысталі палажэнне аб ваенным становішчы. Парадак наводзілі карныя атрады і ваенна-палявыя суды. Па іх прыгаворах у Сенненскім, Мазырскім і Ігуменскім паветах былі павешаны 16 чалавек. Многія ўдзельнікі выступленняў трапілі на катаргу і ў арыштанцкія роты.

Гэтыя меры на пэўны час прыпынілі пагромны рух сялян. Але ва ўмовах абвастрэння харчовага крызісу і шпаркага росту цэн на ўсе тавары першай неабходнасці ён зноў ажывіўся. Вясною і летам 1915 г. у некаторых мястэчках Навагрудскага, Бабруйскага, Рэчыцкага, Менскага і Слуцкага паветаў у час кірмашоў сяляне грамілі лаўкі і дамы гандляроў. У Ігуменскім, Лепельскім, Гарадоцкім, Менскім паветах аналагічныя акцыі ў сувязі з мабілізацыяй учынілі навабранцы. У некаторых месцах яны ўступалі ў схваткі з паліцыяй, збівалі афіцэраў, што суправаджалі партыі мабілізаваных[123].

Вайна паўплывала і на традыцыйныя формы сялянскага руху, а таксама на яго дынаміку ў цэлым. Гэта характарызуюць наступныя даныя: у жніўні — снежні 1914 г. адбыліся 36, у 1915г.— 99, у 1916 — 60, у студзені — лютым 1917 г.— 7, а ўсяго за адзначаны перыяд — 202 сялянскія выступленні. Найбольш пашыранымі формамі сялянскага руху на Беларусі ў гады вайны з'яўляліся патравы памешчыцкіх зямель і парубкі лясоў. У суме яны дасягалі 51,4 працэнта. Затым ішлі адмовы ад выканання ваенных работ і павіннасцей, выступленні супраць росту дарагоўлі, захопы памешчыцкай уласнасці і разгромы маёнткаў, супраціўленне ўладам і паліцыі, звязанае звычайна з іншымі выступленнямі[124].

Уздыму руху ў 1915 г. садзейнічала рэзкае пагаршэнне становішча сялянства ў сувязі з пераносам баявых дзеянняў на тэрыторыю Беларусі, ростам рэквізіцый і мабілізацый на франтавыя работы, паглыбленнем гаспадарчай разрухі і інш. Спад руху ў 1916 г. у пэўнай меры тлумачыцца істотным звужэннем тэрыторыі, па якой вяліся падлікі (выключэннем Гарадзенскай і Віленскай губерняў, акупаваных немцамі). Аднак і ў Менскай, Віцебскай, Магілёўскай губернях колькасць выступленняў сялян скарацілася з 86 у 1915 г. да 60 у 1916 г.

У сувязі з гэтым варта адзначыць, што ў савецкай статыстыцы сялянскага руху было прынята ўлічваць толькі тыя выступленні, у якіх удзельнічала не менш як 10 чалавек. Магчыма, што адноснае змяншэнне колькасці такіх выступленняў у

1916 г. было звязана са зменай тактыкі сялян — іх свядомай адмовай ад дзеянняў «скопом», бо на такое ўлады рэагавалі досыць жорстка — прысылалі паліцыю, войска. Таму сяляне ўсё часцей выступаюць невялікімі групамі. Паказальна, што ў патравах і парубках яны дзейнічалі групамі ад 3 да 9 чалавек. За два з паловаю гады вайны ўлічана больш за 700 такіх выступленняў. А яшчэ больш дробныя сялянскія «вольнасці» сталі масавай з'явай. Толькі ў гомельскім маёнтку Паскевічаў са жніўня 1914 па май 1916 г. было складзена звыш 2,5 тыс. протаколаў аб парубках лесу, патравах, самавольным скошванні травы і інш. На змяншэнне колькасці сялянскіх выступленняў у 1916 г. паўплывала і прыняцце закона (лістапад 1915 г.) аб спыненні на час вайны землеўпарадкавальных работ, звязаных з хутарызацыяй, якія выклікалі супраціўленне з боку большасці сялян[125].

Статыстыка выступленняў па месяцах сведчыць, што ў канцы 1916 — пачатку 1917 г. на Беларусі адбыўся спад сялянскага руху: за 5 месяцаў да звяржэння самадзяржаўя ў Расіі на Беларусі адбылося 16, а за такі ж папярэдні перыяд — 28 выступленняў[126]. Гэта адпавядае тэндэнцыі развіцця стачачнага руху рабочых Беларусі ў адзначаны час.

У мінулыя гады даследчыкі сялянскага руху насуперак фактам імкнуліся перабольшыць маштабы і ролю так званай другой сацыяльнай вайны ў вёсцы — выступленняў беднякоў і сераднякоў супраць кулакоў, якія лічыліся адной з перадумоў сацыялістычнай рэвалюцыі. Такіх выступленняў на Беларусі ў перыяд вайны зафіксавана толькі 6, г. зн. 3 працэнты ад агульнай колькасці, прычым у 1916 — пачатку 1917 г. не выяўлена ніводнага[127].

Па меры пагаршэння становішча ў вёсцы і ў краіне ў цэлым сярод сялян узмацняліся антыпамешчыцкія, антываенныя і антыўрадавыя настроі. Паводле данясення маршалка дваран Мазырскага павета мінскаму губернатару, у сялян ужо вясной 1915 г. «склалася цалкам акрэсленае і глыбокае перакананне, што раз іх бацькі, мужы, сыны і браты прызваны на вайну, то астатнія члены сям'і павінны бясплатна і беспакарана карыстацца памешчыцкім сенам і дрывамі»[128]. Адпаведны прынцып паступова пашыраўся ў свядомасці сялян і на іншую ўласнасць памешчыкаў, найперш — зямлю.

Прапагандыстамі такіх поглядаў выступалі самі салдаты, якія прыязджалі на пабыўку дамоў або знаходзіліся ў тылавых часцях, а таксама дэмабілізаваныя з войска інваліды, колькасць якіх хутка павялічвалася. Менавіта салдат называў у 1916 г. дасведчаны сучаснік, маршалак дваран Барысаўскага павета, «галоўным і самым пагражальным фактарам падтрымкі і нават узмацнення незадаволенасці сялян». Спасылаючыся на поўную адсутнасць клопату з боку ўрада аб сваіх сем'ях, якім пагражаў голад, салдаты заяўлялі, што пасля заканчэння вайны

яны «са зброяй у руках прыступяць да перадзелу зямлі і да канчатковых разлікаў з багатымі класамі»[129].

Выспяванню і распаўсюджанню такіх ідэй у салдацка-сялянскіх масах садзейнічалі буйныя ваенныя паражэнні царскай арміі ў кампаніі 1915 г., няўдачы баявых дзеянняў у 1916 г., велізарныя людскія, тэрытарыяльныя і матэрыяльныя страты, звязаныя з катастрафічным недахопам зброі і боепрыпасаў (нават вінтовак і патронаў), гаспадарчай разрухай і развалам транспарту, бяздарнасцю вышэйшага камандавання, прадажнасцю і злачыннымі махінацыямі інтэнданцкіх чыноўнікаў, разлажэннем прыдворных колаў, сімвалам якога стала распуціншчына. У сувязі з відавочнай няздольнасцю рэжыму Мікалая II забяспечыць перамогу ў вайне ўзмацнялася буржуазная апазіцыя ўраду ў Дзяржаўнай думе на чале з партыяй кадэтаў, распаўсюджваліся чуткі аб здрадніцтве ва ўрадзе, у вярхах арміі і нават — у царскай сям'і. Услед за эканамічным крызісам наспеў глыбокі палітычны крызіс.

У такіх умовах царская армія паступова рабілася небаяздольнай. Расло дэзерцірства. Адзначаліся выпадкі адмовы цэлых часцей і злучэнняў ісці ў наступленне, братання з немцамі. Узмацнялася антыўрадавая агітацыя сярод салдат з боку ўдзельнікаў рабочага руху, мабілізаваных у армію, падпольных бальшавіцкіх груп, што дзейнічалі на фронце і ў тыле. Якраз апошнія накіроўвалі свае намаганні на ажыццяўленне ленінскага лозунга аб ператварэнні вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую. У войсках успыхвалі хваляванні, звязаныя з дрэнным забеспячэннем прадуктамі і абмундзіраваннем. У многіх месцах, у тым ліку на Беларусі, салдаты ўдзельнічалі ў разгромах лавак, нападалі на памешчыцкія маёнткі. Усяго на Беларусі ў перыяд вайны выяўлены 62 значныя хваляванні салдат[130].

Найбуйнейшым з іх было паўстанне ў кастрычніку 1916 г. на размеркавальным пункце ў Гомелі. Тут разам з салдатамі і казакамі знаходзілася значная колькасць матросаў Балтыйскага флоту, якія за ўдзел у рэвалюцыйным руху былі спісаны з караблёў і размеркаваны па пяхотных палках. Па звестках жандарскіх органаў, менавіта матросы «задаліся мэтаю выклікаць беспарадак» і падтрымлівалі пры гэтым канспіратыўныя сувязі з Петраградам. Паўстанне ўспыхнула 22 кастрычніка ў сувязі з арыштам аднаго з казакаў. На яго абарону выступілі каля 4 тыс. салдат і матросаў, якія абяззброілі каравул гаўптвахты і вызвалілі з-пад арышту больш за 800 чалавек, знішчыўшы пры гэтым абвінаваўчыя дакументы. Некалькі рот, верных камандаванню, рассеялі паўстанцаў. Многія з іх схаваліся ў горадзе. У сувязі з гэтым у дамах гараджан пачаліся павальныя вобыскі. 26 кастрычніка каля 100 салдат разагналі паліцэйскі атрад, які займаўся вобыскамі, і ўварваліся на размеркавальны

пункт, дзе з дапамогай прыблізна 1000 салдат і матросаў зноў вызвалілі арыштаваных таварышаў. У той жа час адбывалася паўстанне салдат на размеркавальным пункце ў Краменчугу на Украіне. Аднак сувязі паміж імі не было. Абодва паўстанні былі падаўлены. Да суда ў Гомелі прыцягнулі 16 чалавек. З іх 9 расстралялі, а астатніх адправілі на катаргу і ў арыштанцкія роты[131]. Але такімі мерамі ўжо нельга было спыніць працэс разлажэння арміі.

## 5. Лютаўская рэвалюцыя на Беларусі.

**Зварэжнне самадзяржаўя. Утварэнне новых органаў улады.** Уступаючы ў вайну, царскі ўрад разлічваў не толькі на далучэнне да Расійскай імперыі новых тэрыторый, найперш чарнаморскіх праліваў, але і меў на мэце адвесці пагрозу рэвалюцыі, якая ў пачатку лета 1914 г. стала зусім рэальнай. Аднак ніводзін з гэтых разлікаў не апраўдаўся. Да першай сусветнай вайны царская Расія падышла непадрыхтаванай, і гэта з усёй відавочнасцю выявілася ўжо ў 1915 г. Сацыяльна-эканамічны лад, гаспадарка, транспарт Расіі не вытрымалі таго напружання, якога патрабавала небывалая па маштабах вайна. Гаспадарчая разруха ўсё больш паглыблялася. Фронт, не атрымліваючы самага неабходнага, ледзь трымаўся. У многіх гарадах, у тым ліку ў сталіцы, рэальнай стала пагроза голаду і галодных бунтаў давядзеных да адчаю людзей. Народныя масы патрабавалі міру, хлеба і свабоды.

Лёс самадзяржаўя ў Расіі вырашыла народная рэвалюцыя. Пачатак ёй паклалі масавыя забастоўкі, вулічныя мітынгі і дэманстрацыі ў Петраградзе, праведзеныя 23 лютага 1917 г. у сувязі з Міжнародным жаночым днём. На наступны дзень забастоўка ахапіла больш за 200 тыс. рабочых, а 25 лютага стала ўсеагульнай. 27 лютага выступленні перараслі ва ўзброенае паўстанне супраць царызму, якое падтрымала большасць салдат Петраградскага гарнізона. 28 лютага рэвалюцыя перамагла.

Рэальная ўлада ў сталіцы перайшла да Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які сфармаваўся ў ходзе паўстання і абапіраўся на яго ўзброеныя сілы. Вядучыя пазіцыі ў Савеце занялі меншавікі і эсэры. Адначасова, пры актыўным удзеле ранейшай думскай апазіцыі, сфарміраваўся буржуазны Часовы ўрад, які ўзначаліў князь Г. Львоў. Большасць месцаў у ім занялі кадэты. Лідэр кадэтаў П. Мілюкоў стаў міністрам замежных спраў, лідэр акцябрыстаў А. Гучкоў — ваенным міністрам. Дэмакратычны лагер ва ўрадзе прадстаўляў міністр юстыцыі сацыяліст А. Керанскі, які адначасова з'яўляўся намеснікам старшыні Петраградскага Савета. Выходзячы з таго, што рэвалюцыя мела буржуазна-дэмакратычны характар, Савет падтрымаў Часовы ўрад, стварыўшы пры гэтым назіраль-

Дэманстрацыя ў г. Менску ў час Лютаўскай рэвалюцыі.

ны камітэт за яго дзейнасцю і адпаведнасцю палітыкі інтарэсам народа. Такім чынам, у выніку рэвалюцыі ў Расіі ўзнікла своеасаблівая палітычная з'ява — двоеўладдзе. На першым часе буржуазны Часовы ўрад існаваў дзякуючы падтрымцы Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Звесткі аб перамозе рэвалюцыі ў Петраградзе прыйшлі на Беларусь 1—4 сакавіка. Сярод працоўных Беларусі звяржэнне самадзяржаўя выклікала энтузіязм, які ў гарадах і мястэчках праявіўся ў масавых мітынгах і вулічных шэсцях з чырвонымі сцягамі і транспарантамі, з адпаведнымі лозунгамі і заклікамі. Удзельнікі гэтых выступленняў — рабочыя і салдаты — раззбройвалі паліцыю і жандараў, вызвалялі палітычных зняволеных. Па прыкладу Петраграда ў гарадах і мястэчках Беларусі ствараліся Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, народная міліцыя. На працягу сакавіка — красавіка 1917 г. арганізацыйна аформілася 37 Саветаў, у тым ліку 11 рабочых, 11 салдацкіх, 14 аб'яднаных Саветаў і Савет сялянскіх дэпутатаў[132].

Найбольш уплывовым на Беларусі і Заходнім фронце стаў Менскі Савет рабочых дэпутатаў, выбраны 4 сакавіка на сходзе прадстаўнікоў ад буйных прадпрыемстваў горада. У Часовы Выканаўчы камітэт Савета ўвайшлі толькі бальшавікі. Яны ж выступалі ў якасці арганізатараў гарадской народнай міліцыі, якая напярэдадні раззброіла царскую паліцыю і жандараў, вызваліла палітычных зняволе-

ных, заняла гарадское паліцэйскае ўпраўленне і ўсе паліцэйскія ўчасткі, узяла пад ахову пошту, тэлеграф, іншыя ўстановы[133]. Часовым начальнікам гарадской міліцыі стаў служачы Земскага саюза бальшавік М. Міхайлаў (М. Фрунзе).

Часовы выканаўчы камітэт заклікаў рабочых і служачых горада, а таксама салдат Менскага гарнізона выбіраць сваіх прадстаўнікоў у Савет і на працягу сутак арганізаваў выданне газеты «Известия Минского Совета рабочих депутатов». Першы нумар выйшаў 5 сакавіка. У той жа дзень на пасяджэнні Савета, у якім удзельнічалі 68 дэпутатаў ад 9180 рабочых, у Выканаўчы камітэт былі ўключаны прадстаўнікі меншавікоў і бундаўцаў. Савет фактычна прызнаў у якасці гарадскога органа ўлады створаны напярэдадні Часовы грамадскі камітэт парадку і дэлегаваў туды 20 чалавек. Разам з тым ён падтрымаў пастанову названага камітэта аб правядзенні 6 сакавіка агульнагарадской маніфестацыі ў гонар перамогі рэвалюцыі[134].

Падтрымалі гэтую акцыю, якая па сутнасці азначала прызнанне і падтрымку Часовага ўрада, камандаванне Заходняга фронту і царкоўныя ўлады. 6 сакавіка на Саборнай плошчы і прылеглых вуліцах у Менску сабралася амаль усё насельніцтва горада. Была маса чырвоных сцягоў і транспарантаў з лозунгамі і заклікамі «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!», «Няхай жыве Устаноўчы сход!» і інш. Пасля ўрачыстага малебну адбыўся ваенны парад. З прамовамі выступалі камандуючы Заходнім фронтам, члены Дзяржаўнай думы, гарадскі галава, старшыня Менскага Савета, прадстаўнікі розных партый і арганізацый. Прамоўцы ў большасці заклікалі да грамадзянскага міру і падтрымкі палітыкі Часовага ўрада, накіраванай на абарону «свабоднай Айчыны». Аналагічныя маніфестацыі ў пачатку сакавіка былі праведзены ў многіх гарадах і мястэчках.

Арганізацыйнае афармленне Менскага Савета завяршылася 8 сакавіка. З гэтага дня ён дзейнічаў як аб'яднаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Кіруючыся загадам № 1 Петраградскага Савета, Менскі Савет 8 сакавіка прыняў пастанову аб арганізацыі салдацкіх мас шляхам выбрання ва ўсіх ротах, батальёнах, палках і г. д. салдацкіх камітэтаў. Савет узяў на сябе палітычнае кіраўніцтва імі, а праз іх — салдатамі. Па чыста ваенных пытаннях салдаты павінны былі падпарадкоўвацца воінскім уладам. Адначасова была прынята рэзалюцыя аб арганізацыі рабочых, служачых і сялян шляхам стварэння фабрычна-заводскіх камітэтаў, прафесійных саюзаў, палітычных клубаў, сельскіх, валасных і павятовых сялянскіх камітэтаў[135]. У той жа дзень, 8 сакавіка, быў выбраны пастаянны Выканаўчы камітэт Савета на чале з меншавіком Б. Позернам. Намеснікам яго стаў бальшавік І. Любімаў. У цэлым у Савеце пераважалі меншавікі, эсэры і бундаўцы. 9 сакавіка ўсе сацыял-дэмакратычныя групы ў Менску (бальшавікі, меншавікі, бундаўцы і

інш.) утварылі Аб'яднаную арганізацыю РСДРП.

У Віцебску ініцыятыва стварэння Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў зыходзіла ад нарады членаў розных сацыялістычных партый, якая адбылася 3 сакавіка 1917 г. Першым узнік Савет салдацкіх дэпутатаў, які быў выбраны 5 сакавіка на сходзе прадстаўнікоў усіх часцей гарнізона. Неўзабаве ён, як і Менскі Савет, прыняў рашэнне аб падпарадкаванні Петраградскаму Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў і абавязаўся выконваць усе яго пастановы. Дэпутаты ад рабочых выбіраліся ў Віцебску непасрэдна на прадпрыемствах. Першае пасяджэнне Віцебскага Савета рабочых дэпутатаў адбылося 8 сакавіка. Выбраны ў той дзень Выканаўчы камітэт Савета ў адозве «Да ўсіх рабочых гор. Віцебска» паставіў задачу стварэння рабочай міліцыі з мэтай барацьбы супраць контррэвалюцыі і пагромаў. Найбольш пільнай і неадкладнай прызнавалася харчовая праблема. У сувязі з гэтым Савет патрабаваў ад гарадскога грамадскага камітэта ўзяць на сябе закупку мукі для насельніцтва, выявіць наяўныя запасы прадуктаў і арганізаваць правільнае размеркаванне іх, забяспечыць рабочыя сем'і хлебам[136]. 12 сакавіка Выканаўчы камітэт звярнуўся да Віцебскага Савета салдацкіх дэпутатаў з прапановай стварыць аб'яднаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Апошні сфарміраваўся ў Віцебску ў першай палове мая[137].

У Гомелі 4 сакавіка адбыліся асобныя агульнагарадскія сходы прадстаўнікоў рабочых і салдат, на якіх былі выбраны адпаведныя Саветы. 6 сакавіка на іх сумесным пасяджэнні ўтварыўся аб'яднаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які прадстаўляў 25 тыс. салдат і рабочых. Спасылаючыся на волю рэвалюцыйнага войска і пралетарыяту, якія выбралі яго, Савет заявіў у адозве, што «бярэ на сябе ахову новага ладу ад пасяганняў рэакцыянераў і здраднікаў, прыхільнікаў ранейшага здрадніцкага ўрада». У сувязі з гэтым Гомельскі Савет на першым часе асаблівую ўвагу ўдзяляў арганізацыі народнай міліцыі. Асноўную частку яе складалі рабочыя чыгуначных майстэрань (400 чалавек)[138].

Аналагічным чынам ствараліся і пачыналі сваю дзейнасць Саветы і ў іншых гарадах і мястэчках Беларусі. Сваю асноўную задачу яны бачылі ў арганізацыі рабочых і салдацкіх мас, у абароне іх эканамічных інтарэсаў і палітычных правоў, у разгортванні сярод іх палітычнай асветніцкай дзейнасці, у падрыхтоўцы насельніцтва да заваявання сапраўднай свабоды і грамадзянскага раўнапраўя. Саветы актыўна ўдзельнічалі ў стварэнні народнай міліцыі, энергічна садзейнічалі ўтварэнню фабрычна-заводскіх камітэтаў і прафсаюзаў рабочых і служачых, салдацкіх камітэтаў у войску, сялянскіх — у вёсцы. Саветы на Беларусі прызнавалі кіруючую ролю Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў і выконвалі яго пастановы, якія мелі агульнарасійскае значэнне. Разам з тым яны, па прыкладу

гэтага ж Савета, прызнавалі Часовы ўрад і яго органы на месцах — пры ўмове адпаведнасці іх дзейнасці інтарэсам народа.

Буржуазныя органы ўлады ўзнікалі спачатку як часовыя гарадскія грамадскія камітэты. Ініцыятыва іх стварэння, як правіла, зыходзіла ад дзеячаў земскага і гарадскога самакіравання. У Менску познім вечарам 3 сакавіка 1917 г. была склікана экстранная нарада прадстаўнікоў губернскага і павятовага земстваў, гарадской думы, Земскага саюза і Саюза гарадоў, іншых грамадскіх арганізацый, духавенства розных канфесій, а таксама рабочых — усяго 70 чалавек. Сход выбраў старшыню губернскай земскай управы В. Самойленку грамадзянскім камендантам горада і адобрыў прынцыпы стварэння гарадскога грамадзянскага камітэта, якому разам з камендантам даручалася ахова парадку ў горадзе. 4 сакавіка быў утвораны Часовы грамадскі камітэт парадку, у які ўвайшлі прадстаўнікі Земскага і Гарадскога саюзаў, Савета рабочых дэпутатаў і начальнік гарадской міліцыі. Неўзабаве склад камітэта папоўніўся прадстаўнікамі іншых грамадскіх арганізацый, земскага і гарадскога самакіравання[139]. Падобныя камітэты ў тыя ж дні ўтварыліся ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Полацку і іншых гарадах Беларусі.

6 сакавіка 1917 г. Часовы ўрад перадаў уладу ў губернях і паветах сваім камісарам, якія назначаліся з ліку старшыняў губернскіх і павятовых земскіх упраў. Да губернскіх камісараў пераходзілі функцыі губернатараў. Акрамя паліцыі, жандармерыі і пракуратуры ўсе астатнія мясцовыя дзяржаўныя органы захоўваліся і павінны былі дзейнічаць пад кіраўніцтвам камісараў. Ім падпарадкоўвалася міліцыя, ім жа даручаўся нагляд за законнасцю дзейнасці ўсіх устаноў і чыноўнікаў.

Рэарганізавалася кіраванне на валасным узроўні. Камісарам даручалася неадкладна арганізаваць выбары ўсесаслоўных валасных камітэтаў замест саслоўна-сялянскіх валасных праўленняў. Устанаўліваліся двухступенныя выбары: сельскае насельніцтва ад кожных 10 двароў выбірала сваіх прадстаўнікоў на агульны валасны сход, які са свайго асяроддзя выбіраў валасны камітэт. Духавенства, настаўнікі, іншыя прадстаўнікі сельскай інтэлігенцыі, а таксама буйныя землеўладальнікі (больш за 200 дзес.) дапускаліся на валасныя сходы без выбараў. Мястэчкі з насельніцтвам больш за 2000 чалавек выбіралі свае асобныя камітэты, незалежныя ад валасных. Для іх уводзіліся прамыя выбары па трох курыях: домаўласнікі, землеўласнікі, усе астатнія жыхары. Пры гэтым кожная курыя мела ў выканаўчым камітэце прапарцыянальнае прадстаўніцтва. Валасныя, местачковыя і гарадскія камітэты выбіралі сваіх прадстаўнікоў у павятовыя камітэты. Па распараджэнні Часовага ўрада ствараліся спецыяльныя губернскія, павятовыя і гарадскія харчовыя камітэты, якім даручалася вырашэнне пытанняў, звязаных з

харчаваннем вайскоўцаў і насельніцтва[140]. Сістэма выбараў ва ўсе камітэты, зацверджаная Часовым урадам, адпавядала інтарэсам буржуазіі і памешчыкаў. Дэмакратычныя прынцыпы ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права яўна парушаліся.

Дасягнутае ў сталіцы пагадненне паміж Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў, з аднаго боку, і Часовым урадам — з другога, прадвызначыла мірныя ўзаемаадносіны паміж тымі ж органамі ўлады і на перыферыі, у тым ліку на Беларусі. Саветы і тут не перашкаджалі ўтварэнню буржуазных «грамадскіх камітэтаў парадку», прызнавалі іх і дэлегавалі сваіх прадстаўнікоў у гэтыя камітэты, фактычна падпарадкоўваючыся ім і іншым мясцовым органам Часовага ўрада. Прапагандыстамі і праваднікамі такой палітыкі ў мясцовых Саветах з'яўляліся эсэры, меншавікі і бундаўцы, якія складалі пераважную большасць дэпутатаў.

**Арганізацыя прафесійных саюзаў.** У першыя дні рэвалюцыі пачалі ўтварацца прафесійныя саюзы. У Менску з 12 па 21 сакавіка адбыліся агульнагарадскія сходы шаўцоў, краўцоў (400 чалавек), друкароў (130), пекараў (115), рабочых і служачых майстэрань Аляксандраўскай чыгункі (500), прыказчыкаў і служачых гандлёвых устаноў (700), палявых паштова-тэлеграфных служачых і тэлефаністаў фронту, фармацэўтаў і служачых аптэк (81), сталяроў, рабочых-краўцоў, якія шылі ваеннае абмундзіраванне (больш за 200), гандлёва-прамысловых служачых (500), работніц папяроснай фабрыкі Земскага саюза (400), рабочых механічнага завода «Млот» (80). На гэтых сходах выбіраліся камісіі і бюро для распрацоўкі статутаў прафсаюзаў, а таксама іншых пытанняў, звязаных з іх арганізацыйным афармленнем. Рабочыя асобных прадпрыемстваў (папяросная фабрыка, механічны завод) выбіралі фабрычныя і заводскія камітэты. Работнікі гандлю на сваім агульным сходзе вылучылі чатырох прадстаўнікоў у Менскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Сход рабочых шпалернай фабрыкі, выбраўшы фабрычны камітэт, прыняў пастановы аб неадкладным устанаўленні 8-гадзіннага рабочага дня і аб адлічэнні 2 працэнтаў заробкаў на падтрымку Менскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Да канца сакавіка ў Менску арганізацыйна афарміліся агульнагарадскія прафесійныя саюзы краўцоў, гарбароў, пераплётчыкаў[141]. Аналагічны рух разгортваўся і ў іншых гарадах Беларусі.

Рабочымі выстаўляліся патрабаванні аб паляпшэнні свайго эканамічнага становішча, скарачэнні рабочага дня, павелічэнні зарплаты і інш. Уласнікі прадпрыемстваў ва ўмовах рэвалюцыі звычайна задавальнялі патрабаванні сходаў рабочых. Аднак дзе-нідзе аказвалася супраціўленне, і тады рабочыя аб'яўлялі стачку, як гэта здарылася на фанерным заводзе ў Бабруйску. Забастоўка працягвалася 7 дзён. Рабочыя дамагліся павышэння заработнай платы[142].

Пытанні аб працягласці рабочага дня, заработнай плаце і інш. разглядаліся на пасяджэннях Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Вядома, на іх імкнуліся прымаць рашэнні на карысць рабочых, але ў межах рэальных магчымасцей і на аснове ўзаемных пагадненняў бакоў. Стыхія забастовак, задавальненне патрабаванняў явачным парадкам не вельмі заахвочваліся Саветамі. Тыповай у гэтых адносінах была пазіцыя Менскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 17 сакавіка ён выказаўся за неабходнасць устанаўлення 8-гадзіннага рабочага дня без памяншэння заработнай платы, але фактычна адклаў вырашэнне гэтага пытання на няпэўны час. Разам з тым Савет цвёрда выступіў супраць самавольнага скарачэння рабочага часу. Дапускаў ён і звышурочныя работы з павышэннем платы на 50 працэнтаў — пры ўмове згоды прафсаюзаў. У пастанове адзначалася абавязковасць выканання рабочымі звышурочных работ у тых выпадках, калі Выканаўчы камітэт Савета прызнаваў іх неабходнымі для абароны краіны.

**Рэвалюцыйны рух у войску.** Рэвалюцыя і загад № 1 Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў паклалі пачатак дэмакратызацыі войска. Загадам санкцыяніравалася стварэнне выбарных салдацкіх камітэтаў і Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, падпарадкаванне ім палітычнага руху ў арміі пры захаванні ў руках камандавання ўсёй паўнаты ўлады па чыста ваенных пытаннях. Салдаты ўраўноўваліся ў правах з усімі грамадзянамі краіны.

Часовы ўрад і камандаванне арміі вымушаны былі пагадзіцца з загадам № 1. Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага тэлеграмай ад 11 сакавіка раіла штабу Заходняга фронту стаць на шлях кампрамісаў з Саветамі рабочых дэпутатаў, якія складаліся з памяркоўных элементаў і прызнавалі неабходным працягваць вайну да перамогі. Тэлеграма патрабавала ад камандзіраў часцей устанавіць кантроль над выбарамі ў Саветы і дамагацца вылучэння ў якасці дэпутатаў памяркоўных афіцэраў, якія праводзілі б урадавую лінію[143].

Паводле пастановы Менскага Савета, прынятай у канцы сакавіка 1917 г., салдацкія камітэты павінны былі забяспечваць магчымасць для салдат удзельнічаць у палітычным жыцці краіны і ў перабудове яго на новых асновах, садзейнічаць росту культурнага ўзроўню і палітычнай свядомасці салдацкай масы і з гэтай мэтай наладжваць палітычныя клубы, гурткі самаадукацыі, бібліятэкі, чытальні, школы, лекцыі, спектаклі. Савет выказаўся за неабходнасць рэформ, накіраваных на паляпшэнне быту салдат, рабочых і сялян, усіх грамадзян Расіі, і разам з тым за ўстанаўленне ў войсках на новых свабодных асновах парадку і дысцыпліны[144].

Выбары салдацкіх камітэтаў пачаліся ў сакавіку — красавіку. У канцы жніўня 1917 г. на Заходнім фронце дзейнічалі 7284 камітэты, у тым ліку 60 дывізійных, 15 карпусных і 3 ар-

мейскія[145]. Размежаваць палітычныя і ваенныя пытанні яны не маглі, паколькі палітыка і вайна перапляталіся на кожным кроку, нават на бытавым узроўні. Абараняючы грамадзянскія правы салдат, дадзеныя рэвалюцыяй, камітэты пастаянна ўмешваліся ў іх узаемаадносіны з афіцэрамі і часта выказвалі недавер апошнім. Нярэдкія былі выпадкі адхілення афіцэраў і генералаў ад пасады і арыштаў іх. Улічваючы настрой салдацкай масы, ваенны міністр замяніў нават камандуючага Заходнім фронтам і ўвёў новую пасаду камісара фронту, на якую назначыў меншавіка В. Жданава. Тым не менш узаемаадносіны паміж салдатамі і афіцэрамі працягвалі абвастрацца. Усё часцей здараліся выпадкі адмовы цэлых дывізій падпарадкавацца камандаванню, яшчэ больш масавым стала дэзерцірства[146].

Такім чынам, загад № 1 Петраградскага Савета і адпаведныя пастановы мясцовых Саветаў, горача падтрыманыя бальшавікамі, прывялі да з'яўлення ў войску двоеўладдзя і паскорылі яго разлажэнне. Найбольш актыўна і мэтанакіравана займаліся такой дзейнасцю бальшавікі, якія па ініцыятыве У. Леніна ў красавіку 1917 г. узялі курс на сацыялістычную рэвалюцыю, на заваёву ўлады. Чыста палітычны і асветніцка-культурны рух, які спрабавалі арганізаваць у войску Саветы, вельмі хутка пераплёўся з антываенным, непасрэдна накіраваным супраць афіцэрскага корпуса, які ў пераважнай большасці выступаў за працяг вайны і патрабаваў аднаўлення дысцыпліны ў арміі. У выніку салдацкі рух выходзіў (у значнай меры стыхійна) за тыя межы, якія вызначаліся рашэннямі Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

7—17 красавіка 1917 г. у Менску адбыўся I з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту. Удзельнічала ў ім звыш 700 чалавек. Адным з галоўных арганізатараў з'езда быў Менскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Невыпадкова яго старшыню Б. Позерна выбралі старшынёй з'езда. Па партыйнаму складу дэпутатаў з'езд у большасці быў эсэра-меншавіцкім. Прыкметную ролю адыгрывалі і бальшавікі.

Па пытанні аб вайне з'езд услед за Саветамі падтрымаў заяву Часовага ўрада ад 28 сакавіка, у якой дэкларавалася, што мэта свабоднай Расіі — «не панаванне над іншымі народамі, не адняцце ў іх нацыянальнага багацця, не гвалтоўны захоп чужых тэрыторый, а ўсталяванне трывалага міру на аснове самавызначэння народаў»[147]. З'езд заклікаў усе народы, што ўдзельнічалі ў вайне, дамагацца ад сваіх урадаў пераходу на такія ж пазіцыі ў адносінах да вайны і міру. А пакуль прызнаваў неабходным для Расіі працягваць вайну з мэтай абароны рэвалюцыі. Як і Саветы, з'езд падзяляў прынцып умоўнай падтрымкі палітыкі Часовага ўрада і прызнаў неабходным пастаянны кантроль за ім з боку Петраградскага Савета[148].

З'езд зацвердзіў Палажэнне аб салдацкіх камітэтах, якія павінны былі аб'яднаць салдат і афіцэраў у ротах, палках, дывізі-

Удзельнікі I з'езда ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронта. Менск, красавік 1917 г. На пярэднім плане В. І. Гурко, М. У. Радзянка, Ф. І. Родзічаў, Б. П. Позерн і інш.

ях, карпусах і ў маштабах фронту. Пры гэтым званне «афіцэр» скасоўвалася. На ўзроўні армій ствараліся Саветы салдацкіх дэпутатаў. Франтавы камітэт у палітычных адносінах падпарадкоўваўся Усерасійскаму Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саветаў. На салдацкія арганізацыі ўскладвалася задача садзейнічаць павышэнню баяздольнасці рэвалюцыйнай арміі, кіраваць палітычным рухам салдат як часткі рэвалюцыйнай дэмакратыі, забяспечваць іх грамадскія, палітычныя і культурна-бытавыя патрэбы. У межах сваёй кампетэнцыі салдацкія камітэты атрымалі магчымасць уплываць на камандны склад войска шляхам пісьмовай атэстацыі камандзіраў. Адмоўная атэстацыя, калі яна зацвярджалася больш высокім органам салдацкага самакіравання, з'яўлялася падставай для адхілення камандзіра ад пасады. Выбары камандзіраў не дапускаліся. У тылавых гарнізонах салдацкія арганізацыі мелі непасрэднае прадстаўніцтва ў Саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў і ў палітычных адносінах ім падпарадкоўваліся. Выканаўчы камітэт фронту атрымаў права кантролю за дзейнасцю франтавога камандавання і павінен быў забяспечваць адпаведнасць яе інтарэсам рэвалюцыйнай арміі і народа[149].

З'езд выказаўся за прадастаўленне салдатам усіх праў і свабод, якія атрымалі расійскія грамадзяне ў выніку рэвалюцыі, у тым ліку свабоды слова, друку, сходаў, саюзаў, сумлення. Ён адмяніў асобыя суды і меры пакарання для салдат, а таксама розныя абмежаванні іх праў па-за службай. Разам з тым з'езд падкрэсліў неабходнасць заха-

вання строгай ваеннай дысцыпліны на службе, асудзіў дэзерцірства як ганьбу і здраду рэвалюцыі і заклікаў дэзерціраў добраахвотна вярнуцца ў свае часці. Мясцовым Саветам быў адрасаваны заклік прыняць адпаведныя захады ў адносінах да тых дэзерціраў, якія не хацелі вяртацца на ваенную службу. На з'ездзе былі прыняты рашэнні, накіраваныя на забеспячэнне арміі ўсім неабходным, на паляпшэнне матэрыяльнага становішча воінаў і іх сем'яў, найперш франтавікоў. Паказальна і тое, што з'езд выказаўся за дзяржаўнае фінансаванне дзейнасці Саветаў[150].

З'езд прызнаў свабоду класавай барацьбы і класавых аб'яднанняў рабочых і іх права на арганізацыю забастовак, сходаў, вулічных маніфестацый і дэманстрацый. Па рабочым пытанні ён прапанаваў ураду выдаць дэкрэты аб устанаўленні мінімуму заработнай платы і павышэнні яе ў адпаведнасці з ростам дарагоўлі, аб увядзенні 8-гадзіннага рабочага дня без памяншэння заработкаў, аб распаўсюджанні нагляду інспекцыі працы на ўсе сферы ўжывання наёмнай працы і інш. Разам з тым з'езд выступіў супраць устанаўлення 8-гадзіннага рабочага дня явачным парадкам і заклікаў рабочых і ўсіх грамадзян унесці свой уклад у абарону заваёў расійскай рэвалюцыі[151].

На франтавым з'ездзе было разгледжана і аграрна-сялянскае пытанне. З'езд прыняў прапановы аб скасаванні саслоўяў і ўстанаўленні поўнага грамадзянскага раўнапраўя сялян, аб неадкладнай канфіскацыі царкоўных і манастырскіх зямель. Канчатковае вырашэнне аграрнага пытання адкладвалася да Устаноўчага сходу, для якога былі сфармуляваны рэкамендацыі, заснаваныя на праграме эсэраў (сацыялізацыя зямлі з ураўняльным землекарыстаннем, забарона продажу зямлі і інш.). З'езд выступіў супраць самавольных захопаў зямлі[152].

Такім чынам, з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Заходняга фронту сваімі рашэннямі замацаваў перамогу буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў войсках, што знаходзіліся на Беларусі. Лепшыя прадстаўнікі іх цалкам падтрымалі дэмакратычныя пераўтварэнні ў краіне, засведчылі разуменне складанай сітуацыі і задач, што стаялі ў той час перад арміяй і народам. З'езд выступіў супраць стыхійнага, самачыннага вырашэння рабочымі і сялянамі набалелых пытанняў, прыняў пэўныя меры, накіраваныя на недапушчэнне разлажэння арміі, павышэнне палітычнай і грамадзянскай свядомасці салдацкай масы, яе арганізаванасці і ролі ў дэмакратычным абнаўленні краіны і войска.

**Пазіцыі сялянства.** Ваенныя паражэнні царызму, гаспадарчы крызіс, масавыя міграцыі, бежанства, адчайнае становішча, у якое трапіла беларускае сялянства ў 1915—1916 гг., не маглі не выклікаць карэнных зрухаў у свядомасці людзей. Сялянства канчаткова зжывала царыцкія ілюзіі. Таму да звяржэння самадзяржаўя беларускі селянін у цэлым аднёсся станоўча. Аднак прыкметнага руху сялян, накіра-

ванага на замену старых органаў улады і парадкаў у вёсцы, вестка аб перамозе рэвалюцыі не выклікала. Адпаведныя перамены пачаліся па ініцыятыве Часовага ўрада і яго мясцовых камісараў. Паступовае абуджэнне грамадзянскай актыўнасці вяскоўцаў было звязана з дзейнасцю агітатараў дэмакратычных партый, Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, салдацкіх камітэтаў.

У Менску ініцыятыву стварэння сялянскай арганізацыі ў губерні праявілі бальшавікі. На нарадзе групы сялянскіх дэлегатаў, якія прыехалі на выбары губернскага харчовага камітэта, 23 сакавіка быў выбраны губернскі сялянскі камітэт на чале з М. Фрунзе. Перад ім ставілася задача — падрыхтаваць і склікаць сялянскі з'езд Менскай губ[153]. У канцы сакавіка пачаў дзейнічаць Менскі камітэт Усерасійскага сялянскага саюза, які стаяў на платформе эсэраў. Ён таксама выказаў прэтэнзію на ролю арганізатара сялянскіх мас Менскай губерні «з мэтай замацавання асноў новага ладу і абароны класавых інтарэсаў сялян». Камітэт выступіў за ўстанаўленне «поўнага народаўладдзя» — дэмакратычнай рэспублікі з адной палатай народных прадстаўнікоў, выказаўся за перадачу ўсіх зямель у агульнанародную ўласнасць і за права кожнага грамадзяніна працаваць на зямлі, а таксама за вырашэнне аграрнага пытання на Устаноўчым сходзе, за хутчэйшае спыненне вайны народаў. У заяве камітэта дэкларавалася права кожнай народнасці Расіі на свабоднае самавызначэнне[154].

20 красавіка 1917 г. у Менску адкрыўся з'езд сялянскіх дэпутатаў Менскай і суседніх неакупаваных немцамі паветаў Віленскай губерні. Старшынёю з'езда быў абраны М. Фрунзе. Па пытанні аб вайне сялянскія дэлегаты падтрымалі пазіцыю франтавога з'езда. Яны выказаліся за хутчэйшае заключэнне ўсімі краінамі, што ваявалі, справядлівага міру без анексій і кантрыбуцый, а да таго моманту прызналі неабходным для Расіі працяг вайны дзеля абароны сваіх зямель і народаў. Як і франтавы, сялянскі з'езд асудзіў дэзерцірства і заклікаў сялян зрабіць усё, каб даць арміі хлеб і ўзмацніць яе магутнасць. Вырашэнне аграрнага пытання адкладвалася да Устаноўчага сходу. Пры гэтым дэлегаты выступілі за пераход усёй зямлі ў агульнанародную ўласнасць і ўраўняльнае землекарыстанне па працоўнай норме, за адмену прыватнай уласнасці на зямлю, забарону яе куплі-продажу. Самавольныя захопы зямлі асуджаліся. Валасным камітэтам даручалася кантраляваць рубку лясоў, вырашаць усе зямельныя і іншыя пытанні, у тым ліку звязаныя з забеспячэннем арміі. Класавай арганізацыяй сялянства ён прызнаў Саветы сялянскіх дэпутатаў. На іх ускладалася абарона сялянскіх інтарэсаў[155].

Як відаць, па асноўных пытаннях — ваенным і аграрным — з'езд стаў на эсэраўскія пазіцыі. За эсэрамі пайшлі і сялянскія з'езды Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Поўную перавагу мелі яны і на Усерасійскім

з'ездзе Саветаў сялянскіх дэпутатаў, які адбыўся ў маі 1917 г. З 1115 дэлегатаў 537 з'яўляліся эсэрамі, 103 — меншавікамі і толькі 20 — бальшавікамі, у тым ліку М. Фрунзе, выбраны з'ездам сялянскіх дэпутатаў Менскай і Віленскай губерняў. Ад імя групы «беспартыйных» ён прапанаваў праект рэзалюцыі з патрабаваннем перадачы ўлады Усерасійскаму Савету рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Аднак прапанова была адвергнута: за яе галасавалі толькі 17 дэлегатаў, а супраць — 800[156]. Такім чынам, з'езд абсалютнай большасцю галасоў выказаў давер Часоваму ўраду і адверг прапанову бальшавікоў.

Са сказанага відаць, што рабочыя, сялянскія і салдацкія масы Беларусі, як і ўсёй Расіі, вясною 1917 г. ішлі за дэмакратычнымі, сацыялістычнымі партыямі, якія праяўлялі пэўную палітычную абачлівасць у вырашэнні важнейшых пытанняў — аб міры і вайне, харчовага, аграрнага, нацыянальнага, рабочага, звязваючы іх са скліканнем усерасійскага Устаноўчага сходу, выбранага дэмакратычным шляхам. Аднак бальшавікі-ленінцы ўжо ў красавіку 1917 г. узялі курс на сацыялістычную рэвалюцыю, заваяванне дыктатуры пралетарыяту. Яны былі гатовы пачаць у Расіі сацыяльны эксперымент сусветнага маштабу па рэалізацыі ідэй Маркса і Энгельса ў мадыфікацыі Леніна, не зважаючы на тое, што расійская рэчаіснасць 1917 г. зусім не адпавядала вызначаным заснавальнікамі марксізму ўмовам. У сваіх вузкапартыйных мэтах бальшавікі выкарыстоўвалі недальнабачную ў многіх адносінах палітыку буржуазнага Часовага ўрада і тагачасных Саветаў на чале з эсэрамі і меншавікамі, хуткае паглыбленне сацыяльна-эканамічнага крызісу і гаспадарчай разрухі, ваенныя паражэнні і рост незадаволенасці мас. Не афішыруючы ў новых умовах свой даўні лозунг аб ператварэнні імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую, яны па сутнасці разгортвалі менавіта такую дзейнасць. Бо спроба ажыццяўлення ідэі дыктатуры пралетарыяту («класавай дэмакратыі») непазбежна вяла да грамадзянскай вайны. У такім кантэксце бальшавіцкі лозунг мірнага пераходу ўсёй улады ў рукі Саветаў (красавік — чэрвень 1917 г.) меў чыста тактычны характар. Адзначаныя гістарычныя ўмовы, а таксама нізкі культурны ўзровень шырокіх мас, пазбаўленых вопыту дзейнасці ва ўмовах дэмакратычнага ладу, спецыфічныя маральна-палітычныя якасці бальшавіцкіх лідэраў дазволілі ім праз некалькі месяцаў павесці гэтыя масы на заваяванне ўлады. Пазнейшая гісторыя засведчыла, што гэта быў шлях да небывалай яшчэ ў свеце грамадзянскай вайны, таталітарнага рэжыму і казарменнага сацыялізму.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Перагорнута апошняя старонка першай часткі «Нарысаў гісторыі Беларусі» са старажытных часоў да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Да якіх жа высноў можа прыйсці паважаны чытач, пазнаёміўшыся з гэтай кнігай? Гісторыя беларускага народа багатая і самабытная. Яна з'яўляецца не толькі яго неацэнным скарбам, але важнай і неад'емнай часткай гісторыі славянства, здабыткам еўрапейскай і сусветнай цывілізацый.

Таму не маюць пад сабой ніякай падставы сцвярджэнні, якія час ад часу з'яўляюцца ў сродках масавай інфармацыі, што быццам бы беларускі народ не мае гісторыі. Увесь змест данай кнігі абвяргае гэта. Гісторыя беларускага народа — і ў непаўторным развіцці, і ў стварэнні значных матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, і ў шматлікіх падзеях, якія характэрны толькі для зямлі беларускай, і ў яе выдатных прадстаўніках.

Гісторыя Беларусі — гэта летапіс барацьбы за выжыванне народа. За сваю амаль тысячагадовую гісторыю жыхары тут зведалі і радасць стваральнай працы, і разбурэнне яе вынікаў шматлікімі войнамі, і цяжкія людскія страты. Шматразова нашым прашчурам давялося адраджаць свой край, уздымаць яго з руін і папялішчаў. Але яны пераадолелі цяжкія выпрабаванні, выжылі ў самых складаных умовах, выстаялі ў розныя перыяды свайго развіцця. Беларусы ўсё вытрымалі, захавалі сябе як этнас, зберaглі асноўныя каштоўнасці — мову, культуру, побыт, звычаі, традыцыі, пранеслі іх праз віхуры ліхалеццяў. Гэта імі зроблена разам з паважлівымі адносінамі да прадстаўнікоў іншых нацый, якія жылі і жывуць у Беларусі.

У даным даследаванні гэтыя складаныя працэсы знайшлі адпаведнае адлюстраванне. Адметнай рысай з'яўляецца тое, што ў ім значна большая ўвага, чым у папярэдніх выданнях, звернута на палітычную гісторыю. Разам з тым не забыты і сацыяльна-эканамічны бок развіцця. Суадносіны гэтых двух напрамкаў гістарычнага працэсу разгледжаны ў дыялектычным адзінстве і даюць адносна поўны малюнак нашай даўніны.

З кнігі вынікае, што стваральны пачатак у рэшце рэшт пераважаў. Таму жыццё рухалася наперад на ўсіх яго этапах. Асноўным вынікам развіцця першабытнага ладу было з'яўленне ў пачатку другой паловы першага тысячагоддзя нашай эры раннекласавага грамадства і пераход да дзяржаўных аб'яднанняў. З'явілася сацыяльная няроўнасць, грамадскі падзел працы. Значную ролю ў жыцці пачала адыгрываць сельская абшчына, у якой галоўную ролю мелі не кроўнароднасныя, а гаспадарчыя сувязі. Але ўзнікненне дзяржаў

ператварыла абшчыну ў дапаможнае звяно грамадскай арганізацыі.

На мяжы першага і другога тысячагоддзяў на беларускіх землях узнікаюць гарадскія пасялішчы — важная прыкмета адыходу першабытнаабшчыннага ладу і ўзнікнення феадальных адносін. Яны станавіліся цэнтрамі рамёстваў, культурнага развіцця, ігралі значную і ўсё ўзрастаючую ролю ў сацыяльна-эканамічным і грамадска-палітычным жыцці.

Эпоха феадалізму пачалася з палітычнай раздробленасці. Гэта раздробленасць існавала некалькі стагоддзяў і мела цяжкія вынікі. Адасобленыя землі станавіліся параўнальна лёгкай здабычай сквапных захопнікаў, якія наступалі з захаду і ўсходу. Шмат якія тэрыторыі былі абрабаваны і страцілі самастойнасць. Але даны перыяд нельга лічыць толькі ўпадкам у гісторыі ўсходняга славянства, у тым ліку яго беларускай галіны. Трэба зыходзіць з таго, што і ў гэты нялёгкі час адбываўся рост вытворчасці, складваліся і пашыраліся мясцовыя рынкі, ішло сацыяльна-эканамічнае развіццё. У выніку новая дзяржаўнасць стваралася на больш трывалай аснове, чым папярэдняя.

У гэты перыяд узнікалі ўмовы для фарміравання беларускай народнасці. Яны заключаліся ў зараджэнні першапачатковай гаспадарчай і культурнай супольнасці, узнікненні некаторых моўных асаблівасцей. Даныя працэсы ў першую чаргу адбываліся ў Полацкай, Тураўскай землях. Затым яны распаўсюдзіліся і на іншыя беларускія тэрыторыі.

Гэта рабілася разам з паступовым развіццём феадальных адносін. Умацоўвалася права ўласнасці феадалаў на зямлю, адбывалася рэарганізацыя сістэмы эксплуатацыі сялянства і яго запрыгоньванне. Натуральна, што сяляне вялі барацьбу за паляпшэнне ўмоў жыцця, але істотных вынікаў яна не прыносіла. Для гэтага часу характэрны працэс інтэнсіўнай урбанізацыі беларускага грамадства, узнікнення і развіцця новых гарадоў. Упартай працай сялян і гараджан была дасягнута параўнальна высокая ступень сацыяльна-эканамічнага развіцця сярэдневяковай Беларусі.

У грамадска-палітычных адносінах беларускія землі таксама знаходзіліся на адпаведным узроўні, феадальны лад атрымаў заканадаўчае афармленне, якое з'явілася адным з самых дасканалых у Еўропе. Культурнае жыццё канцэнтравалася ў першую чаргу ў маёнтках феадалаў, заможных гараджан, іншых багатых людзей. Гэтыя месцы нярэдка з'яўляліся цэнтрамі культуры. Тут шырока ўжывалася беларуская мова. Разам з развіццём царкоўных адносін і рэфармацыйнага руху гэта стварала даволі насычаныя грамадска-палітычныя абставіны, у якіх знаходзілася месца і мецэнацтву.

Але затым палітычныя абставіны развіцця беларускага этнасу ўскладніліся. Разам з узмацненнем прыгонніцтва ўзрос уціск на беларусаў і іх культуру. Ішоў працэс апалячвання, а затым ру-

сіфікацыі беларускага насельніцтва. У гэтых цяжкіх умовах, якія да таго ж ускладняліся жорсткімі войнамі, вялікімі людскімі стратамі і разбурэннямі, беларускі народ змог захаваць асновы свайго існавання.

За гэты час феадальны лад і яго асноўнае ўвасабленне — прыгонніцтва ў значнай ступені вычарпалі свае сацыяльна-эканамічныя і грамадска-палітычныя магчымасці. Усё больш прабівалі сабе дарогу капіталістычныя вытворчыя сілы і адпаведныя ім адносіны. Беларусь станавілася на шлях буржуазнага развіцця. І ў вёсцы, і ў горадзе паступова пераадольваліся старыя парадкі. Здабыты на гэтым шляху вопыт увядзення і дзейнасці земстваў і ажыццяўлення сталыпінскай рэформы не страціў свайго значэння і сёння. Але, як і краіна ў цэлым, Беларусь не прайшла поўнасцю шлях капіталістычнага развіцця з яго жорсткім, але эфектыўным гаспадарчым і палітычным навучаннем. Гэта мы адчуваем і сёння.

У даны перыяд закончылася фарміраванне беларускай нацыі. Аднак вынікі палітыкі паланізацыі і актыўная русіфікацыя прывялі да таго, што беларускі этнас канцэнтраваўся пераважна ў сельскай мясцовасці і асноўным яго носьбітам было сялянства. Яно самааддана захоўвала родную мову, нацыянальныя звычаі і традыцыі. У гарадах жа і мястэчках удзельная вага беларусаў змяншалася, тут пазіцыі беларускай нацыі слабелі, узмацняўся польскі і рускі элемент. Значным быў уплыў яўрэяў.

У пачатку XX стагоддзя Беларусь разам з усёй краінай уступіла ў перыяд рэвалюцый. Для гэтага часу характэрны ўздым руху за беларускае нацыянальнае адраджэнне. Але сацыяльна-эканамічнае і грамадска-палітычнае жыццё ўскладнілася ў сувязі з першай сусветнай вайной. Яна абвастрыла становішча. Звяржэнне царызму і прыход да ўлады буржуазіі адкрывалі магчымасці больш інтэнсіўнага развіцця па капіталістычнаму шляху, што, аднак, фактычна не адбылося.

У сучасных надзвычай складаных умовах жыцця беларускага народа важна, каб гістарычны вопыт вучыў, адыгрываў сваю выхаваўчую ролю, спрыяў пераймannю дадатнага і непаўтарэнню адмоўнага. У данай кнізе гэты вопыт прадстаўлены больш усебакова і выразней, чым у ранейшых выданнях. Таму аўтарскі калектыў спадзяецца, што наша даўніна будзе актыўна дапамагаць у вырашэнні сённяшніх сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных спраў, у нацыянальна-культурным будаўніцтве, у пераадоленні гістарычнага бяспамяцтва і нацыянальнага нігілізму народа.

Пры гэтым аўтары разглядаюць гісторыю Беларусі як адзіны працэс. Таму асноўныя напрамкі далейшай эвалюцыі беларускага грамадства знойдуць адлюстраванне ў другой частцы кнігі. Яна прысвечана цяжкаму, супярэчліваму, у многім гераічнаму і адначасова трагічнаму шляху беларускага народа ў апошнія сем з паловай дзесяцігоддзяў.

# ХРАНАЛОГІЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

| | |
|---|---|
| **1 млн. 800 тысяч гадоў назад** | Пранікненне архантрапаў у Еўропу, Закаўказзе, на поўдзень Украіны. |
| **100—35 тысяч гадоў назад** | Паяўленне чалавека (эпоха палеаліту) на тэрыторыі Беларусі. |
| **24-ае тысячагоддзе да н. э.** | Верхнепалеалітычная стаянка старажытнага чалавека каля в. Юравічы Калінкавіцкага р-на. |
| **21-ае тысячагоддзе да н. э.** | Верхнепалеалітычная стаянка каля в. Бердыж Чачэрскага р-на. |
| **8500—8300 гадоў да н. э.** | Пачатак сучаснага геалагічнага перыяду (галацэну) і эпохі мезаліту на Беларусі. |
| **7000—5000 гадоў да н. э.** | Позні мезаліт. |
| **4500—4000 гадоў да н. э.** | Пачатак эпохі неаліту на Беларусі. |
| **4000—2000 гадоў да н. э.** | Тэрыторыя Беларусі стала часткай вялікай этнакультурнай вобласці плямён чатырох археалагічных культур з грабенчатай керамікай. |
| **3500—2500 гадоў да н. э.** | Сярэдні неаліт. |
| **2500—1800 гадоў да н. э.** | Позні неаліт. Пераход да вытворчай гаспадаркі («неалітычная рэвалюцыя»). |
| **Каля 2000 гадоў да н. э.** | Пачатак бронзавага веку ў паўднёвай Беларусі. |
| **1600 (1500 — 1100) — 1000 гадоў да н. э.** | Сярэдні бронзавы век. |
| **II ст. да н. э.— II ст. н. э.** | Зарубінецкая культура. |
| **III — V стст.** | Вельбарская культура (готаў і гепідаў). Кіеўская культура на тэрыторыі Беларусі (помнікі тыпу Абідні, Тайманава і інш.). |
| **V — VIII стст.** | Банцараўская культура. |
| **VI — VIII стст.** | Калочынская культура. |
| **VI — VIII стст.** | Пражская славянская культура. |
| **VIII — X стст.** | Аб'яднанні ўсходніх славян (на тэрыторыі Беларусі крывічоў-палачан, дрыгавічоў, радзімічаў). |
| **862 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Полацк (Полотеск, Полотьск) і яго воласць. Пачатак беларускай дзяржаўнасці. |
| **907 г.** | Удзел крывічоў і радзімічаў у паходзе кіеўскага князя Алега на Царград (Канстанцінопаль). |
| **980 г. (па іншых звестках — 970)** | Першае летапіснае паведамленне пра самастойныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі — Полацкую зямлю і Тураўскае княства. |
| **980 г. (паводле «Аповесці мінулых часоў»)** | Захоп Полацка наўгародскім князем Уладзімірам Святаславічам, забойства ім полацкага князя Рагвалода, паланенне Рагнеды. |
| **Другая палова X ст.** | Жыццё і дзейнасць Рагнеды Рагвалодаўны, полацкай князёўны, кіеўскай княгіні, манашкі Анастасіі. |
| **980 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Тураў. |
| **983 г.** | Першае ўпамінанне ў летапісах ятвягаў. |

| | |
|---|---|
| **984 г.** | Паход кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча на радзімічаў. Бітва на рацэ Пяшчань. |
| **988 г.** | Прынящце хрысціянства ў Кіеўскай Русі. |
| **Канец X ст. (да 1001 г.)** | Княжанне ў Полацку Ізяслава Уладзіміравіча. |
| **988—1015 гг.** | Княжанне ў Тураве Святаполка Уладзіміравіча. |
| **992 г.** | Утварэнне епархіі ў Полацку. |
| **1009 г.** | Першае ўпамінанне Літвы ў заходніх крыніцах. |
| **1003—1044 гг.** | Княжанне ў Полацку Брачыслава Ізяславіча. |
| **1017, 1019 гг.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Берасце (Брэст). |
| **1021 г.** | Паход полацкага князя Брачыслава Ізяславіча на Ноўгарад. |
| **1054 г.** | Канчатковы падзел хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную. |
| **50-ыя гады XI ст.** | Будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора. |
| **1044—1101 гг.** | Княжанне ў Полацку Усяслава Брачыславіча (Чарадзея). |
| **1066 г.** | Захоп полацкім князем Усяславам Брачыславічам Ноўгарада. |
| **1067 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Менск (Меньск, Менеск) і Оршу (Рьша). |
| **1067 г.** | Бітва на р. Няміга паміж войскамі паўднёварускіх князёў Яраславічаў і полацкага князя Усяслава Брачыславіча. |
| **1068—1069 гг.** | Народнае паўстанне ў Кіеве. Княжанне ў Кіеве Усяслава Полацкага. |
| **1078 г.** | Першыя звесткі ў пісьмовых крыніцах пра гарады Друцк (Талачынскі р-н), Лагойск (Лагожск) і Лукомль (Чашніцкі р-н). |
| **1078—1086 гг.** | Княжанне ў Тураве Яраполка Ізяславіча. |
| **1097 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Пінск (Пинеск.) |
| **1101—1119 гг.** | Княжанне ў Менску Глеба Усяславіча. |
| **1102 г.** | Заснаванне г. Барысава (паводле вызначэння В. Тацішчава). |
| **1104 г.** | Паход кааліцыі паўднёварускіх князёў на Менск. |
| **1116 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Слуцк (Случеск). |
| **Каля 1104—23 мая 1167 г.** | Жыццё і дзейнасць прападобнай Ефрасінні Полацкай, ігуменні манастыра св. Спаса ў Полацку, асветніцы старажытных зямель Беларусі. |
| Пачатак **XII ст.** | Утварэнне Гародзенскага княства. |
| **1128 г.** | Паход кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкую зямлю. |
| **1127 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гародню (Городень) і Клецк (Клеческ). |
| Каля **1130 — каля 1182 гг.** | Жыццё і творчасць Кірылы Тураўскага, епіскапа, пісьменніка і прамоўцы — дзеяча ўсходнеславянскай культуры. |
| **1142 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гомель (Гомій) і Рагачоў. |
| **1147 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Брагін (Брягін). |
| **1-ая палова XII ст.** | Вылучэнне Друцкага, Ізяслаўскага і Лагойскага (Лагожскага) удзельных княстваў з Полацкай зямлі. |

| | |
|---|---|
| **1-ая палова XII ст.** | Заснаванне ў Бельчыцах (каля Полацка) Барысаглебскага манастыра. |
| **Сярэдзіна XII ст.** | Жыццё і дзейнасць Іаана (Івана), полацкага дойліда, выдатнага прадстаўніка полацкай архітэктурнай школы. |
| **1152—1161 гг.** | Будаўніцтва ў Полацку Спаса-Ефрасіннеўскага храма мясцовым дойлідам Іаанам (заказчыца Ефрасіння). |
| **1155 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Мазыр. |
| **1158 г.** | Хваляванні гараджан у Полацку і Друцку. |
| **1150 г., 1160 г., 1161 г.** | Асада Менска полацкім князем Рагвалодам Барысавічам. |
| **1158—1162 гг.** | Княжанне ў Тураве Юрыя Яраславіча — прадстаўніка мясцовай княскай дынастыі. |
| **1159 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Чачэрск. |
| **1160 г.** | Вылучэнне Слуцкага ўдзельнага княства з Тураўскай зямлі. |
| **1161 г.** | Разгром менскім князем Валадаром Глебавічам войск друцкага і полацкага князя Рагвалода Барысавіча пад Гарадцом. |
| **2-ая палова XII ст.** | Вылучэнне Віцебскага ўдзельнага княства з Полацкай зямлі. |
| **1165—1180 гг.** | Княжанне ў Віцебску Давыда Расціславіча. |
| **1181 г.** | Паход супраць Друцка кааліцыі чарнігаўскіх і полацкіх князёў з атрадам ліваў і літоўцаў. |
| **1195 г.** | Барацьба полацкіх князёў са смаленскім князем Давыдам Расціславічам; перамога палачан над яго войскам. |
| **1199 г.** | Утварэнне Галіцка-Валынскага княства, у склад якога ў XIII ст. уваходзілі паўднёва-заходнія землі Беларусі. |
| **2-ая палова XII ст.** | Вылучэнне Пінскага ўдзельнага княства з Тураўскага княства. |
| **2-ая палова XII ст.** | Будаўніцтва ў Гародні Барысаглебскай (Каложскай) царквы. |
| **1180 г.** | Утварэнне Мсціслаўскага ўдзельнага княства. |
| **1203—1216 гг.** | Барацьба полацкага князя Уладзіміра супраць нямецкіх рыцараў. |
| **1206—1208 гг.** | Барацьба кукенойскага князя Вячкі супраць крыжакоў. |
| **1210 г.** | Мірны дагавор паміж полацкім князем Уладзімірам і рыжскім епіскапам Альбертам аб выплаце Полацку даніны лівамі. |
| **1212 г.** | Мірны дагавор полацкага князя Уладзіміра з Рыгаю. |
| **1214 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Рэчыцу. |
| **1223 г.** | Мірны дагавор Смаленска і Полацка з Рыгаю. |
| **1229 г.** | Гандлёвы дагавор Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгаю і Готландам («Смаленская гандлёвая праўда»). |
| **1230-ыя гг.** | Заснаванне Міндоўгам беларуска-літоўскай дзяржавы — асновы Вялікага княства Літоўскага. |
| **1230-ыя — 1263 гг.** | Княжанне Міндоўга ў беларуска-літоўскай дзяржаве. |
| **1237—1241 гг.** | Нашэсце мангола-татараў на Русь. |
| **1240 г., 15 ліпеня** | Перамога войск наўгародскага князя Аляксa[illegible] Яраслаўіча (Неўскага) над шведскім войскам на р[illegible]ва; удзел у гэтай бітве Якава Палачаніна. |

| | |
|---|---|
| **1242 г.** | Перамога войск наўгародскага князя Аляксандра Неўскага над нямецкімі крыжакамі на Чудскім возеры. |
| **1251—1252 гг.** | Паход галіцка-валынскіх князёў з удзелам тураўскіх і пінскіх войск на Літву. |
| **1252 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Наваградак (Новгородок), Слонім (Услоним, Вслоним), Ваўкавыск (Волковыеск) і Здзітаў (цяпер вёска ў Бярозаўскім р-не). |
| **1258 г., 1259 г., 1275 г., 1287 г.** | Набегі татараў на землі Беларусі і Літвы. |
| **1264 г., 22 снежня** | Мірны гандлёвы дагавор Полацка і Віцебска з Рыгаю і Готландам. |
| **1264—1267 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Войшалка. |
| **1267 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Магілёў. |
| **1270—1282 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Трайдзеня. |
| **1274 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Капыль. |
| **1276 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Камянец; будаўніцтва Камянецкай вежы. |
| **1287 г.** | Першыя летапісныя звесткі пра г. Кобрын. |
| **1293—1316 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Віценя. |
| **1295—1296 гг., 1304 г.** | Напады крыжакоў на Гародзенскую зямлю. |
| **1298 г.** | Дагавор аб саюзе Вялікага княства Літоўскага з Рыгаю. |
| **1314 г.** | Перамога войска пад камандаваннем гародзенскага старосты Давыда над крыжакамі пад Наваградкам. |
| **1316—1341 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Гедыміна. |
| **1318 г.** | Паход гародзенскіх дружын на чале са старостам Давыдам у Прусію. |
| **1320 г.** | Уваходжанне Віцебскага княства ў склад Вялікага княства Літоўскага. |
| **1322—1323 гг.** | Разгром дружынамі гародзенскага старосты Давыда нямецкіх і дацкіх рыцараў пад Псковам. |
| **1323 г.** | Пачатак будаўніцтва замка ў Лідзе. |
| **1324 г.** | Паход войска Вялікага княства Літоўскага на чале з гародзенскім старостам Давыдам у Мазовію. |
| **1326 г.** | Паход войска Вялікага княства Літоўскага на чале з гародзенскім старостам Давыдам на Брандэнбург. Забойства Давыда Гародзенскага. |
| **1341—1345 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Яўнута. |
| **1345—1377 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Альгерда. |
| **1363 г.** | Перамога войск Вялікага княства Літоўскага на чале з князем Альгердам над ардынскімі войскамі каля Сініх Вод. |
| **Каля 1365 — каля 1419 гг.** | Жыццё і дзейнасць Р. Цамблака. |
| **1373—1375 гг.** | Аблога крэпасці Дынабург войскамі полацкага князя Андрэя Альгердавіча (Андрэя Полацкага). |
| **1377—1392 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Ягайлы. |
| **1380 г., 8 верасня** | Кулікоўская бітва. Удзел у бітве Андрэя Альгердавіча (Полацкага), Дзмітрыя Альгердавіча і Дзмітрыя Баброка Валынскага. |

| | |
|---|---|
| **1385 г., 14 жніўня** | Крэўская унія — дагавор аб саюзе Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства. |
| **1386 г.** | Выступленне полацкага князя Андрэя Альгердавіча (Андрэя Полацкага) супраць князя Ягайлы. |
| **1386 г.** | Выбранне вялікага князя літоўскага Ягайлы польскім каралём. |
| **1387 г.; 20, 22 лютага** | Граматы польскага караля і вялікага князя літоўскага Ягайлы аб прывілеях феадалам-католікам Вялікага княства Літоўскага. |
| **1387 г.** | Утварэнне віленскага каталіцкага біскупства. |
| **1389—1392 гг.** | Барацьба князя Вітаўта супраць Крэўскай уніі і князя Ягайлы. |
| **1390 г.** | Атрыманне горадам Берасце магдэбургскага права. |
| **1391 г.** | Атрыманне г. Гародня магдэбургскага права. |
| **1392 г., 5 жніўня** | Востраўскае пагадненне паміж Ягайлам і Вітаўтам аб падзеле ўлады. |
| **1392—1430 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Вітаўта. |
| **1399 г.** | Паражэнне войск Вялікага княства Літоўскага на чале з Вітаўтам у бітве супраць татараў на р. Ворскла. |
| **1401 г. 18 студзеня, 11 сакавіка** | Віленска-Радамская унія — дзяржаўна-палітычны саюз Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства. |
| **1409—1411 гг.** | «Вялікая вайна» — вайна Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага супраць Тэўтонскага ордэна. |
| **1410 г., 15 ліпеня** | Грунвальдская бітва — разгром Тэўтонскага ордэна аб'яднанымі войскамі Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага. |
| **1413 г.** | Гарадзельская унія — саюз Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства. |
| **1430—1432 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Свідрыгайлы. |
| **1432—1436 гг.** | Грамадзянская вайна ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім, Жамойцкім. |
| **1436—1440 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Жыгімонта Кейстутавіча. |
| **1440—1492 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Казіміра IV. |
| **1441 г.** | Атрыманне г. Слуцкам магдэбургскага права. |
| **Каля 1460—1530 г.** | Жыццё і дзейнасць К. І. Астрожскага. |
| **1468 г., 29 лютага** | Выданне судзебніка Казіміра IV. |
| **Каля 1470 г.— каля 1533 г.** | Жыццё і дзейнасць М. Гусоўскага. |
| **1481 г.** | Змова праваслаўных князёў Вялікага княства Літоўскага супраць Казіміра IV. |
| **Каля 1490 г.— каля 1551 г.** | Жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны. |
| **1492—1506 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Аляксандра. |
| **1498 г.** | Атрыманне г. Полацкам магдэбургскага права. |
| **1499 г.** | Атрыманне г. Менскам магдэбургскага права. |
| **1500 г.** | Атрыманне г. Браславам магдэбургскага права. |
| **1500—1503 гг.** | Вайна паміж Вялікім княствам Маскоўскім і Вялікім княствам Літоўскім. |
| **1503 г.** | Атрыманне г. Ваўкавыскам магдэбургскага права. |

| | |
|---|---|
| **1506 г.** | Разгром войскам Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем М. Глінскага крымскіх татар пад Клецкам. |
| **1506—1548 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Жыгімонта I Старога. |
| **1506—1510 гг.** | Будаўніцтва замка ў мястэчку Мір. |
| **1507—1508 гг.** | Вайна Вялікага княства Маскоўскага з Вялікім княствам Літоўскім. |
| **1508 г.** | Мяцеж М. Глінскага. |
| **1511 г.** | Атрыманне г. Навагрудкам магдэбургскага права. |
| **1512—1522 гг.** | Вайна Вялікага Маскоўскага княства з Вялікім княствам Літоўскім. |
| **1514 г., 8 верасня** | Бітва пад Оршаю. Разгром войскам Вялікага княства Літоўскага на чале з К. Астрожскім маскоўскага войска. |
| **1517 г., 6 жніўня** | Пачатак выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны ў Празе. |
| **1527—1608 гг.** | Жыццё і дзейнасць К. К. Астрожскага. |
| **1529 г.** | Зацвярджэнне Статута Вялікага княства Літоўскага. |
| **1530—1593 гг.** | Жыццё і дзейнасць С. Буднага. |
| **1531 г.** | Атрыманне г. Слонімам магдэбургскага права. |
| **1534—1537 гг.** | Вайна Вялікага княства Маскоўскага з Вялікім княствам Літоўскім. |
| **Каля 1540 г.— каля 1600 г.** | Жыццё і дзейнасць В. М. Цяпінскага. |
| **1548—1572 гг.** | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Жыгімонта II Аўгуста. |
| **50—70-ыя гг. XVI ст.** | Дзейнасць на Беларусі і Літве рускіх ерэтыкоў на чале з Феадосіем Касым. |
| **1550-ыя гг.** | Узнікненне першых рэфармацыйных абшчын у Вялікім княстве Літоўскім. |
| **1553 г.** | Стварэнне першай на тэрыторыі Беларусі рэфармацыйнай друкарні ў Берасці. |
| **1557 г.** | Выданне «Уставы на валокі». |
| **1557—1633 гг.** | Жыццё і дзейнасць Л. Сапегі. |
| **1558—1583 гг.** | Лівонская вайна. |
| **1562 г.** | Выданне С. Будным у Нясвіжскай друкарні «Катэхізіса». |
| **Каля 1562 г.** | Заснаванне першай паперні на Беларусі. |
| **1563 г.** | Выданне Берасцейскай (Радзівілаўскай) Бібліі. |
| **1563 г., 15 лютага** | Узяцце рускімі войскамі г. Полацка ў час Лівонскай вайны. |
| **1563 г.** | Выданне Жыгімонтам II агульназемскага (агульнадзяржаўнага) прывілея аб ураўнаванні ў правах праваслаўных і каталіцкіх феадалаў Вялікага княства Літоўскага. |
| **1565 г.** | Адміністрацыйна-тэрытарыяльная і судовая рэформы ў Вялікім княстве Літоўскім. |
| **1566 г.** | Зацвярджэнне 2-га Статута Вялікага княства Літоўскага. |
| **1569 г., 1 ліпеня** | Люблінская унія — аб'яднанне Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. |

| | |
|---|---|
| **1572—1630 гг.** | Жыццё і дзейнасць М. Сматрыцкага. |
| **1573 г.** | Акт Варшаўскай канфедэрацыі аб свабодзе веравызнання ў Рэчы Паспалітай. |
| **1576—1586 гг.** | Караляванне ў Рэчы Паспалітай Стэфана Баторага. |
| **1579 г.** | Заснаванне Віленскай езуіцкай акадэміі. |
| **1581 г.** | Утварэнне трыбунала Вялікага княства Літоўскага. |
| **1581 г.** | Заснаванне ў Полацку езуіцкай калегіі (у 1812 г. пераўтворана ў акадэмію). |
| **1582 г.** | Перамір'е на 10 гадоў Расіі з Рэччу Паспалітай у г. Ям-Запольскім, паводле якога Расія адмаўлялася ад Лівоніі. |
| **1587—1632 гг.** | Караляванне ў Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы. |
| **1588 г.** | Зацвярджэнне 3-га Статута Вялікага княства Літоўскага. |
| **1590—1592 гг.** | Заснаванне першых на Беларусі праваслаўных брацтваў і брацкіх школ (у Магілёве, Менску, Берасці, Гародні і інш.). |
| **1596 г., 6 кастрычніка** | Берасцейская царкоўная унія. |
| **Каля 1597—1648 гг., 15 верасня** | Жыццё і дзейнасць А. Філіповіча. |
| **1606 г., 1610 г.** | Паўстанні гараджан Магілёва супраць магістрацкіх улад. |
| **1606—1612 гг.** | Будаўніцтва ў мястэчку Смаргонь кальвінісцкага збору — помніка архітэктуры рэнесансу. |
| **1620 г.** | Атрыманне г. Оршай магдэбургскага права. |
| **1623 г.** | Выступленне гараджан Віцебска супраць Берасцейскай царкоўнай уніі, забойства уніяцкага архіепіскапа І. Кунцэвіча. |
| **1629—1680 гг.** | Жыццё і творчасць Сімяона Полацкага. |
| **Каля 1634—1689 гг., 30 сакавіка** | Жыццё і дзейнасць К. Лышчынскага. |
| **1648—1651 гг.** | Антыфеадальная вайна на Беларусі. |
| **Каля 1651—1714 гг.** | Жыццё і дзейнасць І. Ф. Капіевіча. |
| **1654—1667 гг.** | Вайна паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. |
| **1667 г., 30 студзеня** | Андрусаўскае перамір'е паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй. |
| **1686 г., 16 мая** | Мірны дагавор («Вечны мір») паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. |
| **1696 г.** | Пастанова ўсеагульнай канфедэрацыі саслоўяў Рэчы Паспалітай аб забароне ў Вялікім княстве Літоўскім пісаць дзяржаўныя дакументы на беларускай мове. |
| **1697—1733 гг.** | Караляванне ў Рэчы Паспалітай Аўгуста II. |
| **1700—1721 гг.** | Паўночная вайна Расіі са Швецыяй, тэатрам баявых дзеянняў якой былі тэрыторыі Беларусі. |
| **1708 г., 14 ліпеня** | Бой паміж шведскімі і рускімі войскамі каля мястэчка Галоўчын (цяпер вёска ў Бялыніцкім р-не). |
| **1708 г., ліпень** | Узяцце шведскімі войскамі г. Магілёва. |
| **1708 г., 9 кастрычніка** | Разгром рускімі войскамі шведскага корпуса ген. Левенгаўпта каля в. Лясная (Слаўгарадскі р-н). |
| **1717—1795 гг.** | Жыццё і дзейнасць Г. Каніскага. |

| | |
|---|---|
| **1721 г.** | Ніштацкі мірны дагавор Расіі са Швецыяй, якім закончана Паўночная вайна. |
| **1733—1764 гг.** | Караляванне ў Рэчы Паспалітай Аўгуста III. |
| **1736—1844 гг.** | Дзейнасць у г. Слуцку мануфактуры шаўковых паясоў. |
| **1740—1744 гг.** | Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы ў Крычаўскім старостве. |
| **1754—1756 гг.** | Паўстанне на Каменшчыне. |
| **1764—1795 гг.** | Караляванне ў Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага. |
| **1766 г.** | Пастанова сейма Рэчы Паспалітай аб увядзенні ў Вялікім княстве Літоўскім адзінай сістэмы мер і вагаў. |
| **1767 г.** | Утварэнне Слуцкай канфедэрацыі праваслаўнай шляхты. |
| **1768 г.** | Пастанова сойма Рэчы Паспалітай аб ураўнаванні ў правах праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі. |
| **1771 г., 23 верасня** | Разгром А. В. Суворавым войск М. Агінскага каля в. Сталовічы (Баранавіцкі р-н). |
| **1772 г.** | Першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй, далучэнне ўсходняй часткі Беларусі да Расійскай імперыі. |
| **1772—1823 гг.** | Існаванне беларускага генерал-губернатарства. |
| **1773—1794 гг.** | Дзейнасць у Рэчы Паспалітай Адукацыйнай камісіі. |
| **1774 г., люты** | Даравальная грамата Кацярыны II аб заснаванні Беларускай каталіцкай епархіі. |
| **1775 г.** | Закладка ў г. Гародні Батанічнага саду. |
| **1776 г.** | Пазбаўленне большасці гарадоў і мястэчак Беларусі магдэбургскага права (акрамя Берасця, Гародні, Менска, Навагрудка, Пінска, Ваўкавыска, Ліды, Мазыра). |
| **1776—1783 гг.** | Выданне «Газеты Гродзеньскай» (Cazeta Crodzienska) — першага перыядычнага выдання на Беларусі. |
| **1791 г., 3 мая** | Прыняцце сеймам Рэчы Паспалітай Канстытуцыі. |
| **1792 г.** | Утварэнне Таргавіцкай канфедэрацыі. |
| **1792 г., верасень** | Інтэрвенцыя Расійскай імперыі ў Рэч Паспалітую. Адмена Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Рэчы Паспалітай. |
| **1793 г.** | Другі падзел Рэчы Паспалітай, далучэнне цэнтральнай часткі Беларусі да Расійскай імперыі. |
| **1793 г.** | Гародзенскі сейм. |
| **794 г., 24 сакавіка — 6 лістапада** | Паўстанне Т. Касцюшкі. |
| **794 г.** | Вызначэнне мяжы яўрэйскай аселасці, у якую ўваходзілі Полацкая, Магілёўская і Менская губерні. |
| **795 г.** | Трэці падзел Рэчы Паспалітай, далучэнне заходняй часткі Беларусі да Расійскай імперыі. |
| **796 г., 23 снежня** | Утварэнне Беларускай губерні. |
| **796—1840 гг.** | Выданне газеты «Кур'ер Літэўскі» ў Гародні і Вільні. |
| **797—1805 гг.** | Будаўніцтва Бярэзінскага канала, які злучыў басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны. |
| **803 г.** | Адкрыццё Віленскага універсітэта і арганізацыя Віленскай навучальнай акругі. |
| **807—1884 гг.** | Жыццё і творчасць В. І. Дуніна-Марцінкевіча. |
| **810 г.** | Утварэнне ваенных пасяленняў на Беларусі. |

| | |
|---|---|
| **1810—1820 гг.** | Будаўніцтва Бабруйскай крэпасці. |
| **1812 г., 24 чэрвеня** | Пачатак вайны Расіі супраць нашэсця Напалеона. |
| **1812 г., 1 ліпеня** | Утварэнне Часовага ўрада Вялікага княства Літоўскага — органа адміністрацыйнага кіравання на акупіраванай войскамі Напалеона тэрыторыі Літвы і Беларусі. |
| **1812 г., 22—23 ліпеня** | Бой рускіх войск з напалеонаўскімі каля в. Салтанаўка (Магілёўскі р-н). |
| **1812 г., 17—18 жніўня і 17—23 кастрычніка** | Бітвы рускіх войск з напалеонаўскімі войскамі каля г. Полацка. |
| **1812 г., 15 лістапада** | Разгром напалеонаўскіх войск каля Койданава. |
| **1812 г., 26—28 лістапада** | Разгром французскіх войск на р. Бярэзіна ў час іх пераправы каля в. Студзёнка (Барысаўскі р-н). |
| **1812—1820 гг.** | Дзейнасць у г. Полацку езуіцкай акадэміі. |
| **1817—1823 гг.** | Дзейнасць тайных студэнцкіх таварыстваў у Віленскім універсітэце. |
| **1820 г.** | Выгнанне езуітаў з Расійскай імперыі. |
| **1824—1839 гг.** | Будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў басейны Нёмана і Віслы. |
| **1825 г.** | Дзейнасць на Беларусі таварыства «Ваенныя сябры» (у Літоўскім асобным корпусе). |
| **1826—1841 гг.** | Дзейнасць у г. Віцебску Беларускага вольнага эканамічнага таварыства. |
| **1829 г., 1850 г.** | Дзейнасць Беларускай навучальнай акругі. |
| **1830—1831 гг.** | Шляхецкае паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. |
| **1830—1918 гг.** | Жыццё і дзейнасць мастака Н. Ю. Сілівановіча. |
| **1831 г.** | Скасаванне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях. |
| **1831—1848 гг.** | Дзейнасць Камітэта па справах заходніх губерняў. |
| **1832 г.** | Закрыццё Віленскага універсітэта. |
| **1833—1900 гг.** | Жыццё і дзейнасць мастака А. П. Гараўскага. |
| **1833—1842 гг.** | Будаўніцтва Брэсцкай крэпасці. |
| **1836 г.** | Утварэнне Ф. Савічам нелегальнага студэнцкага «Дэмакратычнага таварыства» ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. |
| **1838—1917 гг.** | Выданне «Губернских ведомостей» у губернскіх гарадах Беларусі. |
| **1838—1864 гг.** | Жыццё і дзейнасць К. Каліноўскага. |
| **1839 г.** | Полацкі царкоўны сабор ліквідаваў уніяцкую царкву на Беларусі. |
| **1840—1900 гг.** | Жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча. |
| **1840 г., 27 жніўня** | Адкрыццё ў мястэчку Горы-Горкі земляробчай школы. |
| **1840 г.** | Скасаванне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г. у Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губернях. |
| **1840—1850 гг.** | Дзейнасць у Менску тэатра, арганізаванага В. І. Дуніным-Марцінкевічам. |
| **1841—1916 гг.** | Выданне газеты «Виленский вестник». |
| **1844 г.** | Пачатак на Беларусі інвентарнай рэформы. |
| **1844—1857 гг.** | Перавод дзяржаўных сялян на аброчную сістэму. |

| | |
|---|---|
| **1846 г.** | Увядзенне ваеннага становішча ў Віленскай, Гародзенскай і Ковенскай губернях у сувязі з рэвалюцыйнымі выступленнямі ў Польшчы і Галіцыі. |
| **1846—1849 гг.** | Дзейнасць на Беларусі падпольнай арганізацыі «Саюз свабодных братоў». |
| **1848 г.** | Ператварэнне вышэйшага разраду Горы-Горацкай земляробчай школы ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут. |
| **1852 г., 21 лютага** | Пастаноўка ў Менску трупай В. Дуніна-Марцінкевіча першай беларускай оперы «Ідылія» С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага. |
| **1857 г., 20 лістапада** | Рэскрыпт Аляксандра II віленскаму генерал-губернатару У. І. Назімаву аб стварэнні губернскіх камітэтаў па сялянскаму пытанню. |
| **1851—1897 гг.** | Жыццё і дзейнасць Янкі Лучыны (І. Неслухоўскага). |
| **1856—1881 гг.** | Жыццё і дзейнасць беларускага рэвалюцыянера І. Я. Грынявіцкага. |
| **1859 г.** | Увод у эксплуатацыю тэлеграфнай лініі Менск — Бабруйск. |
| **1861 г., 19 лютага** | Маніфест аб адмене прыгоннага права ў Расіі. |
| **1861—1863 гг.** | Уздым сялянскага руху ў сувязі з правядзеннем сялянскай рэформы 1861 г. |
| **1861—1864 гг.** | Дзейнасць Менскай падпольнай арганізацыі напярэдадні і ў час паўстання 1863—1864 гг. |
| **1861—1917 гг.** | Жыццё і дзейнасць Ігната Буйніцкага. |
| **1861—1931 гг.** | Жыццё і дзейнасць Я. Ф. Карскага — заснавальніка беларускага мовазнаўства. |
| **1862 г., чэрвень — 1863 г., май** | Выданне К. Каліноўскім газеты «Мужыцкая праўда» — першай нелегальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай беларускай газеты. |
| **1862 г., лета** | Стварэнне Камітэта руху (Літоўскага правінцыяльнага камітэта) у Вільні. |
| **1863 г., студзень — 1864 г.** | Паўстанне ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве. |
| **1863 г., 1 лютага** | Захоп паўстанцамі г. Пружаны. |
| **1863 г., 27 лютага** | Захоп «белымі» кіраўніцтва ў Літоўскім правінцыяльным камітэце. |
| **1863 г., 1 сакавіка** | Указ царскага ўрада аб увядзенні абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гародзенскай, Ковенскай, Менскай губернях і ў інфлянцкіх паветах Віцебскай губерні. |
| **1863 г., вясна** | Найвышэйшы ўздым паўстання на тэрыторыі Беларусі і Літвы. |
| **1863 г., 24 красавіка** | Захоп паўстанцамі г. Горкі. |
| **1863 г., 22 мая** | Бітва паміж паўстанцамі і царскімі войскамі каля в. Мілавіды Слонімскага павета. |
| **1863 г., 18 кастрычніка** | Цыркуляр аб прадастаўленні трохдзесяціннага сямейнага надзела сялянам, якія былі абеззямелены ў 1846—1856 гг., і аб вяртанні надзелаў сялянам, абеззямеленым пасля 1857 г. |
| **1863 г., 2 лістапада** | Указ аб увядзенні абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў у Віцебскай і Магілёўскай губернях. |
| **1864 г., 29 студзеня** | Арышт К. Каліноўскага (пакараны смерцю 10 сакавіка 1864 г.). |

| | |
|---|---|
| **1864 г., 5 сакавіка** | Палажэнне аб ільготах і перавагах пры куплі зямлі ў заходніх губернях асобам рускага паходжання. |
| **1864 г., 10 ліпеня** | Забарона яўрэям купляць зямлю па-за гарадамі і мястэчкамі заходніх і паўднёва-заходніх губерняў. |
| **1864 г., 14 ліпеня** | Палажэнне аб пачатковых народных вучылішчах. Новы статут гімназій (школьная рэформа). |
| **1864—1876 гг.** | Адкрыццё настаўніцкіх семінарый у Маладзечне, Нясвіжы, Свіслачы і Полацку. |
| **1865 г., 10 снежня** | Забарона асобам польскага паходжання купляць і арандаваць зямлю ў заходніх і паўднёва-заходніх губернях. |
| **1867 г., 16 мая** | Палажэнне аб пазямельным упарадкаванні дзяржаўных сялян заходніх губерняў. |
| **1869—1878 гг.** | Будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. |
| **1869—1894 гг.** | Жыццё і дзейнасць Адама Гурыновіча. |
| **1871 г., 16 лістапада** | Увод у эксплуатацыю чыгуначнай магістралі Смаленск — Менск — Брэст; афіцыйная дата адкрыцця Беларускай чыгункі. |
| **1872 г.** | Увядзенне на Беларусі міравых судоў. |
| **1872—1918 гг.** | Дзейнасць у г. Полацку настаўніцкай семінарыі. |
| **1874 г., 1 студзеня** | Ваенная рэформа — увядзенне ўсеагульнай воінскай павіннасці. |
| **1875 г., 29 красавіка** | Гарадская рэформа ў заходніх губернях. |
| **1876 г., 7 сакавіка** | Забастоўка рабочых Менскіх чыгуначных майстэрань — адно з першых выступленняў рабочых на Беларусі. |
| **1876 г., 15 ліпеня — 1916 г., 17 лютага** | Жыццё і творчасць Цёткі (А. С. Пашкевіч). |
| **1878 г.** | Утварэнне ў г. Магілёве народніцкага гуртка «Зямля і воля». |
| **1879—1880 гг.** | Прыезды ў Менск Г. В. Пляханава з мэтай арганізацыі выдання газ. «Черный передел». |
| **1881 г., 1 сакавіка** | Забойства нарадавольцамі цара Аляксандра II. |
| **1881 г.** | Утварэнне ў Пецярбургскім універсітэце нелегальнага беларускага студэнцкага зямляцтва. |
| **1881—1882 гг.** | Стварэнне паўночна-заходняй арганізацыі «Народная воля». |
| **1882 г., 9 студзеня** | Прыняцце закона аб абавязковым выкупе зямлі сялянамі і спыненні часоваабавязаных адносін сялян з памешчыкамі з 1883 г. |
| **1882., 7 ліпеня — 1942 г., 28 чэрвеня** | Жыццё і творчасць Янкі Купалы. |
| **1882 г., 1 чэрвеня** | Выданне закона аб забароне на фабрыках, заводах і мануфактурах працы дзяцей да 12 гадоў, абмежаванні працоўнага дня падлеткаў (12—15 гадоў) і вызваленні іх ад работы ў начны час і ў святочныя дні. |
| **1882 г., 3 лістапада — 1956 г., 13 жніўня** | Жыццё і творчасць Якуба Коласа. |
| **1882 г.** | Забарона яўрэям пражываць у вёсках, на тэрыторыі, уключанай у т. зв. мяжу яўрэйскай аседласці. |
| **1884 г.** | Выданне нелегальнага часопіса «Гоман» — органа беларускіх нарадавольцаў. |

| | |
|---|---|
| **1884 г.** | Выданне ў Вільні «Праграмы рабочых, членаў партыі «Народная воля» ў Паўночна-Заходнім краі». |
| **1884 г.** | Хваляванні сялян у 12 валасцях Бабруйскага, Ігуменскага і Слуцкага паветаў у сувязі са спробай самавольнага перасялення ў Сібір. |
| **1884—1889 гг.** | Дзейнасць у г. Менску першых рабочых гурткоў марксісцкага кірунку. |
| **1885 г., 3 чэрвеня** | Выданне закона аб забароне начной працы жанчын і падлеткаў (да 17 гадоў). |
| **1886 г.** | Закон аб абавязковым пераводзе дзяржаўных сялян на выкуп. |
| **1886 г., 11—20 ліпеня** | Забастоўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань. |
| **1886—1902 г.** | Выданне першай на Беларусі грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты «Минский листок». |
| **1887 г.** | Стачка рабочых Менскіх кавальска-слясарных майстэрань. |
| **1887—1894 гг.** | Дзейнасць у Гародні падпольнага рэвалюцыйнага гуртка пад кіраўніцтвам М. Дзем'яновіча і С. Галюна. |
| **1889 г.** | Закон аб земскіх начальніках у Расіі (на Беларусі ўведзены ў 1900 г.). |
| **1890 г., 5 чэрвеня** | Адкрыццё ў г. Менску гарадскога тэатра. |
| **1891 г., 9 снежня — 1917 г., 25 мая** | Жыццё і творчасць М. А. Багдановіча. |
| **1894 г., сакавік** | Забастоўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань. |
| **1894—1897 гг.** | Дзейнасць у г. Менску падпольнай арганізацыі рамесных рабочых. |
| **1895 г., студзень і сакавік** | Забастоўкі рабочых Менскіх чыгуначных майстэрань пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратычнай групы С. С. Трусевіча. |
| **1895 г., 1 мая** | Першае святкаванне рабочымі г. Менска 1 Мая. |
| **1896 г., май** | Утварэнне Рабочага саюза Літвы. |
| **1897 г., 1 студзеня** | Грашовая рэформа ў Расіі (закон аб увядзенні залатога грашовага абарачэння). |
| **1897 г., 2 чэрвеня** | Выданне закона аб абмежаванні рабочага дня на фабрыках і заводах 11,5 гадзіны. |
| **1897 г., верасень** | Першы з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый у Вільні. Утварэнне Бунда. |
| **1897 г.** | 1-ы ўсеагульны перапіс насельніцтва ў Расійскай імперыі. |
| **1898 г., 1—3 (13—15) сакавіка** | I з'езд РСДРП у Менску. |
| **1899 г., май** | Забастоўка рабочых Гомельскіх чыгуначных майстэрань пад кіраўніцтвам камітэта РСДРП. |
| **1899 г., верасень** | Забастоўка работніц тытунёвай фабрыкі ў Гародні. |
| **1900 г., студзень** | З'езд прадстаўнікоў Рабочага саюза Літвы ў Менску. Аб'яднанне яго з сацыял-дэмакратыяй Каралеўства Польскага, утварэнне СДКПіЛ. |
| **1900 г., 25 снежня** | Адкрыццё публічнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна ў Менску. |

| | |
|---|---|
| **1901 г., 1 мая** | Першамайскія дэманстрацыі рабочых у Віцебску і Гомелі. |
| **1901—1903 гг.** | Дзейнасць у Менску Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі. |
| **1901 г., пачатак кастрычніка** | Забастоўка рабочых у Смаргоні пад кіраўніцтвам мясцовай групы сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы. |
| **Канец 1901 г.— пачатак 1902 г.** | Утварэнне Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў). |
| **1902 г., верасень** | Утварэнне Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве. |
| **1902 г., снежань** | Утварэнне Беларускай сацыялістычнай грамады (I з'езд адбыўся ў Вільні). |
| **1902—1905 гг.** | Выданне ў г. Менску газеты «Северо-Западный край». |
| **1902 г.** | Усерасійскі з'езд сіяністаў у Менску. |
| **1903 г., 12 сакавіка** | Указ аб скасаванні кругавой парукі сялян пры спагнанні казённых, земскіх і мірскіх падаткаў і збораў. |
| **1904 г., студзень** | Утварэнне Палескага камітэта РСДРП. |
| **1904 г., сакавік** | Утварэнне Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП. |
| **1904 г., 11 жніўня** | Маніфест аб адмене цялесных пакаранняў сялян па прыгаворах валасных судоў. |
| **1905 г., 9(22) студзеня** | «Крывавая нядзеля» ў Пецярбургу — пачатак першай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі. |
| **1905 г., 17 чэрвеня** | Расстрэл царскімі войскамі сялян у в. Кішчыцы (Шклоўскі р-н), забіта 8, цяжка паранена 15 чалавек. |
| **1905 г., 6 жніўня** | Падпісанне Маніфеста аб увядзенні ў Расіі «заканадарадчай Дзяржаўнай думы». |
| **1905 г., кастрычнік** | Усерасійская палітычная стачка. |
| **1905 г., кастрычнік** | Утварэнне буржуазнай Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (кадэтаў). |
| **1905 г., 17 кастрычніка** | Царскі Маніфест аб скліканні заканадаўчай Думы і аб канстытуцыйных свабодах. |
| **1905 г., 18 кастрычніка** | Курлоўскі расстрэл у Менску, у выніку чаго больш за 80 чалавек забіта і некалькі соцень паранена. |
| **1905 г., кастрычнік — снежань** | Дзейнасць забастовачных камітэтаў, кааліцыйных саветаў і камісій па кіраўніцтву рэвалюцыйным рухам у Менску, Віцебску, Оршы, Гомелі, Баранавічах, Лідзе, Ваўкавыску, Пінску, Мазыры і інш. гарадах. |
| **1905 г., 18 кастрычніка** | Расстрэл дэманстрацыі ў Віцебску. |
| **1905 г., 3 лістапада** | Маніфест аб адмене выкупных плацяжоў з сялян з 1 студзеня 1907 г. |
| **1905 г., 15 лістапада — 15 снежня** | Усерасійская стачка работнікаў пошты і тэлеграфа. |
| **1905 г., лістапад** | Узнікненне буржуазнай партыі «Саюз 17 кастрычніка» (акцябрысты). |
| **1905 г., 22—25 лістапада** | Паўстанне салдат у Бабруйскім дысцыплінарным батальёне. |
| **1905 г., 2 снежня** | Адмена крымінальнага праследавання за ўдзел у эканамічных стачках. |
| **1905 г., снежань** | Усерасійская палітычная стачка. |
| **1905 г., 11 снежня** | Апублікаванне новага выбарчага закона ў I Дзяржаўную думу. |

| | |
|---|---|
| **1905 г., снежань — 1906 г., студзень** | Паўстанні сялян, якія суправаджаліся разгромам сядзіб памешчыкаў і захопам іх маёмасці, у Чэрыкаўскім і Клімавіцкім паветах Магілёўскай губерні. |
| **1906 г., 4 сакавіка** | Выданне закона аб легалізацыі прафсаюзаў. |
| **1906 г., 27 красавіка — 8 ліпеня** | Дзейнасць I Дзяржаўнай думы. |
| **1906 г., 18 мая** | Заснаванне ў Пецярбургу беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». |
| **1906 г., 19 жніўня** | Выданне «Палажэння аб ваеннапалявых судах». |
| **1906 г., верасень — 1907 г., студзень** | Выданне першай легальнай беларускай газеты «Наша доля». |
| **1906 г., 9 лістапада** | Указ аб выхадзе сялян з абшчыны. Пачатак правядзення сталыпінскай аграрнай рэформы. |
| **1906 г., 10 лістапада — 1915 г., 7 жніўня** | Выданне газеты «Наша ніва». |
| **1907 г., 20 лютага — 2 чэрвеня** | Дзейнасць II Дзяржаўнай думы. |
| **1907 г., май** | З'езд народных настаўнікаў у Вільні, стварэнне Беларускага настаўніцкага саюза. |
| **1907 г., 3 чэрвеня** | Роспуск II Дзяржаўнай думы, дзяржаўны пераварот. |
| **1907 г., 1 лістапада — 1912 г., 9 чэрвеня** | Дзейнасць III Дзяржаўнай думы. |
| **1910—1915 гг.** | Выданне Таварыствам менскіх урачоў штомесячнага часопіса «Минские врачебные известия». |
| **1910—1913 гг.** | Дзейнасць першага беларускага прафесійнага тэатра пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага. |
| **1911 г., 14 сакавіка** | Увядзенне земстваў у Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губернях. |
| **1911 г.** | У Вільні ўтварыўся Беларускі музычна-драматычны гурток. |
| **1912 г., 27 студзеня** | Першая пастаноўка п'есы Я. Купалы «Паўлінка» ў Вільні. |
| **1912 г., вясна** | Пачатак выдання літаратурнага і грамадска-палітычнага альманаха «Маладая Беларусь» у Пецярбургу. |
| **1912 г., 15 лістапада — 1917 г., 25 лютага** | Дзейнасць IV Дзяржаўнай думы. |
| **1914 г., 14, 19 ліпеня** | Аб'яўленне Германіяй і Аўстра-Венгрыяй вайны Расіі. |
| **1915 г., жнівень — кастрычнік** | Акупацыя войскамі Германіі тэрыторыі Беларусі да лініі Дзвінск — Паставы — Баранавічы — Пінск. |
| **1916 г., 22—26 кастрычніка** | Паўстанне салдат на размеркавальным пункце ў Гомелі. |

